С(Бел)Ф
П68

Рэдакцыйная калегія:
**В. К. Бандарчык, М. Я. Грынблат, К. П. Кабашнікаў, А. С. Фядосік, В. І. Ялатаў**

Складанне, сістэматызацыя тэкстаў, уступны артыкул і каментарыі
**М. Я. Грынблата**

Рэдактар тома
**А. С. Фядосік**

Рэцэнзенты:
**А. С. Аксамітаў, Л. І. Мінько**

П68 **Прыказкі** і прымаўкі ў дзвюх кнігах, кн. 2. Рэд. А. С. Фядосік. Мн., «Навука і тэхніка», 1976.

616 с. (АН БССР. Ін-т мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору. Беларус. нар. творчасць). У перапл.

Дадзеная кніга з'яўляецца другой часткай тома і ўключае наступныя (IV—IX) раздзелы тэкстаў прыказак і прымавак, каментарыі да іх, спіс збіральнікаў і геаграфічны паказальнік.— Бібліягр. у падрадк. заўвагах.

П $\frac{70700-104}{М316-76}$ 35—76 С(Бел)Ф

© Выдавецтва «Навука і тэхніка», 1976.

## КАХАННЕ. ДАШЛЮБНЫЯ АДНОСІНЫ МОЛАДЗІ

1. Без сонейка свету не быць, без мілага нельга жыць. *Сержп., 63.*

2. Многа харошых, да мілага нет. *Ром., Зап., III, 223.*

3. Без пáры няма кахання. *Fed., 133.*

4. Ад кахання няма спакойнасці ні ў касцеле, ні на дзеле, ні на пасцелі. *Fed.*, 133.

5. Каханне і кашаль не схаваеш. *Сцяшк., 596, Воран. Вар.: Цар., 242, Мінск.*

6. Не прыгожая прыгожа, а каханая прыгожа. *В. Зубарэў, 1957, Гом. 13.3.29.*

7. Сэрцу не загадаеш, каго любіць. *М. Грынблат, 1960, Сір. 8.1.47.*

   а) Сэрцу не падкажаш. *Я. Бортка, 1965, Дзятл. 13.10.4.*

8. Любіць — не сена касіць. *Мат., 174.*

9. Хто палюбіць, той і прыгалубіць. *Г. Прытычанка, 1960, Карм. 13.3.29.*

10. Абы да душы, пражывём і ў шалашы. *Я. Бортка, 1965, Дзятл. 13.10.4.*

    а) Хоць у шалашы, абы мілы да душы. *Мін.-Мал., 1970, 169, Пух. Вар.: М. Бандарэнка, 1966, Маз. 13.3.29.*

11. Калі мяне любіш, любі ж і мой дух. *Pietk., 376.*

12. Няхай мяне той чапае, хто каханне ў сэрцы мае. *Р. Цыбульская, 1967, Валож. 13.10.24.*

13. Хто любіць, той прыйдзе, не любіць — абыйдзе. *Янк., 266.*

14. І галубок гукае, як пары шукае. *Сержп., 64.*

15. Недалёка к міламу, да ў сторану. *Ром., Зап., III, 226.*

16. Дзе міла — сем вёрст не крыва. *Зах., 252.*

17. Што каму да таго, калі Машка любіць каго. *Нос., 189.*

18. Міла табе Маруся, дык сам з ёю і цалуйся. *Н. Парукаў, 1958, Добр. 13.3.29.*

19. У каханкі смаляныя лаўкі. *Нос., 167; Дуб., 63; Fed., 133.*

20. Любі Якава, ды не ўсякага. *1961, Кап. 13.9.5.*

21. Хто любіць каго, не зачапáй таго. *Fed., 168.*

22. Хто каго знае, той таго і чапае. *І. Вайгяніца, 1965, Іў. 13.10.1.*

23. Чаму не жалець, калі прыступаець. *Tyszk., 424.*

а) Чаму не гуляць, калі прыступе. *Dybow., 7.*

24. Цяжка ўздыханне — далёка каханне. *Мат., 176.*

25. Хоць жыццё ўтрачу, але мілага абачу. *Fed., 187.*

26. Не піў бы, не еў бы, да на любу глядзеў бы. *Fed., 167.*

27. Хоць пад лаўкаю сядзець, абы на красівага глядзець. *Fed., 50. Вар.: Суяшк., 613, Воран.; А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29; Р. Цыбульская, 1967, Валож. 13.10.24.*

а) Хоць пад лаўкаю пасяджу (паляжу), а на прыгожага пагляджу. *А. Фядосік, 1962, Капатк. 8.1.76; Цар., 247, Мінск.*

28. Глянеш на яго — вады нап'ешся. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

29. Як мяне, мамачка, хлопцы любяць: як выйду на вуліцу, то за кулакамі свету не бачу. *Fed., 54. Вар.: Fed., 168; Pietk., 361.*

а) Як мяне хлопцы любяць! Як выйду на вуліцу — за кулакамі не відаць. *Нос., 195, 161.*

б) Як, мамачка, мяне хлопцы любяць: за кулаччамі свету не бачу. *Ром., Бел., I, 316.*

30. Мусіць цябе затычкаю хто выбіў (удэрыў), калі цябе так любяць (ліпнуць). *Fed., 351.*

31. Ласка горы разбівае. *І. Цішчанка, 1969, Слаўг. 8.2.21.*

32. Ласкаю ліхога ўціхамірыш. *Сержп., 128.*

33. Ласка — не каляска, сядзеш, не паедзеш. *Tyszk., 417. Вар.: Mien., 396; Dybow., 13; Дуб., 33; Fed., 169; Цяшк., 596, Ашм.*

а) Ласка — не каляска, не сядзеш, не паедзеш. *Вас., 29; Сах.*

34. Ласкавае слова, што веснавы дзень. *Сах.*

35. Ласкавае слова і косць ломіць. *Т. Шумская, 1967, Кліч. 13.10.21.*

36. Ласкава слова лепш дубіны. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

37. Даганяўшы, не нацалавацца. *Czeczot, 108; Tyszk., 419; Шпил., 178; Fed., 75; Pietk., 317.*

а) Даганяючы, не нацалуешся (не пацалуеш, не цалавацьь). *Нос., 36; Fed., 97; І. Сагарава, 1950, Браг. 8.1.35.*

б) Ліжучы, не наясіся, даганяўшы, не нацалуешся. *Dybow., 7. Вар.: Fed., 167.*

в) Даганяючы, не начастуешся. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

38. Пацалаваў — не зарэзаў. *М. Грынблат, 1932, Мінск.*

39. Хмель тычынку абвівае, дзеўка хлопца абдымае. *Сержп., 63.*

40. Дзе баліць, там ручкі, дзе міла, там вочкі. *Tyszk., 420; Шпил., Бел., 177.*

41. А гдзе цемна, там пшыемна. *І. Курбека, 1961, Докш. 13.9.7.*

42. Не гадана, не жадана, а само прышло. *Нос., 111.*

43. Ждала, ждала — ды й годзі сказала. *М. Бандарэнка, 1966, Маз. 13.3.29; У. Іваноў, 1958, Мінск.*

а) Ждалі, ждалі, дай жданкі паелі. *Нос., 41; Радч., 277; Сержп., 30. Вар.: Дуб., 20.*

44. Чаму ж тады не прышоў, калі ме́сік узышоў, чаго ж цябе прынясло, як сонейка ўзышло? *Дуб., Нар., 2.*

45. Хіба чорт здумаў гэтыя залёты: ані ўночы сну, ані ўдзень работы. *Fed., 348.*

46. Не топай нагою: не сяду з табою. *У. Іваноў, 1958, Мінск, 13.5.17.*

а) Не тупай нагою: не лягу з табою. *Нос., 104; Дуб., 38; Сержп., 7.*

47. Ліхога любіць — сябе губіць. *Сержп., 40.*

48. Калі не знаць, то за што яе кахаць? *Сержп., 49.*

49. І мілае ідзе за пастылае. *Нос., 56.*

а) Пашло міла за астыла. *Fed., 187.*

50. Усякі маладзец найшоў абразец. *Mien., 395.*

51. Глянеш — хоць пацалуй, а прыступішся — плюнеш. *Ляцкий, 8.*

52. Як не віжу, душа мрэць, а як увіжу — з душы прэць. *Нос., 195.*

53. Раструхáнка не каханка. *Сержп., 19.*

54. Хоць ён мяне й баламуце, але патом не ачмуце. *Ляцкий, 53.*

55. Каб той марне здох, што любіць разам двох. *Fed., 168.*

56. Двух сарок разам за хвост не ўдзержыш. *Л. Малаш, 1969, Докш. 8.2.22.*

57. Чым яе вадзіць, няхай яе чэрці водзяць. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

58. Кахаў Ганулю, да ўзяў дулю. *Сержп., 8.*

а) Любіў Ганулю, а палучыў дулю. *Ляцкий, 19.*

б) Кахаў Ядвігу, да далі хвігу. *Сержп., 8.*

59. Як да каханка ісці, то сцежкі-дарожкі, а як да нялюбага, то дробныя слёзкі. *Fed., 133.*

60. Нялюбага не паложыш, а любага не падымеш. *Мін.-Мал., 1970, 164, Пух.*

61. Быў час, калі дзеўкі любілі і нас. *Крэмнеў.*

62. Сілаю не быць мілаю. *Радч., 248. Вар.: Fed., 277; А. Бізук, 1965, Шчуч. 13.10.1; В. Санько, 1969, Слуцк.*

а) Сілаю не заставіш быць мілаю. *1961, Кап. 13.9.5.*

б) Насільна міл не будзеш. *Я. Бортка, 1965, Дзятл. 13.10.4.*

63. Сілаю не возьмеш. *Fed., 277.*

64. Чы ж за лоб вясці, калі не хочуць ісці? *Dybow., 7.*

65. Чы вочы драць, калі не хочуць браць? *Dybow., 7. Вар.: Fed., 42.*

66. Дзеўка — не конь, збрую не надзенеш. *Янк. М., 41.*

67. Чэсць дзявочае шчасце беражэ. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

68. Чым дзяўчына стражэй, тым яна прыгажэй і даражэй. *Цар., 248, Мінск.*

69. Не чапай мяне, не марай сябе. *Булг., 178.*

70. З добрага цеста добрая паляніца, з добрай дзеўкі добрая і маладзіца. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

71. Дзеўка маткаю красна. *Fed., 95.*

72. Не тое хароша, што хароша, але тое, што каму да спадобы. *Fed., 49. Вар.: Pietk., 397.*

а) Не тое пекна, што пекна, але тое, што каму спадабаецца. *Fed., 232.*

73. Каса — дзявоцка (дзявочая) краса. *Fed., 138; І. Цішчанка, 1969, Слаўг.; В. Скідан, 1969, Пін. 8.2.21.*

а) Дзявоцкая краса — заплеценая каса. *Янк., Дыял., III, 157, Глуск.*

б) Каса — дзявочая краса, малайцу заноза. *Нос., 68.*

74. Дзеўка без касы не мае красы. *Fed., 95.*

75. У дзеўкі думкі ўсе ў касе. *Сержп., 55.*

76. Красату ў вянку не насіць. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

77. Харошая дзевачка — хлапцам занозачка. *Дуб., 69.*

78. Дзявочы век як макаў цвет. *М. Шлык, 1969, Зельв.*

79. Маліна не тое, што дзяўчына: чым болей спее, тым смачней будзе. *Ляцкий, 20.*

80. Дзеўка — не зацірка, не астыне. *Янк. М., 41.*

81. Маладое цела — другое дзела. *М. Грынблат, 1967, Мсціcл. 8.1.106.*

82. Што целу люба, то душы груба. *Ром., Зап., III, 235.*

83. Удаўцова і ўдавінае сэрца, як зімовае сонца, а малайцова і дзявоцкае, як летняе сонца. *Fed., 318.*

84. Як гарэлка старая, так і дзеўка маладая. *Сержп., 63.*

85. Еш з голаду, а любі змоладу. *Цар., 243, Мінск.*

86. Адна дзеўка сем хлопцаў нагрэе на ляду. *Fed., 95.*

87. Красата — да вянца. *Л. Царанкоў, 1960, Рэч. 13.9.2.*

88. Дзяўчаты растуць так скора, як лён. *Pietk., 368.*

а) Дзяўчата так хутка растуць, як грыбы пасля дажджу. *Fed., 95.*

89. Дзеўка, як вярба,— іх усюды перасаджваюць. *Fed., 95.*

90. Як красату дзялілі — я спа́ла, як шчасце — устала. *І. Суконкін, 1960, Церах. Вар.: А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

91. Не будзь красівы, а будзь шчаслівы. *В. Курбацкі, 1960, Карм. 13.3.29.*

92. У нас такая прыпеўка: дзе парабак (хлопец), там і дзеўка. *Ляцкий, 50; Сержп., 67.*

93. Дзяўчына ў бацькі ў гасцях. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

94. Дзеўка свайму дому вораг. *Сержп., 54.*

95. Калі дачка абузніца, то матка ведзьма. *Нос., 63.*

96. Няма чаго дзівавацi, такая была і маці. *Сержп., 53.*

97. Красавіца, што з-пад лаўкі кусаецца. *Нос., 69; Крэмнеў.*

98. Не кожная Надзёжа з твару прыгожа. *Цар., 245, Мінск.*

99. Удзень кавярзе́нь, увечары — барышня. *М. Грынблат, 1967, Мсцісл. 8.1.106.*

100. Дзеўкі ўпарты, як козы. *Дуб., 14.*

101. Дзеўка — немка, гаварыць не ўмеець, а ўсё разумеець. *Дуб., 16.*

102. Паначы ўсе дзеўкі чарнабрэўкі. *Pietk., 368.*

103. На каза́ку няма знаку, а на дзяўчыне дзве прычыны. *Сержп., 54.*

104. Дзеўка толькі дзяцей не запасіць. *Сержп., 75.*

105. Нідзе дзявоцкае вёскі няма. *Т. Багдзевіч, 1965, Шчуч. 13.10.6.*

а) Нідзе дзявоцкага сяла няма. *Fed., 96; Ю. Ботвін, 1967, Вайк. 13.10.28.*

106. Як малада была, то ўсім каляда была. *М. Грынблат, 1969, Лун. 8.2.14.*

107. Не за то біта, што хадзіла ў жыта, но за то, што ўдома не начавала. *Гильт., 291, Пруж. п. Вар.: Fed., 30.*

108. Калі б леці вярнуліся, тады б і хлопцы гарнуліся. *К. Кабашнікаў, 1962, Гом. 8.1.77.*

109. Ох-ох-ох, хто ўдвох, а я, бедна, сама е́дна. *Вас., 23.*

110. Бабы каюцца, а дзеўкі замуж збіраюцца. *М. Смурага, 1967, Свісл. 13.10.28.*

111. Маладой дзеўцы ўсё смех. *Сцяшк., 598, Вайк.*

112. Шчабеча дзяўчына, шчабеча: відна, замуж хоча. *Ляцкий, 61; Сержп., 55.*

а) Пробу крычу — замуж хачу. *Раст., 216.*

113. Жураўлі прыляцелі, дзеўкі ашалелі. *Шпил., 180.*

114. Цягнусь, мамка.— Расцеш, донька.— Брэшаш, мамка: замуж хачу. *Ром., Бел., I, 311.*

115. Прышла пара — ступай з двара. *Fed., 220.*

116. Дзеўкі, як гусяняты: як пер'ямі абрастуць, так і разляцяцца. *Зах., 251.*

117. Хоць бы морам плыць, абы б у двары не быць. *Нос., 173.*

118. Замуж хоць у пятніцу. *Г. Дзяніс, 1972, Валож. 13.10.55; А. Міцэвіч, 1973, Мядз. 13.10.61.*

а) Ні ткаць, ні прасці, а замуж хоць у пятніцу. *Ю. Ботвін, 1967, Вайк. 13.10.28.*

119. Будзем гадаць, як дзеўку замуж аддаць. *Сержп., 62.*

120. Абы мае бярозкі, а дубкі будуць. *Цар., 240, Рэч.*

121. Умелі бацька з маткаю мяне гадаваць, ды не ўмелі замуж аддаваць. *Ляцкий, 49.*

122. Горка рэдзька, ды ядуць, ліха (дрэнна, кепска, плоха) замужам, ды ідуць. *Г. Румоўская, 1963, Пліс. 13.10.40; Ю. Ботвін, 1967, Вайк. 13.10.28; І. Вайгяніца, 1965, Іў. 13.10.1; Шейн, II, 475, Ігум. п.; Dybow., 9; Ляцкий, 8; Дразд.; Fed., 261.*

а) Цыбулька горка — людзі ядуць, ліхі замуж — дзеўкі ідуць. *Fed., 59.*

б) Водка горка — хлопцы п'юць, замуж кепска — дзеўкі йдуць. *Цяшк., 583, Гродз.*

в) Гарэлка горка, ды яе п'юць, замужам нядобра, ды ідуць. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

123. Не ўсё на бацькіным акарку сядзець. *Ром., Бел., I, 302. Вар.: Fed., 17.*

а) Не ўсё ж на бацькавым карку сядзець, пара і свой розум мець. *Ляцкий, 31.*

б) Не заўсёды за бацькавымі плячыма сядзець. *Т. Багдзевіч. 1965, Шчуч. 13.10.6.*

124. Дзеўку аддавай, калі людзі трапляюцца. *Сержп., 63.*

125. Гора (жыццё) маё чубатае: ніхто мяне не сватае. Ром., *Бел., I, 293; Сержп., 63.*

а) Доля мая чубатая: ніхто мяне не сватае. *Fed., 295.*

б) Гора ж маё чубатае: ніхто замуж не бярэ, а толькі сватае. *1961, Кап. 13.9.5.*

126. Хацела Мар'янка замуж ісці, але брацъ не хочуцъ. *Fed.*, *66.*

127. Дзеўка на пары — сваты на двары. *Сержп., 64; Нос., 34.*

128. Лататы-лататы — будуцъ (увосенъ) сваты. *Сержп., 64; Ляцкий, 19.*

129. Неспадзеўкі сваты ў дзеўкі. *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.1.*

130. Рана хапалася, да й сватоў заждалася. *Сержп., 63.*

131. Першыя сваты не робяцъ сухаты. *Сержп., 64.*

132. Як з Пракопам, так без Пракопа, а з Пракопам, кабы з попам. *Kolb., 472, Пін. п.*

133. Лыка дзяры, калі дзяруцъ, дзеўку аддавай, калі бяруцъ. *Сержп., 64.*

134. Ні дома, ні замужам. *Сем., 131.*

135. Дай, бог, нашаму цяляці воўка паймаці. *Дуб., 17.*

а) Дай, божа, цяляці воўка паймаці, але бяда, як воўк цяля паймае. *В. Скідан, 1969, Пін. 8.2.21.*

136. Не нашаму цяляці (шчаняці) воўка спаймаці. *Шейн, II, 479, Барыс. п.; Fed., 237; М. Шлык, 1969, Зельв.*

137. Нашаму шчаняці (цяляці) удалося воўка паняці. *Tyszk., 426; Шпил., Бел., 185; Шейн, II, 478, Барыс. п.*

138. Як дваццацъ тры, дык замуж пры, а як дваццацъ пяцъ, дык дома сядзь. *М. Грынблат, 1974, Валож. 8.74.82.*

139. Жні пшанічку прызеляненькую, аддавай дачку маладзенькую. *Янк. М., 39; Н. Сядлюкоўская, 1973, Смал. 13.10.57.*

140. Ад лецечка да лецечка чакай, дзевачка. *Нос., 122.*

141. Не пайдзі — людска абгаворанка, а пайдзі — бедна галованька. *Fed., 211.*

142. А чаго субоце раней быць за пятніцу? *Сцяшк., 580, Іў.*

143. Не ўсё ж дзеўкай быць. *Ляцкий, 31; Сержп., 62.*

а) Не век дзеўцы дзеваваць. *Сержп., 64.*

б) Не век дзеўкай дзевеваць, трэба шчасця папытаць. *Сержп., 62.*

144. Замуж выйдзеш — бабай будзеш, усе прыпевачкі забудзеш. *Зах., 252.*

145. Ці кот шалееець, ці дзеўка старэець. *Л. Салавей, 1969, Мядз. 8.2.18.*

146. Старая дзеўка, як дзіравы кажух,— адзін дух. *Сержп., 63.*

147. Няма злей асенняй мухі і дзеўкі-векавухі. *Мін.-Мал., 1974, 188, Валож.*

148. І замуж не выйшла, і ў дзеўках не засталася. *Цар., 243, Мінск.*

149. Лепей у дзеўках сівець, чым замужам (за дурным мужыком) паршывець. *Нос., 75; Нос., Слов., 578; Дуб., 32.*

а) Лепш у дзеўках сядзець, чым замужам марнець. *І. Цішчанка, 1971, Брасл. 8.2.49.*

150. Лепей з вадою злучыцца, чым з нялюбым зручыцца. *М. Грынблат, 1971, Шарк. 8.2.43.*

а) Чым з пустым малаком, дык лепш з вадою. *Цар., 248, Рэч.*

151. Што за які вуле́й, то так вале́й. *Сцяшк., 616, Воран.*

152. У людзях — радуйся, сэрца, а дома — не выдай мяне, маці. *Ром., Зап., 1, 215.*

153. Калі любіш, то жаніся, а не любіш — адчапіся (аткасніся). *Dybow., 12; Tyszk., 419; Шпил., 182; Нос., 64.*

154. Сваю роўню вазьмі, то будзе згода. *Fed., 263.*

155. Роўны роўнага шукае. *Fed., 263.*

156. Парачка — баран да ярачка. *Нос., 125.*

157. Што да чаго стасуецца: баба к мужыку, а дзеўка к жаніху. *Сержп., 63.*

158. Казала Клара, што будзе пара. *Fed., 145.*

159. Шукае цар царыцы, а пастух пастушыцы. *Fed., 47.*

160. У дзяўчыны жаніхоў сто адзін, а дастанецца адзін. *Сержп., 64.*

161. На доўгі век знойдзецца і чалавек. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

162. Не ўсім Даніла, камусь пападзецца і Гаўрыла. *Pietk., 317.*

163. Быў бы Даніла, каб скула не задавіла. *Л. Царанкоў, 1960, Мінск 13.9.2.*

164. Хто з каго смяецца, той таму і застанецца. *В. Калюк, 1965, Навагр. 13.10.6. Вар.: Л. Тур, 1965, Руж. 13.10.1.*

а) З каго [кпіла] смяялася, таму [сама] дасталася. *Нос., 157; Fed., 304; Дуб., 58.*

165. Некрасівы за красівага не сватаецца. *Г. Прытычанка, 1960, Карм. 13.3.29.*

166. Мяне ўсе бязбацькавічы сватаюцца. *Нос., 77; Дуб., 34.*

167. Якая песня — такія скокі; якая дзеўка — такія жаніхі. *Мін.-Мал., 1974, 190, Пух.*

168. Хоць за вала, быле (была б, абы) дома (у двары, удома) не была. *Tyszk.; 419; Шпил., 190; Нос., 173; Dybow, 192; Шейн, II, 483, Ігум. п.; Сержп., 64; Fed., 80; Czeczot, 107; Pietk., 317; А. Фядосік, 1962, Капатк. 8.1.76; І. Суконкін, 1960, Церах. 13.3.29.*

а) Хоць за быка́, калі няма маладзіка́. *Fed., 46.*

б) Хоць за казла, абы замуж пайшла. *Г. Прытычанка, 1960, Карм. 13.3.29.*

в) Хадзі за казла, абы з дому спаўзла. *Т. Лапаціна, 1961, Рэч. 13.3.24.*

г) Хоць за казла, абы дапаўзла. *Сержп., 55; Нос., 174.*

д) Хоць за старца, абы не астацца. *М. Стырнэ, 1949, Люб. 8.1.27.*

е) Хоць за пенюшка́, калі няма жанішка. *Дуб., 69; Нос., 173.*

ж) Выйсці хоць і за лапаць, абы не плакаць. *І. Цішчанка, 1969, Слаўг. 8.2.21.*

з) Хоць за рабога, абы не ўбога. *Ляцкий, 54; Сержп., 17.*

169. Хлопцы: «Хоць сава, абы з другога сяла»; дзеўкі: «Хоць за старца, абы не астацца». *М. Стырнэ, 1949, Люб. 8.1.26.*

170. Не бачыла гвазда, дык рада, што жалезца нашла. *Н. Купцоў, 1967, Ветк. 13.3.29.*

171. Хоць за варонку, ды на сваю старонку. *Сержп., 63.*

а) Хоць за курыцу, да на сваю вуліцу. *Сержп., 62.*

б) Хоць за лыску, да блізка. *Нос., 174; Дуб., 69; Сержп., 55, 62.*

в) Хоць за плута, абы тута. *Ром., Бел., I, 312.*

172. І ў дварэ і замужам. *Юрч., 1969, 51.*

173. Не па рэпачцы націнка, не па дзевачцы дзяцінка. *Нос., 102; Дуб., 37; Сержп., 64.*

174. Сава сакалу не пара (не роўня). *Сержп., 11.*

а) Не па́ра сава да сакала́. *Ляцкий, 27.*

175. У сакала і варона хараша. *1961, Брасл. 13.9.5.*

176. Зялёна рута, ялавец, лепш кавалер, ніж удавец. *Fed., 267.*

177. Лепш сівец, як паршывец. *Ляцкий, 19.*

178. Лепей печану рэдзьку з'есць, ніж з табою за сталом сесць. *Fed., 274.*

179. За шляхціца не трапіцца, за мужыка не хочацца, бо на дзела валочыцца, *Fed., 300.*

180. Хлопец ніvашто: адзяжонка людская і капеечка водзіцца. *Дуб., 69; Нос., 172.*

181. Кожная пачвара знойдзе сабе пару. *І. Курбека, 1961, Докш. 13.9.7.*

а) Каждая пачвара мае сваю пару. *Мін.-Мал., 1970, 161, Уздз.*

182. З гультаём пажаніцца — лепей задавіцца. *А. Жадзейка, 1965, Шчуч. 13.10.6.*

183. Хто п'яніцу палюбіць — жыццё сабе загубіць. *У. Іваноў, 1958, Мінск 13.5.17.*

184. Ад касавокага, рудога і кульгавага ўцякай, куды від. *Pietk., 396.*

185. Як абы-які, то лепш ніякі. *Д. Вайтушка, 1965, Лід. 13.10.1; І. Цішчанка, 1970, Астр. 8.2.29.*

а) Чым абыякага, дык лепей ніякага. *М. Грынблат, 1970, Лаг.*

186. Хітрая дзяўчына: як зявае, рот разявае. *В. Санько, 1969, Слуцк.*

187. Як да каханка ішла, то ўсё скачучы, а як да хаты, то ўсё плачучы. *Fed., 133.*

188. І на дзеўку бываець грэх. *Нос., 56; Сержп., 17.*

а) І на Машку бываець прамашка. *Нос., 56.*

189. Ад людзей смех і ад бога грэх. *Fed., 303, 32, 115. Вар.: Tyszk., 424; Шпил., 173.*

а) Ад мілага грэх, ад людзей смех. *Pietk., 352.*

190. Неспадзеўкі дзіця ў дзеўкі. *Fed., 92; Цар., 245, Мінск.*

191. Тады дзеўка схамянулася, як у пузе страпянулася. *Дуб., 59.*

192. І на том свеце дзеўкі водзяць дзеці. *Fed., 95.*

193. Мусіць, хлопец пажартаваў, што стан сапсаваў. *Ляцкий, 21.*

а) Мусіць, хлопцы пажартавалі, што дзеўцы стан сапсавалі. *Сержп., 66.*

194. Калі дзяўчыне падвее, то й стан укарацее. *Ляцкий, 16.*

195. У лесе дзеўцы і бог не паможа. *В. Санько, 1969, Слуцк.*

196. Вот табе на! Не хадзі адна. *Нос., 16.*

а) Вот це на! Не хадзі ж адна, хадзі з бабушкай. *Ром., Зап., I, 215.*

197. Матка вінавата, што дачка чаравата. *Сержп., 29.*

198. Не страшна, калі пара́дзіў; страшна, калі парадзіў, ды здрадзіў. *Янк. М., 150.*

199. На торнай дарозе трава не расцець. *Нос., 89. Вар.: Ром., Зап., III, 225; Fed., 70, 106; Сержп., 4; А. Фядосік, 1962, Капатк. 8.1.76.*

200. Тым мора не пагана, што сабакі лохчуць. *Ром., Бел., I, 311.*

а) Чы мора пагана, што ў ім сабака паласкаўся? *М. Грынблат, 1926, Тур.*

201. Як молад, тады і дараг. *М. Грынблат, 1960, Сір. 8.1.47.*

202. Малайцу ўсё к ліцу. *1961, Брасл. 13.9.5.*

203. Быль маладцу не ўкора. *Ром., Зап., I, 215. Вар.: Нос., 79; Дуб., 35.*

204. Малец укусіць за палец. *Бяльк., 260, Касц.*

205. Дзеўкі за ім гужам-гужам, да ўсё міма. *Л. Царанкоў, 1960, Касц. 13.9.2.*

206. За дзеўкамі свету не бачыць. *Fed., 96.*

207. Варажыла, не варажыла, а ад цябе не адхадзіла. *Нос., 16.*

208. Асінка чырванееець, дзяцюк (дзяцёк, дзяцінка) шалееець. *Tyszk., 419; Шпил., 182. Вар.: Нос., 120; Дуб., 4; Сержп., 64.*

а) Асіна чырванее, хлопец дурэе. *Сержп., 64.*

209. Гуляй, Якім, як ёсць за кім. *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

210. Відна па вочках, хто ходзіць уночках. *Нос., Слов., 62.*

211. Варкатня, ды не штодня. *Dybow., 8.*

212. Да зайца стралец і да дзяўчат маладзец. *Fed., 292.*

213. У цябе губа не дура. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

214. Андрэй, не дурэй. *Сержп., 40.*

а) Андрэй, не дурэй, хвартух падзярэш. *Шпил., 174.*

215. Тады перастанець, як галава сіва станець. *Крэмнеў.*

216. А мальцу добра й плахта. *Дуб., Нар., 2.*

217. Чаму ж той не кавалер, што загáрак мае. *Ляцкий, 57.*

218. Мужчына як крышку пякнейшы ад чорта, то і пекны. *Fed., 191.*

219. Адзін бог, ды не адна вера, адзін ёсць, а другі нос верне. *Л. Царанкоў, 1960, Рэч. 13.3.2.*

220. Дождж падае — грыбы будуць, хлопцы памруць — дзеўкі будуць. *Fed., 81.*

221. Кавалер — свінні па каўнер. *В. Іваноўская, 1962, Светл. 8.1.74.*

222. Сто коп не грошы, абы хлопец харошы. *Dybow., 18; Fed., 54.*

223. Яшчэ мацерынага малака не аблізаў, а ўжо да дзяўчат бярэшся. *Fed., 173.*

224. Датуль таварышавáлі, пакуль дзевак не зналі. *Сержп., 59.*

225. Хужы няма кары, як жыць без пары. *І. Суконкін, 1960, Церах. 13.3.29.*

226. Не жанаты — не багаты. *Сержп., 65.*

227. Няма каму абмыць, абшыць і аблатаць — трэба жаніцца. *Fed., 363.*

228. Хто хоча жаніцца, таму не спіцца. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

229. Ажаніцца куды лягчэй, чым выйсці замуж. *Цар., 240, Мінск.*

230. Лёгка жаніцца, што лысага брыць. *А. Ліс, 1962, Смарг.*

231. У сваты сабраўся, а кушанне пракісла. *Ром., Бел., I, 292.*

232. Ажаніся, не журыся, добра табе будзе. *Kolb., 473, Пін. п.*

233. Жаніўся б і сёння, але дзе жонка спаць будзе? *Мат., 174.*

234. Быць бычку на лычку, а цёлачцы на вяровачцы. *Нос., 11.*

а) Быць бычку на лычку, а кароўцы на вяроўцы. *Сержп., 58; А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15; І. Хайратовіч, 1951, Кругл. 13.9.4; М. Рымша, 1957, Маз. 13.3.29.*

б) Суджана бычку на лычку, а цялушачцы на вяровачцы. *Fed., 46.*

235. Жаніся, каб дурні не звяліся. *1961, Кап. 13.9.5.*

236. Ажаніся, чорце, не будзеш круціцца. *Нос., 120.*

237. Не спяшайся ўпярод бацька жаніцца. *Fed., 363.*

238. Божа, божа, нанясі нежанатага — жонку дадзім. *Ром., Бел., I. 291.*

239. Няма хлеба — жаніся, няма дроў — сяліся. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29. Вар.: Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

а) Хочаш хлеба — жаніся, хочаш дроў — сяліся. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

б) Трэба дровы — будуйся, а трэба хлеб — жаніся. *1961, Кап. 13.9.5.*

240. Хлопец жэніцца, як хлеб ёсць, а дзеўка выходзіць замуж, як сваты прыдуць. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

241. Як ажэніцца, то адменіцца. *Fed., 11.*

а) Ажэніцца — пераменіцца. *Нос., 41, 120; Мін.-Мал., 1970, 158; Пух; У. Іваноў, 1958, Мінск 13.5.17. Вар.: Нос., 126.*

242. Жаніцца — не ляніцца. *Нос., 41.*

243. Чым бы дзіцятка не займалася, абы каб жаніцца не прасілася. *М. Малочка, 1959, Круп. 8.1.46.*

244. Тады ажэніцца, як лысы вол (бык) ацеліцца. *Fed., 11; Г. Шымко, 1967, Навагр. 13.10.21; Ю. Ботвін, 1967, Вайк. 13.10.28. Вар.: Р. Цыбульская, 1967, Валож. 13.10.24; В. Лашчэўская, 1967, Дзятл. 13.10.28.*

а) Тады будуць жаніцца, як быкі стануць цяліцца. *Fed., 363. Вар.: Сцяшк., 610.*

б) Скарэй сабака шчэніцца, чым шалудзівы жэніцца. *Нос., 150.*

245. Нашто мне жаніцца, калі добра па чужых жывіцца. *Fed., 363.*

246. Дзе ён, там яго і дом. *Цар., 242, Мінск.*

247. Гэтага цвету па ўсяму свету. *Крэмнеў.*

248. Сем раз глядзі, а назад не вядзі. *М. Бабарыкіна, 1966, 13.3.29.*

249. Не хвалі каня, запрагаючы, а дзеўку — выбіраючы. *Fed., 149; І. Суконкін, 1960, Церах. 13.3.29.*

250. Лён хвалі ўвосень, а дзеўку — замужам. *І. Суконкін, 1960, Церах. 13.3.29.*

а) Хвалі дзень вечарам, а дзяўчыну замужам. *Янк. М., 39.*

251. Люблю дзеўку абы-чыю, была бы толькі па абычаю. *Дуб., 32.*

252. Сласны кусок найдзе куток. *Крэмнеў.*

253. Хлопец на каня сядае, а дзеўка родзіцца і паспявае яму. *Fed., 54.*

254. Цераз агонь скачы, а дзеўку сам сачы. *Сержп., 72.*

255. Не шукай красаты, а шукай дабраты. *М. Смурага, 1967, Свісл. 13.10.28.*

256. З ліца не спячэш бліна. *Р. Родчанка, 1974, Слуцк.*

а) З красаты вады піць не будзеш. *Л. Царанкоў, 1960, Хоц. 13.9.2.*

б) Красатой гаршка не закрасіш. *С. Шаршуновіч, 1968, Свісл. 13.10.28.*

257. Каса не розум. *Ляцкий, 17.*

258. За гожаю пойдзеш — ліха знойдзеш. *Сержп., 63.*

259. Пазірай на матку, а жаніся на яе дзіцятку. *Сержп., 63.*

260. Не глядзі бела, абы б рабоча была. *Нос., 95; Дуб., 42.*

261. Жонку выбірай не вачамі, а вушамі. *М. Смурага, 1966, Свісл. 13.10.28.*

262. Жонку выбірай і вачыма і вушыма. *Сцяшк., 590, Смарг.*

263. Шукай жонку не на йгрышчы, а на ржышчы. *А. Ліс, 1961, Смарг.*

а) Выбіраюць не на йгрышчы, а на іржышчы. *1959, Баг. 8.1.42.*

б) Не выбірай дзеўку ў карагодзе, а шукай у агародзе. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

264. Не бяда, што чорна, абы б была праворна. *Нос., 93; Шырма, 206; А. Махнач, 1952, Узда. 13.10.15.*

а) Дзеўка не бракоўна, як чорна; бракоўна, як не праворна. *Fed., 95.*

б) То не бракоўка, калі дзеўка чорна, толькі б была праворна. *Нос., Слов., 32. Вар.: Дуб., 60.*

в) Не бяда, што чорна, абы лён праворна цёрла. *Сержп., 63.*

265. Не той харош, хто тварам прыгож, а той харош, што на справу гож. *А. Якіменка, 1966, Б.-Каш. 13.3.29.*

266. Не выбірай дзеўку, да касцёла ідучы, а выбірай дзеўку, лён тручы. *І. Пазняк, 1965, Шчуч. 13.10.6. Вар.: Сцяшк., 584, Воран.*

а) Не глядзі на мяне, у касцёл ідучы, а глядзі на мяне, лён тручы. *Ляцкий, 25.*

б) Не любі дзеўку, на фэст ідучы, а любі, лён тручы. *В. Калюк, 1965, Дзятл. 13.10.6.*

267. Сенажаць агледзь, як раса абсохне, а дзеўку па рабоце. *Янк., 148.*

268. Наша Парася на ўсе штукі прыдалася. *Fed., 221.*

269. Пасці серады і пёнткі, то дастанеш жонку на зялёны свёнткі, а як будзеш пасціць да ўсіх святых, то дастанеш з не тых. *Fed., 241.*

270. Жонку бяры не на год, а на век. *У. Іваноў, 1958, Мінск 13.5.17.*

271. Ты не Несцяроўна — мне не роўня. *Г. Прытычанка, 1960, Карм. 13.3.29.*

272. Палюбіцца сава лучшы яснага сакала. *Нос., 132.*

273. Лепш палюбіць старога арла, чым маладую саву. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15; У. Іваноў, 1958, Мінск 13.5.17.*

274. Жонку бяры далёка, кароўку купляй блізка. *Tyszk., 419; Шпил., 117.*

а) Бяры іздалёка жонку, а купляй блізка кароўку. *Нос., 5.*

275. Не купляй зблізка кароўкі, ані з аднаго сяла жонкі. *Fed., 138.*

а) Усё роўна: ці блізка жонку ўзяць, ці ў суседа парася купіць. *Fed., 366.*

б) Не бяры жонкі з аднаго сяла, не купляй каровы, ані парасяці. *Fed., 365. Вар.: Pietk., 402.*

в) З аднаго сяла ні парасяці не купляй, ні жонкі не бяры. *Fed., 221.*

276. Пашлі ў сваты да сляпой Агаты. *Л. Царанкоў, 1960, Мінск 13.9.2.*

277. Хіба яе зямля сырая возьме, не які маладзік. *Fed., 355.*

278. Дзе пасаг чуе, там Грышка й начуе. *Сцяшк., 588, Слон.*

279. Хіба на рабацінне накінуць пасагу. *Сержп., 64.*

280. Хоць крывое ды гарбатае, але слаўнае ды багатае. *Янк., 65.*

281. Хоць бы свіння лыса, абы грошай міса. *Fed., 116; Сцяшк., 613. Ашм.*

а) Хоць свінка, абы грошай асьмінка. *Ляцкий, 54; Сержп., 17.*

б) Хоць свінка, ды грошай скрынка. *Сержп., 62.*

282. Хоць бы каза бела, абы пасаг мела. *Сцяшк., 613. Гродз.*

а) Жаніўся б і на казе, абы з залатымі рагамі. *Цар., 243, Мінск.*

283. Хоць бы дзеўка не коха, абы грошай панчоха. *Fed., 95.*

284. Няхай сабе і сучку, абы рубель у ручку. *Fed., 264.*

а) Хоць бы жонку сучку, абы грошы кучку. *М. Грынблат, 1971, Шарк. 8.2.43.*

285. Калі не з мяса, то хоць з пер'я. *Fed., 182.*

286. На голы кол не паляціць і сакол. *1961, Кап. 13.9.5.*

287. Без грашэй харашэй. *Сержп., 42, 55.*

288. Добра цнота дарожша ад срэбра і злота. *Fed., 59.*

а) Ляпей таго злота Таццяніна цнота. *Дуб., 32.*

289. Чэраз вялікія пераборы асталіся пасталы ды аборы. *І. Сагарава, 1950, Браг. 8.1.35.*

а) За пераборы — лапці ды аборы. *Нос., 46; Fed., 227. Вар.: Л. Царанкоў, 1960, Крыч. 13.9.2.*

б) З вялікіх (бальшых) выбораў — лапці ды аборы. *Л. Царанкоў, 1960, Рэч. 13.9.2; 1961, Брасл. 13.9.5.*

в) Ад выбораў — ні лапцей, ні абораў. *А. Ліс, 1964, Гарад. 8.1.86.*

290. Не перабірай, а то скулу схапіш. *Дуб., 42.*

291. За перабірачку выбераш гарачку. *М. Грынблат, 1975, Пух.*

292. З [вялікага] гурту выбраў сабе курту. *Fed., 158; 1961, Кап. 13.9.5. Вар.: Pietk., 328.*

а) З гурту заўсёды выбераш курту. *Ляцкий, 13.*

б) З гурту выбераш добрую курту. *Сержп., 17.*

293. Паяднаўшысь, трэба барышы піць. *Дуб., 48.*

294. Пакуль тыя барышы, у бацькоў не будзе і душы. *Ляцкий, 33.*

а) Пакуль тыя барышы, а ў бабы не станець і душы. *Нос., 132.*

## ШЛЮБ І ВЯСЕЛЛЕ

295. Нарачонага не абойдзеш. *Л. Стаўровіч, 1957, Рэч. 13.3.29.*

а) Суджанага і канём (валом) не аб'едзеш. *Сержп., 57; Дуб., 58; Нос., 157; Ляцкий, 43.*

296. Што будзе суджана — вылезець і з лужыны. *1961, Брасл. 13.9.5.*

297. Су́джана (то) не разгу́джана. *Нос., 157; Л. Салавей, 1971, Мядз. Вар.: Fed., 293; І. Цішчанка, 1971, Брасл. 8.2.49.*

а) Што суджана, то не будзе разгуджана. *Крапіва, 230.*

298. Суджанаму жонка. *Tyszk., 419.*

а) Суджанаму дзеўка. *Нос., 157; Дуб., 54.*

299. Калі бог судзіць, то і чорт не разгудзіць. *Tyszk., 419.*

300. Не суджана, калі разгуджана. *Нос., 103.*

301. Маўчу, дык пэўне замуж хачу. *Шпил., Бел., 184.*

302. За гарэлку дзякуй — я не п'ю, а любіць не магу. *Шпил., Бел., 180.*

303. Атрымаў... з гарохвін вянок. *Дуб., Нар., 2.*

304. У аўторак аб'едзеш дзевак сорак. *«Ніва», 1974, № 15, М. Шаховіч, Бельскі п. (ПНР).*

305. Ёсць насенне, дак будзе і вяселле. *М. Грынблат, 1974, Валож. 8.74.82.*

306. Бацькоўскае шчэрае багаславенне і ў агні не згарыць і ў вадзе не ўтопіцца. *Fed., 16.*

307. Ёсць тут дзевіца заручоная, штоб была выдадзёная. *Нос., Слов., 80.*

308. Калі (каго) бог злучыць, чалавек (ніхто) не разлучыць. *Дуб., 26, 32; Крэмнеў.*

309. І з каберца расходзяцца. *Fed., 132, 264.*

310. У суботу на работу, а ў нядзелю на вяселле. *Цяшк., 612, Гродз.*

311. Лепш ехаць па сена, як на вяселле. *Dybow., 183; Fed., 276.*

312. Дзякуй за пару: няхай будзе целу паправа. *Ляцкий, 10.*

313. Калі гора, нагаруецца, калі добра, накрасуецца. *Нос., 63.*

314. Не аддай мяне, мамка, дзе затыкаюць, а дзе на сярэдзіне ткуць. *Янк. М., 86.*

315. Толькі тое месца, дзе была нявеста. *Нос., 163.*

316. Прыбяруся я мяхом, стыдна (сорамна) будзець жаніхом. *Нос., 136; Дуб., 45.*

317. Чым мядзведзь касмацейшы, тым жаніх багацейшы. *Ляцкий, 59.*

318. Вяселле і сарочку найдзе. *Шырма, 205; Цяшк., 584, Гродз.*

а) Свадзьба сарочку найдзець. *Нос., 146; Раст., 122.*

319. Вяселле і шчасце на адным кані едуць. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

320. Хто будзе кароўкаю дарыцi, таго будзем вiном паiцi. *I. Цiшчанка, 1956, Iвац. 8.1.39.*

321. Дзеўцы вяселле, а карове смерць. *Ром., Мат., 85. Вар.: Янк., 214.*

322. Сва́ты, калi ногi касматы, а калi гладкi, то забiрайцесь пад градкi. *Добр., Смол., 7.*

323. Нам бог вяселлейка даў: ажанiўся мех, торбу ўзяў. *Р. Мазгавая, 1967, Лiд. 13.10.28.*

324. Абвёў вакруг елi, i чэрцi iм пелi. *Дуб., Нар., 49.*

а) Абвёў вакруг дуба, ды й няхай будзе люба. *Дуб., Нар., 48.*

325. Уздай добра гужам, каб звала мужам. *Дуб., 62.*

326. Калi не плачаш за сталом, будзеш плакаць за хлявом. *Tyszk., 419; Шпил., 182; Нос., 64; Dybow., 12.*

а) Лепей плакаць за сталом, як потым плакаць за слупом. *Л. Корсак, 1961, Асiп. 13.9.11.*

327. Калi дзеўка iдзе к вянцу i не плача, пэўна i замужам не паскача. *Ляцкий, 16.*

328. На дзень вяселле, а навек мучэнне. *В. Ганчаронак, 1960, Вiдз. 13.9.26.*

а) Не многа напета, да навек ярмо надзета. *Жанч., 126.*

329. Жанiцеся, панiчы, ды знайце скутку: тры днi вяселля, а цэлы век смутку. *I. Цiшчанка, 1971, Астр. 8.2.29.*

330. Вяселле без звадкi не бываець. *Нос., 13.*

а) Свадзьба без дракi — вяселля няма. *Ляцкий, 39.*

331. Вярнуўся не п'яны, не драны, а кажа — на вяселлi быў. *Ляцкий, 6.*

332. Пасля вяселля дружбаў многа. *Дуб., Нар., 3.*

а) После вяселля дружкоў шмат. *Сержп., 59.*

333. Дзе ж дзецца, як вяселле мінецца? *1961, Брасл. 13.9.5.*

334. Маладым хоць у вір, абы нам пір. *1961, Брасл. 13.9.5*

335. Няма вяселля без пахмелля. *Fed., 328.*

336. Прыехала сваццця з вяселля, захацела рэдзькі з пахмелля. *М. Грынблат, 1973, Круп.*

337. Без гарэлкі не пахаваеш бабы і не возьмеш дзеўкі. *Fed., 104.*

а) Вяселле без гарэлкі, што колы без мазі. *А. Махнач, 1952, Узда. 13.10.15.*

338. Не рада каза торгу, а куры — вяселлю. *Ляцкий, 27.*

339. Абыдзецца цыганскае вяселле без марцыпанаў. *Ворожб.; Fed., 61.*

340. Любы сват, не любы — добры чалавек. *Вас., 15.*

341. Сват не сват, а добры чалавек. *Нос., 147.*

а) Сват не сват, а чалавек свойскі. *Ляцкий, 40.*

342. У нашага свата нова хата, печ малявана, чэсць яго кахана. *Сержп., 36.*

343. Сват едзе на кані, а чорт на свінні. *Fed., 294.*

344. Хто сват, той вінават. *М. Грынблат, 1966, Лун. 8.2.14.*

345. Хто сватае, той пекла (у пекле) пратае. *Сцяшк., 614, Ашм.; А. Ліс, 1969, Смарг.*

346. Свату першая чарка і першая палка. *Dybow., 18; Fed., 295; Pietk., 344; Бяльк., 326, Чэр.; М. Шавель, 1960, Івац. 13.9.24; Л. Царанкоў, 1960, Брасл. 13.9.2; І. Януля, 1965, Вайк. 13.10.3.*

а) Свату ліба первая чарка, ліба первая палка. *Добр., Смол., 7.*

б) Свату звеснае дзела: чы первая чарка, чы первая палка. *Ляцкий, 40.*

347. Свату падзяка альбо кульбáка. *Fed., 295.*

а) Свату на штаны альбо па штанах. *Нос., 146.*

348. Не трапіць чорт, то трапіць сват. *1961, Калінк. 13.9.5.*

349. Сват — сабачы брат. *Fed., 294.*

350. Як добры сват, дык сабацы брат, а як плахі, то і сабакі не варт. *А. Фядосік, 1962, Капатк. 8.1.76.*

а) Добры сват сабакі варт, а як ліхі, то й сабакі не варт. *Fed., 294.*

351. Убірай, сват, капусту, калі б цябе не прынясло, свінні б паелі. *Дуб., 62.*

352. За саплівым сватам не находзішся з плáтам. *1961, Брасл. 13.9.5.*

353. У гэтага свата не нам плата. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

354. Жывіце здаровы парогі, дзе хадзілі мае белыя ногі. *Fed., 222.*

355. Таткава хата ўсім багата. *Нос., 161; Дуб., 52; Сцяшк., 610, Зельв.; С. Палікоўская, 1965, Воран. 13.10.1; А. Гурскі, 1971, Паст. 8.2.46.*

356. Калі кудзелькі не скýбла, пойдзеш замуж без кýбла. *Сцяшк., 595, Гродз.*

357. Было не марколіць, не міколіць, да кудзельку піколіць. *Fed., 178.*

358. Дальшыя праводы — большыя слёзы. *Нос., 32.*

а) Даўжэйшыя праводы — то даўжэйшыя слёзы. *Fed., 247.*

359. Без мяне мяне жанілі. *У. Іваноў, 1958, Мінск.*

а) Без мяне мяне жанілі, мяне дома не было. *Л. Царанкоў, 1961, Рэч. 13.9.2.*

б) Без мяне мяне жанілі, я на мельніцы была. *М. Грынблат, 1969, Лаг.*

360. Пажаніліся, што малады конь і стары конь спрэгліся. *Янк., Дыял., I. 217.*

361. Як мне тая дарожка міла, дзе маю Крысціну павёз Даніла. *Tyszk., 419.*

а) Міла дарожка, міла, куды павёў Хоўручку Даніла. *Нос., 77.*

## СЯМ'Я І УНУТРЫСЯМЕЙНЫЯ АДНОСІНЫ

362. Хоць вох, да ўдвох. *Нос., 173; Дуб., 70; Сержп., 64; Ахрым., 58.*

   а) Вох, калі б удвох. *Ром., Бел., I, 292.*

   б) Добра і ох удвох. *Fed., 89.*

   в) Ох! Лепей удвох. *Нос., 123.*

   г) Ох! Цяплей удвох. *Ляцкий, 31; Сержп., 65.*

363. Ох, лепш удвох, а яшчэ лепш таму, хто па аднаму. *Fed., 90.*

364. Добра ойкаць і стагнаць, калі ёсць з кім загадаць. *Сержп., 130.*

365. Што два, то не адзін. *Fed., 90; Т. Багдзевіч, 1965, Шчуч. 13.10.6.*

366. Адзін з'еш хоць вала, то адна хвалá. *Нос., 118. Вар.: Добр., Смол., 106; Сержп., 36; Дуб., 3; Pietk.; 309; Дразд.; С. Маісеенка, 1965, Жлоб. 13.3.25; Л. Царанкоў, 1960, Крыч. 13.9.2; М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29; 1961, Кап. 13.9.5.*

367. Адзін і ў кашы няспорны. *Tyszk., 416; Шпил., 173; Ром., Зап., III, 228; Крапіва, 247.*

   а) Аднаму і ў кашы няспорна. *Нос., 119; Fed., 6; Pietk., 309; Сержп., 6; Ахрым., 19; А. Куцакова, 1957, Раг. 13.3.29.*

   б) Адзін і ў кашы прападзеш. *Анім., 261. Вар.: М. Грынблат, 1964, Пол. 8.1.6; Суяшк., 578, Маст.*

   в) Адзін і ў кашы прапаў. *Сах.; 1961, Брасл. 13.9.5.*

368. Аднаму харашо кашу калупаць. *Добр., Смол., 105.*

369. Адным пальцам вузла не завяжаш. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

а) Адна рука і вузла не завяжа. *Суяшк., 579, Лід. Вар.: Суяшк., 579, Шчуч.; С. Клачко, 1966, Б.-Каш. 13.3.29; В. Ківель, 1967, Нясв. 13.10.21.*

б) Адной рукой у далонь не хлопнеш. *І. Суконкін, 1960, Церах. 13.3.29.*

в) Адным пальцам і штаны не падцягнеш. *І. Байко, 1967, Навагр. 13.10.23.*

370. Аднаму і ў ядзе нясмачна. *Я. Касач, 1966, Дзятл. 13.10.26.*

371. Адной, як авечка бляець: ні туды, ні сюды. *Г. Барташэвіч, 1964, Сен. 8.1.90.*

372. Ёсць аб чым тужыць, як няма з кім жыта малаціць. *М. Смурага, 1967, Свісл. 13.10.28.*

373. Адзін рабоч, да не багат. *Сержп., 6, 47.*

а) Праўду людзі кажуць: адзін рабочы, да небагаты. *Fed., 255.*

374. Адзін не жыхар, так, як гарох пры дарозе: хто ідзець, шчыпнець. *Г. Барташэвіч, 1965, Арш. 8.1.99.*

375. Аднымі рукамі нямнога награбе́ш. *Нос., 119.*

376. Адзін ні сабе слуга, ні богу раба. *Добр., Смол., 105.*

377. Аднаму дарожка торна, да дарожка не спорна. *Добр., Смол., 105.*

378. І птусі (птушцы) адной нудна. *Fed., 252; А. Сіплівая, 1967, Пруж. 13.10.24.*

379. Аб тым зязюля кука́е, што свайго гнязда не мае. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

380. І воўк дружыны кліча. *Fed., 339.*

381. Адзін і воўк за гарою выець. *1961, Брасл. 13.9.5.*

382. Адзін, ды нелюдзін. *Ром., Бел., I, 305.*

а) У каго адзін — той нелюдзін. *М. Гваздзёў, 1965, Арш. 8.1.94.*

383. Удваіх добра і жабраваць пайсці. *Fed., 90.*

384. Хай нашы анучы будуць у кучы. *Мін.-Мал., 1970, 168. Уздз.*

385. Хоць худое, да ўдвое. *Добр., Смол., 131.*

386. Што два, то не адзін. *Т. Багдзевіч, 1963, Воран. 13.10.6.*

а) Што чатыры рукі, то не дзве. *Fed., 266.*

387. Адзін, ды ладзíн. *1961, Брасл. 13.9.5.*

а) Адзін, да ла́дзен. *Нос., 118.*

388. Адзінокаму мужыку, як курыцы: ідзе ні капануў, дак і ўклюнуў. *Добр., Смол., 106.*

389. Ні сена, ні аброку, ні бабы пры боку. *Fed., 276.*

390. Адна толькі галава на плячах. *Нос., 119.*

391. Адна галава не бядна, а калі й бядна, дык адна. *Дуб., Нар., 2; Л. Царанкоў, 1960, Мінск 13.9.2.*

392. Адна галава не бядна: лёг — сагнуўся, устаў — страпянуўся. *Добр., Смол., 106.*

393. Адна галава — добра, дзве — лепш, але хай адна разважыць і наважыць. *Янк., 180.*

394. Адзін дасуж, да не дуж. *Сержп., 6.*

395. Сам бог рад, калі ў сям'і лад. *Дуб., 54.*

а) Дзе згода, там сам бог жыве. *Fed., 353.*

396. Згода лепша, як нязгода. *Fed., 354.*

397. Там, дзе згода, заўсёды добрая прырода. *Р. Цыбульская, 1967, Валож. 13.10.24.*

398. Згода будуе, нязгода руйнуе. *Fed., 354; Г. Зублевіч, 1965, Маст. 13.10.27.*

399. Нашто клад, калі ў сям'і лад. *Ром., Зап., III, 227. Вар.: А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

400. Лепш драўляная згода, чымсь залатая сварка. *Дуб., Нар., 8.*

а) Лепей лычны мір, чымся раменная свара. *Янк., 73.*

401. Дзе няма згоды, там няма ладу. *Мін.-Мал., 1970, 160, Пух.*

402. Калі мае не ў лад, то я з сваім назад. *Dybow., 182.*

403. Лад дык лад, а не — дык няма чаго і гарод гарадзіць. *Янук., 30.*

404. Дружная сям'я і ад бога ўкрадзе. *А. Русіновіч, 1954, Светл. Вар.: М. Бабарыкіна, 1966, Чач. 13.3.29.*

а) З сямейкай ад бога ўкрадзеш. *Добр., Смол., 106.*

405. Знáемся ў дому, знáемся і ў людзях. *Дуб., 22; Нос., 49.*

406. Мужык ды баба — адна рáда. *Ляцкий, 21.*

а) Дзед а баба — адна рада. *Fed., 93.*

б) Мужык і жонка найлепшая сполка. *Fed., 192.*

в) Мужык і жонка — адна кішонка. *Fed., 192; Сцяшк., 598, Гродз.*

г) Антось ды Хвядора — што лапаць ды абора. *Мін.-Мал., 1970, 158, Пух.*

407. Бог мой, а я твой. *Ляцкий, 4.*

408. З кім жыць, таго не гнявіць. *Нос., 157.*

409. Жыві з аднэю, да й чэсна. *М. Грынблат, 1969, Лун. 8.2.14.*

410. Роўны з роўнага цешыцца. *Нос., 144.*

411. Мужык сваю жонку хваліць, што хораша есці варыць. *Fed., 192.*

412. Дзе дружына, там хлеб. *Fed., 82.*

413. Сям'я гушчу любіць. *Fed., 276.*

414. Гушча сям'і не разганяе. *І. Саламевіч, 1975, Слон.*

415. Уся сям'я ўмесце, і душа на месце. *М. Смурага, 1967, Свісл. 13.10.28.*

416. Тут і я, тут і жонка мая, тут і мае дзеці, люба паглядзеці. *Нос., 165.*

417. Сямейка малая — работы ўсім хапáе. *Л. Царанкоў, 1960. Мінск 13.9.2.*

418. У вераб'я свая сям'я. *Дуб., 64.*

419. Лішні чалавек у сям'і не згуба. *Добр., Смол., 106.*

420. Дзе цесна, там пацешна. *Fed., 58; Pietk., 362; 1961, Брасл. 13.9.5.*

421. Хіжка мая цесна да чэсна. *Дуб., 68.*

422. Хуць маленькую крошачку, хуць арэхавую зяронушку, да ўсею сямейкаю — гасподзь і спарыць. *Добр., Смол., 106.*

423. Добры сем'янін у хату горнець, а благі з хаты выносіць. *Дразд.*

424. Калі ў хаце ціха — не бярэ ліха. *1961, Кап. 13.9.5.*

425. Калі мужам не быць, за што Кацярыну любіць? *Ляцкий, 16.*

426. Князь да княгіня, а ўсякаму міла свая Кацярына. *Ром., Зап., III, 221.*

427. Берагі хазяйку ў людзях, яна цябе дома зберажэ. *Вас., 22.*

428. Ідзе ні блудзім, нанач дамой будзем. *Добр., Смол., 114.*

а) Як ні блудзіш, нанач дамой будзеш. *Добр., Смол., 129.*

б) Дзе ні блудзім, а ўсё дамоў будзем. *Сержп., 58.*

в) У людзях шануюць, але дома начуюць. *Сержп., 58.*

г) Якая ні рада, а дадому ісці нада. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

д) Дзе ні бывай, дому не мінай. *С. Заянчкоўская, 1956, Церах. 13.3.29.*

429. Благая тая птушка, што свайго гнязда не пільнуецца. *У. Іваноў, 1958, Мінск 13.5.17.*

430. Бусенькі, бусенькі — абое галюсенькі. *Tyszk., 423; Нос., 9; Dybow., 6; Ляцкий, 5; Сержп., 62; Дуб., 7.*

а) Усе бусенькі да бусенькі, а абое галюсенькі. *Fed., 44.*

б) Бусенькі, бусенькі — ні ў мяне, ні ў цябе нічагусенькі. *1961, Кап. 13.9.5.*

в) Бусенькі, бусенькі — ні ў цябе, ні ў мяне, мой мілюсенькі. *Fed., 44.*

г) Бусі-цамусі, а хлеба нямаш. *Сержп., 25.*

431. Пацалуй мяне сянні, а я цябе заўтра. *Нос., 135; Сержп., 8.*

432. Годзе цалавацца, пара і на хлеб старацца. *Янк., 211.*

433. Жонка кох, а хазяін вох. *Нос., 43.*

434. Злосць-дасада, што матка спіць, а жонка ме́леца. *Ром., Бел., I. 297.*

435. Як матцы дае хлеб, дык — на, на, мамачка, панскую лустачку, скарэй, а то пераломіцца! А як жонцы, дык адвале паўбаханкі: на, жонка, еш. *Ром., Бел., I, 316.*

436. Так веле мужык жонку любіць, як кісель на лаве кіпіць. *Fed., 193.*

437. Умесце цесна, а розна тошна. *Нос., 14.*

438. Не расказывай нікому, што робіцца ў дому. *Pietk., 389.*

439. Што ў маём дому, то ніц да таго нікому. *Fed., 80.*

440. Хоць душу загубі, а із сваей сям'і не вынасі. *Добр., Смол., 106.*

441. Хату мяці, але смецця на вуліцу не нясі. *Янк., Дыял., III, 169. Вар.: Сержп., 5; Pietk., 313.*

а) На вуліцу смецця не вынасі. *Нос., 83.*

б) Не вынось смецця на гуліцу ніколі. *Fed., 304.*

в) Свайго смецця на чужы сметнік не вынось. *Fed., 304.*

г) З хаты смецця не вынось на чужы падворак. *Fed., 304.*

442. Хату мяці, а шуму вон не вынасі. *1961, Брасл. 13.9.5.*

443. І сцены маюць вушы. *Шпил., 181; Нос., 57; Dybow., 10; Сержп., 14; Fed., 302. Вар.: Pietk., 345.*

а) І вуглы вушы маюць. *Сержп., 30.*

б) У хаце нікога няма, але сцены слухаюць. *І. Курбека, 1961, Докш. 13.9.7.*

444. Калатнéча ў хаце — смех на вуліцы. *В. Санько, 1969, Слуцк.*

445. Што двор, то нораў. *Нос., 188.*

446. Нораў нораву не ўказ. *Нос., 115.*

447. І ў добрай сям'і вырадак бывае. *В. Лашчэўская, 1967, Дзятл. 13.10.28.*

а) Сям'я не без вырадка. *Нос., 149. Вар.: Ром., Бел., І, 216.*

б) У роду не без выроду. *Нос., 20.*

в) Няма роду без выроду. *Tyszk., 428; Шпил., 185; Дуб., 37; Fed., 261. Вар.: Pietk., 339; В. Бондар, 1967, Мінск; Р. Цыбульская, 1967, Валож. 13.10.24.*

г) У балоце не без чорта, а ў сям'і не без вырадка. *Сержп., 53. Вар.: Fed., 21.*

д) Усякі род не без вырадка. *Ляцкий, 51.*

448. Шэпты (шопаткі) хату губяць. *Fed., 299; 1961, Брасл. 13.9.5; Р. Мухляда, 1965, Шчуч. 13.10.5; М. Грынблат, 1968, Мінск; Цар., 248, Мінск.*

а) Пошапкі хату разнеслі. *Fed., 241.*

б) Шэпты хату зводзяць і вуглы разносяць. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

449. Згодна не перажыць, сласна не пераесць. *Fed., 354.*

450. Ані да рады, ані да звады. *Fed., 256.*

451. Велька шкода, што ў дварэ нязгода. *Fed., 202.*

а) Шкода: у дварэ няўзгода, а на дварэ непагода. *Нос., 186.*

452. У сям'і ўсяго бывае. *У. Іваноў, 1958, Мінск 13.5.17.*

453. Няма хаткі без звадкі. *Kolb., 473, Пін. п.*

а) Няма тэй хаткі, штоб (каб, дзе б) не было звадкі. *Czeczot, 112; Шпил., 185; Киркор, 236; Дуб., 38а; Нос., 100; Fed., 50; Pietk., 401; Сержп., 5; Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.1; Л. Царанкоў, 1960, Мінск 13.9.2.*

б) Няма тае хаткі, каб не было сваркі. *Fed., 294.*

454. Страчаліся — цалаваліся, а як у адну хату сышліся — за чубы ўзяліся. *Янк. М., 97.*

455. Каса не камень: каса тупіцца, а камень шчэрбіцца. *В. Санько, 1969, Слуцк.*

456. Б'емся, сварэмся, свайго берагу дзяржэмся. *Fed., 29.*

457. Як восы злыя — і дарослыя, і малыя. *Цар., 248, Рэч.*

458. Няма чаму дзівіцца, калі муж з жонкай сварыцца. *Ляцкий, 26.*

459. Хто з кім не жывець, той з тым не сварыцца. *Шейн, II, 483, Барыс. п.*

460. Дзе недастаткі, там жонкам сваркі. *Жанч., 228.*

461. Калі ў гумне малоціцца, дык у хаце не калоціцца. *Сержп., 85.*

462. Як у гумне не малоціцца, дык у хаце калоціцца. *Жанч., 228.*

а) Як дзяжа не месіцца, то сям'я бесіцца. *Сержп., 37.*

б) Як хлеба не стала, дык сварка паўстала. *Дуб., Нар., 1.*

463. Мужык з жонкай сва́рыцца — у гаршку трасца ва́рыцца. *Дуб., 26; І. Суконкін, 1960, Церах. 13.3.29.*

а) Дзе жынка з мужам сварыцца, там трасца ў гаршку варыцца. *Дразд.*

464. Тагды муж з жонкай сварыцца, калі ў гаршку трасца варыцца. *Fed., 191. Вар.: М. Гваздзёў, 1964, Гом. 8.1.88.*

а) Калі ў печы трасца варыцца, тады муж з жонкай сварыцца. *М. Гваздзёў, 1960, Рэч. 8.1.58.*

б) За што мужык з жонкай сварыцца? Што ў печы нічога не варыцца. *К. Кузняцова, 1963, Глыб. 8.1.80.*

465. Калі ў гаршку не варыцца, тады і баба сварыцца, а калі ў гаршку кіпіць, тады й баба змаўчыць. *А. Ліс, 1963, Глыб. 8.1.84.*

466. Чым ні заві, абы хлебам кармі. *Аним., 265.*

467. Добрая сварка — у хаце папраўка. *1961, Брасл. 13.9.5; Л. Царанкоў, 1960, Крыч. 13.9.2.*

а) Якая сварка, а сварка, да ў дварэ папраўка. *Нос., 193.*

468. Свае дзесяць раз паб'юцца і паміраццa. *Ляцкий, 40.*

а) Свае чэрці пагрызуцца (паб'юцца) да і паміраццa. *Нос., 147; Дуб., 58.*

469. Як чорт у хату ўселіцца, дык гаспадар з жонкаю дзеліцца. *Янк. М., 54.*

470. Няхай будзе грэчка, абы не спрэчка. *Ігнат.*

а) Няхай будзе з грэчкі мак, калі баба хоча так. *Ляцкий, 28.*

б) Няхай сяк, няхай будзе з грэчкі мак. *Fed., 116.*

471. Лепш пяць разоў умарыцца, як адзін раз пасварыцца. *Янк., Дыял., III, 161, Глуск.*

472. Маўчанка ніколі не псуецъ. *Дуб., 35.*

а) Маўчанка не пушыць, да весь гнеў тушыць. *Нос., 78.*

б) Маўчанка не пушыць і робра не сушыць. *Добр., Смол., 135.*

в) Хоць маўчанка не пушыць, але і галавы не сушыць. *Fed., 181.*

г) Маўчанне не томіць, не сушыць, а ўсё гора тушыць. *Цар., 244, Мінск, Рэч.*

д) Маўчок не пушыць, а ўсё ліха тушыць. *Л. Царанкоў, 1960, Рэч. 13.9.2.*

е) Памаўчанка не пушыць, усе ліха патушыць. *Шпил., 172; Dybow., 187; Ляцкий, 20.*

ж) Маўчанка не квеліць, але славу вялічыць. *Fed., 181.*

473. Жонка за маўчок, а муж кій у куток. *Ляцкий, 12.*

474. Гаспадар за чарку, а жонка ў сварку. *Янк., Дыял., I, 206; В. Лашчэўская, 1967, Дзятл. 13.10.28.*

475. Не прыстае ні ядзенне, ні піценне, калі ў хаце сварка. *Fed., 124.*

476. На гэты гнеў не рабёны хлеў, няма дзе заганяць. *Tyszk., 427; Шпил., 184. Вар.: Нос., 84.*

а) На твой гнеў не гароджаны хлеў. *Fed., 110.*

477. Сварка да дабра не давядзе. *Fed., 294.*

478. Не будзе дабра, калі між сваімі барба. *Ром., Зап., III, 225.*

479. Свяціў бы мяне свяцёл месяц, а звёзды і колам правяду *Аним., 264. Вар.: Янк., 201.*

а) Абы месяц быў, а па зорах калом б'ю. *Лужанін, 48.*

480. Як бацька з мацераю сварацца, чужым (дзяцём) не ўтранцацца. *Fed., 17.*

а) Калі бацька з мацераю б'ецца, то дзеці няхай не мяшаюцца. *Fed., 17.*

481. Дзе мужык з жонкаю сварыцца, то трэці не мяшайся. *Fed., 191.*

482. Дзе двое, там рада, а дзе трэця, там зрада. *Fed., 90. Вар.: Pietk., 389.*

а) Два — рада, а трэці — разрад. *М. Грынблат, 1969, Лун. 8.2.14.*

483. Як чужая ложка ўмяшаецца, то ўжо няма парадку. *Fed., 172.*

484. Чорт лапці стаптаў (падраў), пакуль пару дабраў. *Dybow., 7; А. Фядосік, 1959, Лен. 8.1.44; А. Бізук, 1965, Шчуч. 13.10.1; Р. Мазгавая, 1968, Лід. 13.10.28.*

а) Чорт не адну пару лапцей стаптаў, пакуль пару дабраў. *І. Ламека, 1965, Ваўк. 13.10.2.*

б) Не адну пару жалезных лапцей чорт садраў, пакуль іх да купы сабраў. *Нос., 101.*

в) Чорт сем пар лапцей стаптаў, нім такую пару дабраў. *Tyszk., 425; Dybow., 191. Вар.: Fed., 220; Сержп., 62; Pietk., 333; І. Сагарава, 1950, Браг. 8.1.35; І. Вайгяніца, 1965, Іў. 13.10.1.*

г) Чорт сем вёсак строс, пака пару знёс. *Ю. Ботвін, 1967, Ваўк. 13.10.28.*

д) Не адзін чорт лапці падраў, пакуль у кучу сабраў. *Г. Прытычанка, 1960, Карм. 13.3.29.*

е) Чорт сем пар лапцей стаптаў, яшчэ цябе не ўзяў. *Fed., 67.*

485. Злучыўся чорт з д'яблам. *Дуб., 22.*

а) Чорт з бесам зышоўся. *Fed., 67.*

б) Спазнаўся чорт з лешым. *Нос., Слов., 455; Дуб., 58.*

в) Чорт к д'явалу знашоўся. *Добр., Слов., 988.*

г) Натрапіў чорт на д'ябла. *Дуб., 37. Вар.: Fed., 67, 69, 313.*

д) Пад чорным (цёмным) лесам спаткаўся (сустрэўся) чорт з бесам. *Tyszk., 425; Hoc., 30; Fed., 68; Pietk., 316; Дуб., 46.*

486. Рукаў не да футры. *Цар., 246, Рэч.*

487. Муж да жана — адна сатана. *Hoc., 80; Сержп., 185.*

а) І ён і яна — адна сатана. *Сержп., 10.*

488. Пара ботаў на левую нагу. *Цар., 246, Рэч.*

489. Абое рабое. *Czeczot, 106; Hoc., 117; Dybow., 4; Ляцкий, 5; Дуб., 3; Fed., 255; Pietk., 338; М. Бандарэнка, 1966, Маз. 13.3.29; Л. Царанкоў, 1960, Мінск 13.9.2; Горленка, 248, Гом.*

490. Усе чэрці адной шэрсці. *Dybow., 190.*

491. Які Хомка, такая і жонка. *Dybow., 184; Hoc., 194; Дуб., 10; Л. Царанкоў, 1960, Рэч. 13.9.2; С. Маісеенка, 1965, Жлоб. 13.3.25.*

а) Які чорт Хама, такая й сама. *Сержп., 10.*

б) Які чорт Фомка, така яго жонка. *Булг., 178. Вар.: Fed., 55.*

в) Як Хомка, так жонка. *Янк., Дыял., III, 171, Глуск.*

г) Не Хомка, дак яго жонка. *Hoc., 107.*

492. Аднаго поля ягада. *Ром., Зап., III, 228; Сержп., 10; Л. Царанкоў, 1960, Крыч. 13.9.2.*

493. Як жонка падобна да мужыка, так і мужык на жонку. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

494. Муж стары, жонка малада, то агонь да вада. *Fed., 190.*

495. Адзін з агнём, другі з полымем. *Hoc., Слов., 463.*

496. Масла з вадой не змяшаеш. *Сцяшк., 598, Гродз. Вар.: С. Клачко, 1966, Б.-Каш. 13.3.29.*

497. Жыве кот і сабака, жывеш і ты, небарака. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

498. На ліха ты ажаніўся, лепей бы павесіўся. *Fed., 11.*

а) На чорта ты ажаніўся, лепш бы ўжо ўдавіўся. *Fed., 11.*

499. Бачылі вочы, што выбіралі, то цяпер хай не плачуць. *1961, Кап. 13.9.5.*

а) Бачылі вочы, што бралі, а цяпер плачце, хоць павылазце. *Dybow., 5.*

б) Бачылі вочы, што выбіралі, а цяпер ешце, хоць павылазце. *М. Бохан, 1965, Маст. 13.10.3.*

500. Дай жонцы волю, то сам пойдзеш у няволю. *Pietk., 402.*

а) Хто дае жонцы волю, то сам лезе ў няволю. *Fed., 365.*

б) Дай волю, а сам у няволю. *Сержп., 29.*

501. Пазволь жонцы пагуляць — паверх галавы пойдзе. *Fed., 365. Вар.: Fed., 13.*

502. Не паднось жонцы хваста. *Fed., 365.*

503. Любі, як душу, трасі, як грушу. *Czeczot, 160; Fed., 168.*

а) Любі жонку, як душу, а трасі, як грушу. *Tyszk., 419; Шпил., 183; Нос., 75; Dybow., 7; Pietk., 402; Дуб., 32; Fed., 365. Вар.: Добр., Смол., 60.*

б) Шкадуй, як душу, калаці, як грушу. *К. Цвірка, 1974, Валож. 8.74.80.*

в) Бей жану, як шубу, а любі, як душу. *Ром., Зап., I, 215.*

504. Хто любіцца, той чубіцца. *Fed., 167.*

а) Хто каго любіць, той таго й чубіць (губіць). *Нос., 176; Dybow., 191; Радч., 247; Fed., 167; Pietk., 329; Р. Мухляда, 1965, Шчуч. 13.10.5.*

б) Хто каго чубіць, той таго любіць. *І. Вайганіца, 1965, Іў. 13.10.1.*

в) Хто каго любіць, той таго і скубіць. *Дуб., 68.*

505. Хто каго любіў, той таго ўбіў. *Радч., 247.*

506. Няхай мяцеліца круціць, а хто любіць, ту той лупіць. *Ляцкий, 28.*

507. З вялікай любосці не раз кій паламаець косці. *Крэмнеў.*

508. Нагатуе хазяйка, калі пагуляе нагайка. *Ляцкий, 22; Жанч., 228.*

509. Пужка-жыгушка, аджыві жанушку. *Нос., 141; Дуб., 48.*

510. Бабу бі молатам, зробіш золатам. *Жанч., 228.*

511. Хоць таўкачом, дак ёсць па чом. *Нос., 173; Дуб., 69.*

512. То дубцом, то лазінаю, каб была гаспадыняю. *К. Цвірка, 1974, Валож. 8.74.80.*

513. Не бі жонкі, мужык, а бі жончын язык. *Fed., 365.*

514. Карову б'юць за зык, а бабу — за язык. *Бяльк., 509, Краснап.; Сцяшк., 595, Шчуч; Мін.-Мал., 1974, 187, Уздз.; Н. Купцоў, 1967, Ветк. 13.3.29.*

515. Не б'е жонкі мужык, а б'е жончын язык. *Fed., 365.*

а) Не б'е мужык, але язык. *Fed., 127.*

б) Ліхую жонку язык б'е. *Янк. М., 28.*

в) Бабу не мужык, а язык б'е. *Сцяшк., 580, Гродз.*

516. Кулік чайку ўзяў за чубайку. *Нос., 70; Дуб., 30.*

517. Недасол на стале, перасол на спіне. *Fed., 200; М. Грынблат, 1926, Тур. Вар.: Нос., 97; Ляцкий, 25; Fed., 20; Жанч., 229; В. Ганчаронак, 1960, Відз. 13.9.26.*

а) Недасол на стале, перасол пад сталом. *В. Калюк, 1965, Навагр. 13.10.6.*

518. Мужык за лучынку знойдзе прычынку. *М. Гваздзёў, 1960, Рэч. 8.1.58.*

519. Будзе ў мяне ногі мыць, да ваду піць. *Сержп., 127.*

520. Кажан нежанаты б'е жонку, а бяздзетны — дзеці. *Fed., 202.*

521. Хоць кулаком б'е, але хлеб дае. *Fed., 30.*

522. На каго падыме, а на мяне апусціць. *Ром., Зап., III, 225.*

523. Людзей слухай, а свой розум мей і жонкі не бей. *Жанч., 228.*

524. (Ты) не бі жонку: часам яна разумней. *Ляцкий, 46.*

525. Людзі гавараць, што пабоі мілага не баляць. *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

526. Лепш як харошы выб'е, ніж брыдкі пацалуе. *Fed., 50.*

527. Бедная (дурная) тая дамова, дзе вала бадаець (бадзé) карова. *Шпил., 176; Нос., 39; Дуб., 15; Сержп., 16.*

528. Хай згарыць тая карова, што вала збарола. *В. Санько, 1969, Слуцк.*

529. Няхай таго вала воўкі з'ядзяць, каторага бора карова. *Fed., 337.*

а) Хай таго вала воўк з'есць, што кароўка б'е. *Мін.-Мал., 1970, 168, Уздз.*

530. Дзе баба панам, там чорт камісарам. *Fed., 12.*

531. Дзе баба жондзіць, там хата блондзіць. *1961, Брасл. 13.9.5.*

532. Бабскі лад. *Tyszk., 426.*

533. Калі бабскі строй, то кепскі пакрой. *Ляцкий, 16.*

534. Будзеш па маёй дудцы скакаць. *Fed., 84.*

535. Трапіла мяккае дзерава на цвёрдую сакеру. *Fed., 313.*

536. Калі даўся запрагчы, то дайся й паганяць. *Ляцкий, 16.*

537. Шчасліў ты, чалавеча, што ўзяць у цябе не́ча. *Ляцкий, 61.*

538. Шумеў бы і я, калі б жонкі не баяўся. *Ляцкий, 61.*

539. Усяк знай сябе, указывай дома. *Ром., Зап., I, 215.*

540. Не схіліўся ён мне, то я яму. *Fed., 273.*

541. Ва ўсякай хаты па печкі, а ў другой і дзве. *Аним., 262.*

542. Гдзе двое гаспадаруюць, там парадку мала. *Нос., Слов., 120.*

543. Дзе гаспадароў многа, там толку мала. *I. Вайгяніца, 1965, Іў. 13.10.1.*

544. Дзе многа на куце сядзіць, там мусіць мыш галодна быць. *Tyszk., 418; Шпил., 178; Нос., 33; Ляцкий, 7.*

545. Не любіць гаспадарка (хаджайства) двое пар ботаў (чобат) насіць. *Янк. М., 23.*

546. Два каты ў адном мяшку не месцюцца. *Нос., 33; Fed., 150. Вар.: Нос., 26; Fed., 183.*

а) Два каты ў адным мяшку не пагодзяцца (не паміраюцца). *Pietk., 327; Зах., 252.*

б) У адным мяшку два каты не ўсе́дзяць. *Сержп., 29.*

в) Тры каты ў мяшку не тоўпяцца. *Вучні, 1962 8.2.43.*

г) Два каты на адным сале не месцяцца. *Цар., 242, Рэч.*

д) Два мядзведзі ў адной бярлозе не месцяцца. *Нос., 33; Дуб., 16.*

е) Два мядзведзі ў адной мярлозе не ляжаць. *Дуб., Нар., 2.*

ж) У адной мярлозе два мядзведзі не ўжывуць. *Ром., Бел., I, 292.*

547. Не кайся рана ўстаўшы, замоладу ажаніўшыся. *Tyszk., 415; Czeczot, 112. Вар.: Нос., 98; Ляцкий, 26; Булг., 177; Дуб., 43; Fed., 322; Цар., 245, Мінск; 1961, Брасл. 13.9.5; А. Ліс, 1965, Смарг.; А. Гурскі, 1971, Паст. 8.2.46.*

а) Рана ўстаўшы, то не кайся, і рана жаніўшыся. *М. Грынблат, 1969, Лун. 8.2.14.*

б) Не будзеш каяцца, рана ўстаўшы і маладым ажаніўшыся. *Pietk., 397.*

в) Ні ранняй сяўбы, ні маладой жаніцьбы не кайся. *Fed., 277.*

г) Не кайся рана ўстаць і рана замуж пайсці. *К. Кузняцова, 1963, Леп. 8.1.80.*

548. Хто малады ажаніўся, той не акпіўся. *Сержп., 63.*

549. Ажаніцца, як і паміраць, не спяшайся. *М. Бохан, 1965, Маст. 13.10.3.*

550. Жаніцца — не ляніцца; жаніўшыся — не каяцца. *Дуб., Нар., 1. Вар.: Нос., 41.*

551. Жаніўся на скорую руку — на доўгую муку. *Т. Холад, 1967, Кап. 13.10.20.*

552. Ажаніцца і ў гультая спрыту хваціць. *Суяшк., 580, Іў.*

553. Ажаніцца — не ўпіцца. *Fed., 11; У. Іваноў, 1958, Мінск 13.5.17; Мін.-Мал., 1970, 158, Уздз.*

а) Ажаніцца — не ўтапіцца. *А. Ракса, 1960, Іў. 13.10.13.*

б) Ажаніцца — не ўпасці: не ўстанеш, не атрасешся. *Ляцкий, 2; Суяшк., 580, Воран.*

в) Жаніцца — не мёду напіцца. *М. Бабарыкіна, 1966, Чач. 13.3.29.*

554. Ажаніся — кепска, не жаніся — кепска. *Dybow., 5.*

а) Ажаніся — кепска, не жаніся — яшчэ горш. *Fed., 11.*

555. Ажаніўся, то й перамяніўся. *Fed., 11.*

556. Жаніўся тагды, калі ўсе людзі сена касілі. *Pietk., 391.*

557. Забыўся, што ажаніўся. *Fed., 346.*

а) Ах, я і забыўся, што ажаніўся: падай, жонка, піць. *Fed., 11.*

558. Сёння ажаніўся, заўтра аддзяліўся. *Сержп., 39.*

559. Маладзёж жэніцца — пол у пол дзеліцца. *Г. Барташэвіч, 1960, Нясв. 8.1.50.*

560. Жанітба — не дзялітба, да пасля жанітбы будзе дзялітба. *Бяльк., 166, Мсціс.*

561. Як не жаніўся, то і не журыўся. *В. Шаўчэнка, 1961, Ельск. 13.3.29.*

562. Ажаніўся — зажурыўся. *Сержп., 65.*

563. Не меў Саўка клопату, дык жонку ўзяў. *І. Суконкін, 1960, Церах. 13.3.29.*

564. Ажаніўся і як за хмару закаціўся. *Янук., 30; І. Курбека, 1961, Докш. 13.9.7.*

565. Нежанаты свішча, скача, а жанаты ў кулак плача. *Сержп., 65.*

566. Што ў мяне — жонка, дзеткі плачуць? *У. Іваноў, 1958, Мінск 13.5.17.*

567. Еду па жонку пятую, судзі, божа, па дзесятую. *Tyszk., 424.*

568. Не жаніўся — тры анучы, ажаніўся — тры анучы. *Ворожб.; Сержп., 65; Fed., 363.*

569. Знаці, ой, знаці, што ён жанаты: скурчыўся, згорбіўся, як пёс кудлаты. *Fed., 363.*

570. Ці надоўга стары жаніўся: калі памрэ, то жонка ўпрэ. *Сержп., 63.*

571. Маладога людзі жэняць, а старога і чорт не ажэніць. *Янк. М., 121.*

572. Жанаты — чалавек сталы. *Сержп., 65.*

573. Мужчына жанаты ўсё роўна, як гладыш шчарбаты. *Fed., 191.*

574. Тагды дзеўка стала пышна, як замуж вышла. *Нос., 162; Дуб., 59; Fed., 96.*

а) Баба тады пышна, як замуж выйшла. *У. Іваноў, 1958, Мінск 13.5.17.*

575. Маладзіца, хоць вады напіцца. *Fed., 176.*

576. На марозе то й баба красна. *Дуб., Нар., 1.*

577. Не хваліся замужаствам трэцяга дня, а хваліся трэцяга года. *Т. Холад, 1967, Кап. 13.10.20.*

578. Замуж ісці — не лапці плясці. *С. Бахмет, 1970, Астр. 8.2.38.*

579. Замуж выйсці — трэба знаці: позна легчы, рана ўстаці. *А. Хомка, 1965, Ваўк. 13.10.3.*

580. У чужых жыць, чужым наравіць. *Сержп., 48.*

581. Замуж ідзе — песні пяе, а вышла — слёзкі лле. *Жанч., 126.*

582. Замуж пайсці скора на доўгае гора. *Сцяшк., 592. Ашм.*

583. Чужая хата не грэе. *К. Кабашнікаў, 1960, Гом. 8.1.77.*

584. У чужой дзярэўні хлябаеш кісялю. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

585. Ідзе радзілася, а йдзе прыгадзілася. *Нос., 54; Сержп., 62.*

а) Дзе радзілася, дзе ўзрасла, а куды доля занясла. *А. Фядосік, 1962, Капатк. 8.1.76.*

586. Тут і радзілася, тут і згадзілася. *А. Гурскі, 1960, Сір. 8.1.48.*

а) Дзе радзіўся, там і прыгадзіўся. *Сах.*

587. Пашла замуж, каб пакрыць голаў. *Сержп., 64.*

588. Голаў завязаў, а жыткі не даў. *Сержп., 64.*

589. Быць па сяму, не хадзіць па сялу. *Fed., 44.*

590. Не ўмела маці замуж аддаваці. *Ляцкий, 31; Сержп., 29.*

591. Як дзеўкаю — арэ і косіць, як выйдзе замуж — ног не носіць. *А. Фядосік, 1962, Капатк. 8.1.76.*

592. Пакуль дзеўка — падсяе́; пойдзе замуж — не ўстае. *Сержп., 54.*

593. Як дзеўка — казу пераскочыць, бабай стане — за курыцу спаткнецца. *В. Санько, 1969, Слуцк.*

594. У дзеўках сем скул на баку — і то не ў знаку́, а замуж выйдзе, адна сядзе — і тая ва́дзіць. *Янк. М., 144.*

595. У дзеўках — поўная вуліца, а ў жонках — поўная печ. *1961, Рэч. 13.9.5.*

а) Як дзеўкаю — поўна вуліца, а як бабаю — поўна печ. *А. Фядосік, 1962, Капатк. 8.1.76.*

б) Як дзеўка — на ўсю вуліцу, як баба — на ўсю печ. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

в) Як дзеўка — на ўсю дзярэўню дзеўка, а як баба — на ўсю печ баба. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

г) Не йшла замуж — была на ўсё сяло, пайшла — стала на ўсю печ. *Т. Лапаціна, 1961, Рэч. 13.3.24.*

596. Як я была ў баценька, то я была чубаценька; дасталася да свякрухі, то аб'елі чубок мухі. *Fed., 17.*

597. Пела, як бацькаў хлеб ела, а як мужыкоў, так і голас не такоў. *А. Васілеўская, 1950, Браг. 8.1.34.*

598. Лепей дома на саломе, чым замужам на падушках. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

599. Як была я дзевачкаю, ка мне хадзілі з гарэлачкаю; а як стала маладзіцаю, не сталі хадзіць і з вадзіцаю. *Нос., 197.*

600. Хоць рыка́е, але прывыкае. *Ляцкий, 54; Сержп., 76.*

601. На тваёй шкуры спаць не буду. *Дуб., 43.*

602. Мусіць, яна ў сераду радзілася, калі да ўсяго згадзілася. *Fed., 276. Вар.: Янк. М., 139.*

603. Добра тут: мука ёсць і жонка замужам. *І. Суконкін, 1960, Церах. 13.3.29.*

604. Як добры замуж, дык нажывешся, а як плахі, дык наплачашся. *А. Фядосік, 1962, Капатк. 8.1.76.*

605. Адрэзаная луста хутка чарствее. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

606. Адрэзанай лусты не прылепіш. *Fed., 172.*

607. У сем лет адзін адвед. *Fed., 5.*

608. Муж — галава ў хаце. *Fed., 190.*

609. Сям'я без галавы — не сям'я. *В. Санько, 1969, Слуцк.*

610. Знаць трэба — меж ложак палонік. *Нос., 50.*

611. Мужчынка ўсё не тое, што баба. *Ляцкий, 22.*

612. Верх мужчынскі ўсёроўна будзе цёнгля. *Мін.-Мал., 1970, 159, Уздз.*

613. За мужыковай спіной, як за сцяной. *У. Іваноў, 1958, Мінск 13.5.17.*

614. Як за мужа завалюся, то нічога не баюся. *Fed., 190.*

615. Хоць худ мужычок, да затулле маё: завалюся за яго, не баюся нікаго. *Ром., Зап., III, 234.*

616. Калі ёсць дзед, ёсць і абед, няма дзеда, няма і абеда. *Жанч., 246.*

617. Няхай муж будзе, як шкарпэтка, быле жонка была, як кветка. *Dybow., 14.*

а) Няхай сабе мужык як шкарпэтка, абы я была, як кветка. *Fed., 192; Р. Цыбульская, 1967, Валож. 13.10.24; І. Суконкін, 1960, Церах. 13.3.29.*

б) Мужык як шкарпэтка, абы жонка як кветка. *1961, Брасл. 13.9.5.*

в) Калі мужык шкарпэтка, то за ім жонка, як кветка, калі мужык гах, то жонку бярэ страх. *І. Позняк, 1962, Шчуч. 13.10.6а.*

618. Хоць муж, як лапаць, абы за ім не плакаць. *Fed., 190. Вар.: Нос., 173; А. Фядосік, 1962, Капатк. 8.1.76; К. Кабашнікаў, 1965, Тур. 8.1.102.*

а) Хоць мужык, хоць лапаць, абы мне не плакаць. *Л. Царанкоў, 1960, Хом. 13.9.2.*

619. Хоць мужык мой з пастол, а я цягну яго за стол. *Т. Лапаціна, 1961, Рэч. 13.3.24.*

620. Мужчынка ўсё мужчынка ёсць, лыкам шыт. *Дуб., 36.*

621. Мужык хай будзе, як долата, абы ты за ім была, як золата. *Суяшк., 598, Зельв.; І. Цішчанка, 1971, Брасл. 8.2.49.*

622. Сякі-такі, абы быў, абы хлеба зарабіў. *Fed., 45. Вар.: Шырма, 206.*

а) Сякі-такі, абы быў, каб на хлеб да на соль зарабіў. *Fed., 45.*

б) Сякі-такі, абы быў, абы хлеба зарабіў; хоць не харошы і не багаты, абы жыць у сваей хаце. *Ром., Мат., 85.*

623. Сякі-такі мужчына, абы дровы ды лучына. *Ворожб.; Мат., 176; А. Фядосік, 1962, Капатк. 8.1.76; Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11; І. Лушчыцкая, 1960, Нясв. 8.1.52.*

624. А мой жа ты сякі-такі, да ўсё ж лепшы, як варона. *Fed., 78.*

625. Сякі-такі, а ўсё ж свой. *Ляцкий, 43.*

626. Сякі-такі Панцялей, да ўсё на душы весялей. *А. Фядосік, 1962, Капатк. 8.1.76.*

а) Сякі-такі Панцялей, абы ў хаце весялей. *А. Русіновіч, 1954, Светл., 13.3.29.*

б) Які не Панцялей, абы сэрцу весялей. *Г. Прытычанка, 1960, Карм. 13.3.29.*

в) Які не Панцялей, а жыць весялей. *А. Гурскі, 1967, Бял. 8.1.112.*

г) Сякі-такі целяпей, а ўсё будзе ляпей. *Fed., 57.*

д) Сякі-такі целяпей, такі ўсё ўдваіх ляпей. *Шырма, 206. Вар.: Сцяшк., 610, Навагр.*

е) Хоць які целяпей, але ўдваіх ляпей. *Мін.-Мал., 1970, 169, Пух.*

627. Хоць плут, да тут. *Нос., 174.*

628. Ай! Ці лешы, ці не лешы, прапіў бацька лямешы. *Дуб., 3.*

629. Вер барадзе, а парука ў вадзе. *Ром., Зап., I, 216.*

630. Мужык хоць саламяны, такі лепшы за таго, што няма. *Fed., 192.*

631. Хоць муж саламяны, а лепей, як дзеці залатыя. *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

а) Лепей мужык саламяны, чым сын залаты. *Л. Ткачова, 1965, Арш. 8.1.97.*

б) Саломенны муж лепі залатога сына. *Нос., 153.*

632. Гаспадар саламяны, а сын залаты. *А. Фядосік, 1962, Капатк. 8.1.76.*

633. Дзеля дроў замуж пашла. *Fed., 82.*

634. Не хачу жабравацъ, буду пры табе гаравацъ. *Ляцкий, 28.*

635. Нашто грошы, калі мужык харошы. *М. Гваздзёў, 1960, Рэч. 8.1.58.*

636. Калі добры муж, дык і жонка добрая. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

637. На харошага глядзецъ харашо, а з разумным жыцъ лёгка. *Сцяшк., 600, Вайк.*

638. У жонкі язык доўгі, а ў мужыка розум добры. *Fed., 366.*

639. Той не муж, хто не жаніўся. *Ляцкий, 45.*

640. Гуж, калі мой муж, а калі чужы, то не руш. *Dybow., 9; Fed., 190.*

641. За добрым мужыком і гулінда жонка. *А Гурскі, 1960, Сір. 8.1.48. Вар.: А. Якіменка, 1966, Б.-Каш. 13.3.29.*

а) За харошым мужам і хлымындра жана. *Г. Прытычанка, 1960, Карм. 13.3.29.*

б) За добрым мужыком і чулінда жана, а за дурным і папоўна раба. *Нос., 45.*

в) За добрым мужам і варонка жонка, а за дурным (благім) і княгіня загіне. *1961, Кап. 13.9.5; К. Кабашнікаў, 1974, Мінск.*

642. За добрым мужыком трасецъ баба кумпяком; а за якім брыдам трасецъ баба грыбам. *Сах.*

643. Пад добрым кустом трава зелянее, за добрым мужам жонка маладзее. *Сцяшк., 604, Маст.*

а) За вялікім кустом трава зяляна́, а за добрым мужам жонка хараша. *Fed., 159.*

644. Я за ім не біта, не журана. *М. Грынблат, 1967, Мсцісл. 8.1.10.*

645. Пражыла нябітая і непрыласканая. *М. Гваздзёў, 1960, Рэч. 8.1.58.*

646. За сокалам і варона сакаліца. *Дразд.*

а) За сокалам і варона хароша. *Сцяшк., 591, Маст.; І. Цішчанка, 1971, Брасл. 8.2.49.*

647. За добрым гаспадаром і свінка гаспадынька. *1961, Кап. 13.9.5. Вар.: Сцяшк., 590, Гродз.*

648. Бацьку глядзець за дачкой да вянца, а мужу — да канца. *Абаб.*

649. Мужык не мядзведзь, а мяса аб'есць. *І. Сагарава, 1950, Браг. 8.1.35.*

650. Сам мужычок з кулачок, а зла, як у казла. *Г. Барташэвіч, 1963, Маладз. 8.1.82.*

651. Не ў тыя рукі ўпала, каб лежачы спала: выспішся і бегаючы. *Fed., 286.*

652. За мужам набылася, толькі звалачылася. *«Гродненские губернские ведомости», 1856, № 27.*

653. Хоць я не людзі, ну і Хама не чалавек. *А. Фядосік. 1962, Капатк. 8.1.76.*

654. Ні шыць з ім, ні спароць. *Tyszk., 428.*

655. Ні госць, ні гаспадар. *Мін.-Мал., 1970, 163, Узд.*

656. У людзях Ілья, а дома свіння. *Ром., Зап., І. 216.*

657. У людзей завуць Анання, а ў дварэ няма яму такога наймя. *Нос., 168.*

а) У людзях Ананья, а дома не найдзеш. *Ром., Зап., I, 215.*

658. У хаце за падкі́дзішча, а ў людзей за зна́йдзішча. *Сцяшк., 612, Смарг.*

659. Не спявай пры стале, бо твая жонка мецьме дурнога мужыка. *Fed., 306.*

660. Няма Саўкі — няма спраўкі. *А. Русіновіч, 1954, Светл.. Вар.: I. Суконкін, 1960, Церах. 13.3.29.*

а) Дзе няма Івана, там дзела пагана. *М. Гваздзёў, 1960, Рэч. 8.1.58.*

661. З ім гора, а без яго ўдвое. *Ром., Зап., III, 232.*

а) З ім гора, а без яго яшчэ горш. *Fed., 143.*

662. Без мужа жана ўсягда сірата. *Ром., Зап., I, 215; Орш., 120.*

663. Двор (хата) без гаспадара (гаспадыні) плача. *Дуб., 13; Fed., 50.*

а) Двор без хазяіна плачаць. *Нос., 33.*

б) Без хадзяіна хата скучае. *Pietk., 360.*

в) Без хазяіна і дом сірата. *Добр., Смол., 128.*

г) Без гаспадара гумно плача, а без гаспадыні — хата. *Fed., 105. Вар.: I. Цішчанка, 1969, Слаўг. 8.2.21; Янк. М., 48.*

664. Без гаспадара і грошы — чарапы. *1961, Брасл., 13.9.5.*

665. Мужык у карчме, а жонка ў двары плача. *Жанч., 228. Вар.: Н. Божка, 1967, Маладз. 13.10.21.*

а) Калі гаспадар у карчме скачаць, то гаспадарка ў двары плачаць. *Нос., 63.*

б) Калі на галаве шапка скача, то за ім жонка плача. *Янк. М., 35.*

666. У мужа на назе бот скрыпіць, а ў жонкі ў грудзях хрыпіць. *Fed., 191.*

667. Не кажы, кума, і ў самой мужык п'яніца. *Ю. Ботвін, 1967, Ваўк. 13.10.28.*

668. З астрожніка гаспадара не будзе. *Сержп., 14.*

669. Дзе старана, там і жана. *1961, Рэч. 13. 9. 5.*

670. Свой хлеб усягда прыедчыў. *Ром., Зап., III, 231.*

671. Чужая жонка мёдам мазана, а свая смалой. *Цар., 248, Мінск.*

672. Чужую жонку абайдзі ў старонку, не будзеш біты. *Ляцкий, 58.*

673. Не кладзіся каля чужэй жонкі, адаб'юць пячонкі. *Ляцкий, 26.*

674. Як старшы гаспадар ёсць у хаце, дык усё будзе добра дбаці, а другія будуць убалаці. *Kolb., 472, Пін. п.*

675. Хлеба не стане — гаспадар дастане. *Сержп., 34.*

676. Хоць хлеба ні куса, да мужык без вуса. *Нос., 175. Вар.: Сержп., 63.*

677. Хоць без хлеба пасяджу, але ж на мужа пагляджу. *Радч., 176.*

678. Прыгожы на грэх, а дурны на смех. *Сержп., 63.*

679. Як блізка, то пад вачыма слізка, як далёка, то на сэрцы лёгка. *В. Дашкоўская, 1965, Ваўк. 13.10.2.*

680. З старым жыць — воўкам выць. *Сержп., 63.*

681. Старога кахаць — гараваць. *Сержп., 63.*

682. З старым і грэх і смех. *Сержп., 63.*

683. Ад свету адстану, а старога любіць не стану. *Сержп., 63.*

684. Жыве дзеўка за ўдаўцом, свету прыкупіўшы. *1961, Рэч. 13.9.5.*

685. Жыць за старым — быць у павазе, а за маладым — у знявазе. *Нос., 43.*

686. Позна Полька ўздумала, што ў Івана грыбы тоўстыя. *К. Кабашнікаў, 1962, Гом. 8.1.77.*

687. Лепі ў пяску гніць, як з нямілым (нялюбым) жыць. *Нос., 74. Вар.; Сержп., 63; Fed., 209.*

688. Рада б цяпер наша мама выйці за пана, да пан не бярэць. *Нос., 143. Вар.: Ляцкий, 37.*

а) Рада б наша мама за пана, дык ліха яго дзярэ, не бярэ. *Сержп., 64.*

689. Калі баба добра, то ўсё добра. *Ляцкий, 16.*

690. Хто жонку добру мае, той гора не знае. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

691. Там і бог раюе, дзе жонка мужыка шануе. *В. Санько, 1969, Слуцк.*

692. Жончына дабро, што ўзімку цяпло. *Сержп., 62.*

693. Добрая жонка цяплей за валёнкі. *А. Фядосік, 1959, Капатк. 8.1.44.*

694. Не піў бы, не еў бы, да на жонку глядзеў бы. *Fed., 365.*

695. Люба чы ненавісная, а калі ўзяў, то твая. *Fed., 167.*

696. Свая жонка — цярпі. *Ляцкий, 40.*

697. Смерць і жона ад бога прызначона. *Fed., 305.*

698. У мяне ўсё падзельнае, адна жонка непадзельная. *Нос., Слов., 441.*

а) У мяне ўсё падзельнае, апрача ж жонкі. *Дуб., 65.*

699. Любіць муж жану здаровую, а брат сястру багатую. *Ром., Зап., III, 222. Вар.: Pietk., 402; Шырма, 228; Добр., Смол., 60.*

а) Брат любіць сястру багатую, а муж жану здаровую. *Нос., 8. Вар.: Pietk., 391; Дразд.; А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

б) Сястра брату міла багата, а мужыку жонка здарова. *Fed., 277.*

700. Хоць жонка, як карова, абы здарова. *Сержп., 68.*

701. Нашто карова, была б жана здарова. *Ром., Зап., III, 224.*

702. Адзенне добра новае. а жонка здаровая. *«Звязда», 10 кастрычніка 1961 г., У. Кузняцоў, Круп.*

703. Была бы здарова мая бабуся, нікога не баюся. *Дуб., 5; Нос., 11.*

704. Злодзей абкрадзе — сцены астануцца, а жонка памрэ — усё з двара звязе. *Янк. М., 39.*

705. З жонкай пражыць — не штаны сшыць. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

706. Не заўсёды добра жонкі не паслухаць. *Fed., 365.*

707. Баба ніколі не скажа ў глум. *М. Грынблат, 1968, Смал.*

708. Кожная разумная жана, калі ёсць мех мукі і мех пшана. *Жанч., 228.*

709. Без жонкі не банкет, а без хлеба не абед. *В. Ганчаронак, 1960, Відз. 13.10.26.*

710. Саромеўшыся жонкі, дзяцей не мець? *Pietk., 353.*

711. Не хвалі жонку за цела, а хвалі за дзела. *Сержп., 63.*

712. Прыгожая — любутка, працавітая — жонка. *В. Санько, 1969, Слуцк.*

713. Мая жоначка божая пчолачка. *Добр., Смол., 60.*

714. Хата гаспадыняю красна. *Fed., 50.*

715. Без гаспадынькі хата, што дзень без сонца. *Мін.-Мал., 1970, 158, Пух.*

716. Добрая жонка дом зберажэ, а ліхая рукавом растрасе. *Янк. М., 121.*

717. Якая гаспадыня, такі і парадак. *Г. Яцэвіч, 1965, Маст. 13.10.5.*

718. Хазяйка ўстанецъ, то ў яе сто работ. *М. Грынблат, 1960, Сір. 8.1.47.*

719. Мужык не наносіць мяшком, што баба гаршком. *Жанч., 272.*

720. Што мужык прыносіць мяшком, то гаспадыня выносіць гаршком. *Сцяшк., 616, Дзятл.*

а) Хазяін не насыпле мяшком, а плахая хазяйка разнясе гаршком. *Н. Купцоў, 1967, Ветк. 13.3.29.*

б) Больш жонка вынасіць кішэняю, як мужык торбаю. *Fed., 365.*

в) Мужык возіць вазамі, а жонка вынесе хвартухамі. *Fed., 365.*

г) Мужык нацягае возам, а жонка хвáртухам вынасіць. *Fed., 193.*

д) Што муж навалочыць мехам, то жонка вынесе пелянам (кішэнямі). *Fed., 191.*

721. У добрай гаспадыні па абедзе нічога няма. *Ляцкий, 48.*

а) У добрае гаспадыні на каляці няма і дзіцяці. *Сержп., 33.*

722. Жонка адпрадзé, а не адпрадзе, дык і так прападзе. *А. Фядосік, 1962, Капатк. 8.1.76.*

723. Пакуль гаспадар наесца, то жонка наліжацца. *Янк. М., 68.*

724. Яшчэ жадзен кухар з голаду не ўмёр. *Fed., 155.*

725. Чорт бы кухара памінаў, каб кухар з голаду паміраў. *Ром., Бел., I, 314. Вар.: Булг., 176.*

726. Гаспадыню пад печчу хаваюць, калі з голаду ўміраець. *Нос., 28. Вар.: Fed., 155.*

а) Гаспадыню, калі памрэць з голаду, пад печчу хаваюць. *Дуб., 10.*

б) Калі хазяйка з голаду памрэць, тады яе пад загнетам хаваюць. *М. Грынблат, 1960, Сір. 8.1.47.*

727. Баглайка (вахляйка) ніколі не будзець хазяйка. *Нос., 7; Дуб., 7.*

а) Ніколі віхляйка не будзець хазяйка. *Нос., 112.*

728. Узяў каралёўну, ды сябе няроўну, па двару ходзіць да ключыкамі звоніць. *Дуб., 63.*

729. Узяў жонку-сямілетку, што не вымеце хаты ўлетку. *Ляцкий, 48.*

730. Наша гаспадынька да танцаў мае ногі, а ў яе па лавах вядуцца станогі. *Fed., 106.*

731. Як наварыла Люця, то не паесць і цюця. *Fed., 172.*

732. Му́ка як мука́, ды паганая рука. *Крэмнеў.*

733. Наша Хвядора (Сора) то шые, то пора. *Fed., 51; Сержп., 4; М. Грынблат, 1974, Лаг.*

а) Наша Сора то шые, то пора, а ўсё ніткам гора. *Рапан., 257. Вар.: Ляцкий, 61.*

734. Яшчэ бабіна ў рашаціне, а баба галаву заклапаціла. *Л. Царанкоў, 1950, Рэч. 13.9.2.*

735. Асталася адна ў хаце, не дам рады кацяняці. *Fed., 6.*

736. Не бачыла гаспадыня, што сучка сем лет без хваста. *Fed., 106.*

737. З жонкай, як з бараной у лесе. *Fed., 366.*

738. Якая жонка, да жонка, а лепей парасёнка. *Нос., 193.*

а) Якая жонка, ды жонка, а лепей парасёнка: сама дзверы адчыніць і зачыніць. *Крэмнеў.*

739. Дзе гаспадыняў многа, там ладу мала. *Fed., 106.*

740. Дзе бабаў многа, там хата немяцёна. *Fed., 12.*

741. Дзе хазяек шэсць, там нечага есць. *1961, Брасл. 13.9.5.*

742. Маракаваў на цецю, а трафіў на псецю. *Шпил., 183.*

743. Пакарай, божа, таго, у каго грошай няма і жонка некрасіва. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

744. Рабая баба ўсё роўна, як жаба: ні людзям паказаць, ні сабе паглядзець. *Ляцкий, 37.*

745. Баба —баба, а жаба — жаба. *Сцяшк., 580, Ашм.*

746. Мой хвор мужычок, да красён, як бурачок; а я здарова, да жоўта, як маркова. *Нос., 78; Дуб., 36.*

747. Баба твая таўстуха: пірог з'ясі, пакуль абыдзеш кругом. *Дуб., 6.*

748. Добрая жонка — вянец, а ліхая — канец. *Сержп., 63.*

749. Добрая жонка — вяселле, а ліхая — паганае зелле. *Сержп., 63.*

750. Жанінó дабро вылазіць праз рабро. *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.8.11.*

751. Жонка не радзіла мужыка, не насіла, то ей не шкода. *Fed., 366.*

752. Дзе маці плача, там рэкі цякуць, дзе сястра плача, ручайкі бягуць, дзе жана плача, там расы няма. *Т. Лапаціна, 1961, Рэч. 13.3.24.*

753. Сварлівая жонка горш, чым каню хамут. *А. Фядосік, 1959, Капатк. 8.1.44.*

754. Як баба ругнецца, дык зямля на тры сажні гарыць. *1961, Рэч. 13.9.5.*

755. Баба — піла тупая, далявая. *1961, Кап. 13.9.5.*

756. Не то пілá, што піліць, а то піла, што шыю чырыць. *М. Бандарэнка, 1966, Маз. 13.3.29.*

757. Узяў пілку на сваю шыйку. *Цяшк., 612, Слон.*

758. Калі жана сатана, то яна і чорту падноскі адарве. *Цар., 244, Мінск.*

759. Валы добрыя — здароўе, жонка злая—безгалоўе. *Ф. Наркевіч, 1932, Петр. (Архіў ІРЛІ АН СССР, спр. 30).*

760. Жонка — то ночная зязюля і дзёнешню перакуе. *Fed., 366,*

а) Начная зязюлька дзенную перакукуець. *Нос.,* 116; *Дуб., 40; В. Санько, 1969, Слуцк.*

б) Ночная зязюля (кукуля) перакуе дзенную. *Fed., 355. Вар.: І. Суконкін, 1960, Церах. 13.3.29.*

761. Мужыковы норавы ды я выведаю. *Дуб., 36.*

762. Тфу нежанатаму, бо жанатаму і жонка наплюе, то будзе даволі. *Fed., 202.*

763. Перахітрыў бы жонку, ды сама з хітрай старонкі. *Ляцкий, 34.*

764. Ты праз вароты, а жонка з-за плоту. *Ляцкий, 46.*

765. Мужык за парог, а жонка за пірог. *Ром., Бел., І, 301. Вар.: Ляцкий, 21; Fed., 365.*

766. Не вер каню ў дарозе, а жонцы ў двары. *Нос., 95; Fed., 132; Pietk., 364; А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29. Вар.: Добр., Смол., 1.*

а) Не вер каню, запрагаючы, а малодой жонцы — у дарогу выбіраючыся. *Fed., 149.*

б) У дарозе не вер каню, а ў доме жонцы. *Fed., 76.*

в) Не вер жонцы ў дому, кабыле ў дарозе. *Tyszk., 420; Ром., Зап., ІІІ, 226. Вар.: Fed., 365; Pietk., 402; 1961, Брасл. 13.9.5.*

г) Не можна верыць каню ў дарозе, мужыку ў астрозе, а жонцы дома. *Ляцкий, 30.*

767. Не вер каню ў дарозе, а бабе дома: і каня ў дарозе прывяжы, а бабе праўды не кажы. *І. Цішчанка, 1969, Слаўг. 8.2.21.*

768. Ніколі жонцы праўды не кажы. *Fed., 365.*

а) Лапця лычкам не вяжы, жонцы праўды не кажы, у папа грошай не пазычай. *С. Шыршуновіч, 1966, Свісл. 13.10.28.*

769. Жонкі, стрэльбы і каня не пазычай нікому. *Pietk., 403.*

а) Жонкі, стрэльбы і каня нікому не давай на рукі — не пазычай. *Fed., 366.*

б) Гадзіннік і жонку нікому не давярай. *І. Курбека, 1961, Докш. 13.9.7.*

770. Не хвалі дзень ура́нні, а жонку да смерці. *А. Ліс, 1969, Стол. 8.2.17. Вар.: А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

771. Жонка памерла, а гаспадар аслеп. *А. Фядосік, 1962, Капатк. 8.1.76.*

772. Была жана, да карова сажвала. *Добр., Смол., 61.*

773. Не плач за жонкай: будзе другая. *Ляцкий, 27.*

774. Жонка памерла, што лазня згарэла. *Дразд.*

а) Чы жонка памрэ, чы лазня згарыць — мужык аб адным гаруе. *Ляцкий, 58.*

775. Жонку ў яму, а сам на другую гляну. *Мяц., 252, Лаг.; А. Фядосік, 1962, Капатк. 8.1.76.*

776. Бог за адну, а я за другую. *Fed., 365.*

а) Бог за адну жонку, а я — цап за другую. *Fed., 365.*

б) Бог за жонку, а я за дзеўку. *Fed., 365.*

777. Першая жонка ад бога, другая ад людзей, а трэцця ад чорта. *Fed., 365; Pietk., 402; Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

а) Першая жонка суджана, другая ра́джана, а трэцця ад чорта прынесена. *Fed., 365.*

778. Апошняя ў папа жонка. *Сцяшк., 580, Воран.*

779. Кепскі муж у магілу, а добра жонка па ко́рчмах. *Fed., 365.*

780. Жэншчына, яна й ёсць трудзяга вечная. *М. Грынблат, 1967, Мсцісл. 8.1.106.*

781. У бабы бабская справа. *Сержп., 16.*

а) У бабы бабскае і дзела. *Сержп., 16.*

782. Як пачнуць жыта жаць, тады баб людзьмі зваць. *Жанч., 272.*

а) Баб тады людзьмі завуць, як у поле ідуць. *Жанч., 272.*

783. Баб'я (бабіна) воля — печ ды поле. *Жанч., 228; Сцяшк., 580, Ашм.*

784. Бабіна (бабе) дарога — ад печы да парога. *Ляцкий, 3; Жанч., 228; М. Бандарэнка, 1966, Маз. 13.3.29; Я. Кіслік, 1966, Іў. 13.10.26; Ю. Ботвін, 1967, Вайк. 13.10.28.*

а) Бабіна дарога — ад пячы да парога; ад пячы да пола — стаптала пастола. *Д. Шыцік, 1961, Дубр. 13.9.6.*

б) Бабе была дарога ад печы да парога. *Сцяшк., 580, Ашм.*

785. Для жонкі дарога адна — проста ад парога да камі́на. *Добр., Смол., 7.*

786. Бабе там месца, дзе месяць цеста. *Жанч., 228.*

787. Гаспадынька, твая рэч — глянь у печ. *Сержп., 33. Вар.: Жанч., 228.*

788. Ці там, ці тут бабы кут. *Сержп., 11.*

789. Баба, што мяшок, што паложыш, то нясецъ. *Ром., Зап., I, 215; Орш., 120.*

790. Знай, баба, сваё крывое верацяно. *Жанч., 228.*

791. Бабскія сенцы нійдзе не стаяць. *Нос., 3; Дуб., 6; Сержп., 16.*

792. Што баба пастроіць, тое й год не прастоіць. *Ляцкий, 60.*

793. Дзе бабы, там бясхлебіца, а дзе кабылы, там бяссе́нніца. *1961, Брасл. 13.9.5.*

794. Хлеба не стала, баба блышыць стала. *Нос., Слов., 27.*

795. Баба сільней за ўсіх. *М. Грынблат, 1960, Сір. 8.1.47.*

796. Бабы не пераможаш, і табакі не ператрэш. *Pietk., 355.*

797. Баба ўвесь свет перавярнула б, узяўшы за кальцо, када б яе сіла. *Добр., Слов., 18.*

798. І чорт бабы баіцца. *Fed., 13.*

799. Бабы і сам чорт не пераможа. *Fed., 12.*
   а) Бабы і сам чорт не зваюе. *Fed., 12.*

800. З бабаю і сам чорт рады не дасць. *Fed., 12.*
   а) І д'ябал кабеце рады не дасць. *Fed., 12.*

801. Бабе і сам чорт з дарогі ўступае. *Fed., 12.*

802. З бабаю і чорт не зладзіць. *Pietk., 355.*

803. Д'ябал (чорт) солад саладзіў і то бабе не дагадзіў. *Fed., 12.*

804. Баба горша за чорта. *Fed., 11.*

а) Баба горш ведзьмы. *Ляцкий, 3.*

805. Кожная баба — ведзьма. *Сержп., 16.*

806. Баба як чорт: не атаксцішся, не адмовішся. *Г. Барташэвіч, 1964, Сен. 8.1.90.*

807. Баба з пекла родам. *Fed., 12.*

808. Баба і з чортам знойдзе лад: гаварыць будзе. *Ляцкий, 3.*

809. Чорт і баба — адна рада. *Fed.*, 67.

810. Баба а чорт — кумы родныя. *Ляцкий, 3.*

811. Ці баба, ці д'ябал, то ўсё роўна, бо чорту шмат усяго трэба і бабе такжа. *Fed., 12.*

812. Хочаш убачыць чорта, напаі бабу. *В. Іваноўская, 1962, Лельч. 8.1.74.*

813. Усе дзяўчаты, як цяляты, дык адкуль жа злыя бабы? *І. Суконкін, 1960, Церах. 13.3.29.*

814. Упала баба з неба, бо ёй там не трэба. *Fed., 14.*

815. Упала баба з гары, чорт яе бяры. *Fed., 14.*

816. І без атос і без калёс чорт бабу панёс. *Fed., 13.*

817. Маку не ператрэш, бабы не перапрэш, мёду не пераварыш. *Fed., 175.*

818. Бог стварыў два зла: бабу і казла. *Сержп., 16. Вар: Добр., Смол., 1.*

а) Бог саздаў тры зла — чорта, бабу і казла. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

819. Баба хітрэй (хітрэйша ад) чорта. *Добр., Смол., 1; Fed., 11; Сержп., 6.*

а) Баба мудрэй чорта; кагда чорт не здзелаець, баба здзелаець. *Добр., Слов., 18.*

820. Дзе чорт не дойдзе (не зробіць), туды бабу пашле. *Fed., 12; Pietk., 355.*

а) Дзе чорт сам не справіцца, туды бабу пашле. *Fed., 68.*

б) Адзе чорт сам няймець, там бабу пашлець. *Нос., 2.*

в) Гдзе чорт не можыць, там бабу спасылаець. *Tyszk., 426. Вар.: Dybow., 6; Дуб., 17.*

г) Дзе чорт не можыць, баба дапаможыць. *Mien., 396.*

д) Куды чорт не даступіцца, туды бабу пашле. *Шпил., Бел., 183; Dybow., 183.*

е) Дзе сам чорт не ўспее, туды бабу пашле. *Вас., 30. Вар.: Добр., Слов., 18.*

821. Як баба схоча, дык і сам чорт зарагоча. *М. Грынблат, 1973, Мінск.*

822. Баба й чорта абманець. *Ляцкий, 3.*

823. Баба й чорта звядзе. *Крапіва, 244.*

824. Баба многа знае, толькі мала праўды кажа. *Ляцкий, 3.*

825. Бабе бабская й чэсць. *Сержп., 15.*

826. Баба што каза, усё роўна. *Ляцкий, 3.*

827. Ведама, бабскі розум. *Сержп., 16.*

828. У бабы розуму не пытай. *Ляцкий, 46; Сержп., 16.*

829. Волас доўгі, ум кароткі. *Czeczot, 115. Вар.: Mien., 396; Ром., Зап., I, 216; Fed., 338.*

а) У бабы волас доўгі, да вум кароткі. *Дуб., 63. Вар.: Нос., 166; Сержп., 16; Fed., 14; Pietk., 355; Мяц., 96, Стаўб.*

б) У бабы волас доўгі, да вума няма. *Сержп., 16.*

830. Дурной бабе і галава мяшае. *Янк. М., 117.*

а) Дурная баба і воду ў ступе таўчэ. *Янк. М., 117.*

831. У бабы ўсё не так. *Сержп., 16.*

а) У бабы ўсё не па-людску. *Сержп., 16.*

832. У бабы душы няма. *Ляцкий, 47.*

833. Бабы не перагаворыш. *Fed., 122.*

а) Бабы не перагаворыш і сабакі не перабрэшаш. *Pietk., 355.*

834. Чужая баба заўсёды нахаба. *Дуб., Нар., 10.*

835. Баба брэдзіць, а чорт ёй верыць. *Ром., Зап., I, 215.*

836. Дзе адна баба — там базар, дзе дзве — там кірмаш. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

837. У бабы і сакрэт бабскі. *Ляцкий, 47.*

838. Бабка бабцы сказала — уся вёска знала. *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

839. Сем баб — сем рад. *Pietk., 389.*

840. Сем баб — адна душа. *Ляцкий, 41.*

841. Мужчына за мужчынаю, а баба за бабаю цягне. *Fed., 191.*

842. Патуль бабы ў дружбе, пакуль не пагрызліся. *Ляцкий, 34.*

843. Бабскія слёзы лёгка цякуць. *Сержп., 137.*

844. Заяц уцякаць, а баба зараз плакаць. *Fed., 14.*

а) Заяц уцякаць, а баба плакаць заўсёды гатова. *Fed., 348.*

845. Баба жывучая, бы кошка. *Сержп., 16.*

а) Жанкі жывушчыя, як кошкі. *Fed., 366.*

846. Бабская хвароба хоць балюшча, але мінушча. *Fed., 12.*

847. Бабе і качарга на помач, калі ёй немач. *М. Грынблат, 1960, Сір. 8.1.47.*

848. Баба з «не хачу» цэлае парася ўмалола. *Ігнат.*

849. Каму што, а бабе сырадой. *Янк., 182.*

850. Па бабе і брага. *Ром., Зап., III, 229.*

851. Сорак лет — бабскі век. *Ром., Бел., I, 309. Вар.: Fed., 14; Жанч., 228; М. Грынблат, 1974, Валож. 8. 74.82.*

а) Бабскі век — сорак лет, а я ўжо пражыла сабачы. *М. Грынблат, 1960, Сір. 8.1.47.*

852. Не будзе баба дзеўкаю. *Fed., 13.*

853. Як волас сівее — баба шалее. *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

854. Какая баба са́ма, такая бабы слава. *Аним., 263.*

855. Пры сонейку цёпла, пры мамцы добра. *Янк. М., 39. Вар.: Ахрым., 49; В. Калюк, 1965, Навагр. 13.10.6; В. Мінкелевіч, 1949, Акцябр. 8.1.24; В. Брычакоў, 1960, Карм. 13.3.29.*

856. Без маткі і сонца не грэе. *Ахрым., 21; Цяшк., 581, Шчуч.*

857. Маміна крыло і ў мароз цёплае. *А. Капітанчык, 1965, Слон. 13.10.1.*

858. Матчына малітва з дна мора дастане. *В. Санько, 1969, Слуцк.*

859. Нет лушчай дружачкі, як родная матка. *В. Мінкелевіч, 1949, Акцябр. 8.1.24.*

860. Няма лепшай хаткі, як родная матка. *В. Калюк, 1965, Навагр. 13.10.6.*

861. Ад добрай маткі не збягаюць з хаткі. *Ахрым., 18.*

862. Мілая тая дарожка, кудою я да мамы хадзіла. *Янк. М., 30.*

863. Птушка рада вясне, а дзіця маці (мацеры). *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15; М. Бандарэнка, 1966, Маз. 13.3.29.*

864. Нідзе няма лепш, як у сваёй маці. *І. Леснікові́ч, 1963, Смарг. 13.10.4.*

865. У сваёй маці добра і ў пасцелі паляжаці. *А. Хомка, 1965, Вайк. 13.10.3.*

866. Матчыны рукі заўсёды мяккія. *Сах.*

867. Ніхто столькі жалю не мае, як родная матка. *Сержп., 62.*

868. Ніхто дзяцём так не спагадае, як матка радная. *Ляцкий, 29; Дуб., 39.*

а) Ніхто так не спагадае, як родная маці. *І. Лесніковіч, 1963, Смарг. 13.10.4.*

869. Нічые слёзы, як матчыны: яны ўтопяць, яны ў бога і шчасця выпрасяць. *Ляцкий, 29.*

870. Жонка для савету, цешча для прывету, а маці радней усяго свету. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

871. Не тая маці, што радзіла, а тая маці, што ўскарміла. *Сержп., 54. Вар.: Цар., 245, Рэч.*

а) Не то маці, што нарадзіла, а што расціла. *А. Куцакова, 1957, Раг. 13.3.29.*

872. Другой маткі не найдзеш. *Fed., 180.*

873. Родную маці нікім не заменіш. *Зах., 250.*

874. Матка адна на раду, а бацькаў сем на вяку. *А. Ліс, 1964, Гарад. 8.1.86.*

а) Адна маці на раду, а бацькаў на хаду. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

875. Хлебную матку ніхто не зводзіць. *Ляцкий, 53.*

876. Матка дзіцятка хоць б'е, але не заб'е. *Dybow., 13.*

877. Свая маці наб'е і пашкадуе. *Fed., 174.*

а) Матка хоць паб'е, да і пажалуе. *Pietk., 378.*

878. Мацерына качалка лепш чужой ласкі. *Янк. М., 23.*

879. Матка калі б'е, то вучыць. *Dybow., 13; Fed., 180.*

880. Не ўсякая маці сваім дзецям роўна. *Fed., 174.*

881. Каму гадка, а мне матка. *Нос., 66.*

882. Бацькава данне — на адно сняданне. *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

883. Бацькіна дараванне на сняданне, а маткіна на абед. *Нос., 4.*

884. Беражы маці, яна не будзе век целяпаці. *А. Хомка, 1965, Вайк. 13.10.3.*

885. Мацеры не купіш. *Fed., 174.*

а) Анно бацька і мацеры за грошы не купіш. *Fed., 116.*

б) Усяго за грошы купіш, апроч бацька-мацеры. *Fed., 17.*

886. Няма такой крамы, што купляюць мамы. *Fed., 177.*

а) Нямаш тэй крамы, штоб прадаваліся родныя мамы. *Нос., 100. Вар.: Дуб., 39; Сах.; Л. Царанкоў, 1960, Слон. 13.9.2.*

б) Няма такіх ятак, дзе прадаюць матак. *С. Маісеенка, 1965, Жлоб. 13.3.25.*

в) Нет тых лавак, дзе купляюць родных мамак. *1961, Брасл. 13.9.5.*

887. Матка не граматка — за злоты (злотку) не купіш. *Нос., 77; Дуб., 34; Янк. М., 144.*

888. Матка падзерла пазуху, носючы дзеткам, а дзеткі — ад маткі. *Ляцкий, 20.*

а) Маткі дзяруць пазухі, дзецям хаваючы, а дзеткі дзяруць кішэні, ад матак хапаючы. *Нос., 77.*

б) Маці падзярэ пазуху, дзецям хаваючы, а дзеці — хаваючы ад мацеры. *Fed., 174.*

в) Маці парве кішэнку, для дзяцей збіраючы, а дзеці парвуць пазуху, ад маці хаваючы. *Сцяшк., 598, Астр. Вар.: Fed., 15; А. Фядосік, 1962, Капатк. 8.1.76.*

г) Мацер носіць дзіцям і, носячы, парве кішэні, а дзеці парвуць кішэні, ад мацеры носячы. *З нар. сл., 115, І. Яшкін, Пух.*

889. Маці то і да пекла трапіць. *Fed., 174.*

890. У каго маці радне́нька, у таго сарочка бяле́нька. *Зах., 250.*

891. Добра таму гуляці, у каго родная маці: яна сустрэне ды праводзіць, і ў акенца паглядзіць. *Зах., 250.*

892. У каго матка, у таго і галоўка гладка. *Нос., 167. Вар.: Дуб., 64; Жанч., 111; У. Іваноў, 1958, Мінск 13.5.17; Г. Барташэвіч, 1963, Маладз. 8.1.82; 1961, Брасл. 13.9.5; І. Сувалаў, 1958, Чач. 13.3.29; А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

893. Мамка міла, як галоўку мыла. *А. Фядосік, 1962, Капатк. 8.1.76.*

а) Мамка міла, пака ножкі мыла. *1961, Рэч. 13.9.5.*

б) Тагды матка была міла, калі нашы рукі і ногі мыла. *Pietk., 378.*

в) Датуль матка міла, дакуль бруд мыла. *Ляцкий, 9.*

г) Тады маці была міла, як на руках насіла. *І. Сухонкін, 1960, Церах. 13.3.29.*

д) Маці датуль міла, пакуль пялёнкі мыла. *Цар., 245, Мінск.*

894. Тады была сіла, як маці насіла. *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

895. Матка па дочцы плача, а дочка па досцы скача. *Ром., Зап., III, 223.*

896. Бацька сахою дзецям так не дагодзіць, як маці голкаю. *Fed., 173.*

897. Можна бацька ажаніць і мацеру замуж аддаць. *Fed., 16. 77.*

898. Гэта табе навука: калыхала мяне — калыш і ўнука. *А. Фядосік, 1962, Капатк. 8.1.76.*

899. Як навучыўся, то і пра матку забыўся. *Ю. Зьярко, 1965, Іў. 13.10.5.*

900. Тагды мама дурная, калі сын занадта разумны. *Ляцкий, 44.*

901. Нет маткі, так купіў бы, а ёсць матка, так прыбіў бы. *Ляцкий, 24.*

902. Сын к мацеры з галавешкаю, матка: «Сынок, ручкі папячэш». *Т. Лапаціна, 1961, Рэч. 13.3.24.*

903. Няма той мамкі, жэбы не было ямкі. *Fed., 177.*

а) Няма той мамы, жэб не пакарміла ямы. *Fed., 17.*

904. Умрэць матка — аслепнець бацька. *Добр., Смол., 71.*

905. Бацька ўмрэ, то палавіна сіраты, а як маці ўмрэ, то цэла сірата. *Fed., 278.*

906. Мачаха — не родная маці. *Бяльк., 307, Мсцісл.*

а) Мачаха не будзе маткаю роднаю. *Fed., 174.*

907. Хто мачаху мае, той гора знае. *Зах., 250.*

908. Мачаха як месячык: свеціць, ды не грэе. *А. Якіменка, 1966, Б.-Каш. 13.3.29.*

909. Матка дзяцей пушыць, а мачаха сушыць. *Нос., 77; Дуб., 36; Fed., 180; Сержп., 134.*

910. Родная маці б'ючы ранаў не наробіць, а мачаха і гладзячы параніць. *Fed., 174.*

а) Свая матка б'ючы не заб'е, а чужая гладзячы загладзіць. *Гильт., 292, Віл. п. Вар.: 1961, Брасл. 13.9.5.*

911. Матчын кулак вуча, а мачыхі суша. *Ляцкий, 20.*

912. Матка галоўку мыець, прыглажваець, а мачыха мыець — прыскубаець, кашулю даець — праклінаець. *Добр., Смол., 58; Жанч., 111.*

913. Не какохне няродная маці па чужому дзіцяці. *Раст., 128.*

914. Муж жонку найдзець, жонка мужа найдзець, а дзеці бацьку не найдуць. *М. Грынблат, 1970, Ашм. 8.2.26.*

915. Свой бацька насварыцца і пашкадуе. *Fed., 17.*

916. Бацькіна сэрца адходліва. *Нос., Слов., 17.*

917. Бацька не матуля: не пацалуе і не прытуле. *Г. Прытычанка, 1960, Карм. 13.3.29.*

918. Бацькоўскае слова дарэмна не гаворыцца. *А. Капітанчык, 1965, Слон. 13.10.1.*

919. Ад роднага таткі харашы будуць і латкі. *Нос., 122.*

а) Прыгожы на шубе і латкі ад роднага таткі. *Нос., 137.*

920. Найлепшы бацькавы боты. *Fed., 41.*

921. Найлепшы боты бацькавай работы — ніколі не падзяруцца. *Fed., 41.*

922. Хлеба не станець — бацька дастанець. *Нос., 172. Вар.: Fed., 53.*

а) Як не стане, бацька дастане, як не будзе, матка дабудзе. *Сержп., 54.*

923. Як не стане, то ў бацька дастане. *Fed., 288.*

924. Бацька з маткаю на век не нагатуюцца. *Жанч., 87.*

925. Адна душа пракорміць і ўгалодзіць. *Добр., Смол., 105.*

926. Адна душа сто душ корміць. *Добр., Смол., 105.*

927. Гніся, бацька, ці не гніся, але за карман (кішэнь) бярыся. *Ляцкий, 8; Сержп., 49; Суяшк., 585, Ваўк.*

928. Ад нашага таткі плохі ўзяткі. *Нос., 122. Вар.: Fed., 311.*

929. Да бацькі едуць з пяром, а ад бацькі з тапаром. *Янк. М., 35.*

930. Няма таткі — няма й папкі. *Нос., 100; Сержп., 52.*

931. Як дачакаўся хлеба, то бацькі не трэба. *Dybow., 184; Fed., 53.*

932. Не кажды Кузьма бацька. *Ляцкий, 26.*

933. За дзетак маткі, а за матак таткі. *Нос., 45.*

934. Бацькоў любі, старшых паважай. *Ахрым., 20; У. Іваноў, 1958, Мінск 13.5.17.*

935. Шануй бацьку з маткай: другіх не знайдзеш. *Ляцкий, 59.*

936. Хто бацьку шануе, той сабе неба гатуе. *Fed., 17.*

937. Шануй старое, як дзіця малое. *Fed., 291.*

938. Усе нашы бацькі разумней нас былі. *Ляцкий, 51.*

939. Хто бацьку і маці зневажае, той дабра не знае. *У. Іваноў, 1958, Мінск 13.5.17.*

940. Хто бацька і мацеры не слухае, той і бога не баіцца. *Fed., 16.*

941. Сохні тая рука, што на бацька падымаецца. *Fed., 266.*

942. Хай таму дзіцятку язык адваліцца, калі на людзях бацьку няславіць. *Янк., 151.*

943. Скаратай, божа, лепі веку, толька не папусці дзяціную апеку. *Ляцкий, 41.*

944. Адзін бацька гадуе пяць сыноў і не жалкуе, а пяці сынам важка пагадаваць аднаго бацьку. *Pietk., 356.*

945. Як бацькі кормяць дзеці, то дзеці скачуць, а як бацькі на дзіцячым хлебе, то плачуць. *Fed., 16.*

а) Як бацькі кормяць дзеці, то дзеці скачуць, а дзеці кормяць — бацька, маці плачуць. *Fed., 16.*

946. Бацю мой, еш хлеб свой. *Дуб., 5; Нос., Слов., 17.*

947. Ты, бацька, ідзі араць, цябе валы знаюць, а я пайду ў карчму, мяне людзі знаюць. *Tyszk., 418.*

а) Бацька няхай едзець араць, яго коні знаюць, а я пайду ў карчму, мяне людзі чакаюць. *Нос., 4. Вар.: Сержп., 53.*

948. Бацьку з сынам ніхто не рассудзіць. *Сержп., 185.*

949. Угавор пры сведках робяць з айцом дзеткі. *Ляцкий, 47.*

950. Увайшлі кага́лам, а бацька з жыга́лам. *Нос., Слов., 155.*

а) Усе кагалам, а бацька з жыгалам. *Крапіва, 252.*

951. Вотчым — не бацька родны. *Раст., 67.*

952. У айчыма чэрці пад вачыма. *Янк. М., 112.*

953. Няма бяды ў хаце, калі сыны ў маці. *К. Кабашнікаў, 1963, Скід. 8.1.84.*

954. Хто мае дочкі, той ходзіць без сарочкі, а хто мае сынкі, той пячэ блінкі. *І. Цішчанка, 1969, Слаўг. 8.2.21.*

955. Адзін сын — смятаннік. *Л. Царанкоў, 1960, Мінск, 13.9.2.*

956. Адзін сын — не сын, а баўтун. *Цар., 240, Рэч.*

957. З адзіня́ка будзе сабака. *Fed., 6.*

а) З адзіняка або пес, або сабака. *Fed., 6.*

б) Сын-адзінака — ці хорт, ці сабака. *Сержп., 53.*

в) Калі ў бацькі сын адзінака, будзе хорт ці сабака. *Гильт., 287, Дзісен. п.*

958. Маладой старшым не бываець. *Добр., Смол., 15.*

959. І мой бацька такі маўся, і я ў яго ўдаўся. *Нос., 56; Дуб., 25.*

960. І з сынамі трасуць сумáмі. *Жанч., 87.*

961. Што сын прадасць, то і бацька не адкупіць. *Fed., 296.*

962. За бацька хлеб быў, солі не было, як настаў сын — ні хлеба, ні солі. *Fed., 18.*

963. Як правіў бацька, то каты лазілі, а як стаў правіць сын, то і сабакі палезлі. *Fed., 17.*

964. Не было ладу-складу пры бацьку, нямаш і пры матцы. *«Ніва», 1975, № 39, 7.*

965. Сын мой, да розум у яго свой. *Pietk., 394.*

966. Не сын спраўляў, не бацька едзець. *Tyszk., 428.*

а) Не бацька купіў, не сын едзець (паганяе). *Mien., 396. Вар.: Ром., Бел., I, 302; Pietk., 333; Л. Корсак, 1961, Acin. 13.9.11.*

б) Не бацька спраўляў, не сын носе. *Ляцкий, 24.*

967. Бацька быў стралок, а я яго сынок. *Янк., Дыял., I, 204, Глуск.*

968. Дачка адна і та не людна́. *Цар., 242, Рэч.*

969. Няма ў лузе над маліну, а ў дамоўцы над дзяўчыну. *Сержп., 63.*

970. Матка дачку хваліла, пакуль з рук зваліла. *Сержп., 53; Жанч., 126.*

971. Пазнаюць нашу дачку і ў [чырвоным] андарачку. *Tyszk., 419. Вар.: Шпил., 172; Нос., 130; Fed., 72; Сержп., 31; С. Маісеенка, 1965, Жлоб. 13.3.25; М. Бабарыкіна, 1966, Чач. 13.3.29.*

972. Маці пазнае дачку і ў чорным андарачку. *Сцяшк., 598, Гродз.*

а) Сваю дачку пазнаю ў андарачку. *А. Фядосік, 1962, Капатк. 8.1.76.*

973. Сын у дом грабе, а дачка ў людзі бярэ. *Сержп., 53.*

974. Як дочкі падраслі, то хату растраслі. *Fed., 72; Сцяшк., 617, Ашм.; М. Шавель, 1960, Івац. 13.9.24.*

975. Калі сем дзевак, не нажыва, а зжыва. *Жанч., 126.*

976. Гадуеш дзяўчыну — шыкуй пярыну. *Сцяшк., 585, Шчуч.; С. Шыршуновіч, 1966, Свісл. 13.10.28.*

977. Калі маеш дачку — дзяржы (май) гарэлку ў глячку. *Дуб., Нар., 2; Жанч., 126. Вар.: Сцяшк., 595, Лід.; Мін.-Мал., 1970, 162, Увдз.; А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

978. Аддай дочку ды яшчэ піва бочку. *Жанч., 126.*

979. Без дачкі парастуць пад лаўкаю казлячкі. *Сцяшк., 581, Дзятл.*

980. Без дачкі сям'я, што печ без агня. *Сцяшк., 581, Свісл.*

981. Дочкі — дзіравы мех: ім усё давай. *М. Гваздзёў, 1965, Пух. 8.1.102.*

982. Дочкі — то маткі ходзяць без сарочкі. *М. Грынблат, 1970, Лун. 8.2.14.*

а) Гадуй дочкі, а сам хадзі без сарочкі. *Жанч., 126; Сержп., 53.*

б) У каго (хто мае) дочкі, той ходзіць без сарочкі. *А. Фядосік, 1962, Капатк. 8.1.76; А. Махнач, 1952, Увдз. 13.10.15; В. Іваноўская, 1963, Леп. 8.1.83; І. Цішчанка, 1969, Слаўг. 8.2.26.*

в) Дочкі астаўляюць матку без сарочкі. *Нос., 37. Вар.: Сержп., 54.*

г) Дочкі вывелі матку з сарочкі. *Fed., 72.*

д) Сыны і дочкі, а маткі ходзяць без сарочкі. *К. Кабашнікаў, 1962, Гом. 8.1.77.*

е) У каго дзве дочкі, той носіць лапленыя сарочкі. *Добр., Смол., 120.*

ж) У каго сынкі — гатовыя сумкі, а ў каго дочкі — ходзяць без сарочкі. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

983. Кабылы не накорміш, дзеўкі не ўбярэш. *Сцяшк., 594, Воран.*

984. Я за свайго Кузьму каго захачу вазьму, а ты сваю Арынку павазі па рынку. *А. Фядосік, 1967, Капатк. 8.1.73. Вар.: М. Бабарыкіна, 1966, Чач. 13.3.29.*

а) Тваю Марынку трэба павадзіць па рынку, а за свайго Кузьму я ўсюды вазьму. *Мін.-Мал., 1974, 189, Барыс. Вар.: І. Саламевіч, 1975, Слон.*

985. Пастуха пазбыў і пісара не нажыў. *Fed., 223.*

986. Хоць матка не вучыць, не ўбіваецца, а дачка сама дагадаецца. *Сержп., 65.*

987. Дочка — гарачая (гаручая) слёзка. *Fed., 72; Добр., Смол., 120.*

988. Дзеўкі — чужая крупеня. *Нос., 34. Вар.: Добр., Смол., 120.*

989. На дачок матка батрачка, пакуль рукі сашчэпіць. *Добр., Смол., 120.*

990. З тварам да вянца, а з розумам да канца. *Сцяшк., 591, Іў.*

а) Краса да вянца, а жыццё да канца. *Л. Гарэлікава, 1967, Ваўк. 13.10.30.*

991. Што вашы дзеўкі робяць? — Шыюць ды спяваюць.— А маці? — Поруць ды плачуць. *Ігнат.*

992. Не журысь, мамачка, намі, парастуць крылачкі — разляцімся самі. *Т. Лапаціна, 1961, Рэч. 13.3.24.*

993. Пачакай, дочухна, да нядзелі.— Ні да суботы, мамачка. *Нос., 135.*

994. Дачушку аддаць — начушкі не спаць. *Жанч., 126; Зах., 251; Добр., Смол., 121.*

а) Дачку аддаць — плакаць і гадаць. *Жанч., 126.*

995. Аддала дачушку, а сама буду, як гаюшка: ні дзяружкі, ні падушкі. *Жанч., 126.*

996. Ад добрай дочкі не бегае маці ўпрочкі. *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

997. Былі ў маткі дзве дачкі: і Зоя не тое, і Насця няшчасце. *Р. Мазгавая, 1967, Лід. 13.10.28.*

998. У лянівай дочкі брудныя сарочкі. *Н. Парукаў, 1965, Добр. 13.10.19.*

999. Кветка харошая, але ў крапіве сядзіць. *Мін.-Мал., 1970, 161, Уздз.*

1000. У каго дочак сем, то й доля ўсем. *Суяшк., 611, Гродз.*

а) У каго дочак сем — ёсць доля ўсем, а ў каго адна—долі жадна́. *Fed., 72; Шырма, 206; А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15; А. Двешчыц, 1963, Смарг. 13.10.40в; Л. Царанкоў, 1960, Рэч. 13.9.2.*

б) Дзе сем, так і доля ўсем, а дзе адна, так і той долі няма. *А. Фядосік, 1967, Капатк. 8.1.76. Вар.: А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

1001. Паважай старэйшых, бо сам стары будзеш. *І. Леснікові́ч, 1965, Смарг, 13.10.4.*

1002. Старога блюдзі для парадку. *Нос., 155.*

1003. Падсадзі на печ дзядулю, цябе ўнукі падсадзяць. *А. Махнач, 1952, Увдз. 13.10.15.*

1004. Старшых і ў пекле шануюць. *Нос., 156.*

1005. Ідзе стары варчыць, маладэй памаўчыць. *Добр., Смол., 33.*

1006. Стары, кажуць, змуста, да без яго ў дварэ пуста. *Нос., 156.*

а) Старыя, кажуць, змуста, але ж без іх у дварэ пуста. *Дуб., 54.*

1007. Стары гаворыць, як плот гародзіць. *Fed., 291.*

1008. Стары гаворыць — гародзіць, да на праўду выходзіць. *Нос., 156.*

1009. Што кажа стары на глум — бяры малады на вум. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29. Вар.: А. Фядосік, 1962, Капатк. 8.1.76; В. Санько, 1969, Слуцк.*

1010. Старага чалавека пабранка — двару папраўка. *Добр., Смол., 33.*

1011. Стары з пуця не звядзець. *Дразд.*

1012. Стары Ерамей усіх разумней. *Mien., 396.*

1013. Хто з даўгою барадою, няхай ідзе за вадою. *Fed., 22.*

1014. Стары вол баразны не псуе. *М. Грынблат, 1927, Тур.; М. Рымша, 1957, Маз. 13.3.29.*

а) Стары вол ніколі баразны не сапсуець. *Нос., Слов., 31. Вар.: Дуб., 57; Fed., 291, 337; Pietk., 343; Т. Багдзевіч, 1965, Шчуч. 13.10.6; М. Мельнічэнка, 1950, Гом.; А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

б) Стары конь баразны не псуе, ды не глыбока арэ. *Л. Царанкоў, 1960, Крыч. 13.9.2.*

в) Старая свіння глыбока рые. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

1015. Няма дзеда, няма абеда. *А. Фядосік, 1962, Капатк. 8.1.76.*

а) Калі дзед, даў і абед; няма дзеда, няма й абеда. *Радч., 247.*

1016. Сячы, баба, дровы, няма дзеда ўдома. *Fed., 14, 111.*

1017. Добра каша пры хлебу, добра баба пры дзеду. *Fed., 139.*

1018. За старою галавою, як за пнём. *Fed., 102; Цяшк., 591, Смарг.*

а) За пнём галава, як за дзедам баба. *1961, Брасл., 13.9.2.*

б) Сякі-такі пень, а ўсё каля яго цень. *Fed., 232.*

в) Сякі-такі пень, а ўсё галава пэўнейша. *Fed., 232.*

1019. Следам за дзедам. *Нос., 151; Pietk., 368; Fed., 93; М. Грынблат, 1970, Лаг.*

1020. Наш бык да старое каровы прывык. *Fed., 46.*

1021. Без старога каля хаты горш, як без сабакі. *Цяшк., 581, Кар.*

1022. Як стары ў двары, то не трэба дзяржаць сабаку — ён усіх аббрэша. *Сержп., 3.*

1023. Дзе стары куст, той і двор не пуст. *Радч., 247; Fed., 159. Вар.: Ахрым., 29; А. Куцакова, 1956, Раг.; Н. Купцоў, 1967, Ветк. 13.3.29.*

1024. Як баба да дзеда, так дзед да бабы. *Tyszk., 425; Шпил., 188; Dybow., 192; Нос., 194; Сержп., 133.*

1025. Бывае, што дзед бабу абувае. *Л. Царанкоў, 1960, Рэч. 13.9.2.*

а) Бывае, што дзед бабу абувае, а бывае наадварот. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

1026. Баба скача, а дзед плача. *Fed., 11.*

а) Дзед скача, а баба плача. *Fed., 93.*

1027. Пакуль баба найдзе ключы, дык у дзеда не стане душы. *А. Фядосік, 1962, Капатк. 8.1.76.*

1028. Няма чаго трасці барадою, а лепш патрасі калітою. *Сержп., 10.*

1029. Стара баба нядужа, да работы нясужа. *І. Курбека, 1961. Докш. 13.9.7.*

1030. Усе старухі — сварухі. *Fed., 290.*

а) Усі старухі — варкатухі. *Нос., 168; Дуб., 63.*

1031. Успомніла баба, што дзеўкай была. *У. Іваноў, 1958, Мінск 13.5.17.*

а) Прыпомніла бабка дзевіч вечар. *Міеп., 397.*

б) Успомніла бабка дзевіч вечар ды й заплакала. *Нос., 18. Вар.: Дуб., 63; Pietk., 310.*

в) Прыпомніла (уздумала) бабка дзявіч вечар і зачала плакаць. *Tyszk., 425. Вар.: Dybow., 188; Fed., 14.*

г) Уздумала бабка дзевіч вечар, пашла танцаваць. *Fed., 14.*

1032. Як дзеўкаю: а кіс, бо пераскочу; як бабаю: кату, бо ўпаду. *А. Фядосік, 1962, Капатк. 8.1.76.*

1033. На старасці лет здзівіла Тэкля белы свет. *У. Іваноў, 1958, Мінск 13.5.17.*

1034. І на старуху бываець праруха. *Нос., 56.*

1035. Вось табе, бабка, навука, не хадзі за ўнука. *Сержп., 63.*

1036. На свежую кветку пчолка ляціць, а на старую і чорт не глядзіць. *Сержп., 63.*

1037. Старой бабцы хараша і ў шапцы. *Нос., 156.*

а) Добра бабцы і ў шапцы. *Fed., 14.*

б) Увойдзецца бабцы і ў шапцы. *Fed., 14.*

1038. Старое — старым. *М. Грынблат, 1976, Лаг.*

1039. Дзеда пусці пад лаўку, то вон схоча і на лаўку. *Гильт., 290, Пруж. п.*

1040. Дай дзеду многа, то яшчэ больш хоча. *Fed., 93.*

1041. Адно дзіця радзона, а другое судзона. *Fed., 91.*

1042. Кукушка — не птушка, нявестка — не дачушка. *Жанч., 125; Добр., Смол., 121.*

а) Нявестка не дачушка — сяннік не падушка. *Хрэстам., 200.*

1043. Не пытай, ці галоўка гладка, да пытай, ці мяцёна хатка. *Fed., 101.*

1044. Няма грубшай дзяругі, як што на нявесткі. *Ляцкий, 26.*

а) Самая грубая дзяруга ў нявесткі. *Цяшк., 607, Шчуч.*

1045. Хоць няма нявесткі, але яе андарак вісіць. *Fed., 201. Вар.: Т. Карачун, 1964, Клецк. 13.10.14.*

а) Хоць нявесткі няма, але андарак вісіць: як-ніяк нявесткай смярдзіць. *Ляцкий, 54.*

1046. На дачку крычу, а нявехна дола дайся. *Т. Лапаціна, 1961, Рэч. 13.3.24.*

1047. Кошку б'юць, а нявестцы наветкі даюць. *Ром., Зап., III, 222, Вар.: Жанч., 228.*

1048. Дзе ж тыя дочкі добрыя дзяюцца, адкуль нявесткі лядакія бяруцца? *К. Кабашнікаў, 1960, Нясв. 8.1.57; А. Гурскі, 1960, Кап. 8.1.51.*

1049. Нявестка порсткая, як сена жорсткае. *Янк. М., 150.*

1050. Дзе нявесткі ў хаце тры, там няма вады ў вядры. *Н. Парукаў, 1965, Добр. 13.10.19.*

1051. Сем лет нявестка была, а не ведала, што сучка без хваста. *Fed., 202.*

1052. Калі ў хаце завядзецца нявесціна лыжка, то не будзе старому ложка. *І. Лушчыцкая, 1960, Нясв. 8.1.52.*

1053. Свякруха добра не бывае, усё ліхая ды ліхая. *А. Хомка, 1965, Ваўк. 13.10.3.*

1054. Свякроў — пся кроў. *М. Грынблат, 1938, Пар.*

1055. Як добра свякроў, то добра і нявестка. *Шырма, 207. Вар.: У. Іваноў, 1958, Мінск, 13.5.17; І. Суконкін, 1960, Церах. 13.3.29.*

1056. Свякроў любіць нявестку, як сабакі дзеда. *Fed., 306.*

1057. Агонь з вадою ў адной хаце не жывець. *Сах.; Сцяшк., 578, Іў.*

1058. Свякруха і нявестка — сялу павестка. *Янк. М., 10.*

1059. У каго свякроў дурная, то й дамой не ахвоціцца. *А. Гурскі, 1960, Сір. 8.1.48.*

1060. Помніць свякруха свае маладыя гады і нявестцы не верыць. *Янк. М., 15.*

а) Блудлівая свякроў і нявестцы не верыць. *Ром., Зап., I, 214.*

1061. Забыла карова, як была цялём. *«Ніва», 1974, № 9, Н. Пераўой, 1974, Бельскі п. (ПНР).*

1062. Ці не дзіва, што нявестка стала свякрухаю. *Янк., 185.*

1063. Свякор нявестку навучаець, да ў лоб векам лучаець. *Дуб., 58.*

1064. У маго татка даўно спяць, а ў свякратка сядзяць. *Fed., 311.*

а) У маго таткі даўно спяць, а ў свякратка вячэру яшчэ прыстаўляюць. *Fed., 311.*

1065. А залоўка злая, як свякроўка ліхая. *М. Бохан, 1965, Маст. 13.10.3.*

1066. Залвіцы выберуць очы на спіцы. *Fed., 348.*

1067. Лучшай дзевераў чатыры, чым заловачка адна. *М. Грынблат, 1967, Мсціcл. 8.1.106.*

а) Лепш дзевяць дзевяроў, чым адна залоўка. *А. Якіменка, 1966, Б.-Каш. 13.3.29.*

1068. Залоўка — змяіная галоўка. *М. Грынблат, 1967, Мсціcл. 8.1.106.*

1069. Рад бы я быў, каб бацька жыў, а цешча памярла. *Ляцкий, 37.*

1070. Дзмецца цёшча, дзмецца, да нас не хінецца, каля прыпечку трэцца. *Дуб., 17.*

1071. Пра́нік бялізну палошча, а цёшча языком хвошча. *В. Бондар, 1967, Мінск 13.10.24.*

1072. Жонка люба для савету, а цёшча — для заезду. *Бяльк., 176, Мсцісл.*

1073. Быў у цёшчы, рад уцёкшы. *Ром., Зап., I, 215.*

1074. Як зяць за парог, дык цёшча за пірог. *1961, Брасл. 13.9.5.*

1075. Белы снег, ды не сыр, добры зяць, ды не сын. *В. Курбацкі, 1960, Карм. 13.3.29. Вар.: Мяц., 174, Карм.*

а) Снег бел, ды не сыр, зяць міл, ды не сын. *С. Маісеенка, 1965, Жлоб. 13.3.25.*

1076. Як зяць пры дачцэ, то матцы сто рублёў у руцэ. *Сцяшк., 617, Воран.*

1077. Залаты зяць, ды няма дзе залатое лыжкі ўзяць. *Янк. М., 35.*

1078. Гдзе проста, там анёлаў со ста, а гдзе многа зяцей, там сто чарцей. *Нос., 23; Ляцкий, 7.*

1079. З зяцем сварыся і за дзверы бярыся. *Fed., 354.*

1080. З зяцем дзярыся — за клямку бярыся, з сынам дзярыся — на печку грабіся. *Сах.*

а) З сынам сварыся — за печ бярыся, а з зяцем сварыся — за дзверы бярыся. *Fed., 296; I. Вайганіца, 1965, Іў. 13.10.1.*

б) З сынам біся, да на кут дзярыся, а з зяцем сварыся, да за клямку дзяржыся. *А. Фядосік, 1962, Капатк. 8.1.73.*

в) З сынам біся, да на кут грабіся, а з зяцем мірыся, да за парог дзярыся. *Нос., 158.*

1081. Дзе зяць паганы, там цешчу запрагаюць у сані. *1961, Калінк. 13.9.5.*

1082. Такі зяць: як п'яны, дык вітаецца, а як цвярозы, дык ругаецца. *М. Грынблат. 1971, Глыб. 8.2.43.*

1083. Як цёшчы зяць укроіць хлеба, то кажа: на хутчэй, бо пераломіцца; а як жонцы: на, бо рука замлела. *Fed., 354.*

1084. Скараў бог цёшчу за зятнія (зяцёвы) грахі. *Dybow., 17; Fed., 58.*

1085. Зяць — толькі ўзяць. *Г. Прытычанка, 1960, Карм. 13.3.29.*

а) Зяць любіць узяць. *Радч., 247. Вар.: Дуб., 23; Fed., 354; Л. Царанкоў, 1960, Хоц. 13.9.2.*

б) Цесць любіць чэсць, а зяць любіць узяць. *Ром., Зап., III, 232; Сах.; Жанч., 228; С. Маісеенка, 1965, Жлоб. 13.3.25. Вар.: 1961, Кап. 13.9.5; Ю. Ботвін, 1967, Вайк. 13.10.28.*

1086. Зяць за парог — цёшча за яешню. *Г. Прытычанка, 1960, Карм. 13.3.29.*

а) Зяць на двор — цешча за яйцы. *В. Лашчэўская, 1967, Дзятл. 13.10.28.*

б) Зяць на двор, то й чарка на стол. *Fed., 354.*

1087. Цешча жыва, калі трапіў на абед. *Сержп., 71.*

1088. Зяць усё пажрэ: яйца зварыць і юшку пажлукціць. *К. Кабашнікаў, 1962, Гом. 8.1.77.*

1089. Зяць любіць цёшчу багатую, а жонку здаровую. *Л. Царанкоў, 1960, Хоц. 13.9.2.*

1090. Няма ў хаце сала й малака, дык няма й прымака. *1961, Калінк. 13.9.5.*

1091. Прымак адным вядром восем гадоў ваду носіць. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

1092. Прымачы хлеб — сабачы. *Fed., 250; Pietk., 388; М. Расюкевіч, 1965, Навагр. 13.10.2; М. Бандарэнка, 1966, Маз. 13.3.29; Ю. Ботвін, 1967, Вайк.; В. Лашчэўская, 1967, Дзятл. 13.10.28.*

а) Прымацкі хлеб — сабацкі. *Шейн, II, 480, Барыс. п. Вар.: Pietk., 388; А. Русіновіч, 1954, Светл.; А. Фядосік, 1960, Капатк. 8.1.76; А. Якіменка, 1966, Б.-Каш. 13.3.29.*

б) Доля прымацкая — сабацкая. *Tyszk., 419; Шпил., 179; Нос., 36; Дуб., 14.*

1093. Хто ў прымах не бывае, той і гора не знае. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

1094. Прымак — тэй жа парабак. *Нос., 137; Дуб., 45; І. Цішчанка, 1969, Слаўг. 8.2.21.*

1095. Прымачку́ і торбачка на кручку. *В. Мінкелевіч, 1949, Кір. 8.1.24.*

1096. Прымак пятнаццаць гадоў цёшчынага ката на «вы» заве. *Янк. М., 30.*

1097. У пры́мічах быў, праз плот не пераскочыў. *Fed., 250.*

1098. Быў прыста́ў, ды растаў. *Г. Прытычанка, 1960, Карм. 13.3.29.*

1099. Пусці зяця, калі няма чорта ў хаце. *Нос., 141.*

1100. З панам у дружбу не ўхадзі, жонцы праўды не кажы і дольніка ў двор не бяры. *Нос., 158.*

а) Дольніка на двор не бяры. *Дуб., 15.*

1101. Ад прыма́ка ўцякае і сабака. *Г. Цітовіч, 1948, Дзівін. 8.1.22.*

1102. Аднаго Юрку ўпусцілі, а ўся хата заю́рылася. *Нос., 119. Вар.: Fed., 131.*

а) Хата не вінавата, што пусціла Ігната. *А. Якіменка, Б.-Каш. 13.3.29.*

б) Кандрат не вінават, да вінавата хата, што ўпусціла Кандрата. *Pietk., 313.*

в) Ігнат не вінават, і Аўгіння не вінна, вінавата хата, што пусціла Ігната. *Ром., Бел., I, 297; Добр., Смол., 12; Цар., 243, Мінск.*

г) Вінавата хата, што радзіла Ігната. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

1103. Вінавата хата, што няма Ігната. *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

1104. Думаць трэба, як ажаніцца, а ў пяць разоў больш, як разжаніцца. *Янк. М., 125.*

1105. Каб ажаніцца, даў бы вала, каб разжаніцца, даў бы два. *Калянд., 1939.*

1106. Жонка не бот — не скінеш. *Нос., 43.*

а) Жонка не лапаць — з нагі не скінеш. *І. Вайгяніца, 1963, Іў. 13.10.1. Вар.: У. Іваноў, 1958, Мінск 13.5.17.*

б) Жаніцьба не лапаць — з нагі не скінеш. *Добр., Смол., 8.*

в) Жонка не рукаў — не адпораш. *Fed., 366.*

1107. Жэняцца — скачуць, разводзяцца — плачуць. *М. Бохан, 1965, Маст. 13.10.3; Янк. М., 142.*

1108. Сабірай свае манаткі і марш дахаткі. *А. Фядосік, 1962, Капатк. 8.1.76.*

1109. Жонку да мужыка вязуць, а назад пяшком ідзе. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

1110. Пашоў у прочкі, каб не быць укупе. *Сержп., 6.*

1111. Пайшоў у прочкі — астаўся без сарочкі. *Шпил., 172.*

а) Прочкі ходзяць без сарочкі. *Нос., 141.*

б) Прочкі робяць без сарочкі. *Дуб., 46.*

1112. Не прочкі ў дочкі, а марцовая пара́. *Ляцкий, 30.*

1113. Пры табе не густа, да й без цябе не пуста. *Нос., 138; Ром., Зап., III, 229.*

а) Пры табе добра і без цябе не кепска. *Ляцкий, 36.*

б) Што з ім, што без яго. *Ром., Бел., I, 314; Ляцкий, 60; Сержп., 64.*

в) Як пры том, так і без таго. *Нос., 196.*

г) Хоць з ім, хоць без яго. *Fed., 131.*

1114. I з Пракопам, і без Пракопа — то ўсё роўна. *Czeczot, 109.*

а) Чы з Пракопам, чы без Пракопа — усё адно. *Tyszk., 426; Шпил., 181; Dybow., 10. Вар.: Крэмнеў.*

б) Ці пры Пракопе, ці без Пракопа. *Dybow., 7.*

1115. У сіроцтве жыць — слёзы ліць. *Сах.; Сержп., 52; Жанч., 111.*

1116. Сіратлівае жыццё не радасць. *Ляцкий, 41.*

1117. Сіраце заўсёды вецер у вочы. *Сцяшк., 608, Шчуч.*

1118. Сіраце і ў раю самотна. *Цар., 247, Мінск.*

1119. Як у полі асіна — так і сіраціна: яе вецер гне і мачаха б'е. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

1120. Каму месяц свеціць, а ад сіраты хаваецца. *Лужанін, 48.*

1121. Як батрацкая жысць, так і сіроцкая. *Добр., Смол., 107.*

1122. Харашо сіраце ў людзя́х, да заскрыпіць скора ў грудзях. *Жанч., 111.*

1123. Хто сіратою не бываў, той і ліха не знаваў. *Сержп., 52; Жанч., 111.*

1124. Сіро́цее жыццё як гарох пры дарозе: хто ідзе, той ускубне́. *Fed., 278.*

1125. Сіроцкую галоўку дожджык памые. *Жанч., 111. Вар.: Янк. М., 19.*

1126. Галоўка, як у дзіцяці, што не знае ні бацькі, ні маці. *Ляцкий, 7.*

1127. Сірата ходзіць між двор: ідзе дзень, ідзе ноч. *Добр., Смол., 107.*

1128. Свет вялік, а сіраце дзецца недзе. *Жанч., 111.*

1129. Сірата — дурата. *Сержп., 52.*

а) Што сірата, то дурата. *Добр., Смол., 107.*

б) Сірота — уся дурота. *Ром., Бел., I, 308.*

в) Сірата — вечна дурата. *Ляцкий, 41.*

1130. Мая сіроця сляза на сырую зямлю не ўпадзе. *Fed., 278.*

1131. Сонца свеціць і дождж ідзе — гэта сірата плача. *Цар., 247, Мінск.*

1132. Сірочая сляза і камень прабівае. *Жанч., 111.*

а) Сірочая сляза каменні крышыць. *Т. Багдзевіч, 1965, Шчуч. 13.10.6.*

1133. Сірочыя слёзы дармо не прападаюць (не прападуць). *Dybow., 17; Fed., 278.*

а) Сіроцкія слёзы дарам не мінуцца. *Бяльк., 264, Крыч.*

1134. Сірата сіраце жаліцца. *Ляцкий, 41.*

а) Сірата сіраце жаліцца аб бядзе. *Сержп., 24.*

б) Сірата сіраце жаліцца, што хата валіцца. *Жанч., 111.*

1135. Як сірата плача, то ніхто не бачыць. *Ворожб. Вар.: Ром., Бел., I, 305.*

а) Як сірата плача, то ніхто не бачыць, а як скача, то ўсе бачаць. *Fed., 278.*

б) Ніхто не бача, як сірата плача, а кожны бача, як сірата скача. *Ляцкий, 29. Вар.: Жанч., 111; Сах.; Г. Румоўская, 1963, Пліс. 13.10.40.*

в) Як сірата скача, то ўсе бачаць. *Ворожб.*

1136. Не раз сірата кулаком уватрэцца. *Сержп., 38; Жанч., 111.*

а) Не раз сірата кулаком слёзы ўтрэць. *Добр., Смол., 107.*

б) Сірату і лаюць, і б'юць, і плакаць не даюць. *Сержп., 53; Жанч., 111.*

1137. Бог сіротаў любіць, але долі не дае. *Гильт., 292, Віл. п. Вар.: Дуб., 6; У. Іваноў, 1958, Мінск 13.5.17; Т. Багдзевіч, 1965, Шчуч. 13.10.6; І. Вайгяніца, 1965, Іў. 13.10.1; М. Гваздзёў, 1960, Рэч. 8.1.58.*

а) Бог даў сірот, ды не даў долі ім. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

1138. Над сіратой бог з калітой. *Czeczot, 111; Tyszk., 412; Шпил., 184; Гильт., 289; Dybow., 184; Fed., 278; Pietk., 342; Дуб., 39; Бяльк., 405, Крыч.*

а) За сіратою, кажуць, сам бог з калядою. *Дуб., Нар., 1.*

1139. Тады сіраце нядзеля, як кашуля бела. *Fed., 278; Вар.: Сержп., 52; Жанч., 111. Вар.: Добр., Смол., 107.*

1140. Кашэль вялік, луста ма́ла — не родная матка клала. *Добр., Смол., 167. Вар.: Жанч., 111.*

1141. Ніхто не ведае, як сірата абедае. *Fed., 278.*

1142. У сіраце дапрэець у жываце. *Добр., Смол., 107.*

а) Сіраце дакіпіць і ў жываце. *Fed., 278; Янк. М., 19. Вар.: А. Фядосік, 1962, Капатк. 8.1.76; А. Хутко, 1966, Зельв. 13.10.26.*

1143. *Як сіраце жаніцца, дак (то) і ноч кароткая. У. Іваноў, 1958, Мінск; А. Фядосік, 1962, Капатк. 8.1.76; М. Бандарэнка, 1966, Маз. 13.3.29.*

а) Захацелася сіраце жаніцца, дык і ноч кароткая. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

1144. Куды, воўча, ідзеш? — Па сірочае. *Pietk., 351.*

1145. Без маткі нешчаслівы дзеткі. *Fed., 180.*

1146. Цяжка саду без зязюлі, цяжка доньцы без матулі. *Янк. М., 39.*

1147. Усё ёсць, недастае толькі мамы і таты роднага. *Fed., 46.*

а) От, усяго ест дабра, толька бацька да мацеры бракуе. *Fed., 72.*

1148. Дзе сіраце бацька ўзяць, калі яго зроду не было. *Fed., 278. Вар: У. Іваноў, 1958, Мінск 13.5.17.*

1149. Бацькоў зямля ўзяла — дзеткам воля свая. *Сержп., 54.*

1150. Сірата-сіратой: ні бацькі, ні маткі, і самому пад семдзесят. *Ляцкий, 41.*

1151. Удава — бедная галава. *Суяшк., 617, Бераст. Вар.: Fed., 317.*

а) Удовушка, удава, пабедная галава. *Дуб., 62. Вар.: Добр., Смол., 11.*

б) Удовушка — бедная галовушка. *Жанч., 246.*

1152. Ніхто не чуе, як удава кукуе. *Мін.-Мал., 1970, 163, Узда.*

1153. Жыццё ўдавінае — савінае. *Жанч., 246.*

а) Удавінае дзела, як савінае. *Добр., Смол., 9.*

б) Сава — удавіна галава. *Нос., 153.*

в) Саве ды ўдаве адна доля. *С. Маісеенка, 1965, Жлоб.*

1154. Сем гадоў удавою, не чую зямлі пад сабою. *І. Сагарава, 1950, Браг. 8.1.35.*

а) Як была сем лет удавою, то не чула ножак пад сабою. *Fed., 317.*

1155. Без мужа цягні жылы, пакуль жыва. *Жанч., 246.*

1156. Худа з худым мужам, а без мужа хужэй дужа. *Жанч., 246.*

1157. Баба без мужыка, як калёсы без каня. *«ЛіМ», 1969, № 71.*

1158. Удаву па двары пазнаеш. *Янк. М., 20.*

1159. Удовіна і сякера не сячэ, і кабылка не вязе. *Сцяшк., 612, Слон.*

а) Удовіна і сякірушка не сякець, і кабылушка не вязець. *Добр., Смол., 11; Жанч., 246.*

1160. Бабылкіна жыццё — нету нічаго: за што ні хвацiся, за ўсім у людзі кацiся. *Добр., Смол., 4.*

1161. Над удавою бог з калітою. *Fed., 317.*

1162. Па вошта, воўча, ідзеш? — А па паследняе ўдовінае парася. *Нос., 128; А. Фядосік, 1962, Капатк. 8.1.76.*

а) Куды, воўча, ідзеш?—Па ўдавінае апошняе. *Сержп., 25.*

б) Куды бяжыш, воўча?— Па ўдовіна ды па сіроча. *Мат., 174.*

1163. Удовушка-удава, гуллівая галава. *Ляцкий, 48.*

1164. Вантроба не мяса, а ўдава не дзеўка. *Fed., 326.*

1165. Ні дзеўка, ні ўдава. *Мін.-Мал., 1970, 163, Уздз.*

1166. Хто ўдаву мінае, той шчасця не мае. *Fed., 317; Сержп., 63.*

1167. У ўдовы хлеб гатовы. *Fed., 318.*

1168. Не дай бог на чужых дзяцей ісці. *Сержп., 54.*

а) Не дай божа йсці на чужыя дзеці. *Мін.-Мал., 1970, 163, Уздз.*

б) Не дай бог чужымі дзецьмі загадваць. *Дуб., 38а. Вар.: Tyszk., 488; Dybow., 192.*

1169. Бяда дзеду без бабы. *У. Іваноў, 1958, Мінск 13.5.17.*

а) Бяда дзеду без бабы: ядуць вошы да скабы. *Шейн, II, 473, Слон. п.*

1170. У ўдаўца — два нараўца, а ў удавы — два наравы. *К. Кузняцова, 1960, Нясв. 8.1.55.*

1171. У ўдавы два валы — яна плача, а ў удаўца адна аўца — ён скача. *Fed., 317.*

а) У ўдаўца адна аўца, а ўдавец такі скача, а ў удавы чатыры валы і такі ўдованька плача. *Fed., 317.*

## РАДЗІНЫ, ХРЭСЬБІНЫ

1172. Не ўздыхай цяжка, бо панясеш лёгка. *Fed., 323.*

1173. Малое да большаму завада. *Нос., 76; Дуб., 37.*

1174. Дай бог душу, як у грушу. *Fed., 87.*

1175. Будуць дзеткі, хоць дробненькія. *Сержп., 68.*

1176. Жонка твая сяменніца (сямейніца), што год — то ўдод. *Нос., Слов., 630; Дуб., 20.*

1177. Родзіцца дзіцёнак — гатуй пялёнак. *Ляцкий, 38.*

1178. Не спадзейся на куму, шый сарочку і пеляну. *Fed., 157.*

а) Не спадзявайся на хрэсную маці, сваю кашулю шый. *Сах.*

1179. Пагадзі радзіць, дай па бабу схадзіць. *Нос., 128; Дуб., 47; Сержп., 45.*

1180. Смерць і радзіны не глядзяць аніякай гадзіны. *К. Кабашнікаў, 1963, Тур. 8.1.84.*

а) Смерць і радзіны не ждуць добрай гадзіны. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29. Вар.: Т. Сайкоўская, 1960, Ашм. 13.10.6.*

1181. Не загубіла, а душу на свет пусціла. *Сержп., 54.*

1182. З пасмеху бываюць людзі. *Pietk., 395.*

1183. Шалы-шалы — вот і дачакаўся. *Ляцкий, 59.*

1184. Жонка сына раджаець, рэдзькі бажаець. *Нос., 43; Дуб., 34; Сержп., 62.*

1185. Дзевачка была б, да пятух запеў, як ражалася. *Нос., 34.*

а) Жанчынка ражалася, да пятух запеў, хлопец паспеў. *Нос., 41.*

1186. Радзіла малайца — акурат, як айца. *Сержп., 53.*

1187. Як сын родзіцца, дык бацька строіцца, а як дочка — дык гарыць. *К. Кузняцова, 1963, Глыб. 8.1.80.*

1188. Не ноччу радзіўся, а днём і з агнём. *Нос., 101.*

1189. Родзіцца ўрода, не паможа і фэршал. *Ляцкий, 38.*

1190. Не соладка ляжаць у полазе. *Сержп., 15.*

1191. На вяселле ідуць з вачамі, а на ксціны — з жыватамі. *Нос., 83.*

а) На вяселле йдуць з вачыма, на хаўтуры — з песнямі, на хрэсьбіны — з брухам. *Сах.*

1192. Бабка паходзіць, сяму-таму пасобіць. *Ром., Зап., I, 215.*

1193. У нашай Кацярыны штодзень хрэсьбіны чы радзіны. *Ляцкий, 50; Сержп., 36.*

а) У нашай Кацярыны вяселлі і крысціны. *I. Суконкін, 1960, Церах. 13.3.29.*

1194. Бабка на гарэлку слабка. *Л. Ткачова, 1965, Арш. 8.1.97.*

1195. Бабка — жабка. *М. Грынблат, 1967, Мінск.*

1196. Не руш бабіных ігруш. *Дуб., 38.*

а) Бабіных груш не руш; свае трасі, бабе нясі. *Tyszk., 420; Шпил., 175. Вар.: Нос., 102; Сержп., 72; Дуб., 37.*

б) Не руш бабіных груш, баба натрасе, то сама прынясе. *Fed., 13.*

1197. Хто бабе не ўнук. *Нос., 175; Fed., 12.*

1198. І пашыла, і надзела, і на бабку паглядзела. *Dybow., 9.*

1199. Каго добра ўважаюць, то й з тым кумаюць. *Fed., 323.*

1200. Кала пекла жывучы, то трэба і чорта за кума папрасіць. *Fed., 232.*

а) Жывучы ля пекла, і чорта з чарціхаю ў кумы папросіш. *Pietk., 335.*

1201. Кумаўство не вялікае сваяўство. *Папан., 80.*

а) Кумаўство не вяліка прыяцельства. *Fed., 157.*

1202. Кум куме палцінку, а кума — халсцінку. *Нос., 71. Вар.: Ром., Бел., I, 299.*

1203. Гнісь, кум, не гнісь, да кала кішэні павярнісь. *Нос., 25.*

1204. У добрай гадзіне то і кум пабраціне. *Fed., 98.*

1205. Не быўшы кумам, не піць піва. *Л. Малаш, 1969, Докш. 8.2.22.*

1206. Не біўшы кума, не піць піва. *Czeczot, 111; Мальч.; Шпил., 185; Киркор, 236; Нос., 92; Dybow., 184.*

а) Не біць кума — не піць піва. *Ром., Зап., III, 225.*

1207. Куме, куме, дурны вуме! Хадзі за сем міль у піва. *Нос., 71.*

1208. Кум куму пазнаў і ў піва пазваў. *Дуб., Нар., 2.*

1209. Хоць кум, ды сабака. *Шпил., 187; Dybow., 191.*

а) Што кум, то й сабака, а як добры кум, то і за дзве сабакі. *Ром., Мат., 83.*

1210. Пускайся, куме, на дно — не траць дарам часу. *Pietk., 338.*

1211. Кум не кум, і дзіця ў воду. *Нос., 71.*

1212. Адкуль кума ідзеш, калі ўзвару не нясеш? *Сержп., 67.*

1213. Каму да чаго, а куме да ўсяго. *Сах.; В. Зубараў, 1957, Гом. 13.3.29.*

1214. Кума-сваха, падбірай крохі, мачай у тук. *Ляцкий, 18.*

1215. Кума б гаварыла, да замазана рыла. *Нос., 71.*

1216. Кума з возу — каню лягчэй. *1961, Брасл. 13.9.5.*

1217. Кума звяла з вума. *Fed., 157.*

1218. Кума́ ад кума без вума́. *Нос., 71.*

1219. Каб ведаць, калі кума будзе абедаць. *Ляцкий, 15. Вар.: Сержп., 65.*

1220. Калі б знаццё, што ў кумы піццё, і сам бы пайшоў і дзетак бы павёў. *Нос., 62; Дуб., 32.*

1221. У кумы і вада смачней. *Ляцкий, 49.*

1222. Спадзяваўся сытым быць, ажна кума есці не наварыла. *Ляцкий, 42.*

1223. То не кума, што з кумам не піла. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

1224. Хто кумы не цалаваў, той і мёду не знаў. *Ляцкий, 55.*

а) Хто кумы не цалаваў, той і слодычу не знаў. *Сержп., 67.*

1225. Сытай куме ўсё юр на ўме. *Дуб., Нар., 2.*

1226. Ехаў дахаты, а трапіў да кумы. *Ігнат.*

1227. Свае хаты не пазнаў, ды да кумы падыбаў. *Сержп., 129.*

1228. Кума не першы раз (год, дзень) замужам. *Цар., 244, Мінск.*

1229. Кума куму не зробе шуму. *Ляцкий, 18.*

1230. Усё воцат не водка, а кума не жонка. *Ляцкий, 51.*

1231. Як не кум, то да кумы не падладжвайся. *Янк., 330.*

## ДЗЕЦІ І ІХ ВЫХАВАННЕ

1232. Сваё дзіцятка міла. *Сержп., 54.*

а) Каждаму сваё дзіця міла. *Нос., 59. Вар.: Сержп., 53; Fed., 92.*

1233. Сваё дзіцятка мілей сэрцу маткі. *Ляцкий, 40.*

1234. Дзіцятка хоць і крыва, ды бацьку з маткаю міла. *Зах., 251.*

1235. Чорт свае дзеці любіць і ад сябе не пушчае. *Fed., 168.*

1236. Савіныя дзеці самыя харашэйшыя. *М. Грынблат, 1976, Лаг.*

1237. «Чые дзеткі харашэйшыя?» — «Мае,— кажа сава.— І лупаценькія, і кашлаценькія». *Янк. М., 31.*

1238. Маленькая, ды даражэнькая. *Янк. Н., 5.*

а) Хоць маленька, да дарагенька. *Fed., 177. Вар.: Pietk., 378.*

1239. У сваей маткі ўсе добрыя дзеткі. *Fed., 180.*

1240. Хата без дзяцей — магіла, а з дзяцьмі — базар. *Янк. М., 125.*

1241. Каторага пальца не ўрэж, то ўсё баліць. *Fed., 213.*

а) Каторага пальца не ўрэж, то кажан баліць; будзь катораму дзіцяці кепска, то ўсё бацькам сэрца баліць. *Fed., 92.*

б) Які палец не ўкусі, роўна балячо. *Сержп., 53. Вар.: А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

в) Пяць пальцаў на руцэ, а кожны баліць аднака. *Pietk., 312.*

1242. У маткі нямаш ружніцы для дзіцяткі. *Ляцкий, 49.*

1243. Двое дзетак, як дзве окі ў лобе. *Fed., 91.*

1244. Дзіця за палец, а маці за душу (за сэрца). *Fed., 91.*

а) Узяў дзіця за руку — матку за сэрца. *Tyszk., 420; Шпил., 190; Нос., 13; Dybow., 190; Дуб., 64.*

1245. Як дзіця плача, маткі сэрца з жалю скача. *Fed., 92.*

1246. І ваўчыха сваіх дзяцей любіць. *Сержп., 52.*

а) Ваўчыха і тая сваё дзіця беражэ. *Сержп., 54.*

1247. Сваё дзіця не шчаня: за плот не выкінеш. *І. Цішчанка, 1971, Брасл. 8.2.49.*

1248. Дзеткі за шчэпкі (трэскі, скепкі), а маткі (мацяркі) за дзеткі. *Нос., 34; Pietk., 319; А. Куцакова, 1957, Раг.; А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

1249. Кажда матка сваіх дзяцей не абманець. *Fed., 180.*

1250. Усякая матка хваліць сваё дзіцятка. *Ляцкий, 51. Вар.: Сержп., 52; Г. Румоўская, 1963, Пліс, 13.10.40.*

1251. І сава сваіх дзяцей хваліць. *1961, Брасл. 13.9.5; І. Вайгяніца, 1965, Іў. 13.10.1; Дразд.; Г. Румоўская, 1963, Пліс. 13.10.40.*

1252. Дзеткі маленькія, а вочкі як боб. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

1253. Многа дзяцей — многа клопату, але і радасці шмат. *Абаб.*

1254. Дзеці маючы, хоць бедна жыву, але весялюся. *Янк. М., 125.*

1255. Багат Аўдзей (Хвадзей, Андрэй), поўна хата дзяцей. *Шпил., 175; Шейн, II, 472, Барыс. п.; Сержп., 24; Жанч., 87; А. Рахунак, 1967, Слон. 13.10.20.*

а) Як той кажа верабей: ніц, ніц, а поўна страха дзяцей. *Fed., 326.*

1256. Быў бы каваль да каваліха, будзець гэтага ліха. *Нос., 10; Нос., Слов., 240; Дуб., 6; Добр., Смол., 29.*

1257. Муж не глядзіць у гаруд. *К. Кабашнікаў, 1970, Астр. 8.2.34.*

1258. Што рок, то прарок. *Fed., 244, 262.*

а) Младзенец што рок, то прарок. *Дуб., 36.*

1259. Адно ў пушку, другое ў трыбушку. *Fed., 252.*

1260. Аднаго да долу, другога да дому. *Fed., 80.*

1261. Чые мруць, а нашы як із вады йдуць. *Добр., Смол., 29.*

1262. Пацей, Мацей, калі многа дзяцей. *Сержп., 136; Ляцкий, 20.*

1263. Даў бог дзеці, ды няма дзе дзеці (падзеці). *Шейн, II, 475, Ігум. п.; Жанч., 87; Л. Задаля, 1967, Клецк. 13.10.24; М. Расюкевіч, 1965, Навагр. 13.10.2.*

а) Дзеці, дзеці, дзе ж вас падзеці? *Fed., 92. Вар.: Ляцкий, 31; Жанч., 87; М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

б) Дзеці, дзеці, дзе вас падзеці, ці ваўкам аддаці, ці сабакам паўкідаці? *Янк. М., 124.*

1264. Жонка, ці звонка, дзеткі ці гудуць? *Нос., 43; Дуб., 20; Сержп., 68.*

1265. Мне ні на жонку, ні на дзеці, мне гэтага, што есць, недзе падзеці. *Fed., 210.*

1266. У яго коз воз і дзяцей за́гарадзь. *Л. Царанкоў, 1960, Касц. 13.9.2.*

1267. Хіба ў мяне коз воз, дзяцей хата? *А. Фядосік, 1962, Капатк. 8.1.76.*

1268. Дзеці, дзеці, добра з вамі ўлеце, а зімою то хоць аб печ галавою. *Fed., 92; Жанч., 87.*

1269. Хоць на грошы бяда, але дзяцей паддастаткам. *Fed., 116.*

1270. Былі недастаткі цераз дзень, а як дзеткі пайшлі — дык штодзень. *Жанч., 87.*

1271. Кабыла дваццаць жарабят прывяла, а сама ў хамуце здохла. *Сцяшк., 594, Маст.*

1272. Не штука дзяцей мець — зарабіць на іх штука. *Ляцкий, 31.*

1273. Калі маеш дзіцятка, дык май і калыску. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

1274. Ані лыжкі, ані міскі, а павесіў тры калыскі. *М. Бохан, 1965, Маст. 13.10.3.*

1275. Дзяцей, як бобу, а хлеба ні дробу. *Жанч., 87. Вар.: Сцяшк., 588, Гродз.*

1276. Калі дзіця на свет прыходзіць, новы кусок хлеба родзіць. *Dybow., 182.*

1277. Дасць бог раточак, дасць і кусочак. *Fed., 36.*

а) Даў бог раток, даець і кусок. *Ляцкий, 9.*

б) Калі бог дасць дзеткі, дасць і на дзеткі. *Tyszk., 412; Шпил., Бел., 181; Dybow., 11.*

в) Дасць бог дзяцей, дасць і на дзяцей. *Крэмнеў.*

г) Бог даў дзеткі, дасць і на дзеткі. *Dybow., 8; Pietk., 358.*

1278. Каму дзяцей радзіць, дай божа таму паіць і карміць. *Ром., Зап., III, 222.*

1279. Адзін рукаў і тэй падзяру ля сваіх дзяцей. *Добр., Смол., 28.*

1280. Абы было каму есці, а будзе што есці. *Мат., 143.*

1281. З разумнымі дзеткамі і без грошай хораша. *Янк. М., 150.*

1282. Хто мае пчол, той мае мёд, хто мае дзяцей, то мае смурод. *Сержп., 53; Fed., 91.*

1283. Хто дзяцей не мае, той гора не знае. *Fed., 91. Вар.: Сержп., 53.*

1284. Без дзяцей ціха, ды на старасці ліха. *Сержп., 53.*

1285. Без дзяцей — сухота, а з дзецьмі — пярхота. *Сержп., 53.*

1286. Чаго ты, сынку, плачаш? — Што я ў бацькі адзін. *Fed., 296.*

1287. Адно дзіця — то так, як годнага. *Fed., 91.*

1288. Адно і то не ладно. *Fed., 5. Вар.: 6.*

1289. Адно дзіця, то так, як жадно, а двое, то палавіна дзіця, а як трое, то ўжо дзіця цэлае. *Fed., 91.*

а) Адно дзіця — не дзіця, двое дзяцей — палова дзіцяці, трое дзяцей — гэта дзіця. *М. Грынблат, 1970, Лаг.*

б) Адзін сын — не сын; два сыны — паўсына; тры сыны — сын. *Нос., 118.*

в) Адзін сын — не сын, два — паўсына, а тры — цэлая гаспадарка. *У. Іваноў, 1958, Мінск 13.5.17.*

1290. Няма ўнукаў — не купіш, многа — не прадасі. *С. Маісеенка, 1965, Жлоб. 13.3.29.*

1291. Няма горшай мукі, як апануюць унукі. *Л. Малаш, 1969, Докш. 8.2.22.*

1292. Гушча (каша) дзяцей не разганяе. *Czeczot, 108; Шпил., 178; Киркор, 235; Нос., 30; Ляцкий, 17; Pietk., 322; Fed., 121; Сержп., 10; Сцяшк., 586, Шчуч., 596, Гродз.; А. Фядосік, 1960, Капатк. 8.1.76; В. Калюк, 1965, Дзятл. 13.10.6; А. Рахунак, 1967, Зельв. 13.10.24; Т. Багдзевіч, 1965, Шчуч. 13.10.6.*

а) Гусцей дзяцей не разганяюць. *М. Грынблат, 1960, Сір. 8.1.47.*

1293. Куцця дзетак збірае, а квас разганяе. *Сержп., 17; Жанч., 87.*

1294. Ад куляшу растуць дзеці па целяшу. *Л. Царанкоў, 1960, Крыч. 13.9.2.*

1295. Свой квас дзяцей паеў. *Ляцкий, 40.*

1296. На воўка памоўка, а квас дзеці паеў. *Fed., 160.*

1297. Дзеці гадуй і торбу гатуй. *В. Санько, 1969, Слуцк.*

1298. Маці сама не з'есць, а дзіцё накорміць. *Дуб., 34.*

1299. З дзеткамі гора толькі да заціркі, а там — пайшло! *Янк., 127.*

1300. Дзіцяці ўсё салодкае смачна, а чырвона — хораша. *Fed., 91.*

1301. Бацька за парог, а дзеці за пірог. *Гильт., 289, Брэсц. п. Вар.: Fed., 91, 180, 221; Pietk., 329.*

1302. Ці адзін жвякнуў, то і ўсе: «Давай есць!» *Нос., 179.*

1303. Дзеткі, не будзьце едкі да не з'ешце бацьку ў лапцях. *Нос., 35; Сержп., 53; Жанч., 87.*

1304. Бацькі нажываюць горбам, а дзетушкі пражываюць горлам. *Ром., Зап., I, 215. Вар.: Янк. М., 48.*

1305. Карміў да вуса, кармі і да барады. *Ром., Зап., III, 221.*

1306. Што малы зносіць, а п'яны з'есць, то ўсё прапала. *Нос., 189.*

а) Што малое зносіць, а п'яны з'есць, то адна карысць. *Fed., 177. Вар.: Dybow., 18; Pietk., 378.*

б) Ці п'янага частуй, ці малога кармі — адно. *І. Цішчанка, 1956, Івац. 8.1.48.*

1307. Спіткі, з'едкі — не вам, мае дзеткі. *Мін.-Мал., 1970, 166, Узда.*

1308. Дзяцей гадаваць — трэба гора павідаць. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

а) Дзеткі гадаваць — век гараваць. *Ляцкий, 10; Жанч., 87.*

б) Дзеці гадаваць — гарачыя каменні глытаць. *Янк. М., 124.*

1309. Дзяцей гадаваць — век каратаць. *Вас., 30. Вар.: Fed., 92.*

1310. Гадуй дзеці — будзеш бяду меці. *Fed., 92; Вар.: Р. Мухляда, 1965, Шчуч. 13.10.5; А. Ліс, 1965, Смарг.*

1311. Дзяцей узгадаваць — не курак перашчытаць. *Жанч., 87.*

а) Дзетак узгадаваць — не курак пасклікаць. *Янк. М., 142.*

1312. Тагды матка бяду знае, як малое дзіця мае. *Сержп., 53.*

а) Тады маці дурная, як дзіця мае. *Fed., 174.*

1313. Бяда без дзяцей, але бяда і з дзецьмі. *Fed., 91.*

1314. З дзеткамі гора, а без дзетак удвое. *Жанч., 87.*

1315. Пакуль дзеці з пуху, матка з духу. *Л. Ткачова, 1961, Мядз. 8.1.66.*

1316. Пакуль дзеці вытаўкуцца, нагаруемся. *Сержп., 135.*

а) Пакуль вытаўкуцца, намарнуешся многа. *Ляцкий, 32.*

1317. Чужэй век узрасціць — свайго прыўкраціць. *Добр., Смол., 28.*

1318. Малыя дзеткі — малыя і бедкі. *Дуб., 34; В. Іваноўская, 1963, Леп., 8.1.83.*

а) Малыя дзеці — малое і ліха. *Сержп., 53.*

б) Малыя дзеці — малы клопат, бальшыя дзеці — бальшы клопат. *Нос., 76. Вар.: Дуб., 34; Fed., 92.*

1319. Дзеці растуць — бяда падрастае. *Fed., 92.*

1320. Да дванаццаці гадоў дзіця чорту робіць работу. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

1321. Малыя дзеці — галава баліць, вырастуць — сэрца. *Абаб.*

1322. Няшчасце ў дзецях, няшчасце ў лецях. *Нос., 109; Сержп., 23.*

а) Не я ў дзецях, не я ў лецях. *Fed., 92.*

1323. Дзеткі падраслі — хатку растраслі. *Czeczot, 108; Шпил., 179; Киркор, 235. Вар.: Нос., 35; Fed., 92; Дуб., 13; Сах.*

а) Як дзеці падраслі, то й куткі растраслі. *Fed., 92.*

1324. Як хатку будавала, дык дзетак гадавала; як дзеткі падраслі, дык і хатку растраслі. *Цар., 247, Мінск.*

1325. Дачакалася Знайда помачы: сама ляжыць, а дзеткі брэшуць. *Янк., Абр., 34, Глуск.*

1326. Дзеці вырастаюць і мятуць: у іх свой клопат, яны свае гнёзды ўюць. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

1327. Дзіця — хвароба, не ўмучыць, да скрывіць. *Fed., 91.*

1328. Нашто лепшы клад, калі ў дзетках лад? *Нос., 91; Дуб., 39.*

а) Нашто мне й клад, калі мае дзеці ў лад. *Ром., Бел., I, 302.*

1329. Дай бог дзяцей, да і ў дзецях пуць. *М. Гваздзёў, 1960, Рэч. 8.1.58.*

1330. Калі сумелі нажыць, сумеюць і нагадаваць. *Г. Барташэвіч, 1964, Сен. 8.1.90.*

1331. Не гадуючы малога, не мецімеш вялікага. *Fed., 177.*

а) Як не маеш маленькага, не будзеш мець старэнькага. *Хрэстам., 240.*

1332. Дагледзь мяне ў маласці, а я пашаную цябе ў старасці. *Дуб. 13.*

1333. Твае дзеці — табе й глядзеці. *Ляцкий, 45; Сержп., 3.*

1334. Хто народзіць дзяцей, тэй і выхадзіць. *Добр., Смол., 29.*

1335. Да зубоў наясіся, а да дзяцей наспішся. *Нос., 36.*

1336. Пры дзіцяці запачыне маці. *Fed., 93.*

1337. Дзіцёнак — мой будзёнік. *Бяльк., 182, Краснап.*

1338. Дзевачка спіць, а мамка ксціць. *Нос., 34.*

1339. Каля лаўкі ходзячы, ліха не знае. *Сержп., 52.*

1340. Дзіця, не ўпаўшы, не вырасце. *Сержп., 54. Вар.: Добр., Смол., 29.*

а) Рабёнак, не ўдарыўшысь, не вырасцець. *Добр., Смол., 29.*

1341. Малы ма́лец — бог падушачкі падкіда́ець. *М. Грынблат, 1971, Паст. 8.2.43.*

1342. Як вылез, так і вырас. *Л. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

1343. Тата — шаг, а сынок — два. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

1344. Ад лецечка да лецечка чакай, маё дзецечка. *Сержп., 5.*

1345. Каля губ маткіна малако яшчэ не абсохла. *Нос., 66, 77.*

1346. Уцеха з дзяцей, пакуль малыя. *Ляцкий, 52.*

1347. Чым бы дзіця ні цешылася, абы не плакала. *І. Вайгяніца, 1968, Іў. 13.10.1.*

1348. На ката пацягушкі, а на дзіця растушкі. *Нос., 85; Дуб., 39.*

1349. Не плач, купіць мама калач. *Fed., 238.*

а) Не плач, купіць мама хахлач, алейцам памажаць і табе не пакажаць. *Нос., 101.*

б) Не плач, купіць мама калач, мёдам памажа, табе не пакажа. *Ром., Бел., І, 303; Сержп., 67; Ляцкий, 27.*

1350. Маеш курта́ч, дак і не плач. *Сержп., 7.*

1351. Плач, дзіцятка, плач, дастанеш калач. *Ляцкий, 35.*

а) Паплач яшчэ во так, дастанеш пятак. *Ляцкий, 33.*

1352. Дзіця не плача, маці не дагадаецца. *Czeczot, 108; Шпил., 179; Дуб., 17; Fed., 91.*

а) Дзіцятка не плачаць, мамка не знаець. *Нос., 35.*

б) Дзіця не плача, маці і не разумее. *Сцяшк., 588, Маст.*

1353. Дзе многа нянек, там дзіця без носу. *Гильт., 290; Пруж. п.; Нос., 23. Вар.: Fed., 201; А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15; Л. Тур, 1965, Руж. 13.10.6; Г. Румоўская, 1963, Пліс. 13.10.40.*

а) Дзе багата нянек, там дзеці бязносыя. *Pietk., 331.*

б) Дзе нянек многа, там дзіця бязнога. *Шейн, II, 475, Ваўк. п.; У. Іваноў, 1958, Мінск 13.5.17.*

в) Віш, дзіця бязнога, мусіць, нянек многа. *Ляцкий, 6.*

1354. Для дзіцяці адна ноч маці, а другая — мачаха. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

1355. Дзіцятка спіць, а долька расцець. *Дуб., 15.*

1356. Сем лет, і памяці нет. *Нос., 148; Mien., 396; Fed., 216.*

1357. Дзяціны час, дзяціны розум. *Сержп., 60.*

а) У дзіцяці дзіцячы і розум. *Сержп., 52.*

1358. Што ён знае: з носа ды ў рот. *Fed., 359.*

а) Што ён знае: з носа кап ды ў рот хап. *І. Саламевіч, 1975, Слон. Вар.: Сержп., 59.*

1359. Адно сынішча і то дурнішча. *Л. Царанкоў, 1960, Рэч, 13.9.2.*

1360. Родзіцца дзіця на куццю, дык гэта дурань. *Т. Новак, 1973, Ельск. 13.10.71.*

1361. Не знаець маленькі, адкуль ногі растуць. *Нос., 98.*

1362. Пара́ розум узяць у зубы. *Нос., 134.*

1363. Байбусам вырас, да вума не вынес. *Нос., 4.*

1364. І падрос і вырас Янучок, а Янкам не стаў. *Янк. М., 99.*

1365. Як адна сарочка хвост задзярэ, то за ёю ўсе. *Fed., 272.*

1366. Жэб маяму дзіцяці той розум наперадзе, цо ў мужыка назадзе, то быў бы чалавек. *Fed., 93.*

1367. Бацькіны дзеці — це вумны і разумны. *Добр., Смол., 107.*

1368. Яйца курыцу вучаць. *Добр., Смол., 114. Вар.: Нос., 188.*

а) Яйцы курэй не вучаць. *Мат. ГТ. Вар.: Fed., 124.*

б) Бывае, што і яйца курыцу вучаць. *Мін.-Мал., 1970, 158, Пух.*

в) Разумнейшыя яйца за куры. *Fed., 124.*

1369. Разумна дзіця не гадуецца. *Fed., 93.*

1370. Ласкавае дзіцятка дзве маткі ссе, а гордае ні адной. *Czeczot, 110.*

а) Пакорна дзіцятка дзве маткі ссе, а непакорнае нігоднае не ссе. *Гильт., 290, Пруж. п.*

1371. Добрае дзіця бацькоў мыслі адгадвае. *Fed., 91; Вар.: Цяшк., 589, Гродз.*

1372. Дзіця не салжэ. *Сержп., 52.*

1373. Дзіця і п'яны праўду скажуць. *Fed., 91.*

а) Малое і п'янае найлепшу праўду скажа. *Fed., 176.*

1374. Чалавек да сямі лет праўду гаворыць. *Fed., 61.*

1375. То ж і ліха, што дзіця ляжыць ціха. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

1376. Ліха дзіцяці так не ўморыць, як распатворыць. *Pietk., 367.*

1377. Не ўзяў чорт малога, то і вялікага не возьме. *Fed., 68.*

1378. Якая матка, такое й дзіцятка. *Нос., 193.*

а) Якая маці, такія дзеці. *Fed., 173, 180.*

б) *Якая мая мама, такая я й сáма. Нос., 193.*

в) *Якое дрэва, такая карá, якая маці, такая цурá. Fed., 82.*

г) *Якая дошка, такая стружка, якая маці, такая дачушка. К. Кабашнікаў, 1963, Шчуч. 8.1.84.*

д) *Якая клёпка, такая й бочка, якая маці, такая й дочка. С. Цярохін, 1975, Саліг.*

1379. Вока ў вока ўдаўся: па мацеры пашоў. *Fed., 336.*

1380. Ад злой маткі злыя і дзеткі. *Цар., 240, Мінск.*

1381. Калі матка ведзьма, то й дачка зелле знае. *Ляцкий, 16.*

1382. Балмошная матка — балмошнае і дзіцятка. *Дуб., 5; Нос., 4.*

1383. З пустога хлева пустое цéля. *Горленка, 249, Жытк.*

1384. Не з добрай мукі печань. *Нос., 98; Fed., 190.*

1385. Па татку дзіцятка. *Нос., 135. Вар.: Fed., 93.*

а) *Які бацька, такое й дзіцятка. Ром., Бел., I, 315; Ляцкий, 62. Вар.: Л. Царанкоў, 1960, Рэч. 13.9.2.*

б) *Які бацька, такія дзеткі. Fed., 17.*

1386. Добрага бацька — добрыя дзеці, ліхога — ліхія. *Fed., 91.*

1387. Без кораня і палын не расце. *Суяшк., 581, Гродз.*

1388. Калі бацька рыбалка, дак і дзеткі глядзяць у воду. *Нос., 62.*

а) *Калі бацька рыбак, то й сын у воду паглядае. Pietk., 390.*

1389. Што робіць воўк, то і ваўчаня. *Pietk., 340.*

1390. Аднаго бацькі дзеці. *Горленка, 248, Гом., Ветк.*

1391. Які бацька, такі сын. *Fed., 17.*

а) Які дуб (цялеш, явар, якое дрэва), такі і клін, які бацька, такі і сын. *Гильт., 288, Дзісен. п., 297, Вілен. п.; Радч., 249; Pietk., 319; М. Рымша, 1957, Маз.; Г. Прытычанка, 1960, Чач. 13.3.29; 1961, Кап. 13.9.5; М. Гваздзёў, 1960, Рэч. 8.1.58; Р. Мазгавая, 1967, Лід. 13.10.28; С. Цярохін, 1975, Саліг.*

б) Які дуб, такі тын, які бацька, такі сын. *Ром., Бел., І, 315; Fed., 315.*

в) Які дубок, такі і клінок, які бацька, такі і сынок. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

1392. Ніхто дзяцей не павіне, што іх бацькі свінні. *Ляцкий, 29.*

1393. Не будзь такім, як у твайго бацькі дзеці. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

1394. Якія бацькі, такія дзеці. *Fed., 16; У. Іваноў, 1958, Мінск 13.5.17.*

1395. Харошых бацькоў харошыя дзеці. *Мін.-Мал., 1970, 168, Узда.*

а) У добрых бацькоў і дзеці добрыя. *І. Сухонкін, 1960, Церах. 13.3.29; І. Вайгяніца, 1965, Іў. 13.10.1. Вар.: Fed., 16.*

1396. Адна маці радзіла, да не ў адно шчасце ўкупіла. *Fed., 298.*

1397. Усе адной маткі дзеткі, ды не адной розгай біты. *Сах.*

1398. Адной маткі ні аднае (ні адны) дзеткі. *Tyszk., 428; Шпил., 173.*

а) І ў адной жа маткі няроўныя дзеткі. *Dybow., 9. Вар.: Fed., 91, 92; Сержп., 9.*

б) Аднаго бацькі і адной маткі не роўныя бываюць дзіцяткі. *Нос., 119. Вар.: Сержп., 53.*

в) З аднае хаткі да няроўныя дзіцяткі. *Сержп., 53.*

1399. Ні ў радню, ні ў айца, а ў прахожага малайца. *Нос., 111.*

а) Урадзіўся ні ў маць, ні ў айца, а ў прахожага малайца. *Ляцкий, 50.*

1400. Калода гнілая, ды сук смаляк. *Ром., Бел., I, 299; Дуб., 30.*

а) Сук здаровы, а калода пагніла. *1961, Кап. 13.9.5.*

б) Хоць калодка гнілая, да сук смольны. *Fed., 134.*

1401. І на здаровай яблыні гнілы яблык знойдзецца. *Янк., 181.*

1402. На сухой яблыні салодкага яблыка не знойдзеш. *Янк., 183.*

1403. Хоць з адной печы, да не адзінакавы калач. *Fed., 134.*

1404. Мусе цярпець, хоць горка, бо свайго лесу ягада. *Ляцкий, 21.*

1405. Які род, такі плод. *Fed., 261.*

а) Якое семя, такое і племя. *А. Якіменка, 1966, Б.-Каш. 13.3.29.*

1406. Як добрае семя, дык і добрае племя. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

1407. Ад дрэннага семені не чакай добрага племені. *Ахрым., 18; У. Іваноў, 1958, Мінск 13.5.17.*

1408. Яблыка ад яблыні далёка не адкачваецца. *Сержп., 53; М. Грынблат, 1962, Дзятл. 8.1.74. Вар.: В. Курбацкі, 1960, Карм. 13.3.29; А. Фядосік, 1959, Лен. 8.1.44; А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

а) Яблыка недалёка коціцца ад яблыні. *Нос., 192.*

1409. Недалёка ад дзерава яблыка ўпала. *Ром., Зап., III, 226. Вар.: 1961, Кап. 13.9.5.*

а) Яблычка ад яблыні не адкацілася. *Fed., 124.*

1410. Ад яблыні — яблыкі, ад сасны — шышкі. *Янк. М., 88. Вар.: 1961, Брасл. 13.9.5.*

1411. Які куст, такі і адростак. *Нос., 193. Вар.: Ром., Бел., I, 315; Fed., 159, 232; С. Маісеенка, 1965, Жлоб. 13.3.25; В. Курбацкі, 1960, Карм.; А. Русіновіч, 1954, Светл.; С. Заянчкоўская, 1956, Церах. 13.3.29.*

а) Які куст, такі і пáрастак. *Цар., 248, Рэч.*

1412. Добрага куста добрыя адросткі. *Fed., 159.*

а) З добрага кýста то і добра капуста. *Fed., 159.*

1413. З дурнога куста і дубец крывы. *Т. Багдзевіч, 1965, Шчуч. 13.10.6.*

а) З дурнога кýста і ягада пýста. *В. Лашчэўская, 1967, Дзятл. 13.10.28.*

1414. Крывое дзерава ў сук расце. *М. Грынблат, 1974, Пух.*

1415. З пекнай кушчачкі — пекныя птушачкі. *Дуб., 23.*

а) З добрай кушачкі добрыя і птушачкі. *Дуб., 23. Вар.: Нос., 158.*

б) З харошага куста харошая і птушка вылеціць; плахі куст — плахая і птушка. *Г. Цітовіч, 1948, Руж. 8.1.23.*

в) З харошага целяша і трэска хараша. *Т. Лапаціна, 1961, Рэч. 13.3.24. Вар.: М. Канцавая, 1967, Чач.; А. Русіновіч, 1954, Свісл. 13.3.29.*

1416. Лыса карова лыса цяля прывядзе. *Fed., 138.*

1417. З лысага цяляці лысы вол будзе. *Fed., 57. Вар.: Янк. М., 89.*

1418. Па роду і куры чубатыя. *Fed., 158; Вар.: Pietk., 328; I. Цішчанка, 1971, Брасл. 8.2.49.*

а) Родам куры хахлатыя. *Tyszk., 427.*

б) Родам куры хахлаты, да не ўсе касматы. *Нос., 145.*

1419. Па гнязду відаць, якая птушка. *Сах.*

1420. Сава не ўродзіць сакалá. *Tyszk., 436; Dybow., 188. Вар.: Парэцкі, 131; Шейн, II, 481, Слон. п.; Нос., 153; Дуб., 55; Сержп., 78; Pietk., 342; Цяшк., 607, Слон.; Цар., 246, Рэч.; І. Ламека, 1965, Ваўк. 13.10.2; М. Шавель, 1960, Івац. 13.9.24.*

а) Сава не прывядзе сакала, а такую саву, як сама. *Dybow., 17. Вар.: В. Дашкоўская, 1965, Ваўк. 13.10.2.*

б) Сава не радзіць сакала, а такога ж чарта (дурня), як сама. *Ром., Бел., І, 309. Вар.: Сержп., 53; Fed., 273; А. Фядосік, 1959, Лен. 8.1.44; 1962, Капатк. 8.1.76; А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

в) Свіння не родзіць бабра, а сава не выседжвае арла. *Ром., Зап., III, 231.*

1421. Расце, на лес гледзячы. *Сержп., 29; Т. Багдзевіч, 1965, Шчуч. 13.10.6. Вар.: А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29; 1961, Брасл. 13.9.5; А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

а) Растуць дзеткі, на лес гледзячы. *Сержп., 52; Жанч., 87.*

б) Расце, на кол гледзячы. *Цяшк., 607, Лід.*

1422. Перахрысціў ды пусціў. *Гур., 92.*

1423. Расце не ўгару, а ў кару. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

1424. Што будзе, як год прыбудзе? *М. Грынблат, 1974, Пух.*

1425. Без маткі, без айца блукаецца, як гаўца. *Fed., 32.*

1426. Блазенскі век, блазенская й гульня. *Крэмнеў.*

1427. Не за то бацька сына біў, што сын іграў, а за то, што адыгрываўся. *С. Маісеенка, 1965, Жлоб. 13.3.25.*

1428. Дзетачкі ў лясачкі, матачкі ў сварачкі. *Fed., 92.*

1429. Балаўство даводзіць да вараўства. *Нос., 4.*

1430. Балаўство хужа вараўства. *Нос., 4.*

1431. Бацькі ў колкі, дзеці ў шчэпкі. *1961, Брасл. 13.9.5.*

1432. Куды конь з капытам, туды і рак з кляшнёю. *Нос., 70.*

1433. Не купіў бацька шапкі — няхай вушы мерзнуць. *Tyszk., 433; Czeczot, 111; Міеп., 396; Нос., 99; Dybow., 14; Сержп., 59, 139. Вар.: Шейн, II, 479, Ігум. п.; Fed., 297; Pietk., 345.*

1434. Дзіця — бадзячка, сядая галава бацькі. *Сах.*

1435. Бог на кепскія дзеці сварыцца. *Fed., 34.*

1436. Добра песціць, калі е, дзе змесціць. *Fed., 233.*

1437. Не трэба песціць, як ёсць, дзе змесціць. *Fed., 233.*

1438. З пестуна нічога не будзе. *Сержп., 29.*

1439. Мацерынай спадніцы дзяржыцца. *Fed., 179.*

1440. Першае дзіцятка — панятка. *Нос., 125; Дуб., 52; Сержп., 52.*

1441. Апошняе дзіцятка — панятка. *Fed., 91.*

1442. Гэтакаму паняці не ведаеш, што даці. *Дуб., 11.*

1443. Першы дзеткі — сакаляткі, а паследнія — вараняткі. *Ром., Зап., III, 229.*

1444. Паследкі-дзеткі — едкі. *Нос., 134. Вар.: Сержп., 54.*

1445. Што бабыльскі дзяцёнак, то прудніцкі парасёнак. *Добр., Смол., 4.*

а) Што бабыльская дочка, то прудніцкая свінка. *Добр., Смол., 4.*

1446. Байструкі заўсёды гладкі. *Ляцкий, 3.*

1447. Када міла ўтарая жана, не мілы первыя дзеці. *Добр., Смол., 11.*

1448. Хто дзяцей балуе́ць, вяроўку ім на шыю гатуець. *Нос., Слов., 13; Дуб., 70.*

а) Калі матка сына балуець, пятлю яму на шыю гатуець. *Нос., 64.*

1449. Чым больш кошку гладзіш, тым больш горб падымае. *М. Смурага, 1967, Свісл. 13.10.28.*

1450. Пагладзь ката, дык ён і хвост задзярэ. *Брыль, 113.*

1451. Апека вочы выпе́ка. *Fed., 9.*

1452. Лепш даглядзі, а за руку не вадзі. Сержп., 29.

1453. Песцяць, як першае да апошняе. *Сержп., 54.*

1454. Малому не патурай, а што трэба, дай. *Сержп., 29.*

1455. Сабаку пры малым пакідай, а ката адганяй. *Сцяшк., 607, Воран.*

1456. Няма чаго глядзець у зубы, пара прымушаць да работы. *Сержп., 68.*

1457. Малая пражка падчас многа пасобіць. *Fed., 245.*

1458. Чужымі дзецьмі не напасылацца. *Fed., 91.*

1459. Сваё дзіця бі — шкадуй, на чужое крычы — думай. *В. Санько, 1969, Слуцк.*

1460. Чужое дзіця — не сваё, не пажалееЦь. *Бяльк., 491, Мсцісл.*

1461. З чужога чарцяці не зробіш дзіцяці. *Сержп., 52.*

1462. Дзяцей гадаваць — волі не даваць. *Сержп., 28.*

1463. Воля то воля, а патáчку не давай. *Сержп., 28.*

1464. Дай волю — сам пойдзеш у няволю. *Добр., Смол., 15.*

а) Дай дзецям волю, то сам улезеш у няволю. *Fed., 91. Вар.: Pietk., 367.*

б) Пусці дзяцей па волі, сам будзеш у няволі. *Сержп., 53.*

1465. Дасі дзецям волю, адбярэш долю. *Сержп., 29.*

1466. Дай яму волю, дык ён і дзве возьме. *Янк. М., 68.*

1467. Умеў дзіця радзіць, умей і вучыць. *Сержп., 54.*

1468. Умей гуляць, умей і дзіця забаўляць. *Ляцкий, 49; В. Лашчэўская, 1967, Дзятл. 13.10.28.*

1469. Хто дзяцей мае, няхай навучае. *У. Іваноў, 1958, Мінск 13.5.17.*

1470. Старога паважай, малога павучай. *Сах.*

1471. Няшчасны тыя дзіцяткі, якіх не жураць ні бацькі, ні маткі. *Сержп., 53.*

1472. Дзетак не родзяць, а робяць. *К. Кабашнікаў, 1971, Мінск.*

1473. Пускаць на свет лёгка, ды на ногі ставіць цяжола. *Юрч., 1974, 277.*

1474. Дзіцяці трэба наравіць. *Fed., 91.*

1475. Не ўмеў гадаваць, умей выбачыць. *Ляцкий, 31; Сержп., 29.*

1476. Да пяці год пястуй дзіця, як яечка, з сямі — пасі, як авечку — тады выйдзе на чалавечка. *1961, Брасл., 13.9.5.*

1477. Не тады сына вучаць, як ён удоўж лаўкі ляжыць. *А. Якіменка, 1966, Б.-Каш. 13.3.29.*

а) Вучы дзіця, пакуль яно ўпоперак кравaці, а не ўздоўж. *М. Гваздзёў, 1964, Гом. 8.1.88.*

б) Тагды трэба была сеч, як упоперак лаўкі мог леч, а тагды не ўзмог, як уздоўж лёг. *Нос., 163.*

в) Як не наўчыў дзіцяці, калі месцілася ўпапярок лавы, то ўдоўж і пачынаць нечага. *Fed., 92.*

1478. Тагды дзяцей вучаць, як каля лаўкі ходзяць. *Сержп., 29.*

а) Вучы сына, як каля лаўкі ходзіць, бо як вырасце, то цябе навучыць. *Сержп., 54.*

1479. Гні дзераўца, пакуль гнецца. *Шейн, II, 475, Вілен. п. Вар.: Pietk., 319.*

а) Гні дрэва, пакуль маладое. *Сах.*

б) Гні галінку, пакуль маладзенька. *Fed., 99. Вар.: Пар., 131.*

в) Гні дубіну, пакуль маладая. *Fed., 83.*

г) Тады дубінкі гні, пакуль даюцца. *Fed., 83.*

д) Як не загнеш маладое дубінкі, то як устарэе — пераломіцца. *Fed., 83.*

е) Гні дзерава, пакуль маладое, бо потым не ўгіблеш. *Fed., 94.*

1480. Замáладу прыўчаць трэба. *Fed., 251.*

1481. Добра ўчыць паслушнага. *Fed., 222.*

1482. Не слухаў малы, не паслухае й вялікі. *Ляцкий, 30.*

1483. Не грукала варона замаладых лет, не будзе і на старасць. *Fed., 327.*

а) Калі не кракала варона, угару летучы, то ўніз і пагатоўю. *Tyszk., 416; Шпил., 182; Нос., 99; Шейн, II, 477. Вар.: Fed., 327.*

б) Калі не гракала мая варона, угору летучы, то ўніз і пачынаць нечага. *Fed., 327.*

в) Не крычала варона, угору лецючы, а ўніз і пагатове не будзе. *Ром., Бел., I, 303.*

1484. Не вылятала варона замоладу на вырай, то й не паляціць на старасць. *Fed., 327.*

1485. У маладосці не жалей сына косці, пад старасць бацьку падзякуе. *Ляцкий, 49.*

1486. Выхаваў дзіця ў ліхую гадзіну. *Ляцкий, 6. Вар.: Сержп., 52.*

1487. Нічым няймеш: ні просьбай, ні грозьбай. *Дуб., 40.*

1488. Разумнае дзіця баіцца гразы, а дурное — лазы. *Сержп., 53.*

а)Адно дзіця баіцца ківа, а другое кія. *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

б) Добрае дзіця паслухае ківа, а ліхое не слухае і кія. *Сержп., 53.*

в) Добры пабаіцца і ківа, а паганы не баіцца і кія. *М. Бандарэнка, 1966, Маз.; А. Куцакова, 1957, Раг. 13.3.29.*

г) Не слухаеш добрых слоў, пабаішся ліхога кія. *Fed., 282.*

1489. Не слухае ківа, паслухае кія. *Ром., Бел., I, 304; Ляцкий, 30. Вар.: А. Рахунак, 1967, Зельв. 13.10.24.*

а) Не баішся ківа, пабаішся кія. *Дуб., 38; Нос., 93.*

1490. Калі не слухаеш бацькоў, будзеш слухаць сабачай скуры. *Tyszk., 419; Шпил., Бел., 182; Dybow., 12.*

а) Хто не слухае бацькоў, то слухаціме сабачай скуры. *Fed., 15. Вар.: Pietk., 356.*

б) Паслухаеш сабачае шкуры. *Сержп., 41.*

в) Не слухаеш добрай рады, паслухаеш сабачай скуры. *Fed., 256. Вар.: Дуб., 38.*

г) Не слухаеш ні бацькі й маткі, паслухаеш барабаньскай скуры. *Ляцкий, 28.*

1491. Не навучыў бацька, не навучыць і дзядзька. *Зах., 251.*

1492. Не слухаў бацька і мацеры, няхай людзі вучаць. *Fed., 283.*

1493. Бацька і матка не выўчаць, дарожка наўчыць. *Mien., 395.*

1494. Хто бацькоў не слухае, той у пальцы дзьмухае. *Т. Багдзевіч, 1963, Воран. 13.10.6. Вар.: Сцяшк., 614, Воран.*

1495. Не паслухаеш ласкай, дык паслухаеш ляскай. *Сем.*

1496. Біць таго, хто бы плакаў, вучыць таго, хто бы слухаў. *Ром., Зап., I, 215.*

а) Б'юць таго, хто плача, а вучаць таго, хто слухае. *1961, Брасл. 13.9.5.*

1497. Што дам, то дам, а што наківаю. *Ром., Бел., I, 314.*

1498. Тады будзеш выць, як стануць біць. *Крэмнеў.*

1499. Плача Юрка, бо свярбіць скурка. *Сержп., 137.*

1500. Нашаму Атроху засыпалі гароху. *Крэмнеў.*

1501. Быў бы азадак, а лазы хопіць. *Сержп., 57.*

а) Абы дупкі, а бярозак хваціць. *М. Бандарэнка, 1966, Маз. 13.3.29.*

1502. Бі, бацька, будзе пшаніца расці. *Fed., 16.*

1503. Не бі, не гладзь. *Fed., 30.*

а) Не гладзь і не дзяры. *Fed., 110.*

1504. Не крычы, а лепш наўчы. *Дуб., 39.*

1505. Дзецям дарога — перасцярога. *Сержп., 15.*

1506. Не бі сабаку кіем, бо ён яшчэ больш брахаць будзе. *Fed., 269.*

1507. Не біце вяроўкамі, навучайце гаворкамі. *Янк., 142.*

а) Нада ўчыць не рэмнем, а словам. *Юрч., 1972, 161.*

1508. Розка не мучыць, а вучыць. *Сержп., 99.*

а) Розка не му́ка, а ўперад навука. *Сержп., 99.*

1509. Б'юць малога, то на ліха не учаць. *Fed., 176.*

1510. Любі дзіця, як душу, а калаці, як грушу. *Сержп., 53; Жанч., 87. Вар.: Fed., 92; Pietk., 368.*

1511.Ківам нічога не зробіш, хіба кіем. *Нос., 61.*

1512. Каго словы не бяруць, з таго шкуру дзяруць. *Сержп., 99.*

1513. На хлапца́ не шкадуй дубца. *Нос., 90. Вар.: Дуб., 40; Fed., 54.*

а) Расці хлапца да не жалей дубца. *Нос., 145. Вар.: Дуб., 52а.*

б) Расці хлапца да не шкадуй дубца, то выведзеш у людзі. *Сержп., 53.*

1514. Хто на дзеці дубца шкадуе, то на сябе вяроўку гатуе. *Fed., 91.*

а) Хто на дзецка розгі жалу́е, той яму вяроўку гатуе. *Ляцкий, 55.*

1515. Бацька не біў сына малога, дак ён яго старога. *Сержп., 54.*

а) Калі бацька не б'е мало́га, затое сын яго старога. *Гильт., 294, Віл. п.*

1516. Калі дзіцяці не спаганяеш гразы, то й пашанавання, матка, не ждзі. *Ляцкий, 16.*

1517. Дзеці балуюцца ад матчынага блінца, а разумнеюць ад бацькавага дубца. *Дуб., 13. Вар.: Нос., 35; Сержп., 53.*

1518. Недасечан — недапечан. *Дуб., 37.*

1519. Чужы к чужому, як сляпы к сляпому, а бацька з мамкай хоць паб'юць, але есці дадуць. *Ляцкий, 58.*

1520. Не слухаў тата, па́слухаеш ка́та. *Сержп., 54.*

а) Не слухаў бацькоў, так паспытаеш тумакоў. *Г. Барташэвіч, 1975, Уздз. 8.75.96.*

1521. Не навучыць бацька, дык навучыць гора. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

1522. Малыя дзеці — рукі баляць, вялікія — сэрца баліць. *А. Ліс, 1968, Смарг. Вар.: Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

1523. Гадуй чужое, а яно табе жычыць ліхое. *Сержп., 52.*

1524. Пану верне не служы, жонцы праўды не кажы і чужых дзяцей не гадуй. *І. Саламевіч, 1971, Слон.*

1525. Добра то сваё ўласнае дзіця: яно пойдзе плачучы, а вярнецца скачучы. *Fed., 91.*

1526. Дзеці — раса́: былі і няма. *Л. Царанкоў, 1960, Хоц. 13.9.2.*

1527. Гадавала сава дзеці — і няма на што глядзеці. *Fed., 273.*

1528. Наймільша дзіця чэрці ўзялі. *Fed., 92.*

1529. Найбалючайша рана ад сваго дзіцяці. *Fed., 258. Вар.: Суяшк., 607, Шчуч.*

1530. Гадуй дзеці, а потым недзе галавы падзеці. *Fed., 92.*

а) Гадаваў мядзведзь дзеці, а галавы няма дзе дзеці. *М. Грынблат, 1973, Бабр.*

б) Гадаваў воўк дзеці, а не́ за кім сядзеці. *Ляцкий, 7.*

1531. Лепей дзецям даць, як ад іх выглядаць. *Fed., 92.*

1532. Дзяціны хлеб горкі. *Мяц., 240, Лаг.*

## РАДНЯ, СВАЯЦТВА

1533. Род, племя блізка, а свой род бліжай. *Ром., Зап., III, 230.*

1534. Не чужынка — свая радзінка. *Ляцкий, 29.*

1535. Абы добра гадзіна, то найдзецца радзіна. *Fed., 98.*

1536. Трапіў свой на сваго. *Fed., 313. Вар.: 295.*

1537. Сваяк сваяка бачыць здаляка. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15. Вар.: Я. Бортка, 1965, Дзятл. 13.10.4; Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11; А. Фядосік, 1962, Капатк. 8.1.76.*

а) Свой сваяка пазнае здаляка. *З нар. сл., 263, Е. Дуброўская, Калінк.*

1538. Свой свайму паняволі брат. *Нос., 147; Ром., Зап., III, 231. Вар.: Fed., 295.*

а) Свой свайму паняволі рад. *Ляцкий, 40.*

1539. Свой не дарыць, не адбярэ. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

а) Свой не дарыць, ды і не давіць. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

1540. Свой хоць над вадою патрасець, але ж у ваду не ўнясець. *Дуб., Нар., 1.*

а) Свой пад вірам патрасе, а ў ваду не кіне. *Цар., 247. Мінск.*

1541. Сваякоў многа, а папалуднаваць няма дзе. *М. Грынблат, 1968, Мінск. Вар.: Fed., 294.*

а) Радні, як мардвы, а паабедаць нейдзе. *Нос., 144.*

1542. Сваіх многа, а як прыходзіць тапіцца, не за каго ўхапіцца. *Шейн, II, 481, Слон. п.; Fed., 295.*

1543. Як у мяне пшонка ўдалась, адкуль і радзінка ўзялась; як у мяне пшонка не ўрадзіла, адраклася і радзіна. *Ром., Бел., I, 316.*

1544. З сваімі толькі добра есці і піць. *Pietk., 394.*

1545. Чый род, таго й рот. *Нос., 183.*

1546. Вялікага роду, да нарабіў [радне] смроду. *Fed., 261; А. Рахунак, 1967, Зельв. 13.10.24.*

1547. Свой горш чужога часцей. *Ляцкий, 40.*

1548. Свой заўсёды горшы за чужога. *Fed., 295.*

1549. З сваім найгорша справа. *Fed., 295.*

1550. Свой сваёму тыц агнёву. *Гильт., 290, Пруж. п.*

1551. Свой не свой, а перад кіем не стой. *Янк. М., 28.*

1552. Свой біс дзярысь, а чужы не вядзісь. *М. Бабарыкіна, 1966, Чач. 13.3.29.*

а) Свой з сваім дзярыся, чужой не мяшайся. *Mien., 397. Вар.: І. Вайгяніца, 1965, Іў. 13.10.1.*

б) Біся, кусайся — чужы не мяшайся. *Г. Барташэвіч, 1963, Маладз. 8.1.82. Вар.: Ляцкий, 40.*

1553. Паглядзіся ў воду, якога ты роду. *С. Маісеенка, 1965, Жлоб. 13.3.25. Вар.: Г. Прытычанка, 1960, Карм. 13.3.29.*

1554. Мы з табою родныя, а яны чэрці зводныя. *Нос., 81.*

1555. Свой брат заўсёды брат. *Ляцкий, 40.*

1556. Я і ты — два браты. *Dybow., 184; Fed., 42; Дуб., 4.*

1557. Старэйшы брат як другі бацька. *Зах., 251.*

1558. Братэрства мацней каменнай сцяны. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.18.*

а) Братняя любоў крапчэй сцен каменных. *Ахрым., 22.*

1559. Добрае брацтва дарожа багацтва. *Шнэйдэрман, 1955. Журав. 13.3.29; А. Лучанок, 1960, Мінск 13.9.6.*

1560. Брат брату паняволі прыяцель. *Нос., 8.*

1561. Што зробіш брату, таго не зробіш свату: абыдва няроўныя. *Ляцкий, 60.*

1562. Гэта табе не свой брат. *Сержп., 132.*

1563. Брат мой, а ум у яго свой. *Ром., Зап., I, 215.*

1564. Жанаты брат сястры сусед. *І. Курбека, 1961, Докш. 13.9.7.*

1565. Брат брату сусед і яшчэ далёкі. *1961, Кап. 13.9.5.*

1566. Брат брату сусед, а нявеста сястрэ саломенны друг. *Нос., 8.*

1567. Ты брат мой, а еш хлеб свой. *В. Шаўчэнка, 1961, Ельск. Вар.: 1957, Маз. 13.3.29.*

1568. Брат не так рад брату, як рад яго шмату. *Нос., 8.*

1569. Багаты брат беднаму брату не рад. *Янк. М., 55.*

1570. У брата не свая хата. *Fed., 42.*

1571. Брат на ліпе драт. *Крэмнеў.*

а) Брат на ліпе драт, на сасне луплен, за тры шалягі куплен. *Добр., Смол., 9.*

1572. Брат брату паласа мяса. *Добр., Смол., 9.*

1573. Брат брату галавою ў уплату. *Ром., Зап., I, 215.*

1574. Няма горшага ката, як брат на брата. *Булг., 176; Fed., 42.*

1575. Браты б'юцца, браты і пагодзяцца. *Сах.; Я. Касач, 1966, Дзятл. 13.10.26.*

1576. Брацця б'юцца, дзяруцца, да разнімаць некага. *Нос., 8.*

1577. Рубель не грошы, а гад не брат. *Дуб., Нар., 1.*

1578. Не стрый, дык дзядька. *Ляцкий, 30.*

1579. Дзядзька не бацька, а цётка не маці. *У. Іваноў, 1958, Мінск.*

1580. Да маей нябогі няма злой дарогі. *Ляцкий, 9; Дуб., 17.*

1581. Не тая радзіна, што мяне радзіла, а тая радзіна, што жонку радзіла. *Мат., 175.*

1582. Вантробы не мяса, швагер не фамілія. *Сцяшк., 583, Воран.*

1583. Са шваграм і на зайца не ідзі. *Tyszk., 418; Шпил., 189; Dybow., 189. Вар.: Дуб., 57.*

1584. Кончына жончына, цяпер няхай будзе швагерчына. *Г. Барташэвіч, 1970, Астр. 8.2.33.*

1585. Чаровы харашы, а падчароўкі лепі. *Нос., Слов., 486.*

1586. Ні брат, ні сват. *Fed., 42; Юрч., 1969, 225.*

а) Ні сват, ні брат і ні хроснік. *Янк., Дыял., I, 216, Глуск.*

б) Ні нябож, ні хрышчэнік. *Янк., Дыял., I, 216, Глуск.*

в) Ні наш, ні ваш. *Нос., 113.*

1587. Дзесятая вада на кісялю. *Tyszk., 433. Вар.: Юрч., 1969, 225; Нос., 34; Fed., 144, 324; Pietk., 397; Мяц., 76, Клецк.*

а) Сёмая вада на кісялі. *Фраз. сл., 266. Вар.: М. Бандарэнка, 1966, Маз. 13.3.29.*

б) Сваяк — дзесятая вада па кісялі. *Fed., 294.*

в) Ты мне радня, як дзесятая вада на кісялі. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

1588. Кумава хата гарэла, а гэта цётка рукі нагрэла — вось мы і сваякі. *Ігнат.*

1589. Адзін пень гарэў, а другі спіну грэў. *Янк., Дыял., III, 53.*

1590. На адном сонцу анучы сушылі. *Ром., Бел., I, 301.*

а) На адном сонцы сушыліся. *Нос., 86.*

1591. Андрэй Кузьме родны Хвёдар. *Нос., 2.*

а) Ты такая радня, як Саўка Кузьме родны Хведар. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

б) Анціп нашаму бацьку родны Міколка. *Шейн, II, 472, Гор. п. Вар.: Янк., 371.*

в) Які ён табе свой? — Нашага парабка кумаў сват. *А. Фядосік, 1962, Капатк. 8.1.76.*

г) Станавога кучара кум. *Ром., Бел., I, 309.*

1592. Радня да паўдня, а як сонца зойдзе — сам чорт не знойдзе. *Янк. М., 97. Вар.: М. Бабарыкіна, 1966, Чач. 13.3.29; С. Маісеенка, 1965, Жлоб. 13.3.25; А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

а) Радня да паўдня, сонца зайшло — і ўсё к чорту пайшло. *А. Фядосік, 1962, Капатк. 8.1.76.*

б) Радня толькі да чорнага дня. *Нос., 144.*

в) Радня толькі да белага дня, а ў чорны дзень не найдзеш. *Fed., 257.*

1593. Сыр не закуска, кум не сваяк. *С. Шуршуновіч, 1968, Свісл. 13.10.28; Цяшк., 609, Гродз.*

1594. Адусюль па злодзею ў кучу — і ўжо радня. *1961, Рэч. 13.9.5.*

1595. У мяне толькі радні, што лапці адны. *Добр., Смол., 106.*

1596. Айдзе крыві ні ложкі, там праўды ні крошкі. *Нос., 1.*

1597. У чужога ні крыві, ні радні нет. *Міеп., 397.*

## ХАЎТУРЫ

1598. І родзіцца — клопат, і памрэ — клопат. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

1599. Сколькі не лікавацъ, а па смерці гроба не мінавацъ. *Ром., Зап., III, 231.*

1600. Дзе хаваюць, там і прычытаюць. *Янк., 214.*

1601. Свадзьба слаўна песнямі, хаўтуры — вытніцамі. *Добр., Смол., 7.*

1602. Як хто хоча, так па свайму бацьку плача. *Tyszk., 432; Dybow., 184. Вар.: Нос., 196; Ром., Бел., I, 316; Ляцкий, 63; Сержп., 11; Fed., 16; Pietk., 310; А. Фядосік, 1962, Капатк. 8.1.76; Добр., Смол., 110.*

а) Кожны плача па свайму бацьку, як умее. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

б) Кожны па-свойму па матцы плача: хто ў кулак, а хто ніяк. *Сцяшк., 596, Лід. Вар.: Я. Некрашэвіч, 1967, Дзятл. 13.10.30.*

1603. Тагды будзеш плакаць, як стануць па́кацъ. *Нос., Слов., 300. Вар.: Добр., Смол., 127.*

1604. Адплакалі і адпа́калі. *Крапіва, 253. Вар.: Дуб., 25.*

1605. Праплакала бабка цэлы лес, а па ёй ані бес. *Нос., 137. Вар.: Дуб., 45; Добр., Смол., 109; А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

1606. Якое ўміранё, такое пахаванё. *Fed., 320.*

1607. Як пяюць, так адпяваюць. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

а) Як спяваюць, так і адспеўваюць. *Сцяшк., 618, Іў.*

1608. Мёртвым сакалом не ловяць і варон. *Ром., Зап., III, 224.*

1609. Палажылі Саўку на голую лаўку. *Нос., 132. Вар.: Дуб., 46; Сержп., 35.*

1610. Не хацеў жыць — хай ляжыць. *1961, Брасл. 13.9.5.*

1611. Тагды стала тужыць, як на лаўцы ляжыць. *Нос., 163. Вар.: І. Суконкін, 1960, Церах. 13.3.29.*

1612. І жыў — не любіла, і памёр — не тужыла. *Ляцкий, 14.*

1613. Як прыдзе смерць, кашуля знойдзецца. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

1614. Абы ўміраў, а дамавіна будзе. *Ляцкий, 1. Вар.: Г. Румоўская, 1963, Пліс. 13.10.40.*

1615. Жанюся — весялюся, памінаю — сваю кішку набіваю. *Добр., Смол., 109. Вар.: 110.*

1616. Прыйшлі: адзін з лапатай, двое з насілкамі. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

1617. Лепей хаваць у пялёначках, як у вяночках. *Янк. М., 100.*

1618. Лепей гадаваць, як памінаць. *Рапан., 166.*

1619. Усе прайшлі праз той лажок, дзе на гурачцы гаёк. *Сержп., 67.*

1620. Што зямлёю пакрыта, няхай будзець забыта. *Нос., 188. Вар.: Fed., 355.*

1621. Паміну душа просіць. *Нос., 132.*

1622. Хаўтуры адпелі і клёцкі паелі. *Нос., 172.*

1623. Памёр — і памінкі паелі. *Дуб., 52.*

1624. У вас адпелі, а ў нас ад'елі. *Дуб., 65; Нос., 166.*

1625. Зямлі скварка, а людям чарка. *М. Грынблат, 1974, Валож. 8.74.82.*

1626. Нават папы на хаўтурах суп ядзяць. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

1627. Сцяна трэшчыць — мрэц будзе. *Fed., 302.*

1628. Нябожчык углядаецца, кагось выглядзіць. *Fed., 200.*

1629. Пра нябожчыкаў лепі маўчаць. *Нос., 140.*

1630. Нябожчыкі ўсе харашы. *Нос., 93. Вар.: Рапан., 167.*

1631. Пра нябожчыка блага не кажуць. *М. Грынблат, 1975, Мінск.*

1632. Добраму і памін добры. *Нос., 35.*
   а) Добраму добрая памяць. *Fed., 79.*
   б) Добрага добра спамінаць. *Fed., 79.*

## БОГ. ВЕРА. АТЭІЗМ

1. Без бога не да парога. *Pietk., 358; Fed., 33.*

2. Як у бога за плячыма. *Булг., 178.*

3. Нам бога не ўчыць — сам знае. *Ляцкий, 23.*

4. Бог не дасць — свіння не з'есць. *Ром., Бел., I, 291; Ляцкий, 4; Pietk., 311.*

5. У суд на бога не пойдзеш. *Ляцкий, 51.*

6. З богам не жарты. *Fed.*, 40.
   а) З богам жартаў няма. *Fed., 40.*

7. З богам не біцца. *Крэмнеў.*
   а) Біцца з богам не буду. *Fed., 33; Pietk., 358.*
   б) З богам не сапрэшся. *Никиф., 1, 201.*

8. З богам кантрактаў не рабіць. *Fed., 40.*

9. Найлепшы гандаль з богам. *Ляцкий, 23.*

10. І бог не гуляе: усё на свеце мяняе. *Рапан., 65.*

11. Бог не гуляець, многа палатна маець ды багатым торбы прыгатаўляець. *Крэмнеў.*

12. Бог не гуляе, многа палатна мае ды бедным торбы нагатаўляе. *Рапан., 62.*

13. Бог не гуляець, дабро перамяраець. *Дуб., Нар., 1.*

14. Бог не гуляе, а ў кучу сабірае. *М. Бабарыкіна, 1966, Чач. 13.3.29.*

15. Так бог нам даець, як мы просім. *Ляцкий, 44.*

16. Схоча бог даці — найдзе, кім прыслаці. *Fed., 35.*

17. Як бог схоча да́ты, то прынясе ў хату, а як не схоча даты, то забярэ з хаты. *Л. Салавей, 1969, Брэсцк.*

18. Калі бог дасць, дык і ў вакно падасць. *Дуб., Нар., 2; Добр., Смол., 3.*

    а) Каму бог дасць — і ў вакошка падасць. *Ром., Бел., I, 299.*

19. Сам бог хіба людзям угодзіць. *Fed., 38.*

20. І бог усім не дагодзіць. *Fed., 38.*

21. Бог захоча і з рук аднімець. *Ляцкий, 4.*

22. Каторы бог намачыў, тэй і высушыць. *Дуб., 40; Добр., Смол., 3.*

    а) Хто ўмачыў, той і высушыць. *Дуб., 68.*

23. Дай, бог, чулае (чутае) бачыць. *Дуб., 13; М. Грынблат, 1973, Лаг.*

    а) Чутае да ў божыя вушкі. *М. Грынблат, 1974, Мінск.*

24. Каб анно ведаў ты да я, а бог трэці. *Fed., 336.*

25. Скінь шапку, бог у хаце. *Fed., 297.*

26. Каб хто ў небе пабываў да ў бога запытаў. *Ляцкий, 15.*

27. Бог не цяля, пазнаець круцяля. *Tyszk., 417.*

а) Бог не цяля, бачыць круцяля. *Dybow., 6. Вар.: Гильт., 292. Віл. п.; Ром., Бел., I, 28; Никиф., 1, 201; Ляцкий, 4; Дуб., 5; Fed., 34, 153.*

б) Бог не цяля: відзіць праведніка і круцяля. *Добр., Смол. 3.*

28. Не ганіце бога ў лес, калі ў хату ўлез. *Нос., 95. Вар.: Добр., Смол., 3; Fed., 38; I. Сагарава, 1950, Браг. 8.1.35; А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

а) Не гані бога ў лес, када ён у запазуху ўлез. *Добр., Смол., 3.*

б) Не гані бога ў мох: калі прагоніш, не нагоніш. *Добр., Смол., 3.*

29. Двум багам не служыць. *Fed., 35.*

30. Ці бог яго, ці багі яго. *Ром., Бел., I, 310.*

31. Толькі і лік, што каталік. *А. Ліс, 1968, Радашк.*

а) Толькі той лік, што каталік, а вера паганская. *Л. Салавей, 1969, Мядз.; А. Малаш, 1969, Докш.*

32. Каталічак — чалавек невялічак. *Л. Малаш, 1975, Докш.*

33. Стварыў бог (чалавека) ды й сам каецца. *Т. Румоўская, 1963, Пліс. 13.10.40; Рапан., 72.*

34. Як бог прыстанець, то і пастыра прыставіць. *Ром., Зап., III, 221.*

35. Як захоча бог уляпіць, то ўлепіць: розум адніме і вочкі аслепіць. *М. Гайлік, 1966, Свісл. 13.10.26.*

36. Як трывога, тагды да бога. *Гильт., 293, Віл. п. Вар.: Tyszk., 413; Шпил., 182; Dybow., 112; Добр., Смол., 2; Ляцкий, 63; Fed., 315; Pietk., 312, 347.*

а) Кагда б'ецъ трывога, тады і да бога. *Вас., 22.*

б) Не прыйдзе трывога — не ўспомніш і бога. *М. Бабарыкіна, 1966, Чач. 13.3.29.*

в) Як трывога, то да бога, а па трывозе — дзякуй табе, божа. *Klich, 49.*

г) Када б не была на нас трывога, забылі б мы пра бога. *Добр., Смол., 2.*

37. У дабрэ гасподзь не ў паміне. *Добр., Смол., 2.*

38. У бога вер, але богу не вер. *Fed., 39.*

39. Яго богу не можна верыць. *Fed., 36.*

40. Сякі бог, такі бог. *Fed., 38; Сержп., 18.*

41. За гэтым божа, хто каго пераможа (зможа). *Карл.; Fed., 40.*

а) За тым і бог, хто бедака перамог. *Хрэстам., 218.*

42. Бог за таго, у каго грошы. *А. Фядосік, 1959, Капатк. 8.1.44.*

43. Беднаму бог не залоціць парог. *Антырэліг. казкі, 82.*

44. Сільную руку бог судзіць. *Ром., Зап., III, 232.*

45. Хоць бедны ох, то не слухае бог. *Fed., 28.*

46. Голенькі (бедны) вох, а за ім бог. *Дуб., 10; Міеп., 395. Вар.: Нос., Слов., 116.*

а) Бедны, убогі ох, а за бедным бог. *Fed., 28.*

47. І бог ашуканствам жыве: у аднаго адбярэ, а другому дасць. *Fed., 35.*

а) У бога гэдака (справядлівасць): аднаму адбярэ, а другому дасць. *Fed., 39.*

б) Бог ад аднаго атыміць, другому дасць. *Крэмнеў.*

в) Скуль бы бог усяго набраўся: у аднаго адбярэ, а другому дасць. *Fed., 38.*

48. Бог болей маець, як раздаў. *Tyszk., 412; Шейн, II, 473. Вар.: Fed., 33, 35; Дуб., 6.*

а) Адзін бог багаты: больш мае, як раздаў. *Fed., 33.*

49. Раздаў бог, да й сам каецца. *Ром., Бел., I, 309.*

50. Больш у бога дзён, як у пана кілбас. *Крапіва, 232.*

51. Баба з рукамі, а бог з помашчу. *Нос., Слов., 10.*

52. У бога ўсяго многа. *Ром., Бел., I, 311; Добр., Смол., 3; Никиф., 1, 201; Pietk., 358; М. Бабарыкіна, 1966, Чач. 13.3.29.*

53. У бога многа, але не для нас. *Ляцкий, 47; Д. Ваўчок, 1966, Лід. 13.10.26.*

54. Божа! Даеш таму, хто не можа, а хто бы мог, таму не даў бог. *Fed., 40.*

55. Ведаў бог, каму не даў рог. *Шпил., 177.*

56. Ляцела, як хацела, а ўпала, як бог даў. *Pietk., 321.*

57. Божая міласць — як вада на плыт. *Янк. М., 10.*

58. Няхай тое чорт есць, што бог дасць. *Ром., Бел., I, 304; У. Іваноў, 1958, Мінск 13.5.17.*

59. Няхай табе божа паможа, а мне вол. *Янк. М., 10.*

60. Няхай ад бога і табе так ідзець, як ён нам даець. *Ляцкий, 28.*

61. Бога прасіць, што рэшатам ваду насіць. *«Ленінец» (Камянец), 26 лістапада 1970 г.*

62. За ліхімі людзьмі то і бог ніц даць не можа. *Fed., 40.*

63. Як няма, то і сам бог не возьме. *Dybow., 184.*

64. Жыццё як дарога: прасі бога. *Ляцкий, 12.*

65. Да таго богу зміраліся, пакуль кішкі парваліся. *Бел. народ, 134.*

66. Богу маліся, а за праўду дзяржыся. *Рапан., 63.*

67. Нечага таму богу маліцца, каторы нашых малітваў не прымае. *Ром., Бел., I, 304; Ляцкий, 24.*

а) Нечага таму богу маліцца, які на нас не зважае. *Выпісы.*

б) Што таму богу каяцца, каторы на нас не глядзіць. *Добр., Смол., 18.*

в) Нечага таму богу кланяцца, каторы на нас не глядзіць. *Нос., 108.*

г) Не трэба таму богу маліцца, які на цябе не глядзіць. *Л. Царанкоў, 1960, Мінск 13.9.2.*

68. Нашто богу маліцца — ён нас і так баіцца. *Крапіва, 235.*

69. Што богу здарылі, тое згубілі. *Бел. народ., 133.*

70. Абяцаў бог даць, але казаў пaждаць. *Fed., 32, 37. Вар.: М. Бабарыкіна, 1966, Чач. 13. 3.29; В. Лашчэўская, 1967, Дзятл. 13.10.28.*

71. Божая ласка не дасць нам ні хлеба, ні мяска. *Сцяшк., 581, Слон.*

72. Гаруй, нябожа, бог дапаможа. *А. Фядосік, 1959, Баран. 9.3.11.*

73. Дзе «бадай» умяшаецца, там бог адступаецца. *Fed., 18.*

а) Аддай або бадай, то ніколі, божа, не дай. *Fed., 4.*

б) Пу́ты бог нам даваў, пу́кі «бадай» не ўмяшаўся. *Fed., 18.*

74. У бога дней — неначатае карыта. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

75. Каго бог любіць, таму крыжык даець. *Ляцкий, 16*

76. Пачакаўшы, будзе бог ласкаўшы. *Fed., 38, 65.*

77. Бог ламаў да і нам даваў. *Крэмнеў.*

78. Бог — стары хазяін: не спіць і не гуляець, а ўсё на нас грэшных прымяраець, каму кнуцця, каму плецця. *Добр., Смол., 2.*

79. Бог казаў гарэшкамі падзяліцца. *Fed., 312.*

80. Не ўсё слава богу. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

81. Бог шчырых любіць, але долі не дае. *Fed., 299.*

82. Ад яго і бог і людзі адступіліся. *Ляцкий, 2. Вар.: Fed., 33.*

83. Не божжа каранне, сваё дураванне. *Нос., Слов., 29.*

84. На бога надзейся, а сам не плашай. *Ляцкий, 22.*

а) На бога надзейся і сам рук не спускай. *Fed., 37.*

б) Богу маліся, а сам не плашыся. *Ром., Зап., I, 214.*

в) На бога спадзявайся, але і сам старайся. *Fed., 290; Сцяшк., 599, Слон.*

85. На бога надзейся, калі хлеб у торбе. *Рапан., 68.*

86. Бог як бог, а не будзь сам плох. *Добр. Смол., 2.*

а) Бог то бог, да і сам не будзь плох. *М. Малочка, 1959, Мядз. 8.1.46; Рапан., 62.*

б) Не будзь сам плох, дык і дапаможа бог. *Г. Прытычанка, 1960, Карм. 13.3.29.*

87. Божа, памажы, а сам не ляжы. *1939, Вілен. п.*

а) Божа, дапамажы, а ты, гультай, не ляжы. *Д. Вайчок, 1966, Лід. 13.10.26.*

88. Богу маліся, а сам працуй, бо згаладуеш. *Бел. народ, 133.*

89. На бога не ўпавай да й сам не зявай. *Нос., Слов., 749.*

90. Богу багаваць, а нам працаваць. *Рапан., 63.*

91. Бог не бачыць з неба, што на падаткі грошы трэба. *Рапан., 62.*

92. Чаго чалавек не зможа, то і бог не паможа. *М. Муштук, 1965, Вайк. 13.10.5.*

93. Хто сам сябе сцеражэ, таго і бог беражэ. *Ром., Зап., III, 231.*

а) Хто сам сябе не ўсцеражэ, таго і бог не ўберажэ. *Мін.-Мал., 1970, 169, Узда.*

94. Чакай збавення з неба, а тым часам хлеба трэба. *Ляцкий, 57. Вар.: Бел. народ, 133.*

95. Бог жыве сабе на небе і не думае аб хлебе. *Бел. народ, 133.*

96. Трэба неба, а трэба і хлеба. *Ляцкий, 46.*

97. Я рана ўстаў, а бог эдстаў. *Fed., 322.*

98. Глянь на бога, няхай возьме скроха. *Ляцкий, 8.*

99. Смяяўся і плакаў, а ўсё бог аднакаў. *Хрэстам., 218.*

а) Сколька ні плакаў, а ўсё бог аднакаў. *А. Жук, 1953, Віл. 13. 10. 40.*

б) Сколька ні плакаў, дык бог аднакаў, сколька ні прасіў, дак бога не ўпрасіў. *Е. Васілеўская, 1950, Браг. 8.1.34.*

100. Плакаў, плакаў — бог аднакаў, стаў спяваці — стаў бог даваці. *Fed., 238. Вар.: Рапан., 75.*

а) Плакаў, плакаў — было аднака, а як стаў спяваць, стаў гора забываць. *А. Фядосік, 1959, Капатк. 8.1.76.*

б) Хоць усцеж плакаў, плакаў, усё ж быў аднакаў, а як пачаў пяяць, стаў і бог даваць. *Дуб., Нар., 2. Вар.: В. Іваноўская, 1962, Светл. 8.1.74; Г. Карачун, 1967, Клецк. 13.10.14; І. Суяпунін, 1968, Дзярж. 8.2.12; Сах.; С. Бахмет, 1970, Астр. 8.2.38.*

101. Працуй, мужыча, на тым свеце бог разліча. *Г. Прытычанка, 1960, Карм. 13.3.29.*

102. Калі бог прыстане (прычэпіцца), то і хлеба не стане. *Хрэстам., 218.*

103. Чалавек (стралец) страляе, а бог кулі носіць. *Дуб., Нар., 1; Pietk., 344.*

а) Чалавек палюе, а бог кулю носіць. *Fed., 61.*

104. І свенты божа не award паможа. *Fed., 36.*

а) Не паможа і святы (мілы) божа. *Ляцкий, 27; Fed., 215.*

105. Бог нікому не дапамог. *Гут., 79.*

106. Бог доўга жджэць, да больна б'ець. *Добр., Смол., 3.*

107. Бог за аднаго, я за другога. *Fed., 34.*

108. Няма тае драбіны, каб жыўцом да неба далезці. *Fed., 81.*

109. Ніхто ў бога не быў, з богам не меркаваўся. *Никиф., 1, 201.*

110. Мусіць, твой бог пад печчу лапці пляце. *Fed., 37.*

111. Можа, калісьці і наш бог праспіцца. *Fed., 37.*

112. Проч з багамі, бо я тут з тытунём стану. *Fed., 289.*

а) Убірайцеся з абразамі, бо я прышоў з табаком. *Fed., 316.*

113. Госпадзі ў Рослаўлі, а прачыстая ў Мсціславе, а ўсё грошы выцісні. *Бел. народ, 133.*

114. Сабака і на бога брэша. *Шейн, II, 481, Віл. п.*

а) Сабацы можна і на бога брахаць. *Pietk., 341.*

115. Сабака й на бога вурчыць, а бог маўчыць. *Выпісы.*

116. Бог не такі, не слухае сабакі. *Fed., 34.*

117. Бог не слухае, як свіння рухае. *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

118. Сатварыў бог душу — ні ў пень, ні ў грушу. *Kolb., 473.*

119. Ні за Хрыста, ні за багародзіцу. *Ром., Бел., I, 304.*

120. Благаславі, Хрыстос, калі так прышлось. *Крэмнеў.*

121. І бога хвалі, і чорта не гняві. *Czeczot, 107; Tyszk., 413; Dybow., 6; Ляцкий, 4; Шейн, II, 476; Fed., 33; Pietk., 311; Дуб., 6; Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

а) Бога не гняві і чорта не смяшы. *Fed., 33.*

б) Богу маліся, а чорта не гняві. *Ляцкий, 4. Вар.: Дуб., Нар., 1.*

в) Бога прасі і чорта ў злосць не ўводзь. *Fed., 33.*

г) Богу не маліся, але і чорта не гневай. *Dybow., 6. Вар.: Н. Парукаў, 1965, Добр. 13.10.19.*

д) І чорта не гняві. *Шпил., 181; Dybow., 6.*

122. Бога не гняві, не гняві тожа і чорта, а палажы за яго тры паклоны. *Добр., Слов , 988.*

123. На бога спадзявайся, але за чорта трымайся. *М. Грынблат, 1969, Лаг.*

124. Людзей не смяшы і чорта не гняві. *Fed., 305.*

125. Пастаў богу свечку, а чорту дзве. *Fed., 38.*
   а) І богу свечку і чорту ожаг. *Fed., 36.*

126. Каб ён богу маліўся, то ад яго б чорт адступіўся. *Ляцкий, 15.*

127. Калі бога малюеш, на чорта не думай. *Ляцкий, 16.*

128. Бог сваё, а чорт сваё шэпча ў вушы. *Сержп., 185.*

129. Пакуль да бога, то чорт душу выме. *Fed., 68.*

130. Богава дарага, чортава дзёшава — лепей сваё мець. *Рапан., 62.*

131. Бог дае свята, а чорт работу. *Fed., 306.*

132. Бог дарогаю, а чорт цэлікам. *Добр., Смол., 3.*

133. Што то быў бы за чорт, каб не спакусіў. *Fed., 68.*

134. Чалавек страляе, а чорт кулю носіць. *Рапан., 276.*

135. Чорт, калі захоча, то сам заяц у стрэльбу ўскоча. *Ляцкий, 58.*

136. Як чорт дасць гразь, то і святы не высушыць. *Хрэстам., 219.*

137. Чалавек спешыцца, а чорт цешыцца. *Pietk., 384.*

138. Сам пад фігурай, а чорт пад скурай. *Сем.*

139. Што чалавек на гору, то чорт на ногу. *Fed., 64.*

а) Чалавек на гару, а чорт за нагу. *Радч., 249. Вар.: М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

б) Ты [хочаш] на гару, а чорт за нагу. *Нос., 166; І. Сагарава, 1950, Браг. 8.1.35; А. Жадзейка, 1965, Шчуч. 13.10.6.*

в) Рад бы ўгару, ды чорт за нагу. *М. Мельнічэнка, 1966, Чач. 13.3.29.*

140. Як чорта не хрысці, дык кажа: «У балота пусці». *1961, Кап. 13.9.5.*

141. Дзе балота, там чэрці. *Fed., 21.*

а) Гдзе балота, там і чорт сядзіць. *Нос., 23.*

142. Чаго, чорце, у балоце сядзіш? — Бо прывык. *Czeczot, 107; Киркор, 237.*

а) Айдзе прывык, чорце? — А ў балоце. *Нос., 2.*

б) Чорт цёнгле сядзіць у гразі, бо ён прывык. *Fed., 67.*

143. Вольнаму воля, спасённаму рай; бешанаму поле, чорту балота. *Ром., Зап., І, 215.*

144. Чорт балота запаліў, некаму гасіць. *Fed., 67.*

145. Чэрці не толька ў балоце водзяцца. *Мін.-Мал., 1970, 169, Пух.*

146. Дзе лес, там і бес. *Г. Прытычанка, 1960, Карм. 13.3.29.*

147. Кожны бес цягне ў лес. *Дуб., 31.*

148. Лес лесам, а бес бесам. *Нос., 75; Kolb., 472, Пін. п.; Fed., 162.*

149. Адно да леса, другое да беса. *Fed., 5.*

150. Прышоў з лесу і ідзі сабе к бесу. *Нос., 139.*

151. Пень гарэў, а чорт рукі пагрэў. *Л. Царанкоў, 1960, Рэч. 13.9.2.*

152. Пашоў па попел, ды й чорт ухопіў. *Fed., 211.*

153. Толькі свісні чорту, то ён тут. *Сержп., 71.*

а) Пазаві ў комін, то зараз прыбяжыць. *Сержп., 72.*

154. Зачыні чорту дзверы, так ён у вакно. *Сержп., 72. Вар.: Pietk., 316.*

а) Заступі чорту дзвярэй, то ён праз акно ўцячэ. *Fed., 69.*

б) Заступі чорту ад акна, то ён праз дзверы. *Fed., 69.*

в) Заступі чорту парога, то ён у комін. *Fed., 19.*

155. Усе чэрці адной шэрсці. *Tyszk., 427; Шейн, II, 402; Нос., 18; Fed., 69.*

156. У што чорта не ўбяры, то такі чорт. *Fed., 69.*

157. Хто б чорта пазнаў, каб не яго рогі. *Ляцкий, 55.*

158. Як то чорт, так то д'ябал. *Fed., 68.*

159. Адно к чорту, другое к д'яблу. *Fed., 66.*

160. Чэрці не нашага бога. *Никиф., 1, 201.*

161. Хоць чорт з куста́, абы шапка яец была. *Г. Прытычанка, 1960, Карм. 13.3.29.*

162. Калі само не прылучыцца, так чорт прысучыцца. *Ляцкий, 17.*

163. Гавары ты з чортам пацеры. *Fed., 107.*

164. Чорт чорту спавядаўся: адзін мігнуў, другі дагадаўся. *Нос., 184; Сержп., 4.*

165. Хоць чорту душу прадай. *Pietk., 367.*

166. Мусіць, чорт душу забраў за доўг. *Fed., 68.*

167. Чарвяк здохне, а чалавека чэрці возьмуць. *Fed., 65.*

168. Чорт дзірку знайдзець. *Добр., Слов., 988.*

169. Калі лучына з двух канцоў абпалена, тую чорт возьме. *Ляцкий, 16.*

170. Не зачапай чорта, няхай спіць. *Fed., 68.*

а) Не трогай чорта, зачэпіш — не адкасаешся. *Юрч., 1969, 38.*

171. Чорт не спіць. *Fed., 67.*

172. Збірае (гаруе), а чорт мяшок шые. *Fed., 373, 103.*

173. Адзін чорт, да ўмазаўся. *Рур., 213. Вар.: Нос., 118; Fed., 66.*

а) Адзін чорт, да і той запэцкаўся. *Дуб., 4.*

174. Усякі чорт на сваё кола ваду цягне. *Крэмнеў.*

175. Дапаў чорт скрэбла. *Нос., Слов., 140; Дуб., 15.*

176. Бес бы дзятла ў рукі ўнёс, калі б не яго доўгі нос. *Нос., 12.*

177. Чорт, када захочыць, сваім хвастом прыкрыець. *Добр., Смол., 132.*

178. Эй, чэрці! Хадзіце табаку церці. *Ром., Бел., I, 315.*

179. Не чорт пхаў, сам упаў. *Радч., 248.*

180. Чорт не возьме, а богу не трэба. *Dybow., 7. Вар.: Fed., 67. 58; Дуб., Нар., 1.*

а) Богу не нада, а чорт не возьмець. *Ляцкий, 4.*

181. Чорт яго ў жлукце высадзіў. *Tyszk., 413.*

182. Не так чорт страшан, як яго малююць. *Нос., 104. Вар.: Fed., 68; І. Януля, 1965, Ваўк. 13.10.3.*

а) Не такі чорт страшны, як намаляваны. *Pietk., 316.*

б) Патуль чорт страшны, пакуль не адмалююць. *Fed., 68.*

в) Чорт вельмі страшны, нім яго адмаляваць, а як адмалююць, то й можна пацалаваць. *Fed., 67.*

183. Меў чорт урадзіцца, да пятух запеў. *Tyszk., 413; Шейн, II, 478.*

184. Чорту руку не прывяжаш. *Янк. М., 54.*

185. І на чорта е рада. *Fed., 68.*

186. Будзе такі чорт, што і мяне спалохаецца. *Fed., 286.*

187. Чорт мудзёр, а наш брат мудрэй чорта. *Добр., Смол., 132.*

188. Не ўхопяць чэрці да самай смерці. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

189. Часам то і чорт добра ра́дзіць. *Fed., 66.*

190. Вялікай крыўды і чорт не любіць. *Fed., 155.*

191. За вялікую крыўду то і чорт спаганіць. *Fed., 155.*

192. Сатана змусціць і ясна сакала́. *Янк., Дыял., I, 220.*

193. Баржджэй да клецьніка, калі грошай няма. *Шпил., 175.*

194. Кумільга́н унадзіўся. *Шпил., 183.*

195. З грашамі й копшы дагодзіш. *Нос., Слов., 246; Шпил., Бел., 181.*

196. Праз святых да бога, праз начальства да цара. *Fed., 307.*

197. Праз людзі да хлеба, праз святых да неба. *Fed., 63.*

198. Пакуль да бога, то святыя дух выймуць. *Fed., 307. Вар.: Pietk., 312; I. Суконкін, 1962, Церах. 13.3.20.*

199. Святыя ўгоднікі на п'янку ўгодлівы: што ні дзень, то свята. *Антырэліг. казкі, 85.*

200. Як бог дапусціць, то і святыя не абароняць. *Fed., 37.*

201. І бог не ўкрые, як святыя дапусцяць. *Ром., Бел., I, 297.*

202. Унясець нячыстая, не вынесець і прачыстая. *Крэмнеў.*

203. Унясець нячыстая, а вынесець прачыстая. *Дуб., 65.*

204. Кожны святы да сябе горне. *Д. Шыцік, 1961, Дубр. 13.9.6.*

а) Кожны святы да сябе рукі туліць. *Антырэліг. казкі, 84; М. Бабарыкіна, 1966, Чач. 13.3.29.*

205. У мяне, як у святога: усё каб сабе. *К. Кабашнікаў, 1960, Стаўб. 8.1.57.*

206. Усе святыя на белых конях ездзяць. *Fed., 322.*

207. Калі не пад'ясі, і святых прадасі. *Нос., 64. Вар.: Сержп., 37.*

208. Вольнаму воля, святому рай. *Шейн, II, 474; Fed., 337.*

а) Вольнаму воля, а спасённаму рай. *Fed., 337; Pietk., 399; Нос., 15; Ляцкий, 170.*

209. Не вялік бог, а ўсё ж Міколай завуць. *Никиф., 1, 202.*

210. Не прарок, да ўгадчык. *Ром., Зап., III, 225.*

211. Нашаму прароку сядзіць соль у боку. *Fed., 244.*

212. Ляцела, як ангел, ударылася, як чорт. *Добр., Смол., 132.*

213. Набожны, як святога Юр'я конь: ён да касцёла, а ён да кабылы. *Fed., 131.*

214. Бачылі чудатворцы, якія мы багамольцы. *Ром., Бел., I, 290.*

215. У лесе жыў, пням богу маліўся. *Л. Царанкоў, 1960, Мінск 13.9.2.*

216. Нечага богу маліцца, калі не ўмеем ксціцца. *Крэмнеў.*

217. Калі хочаш, дык маліся, а не хочаш, так спаць лажыся. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

218. Маліся, хоць ты лоб расквась, усё роўна. *Сержп., 10.*

219. Больш пацераў, як хлеба. *Fed., 207.*

220. Будзеш пацеры на хлеб мяняць. *Fed., 207.*

221. Пацеры не картопля, не акіснуць. *Fed., 207.*

а) Пацеры — не заяц, не ўцякуць. *Fed., 207.*

222. Перабіла свіння пацеры, няхай сама гаворыць. *Fed., 308.*

223. Гаворыць воўк пацеры, а сам пра авечку думае. *Рапан., 63.*

224. Кантóю не вернеш. *Крэмнеў.*

а) Кáнта ёсць, ды вазвароту няма. *Крэмнеў.*

225. Цягні божую хвалу за хвост. *Fed., 35.*

226. У старыну проста маліліся: цераз равок скок, за матку скок, за бацьку скок. *Добр., Смол., 3.*

227. Отчэ наш, хлеба нямаш, іжэ есі, ідзі, прынясі. *Крэмнеў.*

228. Чытае: да будзе воля твая, а думае: каб мая. *Рапан., 74.*

229. Ён за чужою свечкаю богу маліўся. *Гильт., 287, Кобр. п.*

230. Ад малітвы і паніхід толькі поп адзін сыт. *Антырэліг. казкі, 100.*

231. Стаўся цуд аднаго разу: дзед гаварыў да абразу, а абраз да дзеда ні разу. *Fed., 59.*

232. Хто ходзіць за абразамі для Ісуса, хто ля сласнага куса. *Добр., Смол., 4.*

233. Поп за звон, а мы за кілішак: свае званы будуць. *Ляцкий, 35.*

234. З аднаго дрэва і крыж і лапата. *Бел. народ, 135.*

235. Куды пойдзем, то пойдзем, абы не да цэрквы. *Fed., 211.*

236. Не хадзіў пляшывы богу маліцца, як пайшоў, дык і лоб разбіў. *А. Фядосік, 1959, Капатк. 8.1.76.*

а) Як не ішоў шалудзька да касцёла, то не ішоў, а як пашоў, то й голаў разбіў. *Fed., 300.*

237. Адзін ідзе маліцца, а дзесяць жывіцца. *Fed., 175.*

238. Даў бы на малебен, але сабе патрэбен. *Dybow., 8. Вар.: Ляцкий, 9; Сержп., 8; Fed., 175; Бел. народ, 135.*

а) Рад бы даць шэлега на малебен, да самому патрэбен. *Нос., 143.*

239. Глухому дзве малебны не служаць. *Л. Царанкоў, 1960, Мінск 13.9.2.*

240. Якая вяра, такая ахвяра. *Ляцкий, 62; Fed., 3.*

241. Што абраз, то й афяра. *Шейн, II, 484, Ігум. п. Вар.: Fed., 3.*

242. На табе, божа, што нам не гожа. *Dybow., 14; Kolb., 473, Пін. п.; Ляцкий, 24; Дуб., 37. Вар.: Fed., 39.*

243. Трэба даць на званы, то знайдзецца кабыла. *Сержп., 72.*

244. Які манастыр, такая міластыня. *Dybow., 184.*

245. Ігумен ходзіць каля гумен. *М. Грынблат, 1938, Мінск.*

246. Без грошай то і збавення няма. *Fed., 116.*

247. І свянцона вада не паможа. *Fed., 215.*

248. Не паможа бабе і кадзіла, калі бабу схапіла (сказіла). *К. Кабашнікаў, 1963, Тур. 8.1.84; Pietk., 309.*

249. Кадзіла, кадзіла, не аднаго ты ўхадзіла. *Нос., 59.*

250. Наша хіжа дужа рана ўсхадзілася каля крыжа. *Нос., 90.*

251. Ка́янне позна ходзіць. *Нос., Слов., 227.*

252. Па смерці няма пакаяння. *Сержп., 47.*
   а) После смерці каяння няма. *Бяльк., 217, Крыч.*

253. На етым свеце панства, а на том — царства. *Раст., 195.*

254. Ніхто на том свеце не быў. *Fed., 308; Я. Касач, 1966, Дзятл. 13. 10. 26.*

255. Калі тут чалавек, дак і на том свеце радзіцель. *Нос., 65.*

256. На чужым гарбу ў рай збіраецца. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

257. На чужым гарбу ў рай не заедзеш. *Д. Шаўчэнка, 1957, Маз. 13.3.29.*

258. Рад бы ў рай, да грахі не пускаюць. *Нос., 143. Вар.: Fed., 116; Сержп., 143; 1961, Кап. 13.9.5; С. Барыс., 1970, Ашм. 8.2.37.*

а) Хацела б душа да раю, да грахі не пушчаюць. *Tyszk., 430; Дуbow., 6, 190. Вар.: Ром., Зап., III, 230; Fed., 88; Pietk., 318.*

259. Хоць бы з краю, ліш бы ў ра́ю. *Нос., 173.*

260. Аддай, братка, аддай: памрэш — не пусцюць у рай. *Ляцкий, 2.*

261. Да пекла шырокі варота, а да неба вузкі. *Fed., 232.*

262. Будзе сядзець у пекле па вушы. *Fed., 232.*

263. Рай і ад трэба таму, хто багат. *Антырэліг. казкі, 83.*

264. Тры дні заботы, а дзень свята. *Fed., 307.*

265. Празнік не ўказнік. *Радч., 248.*

266. Калі звоняць, то, мабыць, празнік. *Pietk., 332.*

267. Свя́ты самі ідуць у хаты. *Ляцкий, 40. Вар.: Сержп., 45.*

268. Празнічны сон да абеда. *Добр., Смол., 113.*

269. Празнік без мучаніка не бываець. *Нос., 136.*

270. Сягоння не свята, заўтра не нядзеля. *Fed., 307.*

271. Дзе фэст, там і я ест. *Мін-Мал., 1970, 160, Уздз.; М. Грынблат, 1945, Лід.*

272. За́пускі — па два кускі. *Fed., 350.*

273. Не ўсё кату масленіца. *Рур., 214; Ром., Бел., I, 200.*

а) Не заўсёды кату масленіца, бываюць і запускі. *Pietk., 327.*

б) Не ўсю ж кату масленіца, прыдзе і вялікі пост. *Сержп., 4. Вар.: Л. Царанкоў, 1960, Мінск 13.9.2.*

в) Не заўсюду кату масленіца. *Булг., 177; М. Рымша, 1957, Маз. 13.3.29.*

г) Не ўсё кату масленіца, будуць і за́гавіны. *Нос., 94.*

д) Не ўсягда кату масленіца, бывае і вялікі пост. *Mien., 396.*

е) Не ўсё кату масленіца, бывае і шчыры пост. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

274. Мінулася кату масленіца. *Fed., 151; 1961, Калінк. 13.9.5.*

275. Сабака на пост не ўважае. *Ляцкий, 39; Сержп., 97.*

276. Як пачнем пасці́ць, то нечага будзе хрысці́ць. *Fed., 241.*

277. Каму пост, а папу мясаед. *М. Бабарыкіна, 1966, Чач. 13.3.29.*

278. Пост пашчу́, да ў рот машчу. *Нос. 135.*

279. Тады будзе пост, як не стане хлеба. *Fed., 241.*

а) Тады будзем пасціць, як не стане хлеба. *Fed., 242.*

280. Для хваста́ няма паста. *Fed., 56.*

281. Той не пашчэе, хто ў ваўторак гавее. *Ляцкий, 45.*

282. Не шкадуець, хто серадуець. *Дуб., 38; Нос., 109.*

283. Няхай той серадзіць, хто ў дому сядзіць. *Fed., 277.*

284. Няхай тэй серадзіць, хто на неба глядзіць. *Нос., 107. Вар.: Дуб., 38; Pietk., 391.*

285. Ужо ты з пятка́мі да неба пойдзеш. *Fed., 202.*

286. Не заўсягды, як на дзяды. *Шейн, II, 179.*

287. На дзяды многа яды. *Л. Салавей, 1970, Мядз.*

288. Мінуцца табе дзяды! *Янк., 393.*

289. Мінуліся дзяды, братанька: у пост глядзіць хатанька. *Ляцкий, 21.*

290. Захацеў, прыгалеўшы, двойчы дзедаваць. *Fed., 93.*

291. Калі другіх караеш, то сам не грашы. *Мін.-Мал., 1970, 161, Пух.*

292. Кожны чалавек у сваю меру грэшан. *М. Дуброўскі, 1956, Лельч. 13.3.29.*

293. Чыя бяда, таго і грэх. *Ром., Зап. III, 235.*

294. Уражжая сіла на грэх спакусіла. *Нос., 17.*

295. Дзе няма смаку, там няма грэху. *Fed., 284.*

296. Пакуль за праўду, а за грахі скарэй. *Нос., 131.*

а) Пакуль за праўду, дык за грэх перш. *І. Курбека, 1961, Докш. 13.9.7.*

297. Чыя згуба, у таго граха поўна губа. *Ром., Мат., 85; Fed., 354. Вар.: Р. Мухляда, 1965, Шчуч. 13.10.5.*

298. Чалавек што ступіць, то саграшыць. *Fed., 62.*

299. Чалавек не святы, каб не саграшыць. *Fed., 61.*

300. Адзін бог без граха. *Добр., Смол., 3.*

301. Абы грэх, людзі знайдуцца. *Ляцкий, 1.*

302. Хто спіць, той не грашыць. *Fed., 296.*

303. Грахі спаць не даюць. *М. Грынблат, 1974, Валож. 8.74.82.*

304. Няведанне не чыніць граха. *Нос., 95.*

а) Невядомасць грэху не чыніць. *Нос., Слов., 320. Вар.: Fed., 201; Дуб., 37.*

б) Нязнайства за грэх не лічуць. *Шейн, II, 479, Барыс. п.*

305. Грэх не схаваеш у мех, не ўтопчаш у балота. *Ляцкий, 8.*

306. Перад богам грэх, перад людзьмі смех. *Міеп., 396.*

а) Смешна, ды й перад богам грэшна. *Fed., 305.*

307. Грэх скласці ў мех. *Л. Ткачова, 1965, Арш. 8.1.97.*

а) Грэх у мех, а сам на верх. *Ляцкий, 8; М. Бабарыкіна, 1966, Чач. 13.3.29.*

б) Грахі ў мех, а кіем па баку. *М. Грынблат, 1974, Валож. 8.74.82.*

в) Грэх у мех, а спасенне на верх. *Нос., 29; Дуб., 11.*

г) Грэх на грэх, а спасенне на верх. *Добр., Смол., 24.*

д) Грэх у мех, а спасенне ў торбу. *Pietk., 321. Вар.: Ром., Бел., I, 293; Сержп., 67.*

е) Грэх у мех, калом па мяху — няма граху. *Леп.*

ж) Грэх у мех, кіем па мяху — будзеш без граху. *Рапан., 64.*

з) Грэх у мех, калом па баку — вот і па граху. *Л. Царанкоў, 1960, Мінск 13.9.2.*

308. Бальшэй грэх у бальшэй мех, маленькія грахі ў маленькія мяхі. *Добр., Смол., 23.*

309. Усё ў граху, як у мяху. *М. Гваздзёў, 1965, Арш. 8.1.94.*

310. Грэх не бяда, але моўка нехараша. *Dybow., 9.*

311. Грэх не смех — не адстане, хіба папу аддасі. *Ляцкий, 8.*

312. Усе грахі занёс папу (ксяндзу). *Ляцкий, 30.*

313. Грэх па дарогі бег, а баба стрэла да й яго з'ела. *Добр., Смол., 24.*

314. Адзін грэх: хоць раз бацька ў лоб, хоць два. *Fed., 115.*

а) Чы раз бацька ў лоб, чы дзесяць раз, то адзін грэх. *Pietk., 321.*

315. Ці грэх, ці два — няхай будзе. *Fed., 115.*

а) Да ўжо ж, чы грэх, чы два. *Pietk., 321.*

316. Чужыя грахі перад вачыма, а свае за плячыма. *В. Іваноўская, 1963, Смарг. 8. 1. 83.*

317. Чый грэх за плячыма, а свой перад вачыма. *Л. Гарэлікава, 1967, Вайк. 13.10.30.*

318. Чый грэх, няхай таго будзе і пакута. *Fed., 115.*

а) Чый грэх, таго й атвет. *Нос., 183.*

319. За чужыя грахі пакута. *Дразд.*

320. Хто саграшыў, а хто пакутаець. *Нос., 177.*

321. Кінулісь у пакуту, як сабакі ў каноплі. *Добр., Смол., 3.*

322. Адкуль грэх, адтуль і спасенне. *Нос., 121.*

а) Айдзе грэх, там і спасенне. *Крэмнеў.*

323. Цярпі, Грышка,— спасён будзеш. *Pietk., 322.*

а) Цярпі, Грышка,— спасён будзеш, а не ўцерпіш — зганён будзеш. *Гильт., 292, Віл. п.; Fed., 119.*

324. Кароткая пацеха, а доўгае пакаянне. *Fed., 207.*

325. Ка́янка будзе, а паўроткі не будзе. *Fed., 133.*

326. Каюся, да за тое ж хапаюся. *Дуб., 27.*

а) Аб грахах нашых скрушаемся, да й знову за іх хапа́емся. *Нос., Слов., 587. Вар.: Дуб., 2.*

327. Мы не папы, не ксяндзы, нам не трэба спавядацца. *Fed., 287.*

328. Пакуль гром не загрыміць, мужык не пеpажагнаецца. *Kolb., 473, Пін. п.*

а) Пакуль не загрыміць, то мужык не перахрэсціцца. *Pietk., 330.*

б) Мужык не перахрэсціцца, калі гром не ўдарыць. *Нос., 80.*

329. Каму кажацца, той хрэсціцца. *В. Калюк, 1965, Дзятл. 13.10.6.*

330. Я ксціцца — не спіцца, я варочацца — спаць хочацца. *Добр., Смол., 113.*

331. Ані ад яго адмолішся, ні адхрысцішся. *Fed., 4.*

332. Хлеба просіць, а пеpажагнацца не ўмее. *Fed., 52.*

333. Пастаўлёна — благаслаўлёна. *Нос., 135. Вар.: Дуб., 45.*

334. На крыж пальцы складаў ды й заракаўся. *Fed., 213.*

335. І сам зарокся і дзесятаму заказаў. *Pietk., 400.*

336. Не гавеўшы, дару схваціў. *Дуб., 40.*

337. Куды ноч, туды й сон. *Нос., 70.*

338. Часам сон як у руку дасць. *Fed., 285.*

339. На ростанях сваяму сну не вер. *Добр., Смол., 113.*

340. У добры час сказаць, а ў ліхі прамаўчаць. *Сержп., 74, 91.*

341. Ліхая тая гадзіна, у катору мяне матка радзіла. *Fed., 98.*

342. Няшчасная гадзіна мяне на свет парадзіла. *Fed., 98.*

343. Не мінула мяне ліхая гадзіна. *Fed., 98.*

344. Прыйдзе і на яго калісь ліхая гадзіна. *Fed., 98.*

345. Сказаў бы, ды печ у хаце. *Нос., 149; Дуб., 96; Fed., 280; І. Хайратовіч, 1951, Талач. 13.8.4; І. Януля, 1965, Вайк. 13.10.3.*

а) Не можна казаць, бо печ у хаце. *Fed., 142.*

346. На доўгі век і баба лек. *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

347. Да ста баб не хадзі. *Нос., 37.*

348. Навучыць судзьба варажыць, як нечага ў рот палажыць. *Ляцкий, 22.*

а) Будзеш варажыць, калі няма чаго на зуб палажыць. *Сержп., 26.*

б) Тагды бабка варажыць стала, як хлеба не стала. *Нос., 162. Вар.: Дуб., 60; Сержп., 135.*

349. Надвое бабка варажыла. *Нос., 84; Dybow., 13; Fed., 13; Pietk., 309; Дуб., 40; Сержп., 26. Вар.: Л. Царанкоў, 1960, Мінск 13.9.2.*

350. Можа — надвое варожа. *Выпісы.*

а) Можа — надвое варожа, а без мадлітвы і бог не паможа. *Ляцкий, 21.*

351. Надвое бабка варожа: альбо памрэ, альбо жыць будзе. *Ляцкий, 22.*

а) Баба надвая варажыла: ліба ўмрэць, ліба будзець жыва. *Добр., Смол., 17. Вар.: Fed., 13.*

б) Тая баба надвое варажыла: быў бы панам, была, не была. *Кмита, 171.*

352. Надвое бабка варажыла, а ў адно месца палажыла. *Fed., 13.*

353. Варажба як стральба: куда паляціць, туды і загрыміць. *Добр., Смол., 16.*

354. Хто варажыць, таму галавою налажыць. *Ром., Зап., III, 221. Вар.: Fed., 326; Сержп., 26; Мат. ГТ.*

а) Хто варожыць, сваім наложыць. *Дуб., 70. Вар.: Нос., 176.*

б) Хто варожыць, той галаву паложыць. *Ром., Бел., I, 313. Вар.: Сержп., 91.*

в) Датуль варажыла, пакуль галавою налажыла. *Fed., 296.*

г) Хто варажыў, той галавою налажыў. *Fed., 326.*

355. Балазе таму жыць, чыя бабка ўмеець варажыць. *Нос., Слов., 13.*

а) Добра таму жыць, каму бабка варажыць. *Сержп., 138.*

356. Згарэла хіжка, згарэла кніжка, нечым варажыць. *Нос., 48.*

## АСВЕТА, ВЕДЫ, ПІСЬМЕННАСЦЬ, КНІГА, СЛОВА

357. Вучэнню і дабру не будзе канца. *М. Грынблат, 1946, Старob. 8.1.8.*

358. Вучэнне — свет, а невучэнне — цемра. *Янк., 160. Вар.: Ахрым., 24.*

359. На навуцы свет стаіць. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

360. Хто вучыцца, той пад старасць не будзе мучыцца. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

361. Што замоладу навучышся, на старасць як найдзеш. *Fed., 199.*

а) Вучыся за́маладу, то на старасць як знайдзеш. *Fed., 342.*

362. Няхай вучацца, пад старасць хлеб будзець. *М. Грынблат, 1960, Сір. 8.1.47.*

363. Навука хлебам корміць. *М. Бабарыкіна, 1966, Чач. 13.3.29.*

364. Вучыся, нябожа, вучэнне паможа. *Г. Румоўская, 1963, Пліс. 13.10.40.*

365. Вучыцца заўсёды прыгадзіцца. *Мат., 173.*

366. Навука вочы адчыняе. *Ахрым., 40; М. Пяткевіч, 1965, Ашм. 13.10.3.*

а) Навука вочы адчыняе і сляпога водзіць. *Ахрым., 69.*

б) Навука вочы праціpае. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

367. Навука — добрая штука. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом.; І. Суконкін, 1960, Церах. 13.3.29.*

368. Ад навукі галава не баліць. *Ахрым., 19.*

369. Навука — не мука. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15; М. Рымша, 1957, Маз. 13.3.29.*

а) Навука не мука, за плячыма не насіць. *В. Ганчаронак, 1960, Відз. 13.9.26.*

б) Навуку за плячыма насіць не трэба. *М. Расюкевіч, 1965, Навагр. 13.10.2. Вар.: М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

в) Што ведаеш, за плячыма насіць не будзеш. *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.10.11.*

г) Што ведаеш, насіць, не цяжка. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

370. Не кручаны — не рамень, не учаны — не чалавек. *Ром., Мат., 85; Fed., 317. Вар.: Pietk., 348.*

371. Чалавеку з вучонасцю ўсюды дарога. *Бяльк., 115, Краснап.*

372. Шануй настаўніка лепей, як крамніка. *Янк., 270.*

373. Ад навукі дужэюць (спрытнеюць) рукі. *Янк., 160.*

374. Без навукі холадна ў рукі. *Л. Лазовік, 1965, Скід. 13.10.4.*

375. Дрэнныя тыя рукі, што не ведаюць ніякай навукі. *Н. Парукаў, 1958, Добр. 13.3.29.*

376. Хто без навукі, той як бязрукі. *Янк., 35; А. Мацкала, 1965, Іў. 13.10.5.*

а) Без навук, як без рук. *С. Клачко, 1966, Б.-Каш. 13.3.29.*

377. Чалавек невучоны як тапор нетачоны. *Э. Валюшка, 1965, Вайк. 13.10.5. Вар.: І. Суконкін, 1960, Церах. 13.3.29.*

378. Чалавек вучоны як хлеб пячоны. *І. Курбека, 1961, Докш. 13.9.7.*

379. Невучоны што сляпы. *І. Сагарава, 1950, Браг. 8.1.35.*

380. Што надакучыць, то і вучыць. *Ром., Зап., III, 235.*

381. Што мучыць, тое вучыць. *Сержп., 23.*

382. Не ўчэнне, а мучэнне. *Ляцкий, 28.*

383. Не навучыцца, пакуль не намучыцца. *Fed., 199.*

384. Без му́кі няма й навукі. *А. Мацкала, 1965, Іў. 13.10.3.*
а) Без мукі не набыць навукі. *Рапан., 175.*
б) На то й навука, каб была мука. *Ляцкий, 24.*

385. Навука не ходзіць без друка. *Бяльк., 158, Касц.*

386. Навука не піва — у рот не ўльеш. *Сах.*

387. Хочаш многа знаць — трэба мала спаць. *М. Бандарэнка, 1966, Маз. 13.3.29.*

388. Меней знаў — даўжэй спаў. *Янк., Дыял., III, 162, Акцябр.*
а) Мала ведаў — даўжэй спаў. *Янк., Дыял., III, 162, Глуск.*

389. Навука дорага каштуець. *Дразд.*

390. Разумны ведамі не выхваляецца. *Рапан., 180.*

391. Вучыць не спяшайся. *Янк., 160.*

392. Вучыцца — не ляніцца. *Г. Лось, 1949, Бабр. 9.5.4.*

393. Добра таго вучыць, хто хоча ўсё знаць. *Хрэстам., 315.*

394. Жалеза куй, як гарачае, вучыся, як вучыцца. *Янк., 161.*

395. Маладому наўчыцца, старому не забыцца. *Fed., 176.*

396. Маладыя ад старых вучацца. *Fed., 176.*

397. Часам і сляпы на дарогу навядзе. *Fed., 303.*

398. Што больш пажывём, то больш навучымся. *Fed., 226.*

399. Вучыцца ніколі не позна. *Янк., 160; Г. Румоўская, 1963, Пліс. 13.10.40.*

400. Век жыві, век вучыся. *Ром., Зап., I, 216; Fed., 367; М. Расюкевіч, 1965, Навагр. 13.10.2.*

а) Што жывеш, што вучышся. *Міеп., 397. Вар.: Нос., 188.*

б) Век жывем, век вучымся. *Вас., 29; Нос., 22.*

401. Будзем вучыцца, пакуль смерць лучыцца. *Дуб., 5.*

402. Вучонага вучыць — толькі псаваць. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

403. Вучонага вучыць, што мёртвага лячыць. *Выпісы; Г. Румоўская, 1963, Пліс. 13.10.40.*

404. Дурнога вучыць, як мёртвага лячыць. *Янк., 161.*

405. Заўсёды людзі кажуць: старайся, вучыся, а то дурнем памрэш. *Klich, 49.*

406. Вучыся, каб дурні звяліся. *Л. Царанкоў, 1960, Мінск 13.9.2.*

407. Дурны, ды й не вучыцца. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

408. Усіх дурняў не навучыш. *Сержп., 60.*

409. Дураку навука, што рабёнку агонь. *Сах.*

410. Гавары з канём малітву. *Ром., Мат., 85.*

411. Нічога не хочаш добрага ўчыцца — будзеш сабакі біць. *Fed., 342.*

а) Будзеш свінней пасціць ды хвасты накручваць. *Сержп., 96.*

412. Без навукі і пастала́ не спляцеш. *Д. Шыцік, 1961, Дубр. 13.9.6.*

413. І мядзведзя вучаць. *Нос., 56.*

а) І мядзведзя скакаць на́ўчаць. *Fed., 181.*

б) І звера людзі наўчаць, не то чалавека. *Fed., 199.*

414. Не па лесу ходзіць навука, а па людзях. *М. Мельнічэнка. 1950, Гом. 13.3.29.*

а) Навука не ідзе ў лес. *Fed., 199.*

415. Навука пашла ў лес. *Fed., 199.*

416. Увесь свет не навучыш. *Сержп., 133.*

417. Хоць не у́чаны, але добра му́чаны. *Fed., 317.*

418. Мала вучыўся і мала мучыўся. *М. Грынблат, 1969, Лун. 8.2.14.*

419. Як навучышся, так і ведаць будзеш. *Рапан., 184.*

420. Не́ўчань, дак проўчань. *Нос., 105.*

а) Калі не нау́чан, то прау́чан. *Дуб., 27.*

421. Учоны, але недаўчоны. *Ляцкий, 351.*

422. Навучыўся на сабак брахаць. *М. Бандарэнка, 1966, Маз. 13.3.29.*

а) Навучыўся на пень брахаць, на калоду тука́ць. *Л. Царанкоў, 1960, Крыч. 13.9.2. Вар.: С. Маісеенка, 1965, Жлоб. 13.3.25.*

б) Навучылі, дак і на пень брэшыць. *Нос., 89.*

423. Ведае, адкуль хвост расце. *Мін.-Мал., 1970, 159, Пух.*

424. Ні бэ, ні чэ не раскажа, нічога не знае. *М. Грынблат, 1974, Валож. 8.74.82.*

а) Не знае ні бэ, ні цэ. *Fed., 24; Л. Салавей, 1971. Мядз.*

б) Ні а, ні бэ, *Нос., 110.*

в) Ні бэ, ні мэ. *Нос., 110; Ляцкий, 2; Сержп., 121.*

425. Уела папа грамата. *Ром., Зап., III, 234.*

426. Многа будзеш знаць — галава аблезе. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом., 13.3.29.*

427. Ты мяне вызволь, а я цябе вы́ўчу. *Нос., 165; Дуб., 60.*

428. Хто цябе так вучыў, то няхай грошы назад аддасць. *Fed., 317.*

429. Каго ýчыць, а сам нічога не знае. *Fed., 317.*

а) Каго ýчыць, а сам у смалу лезе. *Fed., 317.*

б) Людзей ýчыць, а сам у блота лезе. *Fed., 317.*

430. Век жыві, век учысь, а дурнем пампэш. *Ляцкий, 6. Вар.: Pietk., 366; Сержп., 70; Дразд.*

а) Як не ўчысь, а дурнем уміраеш. *Fed., 85.*

б) Чалавек цэла жыццё учы́цца, а дурнем памірае. *Fed., 61, 342. Вар.: Pietk., 362.*

в) Покі чалавек жыве, то ўсё ýчыцца, а дурнем умірае. *Fed., 63.*

г) Чалавек да смерці розуму вучыцца, а дурнем памірае. *Fed., 263.*

431. За граматных не распісуюцца. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. Вар.: А. Якіменка, 1960, Б.-Каш. 13.3.29.*

432. Што напісана пяром, не вырубіш і тапаром. *Нос., 189, Вар.: Fed., 233; Pietk., 336, 339.*

а) Што напісана пяром, не высечаш і тапаром. *І. Януля, 1965, Вайк. 13.10.3.*

б) Што напісана пяром, не вайме і сякера. *Янк., 172.*

433. Слова вецер, а пісьмо грунт. *Нос., 150; Ром., Бел., І, 309. Вар.: Fed., 236, 282; Дуб., 54.*

434. Не пішы пяром, а пішы ўмом. *Шейн, ІІ, 479, Свянц. п.; Fed., 233.*

435. Пісаў бы пісака, ды піса́ла няма. *Нос., 127; Дуб., 47.*

436. Пісаў піса́ка, не прачытае і чыта́ка. *І. Курбека, 1961, Докш. 13.9.7.*

437. Пісаў пісака, і сам не прачытаець, небарака. *Нос., 127.*

438. Пісаў Мінка, пісаў і Яўтух, пісалі б і болі, да агонь патух. *Добр., Смол., 22.*

439. Пісаў ба болі — нету волі. *Добр., Смол., 22.*

440. Пісала пісака, злізаў сабака. *Fed., 235.*

а) Пісала пісака, не прачытае сабака. *Fed., 235.*

б) Пісаў пісака — не разбярэ ні кот, ні сабака. *І. Саламевіч, 1975, Слон.*

441. Пісака пісаў, а сабака прачытаў. *Dybow., 16.*

442. Пісалі пісакі, што брахалі сабакі. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

443. Ні чытаць, ні пісаць, а толькі з гаршкоў хапаць. *Tyszk., 426.*

444. Не за тое цябе білі, што пісаў, а за тое, што перакрўнуў. *Дуб., 41.*

445. Разумны піша для забавы, а дурань чытае, бо цікавы. *Мін.-Мал., 1974, 189, Лаг.*

446. Пісьменнаму і кнігі ў руку. *Нос., 127.*

а) Ты пісьменны, табе і кнігі ў рукі. *Ром., Бел., I, 311.*

447. Як многа чытае, то многа знае. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15. Вар.: Янк., 165.*

448. Дзе розумам не дайду, дык у кніжцы знайду. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

а) Да чаго не дайду, то я ў кніжцы знайду. *1961, Кап. 13.9.2.*

449. Кніга — маленькае акенца, ды праз яго ўвесь свет відзён. *Рапан., 177.*

450. У кнігу глядзіць, а голь гаварыць. *Ром., Зап., I, 216.*

451. Глядзіць у кнігу, відзіць фігу. *Добр., Смол., 22. Вар.: Fed., 146; Рапан., 176.*

452. Не шлюць пісьма — нуда, а прышлюць — бяда. *А. Ус, 1969, Іў.*

453. Такі граматны, што траім свінням разліку не дасць. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

454. Лічы па пальцах, калі хочаш, і боты скінь. *Нос., 73.*

а) Скінь яшчэ боты ды палічы. *Fed., 214.*

455. Лічы па пальцам ды адзінаццатую клёпку прылажы з галавы. *Ляцкий, 19.*

456. Што ўмела, то забыла і ксянжэчку згубіла. *Fed., 346.*

457. Маўчы, калі пісьма не знаеш. *Rур., 217; Fed., 181.*

458. Ні чытаць, ні пісаць, а ў каралі выбіраюць. *Дуб., 42.*

459. Часам вучоны будзе лепей, як злацоны. *Ляцкий, 58.*

460. Лепш быць злацоным, як учоным. *Ляцкий, 19.*

461. Хто знае, той мае. *Fed., 358.*

462. Многа знае, мала мае. *Dybow., 13; Fed., 359.*

463. І шытае і поратае знаець. *Нос., 57.*

464. Хто ўсяго дазнаў, той усё пазнаў. *Fed., 77, 351.*

465. Хто чаго не дазнаў, той не разумее. *Fed., 77.*

466. Ты не тое кажы, што знаеш, а тое, што ўрыхт. *Ляцкий, 46.*

467. За аднаго вучонага даюць пяць невучоных. *Радч., 247.*

а) За аднаго вучонага дзесяцёх невучоных даюць, да і то не бяруць. *Fed., 317. Вар.: Дуб., 21; Дразд.*

468. Што знаеш, таго і не пытай. *Шейн, II, 484, Свянц. п.; Fed., 359.*

469. Гаварыў бы і польскі, да язык конскі. *Нос., 25. Вар.: Dybow., 8; Fed., 214; 1961, Кап. 13.9.2; Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

а) Казаў ба па-нямецкі, да язык грэцкі. *Ром., Бел., I, 298. Вар.: Fed., 203.*

470. І без лаціны жывуць на свеце. *Нос., Слов., 766.*

471. Калі не знае, дык на зоры пазірае. *Сержп., 91.*

472. Хто не знае, то яму дзіва, а хто знае, таму смех. *Fed., 358, 331.*

473. Хто не ведае — камедыя, а хто ведае — нічагусенькі. *Tyszk., 426.*

а) Кумедыя, хто не ведае, а хто ведае, таму не кумедыя. *Ляцкий, 18. Вар.: Нос., 67; Fed., 134; Дуб., 27.*

474. Я не кошка, знаю трошка. *Dybow., 184; Fed., 358.*

475. Ведае курыную сісю і тую не ўсю. *І. Цішчанка, 1969, Слаўг. 8.2.21.*

476. За «не знаю» ніхто не судзіць. *А. Махнач, 1951, Узда. 13.10.15.*

477. Хто не знае, таму і знаць не трэба. *Fed., 358.*

478. Век зжыў і прахтыкі не нажыў. *Fed., 242.*

479. Нязнайка дарогі не пакажыць. *Нос., 98.*

480. Знайка бяжыць, а нязнайка ляжыць. *Нос., 50; Ляцкий, 13; Ром., Бел., І, 297; Сержп., 27; Дуб., 22. Вар.: Нос., 98.*

а) Нязнайка на пячы сядзіць, а знайка па дарозе бяжыць. *Сах. Вар.: В. Ганчаронак, 1960, Відз. 13.9.26; Дразд.*

481. Калі буду знаць усё да канца, буду старáя, як аўца. *М. Грынблат, 1967, Мсціcл. 8.1.106.*

482. Калі многа будзеш знаць, дык хутка здурнееш. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

483. Сам нічога не знае, а другіх вучыць хоча. *Fed., 359.*

484. Вучыў Пётр Марціна, а сам дурны, як свіння. *Fed., 235.*

485. З такімі ведамі сядзеў бы на печы ды грэў плечы. *І. Цішчанка, 1969, Мінск.*

486. Астанешся ступянём — не здагоніш і канём. *Янк., Дыял., III, 153, Глуск.*

487. Слова святое (свята). *Нос., 150; Fed., 282.*

488. Залатыя словы і сказаны ў пару́. *Сцяшк., 592, Шчуч.*

489. Калі слова прыроднае, дык яно і добрае. *А. Ліс, 1965, Мін.*

490. Не дорага чэсць, а дорага добрае слова. *Нос., 97.*

491. Прыемнае слова — вясенні дзень. *Махнач, 24.*

492. Добрае слаўцо лепш, чым піўцо. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

493. Не частуй мяне ні піўцом, ні вінцом, да прызві мяне шчэранькім слаўцом. *Fed., 282.*

494. Пастаў на стол ячменную кашу, а пшанічнае слова — лепей. *Т. Лапаціна, 1961, Рэч. 13.3.24.*

495. Хто казаў, то казаў, абы добра. *Fed., 141.*

496. За словам у кішэню не лезе. *Л. Царанкоў, 1960, Касц. 13.9.2. Вар.: А. Мацкала, 1965, Іў. 13.10.3.*

497. Хоць рэдка, ды метка. *Янк., 172; Fed., 261.*

498. Славамі сцяну б прабіла. *Fed., 482.*

499. Слова міма не ляціць. *Цар., 247, Мінск.*

500. Куляй пацэліш у аднаго, у двух, а трапным словам — у тысячу. *Янк., 168.*

501. Жывы жывое й гаворыць. *Нос., 42.*

502. Слова дарожша золата. *Гильт., 290, Пруж. п.*

а) Слова дарожшае грошай. *Fed., 282.*

503. І гэта слова не мякіна. *Нос., 54.*

504. Слова к атвету, а хлеб к абеду. *Ахрым., 52.*

а) Слова да слова, а хлеб да абеда. *А. Гурскі, 1967, Бял., 8.1.112.*

505. Не балтай наўгад, кладзі слова ў лад. *М. Гайлік, 1966, Свісл. 13.10.26.*

506. Як скажа, дык як звяжа. *Ром., Бел., I, 316.*

507. Слова сказаў — тапаром адсек. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

508. Рынуў слаўцом, як пярцом. *Dybow., 188.*

509. На добрае запытанне добрае і адпавяданне. *Дуб., 38. Вар.: Fed., 350; Нос., 90.*

510. Будзь добрым выслуха́чам, то будзеш добрым павяда́чам. *Fed., 345.*

а) Хочаш быць добрым павядачам, то будзь добрым слухачам. *Fed., 225.*

б) Будзь спярша выслухачам, а потым павядачам. *Дуб., 5. Вар.: Нос., 9.*

511. Які павядач, такое яго павяданне. *Нос., Слов., 434.*

512. Які запрос, такі і атвет. *Нос., 193; Fed., 350. Вар.: Сержп. 95.*

а) Які спрос, такі адпаведак. *Ляцкий, 62.*

б) Якое пытанне, такое адпавяданне. *Fed., 253.*

513. Сам не ўмееш слухаць, другога не прымусіш. *Янк., 254.*

514. Многа гаворана, ды мала сказана. *Fed., 109.*

515. Скажы слова на ногаць, то падрасце на локаць. *Fed., 282.*

516. Пра адны дрожджы не гавораць тройдзі. *Нос., 140. Вар.: Янк., 251.*

517. Хоць гаршком назаві, толькі ў печ не станаві. *Ром., Бел., I, 313. Вар.: А. Фядосік, 1959, Капатк. 8.1.76.*

а) Хоць і гаршком завуць, абы ў печ не саджалі. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

б) Няхай бы чортам называлі, абы ў балота не гналі. *А. Махнач, 1972, Уздз. 13.10.15.*

518. Выказанага слова за губы не вернеш. *Fed., 282.*

519. Кайся не кайся, выпусціў слаўцо — не вернеш. *Ляцкий, 16.*

а) Кайся не кайся, выпусціў слаўцо — што ўцякло. *Ляцкий, 16.*

520. Слюны не падымеш, а слова не вернеш. *Нос., 151.*

а) Выхаўкнуў слова — ужо не вернеш. *Нос., Слов., 99.*

б) Выплюнуўшы, не падымеш слюны. *Нос., 22.*

в) Плюнуўшы, слюнькі не падымеш. *Добр., Смол., 115.*

г) Праглынутага не выплюнеш, а выплюнутага не падымеш. *Нос., 140. Вар.: Дуб., 45.*

521. Слова як птушка: выпусціў — не вернеш. *Ляцкий, 42.*

а) Слова як птушка: вылеціць, то не зловіш. *Fed., 282.*

б) Слова не верабей: выпусціш — не зловіш. *Ахрым., 52. Вар.: 1961, Кап. 13.9.5; А. Махнач, 1952, Уздз.; Т. Багдзевіч, 1965, Шчуч. 13.10.15.*

в) Слова як верабей: вылеціць і не паймаеш. *Pietk., 383.*

г) Слова не верабей — не паймаеш. *Добр., Смол., 136. Вар.: А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

д) Слова — не верабей: вылеціць — не дагоніш. *С. Заянчкоўская, 1965, Церах. 13.3.29.*

е) Слова як верабей: выпусціш, то не зловіш. *Dybow., 18.*

522. Сказаў — адрэзаў. *Мін-Мал., 1974, 166, Уздз.*

523. На ўсяку рэч ест прыказка. *Fed., 249.*

а) На ўсё знойдзецца прыказка. *Янк., 169.*

524. Пустая гаворка — не пагаворка. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15; М. Шавель, 1960, Івац. 13.9.24; Л. Павецьева, 1967, Шкл., 8.1.107.*

525. У прыказцы — праўда святая. *Янк., 172.*

526. Старая пасловіца вавекі не зломіцца. *Т. Гуляй, 1965, Свісл. 13.10.5.*

527. На прымаўку і суда няма. *Т. Шумская, 1967, Кліч. 13.10.21.*

528. Прыказку скажа, як вузлом (вузел) завяжа. *Н. Парукаў, 1965, Добр. 13.10.19; Рапан., 206.*

529. Умелая прыказка як пры мяшку прывязка. *Янк., 172.*

530. Прыказка як прывязка: і так добра, і так спатрэбіцца. *Янк., М., 71.*

531. Добрая прыказка не ў брыво, а ў вока. *Ахрым., 29.*

532. Добрая пасловіца ў вочы колецца. *Ахрым., 39; Рапан., 176.*

533. Рынуў прымаўкаю, як граззю ў вочы. *Dybow., 188.*

534. Не, гэта пагаворка з бабінага надворка. *Fed., 210.*

535. Без прыказкі і з лаўкі (печы) не зваліцца. *Нос., 5; Сержп., 3; Рапан., 243.*

536. Гаварыў, гаварыў і прымовіў. *Рапан., 139.*

537. Без прытчы трасца не бярэць. *Ром., Зап., І, 215.*

538. На прыказкі, як на прывязкі. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

а) Здаўся на прыказкі, як сабачая шкура на прывязкі. *Шпил., 180. Вар.: Шейн, II, 476; Дуб., 65.*

б) Здаўся на прыказкі, як сабака на прывязкі. *Fed., 249. Вар.: М. Грынблат, 1960, Сір. 8.1.47; Рапан., 249.*

в) На прыказкі, як чорт на прывязкі. *І. Хайратовіч, 1951, Кругл. 13.8.4. Вар.: А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

539. Харош на прысказі, а паглядзім, какоў ты будзеш на прывязі. *Добр., Смол., 86.*

540. Здаўся на прыказкі, як арэхі дзеля пацехі. *Янк., 167.*

541. За прыказкі парве чорт прывязкі. *А. Фядосік, 1962, Капатк. 8.1.76.*

542. За прыказкі пойдуць скуры на вывязкі. *М. Грынблат, 1971, Глыб. 8.2.43.*

а) Прыказкі — скура пойдзе на прывязкі. *М. Грынблат, 1969, Стол. 8.2.14.*

б) Люблю прыказкі — у мяне скура пойдзе на прывязкі. *А. Фядосік, 1969, Стол. 8.2.15.*

543. Прымаўкі да прыказкі — мудрай мовы прывязкі. *Рапан., 180.*

544. Загадаў загадку, што раскусіць трудна. *Нос., 44.*

545. Загануў загадку, аж самому гадка. *Сержп., 124.*

546. Байкі гадуюць дзяцей. *Дуб., 5.*

547. Няма байкі без праўды. *Ляцкий, 26.*

548. Быль як смала, а нябыль як вада. *Ром., Зап., I, 215.*

а) Быль як смала, а небыліца як вадзіца. *Рапан., 243.*

549. Басня (байка) без канца, як кабыла без хваста. *Fed., 23; «Герой працы» (Шуміліна), 7 мая 1968 г.*

550. Скажу казку да і з прыказкай. *Дуб., 55.*

551. Казаная казка. *Нос., 50.*

552. Дакучная басня. *Нос., 36.*

553. Басня з камара вырасце на вала. *Dybow., 5; Fed., 23.*

554. Мусіць, дзесь звон адлілі, калі такую байку пусцілі (цікаву). *Fed., 362.*

555. Басні бабе, а дурак, хто іх любіць. *Ром., Зап., I, 215.*

556. Салаўя байкамі не кормяць. *Ахрым., 51; І. Януля, 1965, Вайк. 13.10.3.*

557. Дзе п'юць, там баюць. *А. Малаш, 1969, Докш. 8.2.22.*

558. Салодак бай на рэчы, да слухаць некалі. *Нос., 153.*

559. Салодак бай у рэчы, да праўды ў ём мала. *Дуб., 54.*

## ПЕСНЯ. МУЗЫКА. ТАНЦЫ

560. З добраю песняй жыць весялей. *Янк., 167; Мін.-Мал., 1974, 187, Пух.*

561. З песняй дружыць — не тужыць. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15. Вар.: Рапан., 165.*

562. Песня дарогу пазнае́ць. *М. Грынблат, 1971, Глыб. 8.2.43.*

563. Дзе праца, там і песня. *А. Фядосік, 1959, Капатк. 8.1.44.*

564. З песняй і работа спорыцца. *А. Фядосік, 1959, Капатк. 8.1.44.*

565. Дай мазі ў кола, а працы — песні вясёлай. *Янк., 166.*

566. Без песні — хоць трэсні. *Янк., 166.*

а) Без песні хоць трэсні, а з песняй і хада шпарчэй. *Г. Барташэвіч, 1975, Уздз. 8.75.96.*

567. Жысць спявае, а не гады спяваюць. *М. Грынблат, 1960, Дзятл. 8.1.74.*

568. Скора песня пяецца, ды не скора складаецца. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

569. Песня песняй і будзець. *М. Грынблат, 1960, Сір. 8.1.47.*

570. Кепскія песні лепш за добрыя слёзы. *Мат., 182.*

571. Не ўсё пець, што ўмець. *І. Лушчыцкая, 1960, Стаўб. 8.1.52.*

572. Калі не спявалі, то і не весяліліся. *«Герой працы» (Шуміліна), 7 мая 1968 г.*

573. Раз не было песень, то не было і вяселля. *Янк., 171.*

574. Песні пелі, на пятніцу не глядзелі. *Добр., Смол., 98.*

575. Як чалавек, то новая песня. *І. Лушчыцкая, 1960, Нясв. 8.1.52.*

576. Якая птушка, такая і песня. *Бяльк., 508, Касц.*

а) Які салавей, такая і песня. *Л. Царанкоў, 1960, Рэч. 13.9.2.*

577. Хоць салавей маленькі, але яго песні ўдаленькі. *А. Махнач, 1952, Узд. 13.10.15.*

578. У дурнога салаўя і дурная песня. *М. Бандарэнка, 1966, Маз. 13.3.29. Вар.: Мін-Мал., 1970, 160, Узд.*

579. Пустой птушкі пустыя і песні. *Шейн, II, 480, Барыс. п. Вар.: Fed., 251.*

580. Хто каб салоўку паслухаць, а хто дзеркачовай песні рады. *Янк., 266.*

581. Салавей песнямі не сыт. *Міеп., 396.*

а) Салаўя песнямі не накорміш. *Ляцкий, 39; Сержп., 50.*

582. Салаўёвымі песнямі не будзеш сыт. *Fed., 233.*

583. Салаўі пяюць, да хлеба не даюць. *Добр., Смол., 98.*

584. Што весь, то іншая песнь. *Fed., 234.*

585. Слёз не пераплачаш, песень не перапяеш. *К. Цвірка, 1974, Валож. 8.74.80.*

586. Не спявай, бо будзеш плакаць. *Fed., 306.*

587. Песні як вецер у полі: вецер падуўў — і песні прайшлі. *Добр., Смол., 98. Вар.: Рапан., 168.*

588. Улежыцца — песня будзець. *Нос., 14.*

589. Добра пяеш, хадзі ў хату. *Дуб., 14.*

590. Гаварыць трэба паасобку, а спяваць разам. *Цар., 241, Мінск.*

а) Пець добра разам, а гаварыць розна. *Ахрым., 48.*

б) Пець добра разам, а гаварыць па чарзе. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

в) Спяваць добра разам, гаварыць паасобку. *«Патрыёт» (Ушачы), 19 кастрычніка 1968 г.*

591. З дрэнным голасам у чужую песню не лезь. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

592. Як з такой песняй, дык лепш без яе. *Г. Прытычанка, 1960. Карм. 13.3.29.*

593. Як умею, так і пяю. *М. Бандарэнка, 1966, Маз. 13.3.29. Вар.: Шпил., 184; Dybow., 184.*

594. І няўмелька пяець, калі голасу стаець. *Нос., 56. Вар.: Сержп., 17.*

595. Як падцягне басам, як сабака часам. *Мін.-Мал., 1974, 190, Уздз.*

596. Спявай песні, хоць трэсні. *Fed., 234.*

а) Песні, хоць па лобе трэсні. *Fed., 233.*

597. Хоць не прыеўшы, ды прыпеўшы. *Ляцкий, 54.*

598. Патуль пеў, пакуль еў. *Нос., 135.*

599. Нашча і песня нс пяецца. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15; Л. Павецьева, 1967, Мсцісл. 8.1.107; А. Гурскі, 1967, Бял. 8.1.112.*

600. З песні слова не выкінеш. *Czeczot, 114; Tyszk., 433; Fed., 234; Pietk., 336; Сержп., 137; Бяльк., 326, Мсцісл. Вар.: Ахрым., 33; М. Грынблат, 1960, Сір. 8.1.47; 1974, Валож. 8.74.82; М. Бандарэнка, 1966, Маз. 13.3.29.*

а) З песні слова не выкідаюць: як спяваюць, так спяваюць. *М. Грынблат, 1969, Стол. 8.2.14.*

б) З песні слова не вон. *В. Скідан, 1967, Бял. 8.1.105.*

601. З мора вады не выліць, з песні слова не выкінуць. *Ляцкий, 13.*

а) З мора вады не выбераш, з песні слова не выкінеш. *А. Ліс, 1963, Глыб. 8.1.84. Вар.: К. Цвірка, 1974, Валож. 8.74.80.*

602. Песня без канца, як кабыла без хваста. *Fed., 233.*

603. Песні канец і водачкі карэц. *І. Цішчанка, 1956, Вас. 8.1.49.*

604. Якая песня, такая заплата. *Янк., 274.*

605. Старая гэта ўжо песня. *Fed., 234.*

606. Гады́ ўпяклі, дык і песні ўцяклі. *В. Скідан, 1967, Бял. 8.1.105.*

607. Сколькі іх, песень, умеў, ды ўжо прыдурнеў. *К. Цвірка, 1974, Валож. 8.74.80.*

608. Быў пяюн, ды забіў пятун. *І. Курбека, 1961, Докш. 13.9.7.*

609. Была некалі песельніца, ды збылася. *К. Цвірка, 1974, Валож. 8.74.80.*

610. Што тэя песні? Вясною і ўдод напяець. *Добр., Смол., 98.*

611. Старая песня на новы лад. *Г. Прытычанка, 1960, Карм. 13.3.29.*

612. Хто ў мох, хто ў алешнік, а Іван у Маскву за песнямі. *Г. Прытычанка, 1960, Карм. 13.3.29.*

613. Не да солі, калі іграюць на басолі. *Tyszk., 423; Шпил., 185; Шейн, II, 478; Dybow., 14. Вар.: Fed., 76.*

614. Ні сюды, ні туды, мае мілыя дуды́. *Tyszk., 425; Dybow., 186; Шейн, II, 479.*

615. Без скрыпачкі, без дуды ходзяць ногі не туды. *Янк., 205.*

616. Купіў дуду на сваю бяду. *Янк., 23.*

617. Дуда як бяда: пачнеш дзьмуць, дак аж слёзы набягуць. *Сержп., 23. Вар.: Шейн, II, 473, Барыс. п.*

618. Усякая дуда ў свой нос дуе. *Ляцкий, 51.*

619. Так будзеш дуць, як дадуць. *Нос., 161.*

620. Кажды б іграў, каб дуду абняў. *Fed., 123.*

621. Як дуду настроіў, так грае. *Fed., 84.*

622. Як ду́ды надзьмецъ, так ду́ды іграюць. *Tyszk., 425. Вар.: Нос., 195.*

а) Як дуду надзьмеш, так дуда і грае. *Калянд., 1925.*

623. Бяда — ні дуды, ні грання́. *Fed., 25.*

624. Чорт дуду надзьмецъ, калі дух ідзецъ. *Нос., 183.*

625. Ні паспаць, ні паплясаць, ні ў дуду пайграць. *Ром., Зап., III, 227.*

626. Як язычком, так смычком. *Янк., 125.*

627. Нашто гэтыя скрыпкі, калі мы іграць не ўмеем. *Mien., 397.*

628. Кончан баль — і скрыпкі ў торбу. *Янк., 230.*

а) Скончан баль — і дудкі ў торбу. *М. Грынблат, 1975, Мінск.*

б) Вальс закончан — скрыпкі ў торбу. *М. Гайлік, 1966, Свісл. 13.10.26.*

629. Гуслі павышлі, пальцы змарыліся. *Л. Салавей, 1968, Краснап.*

630. Славен бубен за гарамі. *Czeczot, 114. Вар.: Fed., 43; Pietk., 313; Дуб., 54; Шырма, 206; А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

631. Добрая гармошка: і сыграць на ёй, і пасядзець на ёй. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

632. Як знаю, так граю. *Янк., 273. Вар.: Сержп., 29.*

633. Дзе піяне, там гране. *Fed., 110.*

634. Як глянуў, так і грануў. *Dybow., 192.*

а) Што глянуў, то грануў. *Нос., 188.*

635. Чуў не чуў, бачыў не бачыў вечарынку, а грошы плаці. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

636. Альбо хараша іграй, альбо скрыпку паб'ю. *Нос., 2. Вар.: Дуб., 1.*

637. Які музыка, такое гранне. *Янк., Дыял., III, 171, Глуск.*

638. Не ўздумаеш дудзець, як нечага надзець. *Добр., Смол., 42.*

639. Галоднаму — ежы, халоднаму — цяпла, а сытаму — музыкі. *Янк., 210.*

640. Як настроілі, так грае. *Fed., 198; У. Іваноў, 1958, Мінск.*

641. Пад гэтую музыку толькі яблыкі красці. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

642. Вясёлы дзед — і на ка́нтале іграе, і песні спявае. *Л. Салавей, 1972, Лаг.*

643. Карагод — сем баб пасярод. *М. Грынблат, 1973, Бабр.*

644. Танец не работа, хто не ўмее — сарамота. *Fed., 310; А. Жадзейка, 1963, Дзятл. 13.10.6а.*

645. Абы ўмела та́нчыць, работку гора на́ўчыць. *Гильт., 293, Віл. п. Вар.: А. Ліс, 1969, Смарг.; Янк., 96.*

   а) Абы ўмела та́нчыць, а гора дзелу навучыць. *К. Кузняцова, 1963, Уздз. 8.1.74.*

   б) Умей та́нчыць, а работку рабіць гора на́ўчыць. *В. Іваноўская, 1963, Маладз. 8.1.83.*

646. Нітку ў голку (у берда) не ўвядзе, а ў танца хораша (першая) ідзе. *А. Ліс, 1965, 1968, Смарг.*

647. Танцуй, Панцялей, не шкадуй лапцей. *Л. Корсак, 1951, Асіп. 13.9.11.*

648. Узяліся ў бокі і пайшлі ў скокі. *Янк., 262.*

649. Хоць у кармане пуста, але ногі сыплюць густа. *1961, Брасл., 13.9.5.*

650. Часам плачаш, часам скачаш. *Fed., 238.*

651. Хоць бяда ў камяніцы, абы гоц на вуліцы. *Fed., 26.*

652. Як я захачу, то і на гуліцы паскачу. *Fed., 48.*

653. Гэтаму танцу не будзець канца (ко́нцу). *Нос., 24; Fed., 310; Янк., 211.*

654. Надзела вянок і пайшла ў танок. *Бяльк., 128, Краснап.*

655. Як да жніва, то ледва жыва, а як да танцу, то «мой каханцу». *Суяшк., 617, Гродз.*

а) Як да танцаў, дык каханца, як да жніва, ледзве жыва. *Мін.-Мал., 1970, 170, Іў.*

656. Танцуй, Зося, як прышлося. *1961, Брасл. 13.9.5.*

657. Калі шанцуе, то і Філімон (Піліп, Хáімка) танцуе. *Czeczot, 109; Tyszk., 427. Вар.: Dybow., 12; Fed., 49, 234; Pietk., 313; Дуб. 26.*

а) Калі шанцуе, то й стары танцуе. *Fed., 297.*

б) І Халімон танцуець, калі яму шанцуець. *Нос., 57; Дуб., 25.*

в) Калі пашанцуе, то і ў лапцях станцуе. *Янк., 226; Суяшк., 595, Воран.*

г) Калі не шанцуець, і Юрка не танцуець. *Нос., 65.*

658. Танцуй, танцуй, ды і пакланісь. *Вас., 144.*

659. Танцаваў, ланцаваў, ды й не пакланіўся. *Fed., 310.*

660. П'юць да пасінення, танцуюць да адурэння. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

661. Ноч танцаваць, а днём спаць. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

662. Скакаў бы і я, каб дзе якое ў горла папала. *Ляцкий, 41.*

663. Ад музыкі і танцы. *М. Грынблат. 1960, Сір. 8.1.47.*

664. Найграй на языку, а мы паскачам. *Сержп., 99.*

665. Як граюць, так і танцуюць. *Зах., 252; А. Русіновіч, 1954. Светл. 13.3.29.*

а) Як граюць, так і тáнчаць. *1961, Брасл. 13.9.5.*

б) Як граюць, так скакаюць. *Fed., 114. Вар.: Янк., 273.*

в) Як ты граеш, так я скачу. *Fed., 114.*

г) Як будуць граць, так будзем скакаць. *Сах.*

д) Скачы так, як граюць. *Fed., 279.*

666. Ты граеш, як знаеш, а я скачу, як хачу. *Ляцкий, 46; Сержп., 28.*

667. Па дудкі — пагудка, па пляскі — ігра. *Добр., Смол., 74.*

668. Скачэце, бо тут найграна. *Сержп., 98.*

669. Каму гра не напры́крае, той здуру́ падбры́квае. *Сержп., 21.*

670. Скачы, ды ні разу не топні. *Pietk., 347.*

671. Дурной танцоўцы і хвартух завада. *Нос., 39.*

а) Няўмелай скакусе і дым заваджае. *Fed., 279.*

б) Няўмелай танцэрцы і муха заваджае. *Fed., 310.*

в) Кепскаму танцору і порткі шкодзяць. *Р. Мухляда, 1965, Шчуч. 13.10.5.*

г) Ліхому та́нцару і кашуля заваджае. *Fed., 310.*

672. Усяк пляша, ды не як скамарох. *Ром., Зап., I, 215.*

673. Хоць мядзведзей не вадзілі, дак за імі хадзілі. *Нос., 174.*

а) Хоць мядзведзя не ва́жывалі, да ва след хажывалі. *Добр., Смол., 70.*

674. Важа́каю быць — трэба з мядзведзем знацца. *Янк., 207.*

675. Студэнт смаргонскай акадэміі. *Янк., 217.*

676. Як мядзведзь здох, то і ду́ды ў мех (аб зямлю). *Dybow., 184; Fed., 182.*

а) Мядзведзь здох — складай дуды ў мех. *А. Ліс, 1975, Маладз.*

677. Умёр мядзведзь — і пляска стала. *Ром., Зап., III, 234.*

## ФІЗІЧНАЕ АБЛІЧЧА: ПРЫГАЖОСЦЬ, ЗАГАНЫ

1. Прыгожаму ўсё гожа. *Ляцкий, 35.*

   а) Прыгожаму ўсё прыстала. *Нос., 137; Дуб., 50.*

2. З прыгожага ліца харашо й вады напіцца. *Нос., 158.*

   а) Прыгожаму ўсё прыстала. *Нос., 137; Дуб., 50.*

   б) Хараша дзеўка, проста хоць вады напіся. *Fed., 49.*

3. Не красата чалавека красіць, а характар. *Л. Шчыкарэвіч, 1965, Навагр. 13.10.4.*

4. Хто красівы, той шчаслівы. *Я. Касач, 1966, Дзятл. 13.10.26.*

5. Хоць стой да глядзі, хоць плюнь да ідзі. *Fed., 110, Вар.: С. Маісеенка, 1965, Жлоб. 13.3.29.*

6. Прыгож: нос капылом, а барада кляўцом. *Бяльк., 289, Краснап.*

7. Ні складу, ні ладу. *Fed., 280. Вар.: Fed., 168.*

8. Ні пава, ні варона. *Ром., Бел., І, 298.*

9. Не паможа ні мыла, ні вода, бо такая ўрода. *Fed., 321.*

   а) Не паможа ні моцны божа, ні мыла. ні вода, калі такая ўрода. *Fed., 321.*

10. А ні людзям паказаць, а ні сабе глянуць. *З. Валюшка, 1965, Ваўк. 13.10.5.*

    а) Ні самому паглядзець, ні людзём паказаць. *Нос., 114; Сержп., 63. Вар.: Fed., 210; Pietk., 383; 1961, Кап. 13.9.5.*

    б) Ні людзям паказацца, ні самому паглядзець. *Fed., 212.*

11. Якая яда, такая і красата. *Мін.-Мал., 1970, 170, Пух.*

12. Змяшаўся між людзей, то ён і чалавек. *Fed., 64.*

13. Не наракай на люстра, калі морда крывая. *Fed., 168.*

а) Не наракай на люстэрка, калі нос крывы. *Янк., 242.*

14. Як свінню не кліч, яе заўсёды выдасць лыч. *С. Клачко, 1966, Б.-Каш. 13.3.29.*

15. Прыбяры свінню хоць у золата, а яна ўсё роўна ў хлеў пойдзе. *Янк. М., 10.*

16. Таўсты, што можна з'есці за грош абаранка, пакуль кругом абысці. *Fed., 312. Вар.: Pietk., 353.*

а) Абаранка з'ясі, пакуль надаўкол абыйдзеш. *Fed., 1.*

б) Абаранка з'еў бы, пакуль кругом абысці. *Fed., 1.*

в) Пірог з'ясі, нім абойдзеш. *Tyszk., 425; Dybow., 188.*

г) Пірог з'ясі, пакуль кругом абайдзеш. *Нос., 127.*

17. Пані на ўсе сані. *Dybow., 15; Нос., 124; Fed., 217; Сержп., 130.*

18. Толькі скура да косці. *Сержп., 31.*

19. Ні духоў, ні трыбухоў. *Сем., 31.*

20. Спераду, як хорт, а ззаду, як чорт. *Fed., 232.*

21. Хоць тонкі, дак вузлаваты. *Сержп., 6.*

22. Маленькі, але ўдаленькі. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29; 1961, Кап. 13.9.5.*

а) Хоць маленак, да ўдаленак. *Нос., 174.*

б) Хоць малая, але ўвішная. *1961, Кап. 13.9.5.*

23. Мал залатнік, да дораг. *Дразд.*

24. Хоць караткаваты, да вузлаваты. *Сержп., 67. Вар.: Ляцкий, 54.*

а) Хоць каратыш, да не варона — кыш. *Нос., 174; Дуб., 69.*

25. Што мяне страшыць, калі я і сам куртаты. *Fed., 292.*

26. Як стане на палена, то свінні па калена. *Сцяшк., 618, Свісл. Вар.: Я. Касач, 1966, Дзятл. 13.10.6.*

27. Вырас з ляжачага сабаку. *Нос., Слов., 267.*

28. Маленькі сабачка да старасці шчанок. *М. Грынблат, 1971, Краслаўскі р-н ЛатвССР, 8.2.43. Вар.: 1961, Брасл. 13.9.5.*

а) Маленькая сабачка ў шчанятках састарэлася. *Ром., Зап., III, 223.*

б) Маленькі сабачка да веку цюцька. *Дуб., 35.*

в) Маленькі сабачка да веку шчаня. *Янк., 234.*

29. Свайго гарба ніхто не бачыць. *Fed., 112.*

30. Быў бы лоб, а горб будзе. *Г. Прытычанка, 1960, Карм. 13.3.29.*

31. Старасць не радасць, а горб не карысць. *Нос., 156; Ром., Зап., III, 232; Дуб., 54; Pietk., 393; Л. Царанкоў, 1960, Крыч. 13.9.2; С. Маісеенка, 1965, Жлоб. 13.3.25; М. Грынблат, 1967, Мсцісл. 8.1.106.*

32. Стары і гарбаты ачуняюць у магіле. *Pietk., 369.*

33. Адна галава на век. *Сержп., 27.*

34. Адна галава на карку. *Fed., 99.*

35. Абы шыя, а галаву чорт прышые. *І. Хаўратовіч, 1951, Кругл. 13.8.4.*

36. Вочы па яблыку, а галава з арэх. *Крэмнеў.*

37. Акарак, хоць абоддзе гні. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

38. Сам з кокаць, барада з локаць. *Нос., 146. Вар.: Дуб., 58.*

а) Быў кокаць, меў барады локаць. *Fed., 147.*

39. Барада не канюшына, не згіне. *1969, Бяг. 8.1.42.*

40. Мужык як баран: астрыжы, то ён зноў адрасце. *Pietk., 379.*

41. Каб не плех, дык і лысы не быў бы. *В. Ганчаронак, 1960, Відз. 13.9.26. Вар.: 1961, Брасл. 13.9.5.*

а) Каб не плеш, дык і гола не было б. *Сах.*

42. Не гола, дак плеш. *Нос., 95.*

43. Лысіны не замажаш. *Сержп., 81.*

44. На лысіне хоць боб малаці. *Сержп., 81.*

а) Лысіна, хоць боб малаціць, па закутачках не ляціць. *Нос., 74.*

45. Каму што, а лысаму грэбень. *Янк., 380.*

46. Нос — на семярых рос. *Л. Царанкоў, 1960, Рэч. 13.9.2.*

а) Нос семярым рос, аднаму дастаўся. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29; Г. Карачун, 1967, Клецк. 13.10.14.*

б) Вялізны нос: чорт семярым нёс, да аднаму дастаўся. *Сержп., 67.*

47. Няма чаго зубы правярацць, калі зубы становяцца. *Янк., Дыял., III, 164, Глуск.*

48. Абы зубы, то хлеб будзе. *Fed., 360; Pietk., 401.*

49. Добрыя зубы: і кісель ядуць. *Янк., 376.*

50. Ані хлеба, ані ўкусіць чым. *Fed., 52.*

51. Асталіся толькі ярмалковыя зубы. *Pietk., 401.*

52. Вока — яма. *А. Фядосік, 1959, Капатк. 8.1.44.*

53. Вачмі свяціць трэба. *Нос., 17.*

54. Чалавека вочы водзяць. *Fed., 335.*

55. Як удзень, так і ўночы — усё тыя вочы. *Ляцкий, 63.*

   а) Зоркія вочы бачаць і ўдзень і ўночы. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

56. Добрыя мае вочы, што трапіў уночы. *Ляцкий, 10.*

57. Адны вочы і плачуць і смяюцца. *Нос., 119.*

   а) Адны вочы і плачуць і скачуць. *М. Грынблат, 1974, Валож., 8.74.82.*

58. Нашы вочы нам на пагубу. *Сержп., 62.*

59. Вочы як ложкі, а не бачаць (не відзяць) ані трошкі. *Dybow., 15; Fed., 335.*

   а) Вочы як картохі, а не бачаць ні трохі. *Сержп., 80.*

60. Адно вока і тое спаць хоча. *Fed., 286, 334.*

61. Лепшае сваё вока адно, чым чужых двое. *«Зорка».*

62. Сляпому вочы завязаны. *Нос., 156.*

63. Сляпы чалавек усюды прапаў. *Fed., 303.*

64. Не плакаў бы слеп, каб відзеў (бачыў) след. *Нос., 101; Сцяшк., 601, Дзятл.*

   а) Чаго б то плакаў слеп, калі б відзеў след. *Нос., 181.*

б) Чаго б сляпы плакаў, каб сцежку бачыў. *Tyszk., 430; Dybow., 191. Вар.: 1961, Брасл. 13.9.5.*

в) Затым сляпы плачаць, што сцежкі не бачыць. *Нос., 47; Дуб., 24.*

65. Сляпыя ў карты не гуляюць. *Янк., Дыял., I, 221.*

66. Сляпы да сляпога не пойдзе. *Ляцкий, 42.*

67. Сляпы сляпому не павадыр. *Нос., 151; Сержп., 139.*

68. Сляпому ліхтар не дапаможа. *Н. Парукаў, 1958, Добр. 13.3.29.*

69. Сляпому нечага паказываць дарогу. *Нос., 151.*

70. Сляпому не кажы дарогу, а раскажы, і тое трудна. *Ляцкий, 42.*

71. Сляпому дарогу не кажы, а нагамі пакажы. *Сержп., 186.*

72. Дурному раскажы, а сляпому пакажы. *Г. Прытычанка, 1960, Карм. 13.3.29.*

73. На адно вока сляпы, на другое не бачыць. *Ляцкий, 22.*

74. Бачыць сава сонца? Так і ты. *В. Шаўчэнка, 1961, Ельск. 13.3.29.*

75. Уцешыўся сляпы, што ўгледзеў сцежку. *Fed., 303.*

76. I сляпому вочы прадзярэць. *Нос., 57.*

77. Глухі сказаў: «Паслухаем»; сляпы сказаў: «Паглядзім». *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

78. Казаў сляпы: «Пабачу», ды і сёння не бачыць. *М. Рымша, 1957, Маз. 13.3.29.*

79. Сляпому ўсё гожа. *Сержп. 186.*

80. Сляпому вечная памяць. *Czeczot, 114; Fed., 303.*

81. Ніводны сляпы бачыць. *Никиф., 203.*

а) Не кажан сляпы відзіць. *Нос., 98, 151.*

б) Сляпыя не ўсё бачаць. *Ром., Бел., I, 309.*

82. Не кожды глухі не чуе, не кажды сляпы не бачыць. *Fed., 110.*

83. Вуха як ложка, а не чуе ні трошка. *Fed., 342.*

84. Глухі не бачыць, дык і не чуе. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

85. Не кажан глухі не чуе. *Fed., 110.*

86. Глухія не ўсе чуюць. *Ром., Бел., I, 293.*

87. На адно вуха глуха, на другое не чуець. *Нос., 86. Вар.: Сержп., 86; І. Курбека, 1961, Докш. 13.9.7.*

а) Адно глухое, а не чуе другое. *Сержп., 36.*

88. Глухому і варона салавей. *Сержп., 36.*

89. Глухому дурное здаецца. *Fed., 110.*

90. Глухога не аблаеш. *Сержп., 36.*

91. Глухога лаюць, яму здаецца, што грошы да́юць. *Ляцкий, 7.*

92. Глухі не дачуецца, то дамысліцца. *Гильт., 290, Пруж. п.*

а) Глухі чаго не дачуе, дак прыложыць. *Дуб., 11; Сержп., 36. Вар.: Сцяшк., 585, Іў; А. Хутко, 1966, Зельв. 13.10.26.*

б) Глухі чаго не дачуе, то прыдумае. *Pietk., 370.*

в) Глухі не дачуе, то прылжэ, прыхлусіць. *Сержп., 36.*

г) Глухі не дачуе, дык прыманіць (дабрэша). *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29; Ром., Бел., I, 293.*

93. Глухі — не калека. *Сержп., 36.*

94. Глухі на пальцы іграе. *Сержп., 37.*

95. Завядзіся з глухім, то ён цябе абухам. *Fed., 110.*

96. Глухому святая памяць. *Fed., 110.*

97. І ў нямога язык прарэжацца. *Нос., 57.*

98. Гаркаваму нагаварыцца, а кульгаваму нахадзіцца. *Fed., 104.*

99. Скачы, скачы, кульгавы, ад прыпечка да лавы. *Fed., 156.*

100. Сам з нагаток, а рукі да пяток. *Ляцкий, 39.*

101. Калі рукі халодныя, дык сэрца гарачае. *Сержп., 134.*

102. Што рыжэй, то даражэй. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29. Вар.: І. Курбека, 1961, Докш. 13.9.7; М. Грынблат, 1972, Круп.*

103. За адну рыжу валасіну даюць літру карасіну. *Л. Царанкоў, 1960, Рэч. 13.9.2.*

104. Хоць грыжа, але шыя рыжа. *Fed., 119.*

105. Барада рудая — праўда ліхая. *Сержп., 15.*

106. Косага да рыжага лепш абходзь. *Сержп., 71.*
   а) Рыжага і крывога бойся, як пса злога. *Нос., 145.*

107. Лысы да рыжы чалавек паганы. *Сержп., 72.*

108. Красны чалавек апасны. *М. Грынблат, 1960, Сір. 8.1.47.*

109. Няма чалавека без вады. *Fed., 63.*
   а) Нікога няма без вады. *Fed., 325.*
   б) Усякі чалавек ваду мае. *Fed., 64.*

## ЗДАРОЎЕ. ХВАРАВІТАСЦЬ

110. Свая сіла каждаму міла. *Нос., 147; В. Бондар, 1967, Мінск 13.10.24.*

111. Сіла й салому ломіць. *Нос., 149.*

а) Сіла меры не знае і саломінку ламае. *Pietk., 391.*

112. Як здароўе, дык жыць нада. *М. Грынблат, 1960, Сір. 8.1.47.*

113. Абы здароўе, а жыццё будзе. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

114. Без здароўя якая наша жытка. *Сержп., 81.*

115. Здароўе даражэй за ўсё. *Сержп., 79; Дразд.*

а) Здароўе дарожша за ўсяго. *Fed., 352.*

116. Няма лепшага багацтва над здароўе. *Fed., 352.*

117. Здаровы багатаму варт. *Ляцкий, 13; Сержп., 79.*

а) Як здаровы, то і багаты. *М. Малочка, 1959, Глыб. 8.1.46.*

118. Калі здароў — сем паноў. *Міеп., 397.*

а) Калі здароў, то будзе сем паноў. *Fed., 353. Вар.: Л. Павецьева, 1967, Шкл. 8.1.107.*

б) Пакуль здароў, то сем паноў, а як занямог, то адзін бог. *Dybow., 15. Вар.: Fed., 62.*

119. Здароўя за грошы не купіш. *Дуб., Нар., 1; Fed., 352.*

а) Здароўя не купіш. *Сержп., 82.*

120. Здароўе латва страціць, ды трудна набыць. *Fed., 353.*

121. Мільша здароўе, ніж грошы. *Fed., 352.*

122. Здароваму ўсё здорава. *Fed., 353.*

123. Глядзі на від, ды пытай здароўя. *М. Грынблат, 1969, Лун. 8.2.14.*

а) Паглядзі на стан, да і пытай сілу. *А. Фядосік, 1962, Капатк. 2.1.76.*

124. Не з чорта ён здаецца, а такі дужы. *Fed., 89.*

125. Яго і доўбней не заб'еш. *Fed., 316. Вар.: Сержп., 79; М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

126. На яго ніякай немачы няма. *Сержп., 87.*

127. Ён не знаў, дзе галава, а дзе нага. *Fed., 358.*

128. Хоць не скора, да здарова. *Шейн, II, 483, Ігум. п.; Fed., 280.*

129. Той здароўя не ўважае, хто хваробы не знае. *Сержп., 79.*

130. Хоць дасужы, да нядужы. *Fed., 77.*

а) Не дуж, да дасуж. *Нос., 97.*

131. Якая зма́га, такая й бяга. *Бяльк., 194, Касц.*

132. Пі халодную воду, не будзеш хварэць да роду. *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

133. Не тэй сілён, хто здзержываецъ коней, а тэй, хто здзержываецъ самаго сябе. *Нос., 104.*

134. Сон лепш усялякага зелля. *Сержп., 83.*

135. Сон ад усяго найлепшы. *Fed., 285.*

a) Сон найлепшы за ўсё. *Fed., 285.*

136. Сон мілей яечні. *Fed., 255.*

137. Калі адзін зяўнуў, то і ўсе пойдуць зяваць. *Нос., 65.*

138. Як гарэх поўны, то поўнае вока сну. *Fed., 104.*

139. Вочы не закрыўшы, не заснеш. *Ахрым., 24.*

140. За сон не бярыся. *Fed., 285; Нос., 47.*

a) За сон брацца не можна. *Fed., 285.*

б) За сон не руча́й. *Fed., 285.*

141. Што думаеш, тое сніцца. *Fed., 84.*

142. Сніцца — трызніцца, а як прачнецца — усё мінецца. *Нос., 152.*

143. Спала крэпка — устала, як кепка. *Fed., 84.*

144. Няспаўшы чалавек — ніякі. *М. Грынблат, 1964, Гарад. 8.1.87.*

145. Чалавек не камень. *С. Бахмет, 1970, Астр. 8.2.38.*

146. Капейка і тая сціраецца. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

147. Сілы не вырабіш, а выхвараеш. *Fed., 277.*

148. Была ў мяне сіла, як маці насіла. *Янук. Вар.: І. Курбека, 1961, Докш. 13.9.7.*

149. Не здужаю пярыны падняць. *Fed., 353.*

150. Ён і саломы не праломіць, так знядужаў. *Сержп., 80.*

151. Ён бы з крыжа зняты. *Сержп., 31.*

152. Адны вочы засталіся. *Янк., Дыял., I, 203, Глуск.*

153. Ёсць тыя ямачкі, дзе вочы былі. *Сержп., 186.*

154. Не жывець, а цьмеець. *Нос., 97.*

а) Не жывець, а як цень тлеець. *Ляцкий, 30.*

155. Не жыве, да гніе. *Fed., 110.*

156. Ні папраўкі, ні смерці на яго няма. *Fed., 220.*

157. Пакуль да смерці, дык хваробы душу вымуць. *Сержп., 82.*

158. Яблыка красівае, але ў сярэдзіне гнілае. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

159. Вялік пірог, да ў сярэдзіне плох. *Крэмнеў.*

160. Дуб вялікі, да дуплаваты. *Tyszk., 432; Шпил., 179. Вар.: Нос., 38; Сержп., 56.*

а) Вялікі дуб, да дупляняты (дуплясты). *Шейн, II, 474, Ігум. п.; Fed., 83.*

б) Добры дуб, ды дупляністы. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

в) Вялік пень, да дуплят. *Ром., Зап., I, 215.*

161. Гнілое дзерава доўга жыве. *Сержп., 81.*

162. І жалеза іржа з'ядае. *Т. Багдзевіч, 1963, Воран. 13.10.7.*

а) Зялеза іржа есць, а чалавека — хвароба. *Бяльк., 212, Мсціcл.*

163. Хваробу не трэба клікаць, сама прыдзе. *Fed., 56.*

164. Хвораму нічога не міла. *Fed., 56.*

165. Хто не мае сілы, таму свет нямілы. *Fed., 277. Вар.: І. Суконкін, 1960, Церах. 13.3.29; І. Цішчанка, 1971, Брасл. 8.2.49.*

а) Няма сілы, дык і свет нямілы. *Цар., 245, Рэч. Вар.: М. Грынблат, 1974, Лаг.*

166. Як гніл, нікому не міл. *Добр., Смол., 39.*

167. Лядачаму ўсюды кепска. *Fed., 160.*

168. У хворага не гулянкі ў мыслях. *Ляцкий, 51.*

169. Калі баліць, ніщто не весяліць. *Н. Парукаў, 1958, Добр. 13.3.29.*

170. Хвароба нікога не красіць. *Нос., 171; Сержп., 31, 81; Мяц., 47, Нясв.; Добр., Слов., 39. Вар.: М. Грынблат, 1967, Мсцісл. 8.1.106.*

171. Хвароба не пернік: не пракаўнéш і не адкáжашся. *Янк., Дыял., I, 223, Глуск.*

172. Хвароба людзей не збірае. *А. Махнач, 1952, Узда. 13.10.15.*

173. Хворы — сабе гора, сваякам — удвая. *В. Санько, 1969, Слуцк.*

174. У нашым дварцы́ ўсе хварцы́. *Сержп., 44.*

175. Хвароба прыклікі шукае. *С. Маісеенка, 1965, Жлоб. 13.3.25.*

176. Дайгралася Матрунка ліхое немачы. *Pietk., 322.*

177. Хвораму ўсюды мулка. *Янк., Дыял., I, 223, Глуск.*

178. Хвароба лежню любіць. *Сержп., 82.*

179. Хворы здароўе хваліць. *Ляцкий, 53.*

180. У хворага здароўя пытаюць. *Ром. Бел., I, 312.*

181. Як чалавек здароўе страціць (паэбудзе), тагды яго ацэніць. *Fed., 352.*

182. Усякаму свая рана баліць. *Ром., Зап., I, 216. Вар.: А. Жадзейка, 1965, Шчуч, 13.10.6.*

183. Кожнаму свая хвароба важная. *Сержп., 82.*

184. Боль маўчанкі не знае. *Сержп., 82.*

185. Каму баліць, той і крычыць. *Dybow., 12. Вар.: Fed., 21; Сержп., 82; Л. Царанкоў, 1961, Рэч. 13.9.2; 1961, Брасл. 13.9.5.*

а) Каму баліць, той стогне. *Fed., 21.*

б) Каму баліць, той і студзіць. *Шырма, 205; А. Махнач, 1952, Узда. 13.10.15.*

186. У каго што баліць, той аб тым і гаварыць. *Ляцкий, 49.*

187. Лягушка квокчыць, свой нядуг цешыць. *Нос., 76; Дуб., 32.*

188. Загаварыўся, што стагнаць забыўся. *Л. Царанкоў, 1961, Крыч. 13.9.2.*

189. Не ка́жан хворы, што стогне. *Fed., 65. Вар.: В. Іваноўская, 1961, Раг. 8.1.74.*

190. Скрыпучае дзерава доўга стаіць. *Нос., 150. Вар.: Сержп., 81; 1961, Кап. 13.9.5; Л. Царанкоў, 1961, Касц. 13.9.2.*

а) Скрыпліва дзерава переажыве і здаровае. *Fed., 95. Вар.: Pietk., 319.*

б) Скрыпучае дрэва стаіць, а здаровае ляціць. *Ром., Зап., III, 231.*

в) Скрыпучае дрэва два вякі жыве. *С. Маісеенка, 1965, Жлоб. 13.3.25.*

г) Рыпіць, рыпіць, але доўга прастаіць. *В. Бондар, 1967, Мін. 13.10.24.*

191. Каму не баліць, той не крычыць. *1961, Брасл. 13.9.5.*

192. Смяецца, каму не ймецца, а каму баліць, і за гарачы камень бярэцца. *Нос., 152.*

193. Ніхто нічыей болькі не ведае. *Fed., 41.*

194. Чужая болька людзям смех. *Tyszk., 420.*

195. Болька больцы не роўня. *Fed., 41.*

196. Як захоча галава гуза (струпа), то знойдзе. *Янк. М., 23.*

197. На балючае вока ўсё парушына ляціць. *А. Куцакова, 1956, Раг. 13.3.29. Вар.: Л. Царанкоў, 1961, Рэч. 13.9.2.*

198. На пахілае (паклякае) дзерава і козы не скачуць. *Czeczot, 112; Киркор, 236; Гильт., 297. Вар.: Шпил., 185; Гильт., 289; Fed., 95; Pietk., 319.*

199. Гойнай (балючай) раны не трэба дражніць. *Нос., 25; Ляцкий, 8; Fed., 258; Дуб., 10.*

а) Не дражні нічым балячкі. *Нос., Слов., 30.*

200. Тым жа салам да па тым жа ранам. *Нос., 165; Добр., Смол., 127; Дуб., 61.*

201. Не калупай болькі, другі раз не зажывець. *Ляцкий 26.*

202. Застарэлую хваробу цяжка лячыць. *Ахрым., 32.*

а) Старую рану трудна загаіць. *Fed., 258.*

203. Не хадун, не сядун. *Fed., 48.*

204. Як не грэе дух, то не нагрэе кажух. *А. Фядосік, 1962, Капатк. 8.1.76. Вар.: К. Кабашнікаў, 1965. Тур. 8.1.102.*

205. Каму акалець, той і ў пятроўку змерзне. *Pietk., 309, 354.*

206. Тагды паправі́цца, як бацькіну шкуру злупяць, а другая нарасцець. *Нос., 162.*

207. Палепшала бацьку к смерці. *Нос., 132; Дуб., 51.*

208. Адна нага ў грабе́, а другая каля боку. *М. Грынблат, 1960, Сір. 8.1.47.*

209. Ужэ адною нагою над гробам стаіць, а ўсё сваё робіць. *Fed., 254.*

210. Не чалавек у бога. *Добр., Смол., 50.*

211. Бальному і залатая кравацць не паможа. *Ром., Зап., I, 215.*

212. Паваліўшыся на 'дну нагу, можна ўстаць, а калі ўжо на дзве — тагды капцы табе. *Ляцкий, 32.*

213. Як на душы, так і на целе. *І. Курбека, 1961, Докш. 13.9.7.*

214. Не косці душу хароняць, а душа косці беражэ. *Вас., 23.*

215. Душа як крэпка, так і квола. *Добр., Смол., 110.*

216. Хвораму і на залатом ложку кепска. *Янк. М., 30.*

217. Душа не птушка: праз акно не вылеціць. *Fed., 88.*

218. Нуда хужы хваробы. *Ром., Бел., I, 305.*

219. Не хвор, калі есці просе. *Ляцкий, 31.*

220. Не хвор, а вор. *Сержп., 15.*

а) Не хвор, а вор, калі есці просіць. *Сержп., 15.*

221. Не столькі хварэе, колькі дурэе. *1961, Брасл. 13.9.5.*

222. Пакуль жаніцца — загаіцца. *Ром., Бел., I, 309; Dybow., 15; Ляцкий, 32; Сержп., 68; Дуб., 50.*

а) Пакуль жаніцца — загаіцца, пакуль шлюб браць — нічога не знаць. *В. Іваноўская, 1963, Маладз. 8.1.83.*

б) Не плач — загоіцца, покуль жанíшся. *Pietk., 386.*

в) Не плач, што ўбіўся: да свадзьбы зажывець. *Добр., Смол., 29.*

г) Пукі вяселле скоіцца, то гэта загоіцца. *Fed., 347.*

д) Зажывець, пакуль жэніцца. *Нос., 45. Вар.: Fed., 11.*

е) Пакуль жаніцца, зажывець і загарыцца. *Добр., Смол., 29.*

ж) Да вяселля загоіцца. *Fed., 347.*

з) Пакуль жаніцца — загаіцца, а ўміраць, то і не знаць. *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

223. Не ўрадзімае — прахадзімае. *Л. Салавей, 1971, Мядз.*

224. На жывой касці мяса нарасце. *А. Куцакова, 1956, Раг. 13.3.29.*

а) На жывой касці мусіць мяса абрасці. *Нос., 84, 86.*

б) На худой касцé мяса нарасцé. *М. Гваздзёў, 1960, Рэч. 8.1.58. Вар.: Л. Царанкоў, 1960, Хоц. 13.9.2.*

в) Жывая костка мясам абрасце. *І. Суконкін, 1960, Церах. 13.3.29.*

г) Абы косць хаця, то мяса будзе. *Fed., 150.*

д) Былі бы косці, а па касцях мяса будзець. *Ром., Зап., I, 215.*

225. Не памрэ, дык жыў будзе. *Ром., Бел., I, 303. Вар.: Fed., 319.*

226. Каму харавáць, таму не ўміраць. *Fed., 49.*

227. Здаецца, канáець, а хваробу думáець. *Ляцкий, 13.*

228. Жывы аб жывое і думаець. *Ром., Бел., I, 296. Вар.: Ляцкий, 12; Сержп., 66.*

229. Здаровы спадзяваецца хваробы, а хворы — смерці. *Fed., 353.*

230. Добры час возьме хваробу ў час. *Сержп., 82.*

231. Жывы ў зямлю не палезеш. *І. Януля, 1965, Вайк. 13.10.3.*

232. Хвароба ў лес, здароўе ў косці. *Дуб., 68.*

233. Слабаму жывату і вада зава́да. *Нос., 150.*

а) Ліхому жывату і боб ва́дзіць. *Янк. М., 117.*

б) Благому жывату і пірог шкодзіць. *Fed., 373.*

234. Здароваму жывату і рэдзька не ва́дзіць, а хвораму і масла шкодзіць. *М. Бохан, 1965, Маст. 13.10.3.*

а) Здароваму жывату і кій не ва́дзіць, а хвораму і рэдзька шкодзіць. *Нос., 49.*

б) Добраму жывату камень і кій не зашкодзяць. *Fed., 373.*

в) Здароваму і кій не зашкодзіць. *Fed., 353.*

235. Хвораму і мёд горкі. *Сержп., 82.*

236. Еў бы раток, каб прыняў жываток. *Fed., 262.*

237. Вачам завідна, да жывату не пажытачна. *Нос., 16.*

238. Вочы жадаюць, а душа не прымае. *Fed., 336.*

а) Ачыма еў бы, але душа не прымае. *Fed., 334.*

б) Ачыма хочацца есці, а душа не прымае. *Fed., 229.*

239. Даў бог, ды скарыстаць не мог. *С. Цярохін, 1975, Саліг.*

240. Каб мог, то зямлю еў бы. *Fed., 130.*

241. Як не балела брушка, дык не баліць і душка. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

242. Хвораму ў ядзе не вер. *Сержп., 82.*

243. Ачыма ішоў бы, а не магу ніяк. *Fed., 122.*

244. Хрыпае ў грудзях — не будзеш у людзях. *Fed., 118.*

а) Баліць у грудзях — не быць у людзях. *Янук. Вар.: А. Ліс, 1973, Смарг.*

245. Кашаль — хвароба не ліхая, але хата не ўціхае. *Fed., 139. Вар.: Pietk., 374; Янк. М. 31.*

246. Каб не кашаль і не ўду́ха, была б хата глу́ха. *Сцяшк., 594, Шчуч.*

247. Каб галава не балела, то б не аблезла. *Fed., 100.*

248. Трасца нікому не здасца: сем лет патрасе і на той свет занясе. *Fed., 314.*

249. Адно гарачка, а другое балячка. *Fed., 103.*

250. Гняту́ха, можа, горш трасухі, дарма, што сёстры. *Сержп., 80.*

251. К зябламу ліцу снегу прыбаўляць. *Ром., Зап., III, 222.*

252. Скулка не мулка; каму сядзець — не завадзіць. *Ром., Бел., I, 308.*

253. Скула, што пан — не зачапі. *Янк. М., 45.*

254. Скулачка садзіцца — цельца маладзіцца. *Нос., 150.*

255. На шыі кіла, а на кіле скула. *Дуб., 38а.*

а) Не вот бяда, калі на шыі кіла, а вот бяда, калі на кіле кіла і на кіле скула. *Нос., 94.*

256. Кароста — хвароба не проста. *Fed., 137.*

а) Кароста не проста — панская хвароба. *І. Курбека, 1961, Докш. 13.9.7.*

257. Кароста не напасць, каму бог дасць. *Dybow., 12.*

258. Кароста (мужыцкая хвароба) не напасць, толькі ўночы спаць не дасць. *Fed., 137; Pietk., 373.*

259. Каму свярбіць, той драпае. *Fed., 306.*

260. Пярхота ды чыхота — не свая ахвота. *Сержп., 80.*

261. Хто лечыцца, той у бядзе не цвечыцца. *Fed., 166.*

262. На ўсе хваробы есць спасобы. *Fed., 56; Цяшк., 600, Вайк.*

263. Што хвароба, то дохтар. *Fed., 36, 79.*

264. Дахтароў найбольш на свеце. *Fed., 79.*

265. Не ўсякі доктар, хто лечыць. *Мін.-Мал., 1970, 163, Узда.*

266. Не каждаму адно зелле. *Ляцкий, 26.*

267. Што зашкодзіла, тым і памагаць трэба. *Янк., Дыял., III, 170, Глуск.*

а) Што зашкодзіла, няхай тое і паможа. *Янк., Дыял., III, 170, Глуск.*

б) Што зашкодзіла, тым і лячыся. *Янк., Дыял., III, 170, Глуск.*

в) Што заўрадзе́ла, тое і вылечыць. *Янк., Дыял., III, 170, Глуск.*

268. Хто ездзіць на лекі, той прападзе навекі. *Fed., 162.*

269. Лепш выдаць на пекара, чымсь на лекара. *Дуб., Нар., 1.*

270. I лекі не заўша памагаюць. *Fed., 162.*

271. Калі высахлі сокі, дык не памогуць і лёкі. *С. Цярохін, 1974, Саліг.*

272. I самыя найлепшыя лекі бескарысны для калекі. *Н. Парукаў, 1965, Добр. 13.10.19.*

273. Без ратунку палова людзей умірае. *Fed., 258.*

274. Уміраючага ратаваць трэба. *Дуб., 62.*

275. Калі векі, то і дзёгаць — лекі. *Мат., 181, Бял.*

276. Калі возьме за векі, не памагуць лекі. *Fed., 331.*

277. Каб тыя лекі згінулі навекі. *Fed., 162.*

278. Свайго здароўя не дасі. *Сержп., 81.*

279. Рук не падложыш. *Fed., 266; Ляцкий, 38; Сержп., 81.*

280. Чалавек як муха: тут е, а тут няма. *Fed., 61.*

281. Хвароба калі не ўморыць, дак скрывіць. *Нос., 171.*

## МАЛАДОСЦЬ. СТАРАСЦЬ

282. Гады маладыя за ўсё вартне́й. *А. Ліс., 1966, Глыб. 8.1.104.*

283. Чым старэе, тым правее, а чым маложа, тым дарожа. *Сах.*

284. Мала пражыта, ды многа перажыта. *Л. Царанкоў, 1960, Хоц. 13.9.2.*

285. Хоць малады лятамі, да стары разумам. *Fed., 176.*

а) Маладыя лета, розум стары. *Fed., 262.*

286. Маладосць — дурносць. *Ляцкий, 21. Вар.: Дуб., 37.*

287. Маладосць — буйносць. *Нос., 79; Дуб., 34.*

а) Маладосць — бу́йнасць, буйнасць — дурасць. *С. Цярохін, 1974, Саліг. Вар.: Fed., 189.*

288. Маладое піва яшчэ шуміць. *Fed., 236.*

289. Маладое піва — вы́хадзіцца. *Tyszk., 423; Шпил., Бел., 183. Вар.: Нос., 79, 183.*

290. Маладога кроў грэе. *Fed., 175; Т. Багдзевіч, 1963, Вор. 13.10.6а.*

291. Я молад, люблю холад. *Tyszk., 418.*

292. Малады, ды з ранніх. *Л. Царанкоў, 1960, Крыч. 13.9.2.*

293. Калі замоладу будзеш бегаць, то пад старасць адседзіш. *Fed., 30.*

294. Тады ўспакайнée, як галава пасівée. *Fed., 322.*

а) Тагды перастанець, як галава сіва станець. *Нос., 162.*

295. Тагды хіба перастанець, калі ўся сарока бела станець. *Нос., 163, 66; Сержп., 3.*

296. Зелена — молада. *Нос., 49.*

297. Малады — дурны. *Fed., 175.*

а) Малады як баран дурны. *Сах.*

298. Замолада дурань, пад старасць мудр. *Fed., 396.*

299. Малады сілу паказвае, а стары спосабу шукае. *Суяшк., 598, Шчуч.*

300. Яшчэ яму трэба сем лет свінні пасвіць за сем міль ад школы. *Fed., 224.*

301. Сівізна не ўкарызна. *Нос., 149.*

302. Старасць не радасць, а маладосць не навек. *Янк., Дыял., III, 167, Глуск.*

303. Хоць старасці, ды каб у пачцівасці. *Fed., 208.*

304. Быў конь, да з'ездзіўся (заездзіўся). *Czeczot, 107; Tyszk., 425; Шпил., 176; Нос., 10; Dybow., 5; Fed., 148; Дуб., 5, 6; А. Фядосік, 1962, Стол. 8.2.25.*

а) Была кабыла, да з'ездзілася. *Fed., 132.*

305. Укаталі бурку крутыя горкі. *Ром., Зап., III, 234.*

306. Хто да чаго прывыкне замóладу, то і на старасць не пакіне. *Fed., 251.*

307. Дай, божа, замоладу косці грызці, а на старасці мяса есці. *Dybow., 8.*

308. Стары — не малы. *Г. Прытычанка, 1960, Карм. 13.3.29.*

309. Старога вераб'я не падманеш. *Ляцкий, 42. Вар.: Сержп., 15; Pietk., 350.*

а) Старога вераб'я на мякіну не падманеш (не ашукаеш, не зловіш, не правядзеш). *Нос., 155. Вар.: Гильт., 297, Вілен. п.; Dybow., 18; Fed., 326, 329; А. Махнач, 1952, Узда. 13.10.15.*

б) Старога ліса не ашукаеш. *Fed., 166.*

310. Старому калі ўпадаець, чорт борану падкідаець. *Нос., 165.*

311. Не той стары, хто многа рубашак знасіў, а той, хто многа відзеў. *В. Ганчаронак, 1960, Відз. 13.9.26.*

312. Пытае старасць, што прыгатавала моладасць. *Fed., 189.*

313. Стары, да мыслі маладыя. *Fed., 291.*

314. Маладыя лета яму варочаюцца. *Fed., 262.*

315. З старога новага не зробіш. *Мін.-Мал., 1970, 166, Узда.*

316. Волас сівее — розум слабее. *Сцяшк., 584, Гродз.*

а) Волас сівее — дзед дурэе. *Ляцкий, 6; Сержп., 66.*

б) Галава сівее, то розум дурэе. *Fed., 100.*

317. Малады разумнее, а стары дурнее. *Г. Прытычанка, 1960, Карм. 13.3.29.*

318. Чым старэй, тым дурэй. *Fed., 290.*

319. Стары, да дурны. *Fed., 291.*

320. Сівіна́ ў бораду, а чорт у рабро. *Pietk., 342.*

а) Седзіна ў галаву, а бес у рабро. *Вас., 22.*

б) Сівізна ў бораду, чорт у ногі. *Tyszk., 424; Dybow., 189.*

в) Сівізна ў бараду, а чорт у ляшкі. *Нос., 149.*

321. На старасці лет здзівіла Аўдоля белы свет. *І. Суконкін, 1960, Церах. 13.3.29.*

322. На старасці бабу юр бярэ. *Дуб., Нар., 10.*

323. Хоць ста́ры, але я́ры. *К. Кабашнікаў, 1970, Астр. 8.2.34.*

324. Стары і малы — адно. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

а) Што малы, што стары — усё адно. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

б) Стары́ і малы́ — што́ нараўні. *Т. Багдзевіч, 1963, Вор. 13.10.6.*

325. Лета старыя, а розум дзіцячы. *Fed., 262.*

326. Ні сыты, ні галодзен, ні стары, ні малодзен. *Fed., 296.*

327. Старасць не радасць. *Dybow., 18; Г. Прытычанка, 1960, Карм. 13.3.29.*

а) Старасць не радасць, косці не гнуцца. *І. Курбека, 1951, Докш. 13.9.7.*

328. Не ўсе старыя птушкі высока лятаюць. *Шпил., 186.*

329. Годы ідуць — не ждуць: зіма, лета — і год, зіма, лета — і год. *М. Грынблат, 1967, Мсцісл. 8.1.106.*

330. Мінуліся тыя ля́та, што пасвілі цялята. *Fed., 187.*

331. Прыдзе старасць — будзе слабасць. *Сержп., 82.*

332. Стар любіць сквар, а молад любіць холад. *Нос., 156.*

333. Старой бабе і на печы ўхаба. *Tyszk., 427; Нос., 156; Dybow., 189. Вар.: Fed., 344; Сцяшк., 588; Янк. М., 30; 1961, Брасл. 13.9.5.*

334. Старая баба і ў пятроўку на печкі мерзнець. *Нос., 155.*

335. На старасці і ўлетку холадна. *Янк. М., 30.*

336. Сядзеў бы на печы і грэў бы плечы. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

337. Будзеш мець плеш, не будзеш хадзіць пеш. *Нос., 9.*

338. Як стануць сыпацца валасы, то і памяць з галавы. *Янк., Дыял., III, 171.*

а) Калі з чупрыны гінуць валасы, то і памяць — з галавы. *А. Хутко, 1966, Зельв. 13.10.26.*

339. Белагаловы барвіцца гатовы. *Нос., Слов., 15.*

340. Рад бы радзёшанек, як бы другі раз быў маладзёшанек. *Дуб., 53.*

341. Маладому — жонка тлуста, а старому — хлеба луста. *Цяшк., 598, Дзятл.*

342. Старога мяшка не залатаеш. *Fed., 183; А. Жадзейка, 1965, Шчуч. 13.10.6.*

343. У старога каня і падковы знімаюць. *А. Фядосік, 1962, Капатк. 8.1.76.*

344. У адной шкуры не звякуеш. *Нос., 20.*

а) Чалавек не вол — у адной кожы не старэець. *Нос., 182.*

б) У адным пер'і не звякуеш. *С. Вяроўкін, 1960, Церах. 13.3.29.*

345. Насок паглядае ў пясок. *Fed., 205.*

а) Ужо насок смотрыць у пясок. *Г. Барташэвіч, 1960, Нясв. 8.1.49.*

346. Не той насок, што глядзіць у пясок. *Dybow., 14.*

347. Яшчэ твой насок не глядзіць у пясок. *Fed., 204; А. Фядосік, 1962, Капатк. 8.1.76.*

348. Гэта ўжо не на базар, а з базара. *М. Грынблат, 1974, Мінск.*

349. Да пары жбан [ваду] носіць. *Czeczot, 108; Нос., 37; Ахрым., 27; Юрч., 1972, 178.*

а) Збан да пары ваду носіць. *Т. Багдзевіч, 1965, Шчуч. 13.10.6.*

б) Да пары збан ваду носіць: як вуха (ручка) уварвецца, то й збан паб'ецца. *Fed., 351. Вар.: Гильт., 297, Вілен. п.; Дуб., 13.*

в) Да пары збан ваду носіць, а як вуха адарвецца, то ліха складзецца. *Гильт., 288, Брэсц. п. Вар.: Булг., 177.*

г) Да пары збан ваду носіць: вуха адарвецца, вада разальецца і збан паб'ецца. *Сержп., 21.*

д) Збан да пары ваду носіць: як збан паб'ецца, то й вада разліецца. *Шейн, II, 476, Слуцк. п.; Fed., 251.*

е) Вуха адарвецца, то і збан паб'ецца. *Fed., 351.*

ж) Патуль збанок воду носіць, пакуль уха адарвецца. *Fed., 352.*

350. Да пары сіцечка сее. *Г. Яцэвіч, 1965, Маст. 13.10.5.*

## РОЗУМ. КЕМЛІВАСЦЬ. ДУРАСЦЬ

351. Розум — найлепша багацтва. *Fed., 264.*

352. Памыснасць лепша за багацтва. *Fed., 216.*

353. Галава ўсяму ґалава. *Добр., Смол., 39.*

354. Галава чалавекам камандуе. *Fed., 99.*

355. Мір вялік, а ґалава адна. *Сержп., 39.*

356. Кажная галава свой розум мае. *Fed., 100; Т. Багдзевіч,* 1965, *Шчуч. 13.10.6.*

   а) Кажды мае свой розум. *Fed., 263.*

357. Колька галоў, толька й вумоў. *Мін.-Мал., 1970, 161, Узд.*

358. Кажды на сваю руку мае розум. *Fed., 263.*

359. Кажан свайго розуму пробуе. *Fed., 263.*

360. Кожны вэдлуг сябе знае. *Fed., 358.*

361. Усякі жыве сваім розумам. *Fed., 264.*

362. Усякі чалавек сваім стылем жыве. *Ляцкий, 51.*

363. Галава галаве не роўня. *Fed., 99.*

   а) Розум на розум не прыходзіцца. *А. Махнач, 1952, Узд. 13.10.15.*

364. Маеш голаў, то май і розум. *Fed., 107.*

365. К харошаму вуму і галава не на́дабе. *Добр., Смол., 125.*

366. Розум і сілу перамагае. *Н. Парукаў, 1958, Добр. 13.3.29. Вар.: А. Махнач, 1952, Узда. 13.10.15.*

а) Сіла розуму ўступае. *Янк. М., 20.*

367. Важна смеласць, але патрэбна і ўмеласць. *П. Рында, 1967, Зельв. 13.10.23.*

368. Не сілай дзяруцца, а розумам. *Сах.*

369. Гострай галавы і меч не бярэ. *Fed., 100.*

370. Хто дасужы, той разумны. *Мін.-Мал., 1970, 169, Пух.*

371. Якая галава, такі і розум. *Никиф., 1, 202; Сержп., 59.*

372. У добрай галавы сто рук. *Ром., Зап., I, 216. Вар.: Янк. М., 107.*

373. У разумнага разумныя і рукі. *Янк. М., 54.*

374. У разумнага вочы на патыліцы. *Янк. М., 54.*

375. Ззаду ні ў кога вачэй няма. *Нос., 49. Вар.: Fed., 335.*

376. Кожны па часе розум мае. *А. Махнач, 1952, Узда. 13.10.15.*

377. Якія гады, такі розум. *Сержп., 52.*

а) Які рост, такі і розум. *І. Суконкін, 1960, Церах. 13.3.29.*

378. Малады розум — палявы вецер: бяжыць і гудзіць. *А. Ліс., 1963, Шарк.*

379. Доўгі — для пасмешышча, а малы — для розуму. *Янк., М., 107.*

380. Прыйдзе шчасце — розум будзець. *Карл.*

а) Прыбудзь шчасце — і розум прыбудзе. *Kolb., 473, Пін. п. Вар.: Fed., 298.*

б) Дай, божа, шчасця, то й розум знайдзецца. *Fed., 298.*

381. Была б галава на плячах. *Крэмнеў.*

382. Галава месца шукае. *Fed., 99.*

383. Няхай той бядуе, хто вельку голаў мае. *Fed., 28.*

384. Галава не булава́, мазгі не пілаві́ны. *Fed., 99.*

385. І скаціна розум мае. *Сержп., 60.*

а) І скаціна розум мае, дарам што не гаворыць. *Ляцкий, 14.*

386. Краса прыглядзіцца, а розум прыгадзіцца. *Дуб., Нар., 65. Вар.: 1961, Брасл. 13.9.5; В. Ганчаронак, 1960, Відз. 13.3.29.*

387. Красаты не палізаць, а розума не прывязаць. *В. Іваноўская, 1963, Леп. 8.1.83.*

388. Быў бы ум, то будзе рубль; не будзе ума, не будзе рубля. *Ром., Зап., I, 215.*

389. Без розуму не ўкрадзеш. *Сержп., 87.*

390. Бачыць вока далёка, а розум яшчэ далей. *Ахрым., 20; Гут., 71; А. Махнач, 1952, Узда. 13.10.15; А. Мацкала, 1965, Іў. 13.10.3; І. Януля, 1965, Вайк. 13.10.3; С. Клачко, 1966, Б.-Каш. 13.3.29; Р. Цыбульская, 1967, Валож. 13.10.24; А. Гурскі, 1971, Паст. 8.2.46.*

391. Бачыць вока далёка, але розум не йме. *Мін.-Мал., 1970, 158, Узда.*

392. Не жыві дабром, а жыві ўмом. *Шейн, II, 178, Свянц. п. Вар.: Fed., 367.*

393. Ва ўсякім мудрацы давольна прастаты. *Ром., Зап., I, 215.*

394. Трапіў разумны на мудрага. *Дуб., 60.*

395. Здагадка не горш розуму. *П. Мушчук, 1965, Вайк. 13.10.5; Янк. М., 107.*

396. Разумны дагадаецца. *Fed., 260.*

397. Разумнаму шмат не трэба талкаваць. *Fed., 260.*

398. Разумнага не навучыш. *1961, Кап. 13.9.5.*

399. Разумны вучыцца не спяшаецца. *Янк., 164.*

400. Вастры зуб аб зуб, а розум аб розум. *Янк. М., 35.*

401. Думка думку паганяець. *Нос., 38.*

402. Каб не твой розум, да не наша хітрасць, прапалі б усе на свеце. *Нос., 58; Крэмнеў.*

403. Па адзенню страчаюць, а па вуму праважаюць. *Нос., 133. Вар.: Pietk., 354; А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

а) Устрачаюць па адзежы, праважаюць па ўму. *М. Грынблат, 1971, Краслаўскі р-н ЛатвССР 8.2.43.*

404. Рукі — да работы, ногі — да ахвоты, галава — да ўсяго. *Янк. Н., 18.*

405. Які розум, такі толк. *Fed., 263.*

406. Не пражывеш дабром, да пражывеш умом. *Fed., 319.*

407. Разумны гвяздоў з неба не збірае. *Fed., 260.*

408. Той усё дабудзе, у каго вум будзе. *Ляцкий, 45.*

409. Хто розум мае, той сам прамышляе. *Ляцкий, 55.*

410. Бог знаў, каму паняцце даў. *А. Фядосік, 1962, Капатк. 8.1.76.*

411. Больш у яго розуму ў пяце́, як у це ў галаве. *Fed., 263.*

а) Больш розуму пад ногцем, як у другога ў мазгаўніцы. *Pietk., 390.*

412. Разумнаму латво ра́дзіць. *Fed., 260.*

413. Другому ра́дзіць, а сабе не паможа. *Fed., 257.*

414. Андрэй усіх мудрэй. *Нос., 2. Вар.: Дуб., 39; В. Шаўчэнка, 1960, Ельск. 13.3.29.*

415. Чуе, як трава расце. *Pietk., 316; Fed., 69.*

416. Ведае, як трава гаворыць. *Fed., 331.*

417. Ведае, дзе чорт начуе. *Горленка, 248, Акцябр.*

418. Разумны дурному ўступіць павінен. *Fed., 260.*

419. Лішняе мудрава́нне — дурава́нне. *Нос., 73.*

420. Мудры будзь, але не мудруйся. *Янк., Дыял., I, 214, Глуск.*

421. Хто надта разумуе, то найдурней выходзіць. *Fed., 259.*

422. Не будзь надта тэмпы, не будзь і васцёр. *Mien., 397.*

423. Не думай вельмі шмат, а то скруцішся. *Сержп., 133.*

424. Куда вецер веець, туда і розум. *Добр., Смол., 126.*

425. Не дурань, хто маўчыць. *Ляцкий, 30.*

426. Мудры свайго розуму не паказвае. *А. Ліс, 1961, Смарг.*

427. Маўчы, то будзеш разумнейшы за разумнага. *Янк., Дыял., I, 214, Глуск.*

428. Хто маўчыць, той двух наўчыць. *Ром., Зап., III, 221; К. Кабашнікаў, 1963, Смарг. 8.1.84. Вар.: Т. Лапаціна, 1961, Рэч. 13.3.24.*

429. На сем міль свету вые́жджваў, да дзіва, што знае. *Сержп., 37.*

430. Мала думаў, ды мудра сказаў. *А. Ліс, 1963, Шарк.*

431. Гляджу, бачу і розуму не трачу. *Янук.*

432. І не глядзіць, а ўсё бачыць. *Fed., 15.*

433. Хто пытае, той многа знае. *Н. Парукаў, 1958, Добр. 13.3.29.*

434. Няхай той кажа, што ведае. *Ляцкий, 28.*

435. Розуму не прыкупіш. *Fed., 264.*

а) За багацце розуму не купіш. *Р. Цыбульская, 1967, Валож. 13.10.24.*

б) Усё за грошы купіш, толька розуму не купіш. *Fed., 264.*

436. Яму розуму не купляць. *Pietk., 390.*

437. Розуму грашыма не заменіш. *М. Мушчук, 1965, Вайк. 13.10.15.*

438. Розум не купіш, у галаву не нальеш. *А. Ліс., 1967, Маладз.*

439. Розуму ў чужую галаву лапатаю не накладзеш. *Нос., 145.*

440. Свайго вума не ўложыш. *Ляцкий, 40; Добр., Смол., 126.*

а) Свайго розуму не дасі (не прыставіш). *Ром., Бел., I, 308; Сержп., 60.*

б) Золата і ў краме дастанем, а свайго розуму нікому не прыставім. *Нос., 50.*

в) Нікому свайго розуму не ўставіш. *Fed., 264.*

г) Дурню свайго розуму не ўставіш. *Зах., 251.*

д) Усё дасі, адно розуму не дасі. *Fed., 264.*

е) Свайго розуму нікому не ваб'еш. *Нос., 147. Вар.: Fed., 263.*

441. Да шкуры розуму не прышыеш. *Ахрым., 27.*

442. Чужым розумам не пражывеш. *Ляцкий, 58.*

а) Чужым розумам недалёка зайдзеш. *Fed., 263.*

б) На чужой галаве далёка не заедзеш. *Т. Багдзевіч, 1965, Шчуч. 13.10.6.*

в) Чужым розумам сыт не будзеш. *Нос., 184; Fed., 263.*

443. Жыві сваім розумам, а не чужым. *С. Клачко, 1966, Б.-Каш. 13.3.29.*

444. Не ўсё ж жыць чужым розумам, пара за свой узяцца. *Нос., 94.*

445. Галава ў ног розуму не просіць. *Ахрым., 25.*

446. І да булавы трэба галавы. *Fed., 44.*

447. З лядашчыкам спазнаўся, з розуму спаўся. *Нос., Слов., 602; Дуб., 24.*

448. З ім і той розум згубіш, што маеш. *Fed., 264.*

449. Пасярод дурных і разумнаму дрэнна. *Сах.*

450. Часам і разумнага трэба перасцерагчы. *Fed., 260.*

451. І разумнаму таксама здарыцца. *Fed., 260.*

452. Хто кажаць на глум, а ты бяры сабе на вум. *Нос., 176.*

453. Які розум, такая й гаворка. *Ляцкий, 62; Сержп., 95.*

454. Кепска, калі не лэпска. *Нос., 60.*

455. Трапіцца і найразумнейшаму здурнець. *Fed., 260.*

456. Ума гарадзьбой не агародзіш. *Ахрым., 55.*

457. За худую звычку і разумнага дураком называюць. *Сах.*

458. За аднаго разумнага даюць дзесяць дурных. *Fed., 260.*

а) Адзін разумны больш варт за дзесяць неразумных. *Fed., 259.*

459. Не глядзі, што на галаве, а пагглядзі, што ў галаве. *А. Махнач, 1952, Узда. 13.10.15.*

460. Без розуму горш, чым без здароўя. *А. Махнач, 1952, Узда. 13.10.15.*

461. Без ума галава калчышка. *Добр., Смол., 34.*

462. Разумная галава, ды дурню прышлася. *1961, Брасл. 13.9.5. Вар.: М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

а) Разумная галава, ды не на тыя плечы. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

б) Разумная галава, ды на дурной шыі. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

463. То галава не да пазалоты. *Fed., 101.*

464. Дурную голаў шапкаю не закрыеш. *Сцяшк., 589, Слон.*

465. Каб задні розум ды наперад. *Сцяшк., 594, Ашм.; П. Божка, 1967, Маладз. 13.10.21.*

а) Каб то быў той чалавеку розум спераду, што ззаду. *Fed., 263.*

466. Усе вумныя — лысыя, ды не ўсе лысыя — вумныя. *С. Маісеенка, 1965, Жлоб. 13.3.25.*

467. Што дурны папсуе, то і разумны не паправіць. *Fed., 87.*

468. Што дурань сапсуе, разумны паправіць, а што разумны сапсуе, ніхто не паправіць. *Dybow., 18.*

469. Хто ў малым дзеле дурны, той і ў вялікім разумны не будзе. *Ляцкий, 56.*

470. Дурань вузел завяжа, разумны не развяжа. *Сержп., 60.*

471. Дурань даець, а разумны бярэць. *Нос., 38. Вар.: Dybow., 8; Fed., 85.*

472. І разумны не купіць, як дурны не прадасць. *Fed., 87.*

473. Як конь валачэ, дык і дурань вязе, а як конь прыстане, дык і разумны дурнем стане. *Г. Прытычанка, 1960, Церах. 13.3.29.*

474. Тое, што дурны за раз прынясе, разумны — за два. *В. Раманчук, 1960, Капатк., 13.9.22.*

475. І кеп, і слеп. *Нос., Слов., 233.*

476. Дурань не дабачыць, а разумны прабачыць. *Нос., 38; Дуб., 14.*

477. Разумны не скажа, а дурны не ўбачыць. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

а) Дурань не пойме, а разумны нічога не скажа. *В. Калюк, 1965, Навагр. 13.10.6.*

478. Разумны навучыць, а дурань намучыць. *Ахрым., 49; А. Гурскі, 1971, Паст. 8.2.46.*

479. Разумны падра́чувае, а дурны верыць. *Fed., 87.*

480. Парожняя бочка звініць, а поўна маўчыць. *Fed., 32.*

481. Дурань купіць — мудры вып'е. *Fed., 85.*

482. Дурны раскідае, а разумны збірае. *Fed., 86.*

483. З разумным пагаварыі — ума набярэшся, а з дурнем — і паследні пацяраеш. *Нос., 158.*

а) Пагаварыі з разумным — розуму набярэшся, а з дурным, то згубіш тое, што маеш. *Fed., 260.*

484. У вумнага на вуму, а ў дурнога на языку. *С. Заянчкоўская, 1956, Церах. 13.3.29.*

485. Разумны вініць заўсёды сябе, а дурны свайго таварыша. *В. Калюк, 1965, Дзятл. 13.10.6.*

486. Лепей галаве пакланіцца, чымся нагам. *Дуб., 33; Ром., Бел., I, 300.*

а) Лепей разумным нагам пакланіцца, як дурной галаве. *Ляцкий, 19. Вар.: 1961, Брасл. 13.9.5.*

487. Разумны сохне і гніе, а дурны жыве. *Fed., 260.*

488. Грошы згубіў — нічога не згубіў, здароўе згубіў — палавіну згубіў, розум згубіў — усё згубіў. *Т. Лапаціна, 1961, Рэч. 13.3.24.*

489. Сам харошы, а розуму няма і на два грошы. *В. Ярмак, 1966, Зельв. 13.10.26.*

а) Ён не мае розуму за тры грошы. *Fed., 263.*

490. Дурак дураком ва векі вяком. *Ром., Бел., I, 295; Ляцкий, 329. Вар.: Fed., 85.*

491. Відзіш карову спераду, каня ззаду, а дурня з усіх бакоў. *Сцяшк., 583, Лід.*

492. Скачы, скачы, дурню, бо ты такі ўдаўся. *А. Тарыма, 1966, Маст. 13.10.26.*

493. Чорт кабылу саставіў, да розуму не ўставіў. *Нос., 184.*

494. Бяды што вароты, а ўма з прыкалітак. *Ром., Зап., I, 216.*

495. Як была дурной, так і асталася. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

496. Няхай сабе й дурань, абы не злодзей. *Ляцкий, 28.*

497. Яго хоць пірагамі акладай, то няма нічога. *Fed., 235.*

498. На свеце многа дурняў: да Масквы не перавешаеш. *Ром., Бел., I, 302. Вар.: Нос., 39.*

499. На наш век дуракоў хваціць. *Ром., Бел., I, 301.*

500. Ён такі, не ўсе дошчачкі ў парадку. *Г. Барташэвіч, 1963, Смарг. 8.1.82.*

а) Адной клёпкі ў галаве не хапае. *М. Бандарэнка, 1966, Маз. 13.3.29. Вар.: Нос., 62.*

б) У яго аднае клéпчыны ў галаве не дастае. *Сержп., 81.*

в) Бракуе аднае клёпкі ў галаве. *Fed., 99.*

г) У яго не то клёпкі, але і абруча няма. *Fed., 145.*

д) Адной клеткі ў яго не дастаець. *Dybow., 1.*

е) Няма клепчыны ў галаве. *Сержп., 59.*

501. Ці поп, ці куцця, ці дурань без пуця. *А. Фядосік, 1962, Капатк. 8.1.76.*

502. Дурань (кеп) — не вужака, не ўкусіць. *Нос., Слов., 148, 233. Вар.: Дуб., 27.*

503. Кеп, дурань і блазен — тры дабры разам. *Дуб., 32.*

504. Шумны, думны, да неразумны. *Fed., 301.*

505. Што глухі, што дурны. *Радч., 249.*

а) Сляпы, глухі, дурны — усё роўна. *І. Суконкін, 1960, Церах. 13.3.29.*

506. Ён здурнеў з вялікага розуму. *Fed., 263.*

507. Дурань ні да ра́ды, ні да зва́ды. *Сержп., 60.*

508. Балага́я з дурным рада. *Fed., 86.*

509. Дурню кажы — усё роўна, што гарох на сцену кідай. *Fed., 85.*

510. Скажы дураку, што сядзёлка на баку. *Бяльк., 159, Мсцісл.*

511. Дурному ўсяк увойдзецца. *Fed., 76.*

512. Дурню і сем вёрст не крывулькі. *Янк. М., 70.*

513. П'яны і дурны — родныя браты. *«Чырвоная змена», 22 жніўня 1954 г.*

514. Дурная галава: і п'янства яе не бярэ. *Fed., 99.*

515. П'яніца праспіцца, а дурань ніколі. *Нос., 142. Вар.: Mien., 397; Pietk., 386; С. Бахмет, 1970, Астр. 8.2.38.*

516. Багаты два разы плоціць, а дурны два разы ходзіць. *Л. Царанкоў, 1960, Рэч. 13.9.2.*

517. Калі да дваццаці лет не набраў розуму, так і згіне. *Fed., 263.*

518. Да дваццаці не вырас, да трыццаці не ўмён, да сарака, калі не жанат, а да пяцідзесяці не багат,— то нічога ад яго не чакай, так і памрэ. *Шейн, II, 475, Ігум. п.*

519. Дурны сабака і на гаспадара брэшыць. *Нос., 38. Вар.: Сах.*

520. Няма гарэй, як за дурною галавою. *Сержп., 59.*

521. Зверху шоўкавыя хусткі, а ў галаве — пусткі. *Янк., Дыял., III, 159, Акцябр.*

522. Дарога, што водзіць дурнога. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

523. Дурному і грошы не памагаюць. *Сержп., 60.*

524. На дурака не жалей кулака. *Добр., Смол., 37.*

525. Дурному вечная памяць. *Fed., 86; Сержп., 61.*

526. Вялікі, ды дурны. *Fed., 329.*

а) Вялік пень, да дурань. *Дуб., 8. Вар.: Сержп., 60; А. Якіменка, 1966, Б.-Каш. 13.3.29.*

б) Вялікі пятак, ды дурак. *1961, Кап. 13.9.5.*

527. Вялікі вырас, а ўма не вынес. *Ром., Зап., I, 215.*

а) Вырас, а розуму не вынес. *Дуб., Нар., 1.*

б) Галава вылезла, а вума не вынесла. *Нос., 25.*

528. Вялік, ды глуп, то больш б'юць. *Ром., Зап., I, 216.*

529. Які велькі, такі і дурань. *Fed., 332.*

а) Як вялік, так дурны. *Fed., 87. Вар.: Pietk., 366, 397.*

530. Хоць вялікая фігура, да дура. *Fed., 51.*

531. Вырас пад неба, а дурны, як трэба. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29. Вар.: Т. Багдзевіч, 1966, Шчуч. 13.10.6.*

а) Вялікі да неба, а дурань, як трэба. *Д. Шыцік, 1961, Дубр. 13.9.6; Ю. Ботвін, 1967, Вайк. 13.10.28.*

б) Вырас, як лес, а дурны, як бес. *1961, Кап. 13.9.5.*

532. Рост чалавечы, а розум авечы. *Мін.-Мал., 1970, 166, Пух.*

533. Вялікая галава, да пустая. *Fed., 100, 101. Вар.: М. Бандарэнка, 1966, Маз. 13.3.29.*

а) Вялікая галава, да мал розум. *Міеп., 397.*

б) Галава бы кацёл, а вума няма. *Сержп., 60.*

в) Галава бы кацёл, а розуму ні збла. *Сержп., 61.*

г) Сам дурань, а каня ў голаў. *Ром., Мат., 84.*

534. Без ума галава — кацёл. *Ром., Зап., I, 215.*

535. Няма розуму — лічы калека. *Мін.-Мал., 1974, 188, Стаўб.*

536. Галава з лубку, а розуму з бубку. *І. Суконкін, 1960, Церах. 13.3.29.*

537. Каб да тваіх мазгоў да яшчэ і розум. *Г. Барташэвіч, 1975, Уздз. 8.75.96.*

538. Галава як галава, да ў галаве нічога няма. *Сержп., 59.*

539. Па вобразу Ілля, а па ўму свіння. *Ром., Зап., III, 229.*

540. У кабылы галава вялікая, ды што ж, калі дурная. *Дуб., 64.*

541. Няхай конь думае, бо вяліку галаву мае. *Fed., 149.*

а) У кабылы большая галава, няхай сабе яна думае. *Dybow., 190.*

542. Не вер конскай галаве, а знайшоўшы на выгане — вазьмі ды закілзай. *Янк. М., 144.*

543. У каго на галаве густа, то ў галаве пуста. *Fed., 101.*

а) На галаве густа, а ў галаве капуста. *Я. Бортка, 1965, Дзятл. 13.10.4.*

544. Хто розуму не мае, той у кацёлкі гуляе. *Мін.-Мал., 1970, 169, Пух.*

545. Лоб шырок, ды розуму мала. *В. Брычакоў, 1960, Карм. 13.3.29.*

546. Лічка бялéнька, да розуму малéнька. *Ром., Зап., III, 223. Вар.: Нос., 73.*

547. Дурная галава не сівее. *1961, Брасл. 13.9.5.*

а) Дурная галава не лысеець, не сівеець. *Нос., Слов., 738; Mien., 395. Вар.: Дуб., 17; Fed., 99; Мін.-Мал., 1970, 160, Узда.*

б) Дурная галава не дажджэцца ні лысіны, ні сівіны. *Pietk., 369.*

548. Галава пасівела, а розуму не набрала. *Fed., 100.*

549. Ужо сівы, а ў галаве пуста. *М. Грынблат, 1971, Краслаўскі р-н ЛатвССР 8.2.43.*

550. Век зжыў, а вума не нажыў. *Нос., 22. Вар.: Fed., 254.*

551. Страпянуўся манах, ды пуста ў галавах. *З нар. сл., 128, А. Крывіцкі, Мсціcл.*

552. Сам харош, а розуму ні на грош. *Ляцкий, 39.*

553. Сам дурань, а другіх вучыць хоча. *Fed., 85.*

554. Ані мовы, ані гловы ў яго. *Fed., 189.*

555. Па чом пазнаць дурнога, як ні па смеху ёга. *Fed., 87.*

556. Па латках пазнаць скупога, а па смеху — дурнога. *Н. Парукаў, 1958, Добр. 13.3.29.*

557. Барада па пояс, а розуму ні на волас. *Ігнат.*

558. Дурнога б'юць, а ён кажа: «У царкву вядуць». *Радч., 246.*

559. Дурнога і ў цэркві (касцелі) б'юць. *Нос., 39. Вар.: Радч., 246; Сержп., 60; Fed., 85; Pietk., 366.*

а) Дурня і з касцёла выкідаюць. *Fed., 85.*

560. Дурны ўсяму ўверыць. *Fed., 86.*

561. Казаў воўк, што гарох тоўк, авечак не чапаў — баран паслухаў ды й прапаў. *Зах., 250.*

562. Разумнаму — разнае, а дурному — краснае. *1961, Брасл. 13.9.5.*

563. Дурань чырвонае любе. *Т. Сайкоўская, 1965, Ашм. 13.10.6а.*

а) Дурань — варона, любіць чырвона. *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

б) Дурань з чырвонага рад. *Fed., 85. Вар.: М. Бандарэнка, 1966, Маз. 13.3.29.*

в) Дурань заўсёды краснаму рад. *Ром., Бел., I, 295, Вар.: Fed., 85.*

564. Дураку і званочак канёчак. *В. Ганчаронак, 1960, Відз. 13.9.26.*

565. Дурному ўсё капейкі здаюцца. *Янук.*

566. Хітры бярэ, а дурны дае. *Сержп., 127.*

567. У дурнога то і млін касцёлам. *Fed., 87.*

568. Дурному хоць кол на галаве чашы, то ён усё сваё. *Fed., 86.*

569. Дурны ляпне, то й няма чаго слухацца. *Fed., 86.*

570. Дурны не ўхопіцца за грошы, да за агонь. *Fed., 86.*

571. Разумны работу зробіць, а дурань і мяла зломіць. *Янк., Дыял., III, 157, Глуск. Вар.: В. Раманчук, 1960, Капатк. 13.9.22.*

572. Дурному і муха ў рот ляціць. *Сержп., 59.*

573. Уперад выстрале, а тады цэліцца. *І. Сувалаў, 1958, Чач. 13.3.29.*

574. Пакінуў жывое, пашоў умерлага шукаць. *Fed., 373.*

575. За хвойкай лесу не бачыць. *Дуб., Нар., 2.*

а) З-за дрэваў і лесу не відаць. *Л. Царанкоў, 1960, Мінск 13.9.2.*

576. Не бачыць далей, як канец носа свайго. *Fed., 15.*

577. Валі карову на баню: на бані трава расцець. *Добр., Смол., 12.*

578. Па вадзе ходзіць у тапачках, а па пяску — у чабатáх. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

579. Дурань і з пальца смяецца. *М. Бандарэнка, 1966, Маз. 13.3.29.*

580. Далёка дурню да вока. *Нос., 32.*

581. На суку стаіць і сук сячэ. *І. Курбека, 1961, Докш. 13.9.7.*

582. Знáйда ўсё знаходзіць: і тапор за лаўкаю. *Нос., Слов., 214.*

а) Находка: найшоў сякеру за лаваю. *Pietk., 331.*

б) Хваліцца, найшоў тапор за лаўкаю. *Юрч., 1974, 148.*

в) Нашоў (знайшоў) тапор (сякеру) за лаўкаю (лаваю). *Нос., 91; Сержп., 90; Dybow., 23; Fed., 359; Дразд.*

583. Дурны той, хто валы пагубіць. *А. Фядосік, 1962, Капатк. 8.1.76.*

а) Той дурны, хто валэ згубіў, а не той, чые валэ стаяць
а) у хляве. *Мін.-Мал., 1970, 167, Уздз.*

584. Дурны на санях дрыжыць, а кажух пад ім ляжыць. *Ігнат.*

а) Кажух ляжыць, а дурань дрыжыць. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15. Вар.: Д. Вайчок, 1966, Воран. 13.10.26; В. Бондар, 1967, Мін. 13.10.24.*

585. Абяцанка-цацанка (абяцалка-цацалка), а дурному радасць. *Нос., 117; Радч., 248. Вар.: Dybow., 4; Дуб., 4; Булг., 176; Fed., 2; Pietk., 354; М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

586. Дурная галава нагам спакою не дае. *Ахрым., 30.*

а) За дурною галавою нагам бяда. *Булг., 177; Pietk., 320; М. Рымша, 1957, Маз. 13.3.29.*

б) За дурною галавою нагам нéбалазе. *Мін.-Мал., 1970, 160, Пух.*

в) Праз дурную галаву і нагам гора. *С. Заянчкоўская, 1956, Церах. 13.3.29.*

г) За дурною галавою нагам няма пакою. *Нос., 45. Вар.: Сержп., 60; Ахрым., 32; Ю. Ботвін, 1967, Вайк. 13.10.28.*

д) За дурной галавой нагам непакой. *Tyszk., 416; Ром., Бел., I, 296; Радч., 247; Ляцкий, 12; Добр., Смол., 34; Fed., 101; Сержп., 59; Л. Царанкоў, 1960, Рэч. 13.9.2; 1961, Брасл. 13.9.5; Т. Гуляй, 1965, Свісл. 13.10.5; М. Грынблат, 1975, Мінск.*

е) За дурной галавой спіна баліць, нагам непакой. *Шпіл., 180.*

587. Вінавата галава, куда ногі вяла. *Л. Павецьева, 1967, Мсцісл. 8.1.107.*

588. Калі галава дурная, то і напала ліха. *Карл.*

589. Пашлі дурнога, за ім другога. *Гильт., 289, Брэсц. п.; Міеп., 396. Вар.: Dybow., 16; Булг., 177; Ром., Бел., I, 307; Fed., 87; Pietk., 367; Сержп., 61; І. Сувалаў, 1958, Чач. 13.3.29.*

а) Пашлі пасланца дурнога, а за ім другога. *Дуб., 52.*

б) Паслаўшы дурнога, за ім пашлі другога. *Нос., 134.*

590. Пашлі дурака — ён дураком і вароціцца. *Добр., Смол., 34.*

591. Пашлі дурака па быка, дык ён цёлку прывядзе. *Л. Царанкоў, 1960, Крыч. 13.9.2.*

а) Пашлі дурака па быка, так ён двух прывядзець. *Добр., Смол., 34.*

б) Пайшоў па цёлку, а прывёў быка. *І. Сувалаў, 1958, Чач. 13.3.29.*

592. Што з такога чалавека, каторы туды не дайшоў і назад не вярнуўся. *Fed., 64.*

593. Скажы дурному паклоны біць, то ён і лоб разаб'е. *Pietk., 367.*

а) Навучы дурня маліцца, то ён і лоб паб'е. *І. Ламека, 1965, Вайк. 13.10.2.*

б) Застаў дурака богу маліцца — увесь лоб праб'ець. *Добр., Смол., 34. Вар.: А. Куцакова, 1956, Раг. 13.3.29; Л. Царанкоў, 1960, Крыч. 13.9.2; Ю. Ботвін, 1967, Вайк. 13.10.8.*

в) Застаў дурня богу маліцца, дак і лоб сабе расквасіць. *Нос., 47.*

594. Дай дурню брытву, то ён зарэжацца. *Fed., 85.*

595. Не дай бог дурному больку: расчэшаць. *Добр., Смол., 19, 34.*

596. Дурню і скула не сядзіць. *Ром., Бел., I, 295.*

597. Пень тлее, а дурань плечы грэе. *І. Цішчанка, 1969, Мінск.*

598. Дурню гавары, а ён глядзіць дагары. *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

599. Дурному і лапатаю розуму ў голаў не накласці. *Fed., 86.*

600. Не чапай, бо яго дурны поп хрысціў. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

601. Дурное аб дурным і гаворыць. *Л. Царанкоў, 1960, Рэч. 13.9.2.*

602. Дурному дурное на ўме. *Ю. Ботвін, 1967, Ваўк. 13.10.28.*

603. Дурню дурное сніцца. *Мін.-Мал., 1970, 160, Узда.*

604. Дурны баран усё стада збянтэжыць. *В. Шаўчэнка, 1961, Ельск. 13.3.29.*

605. Лепш з разумным згубіць, як з дурным (дурнем) найці (знайсці). *Сержп., 90; Радч., 247; Fed., 260; Pietk., 390; Шырма, 205; А. Русіновіч, 1961, Светл. 13.3.29; А. Гурскі, 1967, Бял. 8.1.112; 1961, Брасл. 13.9.5.*

а) З дурным лепш згубіць, чым знайсці. *Fed., 87.*

б) Лепей з добрым згубіць, чымсі з дурнем найці. *Нос., 75.*

в) З дурным ні знайсці, ні пацяраць. *Ром., Бел., I, 297. Вар.: Ляцкий, 13; Fed., 86; М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

г) З дурнем кепска і знайсці. *Сержп., 61.*

д) З дурным і найшоўшы не падзеліш. *Fed., 87, Вар.: Fed., 210.*

е) З дурным і знайшоўшы не зладзіш. *Pietk., 367.*

606. Не дай, божа, з дурнем і крадзеным дзяліцца. *Fed., 85.*

а) З ім і ўкраўшы не падзелішся. *Fed., 318.*

б) З ім ні знайшоўшы, ні ўкраўшы не падзеліш. *Fed., 210.*

607. З дурным сварыцца, як з вадою біцца. *Fed., 87.*

608. З дурнем займіся, то і сам дурнем застанешся. *Fed., 86.*

а) З дураком звяжыся — сам дураком астанешся. *Гильт., 287, Дзісен. п.*

б) Розуму не набярэшся, калі з дурнем павядзешся. *В. Лашчэўская, 1967, Дзятл. 13.10.28.*

609. Хто з дурным задаецца, то і сам дурным астаецца. *Fed., 86.*

610. Каго дурным не лічы, бо сам ім застанешся. *І. Курбека, 1961, Докш. 13.9.7.*

611. Дурак не дурак, а родам так. *Нос., 38.*

а) Не дурак, а ад прыроды так. *Мат., 175.*

б) Дура не дура, а такава яе натура. *Нос., 38. Вар.: Fed., 84.*

612. Дурняў не сеюць, не жнуць. *Нос., 39.*

а) Дурняў не сеюць, а самі родзяцца. *Нос., 39. Вар.: Дуб., Нар., 1.*

б) Дурняў не сеюць, не гаруць: яны самі родзяцца. *Fed., 85. Вар.: Pietk., 366.*

в) Дзе дурня ні пасей, там ён і ўзойдзе. *Л. Царанкоў, 1960, Рэч. 13.9.2.*

613. Дурняў усюды не бракуе. *Fed., 85.*

614. Каб усе былі разумныя, то хто ж быў бы дурны? *Fed., 87.*

615. Дурняў не шукай, бо сам дурнем астанешся. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

616. Доўбня ў лесе, цяля ў мёсе, дурань напагатове. *А. Фядосік, 1962, Капатк. 8.1.76.*

а) Жарабя яшчэ ў мяху, а дурань доўбню гатуе. *Р. Мазгавая, 1967, Лід. 13.10.28.*

617. З дурнем варыць — або не ўварыцца, або пераварыцца. *Янк., 294.*

618. За дурнямі бог. *Tyszk., 426.*

619. Не махай рукамі, калі бог розуму не даў. *Мін.-Мал., 1970, 164, Уздз.*

620. Што ты ўдаеш дурня, калі і так дурны. *Fed., 85.*

621. Той самы дурнейшы, каго дурнем абзывае. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

622. Дурню ад вачэй мала карысці. *М. Жылінская, 1965, Бераст. 13.10.6.*

623. Дурному закон не пісан. *Нос, 39; Дуб., 15. Вар.: Р. Мухляда, 1965, Шчуч. 13.10.5.*

а) Дурны законаў не чытае, да свае мае. *Fed., 86.*

624. Кажан кеп сваім строем. *Нос., Слов., 618. Вар.: Дуб., 29.*

625. Кожды дурань сваё правіць. *Нос., 59.*

626. Кажан дурэц свайго талкуе. *Fed., 85.*

627. Нічога не зава́дзіць, як дурны разумнаму пара́дзіць. *Fed., 87.*

628. Дурань, як варона, а хіцёр, як чорт. *Fed., 85.*

629. Скажы дурню на глум, то ён возьме на ум. *Fed., 85.*

630. Пад чужую дудку паскачаш — потым адплачаш. *Мін.-Мал., 1970, 165, Пух.*

631. Часам дурань разумней за ўсіх. *Сержп., 78.*

632. Былі такія дурні, што і нас здурылі. *Fed., 353.*

633. Дурак думкамі багацее. *С. Маісеенка, 1965, Жлоб. 13.3.25.*

634. Ад грошай дурні дурэюць, ад патрэбы разумнеюць. *Сержп., 43.*

635. Дурню ўсё ўходзіць за штуку. *Нос., 39.*

636. Гэта інтэрас не на тваю голаў. *Fed., 123.*

637. Пакуль свая блаха не ўкусіць, не зразумее. *Л. Царанкоў, 1960, Мінск 13.9.2.*

638. Гэта і дурню зразумела. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

639. Дурань хваліць — толькі га́ніць. *Сержп., 59.*

640. За дурным шчасце бяжыць. *Pietk., 367.*

641. Дурань прамаргаў сваё шчасце. *Сержп., 61.*

642. Дурны добрага не любіць. *Нос., 39.*

643. З дурных людзі бываюць, а разумныя прападаюць. *Fed., 87.*

644. Далі дурню чэсць, дак не ведае, дзе сесць. *Сержп., 61.*

645. Дурня пахвалі, дык ён і на неба задзярэцца. *Янк. М., 55.*

646. Хваліўся дурань, што кабыле хвост адарве, а як ірвануў, дак і рот заткнуў. *Янк. М., 67.*

647. Калі дурань хоча быць у пашане, дык няхай сядзіць моўчкі. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

648. Рад дурань, што пірог вялік. *Нос., 143; Дуб., 53.*

649. Рад дурань, што яго частуюць: яшчэ просе. *Ляцкий, 37.*

650. Дурному не настырняйся. *Pietk., 366.*

651. Не зачапайся з дурнем. *Fed., 87.*

652. Дурному трэба выба́чыць. *Fed., 86.*

653. Дурному ўступі з дарогі — сто дні адпу́стаў. *Fed., 86.*

а) Хто дасць дурню спусту, таму сем дней адпусту. *Вас., 15.*

б) Уступі дурню — спасенне заслужыш. *Нос., 169.*

654. Дурню і бог дарогу ўступае. *Цар., 242, Рэч.*

а) Дураку й чорт з дарогі ўступае. *Ляцкий, 11.*

655. Малому дурню саступаюць, вялікага б'юць. *В. Санько, 1969, Слуцк.*

656. Дурак дурака бачыць здаляка. *Ю. Ботвін, 1967, Вайк. 13.10.28.*

657. Харош мой друг, да дурань. *Ром., Зап., III, 234.*

658. З дурным — не з сваім братам. *Горленка, 249, Добр.*

## ДАБРАТА. ЗЛОСЦЬ. ЗАЙЗДРАСЦЬ. НЯУДЗЯЧНАСЦЬ

659. Кажан на свой капыл. *Fed., 136.*

660. Час часу розь, і чалавек чалавеку тож. *Нос., 181.*

661. У каго якая натура. *Fed., 199.*

662. Харошы чалавек адразу відаць. *Ляцкий, 53; Сержп., 47.*

663. Сам добры — людзі добрыя. *В. Санько, 1969, Слуцк.*

664. У добрага чалавека заўсёды многа добрых людзей. *Цар., 247, Мінск.*

665. Шчыраму і бог дапамагае. *Fed., 299. Вар.: Крэмнеў.*

666. Справядлівага чалавека бог любіць, да яму шчасця не дае. *Fed., 63.*

667. Добры і богу трэба, а благога і чорт не бярэ. *Мін.-Мал., 1970, 160, Пух.*

668. Да харошага ўсё прыстае. *Fed., 50.*

669. Добры нікога кепска асуджаць не будзе. *Fed., 79.*

670. Шчыраму сэрцу і чужая болька колка. *Сержп., 47, 61.*

671. Добры чалавек і жывёлу шкадуе. *Дуб., 17.*

672. Добры чалавек і сабакі дражніць не будзе. *Fed., 62.*

673. Добраму ўшчыну не трэба. *Сержп., 55.*

674. Жычлівага чалавека ў няшчасці пазнаеш. *Fed., 367.*

675. Благі абразіць, а добры разважыць ды яшчэ і параdзіць. *Янк., М., 142.*

676. Жаль увагі не мае. *Ляцкий, 11. Вар.: Дуб., 20; Сержп., 39; Fed., 363.*

677. Зробіш ліхое і душа не на месцы. *Сержп., 185.*

678. Свайго сэрца ўкалупнуў бы добраму чалавеку, каб мог. *Fed., 274.*

679. Для добрага чалавека дабра не шкода. *А. Фядосік, 1959, Капатк. 8.1.44.*

680. Каб за ногцем меў што, то выкалупае і дасць. *Fed., 74.*

681. Сэрца не камень. *Fed., 274; Сержп., 62.*

а) Сэрца не камень, атыйдзець. *М. Грынблат, 1967, Мсцісл. 8.1.106.*

682. Сэрца не ўдзяржаць на ўздэчцы. *Fed., 274.*

683. Сэрца выняць ды паказаць не можна. *Fed., 274.*

684. І ў вераб'я ёсць сэрца. *Сержп., 90.*

а) Птушка маленькая, а і тая сэрца мае. *Сержп., 90.*

685. Нічога, што рукі чорныя, абы душа была чыстая. *Я. Бартко, 1962, Дзятл. 13.10.4.*

686. Хоць кашуля чорная, але сумленне чыстае. *Fed., 139.*

687. Паганае да чыстага не прыстане. *Сержп., 13.*

а) Чорна да белага не прыстала. *Fed., 66.*

688. Добраму ўсюды добра. *Dybow., 18; Fed., 79; Сержп., 47; Pietk., 365. Вар.: Ляцкий, 10.*

а) Харошаму ўсюды харашо. *Ром., Бел., I, 312.*

б) Добраму ўсюды добра, а кепскаму кепска. *Fed., 79.*

в) Добраму чалавечку харашо і ў запечку. *Ром., Бел., I, 294.*

г) Добраму чалавечку добра і ў запечку, а благацé (ліхацé) дрэнна (кепска) і на куцé. *Ю. Звярко, 1965, Іў. 13.10.5; М. Канабай, 1966, Маст. 13.10.26. Вар.: Янк. М., 143; І. Курбека, 1965, Докш. 13.9.7.*

689. Добрыя вочы дыму не баяцца. *Pietk., 332.*

690. Лішняя дабрата — дурата. *Нос., 73. Вар.: Дуб., 33; Fed., 71, 341; І. Суконкін, 1960, Церах. 13.3.29.*

а) Іная дабрата хужы дураты. *Нос., 56.*

б) Прастата тая ж дурата. *Нос., 141.*

691. Прастата хужы вараўства. *Добр., Смол., 109.*

692. За ліхое палажэнне і добраму зневажэнне. *Янк. М., 28.*

693. Літасць да неба даводзіць. *Fed., 166.*

694. Хто людзям дагаджае, сам сабе шкодзіць. *Fed., 74.*

а) Другому дагодзіў, а сабе нашкодзіў. *Ляцкий, 11.*

695. Яшчэ гэткі не спаткаўся, каб усім ён спадабаўся. *Дуб., Нар., 1.*

696. Свет не без добрых людзей, ды й свінота не звялася. *Янк., Дыял., I, 220, Глуск.*

697. Чалавек не сонца — усіх не агрэе. *Дуб., Нар., 2.*

698. Усякі (кáжан) чалавек злосць мае. *Fed., 357, 62.*

699. Няма мяса без косці, а чалавека без злосці. *Fed., 63.*

700. Злосці поўныя косці. *Нос., 49; Сержп., 89; Fed., 357. Вар.: Дуб., Нар., 2; Fed., 150.*

701. Сам мужычок з кулачок, а зла, як у казла. *Г. Барташэвіч, 1963, Маладз. 8.1.82.*

а) Зла, як у казла, а сілы, як у камара. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

702. Сярдзіт, да не дуж. *Tyszk., 427.*

703. Верабей і той зло мае. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

704. I гарбаты злосць мае. *Fed., 357.*

705. Тады толькі добры, як спіць. *Fed., 79.*

706. Добры чалавек: як спіць, з дубінай прайсці можна. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом., 13.3.29.*

а) Як спіць, то колам пройдзеш. *Г. Яцэвіч, 1965, Маст. 13.10.5.*

707. Не быўшы добрым, зрабіўся ліхім (паганым). *Pietk., 401.*

708. Усе бабры дабры, адна выдра ліхая (дурная). *Tyszk., 427; Dybow., 90. Вар.: Аним., 262; Pietk., 394.*

а) Усе бабры дабры, адны выдры ліхі. *Сцяшк., 612, Гродз.*

б) Усе бабры дабры, адна выдра, ліха яе бяры. *Нос., 17.*

в) Усе добрыя, добрыя, адна выдра ліхая. *Сержп., 95.*

709. Сярдзіты сабака воўку карысць. *Ром., Зап., III, 231.*

710. Сабака ад злосці свой хвост кусае. *Сержп., 90.*

711. Усё адзін чорт — ці сабака, ці хорт. *Дуб., Нар., 2.*

712. Сабаку б'ецъ, а сабака сабакам. *Міеп., 396.*

713. Аб сабацы — сабачы ўспамін. *Дуб., Нар., 1.*

714. Благому Яську ні ў чэсць, ні ў ласку. *А. Міронччык, 1953, Пліс. 13.10.40.*

715. У гадзюкі няма іншай навукі, як кусаць. *Ляцкий, 47.*

716. Благі чалавек што вугалле: або апячэ, або абмарае. *Янк., М., 45.*

717. Паганага чалавека не перадзелаеш.. *М. Грынблат, 1974, Шкл.*

718. У горкага (ліхога) бортніка горкі мёд. *Fed., 41.*

719. Ёсць людзі, што і салаўя не любяць. *Ігнат.*

720. Не мае бога ў сэрцы. *Fed., 273.*

721. Ні к богу, ні к людзям. *Шпил., 186. Вар.: Fed., 38.*

722. Не варт таго, каб яго святая (сырая) зямля насіла. *Fed., 328.*

723. Які Са́ва, такая і слава. *С. Маісеенка, 1965, Жлоб. 13.3.25.*

724. Усякі гад на свой лад. *Крэмнеў.*

725. За шавеллю і добрага чалавека не відна. *Нос., 48.*

726. Няхай не будзе ні мне, ні табе. *Fed., 45.*

727. Ліхі чалавек і за лучынку знойдзе прычынку. *Янк., Дыял., III, 161, Глуск.*

728. Лепшы першы гнеў, як рэшні. *Fed., 110.*

а) Лепі першы гнеў, чым паследні. *Шейн, II, 479, Барыс. п.*

729. Лепш першы гнеў, як апошняя ласка. *Мін.-Мал., 1970, 162, Пух.*

730. У кіі (у палцы) два канцы. *Янк., Дыял., III, 168, Глуск.*

731. Сярдзітаму чалавеку ў рукі пасуды не давай. *Янк. М., 86.*

732. Не кладзі яму пальцы ў рот: у яго мядзвежы паварот, а воўчы паглёд. *Ляцкий, 26.*

733. Злаваць — кроў псаваць. *Сержп., 88.*

а) Не злуйся дужа — кроў папсуеш. *Нос., 98.*

734. Ад злосці баляць косці. *Fed., 357.*

735. На гнеў няма лякарства. *Fed., 110.*

736. На благога чалавека хлебам кідай. *Tyszk., 421; Нос., 82; Dybow., 184; Шпил., 184.*

а) Ён табе каменем, а ты яму хлебам. *Pietk., 361.*

б) Ён на цябе камянём, а ты на яго куском. *Г. Лесніковіч, 1965, Смарг. 13.10.1.*

в) Хто на мяне каменем, я на яго хлебам. *Fed., 135. Вар.: 143, 203.*

737. К нашаму берагу нічога добрага не прыстанець. *Нос., 72.*

а) Да нашага берага ніц добрага (людскага) не прыплыве. *Fed., 31.*

738. Сабака сабаку знае. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

739. Адзін другога не пераравесіць. *Нос., 118. Вар.: Fed., 228; М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

а) Хоць на шальках узвесіць, то адзін другога не перавесіць. *Нос., 174.*

б) Каб іх на адной галіне абодвых павешаў, то адзін другога не пераважыў бы. *Fed., 225.*

740. Благога як ні кармі — благое благім будзе. *Сержп., 31.*

741. От так: зародзішся такей, і памрэш такей. *М. Грынблат, 1964, Віц. 8.1.87.*

а) Крывое дзерава трудна выпрастаць. *Fed., 95.*

742. Крывога дзерава не выпраміш. *Нос., 69; Сержп., 29.*

а) Крывое дзерава заўсягды крывым застанецца, колькі не праміі. *Дуб., 29.*

743. Чорна белым не стане. *Fed., 66.*

744. Чорнага кабяля не вымыеш дабяла. *Нос., 183.*

а) Чорнага сакала не вымыеш дабяла. *1961, Брасл. 13.9.6.*

б) Чорнага сабаля не вымыець ні мыла, ні вада. *М. Грынблат, 1964, Пол. 8.1.87.*

745. Ліхі ліхога шукае. *Fed., 1964.*

746. Ліхога бі на адліў, то не зашкодзіць. *Сержп., 71.*

747. Добрага карчма не папсуе, ліхога касцёл не направіць. *Fed., 79.*

748. Па цэламу свету ходзіць, усюды шкодзіць. *Ляцкий, 34.*

749. І ў царкву ходзіць, і людзям шкодзіць. *Ляцкий 13.*

750. Добрыя людзі на камені і пад каменем, а ліхія каб і на добрай раллі не раслі. *Fed., 62.*

751. Ліхога нечага шкадаваць. *Fed., 164.*

752. На плахіх і дохні няма, а добрыя мруць. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

753. Старасцю не стар, толькі ліхасцю прапаў. *Ром., Зап., III, 231.*

754. І сабака па ём не завые. *Fed., 269.*

755. Не так бойся чорта, як ліхога чалавека. *Pietk., 356.*

756. Ліхі чалавек гаршэй воўка. *Сержп., 40.*

а) Злы чалавек злей ваўка. *Сах.*

757. Не той ліхі, хто крычыць, а той ліхі, хто маўчыць. *Сержп., 137.*

758. Глядзіць прыгож, ды нягож. *Сержп., 80.*

759. Благія вочы, благія рукі. *Tyszk., 414.*

а) Благія вочы, благая рука. *Шпил., 175; Нос., Слов., 26; Дуб., 7; Сержп., 137.*

760. Гляне — малако кісне. *Ігнат.*

а) На што гляне, то звяне. *Сержп., 71. Вар.: Г. Румоўская, 1963, Пліс. 13.10.40.*

761. Жывець, мадзéець, а ліха дзéець. *Нос., 42.*

762. Хто сам у балота ўлез, то хоча кожнага ўцягнуць. *Fed., 21.*

763. Заўсёды ліхому лепш на свеце, як добраму. *Fed., 164.*

764. З ім гавары і гарачы камень за пазухай дзяржы. *Fed., 109.*

765. Добры і слова паслухае, а ліхі і кія не. *Fed., 79.*

а) Добраму кіў, а лядачаму кій. *Радч., 246.*

766. Лепей з добрым згубіць, як з благім знайці. *Tyszk., 417; Шпил., 183; Dybow., 183, Вар.: Fed., 79.*

767. Ліхога вучыць не трэба. *Fed., 165.*

768. Звер не звер, да чорт яму вер. *Нос., 48; Fed., 347; Сержп., 137.*

769. Кепскаму ўсюды кепска. *Fed., 143.*

а) Благой благацэ́ дрэнна і на куце. *Мін.-Мал., 1970, 158, Уздз.*

770. Добры сабака лепшы за ліхога чалавека. *Fed., 268.*

771. Ліхі добрага не любіць. *Fed., 164.*

772. Ліхога чалавека нічым не ўважыш. *Сержп., 125.*

773. Лепей абайці ліхога чалавека, як сустрэцца з ім. *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

774. Ад ліхога полы падкашы ды ўцякай. *Fed., 163.*

775. З ліхім чалавекам то і гадзіна векам. *Fed., 64.*

776. Ліхой скулы не трэба дражніць. *Fed., 291.*

а) Трэба панаравіць ліхой скуле. *Fed., 281.*

777. Не чапай сабаку, ён і гаўкаць не будзе. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

778. Ад ліхога не адкарастацца. *Сержп., 22.*

779. Ад чорта крыж маеш, а ад ліхога чалавека нічога. *Fed., 66.*

а) Чорта храстом аджэніш, а ад ліхога чалавека не адкрысцішся, не адмолішся. *Pietk., 354.*

б) Ад сабакі кіем аджанешся, ад чорта адхрысцішся, а ад яго не адчэпішся. *Fed., 4.*

780. На свет лепш не радзіцца, ніж ліхім чалавекам быць. *Fed., 63.*

781. На ліхога чалавека і сабака брэша. *Fed., 63.*

782. Сіла злога не аднога. *Fed., 6.*

783. Сілаю злы не даступіцца. *Fed., 357.*

784. Грозны рак, а розум узадзе. *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

а) Грозен рак, да дзе ў няго вочы? *Tyszk., 429; Шпил., 178. Вар.: Ром., Бел., I, 293; І. Суконкін, 1960, Церах. 13.3.29.*

б) Грозен рак, да ззаду вочы. *Нос., 29; Л. Царанкоў, 1960, Мінск 13.9.2; А. Рахунак, 1967, Зельв. 13.10.24.*

785. Грозен жук, да ніхто яго не баіцца. *Бяльк., 139, Касц.*

786. Боўкай карове бог рогаў не дае. *Дуб., Нар., 2.*

а) Бушлівай карове бог рог не дае. *З нар. сл., 75, А. Прышчэпчык, Стаўб.*

787. Бяроза не ўгроза: ідзе яна стаіць, там і шуміць. *Ром., Зап., I, 215, Орш.*

788. Да дабросці і да злосці адзінакавы. *Ляцкий, 9.*

789. Няма горай, як завісныя вочы. *Сержп., 73.*

790. Завіднаму чужая бяда, як цукар. *Сцяшк., 592, Бераст.*

791. Завіснае (паганае) вока нічым не наталіш. *Сержп., 73, 62.*

792. Завіднае вока бачыць далёка. *Мін.-Мал., 1974, 186, Лаг.*

793. Завіснаму нігды не давольна. *Fed., 351.*

794. На завідныя вочы парушынкі падаюць. *Янк., Дыял., III, 162, Глуск.*

795. Завісць не пойдзе у карысць. *Fed., 351.*

796. Завідкі з сярэдзіны чалавека з'ядаюць. *Янк., Дыял., III, 159, Глуск.*

797. Мая грыўна ўсім дзіўна. *Крэмнеў.*

798. Чужыя лемяшы харашы. *Крэмнеў.*

799. У другіх усё лепшай. *Ляцкий. 48.*

800. У чужых руках пірог вялік. *Добр., Смол., 36; Крэмнеў.*

801. Жаласніку ражон, а завісніку пірог. *Нос., Слов., 152; Дуб., 20. Вар.: Нос., 44.*

а) Завідчыку — калач, жалобшчыку — камень. *Добр., Смол., 114.*

802. Лепша завісць, ніж запамога. *Fed., 351.*

803. Лепш няхай зайздросцяць, ніж мелі б спамагаць. *Fed., 351.*

804. Пазавідаваў пляшывы шалудзіваму. *Нос., 130.*

805. Пазавідаваў селядзец селядцу, а ў абаіх гнілыя гла́зы. *Добр., Смол., 36.*

806. Сам сабе не рад. *Fed., 389.*

807. Пакуль вочы не засыплюць пяском, датуль завістліў чалавек. *Нос., 131.*

808. Дзякуй — вялікае слова. *Сержп., 125.*

809. Адна дзяка — ці за рыбу, ці за рака. *Дуб., 1. Вар.: Fed., 90.*

810. Як ратавалі, тапор давалі, а як выратавалі — ані тапарышча. *Нос., 196.*

а) Калі тапілі, тапор давалі, а выплыўшы — ні тапарышча. *Кмита, 181. Вар.: Дуб., 30.*

811. Людзі за дабро злым плацяць. *Fed., 63.*

а) За добрае да ліхім плаціць. *Fed., 87.*

812. За маё дабро да мяне і набілі. *Шпил., 180.*

813. Сядзелі — покуль пілі і елі. *Янк., Дыял., III, 167, Глуск.*

а) Датуль карцэ́ла, покуль есці хацела. *Янк., Дыял., III, 156, Глуск.*

814. Папала брага на ўра́га. *Нос., Слов., 70.*

815. З'еўшы кашку — аб зямлю чашку. *Дуб., Нар., 2.*

816. Калі за стол, дык і ногі на стол. *Нос., 64.*

а) Пасадзі свінню за стол, а яна й ногі на стол. *Ляцкий, 33. Вар.: Fed., 309; М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

б) Пусці свінню за стол, яна з нагамі на стол. *Dybow., 17. Вар.: Ром., Бел., I, 306.*

в) Пусці свінню пад стол, яна залезе на стол. *В. Лашчэўская, 1967, Дзятл. 13.10.28; І. Ламека, 1965, Ваўк. 13.3.2.*

г) Пусці свінню пагрэцца, то і самой няма дзе дзецца. *Dybow., 17; Fed., 309.*

д) Пусці анно свінню за замежак, то яна і ў картоплі. *Fed., 309.*

е) Пусці свінню ў гарод, яна гарод перарые. *М. Грынблат, 1973, Круп.*

ж) Пусці сабаку за стол, то ён зараз і на стол. *Fed., 270.*

817. Не ўмела сабачча лапа ляжаць на стале, дак ляжы пад сталом. *Нос., 105. Вар.: Fed., 269; Pietk., 340; Мат., 175.*

а) Не ўмела сабачча лапа ляжаць пад кутом, дак адтуль яе кнутом. *Нос., 105.*

б) Не ўмела ладыга на стале ляжаць, пад ла́induced ваччу наваляецца. *Добр., Смол., 15.*

в) Не хацела костка ляжаць на стале, хай ляжыць пад сталом. *Мін.-Мал., 1970, 164, Уздз.*

818. Дзевяноста дзевяць раз угодзіш, раз не ўгодзіш — і ты паганы. *І. Суконкін, 1960, Церах. 13.3.29.*

819. Што ні зрабі — усё кепска. *Ляцкий, 60.*

820. Кошку лашчыш, а яна когці выпускае. *Нос., Слов., 266.*

821. Сколькі воўка ні кармі, а ён к лесу глядзіць. *Ром., Зап., III, 231.*

а) Як ваўка ні кармі, а ён у лес пазірае. *Н. Парукаў, 1958, Добр. 13.3.29.*

б) Воўка як ні кармі, усё ў лес глядзіць. *Нос., 14. Вар.: Ахрым., 36; 1961, Кап. 13.9.5.*

в) Воўка колькі ні гадуй, усё ў лес глядзіць. *Дуб., 7.*

## ЛЯНОТА, ГУЛЬТАЙСТВА. ПАРАЗІТЫЗМ. НЯУМЕЛЬСТВА

822. Дзе шчырая праца, там густа, а дзе лянота, там пуста. *А. Мацкала, 1965, Іў. 13.3.10. Вар.: Гут., 141.*

а) Дзе работа, там і густа, а ў хаце гультая заўсёды пуста. *П. Рында, 1967, Зельв. 13.10.23. Вар.: Ахрым., 29.*

823. Працаваць не любіш — чалавекам не будзеш. *П. Рында, 1967, Зельв. 13.10.23.*

824. Праца чалавека корміць, а лянота порціць. *У. Хомка, 1965, Гродз. 13.10.4. Вар.: А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

825. Не за сваю працу не бярыся, а за сваёй не лянуйся. *«Бел.», 1956.*

826. Не шкадуе, хто працуе, да шкадуе, хто гультуе. *Fed., 299.*

827. Да работы не пускаюць ляноты. *В. Іваноўская, 1961. Раг. 8.1.71. Вар.: Гут., 87.*

828. Лень жуе чалавека, як іржа жалеза. *Сах.*

829. Лень горш хваробы. *М. Малочка, 1959, Леп. 8.1.46.*

830. Гультай горш калекі. *Б. Пятроўскі, 1969, Уздз.*

а) Няма горшага калецтва, як гультайства. *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

831. Ад лені не гнуцца калені. *Дуб., Нар., 56.*

а) У лені баляць калені. *Нос., 168; «Зорка».*

832. У гультая рукі не баляць. *Сержп., 47. Вар.: Булг., 177.*

833. Ад ляносці не баляць косці. *Сержп., 46.*

834. У лянівага не баліць у хрыбце. *Ром., Зап., III, 223.*

835. Трудна (цяжка) таму жыць, хто ад работы бяжыць. *М. Бекіш, 1965, Шчуч. 13.10.1; С. Клачко, 1966; Б.-Каш. 13.3.29.*

836. Гультайства губіць хазяйства. *Ляцкий, 8; Сержп., 46.*

а) Віхляйства губіць хазяйства. *Нос., 14.*

837. Пачнеш ляніцца — будзеш з торбай валачыцца. *А. Ліс, 1969, Смарг.*

838. Хто замоладу не працуе, той на старасць жабруе. *Fed., 242.*

а) Не хочаш з моладасці працаваць — будзеш на старасці з торбачкай скакаць. *Дуб., 38.*

б) Не хочаш з маладосці працаваць — будзеш у старасці з тарбе́шкаю танцаваць. *Нос., 108.*

839. Хто не працуе, той і не мацуе. *Дуб., Нар., 3.*

840. Калі без работы сядзець, можна адубець. *В. Іваноўская, 1963, Смарг. 8.1.83.*

841. Бяздзельна жыць — толькі зямлю цежаліць. *Нос., 5.*

а) Без працы жыць — толькі зямлю цяжыць. *Дуб., 5.*

842. Без працы быць — толькі неба капціць. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

а) Нудна жыць — толькі неба капціць. *Нос., 116.*

б) Абібокам жыць — толькі неба капціць. *Н. Парукаў, 1965, Добр. 13.10.19.*

843. Не кажы — не магу, а кажы — не хачу. *Сержп., 46.*

844. Не хочацца, дак і не можацца. *Нос., 108; В. Іваноўская, 1961, Раг. 8.1.71.*

845. Ні да якой работы няма ахвоты. *Нос., 111; Сержп., 45.*

846. Ад ляноты чакай бядоты. *Н. Парукаў, 1965, Добр. 13.10.19.*

847. Ляны не ляны, а зроду такі. *Сержп., 46.*

848. Гультай не гультай, а так сабе шахра́й. *Сержп., 47.*

849. Не жывець, толькі дні трэць. *Нос., 97; Сержп., 80.*

850. Як паставіла красна, дык дзевятая вясна. *Янк., М., 86.*

851. Ка́жан гультай — злодзей. *Fed., 121.*

852. Гультай ды злодзей — два родных браты. *В. Іваноўская, 1961, Раг. 8.1.71. Вар.: В. Зубараў, 1956, Гом. 13.3.29.*

853. Гультай і лянота — два сябры: адзін без аднаго жыць не могуць. *«Бел.», 1956.*

854. Без ахвоты няма работы. *Дуб., 5; Сержп., 51.*

а) Дзе няма ахвоты, там няма работы. *Fed., 3.*

855. Палец аб палец не ўдарыць. *Fed., 213.*

856. Ходзіць рукі злажыўшы. *Fed., 265.*

857. За халодную воду не возьмецца. *Fed., 323, 325.*

858. Пад кнутом анно ім рабіць. *Fed., 146.*

859. Дзела (дзелай) не дзелай, ад дзела не бегай. *Нос., 34; Дуб., Нар., 2.*

а) І дзела не рабі і ад дзела не ідзі. *Pietk., 368.*

860. З кута ў кут — і вечар тут. *1961, Брасл. 13.9.5.*

861. Гультаю і сонца не ў пору ўсходзіць. *Дразд.*

862. Яму раніцаю росна, у поўдзень млосна, а ўвечары камары кусаюць. *Янк. М., 15.*

а) Гультай тры вешчы знае: уранні росна, у абед млосна, а ўвечары камары. *А. Куцакова, 1956, Рас. 13.3.29.*

б) Гультаю усё некалі: яму раніцой росна, у поўдзень млосна, а ўвечары камары кусаюць. *В. Зубараў, 1956, Гом. 13.3.29.*

в) З раніцы росна, удзень млосна, а ўвечары камары — не прачнуся да зары. *Янк., Дыял., III, 159, Глуск.*

г) Раніцою росна, а ў поўдзень млосна, вечарам камары — і рабіць няма калі. *К. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

д) З раніцы росна, удзень млосна, а ўночы спаць трэба. *Янк., Дыял., III, 159, Глуск.*

е) Раніцай росна, удзень млосна, увечары камары — не выстаўляй з куста галавы. *Цар., 246, Мінск.*

863. Цалютку ноч — сон, а ўсенькі дзень — лень. *Янк., Дыял., III, 169, Глуск.*

864. Броўкі як сярпочкі, а ніўка няжатая стаіць. *Янк. Н., 9.*

865. Пайшла рында жыта жаць, забылася сярпа ўзяць. *Р. Мазгавая, 1967, Лід. 13.10.29. Вар.: А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

866. У каго заганéц, то той добры жнец, у каго заганíшча, то той гультаішча. *Fed., 365.*

867. Людзі жаць, а мы на мяжы ляжаць. *Зах., 252.*

а) Людзі поле жаць, а яна ў полазе ляжаць. *Бяльк., 167, Краснап.*

868. Рабіць — не прыбіць, а жаць — не сагнецца, а як выйдзе на вулачку, чуць не разарвецца. *Г. Барташэвіч, 1970, Астр. 8.2.33.*

869. Як жала, такая й ша́на. *Юрч., 1969, 208.*

870. Лодыру і ў летні дзень холадна. *Н. Парукаў, 1965, Добр. 13.10.19.*

871. Хто на неба пазірае, той без хлеба падыхае. *Сержп., 46.*

872. Свя́ты, свя́ты,— кажа гультаяваты. *Сержп., 45; Ляцкий, 40.*

873. У гультая свят шмат. *Сержп., 45.*

874. Гультаю заўсюды свята. *Fed., 121.*

875. Хто празнікаў пытае, той сарочкі лата́е. *Радч., 247.*

876. Тыц-мыц — няма чаго рабіць. *Ляцкий, 46.*

877. Сядзіць на бруку, паглядае ў руку. *Fed., 275.*
   а) Сядзімо на бруку, паглядаем у руку. *Fed., 43.*

878. Прыстаўшы, паеўшы, паспаўшы — на ўсё свой час, а работа стой. *Ляцкий, 36.*

879. Як з мілым пастаяць, то ручанькі не баляць. *Fed., 187.*

880. Ха́ханькамі сыт не будзеш. *У. Іваноў, 1958, Мінск.*

881. Латво раскідаць, але зрабіць трудно. *Fed., 259.*

882. На чужую работу гледзячы, не наясіся. *«Ніва», 1956, № 4.*

883. Хто работу робіць, а хто варон ловіць. *В. Іваноўская, 1963, Смарг. 8.1.83.*

884. Каб не затыкі ды датыкі, дык і сарока кросны ткала б. *Сцяшк., 594, Гродз.*

885. Гультай сена касіў, а чорт па полю насіў. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

886. Дзянёк папажалі — тры копачкі нажалі. *Бяльк., 372, Міласл.*

887. Гультаю ўсё цяжка. *Fed., 121.*

888. Адсюль гарачо, а адтуль балячо. *Tyszk., 430; Dybow., 4. Вар.: Слов., 30; Fed., 20, 103; Pietk., 312.*

889. Ён нідзе месца не загрэе. *Fed., 185.*

890. У нашай Хадоркі адны адгаворкі. *К. Кабашнікаў, 1963, Свісл. 8.1.84.*

а) Гультай заўжды адмоўку знойдзе. *Сержп., 44.*

891. Лянівай кабыле і хвост мяшае. *Янк. М., 117.*

892. Да работанькі няма ахвотанькі. *В. Іваноўская, 1961, Раг. 8.1.71.*

893. Абуўся ў лапці, а ў кішані рукі дзяржыць. *Ляцкий, 1.*

894. На гультáя так пан-бог дáе. *М. Смурага, 1967, Свісл. 13.10.29.*

895. Калода гніла — работаць міла. *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

896. У гультая і страхá цячэ, і печ не пячэ. *«Бел.», 1956.*

897. Лянівую канягу і б'юць. *Сержп., 46.*

898. Ляніваму каню і дубіна не страшна. *Нос., 74. Вар.: Сержп., 45.*

а) Ляному валу і пуга не памагае. *Сержп., 46.*

б) Убоеві і кій не памагае. *Fed., 316.*

899. Гультай у полі без сахі, а дома з лыжкаю. *Янк. М., 125.*

900. Есць за двох, а не зробіць за аднаго. *Fed., 254.*

901. Есць за вала, робіць за камара. *Дуб., 18. Вар.: Н. Парукаў, 1965, Добр. 13.10.19.*

902. Есць рукамі, а працуе брухам. *Л. Ганчарук, 1967, Слон. 13.10.20.*

903. Брухам хлеба не вынасіш. *Ром., Зап., I, 215.*

904. На яду мастак, а на работу сяк-так. *Сержп., 45; В. Зубараў, 1956, Гом. Вар.: Гут., 87.*

905. Хто прыспасабляецъ, а хто есць пасабляецъ. *Нос., 177.*

906. Хочацца смачнага есці, а зарабіць не хочацца. *Fed., 129.*

907. Як да чаркі — скоры, як да працы — хворы. *А. Сіплівая, 1967, Пруж. 13.10.24.*

908. Смашна есці, хораша хадзіці і нічога не рабіці — вот добра жыці! *І. Суяпунін, 1968, Дзярж. 8.2.12.*

909. Нічога не робіць, а булкі есць. *Сем.*

910. Парася ў мéсе, доўбня яшчэ ў лесе, а гультай ужо са скавародкаю бегае. *А. Фядосік, 1959, Капатк. 8.1.44.*

911. На работу — цяляты, а на яду — коні. *Янк. Н., 4.*

912. На рабоце ой ды ох, а за сталом адзін за трох. *Н. Парукаў, 1958, Добр. 13.3.29.*

913. Есці дай, выпіць дай, а аб рабоце не пытай. *Ляцкий, 11; Сержп., 46.*

914. Ядзім — пацеем, работаем — мерзнем. *І. Суконкін, 1960, Церах. 13.3.29.*

915. І кашы не хачу, і па воду не пайду. *Fed., 139. Вар.: Дуб., 25.*

916. Як не еў — не мог, як пад'еў — ні рук, ні ног. *Tyszk., 431. Вар.: Нос., 195; Dybow., 184; Fed., 129.*

а) Як не еў, дык не мог, а пад'еў, дык і лёг. *1961, Кап. 13.9.5.*

б) Не еў — не мог, а пад'еў, дык адразу лёг. *М. Бабарыкіна, 1966, Чач. 13.3.29.*

в) Не еў, дак млеў, пад'еў, дак спаць захацеў. *А. Фядосік, 1962, Капатк. 8.1.76.*

г) Не піў — не мог, а выпіў — ні рук, ні ног. *Шпил., 186; Dybow., 186.*

917. Як рабіў — ні ох, а пад'еў — ні рук, ні ног! *К. Цвірка, 1974, Старадар.*

918. Сем разоў пад'еш і з печкі не злезь. *Л. Царанкоў, 1960, Рэч. 13.9.2.*

919. Хоць тры дні не есці, абы з печы не лезці. *В. Іваноўская, 1963, Смарг. 8.1.83.*

920. Як да чаркі скоры, так да працы хворы. *Суяшк., 617, Смарг.*

921. Як возьме сыць, дык стоячы спіць. *Мат., 176.*

922. Сеў, прыкіпеў і спатынькі захацеў. *Міеп., 397.*

923. Воткі да воткі — не было работкі. *Ляцкий, 6.*

924. На добрым пятуху́ мяса не расце. *М. Грынблат, 1976, Лаг.*

925. Як да дзела — абы не спала з цела. *М. Гваздзёў, 1960, Рэч. 8. 1. 58.*

926. Верабей не сее, не жне, а зярняткі клюе. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

927. Жарты жартамі, а дзела дзелам. *М. Бандарэнка, 1966, Маз. 13.3.29.*

928. Перш папрацуй, а тады і патанцуй. *Дуб., 49.*

929. Добра гуляць, калі справа ідзе на лад. *А. Гурскі, 1967, Бял. 8.1.112; Л. Павецьева, 1967, Мсцісл. 8.1.107; А. Махнач, 1961, Уздз. 13.10.15.*

930. Гуляй, ды працу знай. *У. Хомка, 1965, Гродз. 13.10.4.*

а) Гуляй, гуляй, ды дзела не кідай. *Ляцкий, 8.*

б) Дзевачка, гуляй, да дзела памятай. *Сержп., 45.*

в) Дзевачка, гуляй (спі), да дзельца помні. *Нос., 34; Дуб., 15.*

931. Гу́лямі не адбудзеш. *Нос., 30.*

932. Цапом сілу мерай, а не гульнёй. *Ляцкий, 56.*

933. Папіць, пагуляць, а на рабоце віляць. *Сержп., 43.*

934. Гультай кажа: хоць няўежна, але ўлежна. *В. Іваноўская, 1961, Раг. 8.1.71.*

935. Ляжа́й ляжыць, доля бяжыць. *Янч. М., 101.*

а) Гультай ляжыць — яму доля бяжыць. *І. Пазняк, 1965, Шчуч. 13.10.6.*

б) Гультай ляжыць, а ліха бяжыць. *1961, Кап. 13.9.5.*

936. Ляжы, ляжáку, з'ясі сабаку. *Fed., 162; Янк. М., 104.*

937. Дзела не гарыць. *Сержп., 43.*

а) Прысядзь: не гарыць дзела. *Ляцкий, 36.*

938. Дзела (работа) не воўк, у лес не ўцячэ. *Сержп., 43, 51; Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

а) Работа не заяц — не пабяжыць. *Fed., 255.*

939. Сядзі да на неба глядзі. *Нос., 159.*

а) Сядзéм да й на неба глядзéм. *Fed., 275.*

940. У бога дзён многа. *Мін.-Мал., 1970, 167, Узд.*

а) У бога дзён многа — паробім. *Fed., 254.*

941. Сядзеўшы, нічога не выседзіш. *Нос., 160.*

942. Сядзі сядзячку, дай з'есці балячку. *І. Сагарава, 1950, Браг. 8.1.35.*

943. Яшчо дзела не паспела, а ён ужо сеў. *Ляцкий, 63. Вар.: Сержп., 46.*

944. Няхай той глядзіць, хто злажыўшы рукі сядзіць. *Ляцкий, 28.*

945. Крыстына да кáменя прыстыла. *І. Курбека, 1961, Докш. 13.9.7.*

946. Ні скакун, ні граюн, а ў куточку сядун. *Fed., 274.*

947. Хай тых ваўкі ядзяць, каторыя дома сядзяць. *В. Мінкелевіч, 1949, Кір. 8.1.24.*

948. Сядзеў бы на печы ды грэў бы свае плечы. *І. Курбека, 1961, Докш. 13.9.7.*

949. Дзела кішыць, буракі крышыць. *Нос., 34.*

950. Дзе сеў, там і прыкіпеў. *Нос., 23; Fed., 249; Д. Вайтушка, 1965, Лід. 13.10.1.*

а) Як сеў, так і прыкіпеў. *Fed., 274. Вар.: 1961, Калінк. 13.9.5.*

951. Зачапіўся за пень ды й прастаяў цэлы дзень. *Fed., 346.*

952. Пакуль бацька капу жыта змалаціў, дык сын абуўся. *Мат., 184, Мінск.*

а) Покуль бацька ко́пу жыта змалата́ў, дык я лапця схвата́ў. *Янк., Дыял., І, 218.*

б) Пакуль сын абуўся, бацька змалаціў. *Л. Малаш, 1973, Докш.*

953. Дзе стаў, там і прапаў. *Fed., 249.*

а) Як паў, дак прапаў. *Нос., 195. Вар.: Fed., 312.*

б) Айдзе паў, там і прапаў. *Нос., 1. Вар.: Ляцкий, 10; Fed., 321.*

954. Прыстаў там, куды пашоў. *Нос., 138.*

955. Пашоў ды сеў. *Dybow., 16.*

а) Як пашоў, так і сеў. *Dybow., 184.*

956. Лёг — не забота, устаў — не хлапота. *Ляцкий, 19.*

957. Хоць устаў рана, але надалу́жыў абуваючыся. *Fed., 322.*

958. Гэта не работа: глядзець, каб дзень прайшоў, да да нас не дайшоў. *Дуб., 10.*

а) Праца: абы дзень прайшоў, ды да нас не дайшоў. *Дуб., Нар., 2.*

959. Воўк пад вакном здохне, калі ён тое зробіць. *І. Курбека, 1961, Докш. 13.9.7.*

960. Пораўся-пораўся, а чорта выпараў. *Ляцкий, 35.*

961. З кута ў кут — і вечар тут. *І. Курбека, 1961, Докш. 13.9.7. Вар.: Fed., 160.*

а) То ў той кут, то ў той кут — і вечар тут. *Ляцкий, 45.*

б) Саўгець то ў той кут, то ў гэты кут, а вечар тут. *Сержп., 46.*

962. Як аджывая дні жывець. *Добр., Смол., 57.*

963. Хварэе, хварэе, а хаваць некага. *Сержп., 15.*

а) Хварэе, хварэе, а прыдзе нядзеля — няма каго хаваць. *Fed., 56.*

964. Не прамяняў бы паганую гульню на самую добрую работу. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

965. Гуляючы і пуга плячэ не разверне. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

966. Не праткнуўшы, не праколеш. *В. Брычакоў, 1960, Карм. 13.3.29.*

967. Работа з зубамі, а лянота з языком. *Янк. М., 10.*

968. Базіканнем работы не зробіш. *Нос., Слов., 12.*

969. З гутаркі хлеба не наясі. *Ляцкий, 13.*

970. Языком сена не накосіш. *Янк., Дыял., I, 225, Глуск.*

971. Хто многа гаворыць, той мала робіць. *Fed., 107.*

972. Больш мовы, чым справы. *Л. Царанкоў, 1960, Мінск 13.9.2.*

973. Многа гавэнды, а мала скутку. *Fed., 97.*

974. Больш рабі, а менш гавары. *Fed., 253.*

975. Не мялі языком, а дзелай дзела. *С. Заянчкоўская, 1956, Церах. 13.3.29.*

а) Не лапачы языком, ды рабі рукамі. *В. Іваноўская, 1962, Светл. 8.1.74.*

976. Языком мялі, а справу рабі. *Сах.*

а) Языком лапачы, а рукамі дзелай. *Добр., Смол., 135.*

977. Языковае мліва не гадзіва(е). *Янк., Дыял., І, 225, Глуск.*

978. Работу словам не заменіш. *В. Цыбульская, 1967, Валож. 13,10.24.*

979. Менш гавары, а больш рабі. *Fed., 108.*

980. Лепш крошку зрабіць, як багата пагаварыць. *Янк., Дыял., І, 213, Глуск.*

981. Не хваліся языком, а хваліся дзелам. *Ахрым., 44.*

а) Не хваліся на славах, а лепш на дзялах. *А. Махнач, 1952, Узд. 13.10.15.*

982. Не спяшайся языком, а спяшайся дзелам. *Ахрым., 5; Сах.*

983. Многа робіць языком, ды мала рукамі. *Ахрым., 39.*

а) Болей языком, чым рукамі. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

984. Каб так смы́кам, як язы́кам. *Янк., Дыял., І, 211, Глуск.*

985. З язычком і туды, і сюды, а на справе нікуды. *Ахрым., 34.*

а) Славамі туды-сюды, а на справе нікуды. *А. Гурскі, 1967, Бял. 8.1.112; Л. Павецьева, 1967, Мсцісл. 8.1.107.*

986. Ні шавец, ні кравец, ні каваль, ні стругаль — проста гаварыльшчык. *Янк., Дыял., І, 217, Глуск.*

987. Хто языком меле, той дурань на дзеле. *Pietk., 373.*

988. Не так лёгка (хутка) зрабіць, як сказаць. *Fed., 360.*

а) Лацвей казаць, да не лацвей зрабіць. *Дуб., 33.*

б) Лёгка то сказаць, да не зрабіць. *Fed., 279.*

в) Латво то сказаць, да не латво зрабіць. *Fed., 279.*

989. Гэта не пальцам пераківаць. *Tyszk., 433.*

990. Як не рукамі, то языком возьме. *Д. Шыцік, 1961, Дубр. 13.9.6.*

991. Хто горбам, а хто горлам. *Янк., Дыял., I, 224, Глуск.; Цяшк., 614, Гродз.*

а) Хто каб горбам, хто каб горлам, а хто каб хітрыкамі. *Янк., Дыял., I, 224, Глуск.*

992. Бачаннем жорава не зловіш. *Дуб., 8; Нос., 5.*

993. Па вочы свет, а па рукі хлеб. *Радч., 248.*

994. Думаю горада не возьмеш. *Крэмнеў.*

995. На бакі не пaглядай і варон не лаві. *Добр., Смол., 14.*

996. А́цямі не адбудзеш. *Нос., 3.*

997. Сядзіць рукі палажа́, як святэй бoжа́. *Добр., Смол., 57.*

998. Робіць, ды няма спору. *Pietk., 388.*

999. Дарога торна, да работа не спорна. *Нос., 37.*

1000. Толькі і работы, што піпілу курыць да батурыць. *Дуб., 60.*

а) Толькі і работы, што піпку курыш да батурыш. *Нос., Слов., 16.*

1001. Слоў мяшок, а спраў на вяршок. *Цяшк., 609, Кар.*

а) Нагаварыў з мяшок, а дзела з вяршок. *М. Бабарыкіна. 1966, Чач. 13.3.29.*

1002. Прышоў рабатáць — няма чаго ўрэмя каратáць. *Ляцкий, 36.*

1003. Лежачы, хлеба не дабудзеш. *Ахрым., 38. Вар.: В. Брычакоў, 1960, Карм. 13.3.29.*

1004. Не злуй на суседа, калі спіш да абеда. *Цяшк., 601, Шчуч.*

1005. Са сна хлеб не пякуць. *Сах.*

1006. Са сна кажуха не пашыеш. *І. Сухонкін, 1960, Церах. 13.3.29.*

1007. Танянёх, танянёх, куды кінуў, там і лёг. *Нос., Слов., 633.*

1008. Сядзеўшы ў запеччы, нічога не выседзіш. *Сержп., 45.*

1009. Любіць цяпло і дым цярпіць. *Ром., Зап., III, 222.*

1010. Работа не ахвота: калі жаць, так жаць, а ляжаць, так ляжаць. *Ляцкий, 37.*

1011. За паляжанкаю пасядзець некалі. *Fed., 214.*

1012. Гультай і сядзець стамляецца. *«Бел.», 1956.*

1013. Гарачку пораш, а сам спіш. *Fed., 103.*

1014. Надаела дзела, спáткі захацела. *Дуб., 38.*

1015. Як ляжа спаць, то забудзецца ўстаць. *Fed., 286.*

1016. Добра нашаму Юрку: сам на печы, ногі ў пячурку. *А. Фядосік, 1962, Капатк. 8.1.76.*

1017. На печы ляжыць і не думае тужыць. *Сержп., 43, 46.*

1018. Ні на печы, ні ў цяньку — нідзе месца не знайду. *Янк., Дыял., III, 163.*

а) Ні ў гародзе, ні ў саду — нідзе месца не знайду. *Янк., Дыял., III, 163; Добр., Смол., 48.*

1019. Калі мужык ляжыць на печы, то пуста ў клеці. *Ляцкий, 17.*

1020. Лежань ляжыць да вечара — есці нечага. *Сержп., 46.*

1021. Языком у Вільні, а галавой за печчу. *Крэмнеў.*

1022. Хочацца і хлеб мець і на печы ляжаць. *Сержп., 61.*

1023. Даў бог седзячы, то яшчэ хоча лежачы. *«Ніва», 1970, № 44.*

1024. Каб не ежа да не адзежа, так бы і апох лежа. *Аним., 263; Шейн., II, 476. Вар.: Калянд., 1925.*

а) Каб не хлеб, не адзе́жыца, жыў бы чалавек лежачы. *Fed., 53.*

1025. Дзень бяжыць — дзень ляжыць. *Fed., 30.*

1026. Ле́жанка ляжыць, і долька спіць. *Нос., 73.*

1027. Дай сну волю — праспіш шчасце і долю. *А. Гурскі, 1961, Барыс. 8.1.63.*

1028. Гультаю і на печы шчасце. *Г. Прытычанка, 1960, Карм. 13.3.29.*

1029. Чым болей спіш, тым болей зяваеш. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

1030. Назяваешся, вады нахлябаешся. *Вас., 15. Вар.: А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

1031. Санлівага дабудзішся, а гультая дашлешся. *Дуб., 54. Вар.: Нос., 153.*

а) Санлівага не дабудзішся, а лянівага не дашлешся. *С. Клачко, 1966, Б.-Каш. 13.3.29.*

1032. За сном і аддыхнуць няма калі. *І. Байко, 1967, Клецк. 13.10.23.*

1033. Лянівы і санлівы — два браткі. *В. Іваноўская, 1961, Раг. 8.1.74.*

1034. Пад ляжачы камень вада не цячэць (не бяжыць, не падплыве). *Нос., 130. Вар.: Сержп., 45; Fed., 135; Дуб., 148; Pietk., 324; Бяльк., 250, Мсцісл.; А. Махнач, 1952, Узда. 13.10.15; І. Януля, 1965, Вайк. 13.10.3; А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29; А. Куцакова, 1956, Раг. 13.3.29.*

1035. На адном месце і камень абрастаець. *Нос, 86. Вар.: А. Гурскі, 1960, Слуцк. 8.1.51; А. Фядосік, 1962, Капатк. 8.1.76; Л. Царанкоў, 1960, Рэч. 13.9.2; 1961, Брасл. 13.9.5; А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

а) На адном месцу і камень мохам абрасце. *Fed., 185. Вар.: Pietk., 324.*

б) Ляжачы камень мохам абрастае. *А. Махнач, 1952, Узда. 13.10.15.*

в) Камень на месцы мохам абрасце. *Dybow., 182. Вар.: Fed., 135.*

1036. Ляжачыя і грошы ржавеюць. *Сержп., 43.*

1037. Ляжы, ляжэнчык, дык з'ясі ражэнчык. *А. Куцакова, 1956, Раг. 13.3.29.*

1038. Нашаму гультáю ні хлеба, ні чаю. *Ахрым., 69.*

1039. Гультаю́ хлеб на кію́. *А. Фядосік, 1962, Капатк. 8.1.76; Суяшк., 586, Шчуч.*

а) Гультаю хлеб на калу. *А. Бізук, 1965, Шчуч. 13.10.1.*

1040. Вучы гультая не молатам, а голадам. *В. Іваноўская, 1963, Смарг. 8.1.83.*

а) Гультая гані на работу не холадам, не молатам, але голадам. *Ляцкий, 8.*

1041. Скажы, пані, на маю кабылу «тпру!» *Добр., Смол., 57.*

а) Скажы на маю кабылу «тпру», а мае губы пазяблі. *Нос., 149.*

1042. Ён і муху з носу не згоне. *Сах.*

1043. Ён гнілому цяляці хваста не адарве. *Fed., 3.*

1044. Ёсць макацёр, да сам маку не сцёр. *Нос., 40.*

1045. У кораб не іду, а і з кораба не лезу. *Ром., Зап., I, 216.*

1046. Дай ды ў рот палажы. *Сержп., 132.*

1047. Лянько, лянько, на яйко! — А ці аблуплена? — Не. — Ну, то бяры сабе. *Дуб., 33.*

1048. Дай яечка, да й аблупленае. *Нос., 32. Вар.: Дуб., 17; Fed., 73; Сержп., 10.*

а) Дай яечка аблупленае і яшчэ каб было пракушанае. *Fed., 73.*

б) Даць аблупленае яечка да і ў рот улажыць. *Шпил., 179.*

1049. Гультай, бяры сухары.— Яны мочаныя? *А. Фядосік, 1959, Капатк. 8.1.44.*

1050. Гультай за дзела — мазоль на цела. *Суяшк., 586, Зельв.; М. Мельнічэнка, 1950, Гом., 13.3.29.*

а) Як гультай за дзела, дык мазоль за цела. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29. Вар.: В. Дашкоўская, Вайк. 13.10.3.*

б) Лежань за дзела, а мазоль за цела. *М. Бандарэнка, 1966, Маз. 13.3.29.*

в) Гультай за работу — мазоль за руку. *Fed., 121; Сцяшк., 586, Дзятл.; Р. Мухляда, 1965, Шчуч. 13.10.3; Г. Барташэвіч, 1960, Нясв. 8.1.49; 1971, Паст. 8.2.40; М. Грынблат, 1967, Мінск.*

1051. Бог працу бачыў, але мазаля не даў. *А. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

а) Бачыў бог працу, ды не даў мазаля. *М. Бабарыкіна, 1966, Чач. 13.3.29.*

1052. Лень зробіць чалавека на пень. *М. Бандарэнка, 1966, Маз. 13.3.29.*

1053. Ляны́ два разы робіць. *Сержп., 45.*

1054. Хто не ідзе, той не спатыкаецца. *Янк., Дыял., III, 169.*

1055. Конь на чатырох нагах спатыкаецца. *Fed., 148.*

1056. Скупы два разы плоціць, лянівы два разы ходзіць. *Г. Прытычанка, 1960, Карм. Вар.: Вас., 23. Н. Купцаў, 1967, Ветк. 13.3.29.*

1057. Чужымі рукамі добра толькі жар заграбаць. *Tyszk., 416. Вар.: Нос., 184; Fed., 265; А. Мацкала, 1965, Іў. 13.10.3; Pietk., 340; Ахрым., 17, Dybow., 7.*

1058. Век чужымі рукамі жар заграбаць не будзеш. *І. Суконкін, 1960, Церах. 13.3.29.*

1059. Адна звычка гультаёў: рабіць чужымі бакамі, а ляжаць на сваіх. *В. Іваноўская, 1961, Раг. 8.1.71.*

1060. І без нас людзей шмат. *Сержп., 10.*

1061. Сем на стог — адзін падаваць. *І. Януля, 1965, Ваўк. 13.10.3.*

1062. Пры гатовай калодзе лягчэй агонь раскладаць. *Tyszk., 416; Dybow., 188. Вар.: Fed., 7.*

а) Пры гатовай калодзе латвей раскладаць агонь. *Нос., 137.*

б) Пры гатовым пню (пні, пне) добра агонь класці. *Fed., 7. Вар.: М. Рымша, 1957, Маз. 13.3.23.*

1063. Ласы к гатоваму вогнішчу рукі пагрэць. *Г. Барташэвіч, 1965, Арш. 8.1.99.*

1064. За чужой спіной і Іван пан. *Г. Прытычанка, 1960, Карм. 13.3.29.*

1065. Барада казлу не замена. *Ром., Зап., І, 215.*

1066. Дасць бог людзём — і мы пад'ядзём. *І. Курбека, 1961, Докш. 13.9.7.*

а) Дасць бог людзям — і мы з хлебам будзем. *Янук.*

1067. Не гавеўшы, да́ру схваціў. *Шпил., 185; Дуб., 40.*

1068. Хто работу робіць, а хто варон ловіць. *В. Іваноўская, 1963, Смарг. 8.1.83.*

1069. Бумажка не важка, а табе самому трэба насіць. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

1070. Няўмеламу рукі не баляць. *Fed., 201. Вар.: Pietk., 381; А. Мацкала, 1965, Іў. 13.10.3; М. Мельнічэнка, 1960, Гом. 13.3.29.*

а) У няўмекі рукі не баляць. *Tyszk., 415. Вар.: А. Ліс, 1969, Стол. 8.2.17; А. Фядосік, 1962, Капатк. 8.1.76; А. Якіменка, 1966, Б.-Каш. 13.3.29.*

б) У няўмелькі рукі балець не будуць. *Добр., Смол., 14.*

в) У няўмечкі не баляць ні рукі, ні плечкі. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

1071. У няўмекі рукі калекі. *Нос., 168; Дуб., 64; Сержп., 46; Fed,. 201; М. Бандарэнка, 1966, Маз. 13.3.29.*

1072. Нясмелага ад няўмелага не распазнаеш. *Дуб., 39; Ляцкий, 30.*

а) Нясмелага з няўмелым не распазнаць. *Нос., 103.*

1073. У дурня рот не зачыняецца, а ў другога няўдальца не расчыняецца. *Янк., 260.*

1074. Глядзець — вялік, а прок ад яго ліх. *Ляцкий, 7.*

1075. Плахога воўка і цяляты ліжуць. *Ром., Зап., III, 229.*

1076. Не бярыся не за сваё дзела. *Нос., 92; Дуб., 39; Fed., 94. Вар.: Сержп., 51.*

а) Не за сваю справу не бярыся. *В. Бондар, 1967, Мін. 13.10.24.*

1077. Калі нядуж, не бярыся за гуж. *Dybow., 182; Fed., 89.*

а) Калі нядуж, не дзяржыся за гуж. *Дуб., Нар., 2.*

1078. Калі ўзяўся за гуж, то не кажы, што нядуж. *Czeczot, 109; Гильт., 287, Mien., 397; Fed., 89; Pietk., 318.*

а) Узяўшыся за гуж, не кажы (не гавары), што нядуж. *Tyszk., 416; Гильт., 287; Нос., 13; Дуб., 62; Дразд.; Ром., Зап., I, 215. Вар.: Дуб., 64; У. Хомка, 1965, Гродз. 13.10.4; П. Мушчук, 1965, Ваўк. 13.10.5; С. Заянчкоўская, 1956, Церах. 13.3.29.*

1079. Калі ўлез у дугу, не кажы «не магу». *Ляцкий, 17; Fed., 174; Сержп., 3; Сах.; Ахрым., 35.*

а) Калі ўзяўся за дугу, не кажы, што не магу. *Fed., 323; Т. Багдзевіч, 1965, Шчуч. 13.10.6.*

б) Упрогся ў дугу, а кажаш — не магу. *М. Грынблат, 1975, Слуцк.*

1080. Калі адзеў хамут, дык цягні, пакуль гужы не парвуцца. *А. Махнач, 1952, Узд. 13.10.15.*

1081. Калі не хочаш цягнуць, не лезь у хамут. *Fed., 57.*

1082. Назваўся груздом — хутчэй у кошык. *А. Брычакоў, 1960, Карм. 13.3.29.*

а) Падняўся грыбком — лезь у каробку. *1961, Кап. 13.9.5.*

б) Калі назваўся грыбам, то лезь у каробку. *Ворожб. Вар.: Fed., 118.*

в) Абазваўся грыбам, то лезь у боршч. *Зах., 252.*

1083. Калі не грыб, не лезь у каробку. *Fed., 118; Pietk., 322. Вар.: І. Сагарава, 1950, Браг. 8.1.35.*

1084. Калі не поп, не ўбірайся ў рызу. *Tyszk., 429; Mien., 396; Нос., 64; Dybow., 182; Добр., Смол., 39; Ляцкий, 17; Сержп., 49; Fed., 213, 240; Pietk., 337; І. Сагарава, 1950, Браг. 8.1.35; А. Ліс, 1968, Смарг. Вар.: Л. Царанкоў, 1960, Касц. 13.9.2; А. Лучанок, 1960, Мінск 13.9.6; К. Кузняцова, 1960, Нясв. 8.1.55.*

а) Калісь не поп, не адзявайся у рызу. *Kolb., 472, Пін. п.*

б) Раз не поп, не адзявай рызаў. *В. Калюк, 1965, Навагр. 13.10.6.*

в) Калі не поп, так і рызы не надзявай: пець не будзеш. *Добр., Смол., 39.*

1085. Не варашы, калі рукі не харашы. *Ром., Зап., III, 226.*

1086. Не штука майстар, калі лепіцца кляйсцер. *Ляцкий, 31.*

1087. Што гак, то й знак. *Янк., Абр., 23.*

1088. Не кідайся, сын, з фуганом, прыдзе бацька — ачэшыць тапаром. *А. Гурскі, 1969, Кап.*

1089. Габлюй, габлюй, сынок, прыдзе бацька — сякерай паправіць. *Сцяшк., 384, Зельв.*

а) Габлюй, габлюй, сынку, бацька сякерай паправіць. *Л. Царанкоў, 1960, Мінск 13.9.2.*

1090. Спосабам татка хатку спаліў. *Fed., 311.*

1091. Добры фурман адразу воз пераверне. *Fed., 51.*

1092. Зрабіць і сам зробіць, толькі перараблядь просіць. *Ю. Звярко, 1965, Іў. 13.10.5.*

1093. Хутка робіць, але перарабляе доўга. *Янк., Дыял., I, 224, Глуск.*

1094. Адзін сяк, другі так. *Fed., 6.*

а) Адзін сям, другі там. *Fed., 6.*

1095. За сто работ бярэцца, а ні адна не ўдаецца. *Сцяшк., 591, Маст.*

1096. Пакуль адзін бок абстрыжэ, дык другі абрасце. *1961, Брасл. 13.9.5.*

1097. Ні жнец, ні швец. *Fed., 364.*

а) Ні шавец, ні кравец, а так сабе. *Ляцкий, 29.*

б) Ні трэц, ні мнец, ні ў дуду ігрэц. *Дуб., 38.*

в) Ні швец, ні мнец, ні дратвы канец. *Л. Царанкоў, 1960, Рэч. 13.9.2.*

1098. Ні пітук, ні ядак, ні вялікі работнік. *Fed., 326.*

1099. Ні ў салдаты, ні ў матросы, адно змазваць калёсы. *Сцяшк., 603, Маст. Вар.: І. Курбека, 1961, Докш. 13.9.7.*

1100. Ні ў тын, ні ў плот, ні ў добрыя людзі. *Горленка, 250, Лоеў., Гом.*

1101. Ані да танца, ані да ражанца. *Fed., 310; Мяц., 180, Стаўб.*

1102. Ні богу, ні людзям. *Fed., 63. Вар.: Pietk., 358.*

1103. Ні пех, ні мех. *Нос., 113. Вар.: Дуб., 42.*

1104. Ні рыба, ні мяса. *Dybow., 186; Сержп., 121.*

1105. Ні лой, ні масла. *Fed., 182.*

1106. Ні печаны, ні вараны. *Fed., 231.*

1107. Ні млён, ні таўкач. *Fed., 188.*

1108. Ні чорт, ні хорт. *Fed., 68.*

1109. Ні хорт, ні вы́жал, хоць вон вы́жань. *Сержп., 11.*

1110. Ні паўтраця́, ні два з палавінаю. *Сержп., 8.*

1111. У цябе робіцца — ні то куецца, ні то плешчацца. *Fed., 254.*

1112. Людзі і шылам голяць, а мы і брытваю не ўмеем. *Fed., 98.*

1113. Многа поту ды мала проку. *Сах.*

1114. Работы многа, а карысці мала. *Fed., 255.*

1115. Народу цьма, а работы няма. *Fed., 255.*

1116. Крукам стаімо і рады не дадзімо. *Мат., 182, Кар.*

1117. Вялікі целам, ды малы дзелам. *Fed., 329.*

1118. Ні богу свечка, ні чорту ожаг (ражон, ражок). *Fed., 38, 68; Добр., Слов., 988.*

а) Ні богу свечка, ні чорту галавешка (качарга, кучма). *Нос., 110; Дуб., 41. Вар.: Pietk., 312.*

б) Ні богу свечка, ні чорту дуда. *Нос., 110.*

1119. Не мычыць, не целіцца. *Нос., 112; Л. Царанкоў, 1960. Касц. 13.9.2.*

1120. Не куецца, не плешчацца. *Czeczot, 112; Шпил., 186; Dybow., 186. Вар.: Гильт., 297; Нос., 99; Дуб., 41; Fed., 156; Pietk., 336; А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

1121. Не гарыць і не курыцца. *І. Хайратовіч, 1951, Талач. 13.8.4.*

1122. Не гарыць, а тлее. *Сержп., 6.*

1123. Не грэе, не студзіць. *Fed., 116.*

1124. Працуе: ні за ім, ні перад ім. *Fed., 242.*

1125. Работа вады не варта, што ў хлеб льюць. *Нос., 143.*

а) Не варта той вады, што ў хлебе. *Fed., 328.*

1126. Харош каваль: каваў тапор, а з тапара шыла, а вышаў пшык. *Дуб., 69.*

1127. Зрабіў, рабіў, а звёў на пшыкі. *Дравд.*

1128. Стук-грук, абы з рук. *Ігнат.; «Ніва», 1964, № 33.*

1129. Не ў сук, то ў камень. *Fed., 293.*

1130. Поўна, роўна і кверху дном. *Крэмнеў.*

1131. Паправіў табак на махорку. *Ляцкий, 34.*

1132. Хоць укараціў, да ў двое скруціў. *Pietk., 342.*

1133. На сук папаў — тапор разляцеўся. *Ляцкий, 24.*

1134. Прышыў кабыле хвост, а ў кабылы свой ёсць. *Нос., 139; Ром., Бел., I, 307; Ляцкий, 36; Дуб., 45; Дразд.*

а) Прышый кабыле хвост, калі ў кабылы свой ёсць. *Pietk., 324.*

1135. Лапці сплесці нада ўмець. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

1136. Не лапці табе вязаць. *Ляцкий, 26.*

1137. Не кажнае лычка ў строчку. *Нос., 98.*

1138. Здаўся на затычку да пустога хлява. *Fed., 352.*

а) Ад парожняга хлява затычка. *Fed., 351.*

1139. Сем лет прала, сем лет ткала, тры дні шыла, а да абеду знасіла. *Сержп., 65.*

1140. Як робіш як, то й выйдзе так. *Ляцкий, 63.*

1141. Як справіўся гладка, што глядзець гадка. *Fed., 288.*

1142. У дрэва ўбіць цвік лёгка. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

1143. Латвей надрэзаць, ніж надтачыць. *Fed., 194.*

1144. Латвей усё папсаваць, ніж направіць. *Fed., 220.*

1145. Хутчэй папсуе, як направіць. *Fed., 220.*

1146. Абы з рук збыць. *У. Іваноў, 1958, Мінск 13.5.17.*

1147. Так-сяк накасяк, абы не па-людску. *Нос., 161; Дуб., 59; Янк., Дыял., III, 167, Глуск.; А. Рахунак, 1967, Зельв. 13.10.24.*

а) Сяк-так наўскасяк, абы не па-людску. *Янк., Дыял., III, 167, Кап.*

б) Сяк-так, абы не па-людску. *Ляцкий, 43; Fed., 168, 274.*

1148. Чым сяк-так, то лепш ніяк. *Янк., Дыял., III, 170.*

1149. Што зробіць, то ўсё паўтара людскага. *Fed., 360.*

1150. Рабоцька: з хваіны дугі гне, а з ясеня начоўкі выдоўбае. *Янк., Дыял., I, 219, Глуск.*

1151. Хто не ўмеець, той усягды мыляецца. *Нос., 177.*

## СМЕЛАСЦЬ. БАЯЗЛІВАСЦЬ. АСЦЯРОЖНАСЦЬ. ЦЯРПЕННЕ. УПАРТАСЦЬ

1152. Адвага (смеласць) гарады бярэць. *Нос., 120. Вар.: Т. Багдзевіч, 1965, Шчуч. 13.10.6; А. Махнач, 1952, Узда. 13.10.15.*

а) Адвагай гарады бяруць. *Дуб., 1.*

б) Храбрасць гарады бярэ. *М. Грынблат, 1969, Лаг.*

1153. Адважны нідзе не згіне. *Бяльк., 210, Мсцісл.*

1154. Смелага страх не возьме і вораг не паб'е. *П. Рында, 1967, Зельв. 13.10.23.*

1155. Адважны ніколі не каецца. *Fed., 5.*

1156. Адвага не знявага. *Нос., 120; Сержп., 186.*

1157. Адважны не баіцца няўдачы. *Нос., 120.*

1158. Хто смел, тэй і ўмел. *Добр., Смол., 111.*

1159. Хто смел, той і цэл. *Г. Румоўская, 1963, Пліс. 13.10.40.*

1160. Адвага альбо мёд п'ець, альбо кайданы трэць. *Нос., 120. Вар.: Сержп., 184.*

а) Адвага мёд-віно п'ець, кандалы трэць. *Добр., Смол., 112.*

б) Адвага ці мёд п'е, ці кандалы б'е. *1961, Брасл. 13.9.5.*

1161. Безадважны чалавек, калі мёду не п'ець, дак і кандалы не трэць. *Нос., Слов., 22.*

1162. Думка п'е воду, а адвага не хоча і мёду. *Сержп., 51.*

1163. Смеламу бог памагае. *Fed., 304.*

1164. Адвагаю і пекла пярэйдзеш. *Fed., 5.*

1165. Смеламу мора па калена. *Fed., 304.*

1166. Адважны часам уцэліць на сваё. *Fed., 5.*

1167. Смелы там знойдзе, дзе баязлівы згубіць. *А. Махнач, 1952, Узда. 13.10.15.*

1168. Або палкоўнік, або пакойнік. *Fed., 215, 212.*

1169. Што будзь, то і дзейся. *Добр., Смол., 112.*

1170. Ці пан, ці прапаў. *Л. Царанкоў, 1960, Мінск 13.9.2. Вар.: Сержп., 136.*

1171. Ці паскачаш, ці паплачаш. *Крэмнеў.*

1172. Хто не рызыкуе, той не траціць (не мае). *Fed., 268.*

1173. З красою на вайну не паедзеш. *Сцяшк., 591, Гродз.*

1174. Хоць адвалачэ, то не ўцячэ. *Fed., 5.*

1175. Адважны роднага бацьку ў лоб б'е. *Fed., 5.*

1176. Нашто ацец, калі сам маладзец. *Ром., Зап., III, 228.*

1177. На рахманага бог нанясе, а смелы сам набяжыць. *Шейн, II, 478, Слуцк. п.*

1178. Добраму малойцу і стракатая кабыла міла. *Нос., 35.*

1179. Часам малы вялікага зваюе. *Fed., 177.*

1180. Будзь смелым не языком, а дзелам. *М. Бекіш, 1965, Шчуч. 13.9.1.*

1181. Ад жару і камень трэснець. *Ром., Зап., III, 228.*

1182. Лішне адважны дакруціцца. *Fed., 5.*

1183. Абарона не забарона. *Сержп., 72.*

1184. Горшы страха няма. *Нос., 27.*

1185. Горш, калі баішся: і ліха не мінеш, і надрыжышся. *Шпил., 178; М. Бохан, 1964, Маст. 13.10.3. Вар.: Нос., 27; Дуб., 39; Fed., 20; Сах.*

а) Найгорш, як баішся, бо і наб'юць і надрыжышся. *Fed., 20.*

б) Найгорай, як баішся, бо даволі надрыжышся. *Fed., 20.*

1186. Ад баязні мала прыязні. *Нос., 121. Вар.: Сержп., 184.*

1187. Дзе няма баязні, там няма прыязні. *Dybow., 8; Fed., 20.*

1188. У страха вялікія вочы. *Czeczot, 115; Tyszk., 426; Ляцкий, 51; Сержп., 185; Булг., 178; Pietk., 347; А. Махнач, 1952, Узда. 13.10.15; А. Мацкала, 1965, Іў. 13.10.3; 1961, Кап. 13.9.5; В. Курбацкі, 1960, Карм. 13.3.29.*

а) У страха вочы па яблыку. *Дуб., 64; Нос., 168; Сах.*

1189. Са страху шапка расце. *Сержп., 185.*

а) Шапка на галаве расце. *Fed., 297.*

1190. Лепей быць зухлівым, чым баязлівым. *Дуб., 33.*

1191. На смелага сабака брэша, а баязліўца кусае. *Ахрым., 41. Вар.: В. Зубараў, 1956, Гом. 13.3.29.*

1192. Ідзе і свінні баіцца. *Мін.-Мал., 1970, 161, Узда.*

1193. Пужаная варона куста баіцца. *Ром., Зап., III, 229. Вар.: Fed., 327.*

а) Стрэляная варона і куста баіцца. *Дразд.*

б) Напужаная варона і вераб'я баіцца. *Нос., 87; Дуб., 36.*

1194. Ратаваны з вады конь і лужы баіцца. *Дуб., 53. Вар.: Нос., 144; Сержп., 184.*

1195. Біты сабака кія баіцца. *Сержп., 184.*

а) Толькі біты кія і баіцца. *Fed., 31.*

1196. Бітаму сабацы кія не паказывай. *Дуб., 7; Нос., 6; Fed., 268; Сержп., 186.*

1197. Настрашыў мех, дак і торба страшна. *Нос., 88; Дуб., 38.*

а) Пастрашыў мех, дык страшна і торба. *1967, Шкл. 8.1.107.*

б) Наму́ляў мех, дык і торба ва́жка. *Сержп., 184.*

1198. Баязліваму і страх здаецца. *Шейн, II, 473, Віл. п.: Сержп., 184; Дуб., 5; Ахрым., 21; А. Махнач, 1962, Уздз. 13.10.15.*

а) Баязліваму страх у вочы лезе. *Fed., 20.*

б) Баязлівага і страх трапляе. *Сержп., 184.*

1199. Баязліваму й капа стогам здаецца. *Мін.-Мал., 1970, 158, Старадар.*

1200. Баязліваму і корч мядзведзь. *Суяшк., 580, Гродз.*

а) Баязліваму і мыш мядзведзь. *Янк. М., 54.*

1201. Баязліваму і свой цень страшны. *Fed., 20.*

1202. Хто баіцца, таму ў вачах дваіцца. *Л. Малаш, 1969, Докш. 8.2.22. Вар.: А. Зубарай, 1956, Гом. 13.3.29.*

1203. Авечку стрыгуць, а баран дрыжыць. *Czeczot, 106; Шпил., 172; Киркор, 234; Fed., 106.*

а) Як авечкі стрыгуць, то баран трасецца. *Dybow., 184.*

б) Авечку стрыгуць, а баран дзівісь. *Нос., 117.*

1204. Як п'ян, што мне пан? А як прасплюся, і свінні баюся. *Нос., 196.*

а) Як п'ян — капітан, як праспіцца, то і свінні баіцца. *Tyszk., 424. Вар.: Dybow., 192; Ром., Бел., I, 316; Fed., 236; Pietk., 386; В. Ганчаронак, 1960, Відз. 13.9.26; 1961, Рэч. 13.9.5; I. Гайко, 1967, Клецк. 13.10.23; М. Грынблат, 1971, Глыб. 8.2.43.*

1205. Пятух нашто храбер, а і той ястраба баіцца. *Ляцкий, 36.*

1206. Хто громка крычыць, тэй пастаянна праў бываець; хто не можаць адгаварыцца, тэй свінні баіцца. *Добр., Смол., 119.*

1207. Ваўкоў баяцца — у лес не хадзіць. *Ахрым., 23. Вар.: А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15; В. Дашкоўская, 1965, Вайк. 13.10.2; М. Смурага, 1967, Свісл. 13.10.28.*

а) Баючыся воўка ў лес не ісці. *Czeczot, 106; Шпил., 175. Вар.: Tyszk., 434; Дуб., 7; Нос., 8; Fed., 339.*

б) Хто баіцца воўка, нех да лесу не ідзе. *Fed., 339.*

в) Баяўшыся трэску, і ў лес не трэба хадзіць. *Нос., 8.*

г) Баяцца дразгу, то і ў лес не хадзіць. *Ром., Зап., I, 215.*

1208. Не бось, калі я смел. *Дуб., 37.*

1209. Заяц бярэ нагамі. *Сержп., 20.*

1210. Заяц не трус, а сябе беражэ. *Ахрым., 32; А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

1211. Няма страху ўперадзі, калі ззадзі е. *Fed., 291.*

1212. Хто ўцякае, таго і труслівы даганяе. *Pietk., 348.*

1213. Падагнуў хвост да й пабег у хварост. *Fed., 207.*

1214. У кусты хаваецца, а сам ваўка страша. *Ляцкий, 49.*

1215. Смелы: гаў, гаў — ды пад лаўку. *Янук.*

1216. Хуць блахаўно, да не страхаўно. *Добр., Смол., 111.*

1217. Бойся не бойся, а без сроку смерці не будзець. *Ром., Зап., I, 215.*

1218. Уда́лы — мала думаець: сеў ды плачаць. *1961, Брасл. 13.9.5.*

1219. Добра таго страшыць, хто баіцца. *Fed., 290.*

1220. Хто страшыць, сам галавою наложыць. *Fed., 292.*

1221. Баіцца, а ліха робіць. *Fed., 19.*

1222. Воўк сабакі не баіцца, да звягі яго не любіць. *Tyszk., 429. Вар.: Гильт., 288, Дзісен. п.; Л. Царанкоў, 1960, Крыч. 13.9.2; 1961, Кап. 13.9.5.*

а) Воўк не баіцца сабакі, да звягі яго. *Нос., 15.*

б) Не так воўк баіцца сабакі, як яго звягу не любіць. *Сержп., 184.*

в) Не баіцца воўк сабакі, ды не любіць яе звякі. *Добр., Смол., 112.*

г) Воўк сабакі не баіцца, да толькі звягу ненавідзіць. *Fed., 341.*

д) Воўк сабакі не баіцца, толька галасу ненавідзіць. *Fed., 341.*

1223. Не каціся, а перва спрасіся. *Добр., Смол., 71.*

1224. Хто апарыўся малаком, той і на халодную воду дуе. *Pietk., 309.*

а) Апарыўшысь на малацэ, і на воду студзіш. *Нос., 117. Вар.: Дуб., 3.*

б) Хто на малацэ апарыўся, той на халодную ваду дмухае. *Шейн, II, 483, Віл. п.*

в) Апарыўшыся на малацэ, то й на воду падмухаеш. *Fed., 9.*

г) Апёкся на параным малацэ і на воду студзіць. *Гильт., 297, Вілен. п.*

д) Ажогшыся на малацэ, велена на воду дуць. *Кмита, 174.*

е) Апёкшыся на малацэ, і на халаднік студзіць будзеш. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

ж) Апарыўшыся на гарачым, то і на халоднае дмухаеш. *«Ніва», 1975, № 35.*

з) Цыган апарыўся на капусце ў гаршку, то й на агародзе дзьмухаў. *Сцяшк., 614, Воран.*

1225. Сцеражонага бог сцеражэ. *Tyszk., 417; Нос., 157; Дуб., 57; Fed., 302; Pietk., 358, 395; Крапіва, 238; М. Бандарэнка, 1966, Маз. 13.3.29.*

а) Беражонага бог беражэ. *Дуб., 5. Вар.: М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

б) Асцярожнага і бог сцеражэць. *Mien., 395.*

1226. Беражлівага каня і звер не з'есць. *Ром., Зап., I, 214.*

1227. Старожа лепей варожы. *Дуб., 57; Нос., Слов., 616.*

1228. Беражыся бед, пакуль іх нет. *Сах.*

1229. Беражыся каровы спераду, а каня ззаду. *Ахрым., 22.*

а) Сцеражыся казла спераду, а каня ззаду. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

б) Сцеражыся барушчай каровы спераду, каня ззаду, а ліхога чалавека з усіх бакоў. *І. Саламевіч, 1975, Слон.*

1230. Цярпён — спасён. *Czeczot, 107; Dybow., 191; Fed., 58.*

1231. Цярпі, Грышка, спасён будзеш. *Dybow., 7.*

1232. Хто цярплівы, той шчаслівы. *Fed., 58.*

1233. Цярпі, казак, атаманам будзеш. *Dybow., 7; Fed., 142; Pietk., 325.*

1234. Цярпі, казак, а то будзець мак. *Ром., Зап., III, 233.*

1235. Цярпі, кабыла, хаця няміла. *Карл.*

1236. На пахаценне ёсць пацярпенне. *Дуб., 42. Вар.: Нос., 90; Fed., 48.*

а) У хаценні жывець цярпенне. *Ром., Зап., III, 234.*

1237. Ціхая вада (далёка) берагі мые. *Fed., 324; М. Бандарэнка, 1966, Маз. 13.3.29.*

а) Ціха вада (далёка) берагі падмывае (рве). *Fed., 324; А. Сіплівая, 1967, Пруж. 13.10.24.*

б) Ціхая вада берагі разрывае. *Мальч., № 45.*

в) Ціхая вада берагі рве (размывае). *Pietk., 349; Янк. М., 89.*

г) Ціхая вада грэблі рве. *С. Заянчкоўская, 1956, Церах. 13.3.29.*

1238. Ціхая вада з берагоў выходзіць. *Янк. М., 121.*

1239. Процiў упору (на ўпор) няма лякарства. *Нос., 141.*

а) На ўпар лекаў няма. *Янк., 237.*

1240. Упартага нічым не ўгаворыш. *Ахрым., 55.*

1241. Яго сам чорт не пераспорыць. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

1242. Горды ды ўпарты — нічога не варты. *Сержп., 122.*

1243. Не ўпросіш яго ні просьбаю, ні грозьбаю. *Fed., 321.*

1244. Упартая каза воўку карысць. *Дуб., 64.*

1245. Нораў — не клетка, не пераставіш. *Ром., Зап., III, 225.*

1246. На тваёй, пане, шыі воля. *Нос., 89.*

1247. Хоць кол на галаве чашы. *Ryp., 213. Вар.: Ляцкий, 54; Сержп., 122.*

а) Хоць ты кол яму на галаве цяшы. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29. Вар.: Нос., 174; Dybow., 191; Fed., 99; Pietk., 319.*

б) Хоць яму кол на галаве чэш, ты не ўгаворыш. *Dybow., 162.*

в) Хоць яму кол на галаве чашы, то яму ўсё роўна. *Fed., 147.*

1248. Хоць ты яму што хош рабі, ён сваё праве. *Ляцкий, 54.*

1249. Хоць запалі, дык не трэсне. *Dybow., 191.*

1250. Хоць яго парэж на кавалкі, ён не хоча. *Fed., 47.*

1251. Хоць яму ў лоб стрэлі. *Fed., 171.*

а) Хоць ты ў лоб стралі́, дык ён ўсё сваё. *Бяльк., 423, Міласл.*

1252. Калі вока, а ён другое. *Горленка, 249, Добр.*

1253. Хоць яму лапатку адпары, то нічога не зробіш. *Fed., 169.*

1254. Цябе каменнымі славамі не ўгаворыш. *Fed., 318.*

1255. З ім гаварыць, то трэба ўперад жалезнага бобу наесца. *Pietk., 370.*

а) Гаварыць з ім, бочку бобу з'еўшы. *Fed., 107.*

1256. З ім гаварыць ці з вадою біцца, то ўсё роўна. *Fed., 109.*

1257. Хоць крычы, хоць не крычы, а быць Пахому такому. *Ром., Зап., III, 234.*

1258. Я сваё, ён сваё. *Fed., 295.*

1259. Ты яму кажы, а ён сваё нясець. *Ром., Бел., I, 311; Fed., 142.*

1260. Ты яму так, а ён табе гэтак. *Ляцкий, 46.*

1261. Ты яму тое, а ён другое. *Fed., 235.*

1262. Яму гавары, а ён (брык) дагары. *Абаб. Вар.: М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

а) Што яму не гавары, то ён усё дагары. *Д. Ваўчок, 1966, Лід. 13.10.26.*

1263. Ты яму — абразы́, а ён — гарбузы́. *Абаб. Вар.: А. Фядосік, 1962, Капатк. 8.1.73.*

1264. Гавары яму — стрыжана, а ён табе — голена. *1961, Кап. 13.9.5.*

а) Ты яму кажы, што стрыжаны, а ён кажа, што смалены. *В. Шаўчэнка, 1961, Ельск. 13.3.29.*

1265. Яму гавары — што гарох аб сцяну. *М. Грынблат, 1967, Мсцісл. 8.1.106.*

а) Яму гаварыць ці гарох на сцяну кідаць. *Fed., 108.*

б) Ці яму гавары, ці гарох на сцяну кідай, то ўсё роўна. *Fed., 107.*

1266. Што ні гавары яму, ён усё ў вугал лезе. *Вас., 23.*

1267. Хоць кроўю памаж, і то скажаць — гразь. *Добр., Смол., 15.*

1268. Каса на камень трапіла (нашла). *Ром., Бел., I, 299; Ляцкий, 17.*

а) Папала (трапіла, найшла) каса на камень. *Нос., 133; Дуб., 60; Ляцкий, 45. Вар.: Ром., Бел., I, 311; Ром., Зап., III, 224; Fed., 219; Pietk., 333; Юрч., 1974, 116.*

б) Наскочыла каса на камень. *Fed., 198; Мяц., 126, Стаўб. Вар.: А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

1269. Трапіў лысы на пляшывага. *Ляцкий, 45.*

а) Трапіў чорт на паганага. *Dybow, 180.*

1270. На чым стану — не адстану. *Нос., 90.*

1271. З дугі аглоблі не зробіш. *Янк., Дыял., I, 210, Глуск.*

1272. Хоць морда ў крыві, а на сваём пастаўлю. *Fed., 223.*

1273. Хоць штаны (нагавіцы) застаўлю, а на сваё пастаўлю. *Шейн, II, 483, Ігум. п.*

а) Хоць штаны заставіць, абы б на сваём паставіць. *Нос., 175.*

1274. Разарвацца, да не паддацца. *Л. Царанкоў, 1960, Рэч. 13.9.2.*

а) Хоць умарацца, абы б не паддацца. *Нос., 175.*

1275. Ні бога не баіцца, ні людзей не слухаецца. *Fed., 38.*

1276. Калі Піліп уесца, то Пятро не выгане. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

1277. Гарбатага да сцяны не прыставіш. *Ром., Мат., 83; Pietk., 320.*

1278. Справіць гарбатага магіла. *Ром., Зап., III, 231.*

а) Гарбатага хіба магіла выпрастае (выпраміць). *Fed., 104; Сержп., 81.*

б) Гарбатага адна магіла спраміць. *Нос., 27. Вар.: Ахрым., 25; М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29; М. Грынблат, 1967, Мінск.*

1279. Гарбатага і магіла не справіць. *С. Заянчкоўская, 1956, Церах. 13.3.29.*

1280. Як у голаў зайдзе, то й за печкаю знайдзе. *Сержп., 64. Вар.: Fed., 100; Шырма, 205.*

1281. Лысае жарабя ўрадзілася, лысае і здохнець. *Tyszk., 427; Шпил., 183; Dybow., 183.*

а) Як урадзіўся з лысінкай, то й памрэ з лысінкай, не пераробіцца. *Мяц., 276, Стаўб. Вар.: Янк. М., 89; Л. Стаўровіч, 1957, Рэч. 13.3.29.*

б) Нарадзілася кабыла з лысінкай, дык і здохне, не сцёршы. *Вучні, 1962, Шарк. 8.2.43а.*

в) Які нарадзіўся, такі і ёсць. *Fed., 321.*

г) Урадзіўся гэтакі, гэтакі і памрэ. *Ляцкий, 50; Сержп., 137.*

д) Такога яго маці ўрадзіла, такім ён і згіне. *Fed., 321.*

е) Лабатае ўродзіцца, лабатае і здохнець. *Нос., 74. Вар.: Сах.*

ж) От так: зародзішся такей, і памрэш такей. *М. Грынблат, 1964, Віц. 8.1.87.*

з) Які чорт урадзіўся, такі чорт і здохне. *Fed., 68.*

і) Які чорт да лазні, такі і пасля лазні. *Суяшк., 618, Ашм.*

1282. Калі ў свінні ёсць рогі, то нікому не ўступіць з дарогі. *Dybow., 182.*

## РУПЛІВАСЦЬ, СПРЫТ. АБЫЯКАВАСЦЬ. РАЗЯВАЦТВА

1283. Каму руціць, той не спіць. *А. Ліс, 1965, Смарг.*

1284. Той памятае, каму руціць. *Сержп., 129.*

1285. Хто сам не руціцца, таго шкура луціцца. *Ляцкий, 55; З. Пякарская, 1965, Слон. 13.10.2.*

1286. Хто хоча, той можа. *Fed., 47.*

1287. Абы хацець, то можна найці. *Fed., 196.*

1288. Пакой п'е воду, а непакой — мёд. *Янк. М., 107.*

1289. Рацівому каню пугі не паказывай. *Нос., 144.*

1290. Рацівы конь доўга не служыць. *Л. Царанкоў, 1960, Крыч. 13.9.2.*

1291. Хоць бяздворан, да ўсюдых праворан. *Нос., 173; Дуб., 70.*

1292. Праворны ўсюдых паспеець. *Нос., 139.*

1293. Наш стрэл усюды паспеў. *Fed., 292.*

1294. Жвавы нідзе не сапсуець. *Нос., Слов., 153.*

1295. Хто першы, той лепшы. *Dybow., 192; «Ніва», 1970, № 50.*

1296. Малады верабей, ды спрытны. *Л. Царанкоў, 1960, Мінск 13.9.2.*

1297. Я да волікаў пастух і да конікаў канюх. *Дуб., Нар., 1.*

1298. У яго няма пачакай. *Fed., 208; М. Грынблат, 1930, Мінск.*

1299. Мы ў вароты мык, а яна дзіркаю шмык. *Нос., 81. Вар.: Сержп., 35.*

а) Ён тут мык, а мы пад варота шмык. *Дуб., 19.*

б) Мы ад варот, а ён чэраз плот. *Нос., 81, 165. Вар.: Сержп., 35.*

1300. Вады напіліся, ды не абліліся. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

1301. З тваёй ухваткай пражывеш і з маткай. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

1302. На ціхага бог нашлець, жвавы сам нам набяжыць. *Tyszk., 422.*

а) Скоры сам набяжыць, а на ціхага бог нанясе. *Pietk., 311, 314. Вар.: Fed., 35.*

б) На ціхага бог нанясець, рэзвы сам набяжыць. *Mien., 396.*

в) На смірнага бог нанясе, а рэзвы сам нацячэ. *Ром., Зап., III, 226.*

г) На ціхага вецер навее, а рэзвы і сам набяжыць. *Сах.*

1303. Бягушчы сам набяжыць, а на павольнага бяда набяжыць. *Fed., 30.*

1304. Ціхі наедзе — бойкі наскочыць. *Янк. М., 121.*

1305. Хто бяжыць (спяшыць), той і спатыкаецца. *Янк., Дыял., III, 169, Глуск.; 1961, Брасл. 13.9.5.*

1306. Нічым яго галава не баліць. *Fed., 101.*

1307. Не балела брушка, не баліць і душка. *Сем.*

1308. Наш Антон не тужыць па том. *Fed., 9.*

1309. Хто сам за сябе не дбае, той трасцу мае. *Pietk., 396.*

1310. Мне гэта не свярбіць, не баліць. *Fed., 306.*

1311. Нярай — нядобры чалавек. *Дуб., 37; Сержп., 68.*

а) Няхай да бадай — кепскі чалавек. *Fed., 200.*

б) Няхай або пачакай — божа, не дай. *Fed., 200.*

1312. У няхая торба ліхая. *Янк. М., 104.*

1313. Авось нябосю — брат. *Нос., 1.*

1314. Ні гневу, ні ласкі. *Fed., 110.*

1315. З яго можна вяроўку віць. *Сержп., 128.*

1316. Ці ты яму дай торбу з пірагамі, ці чорта з рагамі — яму ўсё роўна. *Сержп., 125.*

1317. І хоча і не хоча, і сам не ведае, што рабіць. *Fed., 47.*

1318. Пракукарэкаў — і хоць не развідняй. *Горленка, 250, Гом.*

1319. Правіца не ведае, што робіць лявіца. *Л. Царанкоў, 1960, Мінск 13.9.2.*

1320. Ішла разявака і дастала аглоблямі ў рот. *Fed., 260.*

1321. Шыя слабана́ і капуста салана. *Горленка, 251, Браг.*

1322. Ён адным вухам слухае. *Fed., 341.*

1323. Адным вухам слухае, а другім выпускае. *Fed., 411. Вар.: Pietk., 348.*

а) У адно вуха прышло, а ў другое вышла. *Ляцкий, 47. Вар.: Сержп., 129; М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

б) Адным вухам увайшло, а другім выйшла. *Fed., 341.*

1324. Яму гавары, а ён у вір дзівіцца. *Ром., Бел., I, 295.*

1325. За вачыма свету не бачыць. *Шейн, II, 476, Барыс. п.*

1326. Калі куцы агледзеўся, як хвост угарэўся. *Гильт., 289, Брэсц. п.*

1327. Ішоў праз лес, а дрэў не бачыў. *Л. Корсак, Асіп. 13.9.11.*

1328. Люльку шукае, а люлька ў зубах. *Мат., 35.*

1329. Ад зямлі адарваўся і да неба не дастаўся. *Tyszk., 424; Шпил., 173. Вар.: Нос., 122; Ляцкий, 14; Fed., 3; Pietk. 308; Сах.*

а) Ад зямлі адстаў, ды й к небу не прыстаў. *Ром., Бел., I, 305.*

б) Ад пекла адарваўся, да неба не дастаў. *Fed., 231.*

в) Ад неба адарваўся, зямлі не дастаў. *Гильт., 292, Віл. п.; Ром., Бел., I, 298; Сах.*

1330. Добра яго па смерць пасылаць. *Dybow., 8. Вар.; Сержп., 47.*

а) Цябе па смерць толька пасылаць. *Tyszk., 426. Вар.: Dybow., 191; Pietk., 334.*

б) Такога пасланца хораша (добра) толькі па смерць пасылаць. *Нос., 161. Вар.: Fed., 223; Сержп., 45.*

в) Яго добра па смерць пасылаць, хаця чалавек нажыўся б. *Fed., 222.*

1331. Маруду пашлі, за ім другога шлі. *Ляцкий, 20.*

1332. Пашлі пасла, а за ім асла. *Fed., 222.*

1333. Ні пасла, ні асла. *Fed., 222.*

1334. Будзь жа паслом, а не аслом. *Fed., 222.*

1335. Пашоў пасол па расол — ні пасола, ні расола. *С. Маісеенка, 1965, Жлоб. 13.3.25. Вар.: С. Вяроўкін, 1960, Церах. 13.3.29.*

1336. Пашоў пасол, да і ўпаў у расол. *Нос, 136; Дуб., 52.*

1337. Пайшоў Апанас па квас, дык ні Апанаса, ні кваса. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

1338. Пашоў па квас і сам згас. *Fed., 211.*

1339. Пашлі Ціта па сіта — няма сіта, няма Ціта. *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

1340. Паслалі сабаку па табаку — і ані табакі, ані сабакі. *Fed., 222.*

1341. Як пайшла па масла, то ў печы пагасла. *Суяшк., 617, Шчуч.*

1342. Пашлі Фамой, да сама хадой. *Ром., Зап., III, 230.*

1343. На каню сядзіць і каня пытаець. *Нос., 85; Ляцкий, 23. Вар.: Добр., Смол., 14.*

а) На каню едзе (сядзіць) і каня шукае. *Fed., 301; Pietk., 326. 345.*

1344. Не па каню, дык па аглоблі. *Нос., 102. Вар.: Н. Парукаў, 1958, Добр. 13.3.29.*

а) Не па кабыле, то па галоблях. *Fed., 132.*

б) Біў па кані, а папала па аглаблі. *Л. Царанкоў, 1960, Мінск 13.9.2.*

в) Не дастаў па каню, дык хоць па аглоблях. *Ігнат.*

1345. Я ні па каню, ні па аглоблях. *Fed., 148.*

1346. Лучаў (мецiў) у варону, а папаў у карову. *Дуб., 32, 35. Вар.: Fed., 47.*

1347. Страляў у сокала, а падстрэлiў варону. *Ляцкий, 43. Вар.: Сцяшк., 609.*

1348. Даў бог душу — нi ў пень, нi ў грушу. *Д. Ваўчок, 1966, Воран. 13.10.26.*

а) Мiмаходам душа ўложана. *Добр., Смол., 48.*

1349. Быў капялюшам, а шляпай застанецца. *Сах.*

## ЧЭСНАСЦЬ. ПРАЎДЗІВАСЦЬ. ХЛУСЛІВАСЦЬ

1350. Хоць бедны, да чэсны. *Сержп., 88.*

1351. Абы сумленне чыста. *Fed., 293.*

1352. Нікому вады не замуціў. *Л. Царанкоў, 1960, Хоц. 13.9.2.*

1353. За няпраўду роднага бацьку пасаджу, а за справядлівасць чужога асвабаджу. *І. Лушчыцкая, 1960, Нясв. 8.1.52.*

1354. Бог шчырага любіць, ды шчасця яму не дае. *Fed., 34.*

1355. Няма ў нікога праўды, толька ў мяне да ў маёй жонкі. *Fed., 246.*

а) Праўды ў бога да ў мяне нямнога, да ў маёй жонкі, да ў маіх дзетак, да ў Пятра, да ў Паўла. *Добр., Смол., 88.*

1356. Што бачыў, тое кажу. *Fed., 15.*

1357. От мае мыслі да і на праўду вышлі. *Fed., 193.*

1358. Звоняць — свята, гаворацъ — праўда. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

1359. Праўду пахаваеш і сам з ямы не вылезеш. *Сах.*

1360. Няма чаго гневацца, калі праўда. *Ляцкий, 26.*

1361. Скажы ў вочы — губы надзьме. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

1362. Не заўсёды слёзы праўду кажуць. *Fed., 303.*

1363. Часам трэба і праўды не казаць. *Fed., 245.*

1364. Слова давай, дык яго і трымай. *С. Клачко, 1966, Б.-Каш. 13.3.29.*

1365. Не даўшы слова — крапіся, а даўшы — дзяржыся. *Ахрым., 43.*

а) Даўшы слова — крапіся, не даўшы — дзяржыся. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

1366. Будзь свайму слову гаспадзін. *Ром., Зап., I, 215.*

1367. Што сказаў, то й святое. *Fed., 280.*

1368. Не лжэш, калі праўду кажаш. *Нос., 93.*

1369. Што маніў, тое не казаў, што праўда. *Ляцкий, 60.*

1370. Што ступіць, то салжэць (залжэ). *Нос., 189; Fed., 348.*

а) Ён не ступіць, каб не залгаў. *Fed., 348.*

1371. Не брахне́, дык не дыхне́. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

1372. Каму няйме́цца, таму ўсягды лжэцца. *Нос., 67. Вар.: Дуб., 32.*

1373. У яго залгаць, як гарэх раскусіць. *Fed., 348.*

1374. Складна хлусіць, бы прышоў з палявання. *Сержп., 128.*

1375. Ілжэ, як бліны пячэ: толькі шыпіць. *«Патрыёт» (Ушачы), 19 кастрычніка 1968 г.*

1376. Не быў на той даліне, дзе праўду дзялілі. *М. Бандарэнка, 1966, Маз. 13.3.29.*

1377. Дарам падманьвае. *Сержп., 129.*

1378. Брахнёю свет пройдзеш. *Fed., 42.*

1379. Брахнёю (абманствам, лгарствам, няпраўдай) свет пройдзеш, назад не вернешся. *Радч., 246; Pietk., 312. Вар.: Fed., 2, 171; Л. Царанкоў, 1960, Крыч. 13.9.2.*

а) Праўдаю ўвесь свет абыйдзеш і назад вернешся, а няпраўдаю зайці зайдзеш, то назад не вернешся. *Гильт., 290, Пруж. п.*

1380. Лгарствам недалёка зайдзеш. *Fed., 171.*

а) На абмане далёка не ўедзеш. *1961, Брасл. 13.9.5.*

1381. Лгарствам шмат не скарыстаеш. *Fed., 171.*

1382. Хлуснёй багаты не будзеш. *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

1383. Абманіў — то сабе горш зрабіў. *Янк., Дыял., III, 153, Глуск.*

1384. У яго на ве́рбе грушкі растуць. *Шейн, II, 482, Гор. п.*

1385. Гэта так, як на вярбе грушкі. *Mien., 396.*

1386. Не люба, не слухай, а лгаць (хлусіць) не мяшай. *Нос., 100; Л. Царанкоў, 1950, Хоц. 13.9.2.*

1387. Калі лгаць, то ўжо гладка. *Fed., 171.*

1388. Калі вада наўпроць пойдзе, тады гэта праўда будзе. *Ляцкий, 16.*

1389. Годзе ўжо лгаці, калі прышла рыба да гаці. *Fed., 171.*

а) Калі прышла рыба да гаці, то трэба праўду казаці. *Fed., 246.*

1390. Сідарава праўда: кісялём бліны мазаны. *Ром., Зап., III, 232.*

а) Праўда Сідарава: кісялём бліны намазаны, на паркане сушацца. *Нос., 136.*

б) Праўда Сідарава: кісялём бліны мазалі ды й на коліках вешалі. *Дуб., Нар., 2.*

1391. Брахня брахнёй і астанецца. *Ром., Бел., I, 291.*

1392. Ласкавыя словы — мала праўды. *Сах.*

1393. Толькі ў цябе праўды, колькі ў рэшаці вады. *Dybow., 189.*

1394. Такая праўда, як вош кашляе. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

1395. І лгаць нада ўмеючы. *Добр., Смол., 88.*

1396. Не замаўляй зубоў, бо нікому не баляць. *Fed., 360.*

1397. Як брэша, дык вочы жмурыць. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

1398. У вочы брэша, да й не сароміцца. *Ляцкий, 47.*

1399. Потуль хлусілі, покуль кусілі. *Шейн, II, 480, Пруж. п.*

1400. Хоць уеў, упіў, але й наманіў. *Ляцкий, 54.*

1401. Сам не мае і другому абяцае. *Fed., 184.*

1402. Хто брэша і матае, той душу пітае. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

а) Хто маніць ды матае, таго бог пітае. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

1403. Так і жылі раней: хто хлусіць, той вып'е і закусіць, а хто праўду скажа, той так спаць ляжа. *Янк., 35. Вар.: Янк. М., 142.*

1404. Лгаў, лгаў ды й пралгаўся. *Fed., 171.*

1405. Брэшучы, дабрэшашся. *Суяшк., 582, Маст.*

а) Брашы, брашы — да паследняга дабрэшашся. *Радч., 246.*

1406. Брашы, брашы — набрэшашся, прыдзе ліха — павесішся. *Ляцкий, 5.*

1407. Лгарства (хлусня) як аліва — выйдзе наверх. *Fed., 171; Янк. М., 45.*

1408. Сабачы глос не йдзець да нябёс. *Нос., 153.*

а) Псі глос не ідзе да нябёс. *Fed., 233.*

а) Сабачыя галаса́ не ідуць пад небяса. *Fed., 270.*

1409. Калі б не салгаў, то праўда была. *Дуб., 27.*

а) Каб не лгаў, то была б праўда. *Fed., 171.*

б) Каб не маніў, усё б праўда была. *Ляцкий, 15.*

1410. Калі не брэша, дык праўду гавора. *Ром., Бел., I, 299.*

1411. Хто лжэць, тэй і крадзець. *Нос., Слов., 46; Дуб., 70; Fed., 171.*

а) Хто хлусіць, той і крадзе. *Сержп., 87.*

б) Хто ўмее лгаць, той умее красць. *Fed., 171.*

в) Хто ма́не, той кра́дзе, той і вісець будзе. *Ляцкий, 55.*

г) Замета мая такая: хто лжэць, той і крадзець. *Дуб., 22.*

1412. Хто лжэ, той вісіць. *Fed., 171.*

1413. Не ўкраўшы, не лгаўшы, жыць трудна. *Fed., 318. Вар.: Pietk., 375.*

1414. Не прыкраўшы, не прылгаўшы, не будзеш багат. *Dybow., 15. Вар.: Fed., 19, 152; Pietk., 356.*

1415. Багатаму красць, стараму лгаць. *Tyszk., 429; Dybow., 5.*

1416. Больш не ашукаеш, як толькі адзін раз. *Fed., 11.*

1417. Раз салгаў — у другі раз не паверацъ. *Дуб., 53.*

а) Адзін раз зманіш — другі не паверацъ. *Махнач.*

б) Хто раз салжэ, таму тройчы не паверацъ. *Н. Парукаў, 1958, Добр. 13.3.29.*

1418. Хто раз салжэ, таму ніколі веры няма. *Fed., 348.*

а) Хто раз схлусіў, таму не верацъ. *1961, Кап. 13.9.5.*

1419. Хто ўчора зманіў, таму і сёння не паверацъ. *Сцяшк., 614, Іў. Вар.: Ахрым., 59.*

1420. Раз абмане, у другі абмане, а там і не паверацъ. *Сержп., 15.*

1421. Хто зняверыўся, таму не даюць веры. *Tyszk., 401.*

1422. З брахні не мруць, да ўжо болей веры не ймуць. *Шпил., 181.*

а) Ад хлусні не мруць, толькі другі раз веры не даюць. *Pietk., 361.*

б) Са лжы людзі не мруць, а ўпярод веры не ймуць. *Ром., Зап., III, 231.*

1423. Два разы не мруць, два разы веры не імуць. *І. Суконкін, 1960, Церах. 13.3.29.*

1424. Лгару і праўды не паверацъ. *Fed., 171.*

1425. Сабацы хутчэй паверу, як яму. *Fed., 225.*

1426. Лгаць, дак людзей абягаць. *Ром., Зап., III, 223.*

1427. Перш павер, а потым вер. *«Бел.», 1956.*

1428. Не вер, то не ашукаюць. *Dybow., 14.*

а) Нікому не вер, то ніхто не падмане. *Сержп., 47.*

1429. Хто сам лжэ, той нікому не верыць. *Fed., 171. Вар.: Сержп., 47.*

1430. Цяжка жыць у паняверцы. *Сержп., 38.*

1431. Хто не дае веры, няхай не прыжджэ нядзелі. *Fed., 332.*

1432. Жывым богам бажуся і то веры няма (не даюць). *Fed., 124.*

1433. Не ймуць веры — не бажыся. *Дуб., 37.*

1434. Не веруць — не бажыся, а веруць — сцеражыся. *Нос., 95.*

1435. Не ймуць веры — не бажыся, а б'юць — не маліся. *Нос., 98.*

1436. Хто часта божыцца, той мала праўды кажа. *Fed., 24.*

1437. Хто многа хлусіць, той многа божыцца. *М. Бабарыкіна. 1966, Чач. 13.3.29.*

1438. Наманіў, што й у каробку не збярэш. *Янк., Дыял., I, 215, Глуск.*

## ХІТРАСЦЬ. КРЫВАДУШНАСЦЬ. ПАДЛІЗЛІВАСЦЬ

1439. Чалавек не арэх — не раскусіш. *Янк. М., 41.*

1440. Хітрасцю доўга не нажывеш. *Fed., 51.*

1441. Хітросці поўны[я] косці. *Нос., Слов., 678; Дуб., 68.*

а) Крыватосці поўны косці. *Добр., Смол., 128.*

1442. Хітрасцю ўвесь свет перайдзеш, а назад не вернешся. *Шейн, II, 482, Барыс. п. Вар.: Fed., 51; Добр., Смол., 128.*

1443. Хто папросту робіць, таму анёл пасобіць, а хто возьмецца хітрыць, к таму чорт наляціць. *Ляцкий, 55.*

1444. Хто лісліві, той кусліві. *Сцяшк., 614, Шчуч.*

1445. Хіцёр Зміцёр. *Dybow., 192.*

а) Хітрук Змітрук. *Fed., 374.*

1446. Хіцёр Міцёр і Саўка (Кузьма) не дурак. *Гильт., 293, Віл. п.; Ляцкий, 53. Вар.: Дуб., 68; Pietk., 314; Ахрым., 57; А. Акунькова, 1971, Паст. 8.2.47.*

а) Дзміцер хіцер, да і Саўка не дурак. *Шейн, II, 475, Ігум. п.*

б) Зміцер то хіцер, ды і Сава не дурань. *Зах., 252.*

1447. Не ва ўвесь рот гаворыць, а ў палавінку. *Добр., Смол., 49.*

1448. З-пад пят прайдзець. *Добр., Смол., 49.*

1449. Людзі хітрэй за чорта. *Добр., Слов., 988.*

1450. Адна ліса семярых ваўкоў ашукае. *М. Бабарыкіна, 1966, Чач. 13.3.29.*

1451. Хочаш быць хітрэйшы ад цялёнка. *Дуб., Нар., 2.*

1452. Аўдзей, не будзь ты хітрэй за людзей: хітрэй, знаць, цялёнка не будзеш. *Добр., Смол., 128.*

1453. Сваю хітрасць раскрый — чужая перад табой раскрыецца. *Л. Стаўровіч, 1957, Рэч. 13.3.29.*

1454. Хітрага не вучыць, а голага не брыць. *Г. Прытычанка, 1960, Карм. 13.3.29.*

1455. Як ты не хітры, языка хвастом не дастанеш: не карова. *Добр., Смол., 128.*

1456. Не круці вельма: перакруціш. *Янк., Дыял., I, 216, Глуск.*

1457. Дурное дзела не хітрае. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

1458. Хітра-мудра, невялікім (невялічкім, недарагім) коштам. *Czeczot, 107; Нос., 171; Mien., 397; Dybow., 190; Kolb., 472, Пін. п.; Fed., 51; Дуб., 68.*

а) Хітра-мудра і ндорага. *Pietk., 360.*

1459. У муту рыбу ловяць. *Нос., Слов., 295.*

1460. У каламутнай вадзе добра рыбу лавіць. *Fed., 325. Вар.: Pietk., 349.*

1461. Мне смятанка, а табе кіслячок. *Янк. М., 100.*

1462. Кось-кось, ды й у аглоблі. *В. Бондар, 1967, Мінск 13.10.24; А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

а) Кось-кось! Пакуль не ўхапіў за грыву. *Л. Царанкоў, 1960, Рэч. 13.9.2.*

б) Косю, косю, да аброку; а як пойме, то й кіем па боку. *Гильт., 289, Брэсц. п.*

в) Кося-кося, дам аброку, а там дугою па боку. *Сержп., 15.*

г) Кося, кося! Штоб толькі паймаць давялося. *Нос., 68. Вар.: Сержп., 15.*

1463. На хітрасць дай бог мудрасць. *Добр., Смол., 128.*

1464. Перахітрыў, а не ўмудрыў. *Ляцкий, 35.*

1465. Злітаваўся рак над жабаю ды й очы выдраў. *Fed., 257.*

а) Любіў (палюбіўй) рак жабу, аж вочы выеў. *Шырма, 205; Сцяшк., 597, Гродз.; М. Грынблат, 1974, Валож. 8.74.82.*

1466. Пажалеў воўк кабылу: аставіў хвост да грыву. *1961, Брасл. 13.9.5.*

а) Пашкадаваў воўк казла: аставіў ногі да хваста. *В. Шаўчэнка, 1961, Ельск. 13.3.29.*

1467. Хоць малы, але вялікаму лапці падпляце. *Мат., 176.*

1468. Не з чорта, а якое шустрае. *Fed., 68.*

1469. Яго і ў ступе таўкачом не пападзеш. *Нос., 40. Вар.: Добр., Смол., 49; Д. Шыцік, 1961, Дубр. 13.9.6; Горленка, 250, Лоеў; Бяльк., 450, Мсцісл.*

а) Такі вёрткі, што ў ступе таўкачом не пападзеш. *Pietk., 399.*

1470. Яго і ў рэшаце не зловіш. *Fed., 356, 362.*

1471. Яго з сабакамі не знойдзеш. *Сержп., 12.*

1472. У хітрага чалавека барада не расцець. *Добр., Смол., 62.*

1473. Вераломца не варт шалёнага сабакі. *Fed., 329.*

1474. Чалавечына! Адна душа ў чобаце, другая ў жываце, а трэцья па свету ходзіць да людзей зводзіць. *Крэмнеў.*

1475. Ходзіць ціхенька, да думае ліхенька. *Нос., 172; Fed., 48.*

а) Ён сядзіць ціха, а думае ліха. *Fed., 274.*

б) Хомка сядзіць ціханька, ды думае ліханька. *Дуб., 69, 4.*

1476. Хоць ціха ходзіць, да густа месіць. *Mien., 397. Вар.: Нос., 180; Добр., Смол., 49.*

а) Хто ціха ходзіць, той густа месіць. *Киркор, 237; Dybow., 191.*

1477. Ластачкамі (лестачкамі) душу вымаець. *Tyszk., 429; Шпил., 183; Dybow., 183; Дуб., 33.*

а) Лёстачкамі дух займае, а чорта думае. *Pietk., 328.*

1478. Густа сее, ды рэдка ўсходзе. *С. Маісеенка, 1965, Жлоб. 13.3.25.*

1479. Дзе этыкеты многа, там шчырасці мала. *Fed., 96.*

1480. Есць і п'е, а ліха мысліць. *Dybow., 9; Fed., 193.*

а) Есць і п'е, а добра не думае. *Fed., 130.*

1481. Добры чалавек: што ўкусіць, то з'есць. *Шпил., 179. Вар.: Нос., 35; Fed., 79.*

1482. Адно на ўме, а другое на языцэ. *Нос., 119.*

а) Што іншае на ўме, што іншае на языку. *Fed., 319.*

1483. Што інакшага гаворыць, а што інакшага робіць. *Fed., 109.*

1484. Рассыпаецца драбней маку. *Сержп., 125.*

1485. У ногі цалуе, а за сэрца кусае. *Fed., 196.*

1486. Як табе добра, то й у ногі лізне, а як табе невыходна, то ў яму капсане. *Янк., Дыял., I, 226, Глуск.*

1487. Анёлам ляцеў, а чортам сеў. *А. Жадзейка, 1965, Шчуч. 13.10.6.*

1488. Знішчыўся, як чорт пад крыжам, а ліха думае. *Fed., 374.*

1489. У змяі луско прыгожае, а джала ядавітае. *М. Малочка, 1959, Чаш. 8.1.46.*

1490. На губах — мёд (медзь), а не сэрцы — лёд (ледзь). *Дуб., 39; Нос., 84.*

а) На губах мядок, а на сэрцы лядок. *Г. Румоўская, 1963, Пліс. 13.10.40.*

б) На языку мёд, пад языком лёд. *Міеп., 396.*

в) На язычку мядок (мёдзік), а на сэрцы лядок (лёдзік). *Ром., Зап., III, 225. Вар.: Добр., Смол., 49; Л. Лазовік, 1965, Скід. 13.10.4; С. Клачко, 1966, Б.-Каш. 13.3.29; 1961, Брасл. 13.9.5.*

1491. Вуснамі мёд разлівае, а за пазухай камень трымае. *«Зорка».*

1492. Яго салодка слухаць, ды цяжка насіць. *Сержп., 57.*

1493. У яго з адной губы і гарачо і сцюдзяно́. *Tyszk., 426. Вар.: Нос., 158; Dybow., 190; Шейн, II, 482.*

а) З адной губы і халадно і гарачо вее. *Fed., 120.*

б) З аднаго рота і холадна і цёпла. *Сержп., 122.*

1494. Гаворыць, а ў роце холадна. *Дуб., Нар., 1.*

1495. Што зубы белыя — вядома, а што за зубамі — невядома. *Янк. М., 143.*

1496. Адно гаворыць, а дзесяць дум у галаве. *Добр., Смол., 49.*

1497. Чорную душу і залаты язык не схавае. *Вучні, 1962, Шарк. 8.2.43.*

1498. Хоць горка, да пáтака. *Fed., 224.*

1499. Топіцца ясна, да не варыцца сласна. *Нос., 164.*

1500. Перад богам кленчыць, а людзей енчыць (мэнчыць). *Нос., Слов., 238; Дуб., 48; Fed., 181.*

1501. Мякка сцеліць, ды мулка (чэрства) спаць. *Бяльк., 267, Мсцісл.; Дуб., 36; Ром., Зап., III, 223. Вар.: Dybow., 13; Сержп., 125; Fed., 282; А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

а) Хоць мякка сцеле, але цвёрда спаць. *А. Бізук, 1965, Шчуч. 13.10.1. Вар.: Л. Лазовік, 1965, Скід. 13.10.4. Вар.: Мін.-Мал., 1970, 162, Узда.*

1502. Хітры чалавек гаворыць, як лістам сцеле, а ў кішэні гарачы камень трымае. *Fed., 52.*

1503. У галоўцы можа й што, але языком быццам лістам сцеле. *Ляцкий, 47.*

1504. У вочы — лістам сцелецца, а за вочы — сабакам брэшаць. *1961, Брасл. 13.9.5.*

1505. Лістом сцелецца, а ўкусіць так і цэліцца. *Цар., 244, Мінск.*

1506. У вочы так, а за вочы зусім іначай. *Fed., 336.*

1507. У вочы лісам, а за вочы воўкам. *Fed., 166.*

а) У вочы ліском, а за вочы ваўком (пяском). *К. Кабашнікаў, 1963, Дзятл. 8.1.84. Вар.: А. Бізук, 1965, Шчуч. 13.10.1.*

б) У вочы лісам, а за вочы бісам. *Булг., 176.*

1508. З воч іскры сыплюцца, а з языка мёд цячэ. *Сцяшк., 590, Зэльв.*

1509. У вочы-то — саколю, а за вочы-то — соллю. *Fed., 271.*

1510. У вочы з мілым тварам, а за вочы крутым варам. *Янк. М., 145.*

а) У вочы катком, а за вочы варкóм. *Янк. М., 145; 1961, Брасл. 13.9.5.*

1511. Хто глядзіць вокам, той не пойдзе бокам. *В. Лашчэўская, 1967, Дзятл. 13.10.28.*

1512. Ніяк не глядзіць — ні вока, ні бока. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

1513. На што глянець, так і звянець. *Добр., Смол., 49.*

1514. Умеючы просіць: плакаць будзеш, аддасі. *Добр., Смол., 49.*

1515. З твару — яйка, а ўнутры — баўтун. *Сцяшк., 591, Ашм.*

1516. Да сэрца ліпне, а ў кішэнь паглядае. *Fed., 273.*

1517. Вый ваўком, а махай лісім хвастом. *Ляцкий, 6.*

а) Мей воўчы рот, да лісі хвост. *Нос., 81; Fed., 340.*

1518. На версе явар, а ў сярэдзіне дз'явал. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

1519. Адзін бок наб'е, другі мёдам пальe. *М. Гваздзёў, 1960, Рэч. 8.1.58.*

1520. Раз цалуе, другі раз кусае. *Fed., 47.*

1521. Раз гладзіць, другі раз дзярэ. *Fed., 110.*

1522. І гладзіць, і дзярэ. *Fed., 110.*

1523. Спераду грэець, а ззаду вецер веець. *Нос., 155.*

1524. Ён цябе прадасць і грошы палічыць. *Fed., 242; Сцяшк., 590, Лід.*

1525. З адным «вась-вась», а другога пхне ў гразь. *1961, Брасл. 13.9.5.*

1526. Ён моўча, а дума (душа) воўча. *Добр., Смол., 49; Г. Румоўская, 1963, Пліс. 13.10.40.*

1527. Маўчыць, а ліха робіць. *Fed., 180.*

1528. Маўклівы сабака спадціха́ кусае. *Ром., Зап., III, 223.*

а) Маўчалівы сабака спатайка́ хватае. *Fed., 269.*

1529. Не бойся таго сабакі, каторы брэшаць. *Гильт., 288, Дзісен. п.*

1530. Не бойся сварлівага, а бойся маўклівага. *Мін.-Мал., 1970, 163, Узда.*

а) Не бойся чалавека (сабакі) звяглівага, а бойся маўчлівага (маўчалівага). *Добр., Смол., 49; Fed., 269.*

1531. Таго сабакі горш страшна, што лашчыцца, як таго, што брэша. *Fed., 270.*

1532. Маўчы да дыш, скажуць людзі, што спіш. *Дуб., 36; Нос., 78.*

1533. Не бойся ліхога, а бойся ціхога. *1961, Брасл. 13.9.5.*

1534. Ад ціха ўсё ліха. *Нос., 123.*

1535. У ціхім балоце чэрці растуць. *Tyszk., 423.*

а) У ціхім віру (омуце, балоце) чэрці водзяцца. *Добр., Смол., 49; Ром., Зап., I, 216; А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

1536. Ціхая свінння глыбока капае. *Радч., 248. Вар.: Дразд.; С. Заянчкоўская, 1956, Церах. 13.3.29.*

а) Ціхая свіння глыбокі корань рые. *Крапіва, 249; Цар., 248, Рэч.; А. Фядосік, 1959, Капатк. 8.1.44. Вар.: 1961, Рэч. 13.9.5.*

б) Ціха (панура) свіння далёка (глыбока) корань капае. *Fed., 308.*

1537. Спадцішка, як з-пад мяшка. *С. Заянчкоўская, 1956, Церах. 13.3.29.*

1538. Што ні скажа, нібы маслам мажа. *С. Клачко, 1961, Б.-Каш. 13.3.29.*

1539. Хто ўсім паддáкуе, таму ніхто не дзякуе. *В. Іваноўская, 1963, Смарг. 8.1.83.*

1540. Крышыць буракі на воба бакі. *Добр., Смол., 49.*

1541. І нашым, і вашым. *Сержп., 122.*

1542. Які вецер павеець. *Нос., 193.*

1543. Куды вецер, туды і я. *Нос., 70; Дуб., 32; Fed., 330. Вар.: М. Мельнічэнка, 1950, Гом., 13.3.29.*

1544. Куды вецер, туды і грыва. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

1545. Хочацца і крыўды не мець, і ў ласцы быць. *Ляцкий, 54; Сержп., 61.*

1546. Ззаду карціна, а спераду скаціна. *1967, Шкл. 8.1.107.*

1547. Не ўся сарока бела. *Нос., Слов., 648.*

1548. Ён не тады радзіўся, як совесць раздавалася. *Выпісы.*

1549. Яго зубы белы, а сумленне чорна. *Fed., 293.*

1550. Хітрыць хітрыў, ды сумленне згубіў. *Н. Парукаў, 1958, Добр. 13.3.29.*

1551. Ён вочы ў сабакі пазычыў. *Л. Царанкоў, 1960, Рэч. 13.9.2.*

1552. Пазычыўшы вочы, просіць чалавек. *Нос., 131.*

1553. Глядзіць людзям у вочы, пазычыўшы вачэй у сабакі. *Pietk., 370.*

1554. Падстрыгаць вязуць, а ёй вялічча. *Горленка, 250, Гом.*

1555. Чужая душа — пацёмкі. *Сержп., 40, 134; Дразд.*

1556. У душу не ўлезеш. *Сержп., 135.*

1557. Душы сваёй на далонь не вымеш да не пакажаш. *Fed., 88.*

1558. Не той бедны, хто грошай не мае, а той, хто душы не мае. *Fed., 28.*

1559. Рукі пабрудзіш — і вадой памыеш, а душу забрудзіш — і мылам не адмыеш. *Ляцкий, 38.*

1560. Руку, нагу пераломіш — зжывецца, а душу пераломіш — не зжывецца. *Ром., Зап., III, 230.*

1561. Каб меў дзве душы, то краў бы. *Fed., 152.*

1562. Ты крыж цалаваў, а душу чорту аддаў. *Ляцкий, 46.*

1563. Усё роўна, што ў кульгавага кій адняць. *Fed., 156.*

а) У кульгавага кій адняў. *Fed., 156.*

б) У старца (сляпца) кій аднялі. *Нос., 168; Дуб., 63; Fed., 303.*

1564. Пакорнае цялятка дзве маткі ссе. *Pietk., 314.*

а) Ласкавае цялятка дзвюх матак ссець. *Нос., 72. Вар.: Сержп., 125.*

б) Ласкавае цяля дзвюх матак ссе, а гордае — ніводнае. *Ром., Бел., I, 300. Вар.: Дуб., 32.*

в) Ласкавае (пакорнае, лісявае, лісліваe) цялятка дзве маткі ссе, а гордае — ні адной. *Киркор, 235; Шейн, II, 477, Слуцк. п. Вар.: Fed., 57; А. Куцакова, 1956, Раг.; М. Бандарэнка, 1966, Маз. 13.3.29; В. Санько, 1969, Слуцк.*

г) Ласкавае цяля дзве маткі сасець, а пастылае—ні аднае. *Ром., Зап., III, 222.*

д) Ласкавае цяля двух матак ссець, а жосткае — нігоднае. *М. Грынблат, 1960, Сір. 8.1.47.*

е) Лісліваe шчанё дзве цыцкі ссе. *Цяшк., 597, Воран.*

1565. Мяккі, хоць у вуха кладзі. *Мін.-Мал., 1970, 162, Пух. Вар.: Л. Малаш, 1969, Докш.*

а) Добры, хоць у вуха ўлажы. *Сержп., 47.*

1566. Добры, хоць да раны прылажы. *Сержп., 47; Fed., 79.*

а) Хоць яго да раны прылажы, такі добры. *Fed., 78.*

1567. С паклону галава не баліць нікому. *Нос., 158. Вар.: Fed., 212; Сержп., 127; Pietk., 383.*

1568. Ад паклону галава не адпадзе. *Сержп., 127.*

1569. Пакора аблокі прабівае. *Fed., 212.*

1570. Пакора не знаець гора. *Нос., 131; Fed., 212.*

1571. Паклонамі шубы не пашыць. *Fed., 212.*

1572. Гібкага дзерава вецер не зломіць. *Fed., 94.*

а) Хілага дзерава вецер не ломіць. *Нос., 171; Дуб., 68.*

1573. Пакорнага і меч не сячэ. *Сержп., 128.*

а) Пакорную галаву і меч не сячэ. *Сержп., 128.*

б) Паклоннай галавы і меч не бярэць. *Дуб., 52.*

1574. Ласкаю будзеш Падласкаю: і пакормяць, і падояць. *Янк., 346.*

1575. Будзь ніжы травы і цішы вады. *Нос., 9.*

1576. Не туды чырка (чырок) носам кіруець. *Дуб., 38.*

1577. Па шэрсці трэба гладзіць. *Нос., 135.*

1578. Дзе не пераскачу, то подлезу. *Fed., 288.*

1579. Лоб нізкі, нос склізкі, відаць, што лізаў панскія міскі. *Сцяшк., 597, Свісл.*

1580. Падліза падлізаю і застанецца. *Сержп., 125.*

1581. Хоць бы кінуць на сцяну, дык прыліпне. *Дуб., Нар., 1.*

1582. Ён праз чужыя вочы на свет глядзіць. *Fed., 109.*

1583. Ехаўшы бачком, ні з кім не зачэпішся. *Нос., 191. Вар.: Дуб., 18; Сержп., 47; Fed., 128.*

1584. Хоць яму ў вочы плюй. *Fed., 238.*

а) Хоць ты плюй у глаза — усё бож'я раса. *Добр., Смол., 112.*

б) Хоць ты яму плюй у вочы, ён скажа — божая раса. *Ром., Бел., I, 313.*

в) Ты яму плюй у вочы, а ён кажа, што ета дождж ідзе. *Pietk., 336.*

1585. Плюнеш у рот — слюньку праглыціць. *Добр., Смол., 112.*

1586. Дзе трэба лізнуць, дык ён гаўкае. *Янк. М., 107.*

1587. У хітрага бога халуёў многа. *Янк. М., 68.*

## СКВАПНАСЦЬ. СКУПАСЦЬ. МАРНАТРАУСТВА. АШЧАДНАСЦЬ

1588. У сквапнага горла вяліка. *Дуб., 65.*

1589. У самога з горла тырчыць, ён яшчэ жадае. *Сержп., 73.*

1590. Хціўвы і бога прадаў бы. *Fed., 51.*

1591. Вочы страхачэ, а рукі грабачэ. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

1592. Сам з муху, а сквапнасць папоўская. *Бяльк., 407, Хоц.*

1593. Чым болей маем, тым хціўшыя бываем. *Нос., Слов., 685.*

1594. Рыба рыбаю жыве, а чалавек чалавекам. *Fed., 267.*

1595. Дзеля дарагатові і бацьку прадаць гатовы. *Нос., 33.*

1596. Хто многа хоча, той ніц не дастане. *Fed., 47.*

а) Хто многа жадае, той нічога не мае. *Fed., 362. Вар.: Pietk., 402.*

1597. Есць, як у прорву, да больш жадае. *Сержп., 73.*

1598. Хоча крамнога ды й многа. *Радч., 249.*

1599. Не жаніся на вялікае, бо малое страціш. *Fed., 329.*

1600. Выгода ўсяго жадае. *Fed., 343.*

1601. Шчупак за плоткаю ганяўся, пакуль сам у нерат не папаўся. *Мін.-Мал., 1970, 170, Узда.*

1602. Хапай, пакуль і цябе кадук схопіць. *Сержп., 95.*

1603. Дай чорту адзін волас, дык ён усю галаву возьме. *Янк. М., 54.*

1604. Усяго на свеце не заграбе́ш. *Сержп., 73.*

1605. У труну ўсяго табе не ўложаць. *Fed., 314.*

1606. Заві хоць ваўком, але па бара́ну давай. *1961, Докш. 13.9.5.*

1607. Горла шырока, да кішка тонка. *Fed., 112.*

1608. Чым дабру прападаць, няхай жывот лопне. *У. Хомка, 1965, Гродз. 13.10.4.*

а) Лепш жывот лопне, чым дабру прападаць. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29. Вар.: М. Грынблат, 1974, Барыс.*

б) Чым дабру аставацца, лепш жывату раздувацца. *М. Бабарыкіна, 1966, Чач. 13.3.29.*

1609. Трыбух кажа годзі, а вочы — яшчэ. *Fed., 314.*

1610. Трыбух поўны, да вочы пустыя. *Fed., 314.*

1611. Гадка есці, жаль пакінуць. *Czeczot, 108. Вар.: Dybow., 8; Нос., 22; 129; А. Мацкала, 1965, Іў. 13.10.3.*

а) Брыдка з'есці, а шкада выплюнуць. *Дуб., 6.*

б) Горка з'есць (праглы́нуць) і жаль пакінуць. *Tyszk., 433. Вар.: Шпил., 177; Нос., 27; Дуб., 11; Kolb., 472; Fed., 129; Pietk., 323; Сержп., 62; Я. Бартко, 1965, Дзятл. 13.10.4.*

в) Жалка выкінуць і гідка есці. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

1612. Цяжка нясці, а жаль кінуць. *Карл.*

1613. За капейку ў царкве плюне. *А. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

1614. Тады стаў скупым, як кішка парожня. *Fed., 281.*

1615. Што каля яго пажывіцца, то на пальцы спячэш. *Ворожб.*

1616. Скупы і з камара кроў высмакча. *Цяшк., 608, Слон.*

1617. У Юркі Маркавых цялят не пытай. *Ляцкий, 52.*

1618. На табе, нябожа, што мне не гожа. *Tyszk., 432; Czeczot, 111; Нос., 88; Mien., 397; Булг., 172; Дуб., 41; Fed. 114; Г. Прытычанка, 1960, Карм. 13.3.29.*

а) На табе, Даніла, што мне не міла. *Сержп., 123.*

1619. Хоча пры адном агне дзве пячэні спячы. *Fed., 7.*

1620. Скупы не надта раскінецца. *Ляцкий, 41; Сержп., 4.*

1621. Дала б малака, ды пена веліка. *Янк. М., 20.*

1622. У скупога заўсёды па абедзе. *Ляцкий, 51; Fed., 251.*

а) У ліхога і ў скупога заўсёды па абедзе. *Fed., 164.*

1623. У яго з сваім хлебам паабедаеш. *Дуб., Нар., 35.*

1624. Нашто прадаваў, калі шкадаваў. *Ляцкий, 24.*

1625. Скупы свежае не есць. *В. Санько, 1969, Слуцк.*

1626. Не так шкода, як невыгода. *Нос., 104; Fed., 202, 209; Дуб., 43; Сержп., 78; А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15; М. Грынблат, 1967, Мінск.*

1627. Знайшоўшы, не падзеліць. *Tyszk., 428; Нос., 50.*

1628. Скупому рубель дарожшы за душу. *Fed., 281.*

1629. За грош задавіцца гатоў. *Сержп., 73; Добр., Смол., 109.*

а) За рублём павесіўся б. *Fed., 264.*

1630. За рублём палез бы ў пекла. *Fed., 264.*

1631. За грош з калакольні саскочыць. *Добр., Смол., 109.*

1632. Скупыя паміраюць, а дзеці сундукі адкрываюць. *М. Смурага, 1967, Свісл. 13.10.28.*

1633. Яго другое толька пад зямлёй. *Tyszk., 429; Нос., 40.*

1634. У другіх рубашку дзяруць, а самі і ніткі не дадуць. *Нос., 167; Ляцкий, 48.*

1635. У яго і ўзімку лёду не дастаць. *Нос., 167.*

а) Во скнаруга — зімой лёду ў яго не дастанеш. *Бяльк., 408, Мсцісл.*

б) У яго зімой і лёду не дапросішся. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

в) Скупы зімой лёду не дасць. *С. Заянчкоўская, 1956. Церах. 13.3.29.*

1636. У яго яшчэ горш, як з каменя вады не дастаць. *Fed., 77.*

1637. Не такі то крук, шчоб выпусціў з рук. *Гильт., 287, Кобр. п.*

а) Які б гэта крук, штоб выпусціў з рук. *Dybow., 192.*

1638. Дабрахвочы глядзіць цюцькам скнары ў вочы. *Янук.*

1639. Скупой чарвей за кожу сабіраецъ. *Добр., Смол., 108.*

1640. Сам не гам і другому не дам. *Dybow., 7. Вар.: Fed., 73, 74; Pietk., 317; М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29; А. Фядосік, 1959, Капатк. 8.1.44.*

а) Сядзіш, як сабака на сене: і сам не гам, і другому не дам. *Л. Стаўровіч, 1957, Рэч. 13.3.29.*

б) Шкода цюцьцы сена: сама не есць і другім не дае. *Ляцкий, 60.*

в) Сабака сам сена не есць і каню не дае. *Pietk., 341.*

г) Сабака на сене ляжыць: сама не есць і другім не дасць. *Нос., 152. Вар.: Ляцкий, 38.*

1641. Хто свайго шкадуе, той прыбытку не мае. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

1642. Скупы два разы траціць. *Dybow., 17; Шейн, II, 481, Ігум. п.; Дуб., 5; Fed., 281.*

а) Скупы ўдвайне мае шкоду. *Pietk., 392.*

б) Скупы два разы гіне. *Крапіва, 238.*

1643. Пакінуў хлеб, пабег па крошкі. *Сцяшк., 604, Гродз. Вар.: Мін.-Мал., 1970, 158, Уздз.*

1644. Скупому два разы баліць. *Fed., 281.*

1645. Хто мае падушку, той спіць на карчушку. *Fed., 210.*

1646. Пашкадуеш лычка — не ўвяжаш і рамяньком. *В. Брычакоў, 1960, Карм. 13.3.29.*

1647. Хто над грошам гіне, той тысячы губіць. *Fed., 116.*

1648. Скупому вечная згуба. *Fed., 281.*

1649. На абухі рож малоце. *Аним., 263.*

1650. Скупы збірае, а чорт мяшок шые. *Fed., 281.*

1651. Скуп скупуець, а чорт дзірку гатуець. *Добр., Смол., 108.*

1652. У скупога чорт шафяром. *Tyszk., 429; Нос., 168; Дуб., 62.*

1653. Хто ску́пы, той глу́пы. *М. Рымша, 1957, Маз. 13.3.29.*

1654. Хто скуп, (той) не глуп. *Tyszk., 416; Mien., 396; Dybow., 192; Fed., 281, 392; Крапіва, 239.*

а) Хто скуп, сабе не глуп. *Нос., 177. Вар.: Добр., Смол., 109.*

б) Скуп — не глуп. *М. Грынблат, 1967, Мсціс. 8.1.106.*

в) Скупы не глупы. *1961, Кап. 13.9.5.*

1655. Скупы не дурань. *Ляцкий, 41.*

1656. Нож ту́пы — гаспадар ску́пы. *А. Хайратовіч, 1951, Талач. 13.8.4.*

1657. У раскіда́нага кішэнь без дна. *Fed., 259.*

1658. Скупы і раскідны́ нароўні стае́. *Fed., 281.*

1659. У яго дзіравыя рукі. *Сержп., 50.*

1660. Рукі залатыя, ды дзіравыя. *Дразд.*

1661. Лепш скупавата, чым матавата. *Сержп., 15.*

1662. Не чалавек, а сто рублёў убытку. *І. Курбека, 1961, Докш. 13.9.7.*

1663. Падарункі без штаноў ходзяць. *Раст., 183.*

1664. Што ў яго рукі папала, то й прапала. *Fed., 266.*

1665. Дзіравую кішэню ніколі не супоўніш. *Дуб., 14.*

1666. А не чорт таму вінават, хто тарават. *Добр., Смол., 108.*

1667. З тарава́цтва не бальшое багацтва. *Добр., Смол., 109.*

1668. Сам страціць, а другіх вінаваціць. *Сержп., 28.*

1669. Блюдзі (беражы) бацькіну капейку і сваю дабудзеш. *Нос., 6. Вар.: У. Іваноў, 1958, Мінск.*

1670. Хто гроша не беражэ, той сам гроша не варт. *Pietk., 371. Вар.: У. Іваноў, 1958, Мінск.*

а) Хто капейкі не берагець, тэй сам яе не стоіць. *Добр., Смол., 109.*

б) Хто капейкі не беражэ, той сам рубля не варт. *Ю. Звярко, 1965, Іў. 13.10.5. Вар.: Юрч., 1972, 203.*

1671. Згадзіцца не сянні, так у чацвер. *Добр., Смол., 109.*

1672. Рахуба не згуба *Fed., 256.*

1673. Хто рахуе, той не псуе. *Fed., 256.*

1674. Хто без рахунку жыве, той без пары ўмірае. *Dybow., 192.*

1675. Хто без шчоту жывé, таго чорт вазьмé. *Fed., 298.*

1676. Шугаючы, расшугаеш скора, а сабіраючы, сабярэш. *Нос., Слов., 718.*

1677. Хто есць замоладу мяса, то на старасць косці. *Fed., 129.*

1678. Хоць ашчэдна, абы не скарэдна. *Сержп., 15.*

## ГОДНАСЦЬ. СЦІПЛАСЦЬ. САМАХВАЛЬСТВА. ЗАЗНАЙСТВА. ФАНАБЭРЫСТАСЦЬ. НАХАБСТВА. САРАМЛІВАСЦЬ. БЕССАРОМНАСЦЬ

1679. Кожны чалавек сам сабе варты. *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

а) Кожны сам сябе стоіць. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29; С. Маісеенка, 1965, Жлоб. 13.3.25.*

1680. Ён сабе не дасць пляваць у кашу. *Fed., 139.*

1681. На мне далёка не паедзе[ш]: дзе сядзе[ш], там і злезе[ш]. *М. Грынблат, 1976, Лаг.; І. Ламека, 1965, Ваўк. 13.10.2.*

а) На ім не пад'едзеш: дзе сядзеш, там і злезеш. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

1682. Птушачка і каліўкаю сыта. *Нос., Слов., 228.*

а) Птушачка і мушачкай сыта. *Дуб., 46. Вар.: Нос., 141.*

1683. Не хваліся тым, што ведаеш, хай лепш людзі пахваляць. *А. Мацкала, 1965, Іў. 13.10.3.*

1684. Сам сябе не хвалі, няхай людзі пахваляць. *Сержп., 136; Fed., 56.*

а) Не хвалі сябе, няхай другія пахваляць. *У. Хомка, 1965, Гродз. 13.10.4.*

1685. Сам сябе не ўхваліш, як людзі не пахваляць. *Добр., Смол., 87.*

1686. Чужа пахвала як гром грыміць, а самахвальства смярдзіць. *Дуб., Нар., 29.*

1687. Хто сябе хваліць, няхай таго агонь спаліць. *Д. Шыцік, 1961, Дубр. 13.9.6.*

а) Хто сам сябе хваліць, няхай таго пярун спаліць. *Цяшк., 614, Гродз.*

1688. Скрозь па свету лучшы нас нету. *Ляцкий, 41.*

1689. Хто б цябе і хваліў, каб не сам ты. *Ляцкий, 54.*

а) Хто ж бы цябе пахваліў, калі б не ты сам сябе. *Нос., 176.*

1690. Сваё хва́ліць, а чужое пад плот ва́ліць. *Янк., Дыял., III, 166.*

1691. Аржаная (грэцкая) каша сама сябе хваліць. *Нос., 3; Сержп., 136; Ахрым., 26.*

а) Усякая каша сама сябе хваліць. *Ром., Зап., III, 228.*

1692. І жаба сябе хваліць. *Сержп., 136.*

1693. І пяты́ маей не стоіць. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

1694. Хвалі́цца — не касіць, рука не забаліць. *Цяшк., 613, Вайк.*

1695. Хто хоча, каб яго хваліць, то сам сябе га́ніць. *Fed., 56.*

1696. Пахвальба — малайцу пагуба. *Ром., Зап., III, 223.*

1697. Хваляшчаму бог не памагаець. *Добр., Смол., 87.*

1698. Хвальба сарочкі не дасць. *Карл.*

1699. Кажан сваё хваліць. *Fed., 295.*

1700. Усякі пастух сваей пугай хваліцца. *Добр., Смол., 87.*

1701. Усякі ліс свой хвост хваліць. *Сержп., 136.*

а) Усякая лісіца свой хвост хваліць. *Міеп., 397; Ром., Зап., I, 215.*

1702. Жаба квокчыць, сваё балота хваліць. *Ляцкий, 11.*

1703. Хва́цька нахваліцца, а будзька набудзецца. *Дуб., 70. Вар.: Шпил., 176; Нос., 9; Дуб., 7.*

а) Пакуль хвалько нахваліцца, то будзько набудзецца. *Fed., 56.*

1704. Хваслівага ад багатага не распазнаеш. *Ром., Бел., I, 312. Вар.: Ляцкий, 53.*

а) Хваслівага (хвасце́ля) з багатым не разбярэш. *Шейн, II, 482, Гор. п.; 1961, Брасл. 13.9.5.*

1705. Хвастун ідзець падпаясаны шаўком, а багаты часам і лычком. *Нос., 171.*

1706. Гэты сват сам сабе рад. *В. Калюк, 1953, Навагр. 13.10.6а.*

1707. Гаварыў бы ты, хвасту́х, ды мне слухаць недасу́г. *Ляцкий, 7.*

1708. Выхваляўся пуста́к, ды не зрабіў ніяк. *М. Жылінскі, 1965, Свісл. 13.10.6.*

1709. Хоць сляпых навадзіў, дык жа папярод хадзіў. *Дуб., Нар., 1.*

1710. Рэшатам золата мераюць, а рэшата не́ за што купіць. *Крэмнеў.*

1711. Хвалілася каліна, што яна з мёдам хараша, а мёд кажа: «Я і сам харош». *С. Маісеенка, 1965, Жлоб. 13.3.25.*

1712. Гаварыла свіння, што даўно б каралём была, але лыч не пускае. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

1713. Не можаш укусіць, то і зубоў не паказывай. *В. Ганчаронак, 1960, Відз. 13.9.26.*

1714. За вочы дык і мышанё кату хвост адкусіць пагражае. *Н. Парукаў, 1958, Добр. 13.3.29.*

1715. Адным ма́хам сем сот душ забіяхам. *Нос., 119.*

а) Адным ма́хам сто забіва́хам. *Fed., 173.*

1716. Хвасць абедаць (хлеба) не дасць. *Ром., Бел., I, 312; Добр., Смол., 87.*

1717. Не хваліcь сеўшы, а хваліcь з'еўшы. *Сах.*

1718. Не хваліся, калі з'еў, а не відзелі. *Ляцкий, 28.*

1719. На капейку ўпіўся, на рубель пахваліўся. *Мін.-Мал., 1970, 163, Пух.*

1720. Не пераскачыўшы, не кажы гоп. *Ryp., 214. Вар.: Нос., 101; Дуб., 40; Ром., Бел., I, 303; Fed., 228; 1961, Кап. 13.9.5; Л. Царанкоў, 1960, Крыч. 13.9.2; С. Клачко, 1966, Б.-Каш. 13.3.29.*

а) Не кажы гоп, не пераскачыўшы. *Tyszk., 426. Вар.: Г. Румоўская, 1965, Пліс. 13.10.40.*

б) Пакуль не пераскочыш, не кажы гоп. *Дуб., 50.*

в) Не кажы гоц (гоп), калі не пераскочыў. *Czeczot, 112. Вар.: Шпил., 185; Гильт., 288, Вілен. п.; Fed., 228; Pietk., 335; Крапіва, 238; Р. Мухляда, 1965, Шчуч. 13.10.5; М. Бохан, 1965, Маст. 13.10.3; А. Фядосік, 1959, Леп. 8.1.76; А. Гурскі, 1971, Паст. 8.2.46.*

г) Не кажы гоц, аж пераскочыш; скажаш гоц, як пераскочыш. *Fed., 228.*

д) Не пераскочыўшы рэчкі, не гавары гоп. *Нос., 101.*

е) Не пераскочыў ямы, не гавары гоп. *Л. Стаўровіч, 1957, Рэч. 13.2.29.*

ж) Не кажы гоп, не перашоўшы лесу. *І. Сагарава, 1950, Браг. 8.1.35.*

з) Не пераскочыўшы праз калоду, не кажы гоп. *Ляцкий, 27.*

і) Не хваліся ўпярод, не перайшоўшы чэраз брод. *Pietk., 312.*

1721. Наперад не хваліся. *Pietk., 388.*

1722. Не хваліся за сем дзён, а хваліся за сем год. *Шейн, II, 479, Барыс. п.; Fed., 56.*

а) Не хвалісь у тры дні, а пахвалісь у тры гады. *Добр., Смол., 86.*

б) Не хваліся ў год, а хваліся ў дзесяць. *Добр., Смол., 86.*

1723. Нёман пераплыў, а на беразе ўтапіўся. *Fed., 203.*

а) Мора пераплыў, на беразе ўтапіўся. *Fed., 323.*

1724. Не чванься, гарох,— не лепш бабоў. *Сах.*

1725. Гу́жанае лучччы хва́лянага. *Добр., Смол., 87.*

1726. Ка́жан мае мухі ў носе. *Fed., 205.*

а) Ка́жан мае свае мухі. *Fed., 190.*

б) Хванабэрысты мае мухі ў носе. *Fed., 51.*

1727. Кожны жук хоча паказаць свае рогі. *Цар., 244, Мінск.*

1728. Кіем (калом) галавы не дастанеш. *Нос., 61; Fed., 100.*

а) Здаецца, што палкаю носа не дастанеш. *Мяц., 204, Саліг.*

б) Калі пайшоў угору, то калом носа не дастаць. *Я. Касач, 1966, Дзятл. 13.10.26.*

в) Калом шапкі не дастанеш. *І. Ламека, 1965, Ваўк. 13.10.2.*

г) Фарсун, што тычкай носа не дастанеш. *Янк. М., 85.*

д) Шостам галавы не дастаць. *Нос., 187. Вар.: Добр., Смол., 48.*

е) Качаргой носа не дастанеш. *Г. Шымко, 1967, Навагр. 13.10.21.*

ж) Крукам носа не дастаць. *Tyszk., 427; Шпил., 183; Аним., 263; Dybow., 183. Вар.: Ляцкий, 18; Сержп., 31; Pietk., 331; Л. Царанкоў, 1960, Мінск 13.9.2; 1961, Кап. 13.9.5.*

з) Пан, што і носа крукам не дастаць. *Dybow., 16.*

1729. Без фігі (дулі) ні да носа. *Мяц., 28, Стаўб.; М. Грынблат, 1976, Лаг.; І. Ламека, 1965, Вайк. 13.10.2.*

а) У яго кукішам носа не дастанеш. *Юрч., 1974, 62.*

1730. Да яго і прыступу няма. *Сержп., 99.*

а) Да яго ані прыступу, ані до́ступу. *Янук.*

1731. Без кія ні прыступу. *Pietk., 374; Fed., 144.*

а) Без кія ні доступу да яго. *Fed., 80.*

б) Да яго без кія не даступішся. *Fed., 77.*

в) Без кала́ і не падхадзі. *Fed., 147.*

г) Без кія ані доступу, ані прыступу. *Pietk., 365.*

1732. Да яго без спросу не патыкай носу. *Дуб., 14.*

1733. Да яго не прыступіш з голымі рукамі. *Fed., 251.*

а) Да яго з голымі рукамі не падступішся. *Сержп., 31.*

1734. Пусты колас угару тырчыць. *Сержп., 61.*

а) І колас пусты дагары стырчыць. *Fed., 147.*

б) Пусты колас заўсёды нос кверху дзярэць. *Сах.*

в) Колас, што зярнят не мае, угару лоб задзірае. *Dybow., 192. Вар.: Дуб., 26.*

1735. З пустой бочкі многа шуму. *Л. Стаўровіч, 1967, Рэч. 13.3.29.*

а) Парожняя бочка моцна грыміць. *А. Махнач, 1962, Узда. 13.10.15.*

б) Пустую бочку, як вязуць, здалёку чувадь. *Дразд.*

1736. Поўны чайнік маўчыць, а напалавіну пусты шуміць. *Л. Марчанка, 1960, Церах. 13.3.22.*

1737. Мы ім пакажам, колькі мы важым. *Янк., 393.*

1738. Цаны-меры сабе не ставіць. *Добр., Смол., 48.*

1739. Яму гавары, а ён бровы дагары. *1961. Кап. 13.9.5.*

1740. Цераз грыб не плюнець. *Добр., Смол., 48.*

а) І добрае слова не скажаць, і цераз грыб не плюнець. *Добр., Смол., 48.*

1741. Не буду дзівіцца — няхай казырыцца. *Л. Царанкоў, 1960, Брэсц. 13.9.2.*

1742. Жаба дулася, дулася — ды лопнула. *А. Махнач, 1952. Уздз. 13.10.15.*

1743. Як каня куюць, то й жаба ногу настаўляе. *Fed., 362.*

а) Дзе каня куюць, там і жаба падстаўляе свае клешні. *Pietk., 352.*

1744. Не лезь, жаба, туды, дзе коней куюць. *Янк., 393.*

1745. Вяліка кляча недалёка скача. *Ляцкий, 6.*

1746. Скінь пыху з сэрца. *Fed., 253.*

1747. За пыха бог з неба спіха. *Мін.-Мал., 1970, 161, Уздз.*

1748. Захоча бог пакараць — гардыню нашле. *В. Санько, 1969, Слуцк.*

1749. Бог гордых з неба скідаець. *Крэмнеў.*

а) Гордага бог з неба спіхаець. *Шейн, II, 475, Гор. п.*

б) Гордага то і чорт з пекла выпіхае. *Fed., 104.*

1750. Хоць звяглі́вы, ды не кусліва. *Fed., 374.*

1751. Каб на дзятла не стралец, быў бы дзяцел маладзец. *Ляцкий, 157.*

1752. Хоць шчука і крута́, але не возьмець ярша з хваста́. *Сап., 262.*

1753. Высока сарока лятае, ды дома не начуе. *С. Заянчкоўская, 1956, Церах. 13.3.29.*

1754. Ганарысты, але ад маёнтку чысты. *Fed., 103.*

1755. Хто горды, таму хлеб цвёрды. *Fed., 112.*

1756. З вялікага ку́ста ягад пуста. *Сцяшк., 590, Слон.*

1757. Хоць дрыжу, але фасон дзяржу. *А. Бізук, 1965, Шчуч. 13.10.1.*

а) Хоць дрыжыць, хворс дзяржыць. *А. Фядосік, 1962, Капатк. 8.1.76.*

1758. Хоць салому еш, а фасон дзяржы. *В. Іваноўская, 1962, Светл. 8.1.74.*

1759. Салому еш, а хвост дзяржы дудкай. *М. Гваздзёў, 1960, Рэч. 8.1.58.*

1760. Во зазналась: ці я, ці не я, ці папова свіння. *Добр., Смол., 18.*

1761. Відаць птушка па яе палёту. *А. Махнач, 1952, Узда. 13.10.15. Вар.: 1961, Кап. 13.9.5.*

а) Відаць саву па палёту. *С. Маісеенка, 1965, Жлоб. 13.3.25.*

б) Знаць сокала па палёту. *Мієп., 396.*

в) Знаць сокала па лята́нейку. *Янк., 189.*

г) Відзен сокал па палёту, а сава па воку. *Шпил., 177; Шейн, II, 474, Барыс. п. Вар.: Нос., 13.*

д) Відаць сакала́ па палёту, а саву па пагляду. *Дразд.*

е) Знаць кабылу па хвасце. *Ром., Мат., 85.*

ж) Відна зайца па вушах. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

1762. Пазнай птушку па хвасту. *Мін.-Мал., 1970, 164, Пух.*

1763. Толька па хвасце птушку не пазнаеш. *Мін.-Мал., 1970, 167, Пух.*

1764. Відна Ваньку па паходцы. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

1765. Хораша ішла, да не пакланілася. *Ром., Зап., III, 234.*

1766. Свіння пройдзе і то рохне. *Сцяшк., 608, Ашм.*

1767. Невялічка пташка, ды галасок важны. *Ахрым., 42.*

1768. Бравы маладзец: шапка набакір, полы за поясам. *Нос., 23.*

1769. Хто набок з дарогі з'язджае, той хвалён, а хто носіць набок шапку, той смяшон. *Fed., 76.*

1770. Хто любіць выпіць, а хто — новыя боты. *А. Гурскі, 1967, Бял. 8.1.112.*

1771. У другога бот скрыпіць, а ў гаршку трасца кіпіць. *Ляцкий, 48.*

1772. Валасы дагу́ры, а вошы, як куры. *Fed., 338.*

1773. Фігурант — боты ў рант. *Дуб., 67.*

а) Хрант — боты ў рант, а ў пальцах свецяцца. *Нос., Слов., 683; Дуб., 68.*

б) Франт — боты ў рант, галава стручком, нос кручком. *Нос., 170.*

1774. Франт: салам боты вымазаў і шкурку з'еў. *Нос., 170.*

1775. Франт з паліваным носам. *Дуб., 67; М. Грынблат, 1920, Мінск.*

1776. Сколькі, вутка, не мудрысь, а лебедзем не быць. *Шейн, II, 478, Свянц. п.; Fed., 342.*

1777. Не ўсё то золата, што блішчыць (свеціць). *Нос., 94; Fed., 359; В. Бондар, 1967, Мін. 13.10.24; Р. Мазгавая, 1967, Лід. 13.10.28.*

1778. Не суйся, серада, прэжда чацвярга. *Ром., Зап., III, 225.*

1779. Калі просюць за стол, то не лезь на стол. *Ляцкий, 17.*

1780. Яго і дымам не выкурыш. *Сержп., 29.*

1781. Пусці свінню ў касцёл — яна прэцца ў алтар. *Дуб., Нар., 25.*

1782. Выпхнуць яго дзвярыма, то ён акном улезе. *Fed., 344.*

1783. Лепш быць зухвалым, ніж тхараватым. *Fed., 361.*

1784. Стыдзіся бога і людзей. *Ляцкий, 43.*

1785. Не толькі ад марозу твар чырванее. *Мін.-Мал., 1970, 164, Пух.*

1786. Маючы стыд, не будзеш сыт. *Сержп., 18.*

1787. Устыдам жыва не буду. *Fed., 323.*

а) Сорамам жыць не будзеш. *Fed., 285.*

1788. Ад сарамá карысці няма. *А. Ліс, 1970, Мінск.*

1789. Стydненька не сыценька. *Сержп., 17.*

1790. Хоць саромна, да скаромна. *Сержп., 185.*

1791. Хоць вачам і стыдна, дык жывату радасна. *Дуб., Нар., 1.*

а) Вачам срам, да жывату зачысць. *Нос., 16.*

б) Хоць вачам стыдна, да жывату зачысна. *Нос., 173.*

1792. Ці стыд, ці сорам — усё адзін скорам. *Ляцкий, 56.*

1793. Вачам сорам, а душа рада. *Сержп., 186.*

а) Вачам сорамна, абы душы радасна. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

1794. Калі сорам, дык закрыйся. *Сержп., 186.*

а) Калі ўстыд, закрый очы. *Fed., 323.*

1795. Не ўстыд упасці, абы з добрага каня. *Fed., 321.*

1796. Стыд не дым — вачэй (вочы) не выкура. *Ром., Бел., I, 309; М. Мельнічэнка, 1966, Маз. 13.3.29; Ю. Ботвін, 1967, Вайк. 13.10.28.*

1797. Сорам не ёлка — вачам не колка. *Сах.*

а) Стыд не ёлка — у глаза не коліць. *1961. Брасл. 13.9.5.*

1798. Сорам не воран — вочы не выдзяўбе. *А. Фядосік, 1962, Капатк. 8.1.76.*

1799. Ад стыду вочы не паўлазяць. *Fed., 323.*

1800. Стыд можна і ў кішаню схаваць. *Ляцкий, 43.*

1801. Сораму ў кішэню не схаваеш. *Янк., 256.*

1802. Сорам двараніна не корміць. *Ром., Мат., 85.*

1803. Бессаромнаму плюй у вочы, а ён кажа: «Дождж ідзе». *І. Ламека, 1965, Вайк. 13.10.2.*

1804. Ні бога не баіцца, ні людзей не стыдзіцца. *Fed., 20.*

1805. Паганых ачоў і сорам не бярэ. *Сержп., 62.*

1806. Паганыя вочы дыму не баяцца. *М. Рымша, 1957, Маз. 13.3.29.*

а) Куравыя (закураныя) вочы дыму не баяцца. *Мін.-Мал., 1970, 162, Уздз.; Цяшк., 596, Дзятл.; С. Заянчкоўская, 1956, Церах. 13.3.29.*

## АХАЙНАСЦЬ. НЕАХАЙНАСЦЬ

1807. Начынне чыстату любіць. *Fed., 194.*

1808. Шкло чыстату любіць. *Fed., 239.*

1809. Не мыйся чыста, а то сарокі знясуць. *Л. Царанкоў, 1960, Касц. 13.9.2.*

1810. На людзях залюдзяніш, а ў рудзе зарудзяніш. *Г. Прытычанка, 1960, Карм. 13.3.29.*

1811. У нашай акуратніцы відаць серада з-пад пятніцы. *І. Цішчанка, 1970, Астр. 8.2.29.*

а) Выглядае субота з-пад нядзелі. *Fed., 293.*

1812. У ладным адзенню, а бруд аж блішчыць. *Ляцкий, 49.*

1813. Чаго не дабеліш, тое даносіш. *Добр., Смол., 24.*

1814. Не памыўся, а памараўся. *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

1815. Што гаварыць дурному, калі ў яго пяты нямытыя. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

1816. Другіх мые, а сваіх саплей пад носам не бачыць. *Ляцкий, 10.*

1817. Дзеля трубачыстага ўсё чыста. *Ром., Бел., I, 294.*

1818. Броў калясом і сапель пад насом. *Дуб., 7; Нос., 9.*

1819. З дурнем не згаворышся, а з смаркатым не наясіся. *Сцяшк., 591, Гродз.*

1820. Граззю зарос, хоць рэпу (на шыі) сей. *Сержп., 13. Вар.: Добр., Смол., 24.*

1821. Не мыўся — ляніў, памыўся — хвастліў. *Гильт., 292, Віл. п.*

1822. Не з дабра бруд заеў. *Сержп., 24.*

1823. Ці свінні елі, ці шляхта папа́свалася. *Сержп., 131.*

а) Нельга пазнаць, ці шляхта ела, ці свінні папа́сваліся. *1961, Брасл. 13.9.5.*

1824. Свіння і то ў карыце не га́дзіць. *Л. Царанкоў, 1960, Мінск 13.9.2.*

1825. Калі б не зубы да не губы, і душа б вон выскачыла. *Нос., 63.*

1826. З шалудзіваю галавою ў дух не лезь. *Нос., 159; Дуб., 56.*

1827. Не па шолудзях паршы. *Добр., Смол., 114.*

1828. Бя́ла не бя́ла, абы воду віда́ла. *1961, Кап. 13.9.5; І. Курбека, 1961, Докш. 13.9.7.*

1829. Калі лахудра, не паможа і пудра. *С. Шыршуновіч, 1966, Свісл. 13.10.28; 1961, Кап. 13.9.5; Л. Задаля, 1967, Клец. 13.10.14.*

1830. Мядзведзь ніколі (век) не ўмываецца, да здароў. *Сержп., 13; М. Грынблат, 1926, Тур.*

а) Мядзведзь ніколі не мыецца, а пра тое здароў. *Pietk., 379.*

1831. Мядзведзь ніколі не мыецца, але мёд есць. *Янк., 235.*

1832. Мядзведзь ніколі не мыецца, а ўсе яго баяцца. *Янк. Н., 182.*

а) Чоран мядзведзь, да ўсяк яго баіцца. *Добр., Смол., 24.*

1833. І нямыцькі па тры гарады дзяржалі. *Добр., Смол., 24.*

1834. Гразь не сала — пацёр, [дык і] адстала. *Сержп., 13; Добр., Смол., 24.*

## П'ЯНСТВА. БУЯНСТВА. ГУЛЬБА. КАРТЫ. КУРЭННЕ

1835. П'янства (гарэлка) да дабра (да добрага) не давядзе. *Fed., 236, 334; А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29. Вар.: Дразд.*

1836. Вада жывіць, а гарэлка губіць. *Мін.-Мал., 1970, 159, Уздз.*

1837. Хмель не вада — чалавеку бяда. *М. Малочка, 1959, Чаш. 8.1.46.*

1838. Гарэлка і віно — усяму дзелу зло. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

1839. Без чаркі няма хваробы і сваркі. *Мін.-Мал., 1970, 158, Пух.*

1840. Сам капейкі не варты, калі чарцы рады. *Янк., Дыял., І, 220, Глуск.*

1841. Калі мужык п'е, то палавіна бяды, а калі жонка, то цэла бяда. *Fed., 192.*

а) Калі мяса смярдзіць, то палавіна бяды, а калі рыба, то цэлая бяда; калі мужык п'е, то палавіна бяды, калі жонка п'е, то цэлая бяда. *Шейн, II, 477, Віл. п.*

1842. Калі мужык п'яніца, то наўпол гаспадарку згубіць, а калі жонка разап'ецца, то і зусім згіне. *Fed., 192.*

1843. Ад водкі розум кароткі. *Fed., 334. Вар.: Н. Божка, 1967, Маладз. 13.10.21; А. Сіплівая, 1967, Пруж. 13.10.24.*

1844. П'янства розум з'ела. *Fed., 236.*

1845. Гарэлкай розуму не прамыеш. *Суяшк., 585, Вайк.*

1846. Водка весяліць, а ад водкі галава баліць. *Fed., 334.*

1847. Хлеб на ногі ставіць, а гарэлка з ног валіць. *Сцяшк., 613, Ашм.*

1848. Хто п'яны ходзіць, сам сабе шкодзіць. *Дуб., 69.*

а) Хто часта за гарэлкай ходзіць, той сам сабе шкодзіць. *А. Фядосік, 1959, Капатк. 8.1.76.*

1849. Хто гарэлку любіць, той сам сябе губіць. *А. Фядосік, 1959, Капатк. 8.1.44. Вар.: М. Бандарэнка, 1966, Маз. 13.3.29.*

1850. Гарэлка грэшніца. *Добр., Смол., 44.*

1851. Гарэлка — дзярэлка: хоць чалавеку ад яе вясёла, аблупіць яго нагола. *Рапан., 124.*

1852. Ад водкі век кароткі. *Сцяшк., 578, Воран.*

1853. Хто п'е, той доўга не жыве. *Fed., 209, 334.*

1854. Як п'яны мужык, так і смерць найдзець прычыну прыкапацца. *Добр., Смол., 110.*

1855. Чым лепшы рамеснік, тым горшы п'яніца. *Fed., 258.*

а) Чым лепшы майстра, тым лепшы п'яніца. *Fed., 175.*

б) Добры майстра — добры і п'яніца. *Fed., 175; Pietk., 377.*

1856. Гаспадар у карчме п'е і скача — гаспадарка плача. *Fed., 105.*

1857. Бачыш, пані (дружа), як гарую: з адной карчмы да ў другую. *Сержп., 66; Янк. М., 15. Вар.: Ляцкий, 6.*

а) Гарую, панок, гарую: з аднае карчмы ў другую. *Сержп., 67. Вар.: Дуб., Нар., 18.*

б) Гарую, пан, гарую: з аднэй карчмы ў другую, гарэлку п'ю, старцаў б'ю. *Добр., Смол., 44.*

1858. Ён сваю гаспадарку ўтапіў у горле. *Fed., 106.*

1859. На п'яніцу сем сох не напáшацца. *Н. Кунцаў, 1967, Ветк. 13.3.29.*

1860. Не тэй п'яніца, што п'ецць, а што дні трэцць. *Нос., 104.*

1861. Водка весяліць, а хлеб у старане ляжыць. *Fed., 334.*

1862. Хлеб як сабе хоча, абы на водку мне было. *Fed., 334.*

1863. Гáрцы ўвядуць у старцы. *Добр., Смол., 43.*

1864. Зарокся гарэлку піць, а зарок два разы на рок: як ніхто не купіць і як няма за што. *Рапан., 127.*

1865. П'яніца за гарэлку чорту душу аддаў. *Ляцкий, 36.*

1866. Абы грошы, а гарэлка будзе; абы гарэлка, бяседа будзе. *Ляцкий, 1.*

1867. Для піякá мала траякá. *Дуб., 14.*

1868. Так! — сказаў бядняк.— Грошай няма, а выпіць хочацца. *С. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

1869. Як п'е, то як у бочку лье. *Dybow., 184.*

1870. Мужык п'ецць, як у леечку льецць, а як прыдзецца плаціць, то як дурань маўчыць. *Шпіл., 184. Вар.: Нос., 142.*

1871. Добра таму піць, з чыйго кішаня бяжыць. *Fed., 230.*

1872. Пі гарэлачку, да на каго надзейся. *Ром., Бел., I, 306.*

1873. Без Івашкі не вып'еш бражкі. *Суяшк., 581, Шчуч.*

1874. Рыззем трасецъ, а пятака́ на гарэлку нясецъ. *Нос., 144. Вар.: Суяшк., 607, Іў.*

а) Латамі трасе, а апошняе на гарэлку (у карчму) нясе. *Fed., 104; Pietk., 343.*

б) Ла́пікамі трасецъ, а траяка на гарэлку нясецъ. *Нос., 72.*

1875. Ліхаманка трасецъ, а ў карчму грошы нясецъ. *Ляцкий, 19.*

1876. Лату на лату будзе садзіцъ, а капеечку на гарэлку шчадзіцъ. *Янк. М., 28.*

1877. Збыў тата клопат: жыта змалаціў, грошы прапіў. *Янк.* М., 49.

1878. Дзе сеў, там і ўспеў. *М. Грынблат, 1973, Асіп. 8.73.65.*

1879. Смерць прыйшла і мяне не найшла, а найшла ў кабаке́ з бутылачкай у руке. *А. Фядосік, 1969, Стол. 8.2.15.*

1880. За чарку і на неба задзярэцца. *Янк. М., 31.*

1881. Памачы падмазку ў гарэлку, то за вярсту ён пабяжыць. *Мін.-Мал., 1970, 164, Узд.*

1882. П'е мужык, штоб думкі перабіць. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

1883. П'яніцы толькі й ахвоткі, што да кілі́шка водкі. *Ляцкий, 37.*

1884. Купіў свінню і то яшчэ з парасятамі. *Fed., 308.*

1885. Як хочаш мяне называй, толькі водкі піць давай. *Fed., 334.*

1886. Чалавек не скаціна, гарэлкі на воду не мяняе. *Fed., 61.*

1887. Ён не п'ець: ён нагою ў рот носіць. *Ром., Бел., І, 295.*

1888. І кот бы піў, каб хто наліў. *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

1889. Няма чаго марудзіць, калі за водкай шлюць. *Ляцкий, 26.*

1890. Скарэй, бардзей бяры бутэльку, бяжы па гарэлку. *Ляцкий, 41.*

1891. П'юць без пальца. *М. Грынблат, 1967, Шкл. 8.1.106.*

1892. Чарка чарку гоніць. *Сержп., 50.*

1893. П'яны і мора выпіваець. *Нос., 142.*

1894. Усей гарэлкі не вып'еш. *Fed., 104.*

1895. Для п'яніцы і капля (капелька) дорага. *Tyszk., 431; Шпил., 179.*

а) П'яніцу і капля дорага. *Нос., 142. Вар.: Ляцкий, 36; Ром., Бел., I, 207.*

б) Добра піякові і капля. *Fed., 234.*

1896. Хто празніку рад, тэй да свята п'ян. *Нос., 177.*

1897. Як гарэлку п'еш, то заўсёды свята. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

1898. Бог ведае, святая карчма, ці будзе наш Віктусь без водкі. *К. Кабашнікаў, 1963, Шчуч. 8.1.74.*

1899. У цэркві не быў, а шклянога бога бачыў. *Pietk., 357.*

1900. Хлеў на хлеў мяняюць, а магарыч выпіваюць. *Л. Царанкоў, 1960, Мінск 13.9.2.*

1901. Мачылі, пакуль прапілі. *Г. Прытычанка, 1960, Карм. 13.3.29.*

1902. Што ў цвярозага на вуме (на мыслі, на думцы, у галаве),

то ў п'янага на языцэ. *Нос., 190. Вар.: Mien., 397; Fed., 237; Pietk., 362, 368; Булг., 176; А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29; Дразд.*

1903. Што цвярозы мыслe, п'яны скажа. *Dybow., 19.*

1904. П'яны што й дурны. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

1905. З п'янага заўсёды спрос. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

1906. Хоць я п'ян, але іду, як пан. *Л. Лазовік, 1965, Скід. 13.10.4.*

1907. Хоць ён п'яны, а падпіраецца нагамі. *Fed., 236.*

1908. Пакуль чаркі сцябаў, патуль паклон даваў. *Мат., 186, Глуск.*

1909. Не ўсякі весел, хто п'ян. *Ром., Зап., III, 226.*

1910. П'янаму і мора па калена. *Dybow., 16; Ром., Зап., III, 229; Pietk., 386; Fed., 237; Дразд.*

а) П'янаму мора па калена, а лужа — па вушы. *Л. Царанкоў, 1960, Касц. 13.9.2.*

1911. П'янаму вуліца вузкая. *Янк. М., 117.*

1912. П'янаму і козы ў золаце. *Нос., 142.*

а) І козы ў золаце, як п'ян. *Добр., Смол., 44.*

1913. П'яніца і станавому брат. *Ляцкий, 36.*

1914. Як п'ян, тады ўсім пан. *М. Грынблат, 1974, Паст. 8.2.43.*

1915. Напіўся — як галавой аб сцяну пабіўся. *«Чырвоная змена», 22 жніўня 1954 г.*

1916. У гарэлку, как у каросту. *Добр., Смол., 44.*

1917. Піў, як мог, а цяпер ні рук, ні ног. *Fed., 230.*

1918. Дапіўся да статка — не ўвідзіш і астатка. *Fed., 75.*

1919. Учора хадзіў, а сягоння поўзае. *Fed., 242.*

1920. Хваціў з дзежкі, што не відзіць сцежкі. *Нос., 171.*

1921. Сядзіць нядуж: налізаўся, як вуж. *Ром., Бел., I, 308.*

1922. Ідзець Іван, вельмі п'ян, за ім Якаў паўзе ракам — той не п'яны. *Крэмнеў.*

1923. Туды тычком, а адтуль рачком. *Дуб., 61.*

1924. Шлёп у балота, а людзі кажуць: «П'яны быў (спаць лёг)». *Ляцкий, 60.*

1925. П'яніцу і ў лужыне рай. *1961, Брасл. 13.9.5.*

1926. Выпілі ў красу́, што аж гразь на насу. *1961, Кап. 13.9.2.*

1927. Дзе п'яны ўпаў, там і праспаў. *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

1928. Дзе упіўся, туды ідзі праспіся. *Fed., 321.*

1929. Дзе зап'ем, там і пераначуем. *Fed., 349.*

1930. Калі двох скажуць, што п'яны, то кладзіся спаць. *Fed., 236. Вар.: Dybow., 182; Fed., 236.*

а) Як удвох або ўтрох кажуць, што п'яны, то й лажыся. *Pietk., 386.*

1931. Не п'яны плача, а гарэлка. *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

1932. Толька чалавечага, што вып'е да з'есць. *Fed., 344.*

1933. П'янаму трэба выба́чыць. *Fed., 237.*

1934. Ад п'янага і чорт уцякае. *Сцяшк., 579, Ашм.; Добр., Смол., 45.*

1935. П'янаму і бог з дарогі ўступае. *Pietk., 386.*

а) П'янаму і чорт з дарогі саступіць. *Шейн, II, 430, Ігум. п. Вар.: Fed., 237.*

1936. Пі, да вума не прапі́. *Нос., 127. Вар.: Дуб., 46.*

а) Піць пі, але вума не прапі. *Ром., Бел., I, 306; Ляцкий, 35.*

б) Пі, гуляй, ды вума не прапівай. *Дразд.*

1937. Пі — дурнейшым станеш. *Рапан., 132.*

1938. Не пей цераз душу. *Добр., Смол., 44.*

1939. Той добра п'ець, хто п'ючы пакрэкваець. *Дуб., 60.*

1940. П'ян да ўмён, два ўгоддзі ў ём. *Нос., 142; Добр., Смол., 44.*

1941. П'янаму з цвярозым не ў кампаніі. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29; І. Суконкін, 1960, Церах. 13.3.29.*

1942. Лепш адзін цвярозы, чым дзесяць п'яных. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

1943. Дзе чарка, там і сварка. *М. Бандарэнка, 1966, Маз. 13.3.29; В. Лашчэўская, 1967, Дзятл. 13.10.28.*

1944. Дзе гарэлка, там і слёзы. *Сцяшк. 587, Слон.*

1945. Тагды б'еццa, як водкі нап'еццa. *Fed., 29.*

1946. Пры выпітцы трудна не пабіцца. *Ляцкий, 35.*

1947. Хто п'е, той гаршкі б'е. *Fed., 229.*

1948. Каму што, а пеўню бойка. *І. Цішчанка, 1971, Брасл. 8.2.49.*

1949. У дзеда адна бяседа: гдзе быў, з кім піў, хто яго біў. *Ляцкий, 48.*

1950. Ушоўшы ў драку, хахла не жалей. *Tyszk., 427. Вар.: Нос., 136; Дуб., 45.*

а) Пусціўшыся ў драку, чуба не жалець. *Дразд.*

б) Кінуўшыся ў бойку, хахла не шкадуюць. *Л. Царанкоў, 1960, Хоц. 13.9.2.*

1951. На чужы лоб сягаючы (шыбаючы), трэба і свой падставіць. *Шпил., 185; Нос., 190; Dybow., 184.*

а) Дастаўшы чужога лба, то трэба і свой паказаць. *Fed., 171.*

1952. Дзе двох б'юцца, то трэцяму не мяшацца. *Fed., 29.*

1953. Пайшоў у драку — кулакоў не шкадуй. *А. Якіменка, 1966, Б.-Каш. 13.3.29.*

1954. Для бож'ява дзела не жалей чужое цела. *Добр., Смол., 101.*

1955. Не чапайма чужога цела — то і наша будзе цэла. *Fed., 58.*

1956. Як адно вуха ўрэзаў, дык і другое хоча. *1961, Калінк. 13.9.5.*

1957. Ці адзін адрэзаў носа, то й другія пойдуць рэзаць. *Нос., 180.*

1958. Галава гуза шукае. *Fed., 99.*

1959. Галава не берасце́нь: не будуць біць увесь дзень. *Добр., Смол., 84.*

1960. Паспеем быць біты. *Сержп., 140.*

1961. Не папраўляй на п'яным шапкі, бо ў морду дасць. *Fed., 237.*

1962. Я яго шапкаю, а ён мяне абухам. *Fed., 297.*

1963. За косы рукамі, а ў бакі кулакамі. *Сержп., 19.*

1964. Святэю рукою за праклятыя валосця. *Добр., Смол., 101.*

1965. Не біты — не чалавек, не кручаны — не рамень. *Pietk., 311.*

а) Не біт — не чалавек, не мят — не рамень. *Fed., 31.*

1966. Адзін біты за дзесяць нябітых. *Pietk., 31.*

а) За аднаго бітага дзесяцёх нябітых даюць. *Pietk., 357.*

б) Біты адзін дзесяцярых нябітых каштуе. *Ляцкий, 4.*

1967. За аднаго бітага даюць дзесяць нябітых, а іх і так не бяруць. *Гильт., 290, Пруж. п.*

а) За бітага аднаго двух нябітых даюць, да не бяруць. *Нос., 44. Вар.: Булг., 176; Fed., 31.*

1968. Э, няхай нашыя баранчыкі б'юцца, мы за што маем біцца? *Fed., 29.*

1969. Чаго яны б'юць — ён сам наскочыць. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

1970. Калі біцца, то і вязаць будзем. *Fed., 29.*

1971. Сам чорт не разбярэ, хто каго дзярэ. *Г. Шымко, 1967, Наваг. 13.10.21.*

1972. П'яны б'ецца, скача, а праспіцца — горка плача. *«Чырвоная змена», 22 жніўня 1954 г.*

1973. Ад чужога пахмелля галава баліць. *Нос., 123, Fed., 207.*

1974. Ачнуўся Малах, аж скула ў галавах. *Нос., 123; Дуб., 2.*

1975. Намерся, да не ўдар. *Нос., 86.*

1976. Хоць замерыў, да не ўдарыў. *Fed., 318.*

1977. Адзін задзірака, другі непаддавака. *Янук.*

1978. Добра з тым пабіцца, хто бога баіцца. *Dybow., 8.*

1979. Шалы да балы да дабра не давядуць. *Fed., 297.*

1980. Балявалі (гулялі), пакуль голы сталі. *Нос., 4; Дуб., 5; Fed., 20, 121; А. Надзейка, 1965, Шчуч. 13.8.6.*

1981. За баляваннем бываець галадаванне. *Нос., Слов., 13; Дуб., 21.*

а) За баляваннем следам ходзіць галадаванне. *Нос., 44.*

1982. Змаладу балі спраўлялі, пад старасць галышамі сталі. *Нос., 49.*

а) Змаладу банкетавалі, а пад старасць жабракамі сталі (жабравалі). *Нос., Слов., 15; Дуб., 21.*

1983. Хто гуляе змаладу, той памрэ з голаду. *Сержп., 46.*

1984. Гульня ў маладосці дае хваробу на старыя косці. *Сержп., 82.*

1985. Гулі ў лапці абулі. *Сцяшк., 586, Ашм. Вар.: Сержп., 44; Ляцкий, 3.*

а) Ба́лі ды гулі ў лапці абулі. *Ляцкий, 3. Вар.: Сержп., 46; Раст., 84.*

б) Гулі бабулі, ды ў лапці абулі. *Dybow., 9.*

в) Гулі не аднаго ў лапці абулі. *Дуб., 10; Нос., 30.*

1986. Гулі, гулі, будзеш хадзіць без кашулі. *Fed., 121.*

а) І сягоння, і заўтра гулі — пойдзеш без кашулі. *Сержп., 46.*

б) Учора гоцкі, дзісяй гоцкі — будзеш хадзіць без сарочкі. *Fed., 111.*

в) Сёння гуляшкі, а заўтра без рубашкі. *Янк. М., 48.*

1987. Гулі (сваволя) да дабра не даводзяць (не даводзіць). *Fed., 121, 295.*

а) Гульня не даводзіць да дабра. *Сержп., 47.*

б) Шалы да добрага не даводзяць (не давядуць). *Шейн, II, 483, Віл. п.; Ляцкий, 59; Fed., 295.*

1988. Гулі (сваволя) плачам канчаюцца (кончыцца, канчаецца). *Fed., 121, 295; Сцяшк., 607, Гродз.*

1989. Добра гульня, да не штодня. *Сержп., 45. Вар.: Нос., 30; Калянд., 1925.*

1990. Як у людзей банкет, то і ў нас работы нет. *Fed., 22.*

1991. Тады добра пагуляць, як нечага заганяць. *Fed., 211.*

1992. Гулявы нож ні на што не згож. *Нос., 30.*

1993. Гуляючы, розуму не прыдбаеш. *А. Мацкала, 1965, Іў. 13.10.3.*

1994. Хто гуляе, у таго хамут муляе. *Сержп., 70.*

1995. Карта пахмель любіць. *Fed., 138.*

1996. Карты — не жарты. *М. Грынблат, 1930, Мінск.*

1997. Карты не жарты: прайграй да й аддай. *Ром., Бел., I, 298.*

1998. У карцішак няма брацішак. *Fed., 138.*

1999. Карты не валы́: да дня вывезуць. *А. Фядосік, 1962, Капатк. 8.1.76.*

2000. Хто грае ў карты, таму лоб абдарты. *Fed., 138.*

2001. На туза і валета прагуляў усё лета. *Янк. М., 23.*

2002. Іграў, пакуль дайграўся. *Нос., 54; Fed., 114.*

2003. Табаку́ры — к табачку́, п'яніцы — к кабачку́. *Добр., Смол., 122.*

2004. Хто табак жрэць — агнём жрэць: ні граха, ні спа́сення. *Добр., Смол., 121.*

2005. Хто курыць, таго з пекла тураць, а хто нюхае, той сам у пекла трухае. *Шейн, II, 483, Ігум. п.*

2006. Хто нюхаець табачок, тэй добры мужычок, а хто зажыва́ець таба́кі, не варт сабакі. *Нос., 177.*

2007. Хто курыць, за тым чорт шкурыць; хто нюхаець табачок, тэй ца́раў мужычок. *Добр., Смол., 122.*

2008. Дай бумажку, закуру тваю таба́чку, бо ў мяне няма спічкі. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

2009. Калі курэц, то насі трубку і тытуне́ц. *Дуб., 30; Fed., 158. Вар.: Рапан., 254.*

а) Кожан курэц мае сваю люльку і тытуне́ц. *М. Грынблат, 1928, Мінск.*

2010. Табачку́ к аднаму бачку́. *Добр., Смол., 121.*

2011. Табачку нюхнём — за мора махнём. *Добр., Смол., 121.*

2012. Нуце-ка, бясы́, чысціце насы: чорт табакі прынёс. *Добр., Смол., 121.*

## ЗЛАДЗЕЙСТВА. МАХЛЯРСТВА

2013. Калі хочаш прапасці, начані (ідзі) красці. *Гильт., 289, Брэсц. п. Вар.: Ром., Бел., I, 299; Сержп., 88; Цар., 244, Мінск; А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15; А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

а) Хоча чалавек прапасці — пачынае красці. *1961. Кап. 13.9.5.*

б) Хто хоча прапасці, няхай вучыцца (пачне) красці. *Гильт., 291, Пруж. п.; Fed., 152, 243.*

2014. Красці, як упасці — не на дабро. *«Звязда», 25 мая 1969 г.*

2015. Ты красці не думай — не на дабро. *Ляцкий, 46.*

2016. Злодзей крадзець не для прыбытку, а для пагібелі. *Сцяшк., 592, Ашм.*

2017. Лепш жабраваць, ніж красці. *Fed., 321.*

а) Лепш прасіць, ніж красці. *Fed., 152.*

2018. Лепш папрасі, а так не нясі. *Сержп., 88.*

2019. То не ўстыд, што дадзена, да то ўстыд, што крадзена. *Fed., 323.*

2020. Не бяры, калі не палажыў. *Fed., 42.*

2021. Нечага варажыць, калі пад бокам ляжыць. *Нос., Слов., 66.*

2022. Згаворлівы чалавек: бярэць, што ў рукі пападзець. *Нос., 48.*

2023. У яго адна малітва: пусці, божа, у чужы пограб, памажы нагрэбці да вынесці. *Янк. М., 86.*

2024. Свой карман май, а ў чужы не заглядай. *М. Бандарэнка, 1966, Маз. 13.3.29.*

2025. Не рушай нічога, само не ўлезець у рукі. *Нос., 102.*

2026. Не крадзь і не плач. *Fed., 152.*

2027. Злодзею няма веры, хоць зямлю есць. *Дуб., 22.*

2028. Лепш вораг спаліць, чым злодзей хваліць. *Сержп., 87.*

2029. Ад зладзейства не разжывешся. *Сержп., 88.*

2030. Крадзеным доўга не пажывеш. *М. Бандарэнка, 1966, Маз. 13.3.29.*

2031. Крадзеным сыты не будзеш. *І. Суконкін, 1960, Церах. 13.3.29.*

а) Крадзеным не пасычаеш. *Fed., 152.*

б) Краннём сыт не будзеш. *Юрч., 1969, 232.*

2032. Крадзена не ідзе ў карысць. *Fed., 152.*

а) Крадзенае ў карысць не пойдзець. *Дуб., 28.*

б) Крадзенае карысці не прыносе. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

2033. Крадзеным падавішся. *І. Суконкін, 1960, Церах. 13.3.29.*

2034. Хаця голы, ды не злодзей. *Сержп., 88.*

2035. Не заракайся красць: бог беднасць дасць. *Добр., Смол., 15.*

2036. Не заракайся красць, гэта як бог дасць. *Ляцкий, 25; Ром., Бел., I, 303.*

2037. Што ўкраў з'есці, то не злодзей. *Fed., 318.*

2038. У лесе і злодзей не злодзей. *Сержп., 87.*

2039. Елка і хвая́: украў, дык мая. *Ляцкий, 11.*

2040. У лесе крадзеш — поле ўбачыць, на полі крадзеш — лес убачыць. *Янк., Абр., 58.*

а) Лес крадзе — поле бачыць. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29; С. Маісеенка, 1965, Жлоб. 13.3.25.*

б) Лес крадзе — поле бачыць, поле крадзе — лес бачыць. *М. Бандарэнка, 1966, Маз. 13.3.29.*

2041. Бог казаў, што і разбойнікам жыць трэба. *Fed., 259.*

2042. І злодзею жыць трэба. *Fed., 356.*

2043. Той не злодзей, што ў злодзея ўкраў. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

2044. Для каго злодзей, а яму дабродзей. *Сержп., 88.*

2045. Крадзенае (заўжды) смашней. *Нос., 69; Дуб., 28. Вар.: Сержп., 87; Fed., 152.*

2046. Крадзенае лепш родзіць. *Fed., 152.*

2047. Добра красці, як ёсць да чаго прыкласці. *Сержп., 87.*

2048. Каб не пераводнікі, то б зладзеяў не было. *Fed., 228.*

а) Не было б зладзеяў, каб не было пераводнікаў. *Fed., 356.*

2049. Калі красць, то ты́сяч, каб было за што вісець. *Fed., 152.*

а) Крадзі хоць тысяч, каб было за што вісець. *Ром., Мат., 84.*

2050. Злодзеяў мераю не мерäць. *Fed., 357.*

2051. Хапай, пакуль цябе не схапалі. *Ляцкий, 52.*

2052. І злодзей да пары крадзе. *Fed., 356.*

2053. Злодзей і спіць і дрыжыць. *Сержп., 87.*

2054. Злодзей сонейка баіцца, але і месяца таіцца. *В. Санько, 1969, Слуцк.*

2055. Злодзею адна дарога, а таму, хто гоніць,— дзесяць. *Fed., 357.*

а) Злодзею адна дарога, а тым, што ловяць,— дзесяць. *Fed., 357.*

б) Вару адна дарога, а хто даганяець, таму многа. *Нос., 16.*

2056. Раз толька ўкраў, а судзяць. *Ляцкий, 37.*

2057. Варона за сыр, а вароне — цыр. *Ляцкий, 6.*

2058. Пойманы воўк усёгды ўдабраецца. *Нос., Слов., 47.*

2059. Каня водзяць на аброці, а злодзея на ланцузе. *Сержп., 87.*

а) Вядзі каня на абротцы, а злодзея на ланцугу. *Нос., Слов., 352.*

2060. Па нітачцы і клубок знайдзеш. *Ляцкий, 33.*

а) Па нітачцы знойдзеш клубочак. *Сержп., 99.*

б) Па нітцы дойдзеш да клубка. *Fed., 203; Pietk., 331.*

в) Па нітцы клубочкаў дойдзеш. *Fed., 146.*

г) Знайшоўшы нітку, знойдзеш і клубок. *І. Цішчанка, 1969, Слаўг. 8.2.21.*

д) Па нітачцы клубочак знаходзяць. *Нос., 133.*

е) Пацягнуў за нітачку, а там цэлы клубочак. *«Калгасная праўда», 28 ліпеня 1962 г.*

ж) Дабраўся па нітачцы і да клубка. *І. Лушчыцкая, 1960, Нясв. 8.1.52.*

з) Які б вялікі клубок ні быў, а канец яго недзе ёсць. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

і) Да часу (да пары) штука ўдаецца. *Fed., 300.*

2061. Колькі, злодзей, ні круці — ад суда табе не ўйсці. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

2062. Колькі злодзею не красці, а турмы не мінаваць. *Ахрым., 36.*

2063. Ні адзін злодзей прызнаецца. *Ром., Бел., І, 304.*

2064. Злодзей заўсёды крычыць, што ён невінаваты. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

2065. Сам кухар пячонку злізаў, а на коціка сказаў. *Бяльк., 242, Мсцісл.*

2066. Няма чаго маліцца, калі з-за пазухі валіцца. *Ляцкий, 26; Л. Малаш, 1970, Докш.*

2067. Злодзея павесяць, а на яго месца дзесяць. *Сержп., 88.*

2068. У чэпчыку радзіўся, а ў матузку згіне. *Pietk., 339.*

а) У чапцу радзіўся, а на вяроўцы згіне. *Fed., 262.*

2069. Красць вольна, да б'юць больна. *Нос., 69.*

а) Красці было б вольна, каб не білі больна. *Fed., 152.*

2070. Злодзея б'юць і аддыхаць не даюць. *Сержп., 87.*

2071. Не за тое воўка б'юць, што шэр, а за тое, што авечку з'еў. *1961, Брасл. 13.9.5.*

2072. Пайшоў воўк па воўну, але там астаўся астрыжаным. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

2073. Шкадлівую скаціну б'юць. *Ляцкий, 60.*

а) Шкадліваму кату ўсюды пападае. *Т. Багдзевіч, 1965, Шчуч. 13.10.6.*

2074. Шавец сукно ўкраў, а краўца выбілі, бо ён гэтым займаецца. *Fed., 297.*

2075. Сяло не без злодзея. *Сержп., 88.*

а) З кожнага сяла па злодзею. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

2076. Няма лесу без воўка, а сяла без злодзея. *Ляцкий, 26.*

2077. Відна па вочках, хто ходзіць па ночках. *Нос., 14. Вар.: Дуб., 8; Сержп., 68; Fed., 336.*

2078. Злодзей злодзея здалёк пазнае. *Гільт., 292, Вілен. п.*

2079. Злодзей злодзея па ачах пазнае. *Fed., 357.*

2080. Злодзей з злодзеем не ладзяць. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

2081. Злодзей злодзея б'е. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом., 13.3.29.*

2082. Злодзей на злодзеі едзе і злодзеем паганяе. *Pietk., 401; Сержп., 88; Fed., 357.*

2083. Такі свет настаў, што ні палажы, ні пастаў. *Fed., 308.*

2084. Хто ідзець на стра́сці, а хто красці. *Дуб., 68.*

2085. Дзе сустрэў, там і з'еў. *Ляцкий, 10.*

2086. Цішком браў, да не краў. *Нос., 180.*

а) Не ўкраў, а ціхенька ўзяў. *Сержп., 87.*

2087. Ходзіць ціхом, а валочыць мяхом. *Янк., Дыял., I, 223, Глуск.*

2088. Ён чэсны чалавек: не возьмець, хіба ўкрадзець. *Дуб., 19.*

2089. Ніхто не адкінець, а скарэй возьмець. *Нос., 114.*

2090. Наш Іван не балван: што паймаў, то ў карман. *Fed., 123.*

2091. Хап да ў торбу. *Дуб., 68.*

2092. От здагадаўся — за кілбасу ды ў шапку. *А. Бізук, 1965, Шчуч. 13.10.1.*

2093. Цаца, цаца — ды ў кішэню (карман). *Сержп., 88; А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

а) Жарты-жарты — ды ў кішэню. *Сержп., 68.*

2094. Ад яйца адальець. *Нос., 123.*

а) Злодзей і ад яйца адалье. *Г. Прытычанка, 1960, Карм. 13.3.29.*

2095. Як украў, то й прапаў. *Fed., 152.*

2096. Што ўкрадзена, то прападзена. *Fed., 152.*

2097. Кожны чуе, што і злодзей працуе. *Сержп., 87.*

2098. Рыбу ў воду ўпусціў. *Fed., 267.*

2099. Пусціў воўка ў аўчарню (аўчарнік). *Нос., 141; Юрч., 1974, 275.*

а) Пусці воўка да авец. *Fed., 340.*

б) Ваўку барашка паручыў. *Міеп., 397.*

2100. Пускаць лісіцу ў куратнік. *Юрч., 1974, 276.*

2101. Пусціў казла (свінню) у вагарод. *Dybow., 17; Fed., 143, 309.*

2102. Заракалася свіння град не капаць. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

2103. Не вер казлу ў капусце, а ваўку ў авечках. *Сах.*

2104. І сабакі не брахалі, а маю сакеру (мае рукавіцы) укралі. *Pietk., 327.*

а) І сабакі не брахалі, і порткі ўкралі. *Сержп., 88.*

2105. Прапала — і брукаў не стала. *Крэмнеў.*

2106. І не ўгледзіш, як яму к руцэ прыліпне. *Pietk., 337.*

2107. Прывезлі мукí — ліпне да рукі. *В. Скідан, 1970, Астр. 8.2.32.*

2108. Майсцер да чужых кайсцер. *Ром., Бел., I, 300; Сержп., 88; Pietk., 377. Вар.: Цар., 244. Хоц.*

а) Майстар да чужых тайстар. *Дуб., 35.*

б) Майсцер на чужы кляйсцер. *Ляцкий, 20.*

2109. Майстар і чытаць, і пісаць, і з гаршкоў хапаць. *Янк., 106.*

2110. Найгоршыя злодзеі — старажы. *Fed., 291.*

2111. Свой злодзей гарэй чужога. *Сержп., 88.*

2112. Дамашняга злодзея не ўпілнуеш. *Fed., 356; Сцяшк., 587, Гродз.*

а) Ад дваровага (хатняга) злодзея не ўсцеражэшся. *Нос., 121; Сержп., 88; Fed., 356.*

б) Ад дамашняга злодзея ні з чым не захаваешся. *Pietk., 400.*

2113. Ты з варот, а ён чэраз плот. *Dybow., 190.*

2114. Раз украў — навек сабе славу замараў. *Нос., 144.*

а) Раз украў — на цэлы век дарогу сабе замараў. *Tyszk., 417; Dybow., 188.*

б) Раз украў — навек злодзеем стаў. *Сержп., 88.*

2115. Хто раз украў, той і яшчэ ўкрадзе. *Ляцкий, 55.*

2116. Хто раз украў, таго і цягне. *Сержп., 87.*

2117. Хто змоладу звыкнець (узвычаіўся) красць, тэй і пад старасць не мусіць (не маець) перастаць. *Нос., 176; Нос., Слов., 51.*

2118. Як злодзея ні ўблажай, а дабра ад яго не чакай. *Сержп., 87.*

2119. Пасябраваўшыся з злодзеямі, сам станеш злодзеем. *Дуб., 45.*

2120. За пчолкаю ў мёд, за жукам у гной. *Янк., 89.*

2121. Пабратайся (займіся) з злодзеямі, то й цябе так уважаць будуць. *Fed., 357.*

2122. На злодзею (і) шапка гарыць. *Czeczot, 111; Tyszk., 414; Dybow., 14; Гильт., 292, Віл. п.; Mien., 397; Нос., 84; Fed., 39; Ляцкий, 23; Сержп., 88; Fed., 256; Pietk., 352; А. Куцакова, 1956, Раг. 13.3.29; Р. Мухляда, 1965, Шчуч. 13.10.5; 1961, Кап. 13.9.5.*

2123. Хто парася ўкраў, таму ў вушах пішчыць (вішчыць). *Tyszk., 417. Вар.: Нос., 177; Дуб., 70; Сержп., 88; Pietk., 334; 1961, Кап. 13.9.5; Р. Мухляда, 1965, Шчуч. 13.10.5; А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15; Н. Парукаў, 1958, Добр. 13.3.29; П. Рында, 1967, Зельв. 13.10.23.*

а) Крадзенае парася ў вушах звініць. *М. Бандарэнка, 1966, Маз. 13.3.29.*

2124. Чыё парася ў плот увязла, таму ў вушах пішчыць. *Сцяшк., 615, Гродз.; А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15. Вар.: Шырма, 207.*

2125. Хто сала краў, таму ў вочы дым ідзе. *Pietk., 375.*

2126. Знае кошка, чыё сала з'ела. *Нос., 50; Дуб., 22; Fed., 150. Вар.: Л. Царанкоў, 1960, Хоц. 13.9.2.*

2127. Ад злодзея не схаваешся. *Сержп., 88.*

2128. Злодзей замка́ не баіцца. *Fed., 357.*

а) Ад злодзея замка́ няма. *Fed., 356.*

2129. Злодзею трудна адзін замок зламаць, а другія ніпачом. *Нос., 49.*

2130. Ад бяды не ўберажэшся, ад злодзея не замкнешся. *Сержп., 22.*

2131. Замок ад добрага чалавека. *Ром., Бел., I, 296.*

а) Замок не для злодзея, а для добрага чалавека. *Нос., 45; Сержп., 87.*

б) Замок не ад злодзея вешаюць, ды ад добрага чалавека. *Fed., 348.*

в) Не для злодзея, а дзеля ўсякага дабродзея. *Янк., Абр., 52.*

г) Замок не для зладзе́я, а для пана дабрадзея. *Нос., 46.*

2132. Для злодзея замок ніц. *Fed., 356.*

2133. Замок ад благіх рук. *Ляцкий, 12.*

2134. Не мыш злодзей, а дзірка. *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

2135. Крадзь, ды засцерагайся. *Ром., Бел., I, 299.*

2136. Хоць украў, абы канцы схаваў. *Ром., Бел., I, 312.*

а) Хоць украў, абы добра схаваў. *Fed., 318.*

2137. Украсці не штука, але схаваць (канцы) — навука. *Ляцкий, 18, 49.*

2138. Умеў красць, умей і канцы хаваць. *Ром. Бел., I, 312.*

2139. Хто ўмее красці, той умее хаваць. *Fed., 152.*

2140. Красць краў, да канцоў не схаваў. *Нос., 69.*

2141. Не той злодзей, што краў, а той, што хаваў. *Сержп., 87.*

а) Не той злодзей, што крадзе, а той, што канцы хавае. *Ляцкий, 30; Ром., Бел., I, 304. Вар.: М. Грынблат, 1973, Асіп. 8.1.65.*

б) Не то злодзей, што ўкраў, а то, што ўкраў да добра схаваў. *Шейн, II, 479, Ігум. п.*

2142. Не той злодзей, што ўкраў, ды той, што кепска схаваў. *Fed., 356.*

2143. Не той злодзей, што крадзé, але той, што перавядзе. *Fed., 356.*

2144. Не кайся ўкраўшы, а кайся папаўшы. *Ляцкий, 26; Сержп., 87.*

2145. Умеў улезці, да не патрапіў вылезці. *Fed., 319.*

2146. Не за то, што краў, а што красць не ўмеў. *С. Маісеенка, 1965, Жлоб. 13.3.25.*

а) Не за тое білі, што ўкраў, да за тое, што кепска схаваў. *Fed., 30; Pietk., 357. Вар.: Шпил., 185; Нос., 97.*

2147. Не за тое, сядзеў, што краў, а за тое, што папаўся. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

2148. Прапаў мех — і на роднага бацьку грэх. *Tyszk., 422; Dybow., 188; Ляцкий, 35; Дразд.; 1961, Кап. 13.9.5. Вар.: Нос., 140.*

а) Калі згіне мех, то й на бацька грэх. *Pietk., 321. Вар.: Fed., 183.*

б) Прападзець мех, дак і на бацьку грэх. *Добр., Смол., 13.*

2149. Хто б аб дзятле ведаў, каб не яго доўгі нос. *Tyszk., 420; Dybow., 191.*

а) Чорт бы дзятла знаў, калі б не яго доўгі нос. *Нос., 183. Вар.: Ром., Бел., I, 304; Pietk., 318; Нос., 175; Fed., 90; I. Сагарава, 1950, Браг. 8.1.35.*

б) Ніхто б дзятла не ўвідзеў, каб не яго дзюб. *Mien., 396. Вар.: А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15; Дразд.*

в) Хто пазнаў бы дзятла, каб не доўгі нос. *Шырма, 206.*

г) Хто б не знаў салаўя, каб не яго песні. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

2150. Не ў том толк, што не з'еў казу воўк, а ў том талачына, куды дзелася аўчына. *К. Кабашнікаў, 1970, Астр. 8.2.34.*

2151. Злодзей злодзея не выдасць. *Fed., 357.*

2152. І коні ўкрадзеныя найдуцца, як злодзеі паб'юцца. *Pietk., 400.*

2153. Каб тыя рукі паадсыхалі, што чужога браць не хочуць. *Fed., 265.*

2154. Не ўзяў за руку, не кажы злодзей. *Tyszk., 422; Шпил., 186. Вар.: Нос., 94; Dybow., 186; Fed., 357; Дуб., 38: Бяльк., 309, Чэр.*

а) Не злавіў, не кажы — злодзей. *Сержп., 87, 88.*

б) Не кажы злодзей, пакуль не ўхопіш. *Ляцкий, 26.*

2155. Няхай сабе ўкраў, абы ты не відзеў. *Ляцкий, 28.*

2156. Няхай сабе ўкраў, абы не ў цябе. *Ляцкий, 28.*

2157. Шукай у полі ветру. *Міеп., 397; Ром., Бел., I, 315; А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15. Вар.: Нос, 58; Ляцкий, 61; А. Мацкала, 1965, Іў. 13.10.3.*

а) Лаві ветра ў полі. *Сержп., 20.*

2158. У полі ветру не зловіш. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

2159. То не крадзена, што назад кладзена. *Fed., 152.*

2160. Хто круціць, той мае. *Fed., 153; М. Грынблат, 1969, Мінск.*

а) Хто круціць, той і жыве. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

б) Хто круціцца, жыць вучыцца. *Нос., 176; Дуб., 69.*

2161. Хто круце ды матае, таму і бог памагае. *Ром., Бел., I, 213.*

2162. Пралáзу відаць адразу. *Л. Царанкоў, 1960, Мінск, 13.9.2.*

2163. Хоць дурны, але шэльма. *Fed., 85.*

2164. Плут на плу́ту едзець і плу́там паганяець. *Нос., 128.*

2165. Шут на шу́та трапіў, абодва плу́ты. *Міеп., 396.*

2166. Чалавек не чалавек, а так сабе валацуга. *Сержп., 96.*

2167. З валачашчага карысці не будзе. *Сержп., 26.*

2168. Быў і на кані, і пад канём. *Czeczot, 107. Вар.: Нос., 10; Ром., Зап., III, 228; Fed., 149; Т. Багдзевіч, 1965, Шчуч.* 13.10.6.

а) Быў на возе і пад возам. *Fed., 341.*

б) Бываў на лаве і пад лаваю. *Янк., 373.*

2169. Ён быў і ў коле і ў мяле. *Сержп., 99.*

2170. З сямі печаў хлеб еў. *Цяшк., 591.*

2171. На хаду падноскі адарве. *Л. Царанкоў, 1961, Крыч. 13.9.2.*

2172. І бога ашукае, і ў чорта адхопіць. *Янк., Абр., 34, Глуск.*

2173. Пад усе бочкі шпунт. *Л. Царанкоў, 1960, Касц. 13.9.2.*

2174. Абы галава пралезла, то ўвесь пралезе. *Л. Царанкоў, 1960, Брэсц. 13.9.2.*

2175. З ветру вяроўку саўе. *Цяшк., 590, Воран.*

2176. Ён і з мяшка вывінецца. *Fed., 345.*

2177. З сухой анучы ваду выкручвае. *Рапан., 145.*

2178. З аглоблі масла выцісне. *«Звязда», 28 лютага 1961 г.*

2179. З печанага яйца жывое куранё выседзеў. *Рапан., 145; В. Дашкоўская, 1965, Ваўк. 13.10.2.*

2180. Умее з чорнага на белае рабіць. *Ляцкий, 50.*

2181. Каб сказаць яму воду мяшаць, то ён будзе. *Fed., 325.*

2182. Быўшы ў вадзе, стаў сух. *Нос., 9.*

2183. Баламутка на ўсякія (усялякія) штукі хутка. *Нос., 4; Дуб., 5; Сержп., 56.*

а) Баламутка на ўсё (да ўсяго) хутка. *Fed., 21.*

2184. Бог шэльму меціць. *Сержп., 39.*

2185. Круцячы (крутнёй, круцельствам, махлюючы, ашуканст-

ствам), свет перайдзеш, да назад не вернешся. *Tyszk., 417. Вар.: Dybow., 192; Дуб., 26; Гильт., 293, Віл. п.; Булг., 176; Нос., 40; Fed., 173; Сержп., 15; А. Гурскі, 1967, Бял. 8.1.112.*

а) Падманам увесь свет пройдзеш, але назад не вернешся. *А. Ліс, 1969, Смарг.*

б) Крутнéю, мутнéю свет пяройдзеш, а назад не вернешся. *Kolb., 472, Пін. п.*

2186. Хто круціць, той скруціцца. *Сержп., 15.*

а) Не круці, бо сам скруцішся. *Сержп., 132.*

б) Не круціся ў людзей: скруцішся. *Ляцкий, 26.*

2187. Круцяшчае кóлеса накруціць або на корч, або на сторч. *Fed., 147.*

2188. Крутнёю мала пражывеш. *Бяльк., 258, Краснап.*

2189. Прыйшло мяхом і пойдзець крахом. *Дуб., 51.*

2190. Хваціць чарцей сляпіць. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

2191. Гарцаваў, гарцаваў, пакуль карку (шыі) не зламаў. *Ляцкий, 7.*

2192. Нос уцёр Кузьме, а сам плача. *Ляцкий, 29.*

2193. Пакруціў, памуціў ды й кажа: ну добра, няхай будзе і так. *Fed., 213.*

2194. Жыў грэшна і загінуў смешна. *Л. Царанкоў, 1960, Мінск 13.9.2.*

## БАЛБАТНЯ. ПЛЯТКАРСТВА. СВАРКА

2195. Слова — серабро, а маўчанне — золата. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

2196. Дзяржы язык за зубамі. *А. Куцакова, 1956, Рак. 13.3.29; І. Ламека, 1965, Ваўк. 13.10.2.*

2197. Прамаўчанае слова не псуець. *Дуб., 45.*

2198. Лепш памаўчаць, ніж гаварыць невядома што. *Fed., 180.*

а) Хораша сказаць, але лепей прамаўчаць. *Зах., 251.*

2199. Трэба ведаць, калі сказаць, а калі памаўчаць. *Fed., 280.*

2200. Маўчок — пятачок, а два — грывеннік. *І. Хаўратовіч, 1951, Талач. 13.8.4.*

2201. Хто гавора — сееаць, хто маўчыць — жнець. *Сах.*

а) Хто гаворыць, той сее, а хто слухае, той сабірае. *Т. Шумская, 1967, Кліч. 13.10.21.*

2202. Хто маўчыць, двох наўчыць. *Pietk., 378. Вар.: К. Кабашнікаў, 1965, Тур. 8.1.102.*

2203. Не стыдна маўчаць, калі нечага сказаць. *Ром., Зап., III, 227.*

2204. Пабольш еш, ды паменш гавары. *Радч., 248.*

2205. Памаўчы, язычок, калі ясі, а не памаўчыш — трасцу з'ясі. *Добр., Смол., 135.*

2206. Маўчы, а то зацеюць таўчы. *Нос., 78.*

2207. Не ўсё то казаць, што на рот лезець. *Нос., 94.*

2208. Вярзе ігрушу на вярбе. *Рапан., 139.*

2209. Трэба знаць, дзе што сказаць. *В. Іваноўская, 1963, Смарг. 8.1.83.*

2210. Многа знай, а мала бай. *Сах.*

2211. Не ўсё бай, што знаеш. *Добр., Смол., 136.*

2212. Болей слухай, меней гавары. *Нос., 8. Вар.: Fed., 282.*

2213. Слухай многа, а гавары мала. *Fed., 283.*

2214. Гаварыць — гавары, ды меру знай. *1961. Кап. 13.9.5.*

2215. Лепш недагаварыць, чым перагаварыць. *Fed., 207.*

2216. Меней гаварыць — сабе ўрадзіць. *Сах.*

2217. Рота нікому не завяжаш. *Нос., 145.*

а) Людзям ратоў не пазавязваеш. *Pietk., 390.*

б) Людзям языка не прывяжаш. *Сержп., 3. Вар.: Н. Парукаў, 1958, Добр. 13.3.29.*

в) Людзям губы не завяжаш. *Mien., 396.*

2218. У людзей губа не замкнёна (не завязана). *Fed., 63, 120.*

2219. На чужы раток не павесіш замок. *Г. Барташэвіч, 1964, Сен. 8.1.90; М. Грынблат, 1966, Мінск.*

а) На чужы раточак не пачэпіш замочак. *Янк. М., 77.*

б) На чужы раток не накінеш платок. *Л. Царанкоў, 1960, Хоц. 13.9.2; В. Таранка, 1965, Брасл. 13.10.1.*

2220. Няма такой хусты, каб завязаць усім ýсты. *Fed., 55, 323.*

а) Вяліка трэба хуста завязаць людзям ýста. *Ворожб.*

2221. Чужы рот не хлеў — не зачыніш. *Нос., 185.*

а) Чужы рот не варот — не зачыніш. *Ром., Бел., I, 314; Сах.*

б) Чужыя языкі не свае вароты — не зачыніш. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

в) Чужога хлява не зачыніш, другому рота не завяжаш. *М. Бохан, 1965, Маст. 13.10.5.*

2222. Да чужога рота не зробіш варота. *Мін.-Мал., 1970, 160, Уздз.*

2223. На чужы раток гузіка не нашыеш. *Янк. М., 77.*

2224. Чужы роцік не каўнерык — яго не зашпіліш. *Сцяшк., 615, Гродз.*

2225. Гаварыў бы, да рот замазан. *Нос., 25. Вар.: Дуб., 32; Fed., 280, 107.*

2226. Ці табе цяляты язык ад'елі? *М. Бандарэнка, 1966, Маз. 13.3.29.*

2227. Сказаў бы, але ўдавіўся. *Fed., 107, 280.*

2228. Забыўся языка ў губе. *Fed., 127.*

2229. Хачу — кажу, языка не сашчэпіш. *Ляцкий, 53.*

2230. У закрыты рот муха не заляціць. *В. Зубараў, 1965, Гом. 13.3.29.*

2231. У людзей доўгі язык. *Сержп., 3.*

2232. Язык як цэп літоўскі. *Добр., Смол., 135.*

2233. Язык у роце — гавары, што хоці. *Нос., 192.*

2234. Язык на тое і прычэплен. *М. Грынблат, 1960, Сір. 8.1.147.*

2235. Рот нараспашку, язык на плячо. *У. Хомка, 1965, Гродз. 13.10.4.*

2236. Хоць ты яму на язык стань. *Добр., Смол., 47.*

2237. Язык без касці — усё хвашчы. *Ляцкий, 61.*

а) Язык без касці — што хоч, то й хвашчы. *Л. Царанкоў, 1960, Мінск 13.9.2.*

б) Язык без косці — што захоча, тое схвошча. *Сцяшк., 616, Маст.*

в) Язык без касці — што хочаш халасці. *1960, Кап. 13.9.2.*

г) Язык без косці — што хоча, то хлосціць. *Fed., 126.*

2238. Язык — мяса без касцей, куды хочаш, павернеш. *Нос., 192.*

2239. Ба́іш, як поп, а слухаць нечава. *Аним., 262.*

2240. Язык у роце, як чорт у балоце. *Добр., Смол., 135.*

2241. Язык ляшчы́ць, што калаўрот трашчыць. *Ляцкий, 61.*

2242. За яго языком не паспееш і басяком. *Цар., 243, Мінск.*

2243. Сам ад сябе не 'дгаворыцца. *Добр., Смол., 115.*

2244. Як загаворыць, дык і сабаку не дасць слова прамовіць. *Рапан., 160.*

2245. Язык балтаець, галава не знаець. *Міеп., 395.*

2246. Язык ідзе ўперад вума. *Л. Царанкоў, 1960, Рэч. 13.9.2.*

2247. Пашоў па лыка, абадраў язы́ка. *Fed., 127.*

2248. Галава адна, а языкоў дзесяць. *Fed., 99, 126.*

2249. Хто язык доўгі маець, таму дрэнна бываець. *1961, Брасл. 13.9.5.*

2250. Языча, языча, які цябе чорт кліча? *С. Маісеенка, 1965, Жлоб. 13.3.25. Вар.: З нар. сл., 117, І. Яшкін, Пух.*

2251. Языча, языча, сабе дабра не пазыча. *Добр., Смол., 135.*
а) Языча, языча, ці ліха цябе мыча: ва мне сядзіш. а мне дабра не зычыш. *Нос., 192.*

2252. Языча, языча, сядзіш у мне і ліха мысліш мне. *Радч., 249.*

2253. Не прывык сыпаць перац на язык. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

2254. Жаба малая, а горла велька. *А. Шчыкарэвіч, 1965, Навагр. 13.10.4. Вар.: Янк., 217.*

2255. Жаба і на каня разяўляецца. *Рапан., 143.*

2256. Сабака віляе хвастом, а ты языком. *В. Дашкоўская, 1965, Ваўк. 13.10.2.*

2257. Вялікі сабачы язык, ды траплом празвалі. *В. Дашкоўская, 1965, Ваўк. 13.10.2.*

2258. На языку жаба не спячэцца. *І. Ламака, 1965, Ваўк. 13.10.2.*
а) У яго і жаба на языку не спячэцца. *Я. Бартко, 1965, Дзятл. 13.10.4.*
б) Яму на языку рак не спячэцца. *Fed., 126.*

2259. Ніхто цябе за язык не цягнуў. *Fed., 127.*

2260. Гаманіць — не баліць. *Czeczot, 108; Шпил., 177; Fed., 102.*
а) Гаманіць — галава не баліць. *Нос., 26; Дуб., 10.*

2261. Што на язык узбрадзець, то і пляцець. *М. Грынблат, 1964, Пол. 8.1.87.*

2262. Што каму дапякае, той аб тым і гукае. *А. Ліс, 1963, Шарк.*

2263. Хлебам не кармі, а пагаварыць дай. *Ляцкий, 53.*

2264. Гаварыць, абы гаварыць. *Fed., 108.*

2265. Ты мялі, крывая, твая радава́я. *Добр., Смол., 115.*

2266. Наеўся абы чаго і гаворыць абы-што. *В. Калюк, 1965, Дзятл. 13.10.6.*

2267. Таўчэ ў ступе ваду. *Г. Прытычанка, 1960, Карм. 13.3.29.*

2268. Рукі залатыя, а рот дзіравы. *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

2269. Лапочыць, што на рот лезець. *Нос., 74.*

2270. Што каму на ўме, той і дзяўбе (чаўпе́). *Шейн, 483, Свянц. п. Вар.: Fed., 319; А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*
а) Што каму на ўме, то на языку. *Fed., 319.*

2271. Гаворыць, сам не ведае што. *Fed., 108.*

2272. Гаворыць, што слі́на да гу́бы прынясе. *Fed., 108.*

2273. Плятун наплёў на цэлы вечар сем карабоў. *Дуб., 47.*

2274. Гаворыць, як пяець, а слухаць нечага. *Дразд.*

2275. Век ме́ліць, а пасыпаць не ўме́ець. *Ром., Зап., I, 215.*

2276. Пусты млын меле, а памолу няма. *Л. Лашко, 1967, Дзятл. 13.10.30.*

2277. Нагаварыў мех і торбу. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

2278. Спазніўся кашы пахлябаць і тое, што ўжо чулі, расказаць. *Ляцкий, 42.*

2279. Не загаварывай зубоў, бо не баляць. *Pietk., 401.*

2280. Нагаварыў, што на валовай шкуры не спісаць. *Fed., 196.*

2281. І ў мех не ўбярэш, столькі нагаварыў. *Рапан., 145.*

2282. Галава сама не помніць, што лапочыць. *Нос., 25.*

2283. Гаворыш прашларочны снег. *Fed., 108.*

2284. З пустога ў парожняе нечага пераліваць. *Нос., 158. Вар.: Fed., 227.*

2285. Ад пустога звону карысці нікому. *Н. Парукаў, 1965, Добр. 13.10.19.*

2286. Слоў нагаварыў мяшок, а карысці ні на вяршок. *Н. Парукаў, 1958, Добр. 13.3.29.*

2287. Мы пра людзей часочак, а людзі пра нас гадочак. *Добр., Смол., 87.*

2288. З вялікага глагалення няма спасення. *Дуб., 21.*

2289. На кажды (кожны) гук не адгукаешся. *Нос., 85; Дуб., 37.*

2290. Пакуль ты яму слова, то ён табе дзесяць. *Fed., 282.*

2291. Ты яму пра Тараса, а ён табе паўтараста. *В. Зубарaў. 1956, Гом. 13.3.29.*

2292. Ён гаворыць і выгаварыцца. *Fed., 108.*

а) Што гавораць, то такі выгаварацць. *Fed., 108.*

б) Як людзі што пачнуць гаварыць, то часам выгаварацць. *Fed., 108.*

2293. Хто многа гаворыць, той прагаворыцца. *Pietk., 387.*

2294. Хто многа гаворыць, той дагаворыцца да ліхога канца. *Fed., 107.*

2295. Многае вяканне даводзіць да бякання. *Ром., Зап., III, 223.*

2296. Конь на чатырох нагах спатыкаецца, чалавек адным языком памыліцца. *Fed., 148.*

2297. Нагаворадь сорак бочак арыштантаў. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29. Вар.: Рапан., 147.*

2298. Курыца не птушка, гультай не чалавек, балбатун не гаспадар. *Янк. М., 125.*

2299. Пустая гаворка дарагі час занімае. *Mien., 397.*

2300. Гутарка гутаркай, а ўрэмя не церпіць. *Ляцкий, 8.*

2301. Ад добрых слоў язык не адсохнець. *Сах.*

2302. З языком, як з пірагом. *Fed., 127.*

2303. Хто з язычком, тэй з піражком. *Нос., 76. Вар.: Добр., Смол., 135; Fed., 126; Pietk., 323; А. Фядосік, 1963, Капатк. 8.1.76; М. Бандарэнка, 1966, Маз. 13.3.29; 1960, Брасл. 13.9.5.*

2304. Яго слова вецер. *Fed., 282.*

2305. Што ўбачыў, то й сказаў. *Pietk., 355.*

2306. Што на мыслі, то на языку. *Fed., 193.*

2307. Хоць ён казаў, хоць сабака брахаў. *Fed., 141.*

а) Не я казаў — сабака брахаў. *Fed., 142.*

б) Не я казаў, а сабака брахаў, калі ета няпраўда. *Pietk., 387.*

в) Не сабака брэша, а ты кажаш. *Ляцкий, 27.*

2308. Не цюцька, а брэша. *Ляцкий, 31.*

2309. Была некалі сучка, ды збрахалася. *К. Цвірка, 1974, Валож. 8.74.80.*

2310. Як не брахне, дык не дыхне. *Радч., 249.*

2311. Брашы на хвост свой. *М. Бандарэнка, 1966, Маз. 13.3.29.*

2312. Брашы, ды не кусай(ся). *Fed., 42; М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

2313. Блізкае сабака хутчэй укусіць. *Сержп., 125.*

2314. Не ўсе сабакі кусаюць, што лаюць (брэшуць). *Нос., 94; Р. Цыбульская, 1967, Валож. 13.10.24.*

2315. На тое й сабака, каб брахаць. *Ляцкий, 24.*

2316. Без прычыны і сабака не брэша. *М. Бандарэнка, 1966, Маз. 13.3.29.*

2317. Брахлівую сабаку здалёку пачуеш. *Ляцкий, 5.*

2318. Сабака лаець, да ніхто не зважаець. *Нос., 152.*

2319. Сабака брэша — вецер носіць. *Л. Царанкоў, 1960, Рэч. 13.9.2.*

2320. На адной нядзелі сем пятніц. *Нос., 86; Сержп., 122.*

2321. Адзін брэша, а другі падбрэхуе. *Pietk., 359.*

2322. Людзі брэшуць — языкі чэшуць. *Нос., 75.*

2323. Няхай сабе брэшуць, хоць завыюць. *Fed., 42.*

2324. Няхай брэшуць, хоць сарочку здзеўшы. *Нос., 106.*

2325. На сабачы брэх не глядзі, да сваею дарогаю ідзі. *Нос., 98.*

2326. На кажды брэх не набрэшашся. *Нос., 85.*

2327. Нажані з сямі сёл сабак, то і так адбрэшацца. *Fed., 4.*

а) З сямі вёсак сабакі з ім не збрэшуцца. *Fed., 352.*

2328. Ён сабакамі падшыт. *Сержп., 56.*

2329. Ён навуча на сабак брахаць. *Ром., Бел., I, 285.*

2330. Што гаў, што ты сказаў, то ўсё роўна. *Нос., Слов., 106. Вар.: Fed., 279.*

2331. Не хочаш — не слухай, брахаць не мяшай. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

2332. Як ёсць пабрахачы́, дак ёсць і паслухачы́. *Л. Царанкоў, 1961, Мінск 13.9.2.*

2333. Брэшуць, на чым свет стаіць. *Добр., Смол., 115.*

2334. На брахне́ свет не стаіць. *Ляцкий, 22.*

2335. Сама каля печы, а язык за парогам. *Мін.-Мал., 1970, 166, Пух.*

2336. Языком як хоць лай, да рукам волі не давай. *Pietk., 373.*

а) Языком брашы (баўтай), а рукам волі не давай. *Fed., 126; Добр., Смол., 135.*

б) Языком што хацця баўтай, а рукам прасторы не давай. *Нос., 192.*

в) Языком мялі, а рукам свабоды не давай. *Юрч., 1972. 163.*

2337. Ад слова да слова — прышло да кулакоў. *Fed., 282.*

2338. На бабскім языку кароста сядзіць. *Г. Шымко, 1967, Навагр. 13.10.21.*

2339. Каросту на языку цяжка вылечыць. *Мін.-Мал., 1970, 161, Узда.*

2340. Брахлівы пасол абрэша многа сёл. *Fed., 222.*

2341. Ён можа здароваму ўмовіць хваробу. *Fed., 320.*

2342. Языкі чэшуць, пакуль сябе нацешуць. *Нос., 192; Сержп., 5.*

а) Языком чэшыць — сябе цешыць. *М. Грынблат, 1975, Лаг.*

2343. Усю ноч сабака на месяц брахаў, а месяц таго і не ведае. *Лужанін, 48.*

2344. Сабакі брэшуць, а сонца свеціць. *Рапан., 153.*

2345. Што па вадзе плыве — не пераняць, што людзі гавораць — усё не перaслухаць. *Цар., 248, Рэч.*

а) Што на вадзе бяжыць — не пяроймеш, што людзі гавораць — не пераслухаеш. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

б) Усяго не пераняць (не пераймеш), што па вадзе плывець. *Аним., 202; Ром., Бел., I, 292. Вар.: Шейн, II, 474, Ігум. п.*

в) Не ўсё то пераняць, што па вадзе (па рацэ) плывець. *Нос., 94; Ром., Зап., III, 224.*

2346. Гукні на лес, то і адазвецца (абазвецца). *Dybow., 9. Вар.: Fed., 120, 162.*

2347. Гаворыць-гародзіць, а на праўду выходзіць. *Сцяшк., 585, Дзятл.*

2348. Няхай гавораць, ног і рук не адгавораць. *Fed., 108.*

2349. Бачыць не бачылі, а чутно было. *Ляцкий, 3.*

2350. Слова не сажа — не замараець. *М. Бабарыкіна, 1966, Чач. 13.3.29.*

2351. Бойся не нажа, а злога языка. *Мін.-Мал., 1970, 158, Уздз.*

2352. Нікога язык да дабра не давёў. *Fed., 127.*

2353. Бабскія языкі да дабра не давядуць. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

2354. Млын меле — мука будзе, язык меле — бяда будзе. *Fed., 127; А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15; В. Ганчаронак, 1960, Відз. 13.9.26; М. Бандарэнка, 1966, Маз. 13.3.29.*

2355. Не гудзі — не будзеш гуджаны. *Fed., 120.*

2356. Не судзі нікога — не будзеш сам суджаны. *Fed., 293.*

2357. Не каркай на людзей — самога абкаркаюць. *Нос., 98.*

2358. Воран каркаў, ды дакаркаў. *Ром., Зап., I, 216.*

2359. Не хра́кай на нікога, каб на цябе не хракалі (бо цябе абхракаюць). *Fed., 55.*

2360. Хто апляваў, той аблізаў. *Fed., 9.*

2361. Не кажы нічога, не бойся нікога. *Fed., 141.*

2362. Пляці, пакуль не запляцешся. *Ляцкий, 35.*

2363. Язык і кія дапытаецца. *Fed., 126.*

2364. Праз язык галоў (галаву) сцінаюць. *Fed., 127; Рапан., 152.*

2365. Ой, не ляпай пустое, бо як з цапа сарвецца, то й галаве дастанецца. *Ляцкий, 31.*

2366. Галава, за што ты валяешся? — За язык! *Pietk., 373.*

2367. Брахаў, брахаў і заскавытаць прыйшлося. *Рапан., 137.*

2368. Плётку ў адно вуха ўпусці, а ў другое выпусці. *Янк., 251.*

2369. Із хаты ў хатку — рубель упадку. *Мін.-Мал., 1970, 161, Уздз.*

2370. Пірагом заткні горла злосніку. *Нос., 127.*

2371. Чуў, што звоняць, да не знаець, у якой цэркві. *Нос., 184.*

а) Чуў звон, да тога не чуў, у якей цэркві. *Добр., Смол., 135.*

б) Чуў, што звоняць, ды не ведае ў каторым баку. *Шырма, 207.*

в) Гаварацъ, гаманяць, але не ведаюць, дзе званя́ць. *Сах.*

г) Гаворацъ, гамоняць, а не знаюць, у якой цэрквы звонюць. *Нос., 25; Ляцкий, 7.*

2372. Няхай бы яшчэ гаманілі, каб ведалі, дзе званілі. *Ляцкий, 38.*

2373. Ад пустога звону карысці нікому. *Рапан., 137.*

2374. Навіну варона на хвасце прынясла. *І. Курбека, 1961, Докш. 13.9.7.*

2375. На слова — як стой, а па слове — пастой. *Янк., Дыял., III, 162, Глуск.*

2376. Слова не кідай на вецер. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

2377. Сказаўшы слова — не 'дме́ніш. *Добр., Смол., 136.*

2378. Укусіўшы, не заліжаш. *А. Жадзейка, 1963, Дзятл. 13.10.6.*

2379. Трэба знаці, чаго крактаці. *Сержп., 27.*

2380. Нікітка-сычык, атвячаеш за свой язычак. *Добр., Смол., 135.*

2381. Меншы грэх за тое, што ў рот, чымся за тое, што з роту. *Pietk., 321.*

2382. Каб зне́хтаваць, розуму не трэба. *Янк., Дыял., I, 211, Глуск.*

2383. Слухам зямля поўна (поўніцца). *Нос., 151; Ром., Зап., III, 230.*

а) Зямля чуткамі поўніцца. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

2384. Як аб табе чуюць, так цябе судзяць. *Fed., 69.*

2385. Калі звоняць, мусіць, імша будзець. *Ляцкий, 16.*

2386. Няхай звоняць, пакуль ахоту згоняць. *Нос., 106; Г. Румоўская, 1963, Пліс. 13.10.40; Я. Ясюлевіч, 1967, Іў. 13.10.27.*

2387. Сядзяць сабе кумкі ды і кумкаюць. *Янк. М., 104.*

2388. Не глядзі на лаянне сабакі: набрэшуцца да й назад пойдуць. *Нос., Слов., 264.*

2389. Здарылася сляпой курыцы зярня знайсці, і то ўсе ведаюць. *Fed., 158.*

2390. Яна нават ведае, як хто што абедае. *Fed., 331.*

а) Яна нават ведае, што ў каго ў гаршку кіпіць. *Fed., 331.*

2391. Адзін балтае, а другі на вус матае. *М. Бандарэнка, 1966, Маз. 13.3.29.*

а) Адзін збалтаець, а другой на вус матаець. *Добр., Смол., 135.*

2392. Чужыя языкі не спяць. *Fed., 126.*

2393. Людзі сплятуць смалену кабылу. *Fed., 63.*

а) Людзі сплятуць і смаленага дуба. *Fed., 63.*

б) Людзі чаго не скажуць — і смаленую кабылу змажуць (зложуць). *Дуб., 32; Нос., Слов., 595.*

2394. Людзі з блахі зробяць вала. *Fed., 63.*

2395. Уда́ны як запраданы. *Нос., 166; Fed., 317.*

2396. Уда́ны горш забітага. *Fed., 317.*

2397. Не пускай свайго языка па заўголлю. *Добр., Смол., 136.*

2398. Бывае свой язык горай за ліхога суседа. *Янк., Дыял., III, 154, Глуск.*

2399. Ад языкоў нідзе не ўцячэш. *Fed., 125.*

2400. Пра яго і ў Маскве ў лапаць звоняць. *Л. Царанкоў, 1960, Мінск 13.9.2.*

2401. Дзе конь, там воз, дзе дзеўкі, там плёткі. *Сах.*

2402. Гэта плёткі старой цёткі. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29*

2403. На каго людзі, на таго і куры. *Ром., Зап., III, 225.*

2404. Добрыя весці не ляжаць на месцы. *1961, Кап. 13.9.5. Вар.: А. Махнач, 1952, Узда. 13.10.15; Г. Шумская, 1967, Кліч. 13.10.21.*

2405. Пакуль па дроце, дык хутчэй па плоце пяройдзе. *З нар. сл., 116, І. Яшкін, Пух.*

2406. Скажаш слова, а даложаць дзесяць. *Fed., 282; Сцяшк., 608, Бераст.*

а) Скажы слова на пазногаць, а далажаць на локаць. *Суяшк., 608, Гродз.*

2407. Ачарніў чарней зямлі. *Дуб., Нар., 1.*

2408. Скажы бабе па сакрэту. *Ляцкий, 41.*

а) Скажы бабе па сакрэту, а баба — усяму свету. *Г. Шымко, 1967, Навагр. 13.10.21.*

б) Па сакрэту, ды ўсяму свету. *1961, Кап. 13.9.5. Вар.: Добр., Смол., 135.*

в) Дзед бабе (кум куме) па сакрэту, а баба (кума) па ўсяму свету. *М. Гваздзёў, 1963, Арш. 8.1.84.*

2409. Кума куме́ ды па ўсём сяле. *М. Грынблат, 1966, Петр.*

а) Кума куме, а кума на сяло. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

б) Сказала кума куме — і пайшло па ўсім сяле. *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

2410. Калі сказаў бабцы, то так, як усёй грамадцы. *Fed., 13.*

2411. Скажы адной курыцы, а яна ўсёй вуліцы. *А. Куцакова. 1956, Раг. 13.3.29.*

2412. Свіння скажа бораву, а бораў усяму гораду. *Сах.*

2413. Ведае кум ды кума, ды людзей паўсяла. *З. Зубараў, 1956, Гом. 13.3.29.*

2414. Паедзем, бабка, у чужое сяло, то будзем ведаць, што робіцца ў нашым. *Fed., 276. Вар.: Янк. М., 26.*

2415. Калі хочаш ведаць, што дома дзеецца, схадзі ў людзі да папытай. *Аним., 263.*

2416. Прыехала баба з горада, прывезла навасцей тры кораба. *М. Смурага, 1967, Свісл. 13.10.28.*

2417. Ягнéша сем сёл аббрэша і назад прычэша. *Ляцкий, 61.*

2418. Многа чуецца, да мала верыцца. *Fed., 69.*

2419. Вочы завяжаш, а вушэй не заложыш. *Fed., 342.*

2420. За вочы гавары, што хацí (хочаш). *Нос., 44; М. Бандарэнка, 1966, Маз. 13.3.29.*

а) Няхай сабе за вочы кажуць, што хочуць. *Fed., 141.*

2421. Як у вочы, так і за вочы. *Fed., 33.*

2422. Гаварылі за вочы, гаварыце і ў вочы. *Fed., 107.*

2423. Няхай лаюць у вочы, чым за вочы. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

2424. Пра яго і ў бані шэпчуць. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

2425. Пра яго і на вакзале гамзáлі. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

2426. Не ўсякай чутцы вер. *Fed., 9.*

а) Не ўсяму верыць, што людзі кажуць. *Fed., 332.*

2427. Хто сам тáкі, тэй на другога кладзець знакі. *Шейн, II, 483, Маг. п. Вар.: А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

а) Хто сам які́, то й другому дае знакі. *Fed., 359.*

2428. Не відзіць сава, якава сама. *Нос., 94. Вар.: Сержп., 3.*

а) Не бачыць сава, якая сама, да другіх бачыць. *Fed., 263.*

2429. Ніхто на сябе нічаго, да ўсё на каго. *Fed., 270.*

2430. На каго то і куль саломы, а на сябе ні сцябля́. *Fed., 156, 271.*

2431. Другіх не судзі, на сябе паглядзі. *Сах.*

а) Не судзі аб другіх, а лепш паглядзі на сябе. *І. Леснікові, 1965, Смарг. 13.10.4.*

2432. Не гудзі, на сябе паглядзі. *Сержп., 3.*

2433. Сваё і пад носам не бачу, а чужое за лесам відна. *Г. Барташэвіч, 1961, Мядз. 8.1. 67.*

2434. Няхай таго пярун спаліць, хто сам сябе зганіць. *Г. Румоўская, 1963, Пліс. 13.10.40.*

2435. Сам ганіць, ды народ хваліць. *Сержп., 136.*

2436. Ад слова горш балюча, чым ад рук. *Сержп., 95.*

2437. На Саўку накладуць слаўку. *Янк. М., 100.*

2438. Няслаўка — аслаўка, а гаршэй біцця. *Сержп., 4.*

2439. Рана загаіцца, а злое слова ніколі. *Ляцкий, 37; Fed., 282; В. Бондар, 1967, Мінск 13.10.24. Вар.: Пар., 131.*

а) Рана загаіцца, а слова заўсёды ў памяці. *Fed., 258.*

2440. Паклёп як вуголле, калі не абпаліць, то запэцкае. *Цар., 246, Мінск.*

2441. Не будзь цікаў дужа — скора станеш стар. *Нос., 93. Вар.: Нос., Слов., 687.*

а) Не будзь цікавы, бо хутка састарышся. *Fed., 57.*

2442. Што нам да таго, хто радзіў каго? *Нос., 189; Fed., 257.*

2443. Цікавы і ў пекла гатоў лезць — паглядзець, што там дзеецца. *Нос., 179.*

2444. Хто пад дзвярыма падслухуе, то сам на сябе пачуе. *Fed., 209.*

2445. Людзі пра нас гавораць, і мы пра людзей не маўчым. *Добр., Смол., 118.*

2446. Нячуйка і нябачка — то лепшы чалавек. *Fed., 200.*

2447. Пляткарку слухаюць, а не вераць. *В. Санько, 1969, Слуцк.*

2448. За пустое карыта сварацца. *Добр., Смол., 116.*

а) Сварацца за пустое карыта: не за печанае, дак за варанае, не за варанае, дак за сушанае — усё находзіцца прыклік. *Добр., Смол., 116.*

2449. І гаршкі з гаршкамі ў печкі сталківаюцца. *Добр., Смол., 116.*

2450. Не той сварыцца, што крычыць. *Ляцкий, 31.*

2451. Спор да слёз, а ў драку не лезь. *Нос., 155.*

2452. Гнявы́ не строюць хлявы. *Добр., Смол., 41.*

2453. Лайка не нагайка — на плячах не ляжыць. *Нос., 72; Дуб., 33.*

2454. Ад сварак не баліць карак. *Нос., 122.*

2455. Калі пашоў у сварку, то не жалей карку. *Fed., 294.*

2456. Как каза на луб, так яны адзін процiў воднава. *Добр., Смол., 115.*

2457. Як цюк, так і мацюк. *В. Скідан, 1969, Хойн.*

2458. Свіная малітва да бога недаходна. *Добр., Смол., 117.*

2459. Біцца не гадзіцца, лаяцца не палагаецца. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

2460. Ад дурнэй брані маць-сыра зямля здрыганецца. *Добр., Смол., 116.*

2461. Няма яму ні дня, ні ночы, цёнгле лезе ў вочы. *Fed., 163.*

2462. Кукішамі славы не заслужыш. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

2463. Без праклёну не пражыць. *Сержп., 70.*

2464. Другога кляні, але і на сябе бяры. *Абаб.*

2465. Дзе двох сварыцца, там трэці карыстае(цца). *Fed., 294; Дразд.*

а) Дзе двух б'юцца, там трэці карыстае. *Цяшк., 588, Шчуч.*

2466. Дзе двох зваду вядзе, там трэці крадзе. *Fed., 361.*

2467. Пачці гордага паклонам, уймі сварлівага трызвонам, падмаж скрып варот, заткні сабацы хлебам рот — і ўсе чатыры замоўкнуць. *Нос., 135. Вар.: Дуб., 49.*

2468. Браніся, а на мір слова астаўляй. *Ром., Зап., I, 214.*

## ВЫСМЕЙВАННЕ, КПІНЫ, ЖАРТАВАННЕ

2469. Не смейся з людзей, ты сам смяшней. *С. Заянчкоўская, 1956, Церах. 13.3.29.*

2470. Пасмяяўся лысы з пляшывага. *І. Хаўратовіч, 1951, Кругл. 13.8.4. Вар.: Л. Стаўровіч, 1957, Рэч. 13.3.29; Л. Царанкоў, 1960, Крыч. 13.9.2.*

а) Насмяяўся голы з пляшывага. *Fed., 112.*

б) Насмяяўся шалудзівы пляшываму. *Нос., 88.*

в) Лысы пляшываму загану дае. *І. Хаўратовіч, 1951, Кругл. 13.8.4.*

2471. Пасмяяўся кацёл з гаршка, што той чорны. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15. Вар.: Г. Ляшчынская, 1953, Пол. 13.10.40.*

а) Насмяяўся чыгун з катла: абодва чорныя. *Ляцкий, 23.*

б) Насмяяўся гаршчок з катла, агледзеўся — і сам чорны. *Гильт., 293, Віл. п.*

в) Смяяўся гаршчок з катла, што закураны: агледзеўся, што і сам у сажы. *В. Іваноўская, 1963, Смарг. 8.1.83.*

2472. Смяецца, каму няймецца, а каму баліць, і за гарачы камень бярэцца. *Нос., 152; Дуб., 54.*

а) Каму няймецца, той смяецца. *А. Ліс, 1970, Мінск.*

б) Няхай тэй смяецца, каму няймецца. *Добр., Смол., 111; Pietk., 395.*

2473. Не смейся, дзядку, з чужога выпáдку. *Л. Царанкоў, 1960, Мінск. 13.9.2.*

2474. З другой смяецца, а самой і блінец не ўдаецца. *Сержп., 98. Вар.: Ляцкий, 22.*

2475. Смех не арэх — зуб не лупіць. *Ром., Бел., I, 309.*

2476. Не смейся, брудзе, бо й табе будзе. *Ляцкий, 30; Сержп., 40.*

2477. Хто з каго смяецца, таму рот па вушы разарвецца. *Dybow., 7.*

2478. Толькі апошні папраўдзе смяецца. *Pietk., 395.*

а) Смяецца той, хто смяецца апошні. *Ахрым., 52; М. Бохан, 1965, Маст. 13.10.5.*

2479. Смяецца вада з балота. *Рапан., 265.*

2480. Досыць кпіць — вусы паламаеш. *Дуб., 15.*

2481. Больш ён выкпіў, ніж з'еў і выпіў. *Fed., 343.*

2482. Ці ты кпіш, ці дарогі пытаеш? *Рапан., 270.*

2483. Можна кпіць, але не калечыць. *Fed., 151.*

а) Кпіць (жартаваць) вольна, да не трэба калечыць больна. *Нос., 69, 41; Дуб., 20, 27.*

б) Жартаваць можна, але не калечыць бязбожна. *Янк., 218.*

в) Дай, божа, жартаваць, абы не калечыць. *Fed., 364.*

2484. Пасмяецца — не пакалечыць. *М. Грынблат, 1967, Мінск.*

2485. Калі піць, то не кпіць. *Fed., 230.*

2486. Хто людзей весяліць, за таго ўвесь свет стаіць. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

2487. Без штукі не ступіць. *Нос., 5; Сержп., 14.*

2488. Без штукі і з лаўкі не зваліцца. *Дуб., 6.*

2489. Чым крывей, тым смяшней. *Fed., 115.*

2490. Смехам і піва п'юць. *М. Грынблат, 1967, Мсцісл. 8.1.106.*

2491. Смех бабу валіць. *Нос., 152; Дуб., 57.*

2492. Хто смяецца, таму век не мінецца. *Радч., 247; 1961, Рэч. 13.9.5.*

2493. Маладым людзям толькі жартушкі ў галаве. *Fed., 63.*

2494. Кожны па-свойму дурнее. *І. Курбека, 1961, Докш. 13.9.7.*

2495. Хто бесіцца, а Саўка цешыцца. *Сержп., 11.*

2496. Жартаваў воўк з канём, ды ў жмені зубы панёс. *А. Рахунак, 1967, Зельв. 13.10.24. Вар.: А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

2497. Часам жарты выходзяць на праўду. *Fed., 364.*

2498. Вот табе пацеха, як ражон. *Вас., 23.*

2499. Умей пажартаваць, але і знай, калі перастаць. *Ігнат.*

2500. Разумныя жарты пахвалы варты, дурныя ж жарты плачу варты. *А. Палікоўская, 1965, Воран. 13.10.1.*

2501. Больш смуроду, як пацехі. *Fed., 284.*

2502. Смешна да пацешна. *Fed., 305.*

2503. Смешна, да не пацешна. *Нос., 152.*

2504. Жарт месца мае. *Fed., 364.*

2505. Ліхая забава — вяліка няслáва. *Fed., 345.*

2506. Заржалі кабылы: хто піскам, хто віскам, хто мохам, хто гарохам. *Добр., Смол., 111.*

2507. Пакуль уцеха, тым часам памеха. *Ляцкий, 33.*

2508. Жарты (і) да бяды даводзяць. *Fed., 364; Суяшк., 590, Шчуч.*

2509. Смех да плачу даводзіць. *Fed., 303.*

а) Смешкі плачам канчацца. *Fed., 303.*

2510. Дурэй, дурэй, будзеш плакаць. *Fed., 85.*

2511. Гагачыце, гагачыце, зубочкі, прагага́чыцесь к аднаму канёчку. *Добр., Смол., 111.*

2512. Смех без прычыны — прызнак (адзнака, знак) дурачыны. *М. Мельнічэнка, В. Зубараў, 1950, 1956, Гом. 13.3.29; Суяшк., 609, Зельв.*

2513. На тым свеце за пустэй смех скавараду ліза́ць. *Добр., Смол., 111.*

2514. Смех дураку, што рот на баку. *Шырма, 206.*

2515. Смех — то дар багоў. *М. Грынблат, 1974, Мінск.*

2516. Каб не смяяліся ды не цешыліся, так бы даўно павесіліся. *М. Гваздзёў, 1960, Рэч. 8.1.58.*

2517. Чалавек каб не цешыўся, то б павесіўся. *М. Грынблат, 1975, Лаг.*

2518. Хай смяецца, каму добра жывецца. *Янк., 263.*

2519. Луччы жартаваць, чымся гараваць. *Добр., Смол., 19.*

## ПРА ЖЫЦЦЕ, ВЕК ЧАЛАВЕКА І СМЕРЦЬ

1. Каждаму жыццё мілае. *Fed., 366.*

2. Гэты свет як макаў цвет: зранку расцвітае, да вечара ападае. *Fed., 307.*

3. Жывому на ўме жывое. *Крапіва, 231.*

4. Жыццё да жыцця не прыходзіцца, як чалавек да чалавека. *Ляцкий, 12.*

5. У жызні роўна не бываець. *Юрч., 1969, 28.*

6. Наша жысць няздумана, няспытана, нясказана. *Добр., Смол., 35.*

7. Як пажывеш, так і праслывеш. *С. Клачко, 1966, Б.-Каш. 13.3.29.*

8. Жывы нажывець. *Нос., 42.*

9. Век зжыць — не мех сшыць. *Tyszk., 415; Аним., 262; Нос., 22; Дуб., 7. Вар.: М. Грынблат, 1963, Гарад. 8.1.87; А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

   а) Жыць — не мех шыць (перашыць). *Янк., 218; 1961, Брасл. 13.9.5. Вар.: Л. Царанкоў, 1960, Рэч. 13.9.2.*

10. Век пражыць, то не палу́кашак пашыць. *Fed., 331.*

11. Век пражыць — не кашулю пашыць. *С. Заянчкоўская, 1956, Церах. 13.3.29.*

12. Жыццё пражыць — не лапці сплесці. *Рапан., 164.*

13. Век звекаваць — не пальцам паківаць. *Ігнат. Вар.: Fed., 331.*

14. Жытку пражыць — не поле перайсці. *Сержп., 70. Вар.: Добр., Смол., 35; Ахрым., 31.*

а) Век пераджыць — не поле перайціць, не пальцам пераківаць. *Ром., Зап., I, 216.*

15. Жыццё пражыць — не песеньку спець. *Янк., 218. Вар.: Янк. М., 115.*

16. Век пражыць — не мора пераплыць. *Ахрым., 23.*

17. Жытку пражыць — не люльку выкурыць. *Сержп., 70.*

18. Жысць пражываць — не канфетку з'есці. *Хрэстам., 216.*

19. Век пражыць, як у ступе пратаўчы. *Мін.-Мал., 1970, 159. Уздз.*

20. Год пражыць — не лукошка сшыць. *Добр., Смол., 36.*

21. Год пражыць — не свіснуць. *Рапан., 162.*

22. Жытка — не конь, пугаю не адсцябнеш. *Янк. М., 41.*

23. Век пражыў, як салёны грыб праглынуў. *Янк., 157.*

24. Жыццё — прачнуўся ды за выццё. *Ром., Бел., I, 296.*

25. Век долаг, усім полан. *Ром., Зап., I, 216. Вар.: Ром., Бел., I, 215.*

26. Век — добры чалавек. *Добр., Смол., 35.*

27. Усяк на свеце бывае. *Fed., 308.*

28. На вяку ўсяго трапіцца. *Сержп., 70.*

а) У жыццю ўсяго трапляецца. *Сержп., 70.*

б) Жывучы, усяго давядзецца. *Fed., 368.*

в) На вяку, як на палосцы-шнурку, усяго трапляецца — і кукалю і пшаніцы. *Ігнат.*

29. Век працянецца — усяго даста́нецца. *Ром., Бел., І, 292.*

30. Трэба мандраваці, як век каратаці. *Ляцкий, 46.*

31. Зжыў век не так, як чалавек. *Добр., Смол., 36.*

32. А людзям трэба людзьмі жыць. *Янк., Абр., 58.*

33. Жыць можна па-рознаму: жыве і кот, і сабака. *Цар., 243, Мінск.*

34. Век звекаваць — усяго павідаць (пазнаць). *Ляцкий, 6; Сержп., 70; Янк., 208. Вар.: Р. Цыбульская, 1967, Валож. 13.10.24.*

35. Калі скокам, а калі і бокам. *М. Бандарэнка, 1966, Маз. 13.3.29.*

36. Якое яго жыла: як камар на камарніцы. *Добр., Смол., 35.*

37. На доўгім вяку трапіцца па спіне і па баку. *Ляцкий, 23.*

а) Бывае на вяку і па спіне і па баку. *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11. Вар.: Л. Царанкоў, 1963, Мінск 13.9.2.*

38. Бывае на вяку сем лат на баку. *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

а) На вяку давядзецца (прыходзіцца) варыць і ў гляку. *Pietk., 350; М. Грынблат, 1966, Петр.; А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

б) На доўгім вяку прыдзецца варыць і ў гляку. *В. Курбацкі, 1960, Церах. 13.3.29.*

в) Прыдзецца на вяку і боршч варыць у гляку. *І. Суконкін, 1960, Церах. 13.3.29.*

г) На вяку давядзецца варыць і ў гляку, а есці на жлукце. *А. Фядосік, 1962, Капатк. 8.1.76.*

39. Здарылася (давялося) чарвяку на вяку. *Czeczot, 115; Tyszk., 426; Шпил., 180; Нос., 36; Дуб., 13; С. Маісеенка, 1965, Жлоб. 13.3.25.*

а) Здарылася раз чарвяку на вяку — і то не па-людску. *Fed., 65.*

б) Трапілася рабаку на вяку. *Сержп., 135.*

40. На вяку ўсяго нажывеш — і Кузьму татаю (бацькам) назавеш. *Нос., 83. Вар.: Шейн, II, 476, Віц. п.; Добр., Смол., 36.*

а) Усяго нажывеш, як пажывеш,— і Кузьму бацькам назавеш. *І. Януля, 1965, Ваўк. 13.10.3.*

41. Жызь — маліна, раскусіш — журавіна. *А. Фядосік, 1962, Капатк. 8.1.76.*

42. Стала серабро, а жыць недабро. *Добр., Смол., 36.*

43. Век пражыў, дабра не нажыў. *Юрч., 1969, 99.*

44. Пражыла ў бяздоллі ад рання да змяркання. *Юрч., 1969, 71.*

45. Як з яйца, так і да канца. *«Ніва», 1975, № 48, Беласток.*

46. Век і камень не вытрымае. *Сержп., 27.*

47. То сяк, то так дажыву да свайго быту, покі падложаць пад пліту. *Fed., 46.*

48. Перабыла лета гара́ча, перабуду жыццё саба́ча. *Fed., 366.*

49. Усё жыццё, а ўспамінаць нечага. *Ляцкий, 51.*

50. Колькі ні жыві, а ўсё жытка каратка. *Сержп., 70.*

51. На наш век будзе. *Ляцкий, 23.*

а) На наш век яшчэ стане. *Fed., 288.*

б) На наш век хопіць. *Сержп., 78.*

в) На наш век будзе з нас. *Сержп., 78.*

52. Жыві, пакуль жывецца. *Г. Прытычанка, 1960, Карм. 13.3.29.*

53. Век веку падасць і яшчэ трошкі застанецца. *Сержп., 27.*

а) Век веку падасць да й яшчэ на тры дні будзе. *Pietk., 398.*

б) Век веку падало і гэтак было і будзе. *Fed., 331.*

54. Няпрочна наша жыццё. *Ляцкий, 30.*

55. Чалавеча жыццё на валаску вісіць. *Fed., 366.*

56. Сягоння жыём, а заўтра гніём. *Fed., 367.*

57. Не моладасцю жывём, не старасцю ўміраем. *Ром., Зап., III, 226.*

а) Не па старасці мруць, не па маладосці жывуць. *Шейн, II, 479, Барыс. п.; Fed., 185.*

б) Старасцю не ўмярэць, а маладосцю не жыць. *Ром., Зап., III, 231.*

58. Усе дадому пойдуць, але лепш пазней. *В. Санько, 1969. Слуцк.*

59. Чалавек ведае, дзе ўрадзіўся, а не ведае, дзе галавою наложыць. *Fed., 62.*

60. Добра хоць дзянёк яшчэ пражыць. *Сержп., 70.*

61. Сяк, так, абы да́лей да смерці. *Fed., 305.*

62. Сяк, так, абы бліжэй да смерці. *Fed., 305.*

а) Абы бліжэй да смерці. *Fed., 304.*

63. Што раз, то бліжэй да смерці. *Fed., 305.*

64. Далей, далей, бліжэй к смерці. *Fed., 304.*

65. Жыць, як набяжыць, а памрэцца — усё мінецца. *С. Маісеенка, 1965, Жлоб. 13.3.25.*

66. Жыць, як набяжыць,— усё роўна, што гніць. *Янк., 34.*

67. Жыві, будуйся і на смерць рыхтуйся. *А. Ліс, 1965, Смарг.*

68. Аджыў ужо на гэтым свеце, а на той свет падладжвайся. *М. Грынблат, 1960, Сір. 8.1.47.*

69. Жалеза ржавее, а чалавек гіне. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

70. Мне два ве́кі не жыць. *Fed., 367.*

а) Два ве́кі жыць не будзем (не пержыць). *Fed., 331. Вар.: Нос., 33; Дуб., 13.*

б) Ніхто два вякі не жывець. *Дразд.*

71. Колькі ні жывеш, а ўсё дураком умрэш. *Нос., 66.*

а) Колькі ні пержыць на свеце, а ўсё-такі дурнем памрэш. *Fed., 85.*

72. Няве́дама, хто каго пержыве. *Fed., 228.*

73. Нішто не вечна. *Сержп., 27.*

74. Усяму канец бывае (будзе). *Fed., 136.*

75. Ніхто свету не перабудзе. *Fed., 308.*

а) Ніхто свету не пержыве. *Fed., 308; Сцяшк., 603, Ашм.*

76. Прышла пара — ідзі з двара. *М. Грынблат, 1973, Круп.*

77. Перад смерцю не надышашся. *Нос., 126; Дуб., 81; С. Заянчкоўская, 1956, Церах. 13.3.29.*

78. Не наеўшыся, не наліжашся, перад смерцю не надышашся. *М. Грынблат, 1969, Стол. 8.2.14.*

а) Калі не наеўся, то не наліжашся, калі не нажыўся, то не надышашся. *Л. Царанкоў, 1960, Мінск 13.9.2.*

79. Ка́жан уміраць мусіць. *Fed., 319.*

а) Хто жыве, уміраць мусіць. *Fed., 367.*

б) Хто радзіўся, той уміpae. *Fed., 319.*

в) Хто радзіўся, той уміраць мусіць. *Fed., 198, 262.*

г) Калі нарадзіўся, дык некалі і паміраць прыдзецца. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

80. Хто не нарадзіўся, той уміраць не будзе. *Fed., 198, 261. Вар.: М. Грынблат, 1974, Валож. 8.74.82.*

81. Яшчэ той не радзіўся, хто б не памёр. *Рапан., 174.*

82. Усё можа мінуць, толькі смерць не пераміне́. *Fed., 305.*

83. Смерць не перабірае і не мінае. *Fed., 305.*

84. Смерць у зубы не глядзіць. *М. Грынблат, 1974, Валож. 8.74.82. Вар.: Fed., 305.*

85. Малады можа ўмерці, а стары мусіць. *Fed., 175.*

86. Не па старасці, а па спеласці. *Добр., Смол., 109.*

а) Уміраець не стары, а паспе́лы. *Нос., 168; Дуб., 65.*

87. Буду тады ўміраць, як будзе смерць за пяты браць. *Fed., 319.*

88. Па нас не будзець нас. *Нос., 133; Дуб., 47.*

89. Пасля нас не будзе і вас. *Міеn., 395.*

90. Круці не круці, трэба ўмярці. *Czeczot, 110. Вар.: Tyszk., 417; Dybow., 7; Гильт., 289, Пруж. п.; Нос., 69; Kolb., 472; Булг., 176; Fed., 319; Pietk., 348; А. Фядосік, 1962, Капатк. 8.1.66.*

а) Колькі ні вярці, а прыдзецца ўмярці. *Ром., Бел., I, 299. Вар.: Ляцкий, 18; Г. Румоўская, 1963, Пліс. 13.10.40; Р. Мухляда, 1965, Шчуч. 13.10.5.*

91. Круць, верць — недалёка смерць. *Fed., 304.*

92. Як ні хадзі, смерці не абойдзеш. *Ляцкий, 62.*

93. Ад смерці ніхто не збароніць. *Добр., Смол., 110.*

94. Ад смерці не выкруцішся, не вымалішся. *Fed., 304.*

а) Ад смерці не адмолішся. *Янк., 174.*

б) Ад смерці не адкупішся і не адпросішся. *Fed., 304.*

в) Ад смерці не адкупішся. *Крапіва, 230.*

г) Ніхто не адкупіцца ад смерці. *М. Грынблат, 1974, Валож. 8.74.82.*

д) Ад смерці ніхто не выкупіцца, не выпрасіцца. *Fed., 304.*

95. Ад смерці нічым не выкупішся. *Pietk., 395.*

96. Ад смерці не ўцячэш, то і не бойся. *В. Санько, 1969, Слуцк.*

97. Смерць не ручаіна — не пераскочыш. *Янк. М., 41.*

98. Смерці ў бутэльку не заткнеш. *Янк. М., 54.*

99. Смерці не заперці, калі трэба памерці. *Янк. М., 150.*

100. Не то чэрві, што мы ямо, але што нас з'ядзяць. *Fed., 65. Вар.: Ром., Бел., I, 304; Pietk., 363.*

101. Ад смерці няма зелля. *Нос., 123. Вар.: Pietk., 395.*

а) На смерць няма зелля. *Ляцкий, 23.*

б) Ад смерці дохтара няма. *Fed., 304.*

в) Ад смерці нікаго не вылечыш. *Добр., Смол., 110.*

102. Ад старасці і смерці няма лекаў на свéце. *Цар., 240, Мінск. Вар.: Fed., 290.*

а) Ад старасці і ад смерці няма лякарства. *Dybow., 4.*

103. Хоць доктар з неба, такі ўмерці трэба. *Fed., 319.*

104. Не ўмірае той, хто худ, але той, каму суд. *Fed., 320. Вар.: Pietk., 396; Ром., Мат., 81.*

105. Сколькі ні красуйся, усё туды гатуйся. *Добр., Смол., 109.*

106. Смерці не падперці. *Ляцкий, 42.*

а) Ад смерці не адперці. *А. Фядосік, 1962, Капатк. 8.1.76.*

107. Пацеха як пацеха, а ўміраць трэба. *Ляцкий, 34.*

108. Шукаць смерці не трэба — сама прыдзе. *Fed., 305.*

109. Гроб за нагамі валочыцца. *Добр., Смол., 32.*

110. Патуль хадзіў, пакуль галавою не налажыў. *Fed., 49.*

111. Прышлось Іванцу к аднаму канцу. *Нос., 139; Дуб., 45.*

112. Усё роўна, ці сягоння ўміраць, ці заўтра. *Fed., 320..*

113. Не цяпер было, не сяння памром. *Ляцкий, 29.*

114. Як ворану мыла, так умертаму паможа кадзіла. *Fed., 320.*

115. Людзі мруць, нам дарогу труць. *Нос., 75; Сах. Вар.: Fed., 185.*

116. Няхай мруць і нам дарожку труць — і мы тады па торнай дарожкі адны па водным усе пайдзём. *Добр., Смол., 109.*

117. Каб не мерлі, дык бы неба падперлі. *Янк., 178; 1961, Кап. 13.9.5.*

а) Каб людзі да не мерлі, то б неба падперлі. *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

118. Старасць не радасць, а смерць не пацеха. *Fed., 290.*

119. Умерці не трудна, а страшна (боязна). *Ляцкий, 49.*

120. Горшай бяды не будзе, як смерць. *Fed., 26.*

121. Якое жыццё, такая смерць. *Fed., 304, 366.*

122. Сабацы сабачча і смерць. *Нос., 153. Вар.: Сержп., 195; Fed., 270; Pietk., 341.*

123. Смерць здаравей за ўсіх. *Добр., Смол., 110.*

124. Чалавек раз нарадзіўся і раз уміраць мусіць. *Fed., 61.*

а) Раз радзіла маці, раз трэба ўміраці. *Fed., 320.*

125. Раз чалавеку смерць. *Fed., 305.*

126. Два разы ўміраць не будзеш. *Fed., 319.*

а) Два разы не паміраць, а раз — прыдзецца. *Янк., Дыял., III, 156, Глуск.*

б) Два раза не будзем паміраць, а раз. *Добр., Смол., 110.*

в) Што будзе, то будзе, а дзве смерці не будзе. *Fed., 45, 305. Вар.: Pietk., 395.*

г) Дзвюх смярцей не бываець, а раз чалавек уміраець. *Нос., 33.*

д) Дзве не бываюць смерці, а раз трэба ўмерці. *Нос., 33.*

е) Двум смерцям не бываць, а адной не мінаваць. *М. Бохан, 1965, Маст. 13.10.5.*

ж) Раз паміраць, а не дзесяць. *М. Бандарэнка, 1966, Маз. 13.3.57.*

127. Дай бог раз жаніцца, раз красціцца, і раз паміраць. *Добр., Смол., 110.*

128. Без пары душа не вылезе. *Fed., 87.*

а) Душа ў чалавека рагатая, без пары не выйдзець. *Tyszk., 429; Дуб., 14.*

б) Душа чалавечая рагата, без пары не вылезе. *Рапан., 163.*

129. Без пары не ўмрэш (не ўмерці). *Fed., 319.*

130. Без пары не пойдзеш да нары. *Fed., 220.*

131. Душа рагатая, цяжка з целам расстаецца. *Dybow., 8.*

132. Лепш дзесяць разоў цяжка хварэць, як адзін раз лёгка памярэць. *Рапан., 166.*

133. Смерць не бывае без прычыны. *Fed., 305.*

а) Смерць прычыны шукае. *Fed., 305.*

б) Смерць прычыну найдзець. *Добр., Смол., 110.*

в) Без прышчынкі (прыклопкі) смерці не будзе. *Fed., 304.*

г) Смерць ажно прышчынкі шукае. *Fed., 305.*

134. Без прычыны веку не ізжывеш. *Ром.., Зап., I, 215. Вар.: Добр., Смол., 35.*

135. Бог веку не прадлужыў. *Fed., 331.*

136. Суджанаму смерць. *Fed., 305.*

137. Смерць не разбірае, каго забірае. *Л. Царанкоў, 1961, Мінск 13.9.2.*

138. Зямля ўсіх прымае: і здаровых, і слабых. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

а) Зямля-матушка ўсіх прымае. *Добр., Смол., 110.*

139. Самая справядлівая вешч — смерць. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

а) Нет правядлівей смерці. *Добр., Смол., 109.*

140. Смерць усіх зраўняе. *Fed., 305.*

а) Зямля святая ўсіх зраўняе. *Рапан., 165.*

141. Усякага адна магіла прыгорне. *Fed., 175.*

142. Мысль за гарамі, смерць за плячыма. *Tyszk., 432; Шпил., 184. Вар.: Mien., 396; Нос., 81; Dybow., 184; Ляцкий, 11; Fed., 193; Сержп., 4, 69; Шырма, 205; Рапан., 163; А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15; 1961, Брасл. 13.9.5; А. Фядосік, 1962, Капатк. 8.1.76; М. Бандарэнка, 1966, Маз. 13.3.29.*

а) Мысліш (маніцца) за мора, а смерць за плячыма. *Dybow., 13. Вар.: Ляцкий, 11.*

б) Дума за марыма, а смерць за плячыма. *М. Дуброўскі, 1956, Лельч. 13.3.29.*

143. Каму гаравацъ, таму не ўміраць (не паміраць). *Нос., 67; Dybow., 12; Дуб., 26; Fed., 106; Сержп., 134; М. Грынблат, 1973, Бабр. 8.73.65.*

144. Прывык, чалавеча, гараваць, пашто было паміраць. *Сержп., 38.*

а) Прывык ужо гараваць, не трэба было і цяпер паміраць. *Ляцкий, 35.*

145. Памёр — усё гора адпёр. *Янк., 181; 1961, Кап. 13.9.5.*

146. За ліхое жыццё дай, божа, смерць. *Fed., 367.*

147. Голаму смерць не страшна. *Добр., Смол., 69.*

148. Саха да вілы прывялі да магілы. *Г. Прытычанка, 1960, Карм. 13.3.29.*

149. Рад бы памярэць, да смерць не бярэць. *Добр., Смол., 20.*

150. Як прышлося да быту, тады вязуць пад пліту. *Fed., 46.*

151. Пакуль жывеш — усяго трэба, а як памрэш — чатыры дошкі і пяску трошкі. *Dybow., 16.*

а) Нам нічога больш не трэба: сажан дошкі і зямлі трошкі. *Tyszk., 314.*

б) Як чалавек жыве, то ўсяго мала, а як памрэш, то чатыры дошкі і зямлі трошкі. *Fed., 62.*

в) Сажань зямлі да чатыры даскі ўсяго нам нада. *Добр., Смол., 110.*

152. Памрэш — увесь свет не забярэш. *Сем., 31; І. Курбека, 1961, Докш. 13.9.7.*

а) На тэй свет усяго не забярэш. *Нос., 89.*

б) Як памрэм, то з сабою нічога не забярэм. *Fed., 216.*

153. Мяртвец за варотамі не стаіць, а сваё вазьмець. *Ром., Зап., III, 224.*

154. Умрэцца, то ўсё мінецца. *Fed., 320.*

155. Такое то чалавечча палажэнне: тут жыў, тут ужо і згінуў. *Fed., 64.*

156. Каб не быў тут закапаны, то жыў бы ў другім месцы. *Л. Ткачова, 1960, Нясв. 8.1.55.*

157. Уміраць будзем — на ўсё забудзем. *Ляцкий, 50.*

158. Дзе падружыў, там і лапкі злажыў. *Сержп., 59.*

159. Што там па смерці: хоць плот падперці. *Fed., 305.*

а) Мёртваму хоць варота падапры. *Добр., Смол., 110.*

160. Умерлы з магілы не вернецца. *Fed., 320.*

а) Умерлага з магілы не падымеш (не варочаюць). *Fed., 320.*

161. Шырокія вароты на той свет, ды адтуль не выйсці. *Рапан., 174.*

162. З ляску прыжджэм, а з пяску ніколі. *Fed., 162.*

163. У магілу можна і дубцом загнаць, а з магілы і пірагамі не выклічаш. *Fed., 174.*

164. Жыў-быў Курылка да й памёр. *Нос., 42.*

165. З таго свету яшчэ ніхто не вярнуўся. *Fed., 308.*

166. Што зарыта, то забыта. *Нос., 188.*

а) Усё забыта, што зямлёю прыкрыта (пакрыта). *Нос., 17; Fed., 346.*

167. Быў — сто гадоў жыў, а як памёр, дык як адзін тыдзень быў. *Ф. Наркевіч, 1932, Петр.*

## ПРА ЛЁС, ДОЛЮ, ШЧАСЦЕ, ШАНЦАВАННЕ

168. Будзе тое, што будзе, а будзе, што суджана. *Сержп., 58.*

169. Як суджана, то не міне́. *Fed., 293.*

170. Чаму быць, таго (таму) не мінаваць. *Нос., 182; Ром., Зап., III, 235; Pietk., 359.*

171. Гэта ўжо наслінена. *Tyszk., 413; Шпіл., 178.*

172. Чалавек свой лёс чуе. *Рапан., 173.*

173. У кожнага свая дарога. *Сержп., 57.*

174. Як каму стае́. *Fed., 288.*

175. Ніхто не знаець, што яго чакаець. *Нос., 114.*
   а) Ніхто наперад не знае, што каго чакае. *Fed., 359.*

176. Не твая гэта зязюля закавала. *Fed., 355.*

177. Каму вісець, тэй не ўтонець. *Нос., 66.*
   а) Каму вісець, таму не ўтапіцца. *Pietk., 350.*
   б) Не ўтопіцца, калі хто вісець маець. *Нос., 105.*
   в) Не ўтопіцца, каму вісець судзена. *Ляцкий, 31.*
   г) Каму суджана вісець, той не ўтопіцца. *Fed., 333. Вар.: Pietk., 334.*
   д) Каму суджана павесіцца, то тапіцца не будзе. *Fed., 225.*

178. Калі не кус, дак з роту зваліцца. *Добр., Смол., 118.*

179. Ляцела, як хацела, ударылась, як бог даў. *Добр., Смол., 119.*

180. Нашаму Івану няма тала́ну. *А. Фядосік, 1962, Капатк. 8.1.76; М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

а) Нашаму беднаму Івану нідзе няма талану. *А. Куцакова, 1956, Раг. 13.3.29.*

181. На беднага Макара (Івана ўсе) і шышкі валяцца. *Сержп., 24.*

а) На грэшнага (няшчаснага) Макара і шышкі валюцца (сыплюцца). *Нос., 84; Pietk., 329.*

б) На беднага Івана ўсе шышкі валяцца. *Т. Гуляй, 1965, Свісл. 13.10.5.*

182. На хвартуну нажывеш, на хвартуну страціш. *Дуб., 38.*

183. Куй сам сваю долю. *Дуб., 26.*

184. Кожны сам сваёй долі каваль. *Дуб., 26.*

185. Доля там, дзе воля. *Янк., 34.*

186. Учора не дагоніш, а ад заўтрага не ўвойдзеш. *Сах.*

187. Доля, мая доля, шчасце як таўкач. *А. Фядосік, 1962, Капатк. 8.1.76.*

188. Мусіць, ужо наша доля такая. *Fed., 79.*

189. От якая мая доля: хоць рыка́й, ды прывыкай. *М. Грынблат, 1971, Уздз.*

190. Сваёй ліхой долі не ўгадаеш. *Fed., 79.*

191. Прыляцела куля нязна́ма адкуля. *Добр., Смол., 66.*

192. Бяздольнаму ўсюды нядоля. *Сержп., 5.*

193. Відзіў бог працы, ды долі не даў. *Дуб., Нар., І.*

194. Як няма шчасця — няма і долі. *Fed., 298.*

195. Нядоля горкая, ніхто яе не паторкае. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

196. Нядоля горкая па свету шлялася, за ўсімі ганялася. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

197. Трэба наравіць сваёй ліхой долі. *Fed., 80.*

198. Сваю долю канём не аб'едзеш. *М. Бабарыкіна, 1966, Чач. 13.3.29.*

а) Як не ездзі, пра судзьбу сваю думай: яе канём не аб'едзеш. *Добр., Смол., 118.*

б) Няшчасця не абойдзеш, не аб'едзеш. *Pietk., 381.*

199. Ад ліхой долі нідзе не ўцячэш. *Fed., 79.*

200. Хоць мы ў свет, наша доля ўслед. *Fed., 79.*

а) Хоць праз свет — за табою доля ўслед. *Fed., 79.*

201. Добрая доля, ідзі за мною з печы полымем, з хаты комінам. *Дуб., 16.*

202. Не збярэш з поля, калі ліхая доля. *«Чырвоны шлях» (Петраград), 1918, № 1.*

203. Яго доля ў канцы поля. *Нос., 40. Вар.: Fed., 79; Сержп., 57.*

204. Сустрэла мяне доля сярод чыстага поля. *Сержп., 57.*

а) Сустрэла мяне худая доля сярод чыстага поля — не дай бог няпутнай дружкі. *Добр., Смол., 60.*

205. Доля як бандоля, а шчасце як мушкет. *Fed., 79.*

206. На маё бяздолле пятух не пяяў, пятух не пяяў, гусак не крычаў. *Дуб., 42.*

207. Прышла да лет, да долі нет. *Мін.-Мал., 1970, 165, Уздз.*

208. Як сіла слабáя, то й доля благая. *Dybow., 184; Fed., 277.*

209. На таргу долі не купіш. *Сцяшк., 600, Лід.*

210. Радзіла мяне мама — (ды) не ўзяла мяне яма. *Добр., Смол., 73; А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

211. Бог не без міласці, а казак не без долі: ці худая, ці харошая — усё будзець. *Добр., Смол., 120.*

212. Мы сабачаю доляю жывем. *Fed., 367.*

213. У сабакі й сабачая доля. *Сержп., 57.*

214. Шчасце само ў рукі не ідзе. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13. 10.15.*

215. Шчасце не конь — у аглоблі не запражэш. *«Звязда», 4 студзеня 1970 г., У. Пузь, Маладз.*

216. Кажан сваго шчасця прабуе. *Fed., 298.*

217. За шчасцем не зганяешся. *Нос., 48.*

218. Шчасце не цукерка — у рукі не возьмеш. *Янк. М., 41.*

219. Добраму дзераву бог лісцяў не дае, а добраму чалядзіну бог шчасця не дае. *Вас., 22.*

220. Як красату дзялілі, дык спáла, а як шчасце дзялілі, дык устала. *Сцяшк., 617, Вайк.*

221. Не быў там, дзе дзялілі. *Fed., 94.*

222. Хутчэй шчасце згубіць, як найці. *Fed., 298.*

223. Шчасце за гарамі, а бяда за плячамі. *Pietk., 345.*

224. Хто дзве шчасця гоніць, то жаднага не зловіць. *Fed., 298.*

225. Шчасце з прыдольем. *Fed., 298.*

226. А шчасця з жабіны прыгаршчы. *1961, Брасл. 13.9.5.*

227. Шчасліваму шчасце. *Fed., 298.*

228. Яго бог зайграў у дуды. *Добр., Смол., 119.*

229. Шчасліваму і ўва сне шчасце сніцца. *Ляцкий, 43.*

230. Шчасце як да каго: іншы і бедны, але шчаслівы, а іншы і багаты, а шчасця не бачыць. *Ляцкий, 61.*

231. Харошая дружка — первае шчасце ад госпада бога. *Добр., Смол., 61.*

232. Аднаму шчасце ракою плыве, а другі ў няшчасці цэлы век жыве. *Dybow., 4.*

233. Не кожнага гэтака шчасце спаткае. *Fed., 298.*

234. Борах спіць, а шчасце само к яму пад вароты лезець. *Крэмнеў.*

235. Нешчаслівы ад шчасця ўцякае. *Fed., 201.*

236. Калі шчасце — нажывешся, а гора — дык намучышся. *А. Русіновіч, 1965, Светл. 13.3.29.*

237. Не радзіся красны, а (радзіся) шчасны. *Dybow., 15; Нос., 102; Дуб., 43; Kolb., 473; Fed., 262; Pietk., 345; Сержп., 58; З. Валюшка, 1965, Вайк. 13.10.5; Г. Барташэвіч, 1960, Слуцк. 8.1.50.*

а) Не радзіся красівы, а шчаслівы. *А. Шчыкарэвіч, 1965, Навагр. 13.10.4.*

б) Не радзісь прыгож, а радзісь шчасліў. *Добр., Смол., 63.*

238. Людзі некрасівыя, а завуцца шчаслівыя. *Добр., Смол., 63.*

239. У каросце радзіўся — шчасліў будзець. *Добр., Смол., 119.*

240. Хоць паршывы, да шчаслівы. *Fed., 222; Pietk., 384.*

а) Хто паршывы, той шчаслівы. *Fed., 222.*

241. Шчасце пераходзя (пераходам) жыве. *Нос., 190; Fed., 298.*

а) Шчасце, як трасца, пераходная сваццячя. *Нос., 190.*

242. Папаў кусок у рот, да не ўмеець есць. *Добр., Смол., 120.*

243. Не ўсякі спіць, што храпіць, не ўсякі вясёлы, што пяець. *Ром., Мат., 83.*

244. Хто едзе на снасці, а хто на шчасці. *Дуб., 70.*

а) Еду не на снасці, а на шчасці. *1961, Кап. 13.9.5.*

245. На свеце, як у карэце: едзеш і калышашся, пакуль не вывернешся. *Нос., 87.*

246. Шчасцем у грыбы ходзяць. *Pietk., 345.*

а) Са шчасцем добра і ў грыбы пайсці. *Tyszk., 416; Шпил., 189; Dybow., 189.*

б) З шчасцем і ў грыбы харашо хадзіць. *Нос., 159.*

в) Без шчасця і па грыбы не ісці. *Fed., 298.*

г) Без шчасця і ў грыбы кепска хадзіць. *Fed., 298.*

д) З шчасцем добра і па грыбы хадзіць, а без шчасця — не варта. *Fed., 298.*

е) Без шчасця ў грыбы не ідзі, бо каробачку згубіш. *Ворожб.*

247. Без шчасця не будзе багацтва, а за грошы шчасця не купіш. *Fed., 298.*

248. Не ганіся за багаццем, а за шчасцем. *Мін.-Мал., 1970, 163, Узда.*

249. Шчаслівы — у чапцу радзіўся. *Fed., 298.*

а) У чэпку радзіўся. *Fed., 65.*

250. Шчасце розум адбірае. *Ляцкий, 61.*

251. Як няма шчасця зрання (зранку), то не будзе да змяркання (змярканку). *Fed., 298. Вар.: Л. Царанкоў, 1961, Рэч. 13.8.2.*

а) Хто не мае шчасця зранку, то не мае да вечара. *Fed., 298.*

б) Бясшчасце, калі пойдзець з рання,— аж да змяркання. *Нос., Слов., 25.*

252. Як няма шчасця ў ле́цях, так няма і ў дзецях. *Л. Царанкоў, 1960, Рэч. 13.9.2.*

253. Чужая доля пад бок коле. *Нос., 184.*

254. Чужое шчасце коле ў вочы. *Pietk., 316.*

255. У чужое шчасце не ўкупішся. *Fed., 298.*

256. На чужое шчасце мухаю не пасці. *Fed., 298. Вар.: Добр. Смол., 120.*

а) У чужое шчасце не мухай упасці. *Нос., 21.*

257. Аднаму шчасце ракою плыве, а другі ў няшчасці цэлы век жыве. *Я. Касач, 1966, Дзятл. 13.10.26.*

258. Калі аднаму няшчасце, то другому шчасце. *Fed., 201.*

259. Калі вядзецца, то і на трэску прадзецца. *Czeczot, 110. Вар.: Киркор, 235; Dybow., 182; Fed., 328; Л. Малаш, 1969, Докш. 8.2.22; Янк. М., 77.*

а) Калі (нітка) вядзецца, дак і на шчэпку прадзецца. *Нос., 63. Вар.: Сержп., 134; Fed., 328.*

260. Каму шанцуе, таму падчас і воўк коні пасе. *Pietk., 351.*

261. І трасца не трасе, і ліха не бярэ. *Янк. 181.*

262. У людзей поўна печ дроў гарыць, а ў нас і адно палена не хоча. *Ворожб.*

а) У людзей поўна печ і добра гарыць, а ў мяне адно палена і тое акалела. *Fed., 231, 52.*

263. У людзей шыла брые, а ў нас і долата не йме. *Ром., Зап., III, 233.*

264. Вышла ў Хадоры два бліна. *М. Грынблат, 1960, Сір. 8.1.47.*

265. У нашай сянні ма́мі ўсе бліны кама́мі. *Добр., Смол., 125.*

## ПРА ДАБРО І ЗЛО

266. Дабро не дакучыць. *Fed., 72.*

267. Добрага ніколі не замнога. *Fed., 78.*

268. Добра тое, што другія хваляць. *Сержп., 136.*

269. Добрае само сябе хваліць. *Fed., 78.*

270. Золата і ў попеле свеціцца (пазнаць, відаць). *Fed., 359; 1960, Брасл. 13.9.5.*

    а) Золата і ў попеле відна. *Нос., Слов., 470.*

    б) Золата і на сметніку блішчыць. *М. Расюкевіч, 1965, Навагр. 13.10.2.*

    в) Золата і ў гразі блішчыць. *А. Куцакова, 1956, Рагі. 13.3.29.*

271. Добра таму дабро рабіць, хто тое памятае. *Сержп., 125.*

272. Бываець добра, а не ўсякаму, как Якаву. *Ром., Зап., І, 215.*

273. Не так скора стане добрае, як благое. *Dybow., 186.*

274. Кепскае адразу відаць, а добрае ўбачыць трэба. *Янк., 228.*

275. Зло дабра не любіць. *Pietk., 400.*

    а) Ліхое добрага не любіць. *Fed., 165.*

276. На свеце за добра(е) злым плацяць. *Fed., 307.*

    а) За добрае злым заплата. *Сержп., 124.*

277. Не дадзéржыць ліха напроці дабра. *Fed., 165.*

278. Смала к дубу не прыстанець. *Нос., 151.*

279. Харошае доўга помніш, а дрэннае век не забудзеш. *Л. Задаля, 1967, Клецк. 13.10.14. Вар.: 1961, Брасл. 13.9.5.*

а) Добрае доўга помніцца, а кепскае (ліхое, дрэннае) ніколі не забудзеш. *Янк., 215.*

б) Дабро помніцца менш, чымсі зло. *Нос., 35. Вар.: Рапан., 233.*

в) Добрае доўга ў памяці, а ліхое яшчэ даўжэй. *Fed., 78. Вар.: Рапан., 234.*

г) Ліха даўжэй у памяці, як дабро. *Fed., 164, 165.*

д) Ліхое доўга ў памяці. *Fed., 165.*

280. І камень дабро помніць. *А. Махнач, 1952, Узд. 13.10.15.*

281. Добра тое, што забытае. *Fed., 346.*

282. Добрае помні, злое забывай. *Янк. М., 121.*

283. Добрае чуваць далёка, а благое яшчэ далей. *Tyszk., 417. Вар.: Шпил., 179; Fed., 87; Pietk., 365.*

284. Без худá няма дабра. *Дуб., 7.*

а) Без худá не відаць (не ўгледзіш) дабра. *Нос., 5; Fed., 55.*

б) З худá дабра чакай. *Ляцкий, 43. Вар.: Сержп., 55.*

285. Няма таго злога, каб не вышла на добра. *Fed., 357.*

а) Няма нічога ліхога, каб на добрае не вышла. *Fed., 166.*

б) Няма такога зла, штоб з яго камусь не вышла дабра. *Pietk., 400. Вар.: Fed., 166.*

в) Ліха без дабра не бывае. *Рапан., 236.*

286. Будзе добра, як ліха пераміне. *Fed., 78.*

287. Ліха перамелецца — дабро наступіць. *Fed., 165.*

288. Не бачыўшы худа́, не будзеш бачыць і дабра. *Дуб., 38.*

а) Не ідаўшы худа́, не ідаць і дабра. *Нос., 94.*

б) Не пазнаўшы бяды, не ўчуеш дабра. *Ляцкий, 27. Вар.: Сержп., 22.*

289. Чалавек, пакуль у горну не пабудзець, не знаець дабра. *Нос., 182.*

290. Хто ліхога не бачыў, той добрага шанаваць не ўмее. *Fed., 165.*

291. Гора прысыпляе, а дабро абуджае. *Ахрым., 26.*

292. Усяго зажывеш: і добрага і ліхога. *Fed., 351.*

а) Усякага жывеш: і худа і харашо. *Нос., 18.*

293. Ад худа да дабра хутка прывыкнеш. *Дуб., 4.*

а) З худа к дабру скора прывыкнеш. *Нос., 158.*

294. Бяду працерпіў, а дабра не сцерпіў. *Ляцкий, 5.*

295. Ні зла, ні дабра. *Добр., Смол., 47.*

296. Ад дабра дабра не шукай. *Сержп., 79.*

297. За добрае добрым плаціць трэба. *Fed., 78.*

298. Добрае для добрых, а благое нам. *Рапан., 234.*

299. Калі добра, то хоча яшчэ лепш. *Fed., 78.*

300. Дабро пушыць, а ліха та́ньчыць (сушыць). *Fed., 72.*

301. Каму добра зранку, то добра і да вечара. *Fed., 78.*

302. Калі не было дабра зрання, то і не будзе да вечара. *Fed., 72.*

303. Не так хутка прыждаць дабра, як ліха. *Fed., 165.*

а) Не так скора станець добра, як блага. *Tyszk., 415. Вар.: Шпил., 186.*

304. Добрую траву чалавек сее, а ліхая чорт ведае адкуль бярэцца. *Янк., 216.*

305. На свеце больш зла, як дабра. *Pietk., 400.*

306. Добрае далато, ды з дзіркай. *Рапан., 234.*

307. Дабро пераплётана жыве. *Fed., 72.*

308. Добра ёсць, добра няма. *М. Грынблат, 1976, Лаг.*

309. Нарабіў ліха — не чакай дабра. *Сержп., 125.*

310. Любіў добрае, палюбі ж і злое. *Шпил., 183; Dybow., 183.*

311. Ліхое ніколі не ўтоіцца. *Fed., 165.*

312. Ліхое нігды не згіне. *Fed., 165.*

313. Ліха далося ўвазнакі. *Fed., 164.*

314. Ліхое далёка абходзіць. *Fed., 165.*

315. Зла не кліч — яно само прыйдзе. *Pietk., 400.*

316. Ліхое прычэпку знойдзе. *Сержп., 56.*

317. За ліхое награждаюць (плацяць). *Fed., 166.*

318. Ліхога забывай. *Fed., 165.*

319. Усё чалавеку трэба, аднаго ліха не трэба. *Янк., 263.*

320. На зле далёка заедзеш, ды не вернешся. *В. Санько, 1969, Слуцк.*

321. Ліхам свету не перадышаш. *Янк., 233.*

322. У чорта добрасці не знойдзеш. *Бяльк., 155, Краснап.*

323. Злосць што лёд: да цяпла жыве. *Янк. М., 45.*

## ПРА ПРАЎДУ І НЯПРАЎДУ

324. На праўдзе свет стаіць. *Fed., 246.*

325. Праўда добрымі людзьмі жыве. *С. Клачко, 1966, Б.-Каш. 13.3.29.*

326. Шукай праўду ў людзей. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

327. На людзях праўда праўдзіцца. *Янк., Дыял., III, 162, Глуск.*

328. За праўду стой гарой. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13,10,15.*

329. Праўда праўдай застанецца. *А. Фядосік, 1959, Капатк. 8.1.44.*

330. Не ў сіле праўда. *Дуб., Нар., 32.*

331. Чыя праўда, таго і сіла. *І. Суконкін, 1960, Церах. 13.3.29.*

332. Праўду гаворыць не язык, а душа. *М. Смурага, 1959, Свісл. 13.8.28.*

333. Праўда даражай грошай. *Fed., 246.*

334. Праўды не скрыеш. *В. Брычакоў, 1960, Карм. 13.3.29.*

335. Праўда нідзе ніколі не ўкрыецца. *Pietk., 387.*

336. Праўда звягі не баіцца. *Рапан., 238.*

337. Праўда наверх выйдзе. *Fed., 246.*

а) Праўда, як аліва, выйдзе наверх. *Fed., 246; Сцяшк., 606, Шчуч.*

б) Праўда, як алей: што ні рабі, то яна наверх выйдзе. *Pietk., 387.*

338. Праўда з дна мора выносіць. *Ахрым., 48.*

339. Праўды ў моры не ўтопіш. *В. Зубараў, 1956, Гом. 13.3.29.*

340. Праўду ў яму не закапаеш. *Рапан., 239.*

341. Праўда не ўтоне і не згарыць. *Янк., Дыял., I, 218, Глуск.*

а) Праўда ў вадзе не тоне і ў агні не гарыць. *Сержп., 185. Вар.: Рапан., 238.*

б) Праўду і ў полымі не спаліць, і ў вадзе не ўтапіць. *Рапан., 238; Н. Парукаў, 1958. Добр. 13.3.29.*

342. Усё мінецца, адна праўда застанецца. *Л. Лашко, 1967, Дзятл. 13.10.30.*

343. Праўда гру́ба, але богу люба (міла). *Нос., Слов., 192; Дуб., 48; Добр., Смол., 88.*

344. Праўда не шкварка — з блінам не з'ясі. *І. Цішчанка, 1970, Астр. 8.2.29.*

345. Што праўда, то не брэх. *Кур., 215.*

346. Што праўда, то не грэх. *Нос., 189; Т. Багдзевіч, 1965, Шчуч. 13.10.6; Л. Царанкоў, 1960, Крыч. 13.9.2; М. Грынблат, 1976, Лаг.*

а) Што праўда, то не грэх, што ворак (торба), то не мех. *Ляцкий, 60; Л. Стаўровіч, 1957, Рэч. 13.3.29; Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11; Г. Карачун, 1957, Клецк. 13.10.14.*

347. Праўда — не грэх, а прыходзіцца ў жыццю, што й няпраўда грахом не бывае. *Ляцкий, 35.*

348. Грэх грахом, а праўда праўдай. *Ляцкий, 8.*

349. Пакуль за праўду, а пярвей за грэх. *Tyszk., 422. Вар.: Рапан., 238.*

350. Праўда — горкая страва. *Pietk., 387.*

351. Праўда вочы коліць. *Гильт., 293, Віл. п.; Нос., 131; Дуб., 50; Fed., 246; Pietk., 387; Бяльк., 235, Расн.; Мін.-Мал., 1970, 165, Пух.; С. Заянчкоўская, 1956, Церах. 13.3.29; Дразд.*

а) Кажнаму праўда ў вочы коле. *Fed., 246.*

б) Праўда як восы: лезе ў вочы. *Янк. М., 45.*

352. Праўды людзі не любяць. *Fed., 246.*

353. Ка́жан праўду знае, да не кажан яе любіць. *Fed., 246.*

354. Ніхто праўды слухаць не хоча. *Fed., 246.*

355. За праўду людзі злуюць. *Fed., 247.*

356. Скажы праўду — нажывеш ворага. *Pietk., 287.*

357. За праўду не гневаюцца. *Рапан., 235.*

358. Не ўсё праўда, што кажуць. *Fed., 246.*

359. Праўдаю не пеpажывеш. *Fed., 426.*

360. Была калісь праўда, ды заржавела. *Ром., Бел., I, 291; Fed., 245.*

а) Была праўда, да зве́трала. *Pietk., 387.*

361. Цяпер праўды няма, праўда памерла. *Dybow., 7.*

362. Праўду ваўкі з'елі. *Аним., 264.*

363. Хлеб-соль еш і праўду рэж. *Гильт., 292, Віл. п.; Нос., 172; Pietk., 387; А. Фядосік, 1959, Лен. 8.1.44.*

а) Хлеб (кашу) еш, а праўду рэж. *Tyszk., 417; Карл. Вар.: Мін.-Мал., 1970, 168, Уздз.*

б) Пі да еш, а праўду рэж. *Fed., 246.*

364. Праўда ў чарцы сядзіць. *Fed., 246.*

365. Кожнаму крыўда не міла. *Fed., 155.*

366. Перад праўдай няпраўда каецца. *А. Ліс, 1969, Шарк.*

367. Чужою крыўдаю не нажывешся (запаможашся). *Pietk., 364; Fed., 155.*

а) Чужая крыўда не запамога. *Fed., 155.*

368. Чужая крыўда бокам вылазіць. *Fed., 155.*

369. Шчот вялік, да праўды мала. *Нос., 190.*

370. У варожкі ці ў мерцвяца роўныя праўды. *Янк., Дыял., III. 18, Глуск.*

371. Праўда халодная, а мана́ цёплая. *Цяшк., 606, Гродз.*

372. Лепей горкая праўда, як салодкая мана́. *Рапан., 235.*

373. Крыўда ад праўды, як цень ад святла хаваецца. *Зах., 250.*

а) Крыўда ад праўды хаваецца. *М. Грынблат, 1974, Лаг.*

374. Праўда няпраўду перацягне. *Рапан., 238.*

## ПРА ЧУЖОЕ І УЛАСНАЕ

375. Чужое ў карысць не пойдзе. *Fed., 70.*
   а) Чужое дабро не ідзе ў карысць. *Fed., 71.*

376. Чужым дабром век не пражывеш. *Дразд.*

377. Чужым багацтвам сыт не будзеш. *Fed., 18.*

378. Чужым дабром не забагацееш (не збагацееш). *Fed., 70, 72.*
   а) З чужога гроша не разжывешся. *Сержп., 42.*
   б) Чужбінаю не нажывешся. *Нос., Слов., 701.*
   в) Чужым не запаможашся. *Янк., 269.*

379. Чужое не грэець. *Нос., 185.*
   а) Чужы грош не грэе. *Fed., 116.*
   б) Чужое багацтва не грэе. *Fed., 18.*
   в) Чужое не цешыць і не грэе. *Fed., 70.*

380. Чужы кажух (нікога) не грэе (не нагрэе). *Fed., 143; Я. Касач, 1966, Дзятл. 13.10.26.*
   а) Чужая лата не грэе. *Суяшк., 615, Шчуч.*

381. З чужога не радуйся (не цешся). *Fed., 70.*
   а) Чужым дабром не цешыцца. *Fed., 72.*

382. Чужая карысць — малая пацеха. *Fed., 138.*

383. Чужая яешня не вечна. *Нос., 184; Калянд., 1921.*

а) Чужая яечня не даўгавечна. *Л. Царанкоў, 1960, Хоц. 13.9.2.*

384. Як ні валяйся, толькі ў чужое не марайся. *Нос., 195.*

385. Хто сумленне мае, той чужога не чапае. *Р. Цыбульская, 1967, Валож. 13.10.24.*

386. Чужы кусок дзярэ раток. *І. Суконкін, 1960, Церах. 13.3.29.*

а) Чужая скварка рот дзярэ. *Янк. М., 20.*

б) Чужая ложка рот раздзірае. *Мiеп., 396. Вар.: Ахрым., 59.*

387. Чужы хлеб калом у горле сядзіць. *Ляцкий, 58.*

388. Чужое дабро бярэць за рабро. *Нос., 185; Мiеп., 396; Fed., 71; Pietk., 364; Дразд.*

а) Чужое дабро падпіраець пад рабро. *Добр., Смол., 133.*

389. Чужы грош кішэню рве (дзярэ). *Сержп., 42.*

390. Чужыя грошы — аскома. *Нос., 185.*

391. Чужы грош — воўк. *Fed., 116.*

392. Чужое бокам вылезе. *Рапан., 241; М. Бабарыкіна, 1966, Маз. 13.3.29.*

а) Чужое дабро вылезе бокам. *Fed., 71.*

б) Чужы грош бокам вылезе. *Fed., 116.*

393. На чужое дабро нясі слёз вядро. *Янк. М., 28.*

394. Чужога сваім не зробіш. *Ром., Мат., 74.*

395. Чужую хату тапіць — свае вочы сляпіць. *Нос., 185.*

396. Ла́сы на чужы (чужыя) каўбасы. *А. Жадзейка, 1965, Шчуч. 13.10.6; Бяльк., 247, Хоц.*

а) Не будзь ласы на чужыя каўбасы. *Г. Прытычанка, 1960, Карм. 13.3.29.*

б) Усе ласы на чужыя прыпасы. *Нос., 169; Дуб., 63.*

в) Ласы на чужыя прыпасы, а сваіх няма ў запасе. *Нос., 72.*

397. У чужое проса не сунь (не тыч) носа. *Dybow., 6; Шейн, II, 482, Слуцк. п.; Дуб., 69; Ляцкий, 51; Fed., 205, 247.*

а) Не суй носа не ў сваё проса. *М. Рымша, 1957, Маз. 13.3.29.*

б) У чужое проса не сунь свайго носа, ды глядзі, штоб з яго не капала. *Pietk., 332.*

в) Не ткні носа ў чужое проса. *Шейн, II, 479, Барыс. п.*

г) Не садзі носа не ў сваё проса. *1961, Кап. 13.9.5.*

398. Не твая палоса — не сунь носа. *А. Фядосік, 1959, Лен. 8.1.44.*

399. Не тычы носа не ў сваё калёса. *Dybow., 14; Fed., 205.*

400. На чужы каравай рота не разявай (не разяўляй). *Дуб., 42; Дразд.; А. Махнач, 1951, Уздз. 13.10.15; Г. Барташэвіч, 1962, Вайк. 8.1.77; М. Грынблат, 1971, Глыб. 8.2.43.*

а) На чужы каравай рота не разявай, а свой спарамляй. *Нос., 90.*

б) На чужы каравай рота не разяўляй, а свой старайся. *Г. Яцэвіч, 1965, Маст. 13.10.5.*

в) На чужы каравай рота не разявай, а свой май і людзям давай. *Янк. М., 84.*

г) На чужы каравай воч не надрывай, а свой май і людзям давай. *Янк. М., 84.*

401. На чужое добрае не разявай рта па самыя вушы. *Добр., Смол., 133.*

402. Не ў сваё карыта не лезь. *Г. Яцэвіч, 1965, Маст. 13.10.5.*

403. У чужыя сані не садзіся. *Pietk., 317. Вар.: Сержп., 132; Г. Яцэвіч, 1965, Маст. 13.10.5.*

404. Не лезь на чужое седала. *Янк., 241.*

405. Госпадзі прасці, да ў чужую клець пусці. *Нос., 28.*

406. Гатоў душой, ды хлеў чужой. *Дуб., Нар., 1.*

407. Каб тое спажыць, што ў чужой клеці ляжыць. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

а) Ці ўсё то спажыць, што ў чужой клеці ляжыць. *Нос., 179; Дуб., 38.*

408. На чужое лас, а свайго не дасць. *Fed., 170.*

409. Не руш (не бяры, не чапай) нічога (чужога), не бойся нікога. *Гильт., 287, Дзісен. п.; Радч., 248; Дуб., 37; Pietk., 303; А. Куцакова, 1956, Раг. 13.3.29; М. Гваздзёў, 1960, Рэч. 8.1.58; І. Курбека, 1961, Докш. 13.9.7.*

а) Не бяры чужога нічога — не бойся нікога. *Нос., 92; Дуб., 39; Сержп., 88; Дразд.*

б) Не чапай нікога, не бойся нічога. *Шейн, II, 479, Віл. п.*

в) Не займай чужога, не бойся нічога. *Нос., Слов., 169.*

410. За лычка рамушком плаціцца. *Нос., 45; Радч., 247; Ляцкий, 58; Сержп., 126; Дразд.*

а) Чужое лычка плаціцца рамушком. *Нос., 185.*

б) Узяўшы чужое лычка, аддасі рамяшком (рамянцом). *Mien., 395. Вар.: Fed., 172.*

в) Лычка ўкрадзь, раменьчыкам заплаціш. *Гильт., 292, Віл. п. Вар.: Ром., Бел., I, 296.*

г) За чужое лыка аддасі свой раменьчык. *Pietk., 317. Вар.: Ром., Зап., I, 215; М. Гваздзёў, 1960, Рэч. 8.1.58; С. Маісеенка, 1965, Жлоб. 13.3.25.*

д) За чужое лычка згубіш свой рамушок. *Fed., 172.*

е) За чужое лычка сваім рамушком не расплацішся. *Ром., Мат., 84. Вар.: Рапан., 241.*

ж) Зачапі чужое лычка, то сваім волікам не аплацішся. *Fed., 172.*

411. Пачнеш на лычку, а скончыш на раменьчыку. *Fed., 172.*

412. За чужую рагожу аддай кожу. *I. Хайратовіч, 1951, Кругл. 13.8.4.*

413. Не бяры чужога: аддасі сваё. *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

414. Чужое беручы, сваё рыхтуй. *Сцяшк., 615, Грода. Вар.: Нос., 185.*

415. Не працягвай рукі на чужое, бо сваё згубіш. *Д. Шыцік, 1961, Дубр. 13.9.6.*

а) Чужое ўзяць — сваё згубіць. *Сах.*

б) Не трэба чужое хацець — сваё паложыш. *Дуб., 43.*

в) Не ганіся за чужым, не трэба будзець плаціць сваім. *Дуб., 37.*

г) Хто чужога жадае, часта (часам) сваё пакладае. *Fed., 362.*

416. Чужое сваім не заві. *Рапан., 241.*

417. За чужое і чорт карае. *Fed., 70.*

418. Сам не давай і чужога не бяры. *М. Бандарэнка, 1966, Маз. 13.3.29.*

419. Сваё не забывай, а чужога не замай. *Ром., Зап., III, 231.*

420. Чужога не руш, свайго не папускай. *Fed., 70.*

а) Свайго не папушчай і чужога не давай. *Dybow., 18.*

б) Свайго не папушчу, а чужога не хачу. *Fed., 295, 70.*

421. Жывем — не магаем, чужога не хватаем, свайго не 'дстаўляем. *Добр., Смол., 36.*

422. У чужым свайго не найдзеш. *А. Фядосік, 1962, Капатк. 8.1.76.*

423. Ты па чужое, а чорт па тваё. *Fed., 70.*

424. Кідай сваё харошае — дзелай маё худое. *Добр., Смол., 133.*

425. Сваё лычка лушчы чужога раме́нца. *Шейн, II, 481, Слуцк. п.; Fed., 295.*

а) Лепш сваё лычка, як чужы рамушок. *Fed., 172.*

426. Лепша свая лежня за чужую калбасу. *Ворожб.*

427. Лепша сваё ніж дзядзькава. *Fed., 295.*

428. Чужога дабра (добрага) не гань, а свайго дрэннага (ліхога) не хвалі. *Г. Яцэвіч, 1965, Маст. 13.10.5; Fed., 70, 103.*

а) Свайго дурнога не хвалі, чужога харошага не губь. *Добр., Смол., 133.*

429. Чужое хвалі, а свайго ў гразь не тапчы. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

430. У чужом дабры ніхто не ўказчык. *Нос., 21.*

431. Забіў ты маю свінню, а я тваго бацька: няхай будзе галава за го́лаў. *Fed., 18.*

432. Лепі біць свае вошы, чым лічыць чужыя грошы. *Нос., 74; Дуб., 32.*

433. На чужэй ба шкуры вала спек, на сваей і вошы не заб'е. *Добр., Смол., 133.*

а) На чужой скуры спек бы вала, а на сваёй і вошы не спячэш. *Pietk., 316.*

434. Добра пець лалом за чужым сталом. *Дуб., 17; Pietk., 306.*

435. За чужымі блінамі і сваіх радзіцелей памінаюць. *Дуб., 23.*

а) Чужымі блінамі сваіх дзядоў памінаць. *Дуб., Нар., 12.*

436. Сваё сваім, а чужбінка лепі. *Нос., 147.*

437. На чужое дабро вочы гараць. *Сержп., 62.*

438. Не зайздросці чужому, а прыдбай сваё. *Мін.-Мал., 1970, 163, Узда.*

439. Што дразду па чужому каню. *Dybow., 18.*

440. Чужога ніхто не шкадуе. *Fed., 70.*

а) Не шкадуй чужой кішэні. *Fed., 145.*

441. Чужым дабром добра (латва) шахраваць. *Fed., 71.*

442. Хто чужога не шкадуе, той свайго не мае. *Ром., Мат., 85.*

а) Хто не шануе чужога, той свайго не мае. *Шырма, 206; А. Махнач, 1952, Узда. 13.10.15.*

б) Хто чужога не шануе, свайго мець не будзе. *Fed., 70.*

в) Хто чужога не беражэць, той і свайго не маець. *1961, Брасл. 13.9.5.*

443. Хто чужога не шануець, той свайго не варт. *Сах.*

444. Сваё палучай, а майго не чапай. *Ляцкий, 39.*

445. Чые бы бычкі не скакалі, былі б нашы цяляткі. *Аним., 265; Шейн, II, 483.*

а) Чые бычкі, абы маё цялятка было. *Tyszk., 420; Dybow., 191.*

б) Мала чые бычкі, былі б нашы цяляткі. *Нос., 76; Сержп., 68; Дуб., 35.*

446. На етым віташку кажды цяніць к свайму мяшку. *Добр., Смол., 133.*

447. Маё і ў вадзе не прападзе. *Dybow., 13.*

448. Усякаму сваё мілей. *Mien., 395.*

449. Свой сухар смачней чужых пірагоў. *Сцяшк., 608, Шчуч.*

450. Адна бульбіна, ды на сваім стале. *Сах.*

451. Тваё вялічнае, але і маё пылінаю па хаце не лятае. *Fed., 329.*

452. На сваім яйцы курыца гразі не бачыць. *Сцяшк., 600, Свісл.*

453. Не садзіся ў чужы плот, а хоць у крапіву, да ў сваю. *Сах.*

454. Як чужое ем,— глух і нем, як маё ядуць, дык слёзы цякуць. *І. Цішчанка, 1970, Астр. 8.2.29.*

455. На сваём каню, як хачу, качу. *Нос., 87.*

## ПАВУЧАННІ ГАСПАДАРЧА-БЫТАВОГА ХАРАКТАРУ

1. Жыві не так, як хочацца, а як можацца. *Сержп., 15.*

а) Жыві, як жывецца, а не так, як хочацца. *З. Загорская, 1953, Маладз. 13.10.40.*

б) Жыві не так, як хочаш, а як прыйдзецца. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

в) Жыві, як можна. *Fed., 368.*

2. Трэба так жыць, як набяжыць. *Нос., 164. Вар.: Мальч., № 42; Гильт., 287, Дзісен. п.; Dybow., 190; Радч., 249; Дуб., 60; Pietk., 353; Сержп., 15.*

а) Нада так жыць, як бяжыць. *М. Грынблат, 1971, Паст. 8.2.43.*

б) Трэба так жыць, як з твайго калодзезя набяжыць. *Tyszk., 416. Вар.: Нос., 164.*

в) Так трэба жыць, як у сваёй студні вада набяжыць. *Дуб., 60.*

3. Да ўсяго трэба прывыкнуць. *Fed., 251.*

4. Трэба жыць із заўтрам. *Fed., 367.*

5. Як гукнеш, так і адазвецца (адгукнецца, адклікнецца). *Czeczot, 109; Нос., 194; Fed., 120; Pietk., 322; А. Фядосік, 1969, Стол. 8.2.15; М. Расюкевіч, 1965, Навагр. 13.10.2; Дразд.; Р. Мухляда, 1965, Шчуч. 13.10.5.*

а) Як гукаюць, так і адгукаюцца (адгукваюць). *А. Куцакова, 1956, Раг. 13.3.29; І. Курбека, 1961, Докш. 13.9.7.*

б) Як клічуць, так і адклікваюцца. *Мат., 177; Н. Парукаў, 1958, Добр. 13.3.29.*

в) Як паклічаш, так і адклікнецца. *М. Бандарэнка, 1966, Маз. 13.3.29.*

г) Як клікнулі, так і адазваўся. *Fed., 146.*

д) Як аўкнеш, так і адазвецца. *Гильт., 287, Віл. п.*

е) Як аўкаюцца, так і адгукваюцца. *С. Клачко, 1966, Б.-Каш. 13.3.29.*

ж) Як аўкнецца, так і адклікнецца (адгукнецца). *Гильт., 287, Дзісен. п.; Ахрым., 61.*

6. Сабраным калоссем не пракормішся. *Янк., 254.*

7. Што навозіш, тое і ўтопчаш. *«Ніва», 1975, № 42.*

8. Слухаць добрай рады не шкодзіць. *Fed., 256.*

а) Парада ніколі не пашкодзіць. *Сержп., 133.*

9. У людзей пытай, да свой розум май. *Шейн, II, 482, Слуцк. п.; Dybow., 7; Сах.; Дуб., 64; Fed., 253.*

а) Людзей слухай, свой розум мей. *Tyszk., 415; Шпил., 183; Гільт., 252, Вілен. п.; Нос., 247; Dybow., 183; Булг., 176; Fed., 263; Pietk., 390; Л. Царанкоў, 1960, Рэч. 13.9.2.*

б) Другога паслухай і свой розум мей. *Ляцкий, 10.*

в) Чужых людзей слухай, а свой розум май. *Ром., Бел., I, 314.*

г) Людзей слухай, а сваім розумам жыві. *І. Суконкін, 1960, Церах. 13.3.29.*

д) У людзей радзься, а свой розум мей. *Fed., 257.*

е) Людзям вер і свой розум мей. *Mien., 396.*

10. Усякі Ерамей пра сябе разумей. *Ром., Зап., I, 215.*

11. Жыві сваім розумам. *Fed., 264.*

12. Аткуда цёплы вецер, туды і бок выстаўляеш. *Добр., Смол., 122.*

13. Пытайся не ў старага, а ў бывалага. *Tyszk., 415. Вар.: Нос., 142; Dybow., 188; Fed., 200.*

а) Не пытай у старага (сталага), а пытай у бывалага. *Гильт., 291, Пруж. п. Вар.: Mien., 395; Fed., 253, 291; 1962, Кап. 13.9.2.*

14. Судзі па леце. *М. Грынблат, 1975, Мінск.*

15. Лепей заўча́су, ніж па часе. *Fed., 351.*

а) Лепш зарана, ніж запозна. *Fed., 242.*

16. Агню ў шапцы не носяць. *Янк., 202.*

17. Іскру тушы да пажару, бяду адводзь да ўдару. *Ахрым., 34.*

18. Куй жалеза, пакуль гарачае. *Fed., 363.*

а) Кавай зялеза, пакуль гарача. *Дуб., Нар., 1.*

б) Пара́ што жалеза: куй, пакуль гарачае. *У. Іваноў, 1958, Мінск 13.10.17.*

в) Куй жалеза, пакуль куецца. *Гильт., 291, Віл. п.*

г) Куй жалеза на гарача. *Fed., 363.*

д) Тады зялеза куй, калі жарко. *Аним., 264.*

е) Куй жалеза, пакуль не астыла. *Ахрым., 37.*

ж) Куй жалеза, покі гарача, бо як астыне, то не ўкуеш. *Fed., 363.*

19. Трымай, калі злавіў. *Ляцкий, 46.*

а) Што злавіў у рукі, то дзяржы. *Fed., 266.*

20. Што зловіш, то тваё. *Fed., 170.*

а) Што хапануць, тое і добра. *Сержп., 88.*

21. Упусціў з рук, то і бяжы за ветрам. *Сержп., 78.*

22. Укароціш — не вароціш. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

23. Адсячэш — не прыставіш. *Янк., 203.*

24. Мяняць дабро на дабро не спяшайся. *Янк., 235.*

25. Ад добрага лепшага не шукаюць. *Янк., 202.*

26. Пагнаўшыся за малым, большы пацяраеш. *Нос., 128.*

а) За малым пагонішся, вялікае сцяраеш. *Дразд.*

27. Паквапішся на вялікае, то й малое згубіш. *Fed., 329.*

а) Не ганіся за вялікім, а то й малое згубіш. *1961, Брасл. 13.9.5.*

б) Пажанéшся за вялікім, то й малое згубіш. *Fed., 329.*

28. Лішняга пажалаеш — паследняе пацяраеш. *Fed., 166.*

29. Хто хоча надта многа, то не мае і мала. *Ром., Мат., 85.*

30. За камаром не ганяйся з тапаром. *Ляцкий, 12.*

а) Не ганіся за мухай з абухам. *Г. Прытычанка, 1960, Карм. 13.3.29.*

б) За мухай не зганяешся з абухам. *Нос., 46.*

31. Хоць нямнога даюць — бяры, хоць недалёка шлюць — не йдзі. *Нос., 174.*

32. Гавары ды й чэрпай. *Янк., 209.*

33. Не вылівай старой вады, пакуль новай няма. *Сах.*

34. Не пагрукаўшы ў сценку, дамкá (хаткі) не купляюць. *Янк., 242.*

35. Новае рабі, а старога не падпірай. *Янк., Дыял., III, 164, Глуск.*

36. Дзяры лыка, як дзярэцца: як прысохне, не ўдзярэш. *Fed., 172.*

а) Дзяры лыка, пакуль (як) дзярэцца. *Fed., 172; Pietk., 329.*

37. Уважай вяліка за малое. *Fed., 329.*

38. Не вер чужым рача́м, да вер сваім вачам. *Fed., 261.*

39. Не вер вачам: вазьмі да памацай. *Fed., 335.*

40. З незабітага ліса кажуха (шубы) не шыюць. *Нос., 157; Дуб., 20; Сах.*

а) Не ўбіўшы мядзведзя, не дзялі шкуру. *А. Лучанок, 1961, Мінск 13.9.6.*

б) Калі мядзведзь у лесе, то скуры не дзяруць. *Fed., 182.*

в) Мядзведзь у лесе, а шкура прададзёна. *Ром., Бел. I, 300.*

г) Мядзведзь у лесе, а ён яго шкуру прапіў. *Ляцкий, 22.*

д) На жывым мядзведзю шкуры не купляй. *Dybow., 14; Fed., 182.*

е) Не злавіўшы (не паймаўшы), не скубі. *Сержп., 28; Добр., Смол., 15.*

ж) Не скубі, пакуль не зловіш. *Fed., 261.*

41. Не хваліся нажаўшы, а хваліся памалаціўшы (змалаціўшы). *Янк., 246.*

42. Не хваліся, як пачынаеш, не тойся, як зробіш. *Янк., 246.*

43. Па кветках яблыкаў не лічы. *Янк., 248.*

44. Не паймаўшы, не кажы: тпру! *Нос., 102.*

45. Лепш варона злоўленая, чым сокал у небе. *А. Махнач, 1952, Узд. 13.10.15.*

а) Лепшая сініца ў руках, як журавель пад небясамі. *Dybow., 183; Fed., 277.*

46. Спадзяешся ў кумы пад'есці, а ці наварыла табе кума есці? *Янк., 257.*

47. Не па шэрсці плакаць, калі скуру начнуць дра́каць. *Ляцкий, 27.*

48. Не жалей клюка, калі сыпіцца крупа. *Ляцкий, 25.*

49. Туману не наважыш, а расы ў цэбар не нальеш. *Янк., 260.*

50. З кішэні каня не накорміш. *Янк., 219.*

51. За двума зайцамі пагонішся — ні аднаго не паймаеш. *Бяльк., 369, Мілясл.*

52. Свае ўзяў, то й праў. *Ляцкий, 40.*

53. Не ступай у пусты след. *Ляцкий, 28.*

54. Для простай дарожкі крывога гасцінца не мінай. *Fed., 106.*

55. Дзяржыся з варонай і вераб'ём, што ў вырай не ляцяць. *Fed., 327.*

56. Не ўсё тое бяры, што хораша. *Ляцкий, 31.*

57. Не шукай мора — у лужы ўтопішся. *Гильт., 293, Віл. п.*

58. Ператрэш — мягчэй будзе. *Ляцкий, 34.*

59. Не глядзі біла́, абы была́. *Fed., 31.*

60. Кладучыся спаць, падумай, як устаць. *І. Цішчанка, 1969, Слаўг. 8.1.21. Вар.: В. Лашчэўская, 1967, Дзятл. 10.28.8.*

61. Перш чым зайсці, падумай, як выйсці. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

62. Умей улезці, умей і вылезці. *Ляцкий, 50.*

63. Ад дажджу не ў ваду. *Нос., 121.*

64. Не лезь, куды галава не лезе. *В. Іваноўская, 1963, Смарг. 8.1.83.*

65. Круці галавою, каб не дастаць пятлёю (пятой). *Dybow., 192. Вар.: Дуб., 10; Fed., 100.*

66. Не паламаўшы касці, дадому не нясці. *Fed., 150.*

67. Без крылаў не паляціш. *Fed., 154.*

68. Што нукнеш, то і ўедзеш. *Ром., Зап., III, 236.*

69. Як не ўтрымаўся за грыву, дык і на хвасце не ўдзяржышся. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

70. Не палажыўшы (не паклаўшы), не возьмеш. *Fed., 214; Л. Царанкоў, 1960, Мінск 13.9.2.*

    а) Не паклаўшы, не шукай. *Fed., 301. Вар.: Ляцкий, 27.*

    б) Не палажыўшы, нечага шукаць. *Д. Вайтушка, 1965, Лід. 13.10.1.*

71. Дзе паложыш, там і возьмеш. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

    а) Як паложыш, так і возьмеш. *Ахрым., 82.*

72. Далей пакладзеш (паложаш), бліжэй возьмеш. *Сах.; А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15; Л. Лазовік, 1965, Скід. 13.10.4.*

73. Дзе згубіў, там знайдзі. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

74. Не пацяраўшы, нечага шукаць. *Нос., 102.*

а) Чаго не згубіў, таго не на́йдзеш. *Fed., 354; Р. Цыбульская, 1967, Валож. 13.10.24.*

75. Шукай, дык знойдзеш. *Сержп., 90.*

а) Не шукаючы, не на́йдзеш. *Нос., 109; Fed., 301.*

76. Пашукай, як трэба, і знайдзеш, што трэба. *В. Ганчаронак, 1960, Відз. 13.9.26.*

77. Куды пойдзеш — тое і знойдзеш. *Ахрым., 37.*

78. Рука не адсохне, калі ад сябе адгорне. *Янк., 253.*

79. Усенька можна, абы асцярожна. *Fed., 189.*

80. Бей драбней — больш шчоту будзець. *1961, Кап. 13.9.5.*

81. З цялячым хвастом не сунься ў ваўкі. *А. Махнач, 1962, Уздз. 13.10.15. Вар.: Г. Барташэвіч, 1960, Нясв. 8.1.50.*

82. Не чыніся бараном, бо яшчэ воўк з'есць. *Fed., 22.*

83. Зрабіся авечкай, а ваўкі будуць. *Т. Шумская, 1967, Кліч. 13.10.21.*

84. Рабі, каб воўк быў сыт і каза цэла. *Dybow., 17. Вар.: Fed., 340, 339.*

а) Так трэба рабіць, каб воўк быў сыты і козы цэлы. *Fed., 254; Pietk., 338.*

б) Згажа́ць трэба так, каб воўк быў сыт і козы цэлы. *Нос., Слов., 202.*

в) І воўк сыты, і козы цэлы. *Шпил., 181; Dybow., 9. Вар.: Fed., 339; Г. Румоўская, 1965, Пліс. 13.10.40.*

г) Каб козы былі сыты і сена цэла. *Fed., 141.*

д) І козы сыты, і сена цэла. *Шпил., 181; Ляцкий, 14; Dybow., 9; Ром., Бел., I, 298; Л. Царанкоў, 1960, Касц. 13.9.2.*

е) І конь сыт, і сена цэла. *Крэмнеў.*

85. Як пасцелішся, так і выспішся. *Czeczot, 109; Нос., 194; Dybow., 184; Fed., 222; Ахрым., 62; А. Фядосік, 1959, Лен. 8.1.76; А. Тур, 1965, Руж. 13.10.1.*

а) Як пасцяліш, так і паспіш. *А. Лучанок, 1960, Мінск 13.9.6.*

б) Як хто пасцелецца, так і выспіцца. *Pietk., 343; Г. Барташэвіч, 1962, Вайк. 8.1.77.*

86. Варонаю не будзь, то і сарока не падвядзе. *Сцяшк., 583, Вайк.*

87. Між (прамеж) дзвярэй пальца не кладзі (не шчамі). *Дуб., 35, 45; Нос., 137; Fed., 213.*

а) Не кладзі пальцаў паміж дзвярэй. *Дуб., 39.*

б) Не садзі рук паміж дзвярэй. *Fed., 266.*

в) Між дзверы і вушняк пальца не суй. *Pietk., 333.*

88. Не плыві процiў вады, бо ўтопішся. *Гильт., 298, Пруж. п.*

89. Гдзе не пераскочыш, там па́дзеш. *Ryp., 213.*

90. Не скачы чэраз яму, піць захочацца. *Гильт., 287, Дзісен. п.*

91. Не зведаўшы броду, не лезь (не кідайся) у воду. *Tyszk., 416; Нос., 98; Дуб., 38; Л. Царанкоў, 1960, Рэч. 13.9.2.*

а) Не знаўшы броду, не лезь у воду. *Fed., 43; Pietk., 312; Г. Румоўская, 1965, Пліс. 13.10.40.*

б) Не спазнаўшы (не змераўшы) броду, не суйся ў воду. *Ром., Зап., III, 224. Вар.: 1961, Брасл. 13.9.5.*

в) Не знаеш броду — не прыгай у воду. *Н. Свёкла, 1965, Іў. 13.10.2.*

92. Ідучы па кладачцы, на бакі не глядзі. *Янк., 224.*

93. Хутка йдзеш — бяду найдзеш, памалу ідзеш — бяда цябе нагоніць. *А. Фядосік, 1971, Петр.*

94. Не разам на гару: паціхеньку, памаленьку. *Добр., Смол., 50.*

95. Збочыць з дарогі лягчэй, як на дарогу натрапіць. *Янк., 221.*

96. Менш жмурыся, больш убачыш. *Сах.*

97. Не ўчы рыбу плаваць. *Мат., 183, Глуск. Вар.: М. Бандарэнка, 1966, Маз. 13.3.29.*

98. Ты збоку слухай, да на ус матай. *Fed., 283.*

99. Каму цесна, няхай уступіць. *Fed., 58.*

100. За другога не бярыся. *Сержп., 47.*

101. Бруднага пчолы не падпускаюць. *Янк., 206.*

102. Варыва пры хаце росцяць. *Янк., 208.*

103. З коньмі робячы, пугі не забываюць. *Янк., 219.*

104. І ў малую дарогу збіраючыся, бяры рэптух сена. *Янк., 223.*

105. Калі хвою зрэзаў, то і пня прыбяры. *Янк., 227.*

106. З курамі лажысь, з петухамі ўставай. *Юрч., 1972, 271.*

107. Не марнуй часу дарэмна: вясна пройдзе, не вернеш. *«Ніва», 1956, № 4.*

## МАРАЛЬНЫЯ ПАВУЧАННІ

108. Шануй людзей, то і цябе пашануюць. *Fed., 64; І. Суконкін, 1960, Церах. 13.3.29.*

а) Паважай другіх — будуць і цябе паважаць. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

109. Не чыні таго другім, што табе не люба. *Дуб., 43.*

а) Не жадай (не сулі) другому, што табе не міла. *Дуб., 39. Вар.: Fed., 70; 1961, Брасл. 13.9.5.*

б) Чаго не хочаш самому, не чыні другому. *Д. Вайтушка, 1965, Лід. 13.10.1.*

в) Што табе не міла, другому не чыні. *Fed., 70.*

г) Не рабі другому, што не люба самому. *Калянд., 1925. Вар.: «Ніва», 1975, №2.*

д) Што сабе не міла, таго і другому не зыч. *Нос., 189. Вар.: Fed., 362.*

е) Чаго сабе не хочаш, другому не зыч. *Fed., 47; Р. Цыбульская, 1967, Валож. 13.10.24.*

ж) Чаго сабе сам не зычыш, таго другому не дзелай. *Нос., 181.*

110. Любі другога, як сябе самога. *Рапан., 15.*

111. Не плюй на крывога — будзеш сам гарбаты. *Шпил., 186; Нос., 101; Dybow., 186.*

112. Пажыві чалавекам, сабакам пажыць шчэ паспееш. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13. 3. 29.*

113. Сам жыві і другім давай жыць. *Сержп., 70.*

114. Не капай на каго (на чалавека) ямы, бо сам упадзеш. *Гильт., 293, Віл. п. Вар.: Нос., 99; Булг., 177; Fed., 125; Ром., Зап., III, 224; Сержп., 47.*

а) Не капай на людзей яму, бо сам туды пападзешся. *Pietk., 373.*

б) Не капай каму яму, бо сам увалішся. *А. Фядосік, 1959, Лен. 8.1.44. Вар.: А. Бізук, 1965, Шчуч. 13.10.1; Л. Шчыкарэвіч, 1965, Навагр. 13.10.4; М. Бохан, 1965, Маст. 13.10.3.*

в) Не капай перад кім яму, скарэй сам увалішся. *І. Лесніковіч, 1965, Смарг. 13.10.4.*

г) Не капай на людзей яму, свая разінуўшы стаіць: у сваю пападзеш. *Добр., Смол., 14. Вар.: 128.*

д) Хто яму капае, той сам туды пападае. *Сержп., 47.*

е) Хто на другога яму капаець, сам часта ў яе ўпада́ець. *Нос., 176; Dybow., 191.*

ж) Хто на каго яму капае, той сам у яе ўваліцца. *Fed., 125.*

115. Не падстаўляй стулка нікому, бо сам сядзеш на ём. *Fed., 291.*

116. Не гатуй людзям пятлі: сам павесішся. *Ляцкий, 25.*

117. Ад добрага не ўцякай і благога (ліхога) не рабі. *Янк., 202.*

118. Не рабі каму бяды, бо сам яе сустрэнеш. *М. Расюкевіч, 1965, Навагр. 13.10.2.*

119. Не плюй у ваду: згадзіцца (трапіцца, здарыцца) напіцца. *Mien., 396; Гильт., 291, Віл. п. Вар.: Булг., 177; Fed., 325; Г. Яцэвіч, 1965, Маст. 13.10.5; А. Бізук, 1965, Шчуч. 13.10.1.*

а) Не плюй у воду: часам трэба будзе напіцца. *Czeczot, 112; Шпил., 186; Dybow., 186.*

б) Не плюй у ваду, бо прыйдзець напіцца. *Tyszk., 421. Вар.: Ром., Бел., I, 303; Pietk., 349; У. Хомка, 1965, Гродз. 13.10.4.*

в) Не плюй у крыніцу: прыдзеш па вадзіцу. *Ляцкий, 27.*

г) Не плюй у крыніцу — прыдзецца напіцца. *Ю. Маркевіч, 1965, Шчуч. 13.10.3.*

д) Не плюй у лужу: згадзіцца напіцца. *Нос., 101.*

е) Не плюй у лужыцу: сагнешся ды й нап'ешся. *Добр., Смол., 115.*

ж) Не плюй у карытца, мо, прыдзецца напіцца. *А. Русіновіч, 1964, Светл. 13.1.29.*

з) Не плюй у калодзеж, мо, прыдзецца напіцца. *1961, Кап. 13.9.5. Вар.: А. Шчыкарэвіч, 1965, Навагр. 13.10.4.*

і) Не плюй у мора, бо, можа, прыдзецца напіцца. *Гильт., 291, Пруж. п.*

к) Не загразняй вадзіцы: давядзецца напіцца. *М. Багдзевіч, 1966, Маз. 13.3.29.*

120. Кінь перад сабою — знойдзеш за сабою. *Tyszk., 421; Шейн, II, 477; Дуб., 26; Шырма, 205; М. Расюкевіч, 1965, Вайк. 13.8.2.*

а) Кінь наперад — наза́дзі найдзеш. *Гильт., 288, Дзісен. п.*

б) Кінь напярод, а знойдзеш назаду. *Ляцкий, 18. Вар.: А. Фядосік, 1959, Лен. 8.1.44; Юрч., 1974, 41.*

121. Закінь назад — наперадзе знойдзеш. *В. Іваноўская, 1962, Светл. 8.1.74. Вар.: Ром., Бел., I, 299; Нос., 61.*

а) Кінь за сабой — найдзе́ш перад сабой. *Гильт., 291, Віл. п.; Dybow., 192; Fed., 53; Pietk., 325; I. Лесніковіч, 1965, Смарг. 13.10.6.*

б) Кінь ззаду — падымеш наперадзе. *Л. Царанкоў, 1960, Мінск 13.9.2.*

в) Пастаронні людзі кажуць: кінь за сабой, то знайдзеш перад сабой. *Klich, 49.*

122. Памажы каму ў худабе́, то дасць бог і табе. *Fed., 215.*

123. Перст лізні адзін, а другому дай. *Добр., Смол., 106.*

а) Што аднаму, то і другому. *Добр., Смол., 106.*

б) Сам пайдай і другому ўкусіць дай. *Міеn., 395.*

124. Калі робіш дрэннае для людзей, то робіш дрэннае для сябе. *А. Фядосік, 1969, Стол. 8.2.15.*

125. Што людзём пазычыш, то і сам палучыш. *Добр., Смол., 17.*

126. Ляпей быць пакрыўджаным, ніж каго скрыўдзіць. *Fed., 155.*

127. Любіў добрае, цярпі ж і злое. *Нос., 75.*

128. Няхай нашае перайдзець. *Tyszk., 422. Вар.: Нос., 106; Pietk., 380.*

129. Добрым не адагнаць кепскага. *Fed., 78.*

130. Ліхое ліхім і збываць. *Ром., Зап., III, 222.*

131. Не вер воўчаму сэрцу. *Цяшк., 601, Слон.*

132. Сам у сябе папытай. *Fed., 253.*

133. Цягні конскую главу, ды не чалавечую. *Вас., 15.*

а) Не цягні чалавечай галавы з гразі — самога ўтопіць, а цягні конскую — самога выцягнець. *Нос., 108.*

134. І над сабакаю трэба літасць мець. *Fed., 269.*

135. Хто людзём жалае дабра, тэй палучыць сам сабе заўсягда. *Добр., Смол., 36.*

136. Умеў прынімаць добрае — умей прынімаць і худое. *Гильт., 287, Дзісен. п.*

137. Не кідай жывога, не шукай умершага. *Fed., 373.*

138. Не смуцься, страціўшы, не цешся, знайшоўшы. *Цяшк., 602, Воран.*

а) Згубіш — не шкадуй, знойдзеш — не радуйся. *Сержп., 90.*

б) Знайшоў — не радуйся, згубіў — не плач. *М. Мельнічэнка, 1960, Гом. 13.3.29.*

в) Найшоў — не ўзрадаваўся, пацяраў — не заплакаў. *Нос., 91.*

г) Не радуйся, што забагацеў, не смуціся, што збяднеў. *Мін.-Мал., 1970, 163, Уздз.*

139. Згубіўшы, не тужы, найшоўшы, нікому не кажы. *Pietk., 400.*

140. Дзе ўзяў, там палажы. *Fed., 324.*

141. Не бярыся і за сваю кішэню, а не то, каб што. *Сержп., 47.*

142. Узяў тапор, вазьмі ж і тапарышча. *Ром., Зап., I. 216.*

143. Не падымай носа — спатыкнешся. *Сах.*

а) Не падымай высока нос, а то спатыкнешся. *М. Смурага, 1967, Свісл. 13.10.28.*

144. Не ўздымайся ў жыццё высока, каб не ўпасці глыбока. *Сержп., 70.*

а) Не лятай высока, бо нізка сядзеш. *Fed., 161.*

145. Не хапайся дужа, часам парвешся. *Нос., 108.*

146. Не стой, то не ўпадзеш. *Сержп., 70.*

147. Не табе дадзена, не ты і свішчы. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

148. Салому еш, а дзяржы хвост пісталетам. *Юрч., 1972, 193.*

149. Напярод не забягай. *Fed., 346.*

150. Упярод не вырывайся і ззаду не аставайся. *Fed., 344. Вар.: А. Фядосік, 1962, Капатк. 8.1.76.*

а) Уперад не лезь, ззаду не аставайся, сярэдзіны трымайся. *Fed., 163.*

б) Наперад не вытыкайся, пазаду не аставайся, серадзіны трымайся — будзеш цалейшы. *Ляцкий, 23.*

151. Калі занятаў, то няма чаго пярэднім замінаць. *Янк., 226.*

152. Не лезь на ражон. *Л. Царанкоў, 1952, Мінск 13.9.2.*

153. Не кладзі паклону, калі цябе не віншуюць. *Ляцкий, 2.*

154. Калі плачуць, не драмі. *Mien., 396.*

155. Не лезь, куды цябе не клічуць. *Fed., 163.*

а) Не суй носа, куды цябе не просяць. *1961, Брасл. 13.9.5.*

б) Не лезь туды, дзе табе не трэба. *Fed., 163.*

156. Без спросу не сунь носу. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

157. І не лай, і не перапрашай. *Fed., 169.*

158. Не злуйся вельмі: кроў папсуеш. *Рапан., 202.*

159. Хвалі, хвалі, ды не перахвалі. *Сержп., 136.*

а) Не хвалі, бо перахваліш на адзін бок. *Сержп., 136.*

160. Калі хваляць, не хваліся. *Янк., 227.*

161. Па шорстцы пагладзь, а после сядзь. *Ляцкий, 34.*

162. Не будзь салодкі — зліжуць, не будзь горкі — сплююць. *І. Саламевіч, 1975, Слон. Вар.: Л. Царанкоў, 1960, Рэч. 13.9.2.*

а) Не будзь салодкі, бо пераліжуць; не будзь горкі, бо пераплююць. *Dybow., 14. Вар.: Fed., 271.*

б) Не будзь горкі, ні салодкі: горкага праплююць, салодкага праліжуць. *Fed., 112.*

в) Не будзь лішне салодкая, бо праглынуць; не будзь лішне горкая, бо праплююць. *1961, Кап. 13.9.5.*

г) Будзь, мядок, ні горкі, ні салодкі: салодкі пратруць, а горкі праплююць. *Шырма, 205. Вар.: Янк., 206.*

д) Не будзь горак — праклянуць, не будзь салодак, бо пракаўтнуць. *Міеп., 395.*

е) Жыві ні горкім, ні салодкім: горкага праклянуць, а салодкага праглынуць. *Ахрым., 31.*

ж) Калі будзеш горкім — праплюнуць, а калі салодкім — праглынуць. *Гильт., 287, Дзісен. п.*

з) Не будзь ні горак, ні салодак: будзеш горак — праплююць, будзеш салодак — праклююць. *Нос., 93; Дуб., 42. Вар.: Pietk., 321.*

і) Не будзь салодкі і не будзь горкі: будзеш салодкі — пракаўтнуць, а будзеш горкі — праплююць. *М. Бандарэнка, 1966, Маз. 13.3.29.*

163. Абліжы мяне, калі горка, а як салодка, сам абліжуся. *Нос., 177.*

а) Не ліжы мяне, када я салодка, а када горка: када салодка, я сама сябе выліжу. *Добр., Смол., 127.*

164. Не цяліла — не ліжы. *Н. Купцоў, 1967, Ветк. 13.3.29.*

165. У дзве (чатыры) солі не мачай. *А. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11; Г. Яцэвіч, 1965, Маст. 13.10.5.*

а) У дзве солі не мачай, будзе солана. *Цяшк., 611, Воран.*

166. Нечага даваць загуну другім, калі свае мурзатыя. *Юрч., 1975, 165.*

167. Не будзь затычкай чужога хлева. *С. Цярохін, 1973, Саліг.*

168. Паперад бацькі ў пекла не хватайся. *Раст., 196.*

а) Не спяшайся ўпярод бацькі ў пекла. *Fed., 232.*

б) Не спяшы раней бацькі на той свет. *І. Курбека, 1961, Докш. 13.9.7.*

в) Не хапайся (не спяшайся) упярод бацькі на шыбеніцу. *Нос., 108; Дуб., 38.*

г) Уперад бацькі на шыбеніцу не кідайсь. *Бяльк., 504, Хоц.*

д) Раней за бацьку не лезь на шыбеніцу. *Л. Царанкоў, 1960, Касц. 13.9.2.*

169. Прад дужым не гніся, над слабым не глуміся. *А. Ліс, 1969, Шарк.*

170. Трэба так гнуцца, як апрануцца. *Fed., 111.*

171. Не пазірай на свет чужымі вачмі. *Мін.-Мал., 1970, 163, Уздз.*

172. Старога звычаю не кідайся. *Нос., Слов., 234; Дуб., 52.*

173. Гады і самі ідуць (будуць ісці), а розуму набірайся. *Янк., 210.*

174. Каята́ ёсць, ды развароту няма. *Нос., 59.*

175. Ка́янка будзе, а павароткі не будзе. *Янк., 228.*

176. На дурное дзела вума многа не нада. *Юрч., 1969, 182.*

177. Сама кашы наварыла, сама і еш. *«Ніва», 1973, № 38.*

178. Хто ў гаршку лыжкай варочаў, той няхай і кашу хлёбае. *«Ніва», 1974, № 23.*

179. Глянуўшы ў вочы, не пытай (не трэба пытаць) здароўя. *Fed., 335.*

а) Глянуўшы ў твар, не пытаць здароўя. *Fed., 315.*

180. Не можна чалавека судзіць па ве́рсе. *Fed., 63.*

181. Не мерай [другіх] на свой аршын. *Мін.-Мал., 1970, 164, Пух.; М. Гваздзёў, 1960, Рэч. 8.1.58.*

182. Будзі спакойнага, дай паспаць увішнаму. *Янук.*

183. Не бажыся надарэмна. *Fed., 24.*

184. Калі не веруюць — не бажыся, калі б'юць — не прасіся. *Шпил., 182. Вар.: Шейн, II, 477, Барыс. п.; Fed., 332.*

185. Вер і не вер. *Fed., 332.*

186. Незнакомаму ніколі не вер. *Fed., 202.*

а) Не вер, то не ашукаюць. *Fed., 332.*

б) Не вер нікому, не зрадзіць ніхто. *Нос., 95. Вар.: Fed., 332.*

187. Сам сабе не вер. *Fed., 332.*

188. Не знаўшы чалавека, не аддавай яму душы. *Г. Румоўская, 1965, Пліс. 13.10.40.*

189. Не давай, на очы не выкідай. *Fed., 74.*

190. Не дзівіся, каб не ўракці.*Сержп., 70.*

191. Бойся не таго сабакі, што брэша, а таго, што лашчыцца. *Зах., 251.*

а) Не бойся той сабакі, коя варчыць, бойся той, коя маўчыць. *Ром., Зап., III, 224.*

192. На пажары харом не распісваюць. *Аним., 264.*

193. У адно вуха ўпусці, а ў другое выпусці. *Нос., 20.*

194. Еш пірог з грыбамі ды дзяржы язык за зубамі. *Нос., 191. Вар.: Радч., 249; Fed., 126; Pietk., 323; М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29; А. Фядосік, 1959, Лен. 8.1.76; 1961, Кап. 13.9.5; Н. Купцоў, 1967, Ветк. 13.3.29.*

а) Еш капусту (капустачку) з грыбамі, дзяржы язык за зубамі. *І. Курбека, 1961, Докш. 13.9.7; Л. Царанкоў, 1960, Крыч. 13.9.2.*

б) Дзяржы язык на прывязі. *Нос., 33.*

195. Калі язык свярбіць, то прыкусі. *Л. Царанкоў, 1960, Касц. 13.9.2.*

а) Перакусі, што маеш сказаць. *Fed., 279.*

196. Маўчы і толькі дышы. *Л. Царанкоў, 1960, Мінск 13.9.2.*

197. Чуў не чуў — маўчы. *Fed., 180.*

198. Маўчы да патаквай. *Fed., 181.*

199. Табе не пытаць, а мне не казаць. *Fed., 253.*

200. Умей упору і памаўчаць. *А. Махнач, 1952, Узд. 13.10.15.*

а) Не ровен час: у добры сказаць, а ў худы памаўчаць. *Ром., Бел., I, 303.*

201. Упярод падумай, а потым скажы. *Fed., 280.*

а) Пяць раз падумай, а адзін раз скажы. *1961, Калінк. 13.9.5.*

202. Калі раіш суседу, то абмазгуй да следу. *Янк., 89.*

203. Не ўсё тое людзям гавары, што знаеш. *Ляцкий, 31.*

а) Не ўсё трэба гаварыць, што знаеш. *Нос., 94.*

204. Менш гавары — больш пачуеш. *В. Іваноўская, 1963, Смарг. 8.1.83.*

205. Гавары, што ведаеш, але ведай, што гаворыш. *З. Загорская, 1953, Маладз. 13.10.40.*

206. Са ўсякім па-ўсякаму і гавары. *Ляцкий, 39.*

207. Не нажа́ бойся, а доўгага языка. *Сцяшк., 601, Ваўк.*

208. Не бойся звяглівага, а куслівага. *Нос., 92; Дуб., 38; Fed., 20.*

209. Будзь смелы не языком, а дзелам. *П. Рында, 1967, Зельв. 13.10.23.*

210. Не нудзь ды не нудзь, калі слёзы з воч не йдуць. *Ляцкий, 30.*

211. Не думай аб том, што мінула. *Fed., 84.*

212. Не спамінай ліхога. *Fed., 166.*

213. Хто старое памянець, таму распёкшы палец да ў вока. *Нос., Слов., 64; Дуб., 70.*

214. Няма чаго наперад загадваць. *Сержп., 26.*

а) Нечага на тры вякі загадваць. *Сержп., 27.*

215. Як любіш катацца, то любі й са́нечкі вазіць. *Янк., Дыял., I, 213, Глуск.*

а) Любіш катацца (ездзіць), любі і саначкі вазіць (цягаць). *Dybow., 182; Ляцкий, 19; Fed., 328; А. Махнач, 1952, Узда. 13.10.15; Я. Бортка, 1965, Дзятл. 13.10.4.*

б) Калі любіш вазіцца, то любі і саначкі пад гору цягаць *Fed., 328.*

в) Любіш ездзіць на вазочку з гары, любі ж і вазочак вазіць на гару. *Нос., 75.*

216. За ваўкамі жыць — трэба на воўкі выць. *Дуб., 23.*

а) З ваўкамі жыць — па-воўчу выць. *Сержп., 39; І. Януля, 1965, Ваўк. 13.10.3. Вар.: Fed., 341.*

б) Сярод ваўкоў жыць — па-воўчу і выць. *Дразд.*

217. Жыві з сарокамі, жыві й з варонамі. *Ром., Бел., I, 296.*

218. Не давай рукам волі, бо воля ўвядзе ў няволю. *Гильт., 291, Пруж. п.*

219. Дай душы волю, то сам будзеш у няволі. *Fed., 88.*

220. Нябітаму нечага плакаць. *Нос., 92.*

221. Не бі чужога цела — будзе сваё цэла. *Г. Прытычанка, 1960, Карм. 13.3.29.*

222. Бешанаму не давай нажа ў рукі. *Ром., Зап., I, 215.*

223. Не ўцякай, то не будуць даганяць. *Pietk., 348.*

224. Не дражніся з сабакаю, то не ўкусіць. *Fed., 269.*

225. Не кладзі пальцы ў зубы — адкусіць. *Нос., 98.*

а) Не кладзі палец у рот, бо адкусіць. *Сержп., 14.*

226. Зуб за зуб. *Дразд.*

227. Не братайся, рубля не прапіўшы. *Добр., Смол., 9.*

228. Дзе п'юць таўкачы́, там носа не тычы́. *Fed., 311.*

229. У меру пі, у меру й дружбу вадзі. *Ляцкий, 49.*

230. На сабачы брэх не глядзі, а сваёю дарогай ідзі. *Янк., 237.*

231. Не слаўся красою, а слаўся розумам. *Вучні, 1962, Шарк. 8.2.43а.*

232. Кепскае (нялюдскай, ліхой) славы не прадасі. *Янк., 228.*

233. Даронае не дораць. *М. Грынблат, 1974, Лаг.*

234. Не дасадзі малому, не помніць стары. *Ром., Зап., III, 225.*

## ЖЫЦЦЁВЫЯ НАЗІРАННІ

235. На свеце ўсяляк бывае. *Pietk. 395.*

 а) Мала што не бывае. *Fed., 45.*

236. Усякага прыгажаецца з чалавекам. *Нос., Слов., 499.*

237. Як тое мінецца, то зноў заманецца. *Fed., 187.*

238. Свяціла б сонейка, а месячык не сагрэе. *Янк., 255.*

239. Што было, то ведаем, а што будзе, то ўгледзім. *Fed., 45.*

 а) Што было, то бачылі, а што будзе, тое пабачым. *Pietk., 355.*

 б) Што было, то бачылі, а што будзе — пабачым ці пачуем, калі жывы будзем. *Сержп., 11.*

240. Пажывем далей, угледзім (павідзім) болей. *Fed., 318; Нос., 130; Дуб., 47.*

241. Нікалі [тое] было, нікалі будзе. *Fed., 45. Вар.: Нос., 112; Ром., Бел., I, 304; Сержп., 30.*

242. Не было б тое, было б што другое. *Fed., 45.*

243. Так — наліха, а гэтак — напуста. *Янк., 258.*

244. Час не конь: не падгоніш і не прыпыніш. *Янк., 269.*

245. Што было, то было, ужо ўсё пераміну ла. *Fed., 45.*

246. Што прайшло, таго не вернеш. *С. Заянчкоўская, 1956, Церах. 13.3.29.*

а) Што было, тое не ве́рнецца. *Pietk., 359.*

247. Прышоў Хтоцкі, ухапіў штоцька: бяжы ды лаві. *Ляцкий, 36.*

248. Што сталася, то не пераменіцца. *Fed., 288.*

249. Ад добрага цяжэй адвыкаць, як да добрага прывыкаць. *Янк., 202.*

250. Даўней было складане́й. *Сержп., 48.*

а) Даўней было раўней. *I. Курбека, 1961, Докш. 13.9.7.*

251. Не ад нас так заведзена. *Сержп., 77.*

а) Не з нас пайшло. *Сержп., 39.*

252. Не за нас свет пачаўся і не за нас скончыцца. *Fed., 308.*

а) Не на нас пачалося, не намі і кончыцца. *Сержп., 28.*

б) Не ад нас тое пайшло й не ад нас яно кончыцца. *Сержп., 77.*

в) Не пры нас стала, не пры нас пярэйдзе. *Ляцкий, 27.*

253. Крыва пачаў — крыва і будзе. *Янк., 230.*

254. Дзела бытое, даўно забытое. *Нос., 34.*

255. Як з вачэй, то й з думкі. *Fed., 335.*

а) Што (абы) з вачэй, то й з мыслі. *Fed., 325, 334.*

б) Абы з воч, дык і з памяці проч. *I. Курбека, 1961, Докш. 13.9.7.*

256. Вочы не бачаць, то й душа (сэрца) не баліць. *Fed., 336.*

257. Пакуль жыць, не забыць. *Сержп., 139.*

258. Не ўсё нам ператужыць, што набяжыць. *Mien., 396.*

259. Хто не быў — пабудзе, хто пабыў — не забудзе. *С. Маісеенка, 1965, Жлоб. 13.3.25.*

260. Да чужога цела няма нікому дзела. *Нос., 37.*

261. Чаго вочы не відаюць, аб тым не плачуць. *Ляцкий, 57.*

262. Вочы не плачуць, а сэрца. *А. Ліс, 1966, Глыб. 8.1.104.*

263. Што слёзы — раса́. *Сержп., 137.*

264. Слёзы — вада, галаве — бяда. *Сах.*

265. Усякаму свая сляза едка. *Сах.*

а) Бываюць слёзы рэдкі, да едкі. *Добр., Смол., 19.*

266. Уроненай слязы не паднімеш. *В. Брычакоў, 1960, Карм. 13.3.29.*

267. Хоць галавою аб пень, хоць пнём аб голаў, то ўсё галаве боль. *Fed., 99.*

а) Ці галавою аб камень, ці каменем па галаве, то ўсё-такі галаве баліць. *Fed., 99.*

268. Не кіем, то паленам — усе ж тым самым дрэвам. *Dybow., 14.*

269. Не кіем, да палкаю. *Сержп., 10; Д. Зальцэвіч, 1965, Радун. 13.10.6; М. Бандарэнка, 1966, Маз. 13.3.29. Вар.: Нос., 101.*

а) Што кій, што палка. *Горленка, 251, Жытк.*

б) Што кіем, што палкай. *Г. Яцэвіч, 1965, Маст. 13.10.5.*

в) Чы кіем, чы палкаю — усё роўна. *Ляцкий, 58.*

270. Павіннай галавы і меч не ймець. *Нос., 128; Дуб., 47; Сержп., 99.*

а) Павіннай галавы не сцінаюць. *Нос., 128.*

271. Скарэй скорага не будзе. *Ляцкий, 41; Сержп., 140.*

272. Святы дзень хутка праходзіць. *Янк., 255.*

273. Як такі фэст, то лепей будзень. *Янк., 274.*

274. Многа вады ўплывець, пакуль чалавек таго дажывець. *Нос., 78.*

275. Як сягонні, так і заўтра. *С. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

276. Усё свой час мае. *Fed., 64.*

277. Усё добра ў пару. *Сержп., 132.*

278. Днём лета не позна. *Янк., 215.*

279. Лепей позна, чым ніколі. *Дразд.; М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

а) Лепш потым, ніж ніколі. *Fed., 242.*

б) Лепш паждаўшы, ніж ніколі. *Fed., 225.*

280. Прыйдзе пара, што выйдзе ўсё наверх. *Fed., 343.*

281. Будзе толк, ды доўга ждаць. *Ром., Бел., I, 291.*

282. Просьба месца мае. *Янк., 251.*

283. Невядома, хто ўпéрадзе. *Fed., 232.*

284. Няведама, хто з берагу. *Fed., 31.*

а) Не знаем, хто з нас стаіць з берагу. *Pietk., 311.*

285. Увага не блага. *Нос., 166.*

286. У чужым воку і порах відна, а ў сваім калода не відна. *А. Фядосік, 1962, Капатк. 8.1.76.*

а) У чужом воку і парушынку ўгледзім, а ў сваім і цэлай калоды не пабачым. *Fed., 336.*

б) У чужым воку і пылінку бачыць, а ў сваім і бервяна не заўважае. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

в) Чужое бачыць пад лесам, а сваго не бачыць і пад носам. *Fed., 70.*

г) Чалавек бачыць некага пад лесам, а ў сябе і пад носам не бачыць. *А. Мацкала, 1965, Іў. 13.10.3.*

287. Прывычка горш няволі. *Pietk., 388.*

288. На прывычку ёсць адвычка. *Суяшк., 599, Ашм.*

а) На прывычку ёсць і звычка. *Ахрым., 40.*

289. Слава на вароцях не вісіць. *Шырма, 206.*

а) Слава на паліцы не ляжыць. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

290. Не ўсё салодкае хваляць. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

а) Не ўсё салодкае смачнае. *Янк., 245.*

291. Лепша павага, ніж знявага. *Fed., 224.*

292. Сам сябе ніхто не ганьбіць. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

а) Ніхто на сябе не скажа. *Fed., 279.*

293. Чалавек сабе не вораг. *Fed., 61; Pietk., 362.*

а) Ніхто сам сабе не вораг. *Fed., 272; Дразд.; М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

б) Ніхто сябе ў руку не ўкусіць. *Сах.*

в) Ніхто на свой хвост пляваць не будзе. *Л. Царанкоў, 1960, Рэч. 13.9.2.*

г) Свая ручка (рука) не ліхадзейка. *Шпил., 189; Нос., 147.*

д) Свая ручка не сучка. *Міеп., 397.*

294. Ніхто сам сябе не знае. *Fed., 359.*

295. Ка́жан свае душы пан. *Fed., 89.*

296. На лобе ні ў кога не напісана, які ён. *Fed., 171.*

297. Га́дзіна проста не паўзе. *Янк., 210.*

298. Хто мыліцца, той мае па патыліцы. *Янк., 266.*

а) За абмылку даюць у запатылку. *Сах.*

б) За памылку б'юць па затылку (у запатылку). *Нос., 46; Fed., 216.*

299. Абмылка — не карысць. *Сержп., 129.*

300. Ніхто не ест без памылкі. *Fed., 216.*

301. Як ні куляешся, а ўсё памыляешся. *Янк., 273.*

302. Памылка (абмылка) у фальш (хвальч) не ставіцца. *Сержп., 129; Ром., Бел., I, 305.*

303. За памылку не плацяць. *Нос., 46.*

304. У кожнага свая асечка. *Сах.*

305. Не быў яшчэ на смычковым перавозе. *Нос., 93.*

а) Быў на смычковым перавозе. *Добр., Смол., 53.*

306. Прыкласць ніхто не прыкладзець, а ўзяць усякі вазьме́ць. *Нос., 137.*

307. Да аглобляў коськаюць, а ў аглоблях пугі даюць. *Янк., 211.*

308. Што задужа, то не здарова. *1961, Брасл. 13.9.5.*

а) Цо задужа, то не здрова. *М. Грынблат, 1971, Эйшышскі р-н ЛітССР.*

309. На двох калясках адзін не паедзеш. *Fed., 134.*

310. Вялікае проста не даецца. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

311. З малога прыдзе да вялікага. *Fed., 177.*

312. Малым началося, а вялікім кончылася. *Ляцкий, 20.*

313. Лепш мала, ніж нічога. *Fed., 176.*

314. Адзін хоча сёе, другі тое. *Fed., 47.*

315. Каму як балота, а каму як залота. *Fed., 21.*

316. Галавою муру не праб'еш. *Fed., 100.*

а) Муру лбом не разаб'еш. *Нос., 81.*

б) Галавою сцяны не праб'еш. *Pietk.. 369.*

317. Вышэй сваіх кален не падскочыш. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

а) Вышэй пояса не падскочыш. *Л. Царанкоў, 1960, Мінск 13.9.2.*

б) Вышэй пупа не прыгнеш (не падскочыш). *1961, Кап. 13.9.5; І. Байко, 1967, Клецк. 13.10.29.*

в) Вышэй носа не пераскочыш. *Сержп., 38.*

г) Вышэй галавы не паднімешся. *Никиф., 1, 202; Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

318. Вочы вышы лба не ходзяць. *Нос., 17.*

а) Звыш лобу вочы не ходзюць. *Дуб., 21.*

б) Вышы лба глаза не ходзяць. *Добр., Смол., 15.*

в) Вышай лба глаза не растуць. *Ром., Зап., І, 216.*

319. Які дзень, такі і пажытак. *Нос., 193; Сержп., 133.*

320. У запас не наспацца, не нагуляцца. *Янк., 261.*

321. На палец барадаўка — і то прыбаўка. *Нос., 86.*

322. Хоць караткавата, ды ўзлавата. *Ляцкий, 54.*

323. Хоць каротка, ды ўвётка. *Ляцкий, 54.*

324. Хоць дрогка, ды нагам лёгка. *Янк., 264.*

325. Хоць вузка, абы цэла. *1961, Брасл. 13.9.5.*

326. Хоць горшае, абы іншае. *Ігнат.*
   а) Хоць горш, ды інш. *Радч., 249.*

327. На хоць не накінеш аброць. *М. Грынблат, 1968, Смал.*

328. Ці сяк, ці так — няхай будзе. *Fed., 44.*

329. Хто моцна жадае, той і мае. *Сержп., 62.*

330. Дзе ўзяць, там узяць, абы было. *Fed., 324.*

331. Знайшоў тое, чаго шукаў. *Fed., 359.*

332. Каб не каб, то ўсё было б. *Д. Шыцік, 1961, Дубр. 13.9.6.*

333. Хто бліжэй да міскі, той і чэрпае. *Янк., 265.*

334. Можна толькі адным куском удавіцца. *Dybow., 13.*

335. Хто не бачыў вялікага, той з малога дзівіцца. *Fed., 96.*

336. Хто новага не відаў, тэй і старому рад. *Нос., 177.*
   а) Хто не бачыў новага, той старому рад. *Fed., 290.*

б) Хто новага не чуў, той і стараму рад. *Сах.*

337. Добра таму й плеш, хто не відзеў нічога лепш. *Ляцкий, 10.*

338. Воўк не еўшы, як селянін пагараўшы: што ўбачыць, тое і трэба. *Янк., 209.*

339. Асінавы дух, казліны пух — дык вылезе дух. *Янк., 203.*

340. Дзе прыбывае, там і ўбывае. *Fed., 248.*

341. Нічога з нічога й выходзіць. *Ляцкий, 29; Сержп., 129.*

342. З пустой пасуды не п'юць, не ядуць. *Добр., Смол., 74.*

343. Ад знайдзенага мала карысці. *Сержп., 90.*

344. Находка і сваё забярэ. *Сержп., 90.*

345. Знойдзенае скора загубіш. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

346. Лепш згубіць, чым знайсці. *Сержп., 90.*

347. Прыдаéцца найці, прыдаéцца і пацяраць. *Нос., 137.*

348. Быў бы я пéўчым, да мне нé ў чым. *Добр., Смол., 59.*

349. Што лёгка дастаецца, тое не дорага цэніцца. *М. Гваздзёў, 1960, Рэч. 8.1.58.*

350. Тое дорага, што не лёгка даецца. *Махнач, 29.*

351. Прышло махам і пойдзець прахам. *Нос., 139.*

а) Прышло махам і пойдзе ветрам-прахам. *Ляцкий, 36.*

352. Воўка, з меха выпусціўшы, цяжка злавіць. *Янк., 208.*

353. Доўга чакана, то й доўга трымáна. *Fed., 65; В. Бондар, 1967, Мінск 13.10.24.*

354. Згубіць не штука, да навек мука. *Сержп., 72.*

355. Згуба не загуба. *Сержп., 90.*

356. Многа ўжываных, да мала выбрáных. *Fed., 324.*

357. Як ты мне, так я табе. *Fed., 124.*

358. Чаго не зочыў, таго не пераскочыў. *Ляцкий, 57.*

359. Хоць ужэй, была б даўжэй. *Добр., Смол., 30.*

360. Дзе тонка, там і рвецца. *Сержп., 56; Дуб., 16; А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

а) Дзе коратка, там і рвецца. *Гильт., 292, Віл. п.; Міеn., 395; Dybow., 9; Ляцкий, 10; Fed., 136; Pietk., 326; Ахрым., 28; Дразд.; А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15; Л. Царанкоў, 1960, Крыч. 13.9.2.*

б) Дзе коратка, там рвецца, дзе больна, там б'ецца. *М. Грынблат, 1967, Мінск.*

361. Дзе баліць, там ударышся. *Fed., 21.*

362. Абяцаная шапка вушэй не грэе. *Сержп., 5.*

а) Абяцаная шапка на вушы не лезець. *Нос., 117.*

363. Часта абяцаюць, але рэдка датрымаюць. *Сержп., 5.*

364. Ці даў, ці не даў, абы абяцаў. *Сержп., 5.*

365. За пасул гневу няма. *Нос., 46.*

а) За пасул гневацца не буду. *Fed., 223.*

366. Шыла ў мяшку не ўтоіцца (не ўхаваеш, не схаваеш, не ўтоіш). *Fed., 301; Pietk., 345; Р. Мухляда, 1965, Шчуч. 13.10.5.*

а) Шыла ў мяшку не ўтоіцца, вылезе кончык. *Fed., 301.*

б) У мяшку шыдла не схаваеш, бо наверх вылезе. *Fed., 302.*

в) Шыльца ў мяшочку не ўтоіш. *Нос., 186.*

367. Быў бы хлеб, а мышы збягуцца. *Янк., 206.*

368. У цёмным месцы і гніляк свеціцца. *А. Махнач, 1952, Узд. 13.10.15.*

а) У пацёмку і гнілушка свеціцца. *Ахрым., 55.*

369. Хто гоніць, той дагоніць. *Fed., 103.*

370. Хто бяжыць, той набяжыць. *Fed., 31.*

а) Не на корч, то на торч набяжыць. *Fed., 194.*

371. Дранае пер'е лепш сечанага. *Сержп., 13.*

372. Ні сабе ўзяць ні людзям паказаць. *Горленка, 250, Нар.*

373. Не ўсё тое кепска, што на пагляд. *Fed., 143.*

374. Прыпеўкі трасуць кішэнькі. *Нос., 138.*

а) Прыпеўкі не без грошы (грошай). *Ляцкий, 36; Сержп., 50.*

б) Прыпеўкі болей каштуюць, чымсі самае дзела. *Нос., 138.*

375. Не быць казе на вазé. *Fed., 141.*

376. Лес сякуць — трэскі ляцяць. *А. Махнач, 1952, Узд. 13.10.15; Л. Царанкоў, 1960, Мінск 13.9.2.*

а) Дзе дровы рубаюць, там трэскі лятаюць. *Dybow., 9; Fed., 82; Pietk., 317.*

б) Дзе дровы сякуць, там трэскі лятуць. *Dybow., 9; Дразд.*

377. Айдзе рубаюць, а куды трэскі ляцяць. *Дуб., 2. Вар.: Крэмнеў.*

а) Ідзе рубаюць, а куды цуркі ляцяць. *Нос., Слов., 691.*

378. К сцяне гарох не прыстаець. *Нос., 72.*

379. Калі маё не ў лад, то я з сваім назад. *Kolb., 472, Пін. п.*

380. І жалеза іржа з'ядае. *Т. Багдзевіч, 1965, Шчуч. 13.10.6.*

381. І залеза сатрэцца. *Fed., 348.*

382. І вада застаялая гніе. *Янк., 222.*

383. Калі топішся, і за брытву хопішся. *Шейн, II, 477, Барыс. п.; А. Фядосік, 1962, Капатк. 8.1.76; Янк. М., 77.*

а) Хто топіцца, і за брытву хопіцца (хватаецца, хапаецца). *Нос., 178; Дуб., 68; Fed., 310.*

б) Топленік і за брытву хватаецца. *Fed., 313.*

в) Танучы і брытвы хватаецца. *Fed., 310.*

г) Хто топіцца, той і за гойструю касу хопіцца. *Pietk., 346.*

384. Хто тонець, ратавання просіць. *Нос., 178; Дуб., 69.*

385. Іншы раз не рэчка топіць, а калюжына. *М. Дуброўскі, 1956, Лельч. 13.3.29.*

386. Хто топіцца, то папіхаюць. *Fed., 310.*

387. За адным рынам то ўсе гінем. *Fed., 268.*

388. Недаскочыў — кепска і пераскочыў — кепска. *Fed., 27.*

а) Недаскочыў — бяда, пераскочыў — бяда. *Fed., 27.*

б) І не даступіў — б'юць, і пераступіў — б'юць. *Fed., 30.*

в) І за тое б'юць, што недакруціў, і за тое, што перакруціў. *Янк., 73.*

389. Пузам не вывезем, карманам не вынесем. *М. Гвaздзёў, 1960, Рэч. 8.1.58.*

390. Добрая гушча наверх не ўсплывае. *Янк., 215.*

391. Як ваду ні таўчы, вада вадою будзе. *Сержп., 44.*

а) Таўчы ваду, вада й будзе. *Т. Лапаціна, 1961, Рэч. 13.3.24.*

392. З пяску ні пугі, ні вяроўкі не саўеш. *Pietk., 335.*

а) З пяску батага́ не уўеш. *Fed., 229.*

393. Ад сабакі аладкі не з'ясі. *Янк., 202.*

394. Голай аўцы не астрыжэш. *Fed., 106.*

395. Воўкам не наарэш. *Янк., 208.*

396. Адным гарбузікам не пад'ясі, а расічкаю не нап'ешся. *Янк., 203.*

397. Плеццю абуха не перасячэш (не пераб'еш). *Нос., 127; А. Лучанок, 1960, Мінск 13.9.2.*

398. Лыжкаю мора не вычарпаеш. *М. Бандарэнка, 1966, Маз. 13.3.29.*

399. Месяц з неба кіем не скалоціш. *Лужанін, 48.*

400. Месяц зубамі не ўхопіш. *Лужанін, 48.*

401. Жаба арэх любіць, але яна яго не раскусіць. *Я. Шмыгіна, 1965, Навагр. 13.10.2.*

402. З неспадзе́ванага падчас бывае спадзе́ванае. *Fed., 201.*

403. Чалавек думае так, а выйдзе зусім іначай. *Fed., 61.*

404. Не ўсё то збываецца, на што чалавек дужа спадзяваецца. *Нос., 94.*

405. Не ўсіх людзей ваўкі паелі — яшчо асталісь. *Добр., Смол., 131.*

406. Што не можна, то не можна. *Fed., 189.*

407. Усё можна, толька асцярожна. *Tyszk., 432.*

408. Лепей астарожна, чым варожна. *А. Ліс. 1965, Смарг.*

409. Не тады плавацъ вучыцца, калі вада ў рот плывецъ. *Сах.*

410. Даўбі камень, то і камень перадаўбецца. *Pietk., 324.*

411. Адно другога не дзяржыцца. *Fed., 95.*

   а) Адно другога не клеіцца. *Fed., 145.*

412. Не будзе дуба, не трэба і грыба. *Янк., 239.*

413. Не ўгадаеш, дзе найдзеш, а дзе пацяраеш. *Нос., 105. Вар.: Добр., Смол., 105.*

414. На тое вір: калі і ўмелага ўкруціць, а калі і няўмелага на бераг вынесе. *Янк., 237.*

415. Чорнае к беламу не прышываюць. *Нос., 183.*

416. Чорнае ад белага адмыецца. *Ляцкий, 58.*

417. Забота чалавека сушыць. *Добр., Смол., 125.*

418. Каб чалавека пазнаць, то трэба з ім бочку солі з'есці. *Fed., 62.*

   а) Каб пазнаць чалавека, трэба з ім пуд солі з'есці. *Сержп., 39.*

419. Жывое аб жывым думае. *Сержп., 91.*

420. З калом у горла не ўлезеш. *Нос., 157.*

421. Ка́жан хоча жыць. *Fed., 367.*

422. Простае жыццё здароўе дае. *Дуб., 50.*

423. Часам чалавек сам сабе найгоршы непрыяцель. *Fed., 62.*

424. Як заплюшчымся, то не адпусцімся. *Fed., 349.*

425. Як вы нашым, так мы вашым. *Fed., 198.*

426. Што мне сягоння, то табе заўтра. *Fed., 274.*

427. Не ты першы і не ты астатні. *Fed., 233.*

428. Кус на кус, а трэці з кроўю. *Fed., 159.*

429. Слава балазе, што здох воўк у лазе. *Добр., Смол., 125.*

430. Каму здалося, а мне збылося. *Нос., 67; Дуб., 32.*

431. Пажывём, пабачым больш. *Pietk., 382.*
б) Як дажывём, то й угледзім. *Fed., 318.*

432. Ідзі, пакуль дзверы адчынены, бо потым не дасі рады. *Fed., 122.*

433. Галава нагам зладзей. *Добр., Смол., 126.*

434. Калі дадзяржу, то й дастаю. *Ляцкий, 16.*

435. Не заўсёды, добра сеўшы, добра едуць. *Янк., 240.*

436. І сабака добры дух чуе, не то чалавек. *Fed., 269.*

437. Ці ў жыці, ці ў быці — то ўсё адно. *Fed., 366.*

438. Што вышэй, то харашэй. *1961, Брасл. 13.9.5.*

439. Серадзінка, як аўчынка: і летам і зімой добра. *Ляцкий, 41.*

440. Не адно, так другое. *Добр., Смол., 19.*

441. Гэты пра воз, а той пра коз. *Янк., 211.*

442. Мы і дагэтуль гэтага не зналі і жылі, то й далей будзем. *Fed., 359.*

443. Мая крышка перабудзе тваю капельку. *Fed., 154.*

444. Шкода нікому не міла. *Fed., 299.*

445. Галосіць не па Рыгору, а па сваім гору. *Янк., 210.*

446. Рэч з рэччу не зраўняеш. *Ляцкий, 38.*

447. Як нам не годна, то другому згодна. *Fed., 111.*

448. Што ўпала, то прапала. *Fed., 321.*

449. Што большы, той не меньшы. *Ляцкий, 60.*

450. Вялікага дуба з малым карэннем не бывае. *Янк., 209.*

451. Даўжэй латанага, ніж новага. *Fed., 170.*

452. Адно надакучыць. *Fed., 5.*
а) Адно надаесць. *Fed., 5.*

453. Няма гораў без далінаў. *Fed., 103.*

454. Не ўсё адразу. *Fed., 5.*

455. Як будуць біць, то не будуць лаяць. *Fed., 30.*

456. На тое б'юць, каб балела. *Fed., 30.*

457. Як захочаш выцяць сабаку, дык і кій знойдзеш. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

а) Хто хоча сабаку ўдарыць, той кій найдзе. *Ворожб.*

458. Не месца галавы шукае, а галава месца. *Янк., 242.*

459. Без карысці і мёд горкі. *Fed., 138.*

460. Упіка́ная ласка — не ласка. *Дуб., 62; Нос., 168.*

461. Тагды чалавек памысліць мусіць, як свая вош укусіць. *Нос., 163.*

462. Як пайшоў пляшывы ў лес, дык згубіў і плеш. *1961, Брасл. 13.9.5.*

463. Лёгка таго біць, хто ляжыць. *Сержп., 19.*

464. Лёгка кінуць, але цяжка падняць. *В. Бондар, 1967, Мінск 13.10.24; 1961, Брасл. 13.9.5.*

465. Латвей камусь парадзіць, ніж сабе. *Fed., 257.*

466. Каб ведаць, дзе павалішся, саломкі бы падсцяліць. *Дуб., 26.*

а) Каб знаў, што ўпадзеш, то б сеў. *Сержп., 27. Вар.: Fed., 321; Г. Яцэвіч, 1965, Маст. 13.10.5; А. Бізук, 1965, Шчуч. 13.10.1; Ю. Ботвін, 1967, Ваўк. 13.10.28.*

б) Каб веданька, дзе павалішся, лепей бы сесці там. *Дуб., 26. Вар.: Нос., Слов., 65, 226; Шпил., 181.*

в) Каб ведаў, дзе павалішся, там бы лёг. *Ляцкий, 14.*

г) Каб ведаў, дзе ўпаду, дык і саломкі падаслаў бы. *Сах. Вар.: А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15; Н. Парукаў, 1958, Добр. 13.3.29; Л. Царанкоў, 1960, Хоц. 13.9.2.*

д) Каб знаў, дзе ўпадзеш, дык абышоў бы. *І. Суконкін, 1960, Церах. Вар.: М. Бандарэнка, 1966, Маз. 13.3.29.*

е) Як бы чалавек знаў, дзе спаткнецца, то б абышоў тое месца. *Pietk., 338.*

ж) Каб знаў, дзе яма, то пераступіў бы. *Г. Яцэвіч, 1965, Маст. 13.10.5.*

467. Адрэжаш галаву — зноў не прыставіш. *Никиф., 1, 202.*

468. Калі не адсохнець галава, вырасцець барада. *Нос., 65.*

469. Душа ўсё чуе, да не скажа. *Ляцкий, 11. Вар.: Fed., 87.*

470. Каго білі, той плача. *Сержп., 38.*

471. Каб каза не скакала, то б нагі не зламала. *Fed., 141.*

472. Кажнаму свой чарвяк сэрца точыць. *Fed., 65.*

а) Кожны мае свайго моля, што яго грызе. *Fed., 188.*

473. На кажнае чмых не наздароваешся. *Ляцкий, 23.*

а) На кажды чох не наздароўкаешся (не наздра́стуешся). *Дуб., 41; Ром., Бел., II, 301.*

б) На ўсякае чханне не наздароўкаешся. *Fed., 65.*

474. Каб не той ох, то б чалавек даўно б здох. *Fed., 206.*

475. Вол рагамі, а сві́нні нагамі. *Pietk., 395.*

476. І пальцы на руцэ няроўныя. *Янк., 223.*

477. Не блізка ляжыць, не больна баліць. *Нос., 92.*

478. Справа забыўчыва, а цела заплыўчыва. *В. Брычакоў, 1960, Карм. 13.3.29.*

479. Лытка тады цянець, айдзе цяміць. *Нос., 74.*

а) Дзе лытка цяміць, туды й цягнець. *Сержп., 77.*

480. Заўтракамі цыган каня карміў, дык ён здох. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

481. Калі ёсць аснова, то будзе і ўток. *Янк., 225.*

482. Ядзяць і іх паела. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

483. Ад хлеба людзі ўміраюць. *Fed., 52.*

484. Недавольнага не ўдавольствуеш. *Добр., Смол., 15.*

485. Рыба шукаець, дзе глыбі, а чалавек, дзе лепі. *Нос., 145. Вар.: Fed., 63; Сержп., 134.*

а) Рыба шукае, дзе глыбжай, а чалавек, дзе лучшай. *Pietk., 363.*

486. Не забудзеш крычаць, калі стануць скуру драць. *Ляцкий, 25; Сержп., 21.*

а) Тагды будзеш выць, як стануць біць. *Нос., 162; Fed., 243.*

487. І жывы будзеш, а косці паломяць. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

488. Уцёк — твая сіла, не ўцёк — твая спіна. *Крэмнеў.*

489. Граза ў лес не гоніць. *Дразд.*

а) Граза ў лес не йдзець, а па людзях ходзіць. *Дуб., 10.*

б) Граза ў лес не ходзіць, а па людзях. *Нос., 29.*

490. Хоць махáлам махайся, не адмахнешся (не аджанéшся). *Нос., 174; Fed., 7.*

491. Адзін з агнём, другі з полымем. *Нос., 118. Вар.: Fed., 7.*

492. Адзін з агнём, другі з вадою. *Нос., 118.*

493. Гара мышы не душыць. *Л. Царанкоў, 1960, Мінск 13.9.2.*

494. Мая пацеха — чужая карысць. *Fed., 208.*
495. Не знаеш, ад чаго палепшае. *Нос., 98.*

496. Што то гаварыць, што не мае быць. *Fed., 109.*

497. Як памнецца — не пагладзіш, як пагладзіш — не памнецца. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

498. Хто дзянькуе, той сам сабе шкадуе. *Дуб., 68.*

499. Няма карэсу без інтарэсу. *Fed., 137.*

500. Хто захоча, хай той скоча. *Дуб., 69. Вар.: Fed., 47.*

501. Укусіўшы, не заліжаш. *Нос., 168; Сержп., 125; А. Жадзейка, 1965, Шчуч. 13.10.6.*

502. Хоць крыху, абы добрага. *Fed., 78.*

503. Калючы ёрш, але юшка смачная. *Янк., 227.*

504. Праведнікі ядзяць і грэшнікі хацяць. *Добр., Смол., 80.*

505. З боку лёпей відно. *М. Грынблат, 1966, Мінск.*

506. У кальца няма канца. *Сах.*

507. Скольні смутку, стольні й радасці. *Ром., Бел., I, 308.*

508. Каму шанцуе на гадоўлю, а каму — на гароўлю. *Янк., 228.*

509. Тагды пабачыш, як заплачаш. *Нос., 162.*

510. Круціцца на языку, а ўспомніць не магу. *Сержп., 130.*

511. Рэшатом вады не наносіш. *Ляцкий, 38; Ахрым., 50; Н. Свёкла, 1965, Іў. 13.10.2.*

512. Дзярэцца — на новае бярэцца. *Ляцкий, 10.*

а) Б'ецца — на новае спадзяецца. *Янк., 205.*

513. Капля па каплі і камень ламае. *Ахрым., 35; А. Махнач, 1952, Узда, 13.10.15.*

514. Хто нідзе не мандраваў, той нічога не бачыў. *Fed., 178.*

а) Хто нідзе не бываў, той нічога не бачыў. *Fed., 46.*

515. Чым болей у лес, тым болей дроў. *Tyszk., 420. Вар.: Fed., 162; В. Дашкоўская, 1965, Ваўк. 13.10.2; Р. Мухляда, 1965, Шчуч. 13.10.5.*

а) Дальш у лес — больш дзяроў. *Pietk., 328.*

б) Далей у лес — болей труску. *Нос., 32. Вар.: Дуб., 17.*

516. Дзе стан, там і стаў. *Нос., 23.*

а) Дзе стаў, там і стан. *Нос., 23; Дуб., 14.*

517. Які стан, такі стаў. *Fed., 289.*

518. Клін клінам выганяюць (выбіваюць). *Ryp., 213; Mien., 395; Нос., 62; Pietk., 326.*

а) Клін кліна выбівае (паганяе). *Сержп., 82; Янк., Дыял., III, Глуск.*

519. Высока падняў, ды знізу не падпёр. *Шейн, II, 474, Ігум. п.; Fed., 209.*

а) Падняў высока, ды нічым не падпёр. *Pietk., 332.*

520. Чым большыя рогі, тым месяц гарэй свеціць. *Лужанін, 48.*

521. Гэта яшчэ цвет, а ягады будуць. *Нос., 23.*

а) Гэта толькі цвет, ягады яшчэ будуць. *Tyszk., 432. Вар.: Pietk., 315.*

б) Гэта толькі цвет, а ягадак яшчэ нет. *Ляцкий, 8. Вар.: Сержп., 137; Fed., 59.*

в) Гэта яшчэ краса, а ягадкі будуць. *М. Грынблат, 1974, Лаг.*

522. Гаршчок з гаршчка не насмяецца, бо абыдва чорныя. *Fed., 105.*

523. Лепш ссівець, як злысець. *Янк., 232.*

524. За высокім частаколам слівы смачнейшыя. *Янк., Дыял., III, 159.*

525. Новы венік першы раз нячыста мяце. *Янк., 247.*

526. Не бывае агня без дыму. *Fed., 7.*

527. Адкуль дым, адтуль і полымя. *Нос., 121.*

528. Без прычыны і хвост не матляецца. *Янк., 205.*

529. Які «здароў будзь», такі і «на здароўе». *Янк., 275.*

530. Каму прыбаліць, тэй і прыбяжыць. *Добр., Смол., 66.*

531. Цераз хлеб крошкі не збіраюць. *А. Гурскі, 1975, Кап.*

532. То дабро, што ўсім раўно. *Добр., Смол., 131.*

## У. І. ЛЕНІН. КАМУНІСТЫЧНАЯ ПАРТЫЯ. САВЕЦКАЯ РАДЗІМА

1. Ленін — наша сонца яснае. *Янк., 29; «Бярозка», 1963, № 4.*

2. Ленін — сонца, свеціць у кожнае ваконца. *Н. Парукаў, 1958, Добр. 13.3. 29.*

3. Ленін просты, як праўда, а мудры, як народ. *«Чырвоная змена», 17 красавіка 1960 г.*

   а) Ленін просты, як праўда, і, як праўда, вялік. *Астап.*

4. Праўда і Ленін — браты. *В. Санько, 1969, Слуцк.*

5. Ленін — мудрасці геній. *Н. Парукаў, 1958, Добр. 13.3.29.*

6. Ленін — геній дваццатага века: з раба стварыў чалавека. *Рапан., 279.*

7. Ленін ведаў на сто год (лет) уперад (наперад). *Янк., 29; І. Суконкін, 1960, Церах. 13.3.29; У. Іваноў, 1958, Мінск 13.5.17; У. Хомка, 1965, Гродз. 13.10.4; Т. Фіцнер, 1967, Бабр. 13.10.19.*

8. Цар Леніна ў турме гнаіў, але дух яго не зламіў. *Хрэстам., 257; У. Іваноў, 1958, Мінск.*

9. Ленін свабоду дараваў народу. *«Чырвоная змена», 17 красавіка 1960 г.*

10. Ленін даў народу шчасце і свабоду. *Гут., 127. Вар.: «Чырвоная змена», 17 красавіка 1960 г.*

11. Дзе ленінская свабода, там улада ў руках народа. *«Чырвоная змена», 17 красавіка 1960 г.*

12. Ленін нашу долю вывеў на волю. *Астап.; Гут., 137.*

13. Ленін, партыя ўсё дáлі, каб шчасліва жыць мы сталі. *Гут., 137.*

14. Ленін памёр, але справа яго жыве. *Астап.*

15. Ленін не загінуў, ён справу народу пакінуў. *Гут., 137; «Чырвоная змена», 17 красавіка 1960 г.; Т. Фіцнер, 1967, Бабр. 13.10.19.*

16. Шлях нам Ленін паказаў. *Янк., 30.*

17. Ленін народу праўду сказаў — шлях да шчасця паказаў. *«Чырвоная змена», 17 красавіка 1960 г.*

18. Па шляху Леніна пойдзеш — шчасце ў жыцці знойдзеш. *«Чырвоная змена», 17 красавіка 1960 г.*

    а) Дарогай ленінскай ісці — шчасце і славу знайсці. *Рапан., 278.*

19. Ленін згуртаваў народы пад сцягам свабоды. *Гут., 137.*

    а) Ленін і партыя згуртавалі народы пад сцягам свабоды. *«Чырвоная змена», 17 красавіка 1960 г.*

20. За Леніным пайшлі — волю і шчасце знайшлі. *Гут., 137.*

21. За Леніным і партыяй пайшлі — паноў перамаглі. *«Зара над Бугам» (Брэст), 17 сакавіка 1970 г.*

    а) За Леніным ішлі — ворагаў перамаглі. *«Чырвоная змена», 17 красавіка 1960 г.*

22. Па-ленінскаму пуці нас партыя вучыць ісці. *Гут., 137.*

23. Пад сцягам Леніна ісці — ніколі не саб'ешся з пуці. *«Бярозка», 1960, № 4; Гут., 137.*

24. Той патрыёт, што змагаецца за ленінскую справу і народ. *«Чырвоная змена», 17 красавіка 1960 г.*

25. Па-ленінску жыць — Радзіме служыць. *«Чырвоная змена», 17 красавіка 1960 г.; Гут., 137.*

26. Ленін навучыў, каб народ шчасліва жыў. *Гут., 137; «Бярозка», 1963, № 4. Вар.: Рапан., 280; Т. Фіцнер, 1967, Бабр. 13.10.19; Р. Цыбульская, 1967, Валож. 13.10.24.*

27. Ленін навучыў, і беларус зажыў. *Янк., 29; І. Суконкін, 1960, Церах. 13.3.29; У. Хомка, 1965, Гродз. 13.10.4; Т. Фіцнер, 1967, Бабр. 13.10.19.*

28. Каб не Ленін ды не партыя, былі б нічога мы не вартыя. *«Бярозка», 1963, № 4.*

29. Дзякуй партыі, што мы людзей вартыя. *Рапан., 278.*

30. Ленінскае вучэнне яснае, ніколі яно [у свеце] не згасне. *«Чырвоная змена», 17 красавіка 1960 г.; Т. Фіцнер, 1967, Бабр. 13.10.19.*

31. Ленінскае вучэнне — сіла і надзея. *«Чырвоная змена», 17 красавіка 1960 г.*

32. Каб не ленінскае вучэнне, нам бы жыць было мучэнне. *«Чырвоная змена», 17 красавіка 1960 г.*

33. Ад ленінскай навукі мацнеюць розум і рукі. *Хрэстам., 1970, 549; Рапан., 284; «Известия», 31 снежня 1958 г.*

34. Ленінская праўда святлей (ярчэй) за сонца. *Янк., 30; Гут., 137; «Чырвоная змена», 17 красавіка 1960 г.; М. Гваздзёў, 1960, Рэч. 8.1.58.*

35. Ленінская праўда мацней за атам. *«Чырвоная змена», 17 красавіка 1960 г.*

36. Ільіч праўдзе нас навучыў — у камунізм ключ падарыў. *«Чырвоная змена», 17 красавіка 1960 г.*

37. Праўда Леніна па ўсяму свету ідзе. *Суяшк., 605, Гродз. Вар.: М. Бекіш, 1963, Шчуч. 13.10.1.*

38. Каб не ленінскія творы, мы б усе жылі ў горы. *Гут., 137. Вар.: «Чырвоная змена», 17 красавіка 1960 г.*

39. Ленінскае слова — усяму аснова. *Т. Фіцнер, 1967, Бабр. 13.10.19.*

40. Слова Леніна не забудзецца: што сказаў, тое збудзецца. *Гут., 137. Вар.: І. Суконкін, 1960, Церах. 13.3.29.*

41. Ленінскія словы збываюцца — калгасы жывуць і развіваюцца. *«Бярозка», 1960, № 7.*

а) Словы Леніна збыліся — лепш у калгасе разжыліся. *«Чырвоная змена», 17 красавіка 1960 г.*

42. Слова Леніна ўсюды падходзіць: і за кніжкаю, і за лыжкаю, і ў ладзе з сябрам, і ў сварцы з ліхадзеем. *Янк., 30.*

43. Сілу слова Леніна ўвесь свет ведае. *Янк., 30; «Бярозка», 1963, № 4.*

44. Без ленінскіх запаветаў не было б улады Саветаў. *Гут., 137; «Чырвоная змена», 17 красавіка 1960 г.*

45. Ленінскі запавет ведае і малы і дзед. *Янк., 30; «Бярозка», 1963, № 4; М. Гваздзёў, 1960, Рэч. 8.1.58.*

46. Ленінскі запавет — праўда на ўвесь свет. *Янк., 30.*

47. Ленінскі запавет (завет) абляцеў увесь свет. *Янк., 30; Гут., 137; «Бярозка», 1963, № 4; Хрэстам., 1970, 549; Т. Глытаў, 1967, Карм. 13.10.23; Т. Фіцнер, 1967, Бабр. 13.10.19; У. Іваноў, 1958, Мінск 13.5.17.*

48. Ленінскія запаветы грымяць па ўсім свеце. *«Чырвоная змена», 17 красавіка 1960 г.*

49. Ленінаў запавет перарабляе ўвесь свет. *Янк., 29; «Бярозка», 1963, № 4; Хрэстам., 1970, 549.*

50. Па запаветах Леніна ў камунізм ідзем упэўнена. *Гут., 137.*

51. Леніна завет — на тысячу лет. *«Чырвоная змена», 17 красавіка 1960 г.*

52. Леніна наказ што бацькаўскі сказ. *«Бярозка», 1960, № 4.*

а) Ленінскі ўказ што бацькаў наказ. *Гут., 137.*

53. Наш сцяг — ленінізм, з ім будуем камунізм. *Гут., 137.*

54. Пад сцягам ленінізма нам шлях да камунізма. *Н. Парукаў, 1958, Добр. 13.3.29.*

а) Пад сцягам ленінізма свет ідзе да камунізма. *Рапан., 281.*

55. Ленінізм — верны (просты) шлях у камунізм. *Гут., 137; Янк., 30; «Бярозка», 1963, № 4; Хрэстам., 1970, 549.*

56. Прытрымлівайся ленінізма — дойдзеш да камунізма. *Гут., 137.*

57. Наш шлях — камунізм, наш сцяг — ленінізм. *І. Гутараў, 1963, Слуцк. 8.1.79.*

58. Пакуль людзі будуць жыць, будуць Леніна любіць. *«Зара над Бугам» (Брэст), 17 сакавіка 1970 г.*

59. Ленін быў, ёсць і будзе, пра яго людзі ніколі не забудуць. *«Чырвоная змена», 17 красавіка 1960 г.*

60. Ленін з намі вечна будзе, аб ім чалавецтва не забудзе. *«Бярозка», 1960, № 4.*

61. Як у небе сонка яснае, імя Леніна не згасне. *«Чырвоная змена», 17 красавіка 1960 г.*

62. Партыя — наш рулявы. *У. Хомка, 1965, Гродз. 13.10.4.*

63. Партыя — правадыр народных мас, усіх і кожнага з нас. *Гут., 138.*

64. Да шчасця і свабоды вядзе партыя народы. *Янк., 29; Гут., 137; Хрэстам., 1970, 549; Т. Фіцнер, 1967, Бабр. 13.10.19.*

а) Да шчасця і свабоды ідуць за партыяй народы. *Н. Парукаў, 1958, Добр. 13.3.29.*

65. Наша партыя расце, народ да шчасця вядзе. *Янк., 30.*

66. Ніхто нас з дарогі не саб'е, бо нас партыя вядзе. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

а) З дарогі нас ніхто не саб'е, калі партыя ўперад вядзе. *Гут., 138; Рапан., 279.*

67. Нам не страшна ў бядзе, бо нас партыя вядзе. *Янк., 30; Ахрым., 81; Хрэстам., 1970, 549; М. Гваздзёў, 1960, Рэч. 8.1.58; А. Мацкала, 1965, Іў.; Ю. Маркевіч, 1965, Шчуч. 138; Т. Глытаў, 1967, Карм. 13.10.23; Т. Фіцнер, 1967, Нясв. 13.10.18*

а) Нам не цяжка ў працы, не страшна ў бядзе, бо нас Камуністычная партыя вядзе. *Н. Парукаў, 1958, Добр. 13.3.29.*

68. Мы мацнеем і расцем, бо за партыяй ідзем. *Янк., 30; Гут., 138; Т. Глытаў, 1967, Карм. 13.10.23; Т. Фіцнер. 1967, Бабр. 13.10.19; Р. Цыбульская, 1967, Валож. 13.10.24.*

а) З кожным годам мы расцём, бо за партыяй ідзём. *Рапан., 279.*

б) Таму і добра жывем, што за партыяй ідзем. *Гут., 138.*

69. З партыяй пойдзеш у ногу — знойдзеш да шчасця дарогу. *Н. Парукаў, 1965, Добр. 13.10.19.*

70. За партыяй ісці — у шчасці жыць і цвісці. *Гут., 138.*

71. Мы за партыяй пойдзем — праўду знойдзем. *А. Сіплівая, 1967, Пруж. 13.10.24.*

72. Славе партыі крылляў не трэба. *Янк., 30; Гут., 138.*

73. З роднай партыяй нічога не страшна. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

74. Дзе партыя, там перамога. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*
а) Партыя з намі — перамога за намі. *Гут., 138.*

75. Партыя крылы (сілы) дала і ў палёт узняла. *Н. Парукаў, 1958, Добр. 13.3.29.*

76. Наша партыя — войска асілкаў. *Янк., 30.*

77. Партыя і народ адзіны, адзін ад аднаго неаддзялімы. *У. Іваноў, 1958, Мінск 13.10.15.*

78. Сілы партыі ў народзе. *Гут., 138.*

79. Хто з партыяй, той непераможны. *Н. Парукаў, 1958, Добр. 13.3.29.*

80. Сіла партыі таму бязмерна, што яна народу ве́рна. *Гут., 138.*

81. У чалавека — сэрца, у народа — партыя. *У. Іваноў, 1958, Мінск.*

82. Партыя — мудрасць народа. *У. Іваноў, 1958, Мінск.*

83. Партыі слова — усіх поспехаў (усяму) аснова. *Янк., 30; Гут., 138; Ахрым., 82; Н. Парукаў, 1958, Добр. 13.3.29; А. Сіплівая, 1967, Пруж. 13.10.24.*

а) Партыі слова — усім справам аснова. *У. Іваноў, 1958, Мінск.*

84. Слова партыі — закон. *Янк., 30.*

85. Партыя скажа — дарогу пакажа. *Гут., 138.*

86. Партыя адкрыла нам вочы, што сіла — у саюзе сялян і рабочых. *Гут., 108.*

87. Партыя — маці родная: і праўду скажа, і да шчасця шлях пакажа. *У. Іваноў, 1958, Мінск.*

88. Промні сонца найцяплейшыя, словы партыі наймудрэйшыя. *Гут., 138. Вар.: Рапан., 282.*

89. Партыйнае слова справамі квітнее. *У. Іваноў, 1958, Мінск.*

90. Слова партыі не забудзецца, што скажа, тое і збудзецца. *У. Іваноў, 1958, Мінск.*

91. Каб добра жыць, партыя вучыць шчыра рабіць. *Гут., 138.*

92. Што наша партыя кажа, увесь свет слухае. *Янк., 30.*

а) Да партыі ўвесь свет прыслухáецца. *Рапан., 278.*

93. «Іскра» тлела, пакуль увесь свет абляцела. *Ахрым., 65.*

94. Голас партыі — голас міру. *Янк., 29; Гут., 138; Я. Аўсянік, 1967, Нясв. 13.10.19; Т. Фіцнер, 1967, Бабр. 13.10.19.*

95. За камуністамі пойдзеш — свабоду знойдзеш. *Гут., 138.*

а) За камуністамі пойдзем — дарогу к шчасцю знойдзем. *Н. Вайсман, 1967, Пін. 13.3.29.*

б) Хто за камуністамі пайшоў — шчасце і славу знайшоў. *Н. Парукаў, 1958, Добр. 13.3.29.*

в) За камуністамі пайшлі — волю і шчасце знайшлі. *«Известия», 31 декабря 1958 г.*

96. Камуністы нас вялі, таму і свабоду знайшлі. *Гут., 138.*

97. Бальшавікі на вецер слоў не кідаюць. *Янк., 29.*

98. У камуністаў так водзіцца, што слова са справай не разыходзіцца. *Гут., 139.*

99. Камуністы ад свайго слова не адступаюць. *Янк., 29.*

100. Камуністы — усюды актывісты. *Янк., 29.*

101. За ўсякую работу камуністу турбота. *Гут., 138.*

102. Камуністы — самая дружная сям'я. *Янк., 29.*

103. Новая Праграма ў камунізм вядзе прама. *Гут., 138.*

104. Пад сцяг чырвоны ідуць мільёны. *Г. Лось, 1949, Бабр. 9.5.4.*

105. Наша сіла і слава — Савецкая дзяржава. *Н. Парукаў, 1958, Добр. 13.3.29; Рапан., 280.*

106. Масквою-сталіцай уся краіна ганарыцца. *П. Рында, 1967, Зельв. 13.10.23.*

107. Масква-сталіца ўсяму свету святліца. *І. Суконкін, 1960, Церах. 13.3.29.*

108. Крамлёўскае сонца свеціць нам бясконца. *Гут., 108.*

109. Па савецкім полі не хадзіць панам ніколі. *Г. Лось, 1949, Бабр. 9.5.4.*

110. Чалавек без Радзімы як салавей без песні. *Ахрым., 82; А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

111. Там свабода, дзе ўлада народа. *Н. Парукаў, 1958, Добр. 13.3.29.*

а) Дзе ўлада народа, там заўжды свабода. *У. Іваноў, 1958, Мінск.*

б) Дзе ўлада народа, там шчасце і свабода. *Хрэстам., 257; Ахрым., 65; Янк., 31; Хрэстам., 1970, 549; Р. Цыбульская, 1967, Валож. 13.10.24; Т. Фіцнер, 1967, Бабр. 13.10.19.*

в) Дзе ўлада народа, там перамога і свабода. *Хрэстам., 302; Ахрым., 80; У. Іваноў, 1958, Мінск.*

г) Там сапраўдная свабода, дзе ўлада ў руках [працоўнага] народа. *Рапан., 282; Н. Парукаў, 1965, Добр. 13.10.19.*

112. Для савецкага народа кругом вольная дарога. *«ЛіМ», 1 мая 1939 г.*

113. Няма шчасця без свабоды. *А. Русіновіч, 1954, Свет. 13.3.29.*

114. Ні раба́, ні рабыні няма ў нашай краіне. *Гут., 108.*

115. У нас і ліцвін, і мардзі́н — браты. *Янк., 35.*

116. Наш савецкі край лепш за богаў рай. *Гут., 108; Г. Лось, 1949, Бабр. 9.5.4.*

117. Далёка на свеце чутна, што страна наша магутна. *Г. Лось, 1949, Бабр. 9.5.4.*

118. Наша Радзіма мацнее — вораг за мяжою шалее. *Н. Парукаў, 1958, Добр. 13.3.29.*

119. Жыць — Радзіме служыць. *Янк., 34; БелФ ВАв, 461; У. Іваноў, 1958, Мінск; М. Гваздзёў, 1960, Рэч. 8.1.58; С. Клачко, 1966, Б.-Каш. 13.3.20.*

а) Жыць — народу служыць. *Рапан., 278.*

120. Толькі таму пашана будзе, хто Радзіму не на словах любіць. *Зазека, 277.*

121. Той бацькаўшчыну любіць, хто ёй сумленна служыць. *Хрэстам., 1970, 550.*

122. Бацькоў любі, старых паважай, здароўе беражы, Айчыне верна служы. *Ахрым., 67. Вар.: Хрэсгам., 1970, 550; Рапан., 284.*

123. У нас нельга абы-як жыць, у нас не абы-якáя дзяржава. *Янк., 35.*

124. Ад душы працуеш — Радзіму мацуеш. *І. Сувалаў, 1958, Чач. 13.3.29.*

125. Айчыну любіць — патрыётам быць. *Рапан., 277.*

126. Той патрыёт, хто змагаецца за народ. *Гут., 139.*

127. Для сваёй Айчыны не шкадуюць сілы. *Рапан., 278.*

128. За сваю Радзіму-маць мы жыццё гатовы аддаць. *Хрэстам., 108.*

129. Любі сваю Радзіму, сваю маці — і не будзеш гора знаці. *Хрэстам., 108.*

130. Хто ўмее любіць Радзіму, той умее ненавідзець ворага. *Янк., 35; С. Клачко, 1966, Б.-Каш. 13.3.29.*

131. Радзіма — маць, умей за яе пастаяць. *С. Клачко, 1966, Б.-Каш. 13.3.29.*

132. За Радзіму сваю будзь героем у баю. *Г. Лось, 1949, Бабр. 9.5.4.*

133. Для нашай улады мы ўсё аддаць рады. *Гут., 140. Вар.: Рапан., 278.*

134. Слова Радзіме вышэй за ўсё: даў абяцанне — стрымай яго. *У. Іваноў, 1958, Мінск.*

135. Савецкія гарады расцвітаюць, як сады. *Гут., 108.*

## КАСТРЫЧНІЦКАЯ РЭВАЛЮЦЫЯ І ГРАМАДЗЯНСКАЯ ВАЙНА

136. Рэвалюцыя прыйшла, людзям (працоўным) шчасце прынясла. *Янк., 32; Хрэстам., 1970, 550; У. Іваноў, 1958, Мінск.*

137. Рэвалюцыя прыйшла — жанчынам воля аддана. *Жанч., 324;*

а) Рэвалюцыя настала, і жанчына вольнай стала. *Жанч., 324; Янк., 32; Хрэстам., 1970, 549; А. Сіплівая, 1967, Пруж. 13.10.24.*

138. У Піцеры заварылася — усё жыццё змянілася. *Рапан., 282.*

139. Была ўлада царская, а стала пралетарская. *Рапан., 277.*

140. Быў парадак панскі — стаў рабоча-сялянскі. *Рапан., 227.*

141. Заваявалі волю — знайшлі і долю. *Янк., 21; Хрэстам., 1970, 549.*

142. Пакуль не заваявалі волі, не мелі долі. *Янк., 31.*

143. Паны нас доўга дралі, а ў семнаццатым мы іх за горла ўзялі. *Янк., 32.*

144. Дзе паны мужыкоў дралі, там цяпер мужыкі панамі сталі. *Янк., 33.*

145. Царскія здзекі скінулі навекі. *Рапан., 283.*

146. Не дармá з семнаццатага года ў нас паноў няма. *Цар., 245, Хоц.*

147. Мы з панамі долю на нядолю памянялі: сабе — долю, ім — нядолю. *Янк., 31.*

148. Быў пан мудры, драў межы і кудры, прыйшла і яго нядоля — пакінуў гатовае поле. *Янк. М., 152.*

149. Нам воля, а панам шыбеніца (пятля, смерць). *Янк., 31; Рапан., 280; Ахрым., 65.*

150. У рэвалюцыю мы нічога не адбіралі — сваё бралі. *Янк., 32.*

151. Пра што некалі снілі, сёння зрабілі. *Жанч., 234; Янк., 34.*

152. Як стаў серп і молат, уцёк ад нас голад. *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

153. Прычакалі мы замены і ў полі, і ў долі. *Янк., 35.*

154. Збеглі паны (прагналі паноў) далёка, што не ўбачыць і вока. *Рапан., 279; Т. Малашэвіч, 1966, Воран. 13.10.28.*

155. Насталі часіны, што і паноў чэрці пазнасілі. *Рапан., 280.*

156. Так уцякалі паны, што пагублялі жупаны. *Янк., 23; Хрэстам., 1970, 550.*

157. Пазарасталі (зніклі) дарогі, дзе хадзілі панскія ногі. *Янк., 34; У. Іваноў, 1958, Мінск.*

а) Пазарасталі тыя дарожкі, дзе хадзілі панскія ножкі. *Рапан., 281.*

158. Даўней за чужую ніўку аддавалі сілку. *Янк., 33.*

159. Добра жыў: пяхотаю за канём хадзіў. *Янк., 38.*

160. Даўней на рукі было многа мукі. *Янк., 33.*

161. Былі галеча і голад, ды прыйшоў серп і молат. *Рапан., 277.*

162. Як паноў прагналі — заможнымі сталі. *Рапан., 283.*

163. Нам ні белых, ні зялёных, мы з душою за чырвоных. *Янк., 31.*

164. Хто за праўду ідзе, у таго падвойная сіла расце. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.3.29.*

165. Хто за праўду гарой, той сапраўдны герой. *П. Мушчук, 1965, Ваўк. 13.10.5.*

166. Як Будзённы з'явіўся, пан ад страху аж змяніўся. *ЧА, 81; Рапан., 283.*

167. Даў Будзённы нам шашку — бараніць Радзіму нашу. *Рапан., 278.*

168. Як прыехаў да нас Варашылаў, мы паноў падушылі. *Рапан., 283.*

169. Варашылаў Клім — пагроза ворагам усім. *ЧА, 81.*

170. Варашылаў панам на страх радзіўся. *ЧА, 81. Вар.: Рапан., 277.*

171. Далі драла белыя, як пачулі Леніна. *«Бярозка», 1963, № 4; Астап.*

172. Як пушкі грохнулі, паны ў акопах вохнулі. *Рапан., 283.*

173. Селі бальшавікі на коні — паноў прагонім. *Рапан., 282.*

174. Не кідай зброі датуль, пакуль буржуяў не загоніш у куль. *ЧА, 81; Рапан., 280.*

175. Паноў і падпанкаў б'ём безустанку. *Рапан., 281.*

176. Не разгоняцца буржуі, бо метка ляцяць нашы кулі. *ЧА, 82.*
а) Не разбягуцца буржуі: іх дагоняць нашы кулі. *Рапан., 280.*

177. Як паноў білі, яны ад страху вылі. *ЧА, 81; Рапан., 280.*

178. Нашы гарматы б'юць заўзята — сцеражыцеся, паны, і трымайце моцна штаны. *ЧА, 81; Рапан., 286.*

179. Біліся з намі атаманы і паны, ды пагублялі штаны. *Янк., 31.*

180. Былі паны, ды пагублялі штаны. *Рапан., 277; 1961, Брасл. 13.9.5.*

181. Хоць верць-круць, хоць круць-верць, а панству ўсё адно смерць. *Янк., 31.*

182. Не верыў бальшавікам, дык паверыў панскім бізунам (шампала́м). *Янк., 31; Ахрым., 36; Хрэстам., 1970, 549.*

183. І Савінкаў Барыс Беларусі не ўгрыз. *Рапан., 279.*

184. Прыйшлі чырвоныя — сталі мы вясёлыя. *Рапан., 281.*

185. Ад Пятлюры асталася толькі шкура (скура). *Ахрым., 65; Н. Божка, 1967, Маладз. 13.10.21.*

186. Пятлюра застаўся без шкуры. *Ахрым., 66.*

187. Пятлюра ў лес, а Дзянікіна ўзяў бес. *Ахрым., 66.*

188. Быў [такі] ваяка Махно, дык уцёк даўно. *Ахрым., 65; Рапан., 277; У. Хомка, 1965, Гродз. 13.10.24.*

189. Пралетарская рука разграміла Калчака. *Рапан., 287.*

190. Не лезце, ворагі, да нас: магілак хопіць і на вас. *Рапан., 280.*

191. Паноў цяпер няма: яны ў Чорным моры. *Рапан., 281.*

192. Панам і цяпер косці ныюць. *Рапан., 281.*

193. Што заваявала рэвалюцыя, тое пацвердзіла Канстытуцыя. *Н. Рында, 1967, Зельв. 13.10.23.*

## САЦЫЯЛІСТЫЧНАЕ БУДАЎНІЦТВА

194. Ты паслухай лепш мас ды ідзі ў калгас. *«Полымя рэвалюцыі».*

195. Аднаму і бервяна не падняць, а ў калектыве і гару зносяць. *Н. Парукаў, 1958, Добр. 13.3.29.*

196. Што аднаму не пад сілу, тое лёгка калектыву. *Н. Рында, 1967, Зельв. 13.10.23.*

а) Што аднаму з цяжкасцю даецца, тое калектывам лёгка бярэцца. *Янк., 41; «Беларусь», 1956; Хрэстам., 1970, 551; Т. Фіцнер, 1967, Бабр., 13.10.19.*

197. Калі адзін не зможаш, дык калектыў дапаможа. *У. Хомка, 1965, Гродз. 13.10.4.*

198. Калгасным ладам дадзім рады любым справам. *Янк., 39.*

199. За агульным сталом яда смачней. *Гут., 139.*

200. Працуй грамадой — не будзеш з бядой. *Рапан., 296.*

201. Не страшны мароз для (у) нас, калі за спіною калгас. *Ахрым., 70; А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

202. Не спадзявайся на бога — будзе з калгаса падмога. *Хрэстам., 258.*

203. Калгасны лад — нашых багаццяў клад. *Гут., 141.*

204. Калектыўная праца — дарога да багацця. *Рапан., 289.*

205. Дружная праца — крыніца багацця. *Н. Парукаў, 1958, Добр. 13.3.29.*

206. Наша шчасце ў агульнай працы. *С. Клачко, 1966, Б.-Каш. 13.3.29.*

207. Без калектыву жыццё нешчасліва. *Гут., 139; Сцяшк., 581, Гродз.*

208. Сялянская воля на калгасным полі. *Рапан., 298.*

а) Харошая доля з калгаснага поля. *Ахрым., 72; Янк., 72; Гут., 140.*

б) На калгасным полі расце лепшая доля. *Рапан., 292. Вар.: А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

209. Кулаку ад калгасных варот — круты паварот. *Бел. народ, 141.*

210. Не пускай злодзея да воза, а кулака да калхоза. *Ахрым., 69.*

211. Жаль кулаку не адзежкі, а зрэзанай межкі. *«Рабочий», 1936, № 144.*

212. Вот кулак павесіў нос, значыць, моцны наш калхоз. *«Полымя рэвалюцыі».*

213. Як сонейка з неба не збіць, так і калгас не разваліць. *«Полымя рэвалюцыі»; ДіСБ, 255; Рапан., 302; У. Іваноў, 1958, Мінск.*

214. Забывае (забыла) вёска пра вузкія палоскі. *ДіСБ, 254; Жанч., 329; Гут., 140; А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29; М. Жылінскі, 1965, Бераст. 13.10.6.*

215. Калісь мы жылі, слёзы лілі, а цяпер новы час — жанчына вялікая сіла ў нас. *Жанч., 392; А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15. Вар.: Рапан., 290.*

216. Беражы маёмасць калгасную, як сваю ўласную. *«ЛіМ», 1 чэрвеня 1939 г.*

а) Беражы дзяржаўнае, як сваё: яно ўсіхняе і тваё. *Рапан., 285.*

217. Хто калгаснага не шануе (не шкадуе), той і свайго не мае. *Янк., 41; Гут., 87; Ахрым., 72.*

218. Беражы зярнятка: [па]багацее і калгас і твая хатка. *Янк., 37; Гут., 140; «Звязда», 8 лютага 1963 г.*

219. Чэсна (добра) працуеш — калгас мацуеш. *ДіСБ, 254; Гут., 142; Ахрым., 68, 82; Янк., 38; Хрэстам., 1970, 550; Рапан., 287; І. Лушчыцкая, 1960, Нясв. 8.1.52; М. Жылінскі, 1965, Бераст. 13.10.6.*

а) Добра працаваць — калгас мацаваць. *1961, Брасл. 13.9.5.*

220. Працуй з натхненнем баявым, каб стаў калгас перадавым. *Гут., 140.*

221. Працуй добра — будзеш жыць заможна. *І. Сувалаў, 1958, Чач. 13.3.29.*

222. Хто трудзіцца рад, той хлебам багат. *1959, Лаг. 8.1.42.*

223. На калгасны амбар не разяўляйся, а сваімі рукамі дабівайся. *А. Акунькова, 1971, Паст. 8.2.47.*

224. Прыйшоў май — кожны ў калгасе дбай. *Т. Лапаціна, 1951, Рэч. 13.3.24.*

225. Рана ў поле выязджай — лепшы будзе ўраджай. *Янк., 40; Ахрым., 82; І. Суконкін, 1960, Церах. 13.3.29.*

226. Каб у калгасе добра жыць, трэба гультаём не быць. *А. Махнач, 1952, УзДз. 13.10.15.*

227. Дзе гультай на полі, там ураджаю не быць ніколі. *Н. Парукаў, 1965, Добр. 13.10.19.*

228. Дзе гультай арэ і скародзіць, там пустазелле адно родзіць. *Рапан., 287.*

229. Хто ў калгасе не робіць, той калгасу шкодзіць. *К. Кабашнікаў, 1963, Віл. 8.1.84.*

230. Дзе гультаёў больш, там жывецца горш. *Янк., 38; В. Зубараў, 1956, Гом. 13.3.29.*

231. Языком працадзён не намалоціш. *І. Лушчыцкая, 1960, Нясв. 8.1.52.*

232. Схаваўся ў цень — прапаў працадзень. *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

233. Адзін жне, а другі ў цянёк жме. *Рапан., 284.*

а) Адзін працуе цэлы дзень, другі глядзіць, дзе лепшы цень. *Рапан., 284.*

234. Без працаднёў не спячэш пірагоў. *Хрэстам., 258; У. Іваноў, 1958, Мінск 13.5.17; Рапан., 285.*

235. Працаваць яму лень, а крычыць: мала на працадзень. *«Полымя рэвалюцыі».*

236. Сваю лень не прадасі за працадзень. *Хрэстам., 316.*

237. За лень не запішуць (не атрымаеш, не здабыць) працадзень. *Рапан., 288; У. Іваноў, 1958, Мінск 13.5.17.*

238. Гультай відзён пры падліку працадзён. *Рапан., 286.*

239. Пра сябе гультаі не скажуць — працадні пакажуць. *Н. Парукаў, 1958, Добр. 13.3.29.*

240. Скажуць працадні за тыдзень, хто перадавік, а хто злыдзень. *У. Іваноў, 1958, Мінск 13.5.17.*

241. Не кожны дзень — працадзень. *«Беларусь», 1956.*

242. Працадзень — не абы дзень. *Янк., 40; І. Лушчыцкая, 1960, Нясв. 8.1.52.*

243. Летам калгаснікі жалі, а гультаі ляжалі, зімой калгаснікі елі, а гультаі зубы грэлі. *Янк., 39; В. Зубараў, 1956, Гом. 13.3.29; М. Малочка, 1959, Леп. 8.1.46.*

244. Якая работа, такі і працадзень. *Янк., 41; Ахрым., 73.*

а) У калгасе якая работа, такая і плата. *Янк., 41.*

245. У калгасе як дбаеш, так і маеш. *Янк., 41.*

246. І ў свята і ў будзень не працуе труцень. *Рапан., 289; Хрэстам., 1970, 451.*

247. Гультай — то калгас не лай. *Рапан., 286.*

248. Хто не робіць — той не есць. *М. Грынблат, 1973, Асіп. 8.73.65. Вар.: Ахрым., 73; Рапан., 301.*

249. Гультаю цяжка за работу ўзяцца, а кінуць — адна хвіліна. *Гут., 86.*

250. Ці за начальніка, ці ля начальніка, а да грабе́ль рукі не даходзяць. *Янк., Дыял., I, 224, Глуск.*

251. Прамовамі сена не накосіш. *Янк., 40.*

252. Лепей быць добрым пастухом, як недапечаным аратарам. *Хрэстам., 316.*

253. Карысна доўгая вяроўка, а прамова кароткая. *Рапан., 290.*

254. Лянок не любіць лянот. *Янк., 39.*

255. Дзе шчырая праца — там густа, а дзе лянота — там пуста. *А. Мацкала, 1964, Іў. 13.10.3.*

256. У калгасе лень (язык) не ў зачот, а хто працуе, таму і пачот. *«Полымя рэвалюцыі»; Ахрым., 71; І. Вайгяніца, 1965, Іў. 13.10.10.*

257. Не будзь лянівы — будзеш шчаслівы. *І. Сувалаў, 1958, Чач. 13.3.29.*

258. Хто ўдарнік, а хто гультай — у брыгадзіра запытай. *Н. Парукаў, 1958, Добр. 13.3.29.*

259. Не той наперадзе, хто абагнаў, а той наперадзе, хто за сабой другіх вядзе. *Рапан., 294. Вар.: «Бел.», 1956; Янк., 34; Гут., 139.*

260. Хто працаваць рады, той будзе хлебам багаты. *Гут., 141.*

261. Паработаў дабрасовесна і палучаць не совесна. *М. Гваздзёў, 1960, Рэч. 8.1.58.*

262. Той калгас багат, у якім лад. *М. Малочка, 1959, Чач. 9.1.46; С. Клачко, 1966, Б.-Каш. 13.3.29.*

а) Той калгас багат, у якім парадак і лад. *Ахрым., 71.*

б) Дзе парадак і лад, там і калгас багат. *Рапан., 287.*

263. Не патрэбен клад, калі ў калгасе лад. *Ахрым., 70.*

264. Калі ў калгасе лад ды ахвота, дык спорыцца работа. *Хрэстам., 257; Ахрым., 68.*

265. Багаты калгас — сям'я дружная. *Янк., 37; Гут., 140.*

266. Быў бы дружны калгас, а ўраджай будзе. *Хрэстам., 257; Ахрым., 68.*

267. Калгасная гаспадарка любіць парадак. *А. Фядосік, 1959, Капатк. 8.1.44.*

268. Дзе парадак, там і дастатак. *Гут., 141.*

269. Непарадкі водзяць — працы шкодзяць. *«БРіС».*

270. Калгас без уліку, што хата без дзвярэй. *Янк., 38; «Беларусь», 1956; Гут., 87.*

271. Без плана работа ідзе пагана. *Рапан., 284.*

272. Без плана і ў хаце заблудзіш. *«Полымя рэвалюцыі»; Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

273. Калгас калгасу заўсёды руку падасць. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

274. Горад і калгас пад адной страхой у нас. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

275. «Аддыхні, сошка, — сказаў дзед Цімошка, — цяпер не твой час, ёсць трактар у нас». *ДіСБ, 254.*

276. Трактарамі араць — не сахой кавыраць. *Гут., 140.*

277. Каб голаду не знаць, трэба трактарам араць. *Рапан., 289.*

а) Як стаў трактар араць, забылі галадаць. *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

278. Трактар у полі — хлеба ўволю. *Гут., 140.*

279. Дзе трактар гудзе, там і хлеб будзе. *Хрэстам., 258; У. Іваноў, 1958, Мінск, 13.5.17.*

280. Пасееш машынаю — хлеба збярэш асьмінаю. *Ахрым., 70. Вар.: Рапан., 295.*

281. Дзе арэ сошка, там хлеба трошкі, а дзе арэ машына, там хлеба асьміна. *Хрэстам., 257; Ахрым., 68.*

282. Капаніцаю трактара не спалохаеш. *Янк., 39.*

283. Трактар — сіла, а саха — магіла. *Ахрым., 71; У. Іваноў, 1958, Мінск 13.5.17; І. Хаўратовіч, 1960, Талач. 13.8.4; А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

284. Не той зямлі гаспадар, хто па ёй ходзіць, а той, што па ёй трактар водзіць. *Ахрым., 70; Рапан., 294. Вар.: У. Іваноў, 1958, Мінск 13.5.17; Ю. Маркевіч, 1965, Шчуч. 13.10.3.*

285. Трактар межы варочае — да лепшай долі дарогу скарочвае. *Рапан., 298.*

286. У добрага трактарыста і трактар спявае. *ДіСБ, 255.*

287. У добрага трактарыста любы гектар добры. *Рапан., 299.*

288. Кожны трактар мае свой характар. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

289. Трактар у полі, што танк у баю. *М. Малочка, 1959, Леп. 8.1.46.*

290. Дзе трактару раздолле — каню кабала́. *Гут., 140.*

291. Трактарам любуйся, але і каня не забывай. *Янк., 41; М. Гайлік, 1966, Свісл. 13.10.26.*

а) На трактар спадзявайся, але і каня не забывай. *Янк., 34.*

б) На трактар надзейся, а каня не кідай. *С. Клачко, 1966, Б.-Каш. 13.3.29.*

292. Трактар — надта добра, але конь канём. *Янк., 40.*

293. Дзе раней жыта рукамі жалі, там цяпер камбайны зашагалі. *Р. Цыбульская, 1967, Валож. 13.10.24; Я. Аўсянік, 1967, Нясв. 13.10.19.*

294. Дзе чыста камбайн уборку вядзе, на тым полі ні адно зерне не прападзе. *Гут., 140.*

295. Камбайн з поля — плуг у баразну. *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

296. За машынамі і мазаля не наб'еш. *Янк., 34.*

297. Не горбіш спіны, працуюць машыны. *Жанч., 392; Янк., 40; Ахрым., 81; «Гомельская праўда», 1952, № 75; А. Мацкала, 1964, Іў. 13.10.3; А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

а) Каб не балелі рукі, спіны, у калгасах ёсць машыны. *Г. Лось, 1949, Бабр. 9.5.4.*

б) Цяпер машыны не даюць людзям гнуць спіны. *Янк., 41.*

298. Аграномы ды машыны парадкі богавы змянілі. *Янк., Дыял., I, 203, Глуск.*

299. Машына любіць змазку, чыстату і ласку. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

300. Машына любіць розум і ўмелыя рукі. *Янк., 29; А. Мацкала, 1965, Іў. 13.20.3.*

301. Машыны — вялікая сіла, але на заводзе ёй розуму не ўстаўляюць. *Янк., 39.*

302. Калі хочаш, каб быў ураджай, — агратэхніку павышай. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15; І. Суконкін, 1960, Церах. 13.3.29. Вар.: Рапан., 290.*

303. З агратэхнікай лад — ураджай багат. *Гут., 140.*

304. Угнойвай багацей палі, больш мець будзеш ад зямлі. *«Калгасная праўда», 11 верасня 1962 г.*

305. Не шкадуй гною, будзеш мець хлеба ўволю. *Рапан., 294.*

306. Пашы (успахвай) цаліну на патрэбную (заданную) глыбіню. *Гут., 141; М. Малочка, 1959, Леп. 8.1.46.*

307. Будзе зямлі ласка — будзе хлеб і каўбаска. *Гут., 141.*

308. У раллі агрэх — у кішэні прарэх. *В. Зубараў, 1956, Гом. 13.3.29.*

309. Агрэх людзям на смех і на працадзень пусты мех. *Янк., 37.*

310. Паганае зелле не зрывай, а з коранем вырывай. *«Звязда», 8 лютага 1963 г.*

311. Насенне добра прачышчай — збярэш някепскі ўраджай. *«БРіС», 1928, № 5.*

312. На траваполлі далёка не заедзеш. *Гут., 87.*

313. Рэшатам вады не наносіш, а на нашу ферму касой не накосіш. *Янк., 40.*

314. Хто ўраджай без страт збірае, той багацце Радзімы памнажае. *Гут., 141.*

315. Самі сябе б'ем, калі нячыста малоцім і жнем. *І. Лушчыцкая, 1960, Нясв. 8.1.52; Янк., 40.*

316. Дзе заарана і ўбрана ў пору, там працадзень пашоў у гору. *ДіСБ, 254.*

317. На ўборцы дзень праваронiш — годам не дагоніш. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

318. Як быў цар і царыца, не радзіла пшаніца, пры ўладзе Саветаў яна корміць паўсвета. *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

319. Няма канца-краю калгаснаму ўраджаю. *Янк., 40. Вар.: Ахрым., 70; Р. Цыбульская, 1967, Валож. 13.10.24; С. Клач-*

*ко, 1966, Б.-Каш. 13.3.29; Г. Шымко, 1967, Наваг. 13.10.21; А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

а) Ні мяжы, ні краю калгаснаму ўраджаю. *Хрэстам., 257; Я. Аўсянік, 1967, Нясв. 13.10.19; У. Хомка, 1965, Гродз. 13.10.4.*

320. Добрая ніва ў дружнага калектыва. *Гут., 140.*

321. У калектыве (у калгасе) — чыстая ніва і багатае жніва. *Янк., 41; Гут., 141; Ахрым., 72; М. Жылінскі, 1965, Бераст. 13.10.6.*

322. На калгасным полі цяпер ураджай, як ніколі. *«ЛіМ», 1 ліпеня 1939 г.*

а) На калгасным полі расце жыта, як ніколі. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

323. Мы і без бога ўстроілі, што ўраджай патроілі. *Бел. народ, 141; Гут., 140; Ахрым., 81; У. Іваноў, 1958, Мінск 13.5.17.*

324. Добраму ўраджаю і добрая ўборка. *С. Клачко, 1966, Б.-Каш. 13.3.29.*

325. У добрых хлебаробаў не бывае недародаў. *Янк., 41; Р. Цыбульская, 1967, Валож. 13.10.24.*

326. Салавей харош голасам, а калгас коласам. *М. Малочка, 1959, Леп. 8.1.46; С. Клачко, 1966, Б.-Каш. 13.3.29.*

а) Слаўны салавей голасам, а ўраджай коласам. *Гут., 141.*

327. Вясна красна кветкамі, а калгас палеткамі. *С. Клачко, 1966, Б.-Каш. 13.3.29.*

328. З крапляў — мора, з зерняў — тона. *Сцяшк., 591, Гродз.*
а) Зерне да зерня — тона. *М. Грынблат, 1976, Стаўб.*

329. Колас да коласа, а Радзіме сноп. *Янк., 39; Ахрым., 69; А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15; К. Кабашнікаў, 1963, Бераст. 8.1:44.*

330. Мы калгасным (высокім) ураджаем усіх ворагаў пужаем. *Янк., 39; Ахрым., 81; Гут., 140; В. Жырыкава, 1961, Б.-Каш. 9.2.26; У. Іваноў, 1958, Мінск 13.5.17; С. Шаршуновіч, 1968, Свісл. 13.10.28.*

331. Дрэнна раней жылося: гора ў хвасце плялося, а як у калгас уступіў, гору на хвост наступіў. *«Полымя рэвалюцыі»; ДіСБ, 254.*

332. Да калгасу былі рады хлебу і квасу. *Янк., 38.*

333. Прашчай навек, лапаць, па табе не станем плакаць. *Г. Румоўская, 1965, Пліс. 13.10.40.*

а) Прашчай навек, лапаць, па табе не прыдзецца плакаць: цяпер бот і камаш стаў назаўсёды наш. *ДіСБ, 254.*

334. Адзін жыў — у лапцях хадзіў, у калгас прыйшоў — боты (кафтан) знайшоў. *Янк., 37; Ахрым., 67; Д. Шыцік, 1961, Дубр., 13.9.6.*

335. Канец лапцям — боты пайшлі. *Янк., Дыял., I, 212, Глуск.*

336. Сталі сукéнцы — забыліся па красéнцы. *Г. Прытычанка, 1960, Карм. 13.3.29.*

337. Раней жыла — зрэб'е насіла, а як пайшла ў калгас — адзелася ў шоўк і атлас. *Жанч., 392; «ЛіМ», 1 мая 1939 г.; А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

338. Адзін жыў — хлеба прасіў, калектывам жывём — адзін аднаго ў госці завём. *Янк., 37; Гут., 140.*

339. Дзе аблога была з сівіцай, там поле шуміць пшаніцай. *Рапан., 286.*

340. Зрабілі (аб'едналіся ў) калгас— усяго стала ў нас. *Янк., 38; Гут., 140.*

341. У калгасе працаваць — гора і бяды (бяды і клопату) не знаць. *«Полымя рэвалюцыі»; ДіСБ, 254; Жанч., 392; Янк., 41; Т. Фіцнер, 1967, Бабр. 13.10.19; А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

342. У калгасе жыць — не тужыць. *А. Махнач, 1952, Узда. 13.10.15.*

343. Жыць стала лепей, жыць стала весялей. *Рапан., 288.*

344. У калгасе жыць (быць) — шчаслівым быць. *Ахрым., 71; Гут., 141; У. Іваноў, 1958, Мінск 13.5.17.*

а) У калгасе жыць — шчасце тварыць. *А. Махнач, 1952, Узда. 13.10.15.*

345. Калгас — багацце для нас. *Рапан., 289.*

346. У калгасе кожны год расце даход. *А. Фядосік, 1959, Капатк. 8.1.44.*

347. Таму светла наша хата, што жывём цяпер багата. *Гут., 141.*

348. Хлеб у нас не куплен: папрацуй ды еш. *Ахрым., 72.*

349. Калгас — сіла наша, што ні хата — поўна чаша. *Я. Нявера, 1965, Воран. 13.10.3.*

350. Цяпер — не даўней: абы раток, а будзе кусок. *Янк., 36.*

351. Багата (слаўна, славіцца, хораша) хата не вугламі, а працаднямі. *«Полымя рэвалюцыі»; ДіСБ, 255; Г. Румоўская, 1965, Пліс. 13.10.40; Янк., 40; Гут., 141; Ахрым., 71.*

352. Сялянская хата працаднямі багата. *Н. Парукаў, 1965, Добр. 13.10.19.*

353. У каго многа працадней — у таго ў хаце святлей. *І. Сагарава, 1951, Мір. 8.1.36.*

354. Працадзень не снег — сам на галаву не зваліцца. *Гут., 87.*

355. Ураўнілаўка — гультаю маці. *Янк., 41; М. Малочка, 1959, Леп. 8.1.46.*

356. Не хваліся працаднём, а хваліся, колькі ў ём. *Шнэйдэрман, 1955, Журав. 13.3.29.*

а) Хваліся не трудаднём, а колькі жыта ў ём. *М. Малочка, 1959, Леп. 8.1.46.*

357. Калгаснае люстра—працадні: у ім відны ўдарнікі і гультаі. *Н. Парукаў, 1958, Добр. 13.3.29.*

358. Лён расце двойчы: раз на полі, а другі на сцелішчы. *Янк., 39; Сцяшк., 597, Воран.*

359. Лён у нас слаўны і сінімі цвяткамі, і багатымі працаднямі. *Янк., 39.*

360. Чым лянок даўжэй, тым даход большы. *М. Малочка, 1959, Чаш. 8.1.46.*

361. Харош лён — даход мільён. *1959, Баг. 8.1.46.*

362. Добры лён — даходу мільён, а буракі цукровыя — мільёны новыя. *Гуг., 141.*

363. Больш бурака — болей сала і малака. *В. Іваноўская, 1963, Леп. 8.1.83.*

364. Буракі цукровыя — надоі новыя. *В. Іваноўская, 1963, Леп. 8.1.83.*

365. Хочаш быць з кармамі — сябруй з цукровымі буракамі. *«Калгасная праўда», 4 сакавіка 1962 г., Камар.*

366. Дзе ў калгасах парнік, там даход вялік. *1959, Лаг. 8.1.42.*

367. Садок садзіць — жыццё харашыць. *У. Хомка, 1965, Гродз. 13.10.4; П. Мушчук, 1965, Вайк. 13.10.5; М. Пяткевіч, 1965, Ашм. 13.10.3.*

368. Не лажыся рана спаць, а старайся сад саджаць. *М. Рымша, 1957, Маз. 13.3.29.*

369. Сады садзі ў маладосці і ў старосці. *П. Мушчук, 1965, Вайк. 13.10.5.*

370. Савецкі народ і прыроду ўзяў у абарот. *С. Клачко, 1966, Б.-Каш. 13.3.29.*

371. Да Савецкай улады не маглі балотам даць рады. *Янк., 33.*

372. Дзе раней быў мох, там цяпер канюшыны стог. *Янк., 38.*

а) Дзе былі балоты ды мох, цяпер сена стог. *А. Махнач, 1952, Узда. 13.10.15. Вар.: Ахрым., 68.*

373. Даўней балоты нас марнавалі, цяпер з балота хлеб атрымалі. *Янк., 38; Гут., 140.*

374. Цяпер у нас і балота — залота. *Янк., 41.*

375. Хто жывёлу даглядае, той масла і сала мае. *М. Малочка, 1959, Бяг. 8.1.46.*

а) Хто жывёлу даглядае, той з маслам і салам бывае. *1958, Докш. 8.1.46.*

376. Жывёлу даглядаць не рукой, а карняплодамі да мукой. *Н. Парукаў, 1958, Добр. 13.3.29.*

377. Лепш накорміш — больш надоіш. *І. Суконкін, 1960, Церах. 13.3.29.*

378. Малако даюць каровы, калі сыты і здаровы. *1959, Лсп. 8.1.42.*

379. У даяркі малако ў руцэ, а ў каровы на языку. *І. Вайганіца, 1965, Іў. 13.10.17.*

380. Малако ў каровы на языку, у даяркі ў руках і ў старшыні ў галаве. *«Звязда», 1 кастрычніка 1961 г., П. Місько, Маст.*

381. Сілас сіласаваць — не будзе скаціна галадаць. *М. Малочка, 1960, Староб. 8.1.56.*

382. Пра лугі не забудзем — з кормам будзем. *Янк., 40.*

383. Калі старанна косяць, то сена зімою не просяць. *Рапан., 290.*

384. Будуць на калгаснай ферме карма́ — не страшна і зіма. *В. Зубарау, 1956, Гом. 13.3.29.*

385. Восенню кармілі без нормы, а пад вясну засталіся без корму. *М. Малочка, 1960, Староб. 8.1.56.*

386. У добрым калгасе няма ялавак. *Янк., 41.*

387. У добрай арцелі [усе] коні ў целе. *Янк., 41; А. Махнач, 29.*

388. Калгасную пасеку беражы ад двухногіх мядзведзяў. *Янк., 38; «Бел.», 1956.*

389. І даяркі і свінаркі ў нас заўсёды маюць скваркі. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

390. Калгасны брыгадзір — камандзір. *Янк., 38.*

а) Брыгадзір — у калгасе камандзір. *Гут., 141.*

б) У калгасе (у нас) брыгадзір як на фронце камандзір. *Гут., 142; Н. Парукаў, 1958, Добр. 13.3.29; З. Валюшка, 1965, Ваўк. 13.10.5.*

в) У калгасе брыгадзір — у арміі камандзір. *Рапан., 299.*

г) Брыгадзір — у калгасе камандзір: капітан у моры, а брыгадзір на полі. *Цар., 241, Мінск.*

391. Той брыгадзір прыгож, у каго ўраджай харош. *Шнэйдэрман, 1955, Журав. 13.3.29.*

а) Той брыгадзір добры, у каго добрае жыта. *У. Іваноў, 1958, Мінск 13.5.17.*

392. Які брыгадзір, такая і брыгада. *Гут., 142; З. Валюшка, 1965, Ваўк. 13.10.5.*

393. Дзе няма вока брыгадзіра, там беспарадкі на дзіва. *Гут., 87.*

394. Брыгадзір не верыць (не паверыць), пакуль не памерыць. *Рапан., 285; У. Іваноў, 1958, Мінск 13.5.17; Г. Шымко, 1967, Навагр. 13.10.21.*

395. Не будзе з таго брыгадзіра, што дахаты прыйдзе—сварка, да суседзяў—чарка. *Янк., 39.*

396. Гарэлка і брыгадзірства — не сябры. *Янк., 38.*

397. Брыгадзір і капейкі не варт, калі чарачцы рад. *Янк., 37.*

398. Брыгадзір пайшоў на скрут: ні дома, ні тут. *«Голас Радзімы», 1973, № 14, Р. Яўсееў, 1973, Бял.*

399. Добры старшыня не планам хваліцца. *Янк., 38.*

400. Не той аграном, што бясконца піша. *Янк., 40.*

401. Не распісвай, аграноме, чысценькія планы, а часцей будзь на гародзе з жанкамі. *Янк., 40.*

402. Агранома хваляць не за плакаты, а за тое, як багацеюць хаты. *Янк., 37.*

403. Агранома хваляць не за белыя рукі. *Янк., 37.*

404. Як дождж і гром, дык не трэба аграном. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

405. Аграномаву навуку трэба ў клеці глядзець. *Янк., 37.*

а) Вучонасць агранома ў свірне відаць. *Янк., 38.*

406. Аграном для поля, што доктар для хворага. *ДіСБ, 254.*

407. Па-стаханаўску працуеш — лад савецкі мацуеш. *А. Махнач, 1952, Узда. 13.10.15.*

а) Запытай у Стаханава, як працаваць нáнава. *Г. Румоўская, 1965, Пліс. 13.10.40.*

408. Той нічога не баіцца, хто чэсна ўмее трудзіцца. *С. Клачко, 1966, Б.-Каш. 13.3.29.*

409. Смела робім — моцна робім. *Янк., 35.*

410. Які размах, такі і палёт. *В. Бондар, 1967, Мінск 13.10.24.*

411. Умелыя рукі — памочнікі навукі. *Гут., 71.*

412. Жадáная праца, як сонца ўзыход. *Гут., 139.*

413. Праца робіць чалавека разумным. *Гут., 139.*

414. Праца — справа чэсці, доблесці і геройства. *Ахрым., 71.*

а) Працоўная доблесць — сястра геройства. *«Піянер Беларусі», 1959, № 28.*

415. Кожны чалавек у працы пазнаецца. *С. Клачко, 1966, Б.-Каш. 13.3.29.*

416. Сёння добра, заўтра лепш. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

417. Каб у пашане быць, трэба працу любіць. *Н. Парукаў, 1965, Добр. 13.10.19.*

418. Якая заслуга — такая і пашана. *Янк., 36; І. Лушчыцкая, 1960, Нясв. 8.1.52.*

419. Як робіш справу, такую і набудзеш славу. *Н. Парукаў, 1958, Добр. 13.3.29.*

420. Будзеш у рабоце, будзеш і ў пачоце. *С. Клачко, 1966, Б.-Каш. 13.3.29.*

421. Як ты да працы, так і праца да цябе. *С. Клачко, 1966, Б.-Каш. 13.3.29.*

422. Пашану і славу збіраюць па кроплі. *Махнач, 24.*

423. Не таму сла́ва, хто на язык лёгкі, а таму, хто ў справе стойкі. *Янк., 34; Гут., 139.*

424. Слава да таго прыходзіць, хто заўсёды ўперадзе ходзіць. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

а) Гонар і слава таму прыходзяць, хто ў працы наперадзе ходзіць. *Янк., 33; 1961, Брасл. 13.9.5.*

425. Рукі ўпрыгожваюць не пярсцёнкі каштоўныя, а мазалі працоўныя. *В. Брычакоў, 1960, Карм. 13.3.29.*

426. Птушку пазнаюць у палёце, а чалавека—па рабоце. *Н. Парукаў, 1958, Добр. 13.3.29.*

427. Хто языком штурмуе, не шмат наваюе. *«Бел.», 1956; Янк., 35.*

428. Гультая не трымай у сакрэце — крытыкуй яго ў газеце. *Янк., 33; Гут., 140; В. Зубараў, 1956, Гом. 13.3.29; М. Малочка, 1959, Леп. 8.1.46.*

429. Не ўсякаму слову вер, лепш на справе сам правер. *Гут., 142.*

430. Уве́чары маладзёж, а ўдзень і са свечкай не найдзёш. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

431. Згубленае золата можна знайсці, згублены час — ніколі. *В. Брычакоў, 1960, Карм. 13.3.29.*

432. Гультаю ўдарнік не напарнік. *Н. Парукаў, 1965, Добр. 13.10.19.*

433. Бракароб і няроба — адна хвароба. *Гут., 86.*

434. Працоўная кніжка маленькая, але важкая. *Янк., 40.*

435. Не хваліся, план складаючы, пахваліся, год канчаючы. *Янк., 40; Гут., 139.*

436. Сваімі, як сваімі, а дзяржаўнымі рублямі не кідайся. *У. Іваноў, 1958, Мінск 13.5.17; Янк., 35.*

437. Не пускай казла ў гарод і ў сад, а злодзея — у бухгалтэрыю і на склад. *Рапан., 293.*

438. У валакітчыкаў заўжды адзін адказ: прыходзьце заўтра, як не будзе нас. *Гут., 87.*

439. Хто круціць да матае, таму на сходзе пападáе. *Янк., 41.*

440. Называцца чалавекам лёгка, быць чалавекам цяжка. *В. Зубараў, 1956, Гом. 13.3.29.*

441. Хваляць — заткні вуха, крытыкуюць — слухай. *Рапан., 300; Н. Парукаў, 1958, Добр. 13.3.29.*

442. Другіх крытыкуй, але і сам да крытыкі прыслухайся. *Рапан., 287.*

443. Умей узняцца, умей і прызямліцца. *Н. Парукаў, 1958, Добр. 13.3.29.*

444. Добры быў чалавек, але начальнікам паставілі. *У. Іваноў, 1958, Мінск 13.5.17.*

445. Не так страшны сам, як зам. *М. Грынблат, 1969, Мінск.*

446. Усім добры дзень, а табе асобая прапанова. *І. Лушчыцкая, 1960, Нясв. 8.1.52.*

447. Тыя ж людзі, ды парадкі новыя. *Янк., 35; Ахрым., 66.*

## АБАРОНА РАДЗІМЫ

448. На граніцы стаяць — свой лёс вартаваць. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

449. Служы ў Арміі так, каб таварышы завідавалі, а ўрагі злавалі. *М. Грынблат, 1969, Лун. 8.1.14.*

450. Чырвоны баец усягды маладзец. *Рапан., 283.*

а) Вумны (умелы) баец — усюды маладзец. *Н. Маняк, 1953, Пліс.; Г. Румоўская, 1965, Пліс. 13.10.40.*

451. У Савецкай Арміі служыць—ні аб чым не тужыць. *Ахрым., 72.*

452. Чырвонаармейцам быць — не ў салдатах служыць. *ЧА, 82, 1937, Кір.*

453. Чырвонаармейцам быць — народу служыць. *Рапан., 283.*

454. У Савецкую Армію пайшоў — родную сям'ю знайшоў. *Г. Румоўская, 1965, Пліс. 13.10.40.*

455. У каго вінтоўка — друг, у таго і куля — у круг. *Рапан., 312.*

456. Для кавалерыста конь — клад: ён у дарозе друг і брат. *ЧА, 81, 1937, Мін. Вар.: Рапан., 278.*

457. Не навучышся выконваць каманду, не здолееш камандаваць і сам. *Хрэстам., 257; Ахрым., 69.*

458. Салдат без дысцыпліны хварэе, ад дысцыпліны здаравее. *Л. Ганчарук, 1967, Відз. 13.9.26.*

459. Бой прыгожы мужнасцю, а прыяцель дружнасцю. *В. Зубараў, 1956, Гом. 13.3.29.*

460. Слава да таго прыходзіць, хто ў баях уперадзе ходзіць. *Зазека, 278.*

461. Толькі таму пашана будзе, хто змагацца не забудзе. *Рапан., 318.*

462. Прыняў прысягу — пакажы ў бітве адвагу. *Г. Румоўская, 1965, Пліс. 13.10.40.*

463. Прыняў прысягу — ад яе ні шагу. *Гут., 108.*

464. Радзіме даў прысягу — за Радзіму касцьмі лягу. *Зазека, 277.*

465. Не квапся, пане, на нашу зямлю, бо сваёй не ўбачыш. *Янк., 46.*

а) Не сунься, буржуй, на нашу зямельку, па сваёй не будзеш хадзіць. *Янк., 47.*

466. Хай хваляцца паны хвастом бітым. *ЧА, 82, 1937, Лаг.*

467. На савецкі каравай рота не разявай. *Янк., 46.*

а) На савецкі каравай рота не разявай: каравай не праглынеш, а рот да вушэй разарвеш. *Янк., 46.*

468. Няма на свеце сілы, каб СССР скарыла. *Н. Парукаў, 1965, Добр. 13.10.19. Вар.: Рапан., 281.*

469. У мірны час — трактарыст, а ў ваенны — танкіст. *ЧА, 81, 1937, Мін.*

470. Калі не хочаш, каб атруціў газ, вывучай працівагаз. *ЧА, 81, 1936, Клім.*

471. Калі гарматы нашы грануць, фашысты без галоў стануць. *ЧА, 82. 1937, Слуцк.*

472. Мы ворага (нікога) не баімся — сваёй сілай ганарымся. *ЧА, 82, 1937, Бабр.; Гут., 108.*

473. За мяжой фашысты смутны, што ў нас народ магутны. *«ЛіМ», 1 мая 1939 г.*

474. Няхай фашыст не марыць у нашай краіне гаспадарыць. *«ЛіМ», 1 мая 1939 г.*

475. Прышоў японец к нам у «госці», дык і цяпер ныюць яго косці. *«ЛіМ», 1 мая 1939 г.*

476. І ў рабоце, як на перадавой, будзь верны Радзіме сваёй. *Рапан., 279.*

477. Хто за Радзіму гарой, той сапраўдны герой. *Рапан., 382.*

478. Той герой, хто за Радзіму ідзе ў бой. *Рапан., 382.*

## КУЛЬТУРА І НОВЫ БЫТ

479. Пры новым ладзе жыві па-новаму. *Янк., 35.*

480. Маладосць без мары, што хата без вакон. *К. Кабашнікаў, 1963, Свісл. 8.1.84; М. Жылінскі, 1965, Свісл. 13.10.6.*

481. Граматнаму быць — па-новаму жыць. *Г. Лось, 1949, Бабр. 9.5.4.*

482. У нас у хату зойдзеш — настаўніка знойдзеш. *Янк., 35.*

483. Вучацца мае дзеці — люба пагляд зеці. *Жанч., 392; А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

484. Набірайся розуму ў вучобе, а смеласці ў баю. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

485. Новага добрага не дзічыся, а што не ведаеш — вучыся. *Гут., 71.*

486. На падказку не спадзявайся, а сам добра вучыцца старайся. *Ю. Маркевіч, 1965, Шчуч. 13.10.3.*

487. Добра таго вучыць, хто хоча ўсё знаць. *Рапан., 287.*

488. Мір ясны ад сонца, а чалавек ад навукі. *П. Мушчук, 1965, Ваўк. 13.10.5.*

489. Не той ведае многа, хто доўга жыў, а той, хто многа вучыўся. *Гут., 71.*

490. У каго мышцы — пераможа аднаго, у каго веды — пераможа тысячы. *М. Малочка, 1959, Чаш. 8.1.46.*

491. У каго веды, у таго і сіла. *Хрэстам., 316.*

492. Дзе няма ведаў, там няма смеласці. *Гут., 71.*

493. Хто навуку паважае, той заўсёды з ураджаем. *І. Суконкін, 1960, Церах. 13.3.29.*

494. Хто ў навуцы сілён, у таго родзіць пшаніца і лён. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

495. Любая праца патрабуе ведаў. *Махнач, 24.*

496. Цяпер без навукі і каровы не дояць. *Янк., 165.*

497. Вучоны без практыкі — пчала без мёду. *Гут., 71.*

498. Дыплом мáе, а справай не ўладáе. *Гут., 71.*

499. Даказаў Апанас вучоны, што бусел чорны. *Гут., 86.*

500. З богам ісці — шчасця не знайсці, з навукай пойдзеш — шчасце знойдзеш. *П. Мушчук, 1965, Вайк. 13.10.5.*

501. Не бог памагае, а навука. *Гут., 78.*

502. Не саромся пытаць: болей спытаеш — болей спазнаеш. *Гут., 139.*

а) Хто аб усім пытае, той многа знае. *Гут., 142.*

503. Не кажы: «Вучыўся», а кажы, што пазнаў. *Гут., 71.*

504. Вучы народ, вучыся і ў народа. *Гут., 71.*

505. Навуку вывучай, аграномавы парады прымай, але і дзедавага слова не забывай. *Янк., 39.*

506. На працягу ўсяго века кніга вучыць чалавека. *Н. Парукаў, 1965, Добр. 13.10.19.*

507. Цяпер і пастух з кніжкай ходзіць. *А. Фядосік, 1959, Капатк. 8.1.44.*

508. У газеце, як у ленінскім дэкрэце,— усё ясна. *«Чырвоная змена», 17 красавіка 1960 г.*

509. Каб знаць навіны ўсяго свету — чытай газету. *А. Махнач. 1952, Уздз. 13.10.15.*

510. З газетай (кнігай) дружы—прачытай і (другім) раскажы. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15; М. Бандарэнка, 1966, Маз. 13.3.29.*

511. Раней былі царква і віно, цяпер — клуб і кіно. *Гут., 78; А. Фядосік, 1959, Капатк. 8.1.44; І. Вайгяніца, 1965, Шчуч. 13.10.1.*

512. Божая ласка не дасць нам ні хлеба, ні мяска. *Янк., 33.*

513. У нас тут і без бога светлая дарога. *Бел. народ, 141; Д. Ваўчок, 1966, Лід. 13.10.26.*

514. Без бога ясней дарога. *Гут., 78.*

515. Зараз бога а ні да парога. *Бел. народ, 141.*

516. Вера, бог, царква і звоны — усё старыя забабоны. *Гут., 78.*

517. Жыць — не бога хваліць, а справу рабіць. *Рапан., 288.*

518. З богам не паспрачаешся, бо яго няма. *Янк., 34; Ахрым., 17.*

519. Гані бога ў лес, калі ў хату ўлез. *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

520. Плюй, нябожа, на «святы божа». *А. Фядосік, 1960, Нясв. 8.1.54.*

521. Бог, бог, дай пірог, не дасі пірага, то дам тумака. *Д. Шыцік, 1961, Дубр. 13.9.6.*

522. На бога спадзяешся — без кашулі застане́шся. *Янк., 34; Гут., 79.*

а) На бога спадзяваўся — без штаноў застаўся. *А. Фядосік, 1959, Капатк. 8.1.44.*

523. Не спадзявайся на бога, будзе з калгаса падмога. *«Полымя рэвалюцыі»; Бел. народ, 141.*

524. Паверыў папу, што ўсё ад бога, і сабраў хлеба адну капу, а каб не верыў, я б хлеб асьмінамі мерыў. *Бел. народ, 141.*

525. Не маліся богу, дабрадзей, а ары глыбей. *Рапан., 293.*

526. Можам бога навучыць, як хлеб радзіць (расціць). *Бел. народ, 141; В. Курбацкі, 1960, Карм. 13.3.29.*

527. Цяжка Магамету з намі: рай на зямлі будуем самі. *«Чырвоная змена», 15 жніўня 1954 г.*

528. Не глядзі на неба: няма там хлеба. *Рапан., 292.*

529. Хто спадзяецца на неба, той сядзіць без хлеба. *М. Малочка, 1959, Чаш. 8.1.46.*

530. Не чакай з неба дарава́нага хлеба. *Гут., 78.*

531. Чакаць на богава — вельмі доўга да хлеба новага. *Антырэліг. казкі, 81.*

532. Што нам да неба, калі самі маем усё, што трэба. *Гут., 78.*

533. Святыя — выдумкі пустыя. *Гут., 79.*

534. Цуды робяць людзі, а не святыя. *Гут., 78.*

535. Не Мікола ды Ілья-прарок, а касілка і трактарок. *«Чырвоная змена», 15 жніўня 1954 г.*

536. Без малення жнём і косім, у Ільі пагоды не просім. *Гут., 78.*

537. У калгасе і без малебна здабываем многа хлеба. *Гут., 141.*

а) У калгасе без малітвы родзіць добра жыта. *Бел. народ, 141.*

538. Маліўся богу — не было толку, стаў у калгасе рабіць — стала добра жыць. *Бел. народ, 141.*

539. Вазі гной, не ляніся, ды і богу не маліся. *Бел. народ, 141. Вар.: Д. Ваўчок, 1966, Лід. 13.10.26.*

540. Не крапідлам машы, а глыбей пашы. *«Полымя рэвалюцыі»; Бел. народ, 141.*

541. Папы ды малебны нам больш не патрэбны. *Янк., 34; Ахрым., 70.*

а) Абразы і малебны больш нам не патрэбны. *Бел. народ, 44; Гут., 78.*

542. Не дапамогуць іконы, колькі не бі перад імі паклоны. *Гут., 79.*

543. Богу не маліся, а да берагу грабіся, бо патонеш. *А. Фядосік, 1959, Капатк. 8.1.44.*

544. Кадзіла, кадзіла, не аднаго ты ўхадзіла, уходзіш і таго, хто дзяржыць яго. *Бел. народ. 139.*

545. Прыйдзе смерць ды бяда—не ўратуе і святая вада. *Н. Парукаў, 1965, Добр. 13.10.19. Вар.: Бел. народ, 135.*

546. Праз рэлігійны дурман поп набіваў сабе карман. *Бел. народ, 142.*

547. Скончыўся папоўскі век, бо ў бога не верыць чалавек. *Бел. народ, 142.*

548. Папу не веру, бо ён брэша без меры. *Бел. народ, 141.*

549. Поп, ксёндз і ра́бін розным багам хвалу аддавалі, а з адной казны грошы бралі. *Бел. народ, 142.*

550. Поп і дзяк адно думаюць, што і кулак. *Бел. народ, 141.*

551. Поп маліўся, каб калгас разваліўся, дык і лоб разбіў. *Бел. народ, 141.*

552. Пры Савецкай уладзе поп у селяніна грошы не ўкрадзе. *Бел. народ, 142.*

553. Людзі пасвятлелі, папы пахмурнелі. *Бел. народ, 141; У. Іваноў, 1958, Мінск.*

554. Не надзейся на царкву, а на сваю галаву. *І. Сувалаў, 1958, Чач. 13.3.29.*

555. Ад сектанцкага вучэння гора ды мучэнне. *Гут., 78.*

556. Шаптухам не вер, у нас ёсць дактары цяпер. *Бел. народ, 142.*

557. Доктар леча, а шаптун калеча. *Г. Прытычанка, 1960, Карм. 13.3.29.*

558. Не падай духам і не вер шаптухам. *І. Лушчыцкая, 1960, Нясв. 8.1.52.*

559. Паможа шаптуха, як мёртваму кадзіла. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

560. Божа пры хваробе не паможа. *А. Фядосік, 1959, Капатк. 8.1.44.*

а) Надзея на бога ў хваробе не дапамога. *А. Фядосік, 1959, Капатк. 8.1.44.*

561. Была лучына, капцілка ды свяча, а цяпер лямпачка Ільіча. *І. Суконкін, 1960. Церах. 13.3.29; Астап.*

а) Калісьці мігцела свяча, цяпер ззяе лямпачка Ільіча. *«Чырвоная змена», 17 красавіка 1960 г.; Т. Фіцнер, 1967, Бабр. 13.10.19.*

562. Дзе бізуны свісталі, там песні звіняць. *Янк., 33.*

563. Добра жывецца, дык і песня пяецца. *Д. Корсак, 1965, Іў. 13.10.27.*

а) Весела жывецца — і песня пяецца. *М. Малочка, 1959, Леп. 8.1.46.*

б) Калі хораша жывецца — песня весела пяецца. *Рапан., 290.*

564. Пры добрым жыцці і песні вясёлыя. *Рапан., 296.*

565. І зімой і напрадвесні вясёлыя ў нас песні. *Гут., 140.*

а) І зімой і напрадвесні цяпер звонкія ў нас песні. *Рапан., 289.*

566. Калі ты мудры — перамажы мяне доказам. *Гут., 139.*

567. Крыжам любві не звяжаш і маладых не прывяжаш. *У. Іваноў, 1958, Мінск 13.5.17.*

568. Сілай калодзеж капаць—вады не піць. *«ЛіМ», 1970, № 65, 4, М. Клебановіч.*

569. Нявеста славіцца працаднямі, а не падушкамі. *Янк., 40; М. Малочка, 1959, Леп. 8.1.46.*

а) Не славіцца нявеста падушкамі і кápамі, а працаднямі. *І. Сувалаў, 1958, Чач. 13.3.29.*

570. Не тое багацце, што цесць з цешчаю далі, а што маладыя самі нажывалі. *Н. Седлюкоўская, 1973, Смал. 13.10.57.*

571. Гарэлка ў працы не памочнік. *Гут., 86.*

572. Гарэлка людзей з поля зводзіць. *Гут., 86.*

573. Хто з самагонам справу мае, той век хлеба не мае. *А. Махнач, 1952, Удз. 13.10.15.*

574. Хто да гарэлкі па́дкі, у таго п'яныя парадкі. *«Чырвоная змена», 22 жніўня 1954 г.*

575. Хочаш здароўем даражыць — перастань гарэлку піць. *«Чырвоная змена», 22 жніўня 1954 г.*

576. Не пі гарэлкі-сырца́: зробіць з цябе дурца́. *Янк. М., 104.*

577. Ты не лайся, дзядзя, пры Савецкай уладзе. *М. Грынблат, 1952, Хойн.*

578. Добры баіцца і ківа, а хуліган не баіцца і кія. *І. Суконкін, 1960, Церах. 13.3.29.*

579. У яго сталоўка, як у воўка: дзе ўварве, а дзе ўхопіць. *Янк. М., 45.*

580. Блат — злодзеям і жулікам кум, сват і брат. *Цар., 241, Мінск.*

581. Купіў ІЖ'а́ — гатуй крыжа́. *Л. Малаш, 1970, Докш.*

582. Конь і карова — шоферу страх. *А. Акунькова, 1966, Мінск.*

583. Крэст — у воду, а дзеўкі — у моду. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

584. Старыя і то хіпу́юць зараз. *М. Грынблат, 1974, Лаг.*

585. Чорт плача, моду не наста́ча. *С. Бахмет, 1975, Мінск.*

## ВЯЛІКАЯ АЙЧЫННАЯ ВАЙНА

586. Смела ідзі ў бой — Радзіма стаіць за табой. *БелФ ВАв, 461; Зазека, 277; Т. Фіцнер, 1967, Бабр. 13.10.19.*

587. З роднай зямлі — памры, не зыходзь (не сходзі). *В. Мінкелевіч, 1949, Акцябр. 8.1.24; Я. Нявера, 1965, Воран. 13.10.3.*

588. Радзіму любіць — фашыстаў біць. *Рапан., 31. Вар.: БелФ ВАв, 461; Г. Ксяндзова, 1951, Ветк.; Зазека, 277.*

а) Акупантаў біць — народ і Радзіму любіць. *Рапан., 303.*

589. Не давай праходу фрыцу — ратуй родную зямліцу. *БелФ ВАв, 462; Рапан., 309; Я. Аўсянік, 1967, Нясв. 13.10.19.*

а) Не давай праходу фрыцу, ачышчай сваю зямліцу. *Зазека, 277.*

590. За Савецкую ўладу звернем галаву Гітлеру-гаду. *БелФ ВАв, 466.*

591. За Савецкую Беларусь — не трусь. *Зазека, 277.*

592. Фашысцкую заразу знішчай адразу. *БелФ ВАв, 463; А. Роскач, 1945, Бабр.*

593. Ад усёй душы фашыста душы. *Зазека, 277.*

594. Фашысцкаму граміле — куля ў лоб і кол у магілу. *БелФ ВАв, 470; Рапан., 314.*

595. Кожнаму воўку — у горла па асколку. *БелФ ВАв, 470; Янк., 43.*

а) Кожнаму фашысцкаму воўку гранаты па асколку. *Рапан., 307.*

596. Пакажа фашыст макушку — бяры яго на мушку. *БелФ ВАв, 463, Валож.; Рапан., 310; Я. Аўсянік, 1967, Нясв. 13.10.19.*

597. Даў (дасі) фашысту ў рабро — зробіш сабе дабро. *«РФГ», 1943, № 73; БелФ ВАв, 470; Янк., 42; А. Рахунак, 1967, Зельв. 13.10.24.*

а) Дай фашысту нажом пад рабро — зробіш людзям дабро. *Рапан., 305.*

598. Злосцю горад не паставіш, а фашыста раздавіш. *Рапан., 306.*

599. Ворагаў не лічаць, а б'юць. *Ахрым., 14.*

600. Закон савецкага байца — біць фашыстаў да канца. *Рапан., 306.*

601. Не хваліся, што пад кулямі быў, а хваліся (скажы), колькі фашыстаў забіў. *БелФ ВАв, 462, Валож.; Рапан., 309; Я. Аўсянік, 1967, Нясв. 13.10.19.*

602. Куранят увосень лічаць, а бітых фашыстаў круглы год (кожны дзень). *Янк., 44; Рапан., 308.*

603. Не хваліся на славáх, а ідзі ўперад у баях. *Рапан., 309.*

604. Дзень пражыць — фашыста ўлажыць. *Рапан., 305; Янк., 42; М. Гваздзёў, 1960, Рэч. 8.1.58.*

605. Калі фашыста забіў — не марна дзень пражыў. *Зазека, 277.*

606. Калі фашыста ўлажыў — пашану і славу заслужыў. *Зазека, 277.*

607. Слязьмі ворага не б'юць. *БелФ ВАв, 461; Рапан., 311; Я. Аўсянік, 1964, Нясв. 13.10.19.*

608. Ляці, снарад, на гітлярáт. *Рапан., 308.*

609. Малая граната, ды многа толку. *БелФ ВАв, 463; Янк., 44.*

610. У нас ёсць жалезны боб, каб біць ворагаў у лоб. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

611. Не толькі штык — і колас ворага коле. *М. Малочка, 1959, Леп. 8.1.46.*

а) Не толькі штык ворага коле, а нават і колас. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

612. І песня, і граната—зброя салдата. *Н. Парукаў, 1965, Добр. 13.10.19.*

613. З песняй дружыць — і ў баю не тужыць. *Хрэстам., 302; Ахрым., 75.*

614. Салдацкае дзела — ваяваць храбра і ўмела. *Л. Ганчарук, 1967, Слон. 13.10.20.*

615. Сам гінь, а таварыша выручай. *Гут., 139.*

616. Жыццё аддай, а дзяржаўнай тайны не выдавай. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

617. Не мялі языком, а калі штыком. *БелФ ВАв, 462; Янк., 44; М. Гваздзёў, 1960, Рэч. 8.1.58; Я. Аўсянік, 1967, Нясв. 13.10.19.*

618. Ад савецкай сілы немцу свет не мілы. *Г. Лось, 1949, Бабр. 9.5.4.*

619. Розум дае сілу, сіла дае адвагу. *С. Клачко, 1966, Б.-Каш. 13.3.29.*

620. Народ заве таго героем, хто б'е фашыстаў смертным боем. *Янк., 44; Ахрым., 76; Рапан., 309; Зазека, 278; А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

621. Савецкая Армія не адзіна, з ёй уся наша краіна. *Гут., 108.*

622. Савецкаму патрыёту любы подзвіг у ахвоту. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

623. Не страшны дні суровыя, калі рады сталёвыя. *БелФ ВАв, 463; Янк., 30; Ахрым., 77; Т. Фіцнер, 1967, Бабр. 13.10.19; А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

624. Чырвоны сцяг — для ворагаў страх. *Гут., 408; А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

625. Без вайны — на полі камбайнёр, а вайной — ворага папёр. *Рапан., 303.*

626. Той герой, хто прыняў бой. *БелФ ВАв, 461; В. Равіцкі, 1951, Добр.*

627. Дзвесце фрыцаў, дзесяць нас, ды слова «Радзіма» між нас. *Ахрым., 74.*

628. Сорак фашыстаў, двое нас, ды смякалка пра запас. *Рапан., 311; Ахрым., 77.*

629. Не той удал, хто пальнуў і прапаў, а той, хто б'е і доўга жыве. *Рапан., 309.*

630. З народным гневам не жартуюць. *БелФ ВАв, 472.*

631. У савецкага тыла вялікая сіла. *Гут., 108.*

632. Лепш загінуць героем, чым жыць рабом. *Н. Парукаў, 1965, Добр. 13.10.19.*

633. Лепш смерць на полі, чым жыццё (ганьба, мукі) у няволі. *БелФ ВАв, 461; Г. Ксяндзова, 1951, Ветк.; Янк., 44; Рапан., 308; Зазека, 278.*

634. Лепш згарэць у полымі, чым жыць у дыме. *Н. Парукаў, 1958, Добр. 13.3.29.*

635. Фашыстаў баяцца — рабом заставацца. *БелФ ВАв, 461; В. Равіцкі, 1951, Добр.; Ахрым., 78; Я. Аўсянік, 1967, Нясв. 13.10.19.*

636. Хто смерці не баіцца, таго і куля не бярэ. *Рапан., 314.*

а) Хто смерці не баіцца, таго куля старaніцца. *Хрэстам., 302; У. Іваноў, 1958, Мінск 13.5.17; А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

637. Не будзе таго ніколі, каб жылі мы ў няволі. *БелФ ВАв, 461; А. Роскач, 1945, Бабр.*

638. У беларускім краі не быць фашысцкай зграі. *БелФ ВАв, 462; Рапан., 312.*

639. Не было і быць не можа, што нас вораг пераможа. *БелФ ВАв, 461; А. Роскач, 1945, Бабр.*

640. Дарэмна Гітлер марыць краінай нашай гаспадарыць. *БелФ ВАв, 466; А. Роскач, 1945, Бабр.*

641. Не бываць там фашысцкаму боту, дзе мы вядзем работу. *Ахрым., 81.*

642. Фашысты вайну пачалі, а мы кончым. *Рапан., 313. Вар.: Зазека, 279.*

643. Будзе часіна — дойдзем да Берліна. *БелФ ВАв, 471.*

644. Не гáлься на Маскву, бо не збярэш у Берліне пяску. *Ахрым., 77.*

645. Ад Масквы бліжэй да Берліна, чым ад Берліна да Масквы. *Рапан., 303.*

646. Адна зіма іх трэсла душы, а другая зусім задушыць. *Рапан., 303.*

647. Што нам сулілі, тое самі з'ядуць. *«РФГ», 1942, № 65; БелФ ВАв, 464.*

648. Не лезце, ворагі, да нас: магілак хопіць і на вас. *Янк., 47; Ахрым., 81.*

649. Савецкая сіла — ворагу магіла. *БелФ ВАв, 472; Я. Аўсянік, 1967, Нясв. 13.10.19.*

650. Не ўтрымаўся фрыц за грыву — на хвасце не паедзе. *«РФГ», 1945, № 139; БелФ ВАв, 470.*

651. Не ўсё фашысту масленіца — будзе і вялікі пост. *Рапан., 309.*

652. Прыйшоў нязваны, уцячэ драны. *«РФГ», 1942, № 65; БелФ ВАв, 471.*

653. Мы і там, мы і тут — скора Гітлеру капут. *Рапан., 309; Янк., 44.*

а) Партызаны і там, партызаны і тут — скора Гітлеру капут. *БелФ ВАв, 471.*

654. Калі «кацюшы» песні зальюцца — шматкі ад фашыстаў застаюцца. *Янк., 43; Рапан., 311; Зазека, 279.*

655. Колькі, фашыст, не круці, ад смерці не ўцячы. *БелФ ВАв, 470; Рапан., 308.*

656. Кожнай фашысцкай гадзіне вісець на перакладзіне. *БелФ ВАв, 470; Г. Ксяндзова, 1951, Ветк.; Рапан., 307; Янк., 43; А. Махнач, 1952, Узда. 13.10.15; М. Гваздзёў, 1960, Рэч. 8.1.56.*

657. Даждуцца яны дня — змахнуць і іх, як авадня. *БелФ ВАв, 471; Рапан., 305.*

658. Для нас капаюць ямы, ды лягуць у іх самі. *«РФГ», 1942, № 65; БелФ ВАв, 464. Вар.: Рапан., 305.*

659. Няма чаго тужыць, што Клейст ляжыць, бог дапаможа — і Гітлера палажым. *Рапан., 310.*

660. Чуткі ходзяць у народзе — крышка кáту ў гэтым годзе. *БелФ ВАв, 471.*

661. Выцерпім бéды — сустрэнем свята пабеды. *Рапан., 304.*

662. Воўка пазнаюць па клыкáх, а фашыста па акрываўленых руках. *БелФ ВАв, 465.*

663. Фашысцкі салдат — разбойнік і кат. *БелФ ВАв, 465; А. Роскач, 1945, Бабр.*

664. Жорсткая будзе фашыстам расплата за кожнага брата. *Зазека, 277.*

665. Фашысту і зверу ніколі не веру. *А. Махнач, 1961, Узда. 13.10.15.*

666. Фашыста і звера на адзін аршын мерай. *А. Махнач, 1952, Узда. 13.10.15.*

667. У фашыста рот чорны. *Янк., 47.*

668. Фашыст богу моліцца, а чорту паклоны б'е. *А. Махнач, 1952, Узда. 13.10.15.*

669. Фашыст за сталом — свіння ў карыце. *БелФ ВАв, 465; Янк., 45.*

670. «Новыя парадкі» — пятля ды падаткі. *«РФГ», 1942, № 62—63; БелФ ВАв, 466; Янк., 44.*

а) Фашысцкія парадкі — петлі ды падаткі. *Хрэстам., 302.*

671. Фашысцкі лад — пятля ды кат. *БелФ ВАв, 466; Г. Ксяндзова, 1951, Ветк.; Зазека, 279; Я. Аўсянік, 1967, Нясв. 13.10.19; Н. Божка, 1967, Маладз. 13.10.21.*

а) Які фашыст гад, такі яго і лад. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

672. Фашысцкі парадак, як Гітлер — га́дак. *Рапан., 304.*

673. Абяцаюць зямлю — надзяваюць пятлю. *«РФГ», 1942, № 62—63; БелФ ВАв, 466; Янк., 42.*

674. Фашыстам закон не пісан. *Рапан., 312.*

675. Горш фашысцкай чумы не ведалі мы. *Рапан., 305.*

676. З-за фашысцкага ярма́ нам жыцця няма. *БелФ ВАв, 466; Рапан., 306.*

677. Гітлер прынёс такі «рай», што хоць з голаду памірай. *«РФГ», 1943, № 73; БелФ ВАв, 466; Рапан., 309.*

а) Фашысцкі «рай» — кладзіся і памірай. *Рапан., 314.*

678. Раней жылі — не тужылі; прыйшоў Гітлер — зубы на паліцу палажылі. *Рапан., 311.*

679. На небе бог, а на зямлі Кох. *1959, Ветр. 8.1.42.*

680. Далоў нямецкіх дзвесці грам, давай савецкі кілаграм. *Л. Мухарынская, 1949, Кліч. 8.1.32.*

681. Мы да варот, а фашыст праз плот. *БелФ ВАв, 463; Рапан., 309.*

682. Вышэйшая ра́са—да сала і мяса. *БелФ ВАв, 465; М. Грынблат, 1942, Казань.*

683. На чужое мяса, як сабака, ласы. *«РФГ», 1943, № 73; БелФ ВАв, 465.*

684. Гітлер — «аслабаніцель»: аслабаніў плечы ад адзежы, а жывот ад ежы. *БелФ ВАв, 466; М. Суднік, 1945, Пол.*

685. У крамах пуста і ў хатах чыста: абабралі ўсё фашысты. *БелФ ВАв, 465; Рапан., 312.*

686. На што фашыст ні гляне — ад прагнасці (жаднасці) вяне. *БелФ ВАв, 465; Рапан., 309.*

687. Спана́трыў фашыст па куры хадзіць — давядзецца яму галавой налажыць. *Рапан., 311.*

688. Ішлі немцы па куры, а папалі на свае хаўтуры. *Г. Лось, 1949, Бабр. 9.5.4.*

а) Спяшаўся фашыст па нашы куры, ды папаў на свае хаўтуры. *БелФ ВАв, 464.*

б) Тут былі фашыстам куры, тут былі ім і хаўтуры. *Янк., 45.*

689. Лавіць авец і фашыст маладзец, а як зловяць падляца — ён сам, як аўца. *Рапан., 308.*

690. Ад Фрыца Берта жджэ адказу— прыйшоў адказ з труною разам. *Рапан., 303.*

691. Гітлераўцы ўвесь свет з'елі б, ды кішкі тонкія. *БелФ ВАв, 463; Рапан., 304.*

а) З'еў бы фашыст беларуса, ды кішка тонкая. *БелФ ВАв, 463; Рапан., 306.*

692. Хочаш шчасця для рабочых і сялян — ідзі ў атрады партызан. *Янк., 45; Рапан., 314.*

693. Зямля сялянская, лясы партызанскія, шаша́ нямецкая, а ўлада савецкая. *Янк., 43.*

694. Падняўся дзед Мінай — фашыст, стрэльбу кідай. *БелФ ВАв, 462; Рапан., 310; Я. Аўсянік, 1967, Нясв. 13.10.19.*

695. Мінай — гэта бацька наш родны, мсціўца народны. *1959, Сур. 8.1.42.*

696. Кожны куст для фашыстаў рызыка: трасе іх трасца, кідае ў дрыжыкі. *Янк., 43; БелФ ВАв, 463. Вар.: Рапан., 307.*

697. Ад чорта абаронішся крыжам, ад фашыста дубінай. *Рапан., 303.*

698. Хіцер Зміцер: і карчом немца б'е. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

699. На фашыста і вяроўка зброя. *Янк., 44; БелФ ВАв, 462; Я. Аўсянік, 1967, Нясв. 13.10.19.*

700. Яўхім і клёцам самалёт саб'е. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

701. Палі склады і базы ў фашысцкай заразы. *Рапан., 310.*

702. Паязды і склады ўзрываем — Радзіме памагаем. *Рапан., 310.*

703. Чым далей у [наш] лес, тым горай для СС. *БелФ ВАв, 462; Янк., 45.*

704. Фашысты крычаць «хайль», а беларусы на іх чхаюць. *Рапан., 313.*

705. Гітлераўцаў баяцца — на жалезку не хадзіць. *Рапан., 305.*

706. У мірны час сялянка, а ў ваенны — партызанка. *БелФ ВАв, 462; А. Роскач, 1945, Бабр.*

707. Партызан ідзе — фашыстам смерць нясе. *Рапан., 310; Зазека, 278.*

708. З партызана па нітцы — і фашысту пятля. *Рапан., 306; Н. Парукаў, 1965, Добр. 13.10.19.*

709. Партызанам — пірагі і пышкі, а фашыстам — сінякі і шышкі. *БелФ ВАв, 471; Рапан., 310.*

710. Хацеў фрыц пышкі, атрымаў сінякі і шышкі. *М. Гушчынская, 1965, Лід. 13.10.4.*

711. Фашыст бойкі, а партызан стойкі. *Рапан., 312.*

712. Дзе партызаны жывуць, там фашысты мруць. *Ахрым., 75; Рапан., 305; Я. Аўсянік, 1967, Нясв. 13.10.19.*

а) Дзе партызаны пройдуць, там фашысты дохнуць. *Рапан., 305.*

б) Дзе партызаны жывуць, там фашысты мруць; дзе партызаны пройдуць, там фашысты дохнуць. *БелФ ВАв, 462; В. Равіцкі, 1951, Добр.*

713. Цёмная ночка — дзень партызана. *Зазека, 280.*

714. Будзе помніць вораг партызанскі порах. *БелФ ВАв, 464; Я. Аўсянік, 1967, Нясв. 13.10.19.*

715. Служка фашысцкага зброду — закляты вораг народу. *БелФ ВАв, 468; Рапан., 311.*

716. Фашысту служыць — рабом быць. *БелФ ВАв, 461; В. Равіцкі, 1951, Добр.; Ахрым., 78; Я. Аўсянік, 1967, Нясв. 13.10.19.*

717. Сцелецца лістам, смярдзіць фашыстам. *«РФГ», 1943, № 73; БелФ ВАв, 468; Янк., 45.*

718. Лістам сцелецца, а ўкусіць цэліцца, *«РФГ», 1943, № 73; БелФ ВАв, 468.*

719. Па вачах сірата, а па кіпцюрах разбойнік. *Рапан., 310.*

720. Гніда раз са скуры лезе, а здраднік — кожны дзень. *БелФ ВАв, 468; Рапан., 305.*

а) Гадзюка адзін раз у год мяняе скуру, а здраднік — кожны дзень. *БелФ ВАв, 468; А. Махнач, 24.*

721. Здраднік за агрызкі прадасць родных і блізкіх. *БелФ ВАв, 468; Рапан., 306.*

722. Для здрадніка хоць згары ўвесь свет, толькі б ён быў адзет. *БелФ ВАв, 468; Рапан., 305.*

723. Бургамістр ды кат — адзін другому брат. *«РФГ», 1942, № 62; БелФ ВАв, 468; Янк., 42. Вар.: В. Мінкелевіч, 1949, Кір. 8.1.24; А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

724. Ідучы па кладачцы, на бакі не глядзі, а з паліцыяй сяброўства не вадзі. *БелФ ВАв, 468.*

725. Паліцай перад немцам гнуўся, перад партызанам выпраставўся. *Зазека, 280.*

726. Для прадажнай (фашысцкай) псіны — кол з асіны. *«РФГ», 1943, № 83; БелФ ВАв, 469; А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15. Вар.: Рапан., 305.*

727. Чорныя бобікі, рыхтуйце сабе гробікі. *БелФ ВАв, 469; М. Грынблат, 1945, Плешч.*

728. Быў даносчык — стаў нябожчык. *Зазека, 280.*

729. Што для халуя, то і для ка́та — адна падрыхтавана плата. *БелФ ВАв, 469; Рапан., 314.*

730. Астроўскі — сабака гітляроўскі. *БелФ ВАв, 468; Рапан., 307.*

731. У «Новым шляху» штодня — адна і тая ж брахня. *Рапан., 312.*

732. Фашысцкаму ваяку рускі штык не да смаку. *БелФ ВАв, 470; Ахрым., 79; Рапан., 314; Зазека, 278; Я. Аўсянік, 1964; Нясв. 13.10.19.*

733. Ад нашага «ўра» дрыжэла немчура́. *Янк., 42.*

734. Фашысты хваляцца, што іх справы правяцца, ды скора зямлі ім для могілак не заста́нецца. *Рапан., 313.*

735. Ад вялікіх «перамог» не пацягнуць фашысты ног. *БелФ ВАв, 463; Г. Ксяндзова, 1951, Ветк.; Рапан., 303; І. Сyконкін, 1960, Церах. 13.3.29.*

736. Вецер холадам вее, у фашыста сэрца млее. *«РФГ», 1942, № 65; БелФ ВАв, 646; Янк., 42.*

737. Білі немцаў мы зімой, пакалоцім і вясной. *Зазека, 279.*

738. Разагнаўся фашыст на нашу зямлю, ды пaслізнуўся, што і не ўстаў. *Янк., 44.*

739. Фашысты высока мacціліся, ды нізка зваліліся. *БелФ ВАв, 464; В. Равіцкі, 1951, Добр.; Янк.; 45; Рапан., 313; Ахрым., 78; Суяшк., 612, Гродз.*

740. Гітлер хва́ліцца, а эсэсы валяцца. *БелФ ВАв, 472. Вар.: Янк., 42; Я. Аўсянік, 1967, Нясв. 13.10.19; Г. Румоўская, 1965, Пліс. 13.10.40.*

741. Фашыст ганарыўся, ды сам у яму (а ў магілу) зваліўся. *«РФГ», 1942, № 65; БелФ ВАв, 464; Янк., 45; Рапан., 313.*

742. Фашысты брахалі ды панавалі, пакуль ім дыхту не далі. *БелФ ВАв, 471; Рапан., 313.*

743. Фашысты для нас магілу (яму) капалі, але самі ў яе папалі. *«РФГ», 1942, № 65; БелФ ВАв, 464.*

744. Даўно пара настала, каб фашыстаў зямля забрала. *Зазека, 279.*

745. У Пцічы ракаў напладзілася: багата фашыстаў патапілася. *Янк., 45.*

746. Зваў фашыст у атаку, ды забілі ў той жа дзень сабаку. *БелФ ВАв, 464; Рапан., 306.*

а) Ганс пайшоў у атаку — яго забілі, як сабаку. *Зазека, 280.*

747. Сёння фрыц жывы, а заўтра без галавы. *Зазека, 280.*

748. Дзе фашыст здох, там не расце мох. *Зазека, 277.*

749. Паспытала свіння палена — памятае, дзе паела. *БелФ ВАв, 470.*

750. Пайшоў па воўну, а вярнуўся абстрыжаны. *«РФГ», 1943, № 81; БелФ ВАв, 471.*

751. Лез прусак на палацi, ды ў начоўках утапіўся. *«РФГ», 1943, № 81; БелФ ВАв, 471.*

752. Няпраўдай фашысты ўсю Еўропу заваявалі, але дамоў не папалі. *«РФГ», 1944, № 137; БелФ ВАв, 471; Я. Аўсянік, 1967, Нясв. 13.10.19.*

753. Ішлі фашысты ў госці — у зямлі пакінулі косці. *Рапан., 307.*

а) Фашысты спяшаліся ў Маскву ў госці, ды зляжылі пад Масквой косці. *Рапан., 313. Вар.: Ахрым., 78; С. Клачко, 1966, Б.-Каш. 13.3.29.*

754. Са стрэх ка́пае, а фрыц далей драпае. *«РФГ», 1945, № 140; БелФ ВАв, 472. Вар.: Рапан., 315; Я. Аўсянік, 1967, Нясв. 13.10.19.*

755. Беларус — не трус: ад яго Кубэ здох, як прус. *БелФ ВАв, 464; Я. Аўсянік, 1967, Нясв. 13.10.19.*

756. Хацеў Гітлер з'есці беларускага мужыка, ды тонкая кішка. *Зазека, 278.*

757. Гітлер у Маскве пабыць жадаў, ды касцей не сабраў. *Рапан., 304.*

758. Гітлер хацеў Расію праглынуць, але Масквою падавіўся. *Рапан., 304.*

759. Хацеў Гітлер паглядзець Маскву, але і Берліна не ўбачыў. *БелФ ВАв, 466; Трыбуналаў, 1951, Чач.*

760. Хацеў Гітлер на Маскву паглядзець, ды вочы вылезлі. *Зазека, 278.*

761. Гітлер Берлін прасвістаў, а да Масквы не дастаў. *Янк., 42; Ахрым., 74. Вар.: З. Пякарская, 1965, Слон. 13.10.2.*

762. Гітлер падняў на нас тапор, ды сам у Берліне памёр. *Я. Аўсянік, 1967, Нясв. 13.10.19. Вар.: Рапан., 304.*

763. Гітлер да Волгі дайшоў, а здох у Берліне. *Рапан., 304; Цар., 241, Мінск.*

764. Гітлер думаў: ён ваяка, ды загінуў, небарака. *Г. Лось, 1949, Бабр. 9.5.4.*

765. Выхваляўся, выхваляўся фюрэр — ды і здох. *Рапан., 304.*

766. Фашыст брэша, як сабака ў лесе. *Рапан., 313.*

767. Сабака віляе хвастом, а Гебельс языком. *«РФГ», 1942, № 65; БелФ ВАв, 466; М. Гушчынскі, 1965, Лід. 13.10.4.*

768. Што Гебельс пляце, усё наадварот ідзе. *Гут., 467.*

769. Люба сабаку на неба брахаць. *«РФГ», 1943, № 81; БелФ ВАв, 467.*

770. Так маніць, што не пралезеш. *«РФГ», 1943, № 81; БелФ ВАв, 467.*

771. З печанага яйца жывое кураня выседзеў. *«РФГ», 1943, № 81; БелФ ВАв, 467.*

772. Вялікі сабачы язык, ды траплом празвалі. *«РФГ», 1943, № 81; БелФ ВАв, 467.*

773. Язык доўгі, ды пяты кароткія. *«РФГ», 1944, № 137; БелФ ВАв, 467; Рапан., 302; І. Вайгяніца, 1965, Іў. 13.10.1.*

774. Да славы прагныя, ды вузкія ў плячах. *БелФ ВАв, 463.*

775. Будзе з ду́чэ гною куча. *Рапан., 303.*

776. Толку з дучэ, як з гнілой кучы. *БелФ ВАв, 467; В. Дашкоўская, 1965, Ваўк. 13.10.2.*

777. Пераступілі фашысты наш парог, ды асталіся хто без рук, а хто без ног. *Янк., 44.*

а) Пераступілі фашысты нашыя парогі, ды паламалі свае ногі. *БелФ ВАв, 471; Янк., 44; Я. Аўсянік, 1967, Нясв. 13.10.19; М. Гваздзёў, 1960, Рэч. 8.1.58.*

778. Каб немцам ні праехаць, ні прайсці — узрывай масты. *Зазека, 279.*

779. Ішоў да нас ваякам, а назад поўз (паўзе) ракам. *БелФ ВАв, 470; Янк., 43; Рапан., 307.*

780. Не кажы «гоп», не перайшоўшы лесу. *Зазека. 279.*

781. Крычаў, крычаў «гоп», ды схапіў кулю ў лоб. *«РФГ», 1942, № 65; БелФ ВАв, 464.*

а) Не пераскочыўшы, крычаў «гоп», ды схапіў кулю ў лоб. *Янк., 44.*

782. За наша жыта шмат ворагаў пабіта. *Янк., 43.*

783. Далі ў зубы і перабілі ўсе рахубы. *«РФГ», 1945, № 139; БелФ ВАв, 470.*

784. На Маскву ішлі [фашысты] з падскокам (скокам), а назад пакаціліся бокам. *БелФ ВАв, 472; Янк., 44; Я. Аўсянік, 1967, Нясв. 13.10.19; А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

785. Пеў фашыст, пад Маскву ідучы, а горка скавыча, у Берлін бегучы. *Рапан., 310.*

786. Далі фашысту пад Масквой урок — ледзь ён ногі назад павалок. *Рапан., 305.*

787. На Расію фашысты ішлі строем, а назад каціліся з воем. *Ахрым., 76.*

а) На Расію фашысты ішлі з громам, а з Расіі з гробам. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

788. Крычалі — бліцкрыг, а шэпчуць — бліцдрап. *Рапан., 308.*

789. Будуць немцы памятаць, як з Расіяй ваяваць. *Г. Лось, 1949, Бабр. 9.5.4.*

790. На Бягомль цішком, а з Бягомля бяжком. *Янк., 44.*

а) Фашысты з Бягомля бягом, прыбеглі ў Радашкавічы — і Радашкавічам не рады. *Янк. М., 140.*

б) І з Бягомля бягом, і Радашкавічам не рады, і з Лагойска — бітых на лагожках. *Янк., 43.*

791. З беларусам (беларусаў) прусак ваяваць (зваяваць) сабраўся, ды сам без галавы застаўся. *Я. Аўсянік, 1967, Нясв. 13.10.19; Рапан., 303.*

792. Для фашыстаў па ўсёй Беларусі Удранкі. *Янк., 42, Маладз.*

793. Ад Быхава да Прапойска стаяла грознае войска. *Янк., 42.*

794. Кубэ крута панаваў, ды скора і дуба даў. *БелФ ВАв, 467; Я. Аўсянік, 1967, Нясв. 13.10.19.*

795. Кубэ скубіўся: дух вон і пáра слупом. *БелФ ВАв, 467; Янк., 43; Я. Аўсянік, 1967, Нясв. 13.10.19.*

796. Зайшоў фашыст у Сталінград — ні наперад, ні назад. *Рапан., 306.*

а) Папала рыбка ў нéрат — ні назад, ні наперад; зайшоў фашыст у Сталінград — ні наперад, ні назад. *БелФ ВАв, 464; В. Равіцкі, 1951, Добр.*

б) Фашысты да нас — як рыба ў нерат: ні ўзад, ні ўперад. *Янк., 45; Янк. М., 96; Рапан., 313.*

797. Прапаў, як фашыст пад Сталінградам. *БелФ ВАв, 464; В. Жырыкава, 1951, Б.-Каш.*

798. Паехаў фашыст у Курск па сала — там смерць хапугу напаткала. *Рапан., 310; Зазека, 279.*

799. На Віслe скіслі, а на Шпрэе сапрэюць. *«РФГ», 1945, № 140; БелФ ВАв, 472.*

800. Ляціць шчаціна і ля Шчэціна. *Рапан., 308.*

801. Зарабіў, як Антанеску на вайне. *«РФГ», 1944, № 137; Рапан., 306.*

## БУДАЎНІЦТВА КАМУНІЗМА І БАРАЦЬБА ЗА МІР

802. Будучае пачынаецца сёння. *Гут., 139.*

803. Хочаш пры камунізме жыць — трэба з працаю дружыць. *Н. Парукаў, 1958, Добр. 13.3.29; Рапан., 301.*

804. Добра працаваць — камунізм будаваць. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.25.*

805. У нашай працы — Радзімы багацце. *«Звязда», 4 лютага 1970 г.*

806. Жыць з аддачай — твая задача. *М. Жылінскі, 1965, Свісл. 13.10.6.*

807. Камунізма справу творым на славу. *У. Іваноў, 1958, Мінск 13.5.17.*

808. Жыццё нараджае герояў. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

809. І поле герояў родзіць. *Сцяшк., 593, Слон.; Рапан., 289.*

810. У працы нараджаюцца героі. *С. Клачко, 1966, Б.-Каш. 13.3.29.*

811. Хто чэсна працуе на цаліне, той дораг Радзіме ўдвайне. *Гут., 142.*

812. Цаліна многа хлеба дала. *Д. Шыцік, 1961, Дубр. 13.9.6.*

813. Па новаму Уставу жывеш на славу. *М. Малочка, 1959, Леп. 8.1.46.*

814. Чым калгас буйней, тым ён мацней. *Гут., 142.*

815. Пяцігодкі дзень — камунізма прамень. *А. Русіновіч, 1954. Светл. 13.3.29.*

816. Як не даражыць жыццём, калі ў камунізм ідзём. *Янк., 35; К. Кабашнікаў, 1963, Бераст. 8.1.84; Ахрым., 82.*

817. Наш размах — ворагам на страх. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

818. СССР мацнее — пан за мяжою шалее. *Янк., 35.*

819. Электрастанцыі ўзвялі — у капіталістаў слёзы пацяклі. *У. Іваноў, 1958, Мінск 13.10.15.*

820. Навука перамагае прыроду. *Рапан., 292.*

821. Хто сябруе з сенажом — будзе з мясам, з малаком. *«Сцяг Ільіча» (Талачын), 12 верасня 1972 г.*

822. Розум і праца зрабілі чалавека крылатым. *Гут., 108.*

823. Камуністы адчынілі затворы ў касмічныя прасторы. *Гут., 122.*

824. З ракетай міжкантынентальнай космас — свет не дальні *Гут., 122.*

825. Хочаш у космас злятаць — умей веды набываць. *Гут., 122. Вар.: Рапан., 289.*

826. Наша касмічная сіла зямному пакою сторaж. *Гут., 122.*

827. Нашы героі космас прайшлі, а бога не знайшлі. *Янк., 34.*

828. СССР на ногі стаў — да Луны дастаў. *Гут., 122.*

829. Птушцы — воля, чалавеку — мір. *Янк., 47; Т. Глытаў, 1967, Карм. 13.10. 23.*

830. Кветкам патрэбна сонца, а людзям мір. *С. Клачко, 1966, Б.-Каш. 13.3.29.*

831. Мірна жыць — шчаслівым быць. *Рапан., 308; Ахрым., 81; А. Сіплівая, 1967, Пруж. 13.10.24.*

832. Хто сее мір, пажынае шчасце. *С. Клачко, 1966, Б.-Каш. 13.3.29.*

833. Трэба ўсім знаць: хто мір сее — мір будзе збіраць. *Рапан., 312.*

834. Рабочаму вайны не трэба. *Янк., 47.*

835. Мір будуе, а вайна руйнуе. *Рапан., 309.*

836. Нашы сябры — па ўсёй зямлі. *Янк., 46.*

837. Раздаецца рэхам шыр: людзям — зямлі, свету — мір. *Рапан., 311.*

838. Народы ўсе на ўсёй зямле не хочуць слухаць аб вайне. *Рапан., 309.*

839. Голуб міру ўецца, а капіталіст трасецца. *«Гомельская праўда», 1952, № 75; Т. Фіцнер, 1967, Бабр. 13.10.19.*

840. Буржуям вайна, а нам мір. *Рапан., 304.*

841. Добрым людзям — мір, а шалёнцам — галавою ў вір. *Янк., 46.*

842. Трумэн шчэрыць свае зубы на наш лад шчаслівы, любы. *Г. Лось, 1949, Бабр. 9.5.4.*

843. Далес і Чэрчыль — з аднаго балота чэрці. *В. Зубараў, 1956, Гом. 13.3.29.*

844. Добра працуеш — мір мацуеш. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

а) Хто старанна працуе, той мір мацуе. *Гут., 142; Н. Парукаў, 1958, Добр. 13.3.29.*

845. Аб міры на зямлі дбаем, хоць звышмагутныя ракеты маем. *Гут., 108.*

846. Дзе дружбай даражаць, там ворагі дрыжаць. *С. Клачко, 1966, Б.-Каш. 13.3.29.*

847. Свету была вайна, а заморскім — войначка. *Янк., 47.*

848. Не сабірайся на чужую вайну, а то вернешся, як немец, абстрыжаным. *І. Суконкін, 1960, Церах. 13.3.29.*

849. Помні, вораг ліхі, што ў нас порах сухі. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

850. Хто пасее вецер, той пажне буру. *Рапан.. 314.*

851. Да чужога нашы рукі не цягнуцца, а за наша — рукі адсячом. *Янк., 46.*

852. Калі хочаш, каб не напаў вораг, трымай заўсёды сухім порах. *Рапан., 307.*

853. Колькі агрэсарам не ваяваць, а гібелі не мінаваць. *Н. Парукаў, 1965, Добр. 13.10.19; Рапан., 308.*

854. Захопнікаў у Карэі і сонца не сагрэе. *Рапан., 306. Вар.: Янк., 46.*

855. Амерыканскі «рай»: хто мацней — адбірай. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

856. У буржуя праўда адна — чыстая мана́. *Янк., 47.*

857. Глядзі, каб ад іх «халоднай вайны» ды не стала ім жа горача. *Янк., 46.*

858. У нас — ленінская палітыка суіснавання, а ў капіталістаў— атамнае змаганне. *«Чырвоная змена», 17 красавіка 1960 г.*

859. Савецкі народ — міру аплот. *Н. Парукаў, 1958, Добр. 13.3.29.*

## IV. СЯМ'Я І СЯМЕЙНЫ БЫТ

### Каханне. Дашлюбныя адносіны моладзі

1—67. Прыказкі і прымаўкі пра каханне, вернасць, адданасць, ідэал прыгажосці, адносіны паміж закаханымі, заляцанне.

19. Каханне прыліплівa.

23. Жалець — тут: любіць; прыступаець — тут: заляцаецца.

29. У некаторых вёсках Гродзеншчыны, Міншчыны, Магілёўшчыны існавала такая манера заляцання: калі хлопец сустракаў на вуліцы ўпадабаную дзяўчыну, то злёгку стукаў ёй кулаком па спіне.

41. Пшыемна — прыемна (польск. przyjemnie).

53. Раструханка — неахайная дзяўчына.

54. Не ачмуце — не абдурыць.

70. Паляніца — пшанічная булка.

73—75. У народнай паэзіі каса — сімвал дзявоцтва. Гэтыя і наступныя прыказкі — пра дзяўчыну, яе прыгажосць.

78. Г. зн. кароткі.

95. Абузніца — распусная дзяўчына або кепская работніца, няўмека (гл.: Бяльк., 34). Сэнс: дзеці бяруць прыклад з бацькоў (Нос., 63).

99. Удзень, на рабоце, дзяўчына апранута абы-як, а ўвечары прыхарошваецца. Кавярзень — лапаць.

120. Пра дачок і жаніхоў.

135—137. З прыгаворак у час сватання. Прыказкі па сэнсу часам выходзяць з тэмы сям'і.

142. Звычай патрабаваў спачатку выдаваць замуж старэйшую дачку, а пасля — маладзейшую.

150. Зручыцца — заручыцца, справіць заручыны; тут: узяць шлюб.

150а. Лепш жыць адной, чым з дрэнным, дурным мужам (заўв. збіральніка).

151. Валей — тут: лепш, вальней.

168а. Маладзік — тут: малады хлопец.

177. Сівец — тут: сівы, стары.

180. Нівашто — тут: нішто сабе, неблагі.

188—197. Асуджальна пра дзяўчыну, што прыжыла пазашлюбнае дзіця.

208. Восень, калі чырванее лісце асіны,— сезон вяселляў на вёсцы.

214. Пар. вядомую прыпеўку:

Андрэй, не дурэй,
Не дзяры сарочку:
Не ты праў, не ты ткаў,
Не твае дочкі.

216. Плахта — від жаночай паясной адзежы або кавалак каляровай даматканіны.

217. Загарак — гадзіннік (пар. польск. zegar); у дарэвалюцыйнай вёсцы — прадмет, аб якім можна было толькі марыць.

219. Розніца ў веравызнаннях (праваслаўе, каталіцтва) нярэдка служыла перашкодай да шлюбу.
221. Насмешка з нізкарослага хлопца.
246. Пра халасцяка (заўв. збіральніка).
268. Парася — форма жан. асабовага імя Праскоўя, Параскева.
269. Пёнткі — пятніцы (польск. piątek); зялёныя свёнткі — сёмуха, тройца; да ўсіх святых — да свята ўсіх святых, якое адзначалася 7 лістапада.

## Шлюб і вяселле

295—300. Вера ў суджанага лёсам.
297. Разгуджана — ад разгудзіць — пасварыць, абгаварыўшы.
301. Так прыгаварвае сват, калі дзяўчына, да якой прыйшлі ў сваты, маўчыць.
302. Адказ сватам, калі дзяўчына адмаўляецца ад сватання.
303. З гарохвін вянок — адмова сватам.
304. Панядзелак, аўторак і пятніца лічыліся нешчаслівымі днямі для сватання. У гэтыя дні ў сваты не ездзілі.
305. Гавораць бацькам, у якіх ёсць дочкі.
309. І з каберца — тут: пасля вянца. Маладыя вянчаліся ў царкве, стоячы на каберцу — невялікім дываночку, палавічку.
312. Вясельная застольная прыгаворка-тост.
314. Дзе затыкаюць — дзе толькі пачынаюць ткаць, г. зн., дзе многа работы.
320. Прыгаворка свата на вяселлі пры раздачы каравая і ў час абдорвання маладых.
321. Маюцца на ўвазе выдаткі на вяселле.
322—325. Вясельныя застольныя прыгаворкі.
342—343, 350—351. Вясельныя прыгаворкі-насмешкі да свата.
347. Кульбака — тут: палка.
357. Жартоўная прыгаворка прыданак у час перавозкі пасагу нявесты (кубла, скрыні). Гл. І.1420. Піколіць — прасці.
358. Гавораць пры развітанні нявесты з роднымі (Нос., 32).

## Сям'я і ўнутрысямейныя адносіны

362—386. Погляды на значэнне і выгоды стварэння сям'і.
387. Ладзі́н, ла́дзен — тут: у згодзе.
395—429. Пра сям'ю дружную, пра мужа і жонку, што жывуць у згодзе. У прыказках лад у сям'і знаходзіць поўнае ўхваленне.
406. Сполка — таварыства, саюз (польск. spółka).
444—546. Нелады, нязгоду і сваркі ў сям'і прыказкі і прымаўкі асуджаюць.
449. Тут у Федароўскага, відаць, памылка. Павінна быць сласна.
457. Усе ў сям'і грызуцца (заўв. збіральніка).
470. Сэнс: не трэба пярэчыць жонцы, каб пазбегнуць сваркі.
472ж. Квеліць — ціха плакаць (польск. kwilić).

479. Свяцёл месяц — традыцыйны ў фальклоры сімвал мужа, гаспадара; звёзды — дзеці.

480. Не ўтранцацца — тут: не разняць. Паланізм (utrącić — адбіць).

482. Зрада, разрад — парушэнне «рады» (ладу), разлад.

484в. Нім — пакуль (польск. nim).

486. Пра мужа і жонку, якія не падыходзяць адно аднаму характарам (заўв. збіральніка).

488. Пра мужа і жонку, аднолькавых характарамі і паводзінамі (заўв. збіральніка).

531. Жондзіць — кіруе (польск. urząd — пасада); блондзіць — блудзіць (польск. błądzić — блудзіць, брадзіць).

537. Узяць у цябе — тут: узяць з цябе.

541. Тлумач. збіральніка: «Хто скардзіцца на сваіх дамашніх».

548. Не акпіўся — не асмяяў сам сябе; тут: не памыліўся.

594. Вадзіць — тут: замінае, шкодзіць.

605—607. Пра дачку, якая жыве ў сям'і мужа.

615. Затулле — заслон.

640. Гуж — абгаворвай, лай (ад гудзіць).

641. Гулінда, хлымындра, чулінда — няўмеліца, неахайніца.

642. Грыбам — тут: губой; г. зн. плача.

660. Спраўка — парадак, спраўнасць.

674. Убалацi — слухацца, дагаджаць.

683. Ад свету адстану — кіну гэты свет, памру.

698. Падзельнае — тое, чым можна падзяліцца з іншымі.

707. У глум — тут: на шкоду.

720д. Пелян — кавалак палатна, хвартух.

721. На каляці — на вячэры (польск. kolacja — вячэра).

724—726. Гаспадыня, якая гатуе ў печы, галоднай не бывае.

727. Баглайка, вахляйка, віхляйка — гультайка, нядбайліца.

730. Станогі — тут: прусы або тараканы.

731. Люця — форма жан. асабовага імя Люцыя, Луцэя, Люцына.

734. Яшчэ бабіна ў рашаціне — яшчэ толькі ідзе падрыхтоўка да гатавання бабінай кашы (на хрэсьбіны).

742. Г. зн. цэліў на красуню, а трапіў на брыдоту (Шпил., 183).

752. Прыказка ўтварылася з радкоў лірычнай песні (гл. напр.: П. В. Шейн. Материалы, т. I, ч. 1. СПб, 1887, стар. 322—323). Падобнае супрацьпастаўленне маці, сястры і жонкі сустракаецца і ў іншых песнях (гл.: Песні народных свят і абрадаў. Уклад. і рэд. Н. Гілевіч. Мінск, 1974, стар. 79).

760. Стасуюцца да нявесткі, што, магчыма, пераможа свякроў.

780—854. Пра жанчыну наогул. Многія са старых прыказак выяўляюць адсталы погляд на жанчыну як на ніжэйшую істоту.

794. Блышыць — тут: лаяцца.

797. Навеяна вобразам быліннага асілка Святагора.

806. Не атаксцішся, не адмовішся — не абаронішся ні крыжам, ні замовай.

817. Не перапрэш — не пераканаеш, спрачаючыся.

851а. «Сабачы» век — тут: яшчэ дзесяць год пасля «жаночага веку» — сарака год.

870. Прыказка паходзіць з хрэсьбінна-бяседнай песні, вядомай у розных варыянтах. Гл. напр.: Радзінная паэзія. Мінск, 1971, стар. 602:

Ай, цёшча мне міла, міла для заезду,
Ай, жонка мне міла, міла для савету,
Ай, маці мне міла, мілей усяго свету.

875. Хлебная матка — маці, што нарадзіла і выгадавала. Не выключана, што гэта з галіны даўняй міфалогіі: дух-гаспадыня поля (пар.: Жытняя баба. БелСЭ, т. 4, стар. 449).

886. Ятка — мясная крама.

897. Сэнс прымаўкі: на вяселле (ці на якое іншае святкаванне) нагатавалі ўсяго столькі, што можна было б яшчэ адно вяселле справіць. Пар. рус.: Наварить на Маланьину свадьбу.

903. Няма такой маці, у якой не паміралі б дзеці.

909. Пушыць — тут: корміць (робіць іх пухкімі).

913. Не какохне — не ўздыхне цяжка.

930. Папка — хлеб (з дзіцячай лексікі).

957. Адзіняка, адзінака — адзіны сын у бацькоў.

969. Над маліну, над дзяўчыну — лепей за маліну, лепей за дзяўчыну.

979. Не будзе каму хату прыбраць.

985. Пра выбар жаніха.

995. Гаюшка — тут: голая, бедная.

1000а. Жадна — ніводнай.

1006. Змуста — той, каго мусяць, абавязаны даглядаць.

1009. На глум — тут: жартам, у насмешку (пар. старажытнарускую назву скамароха — ігрэц, глумец. Гл.: И. И. Срезневский. Материалы для словаря древнерусского языка, т. I, СПб, 1890, стар. 522).

1029. Нясужа — недасужа, няздольна ўжо.

1031а. Дзевіч вечар — частка вясельнага абраду: вечарына ў нявесты напярэдадні вяселля.

1041—1068. Нявестка ў мужавай сям'і. Нявестка і свякроў, свёкар, залоўкі, дзевяры.

1046. Дола — тут: схіліўшы галаву, пакорліва.

1047. Наветкі — намёкі.

1049. Порсткая — тут: упартая.

1059. Не ахвоціцца — не хочацца, не цягне.

1069—1089. Зяць, яго ўзаемаадносіны з цешчай і цесцем.

1072. Гл. заўв. 870.

1090—1103. Пра зяця-прымака і яго месца ў сям'і цесця.

1098. Прыстаў — пайшоў у прымакі.

1100. Дольнік — прымак або часовы член сям'і, здольнік, які працуе за частку (долю) ураджаю.

1104—1114. Пра развод і прочкі (уход жонкі або мужа да сваіх бацькоў).

1112. Марцовая пара — час заляцанняў, легкадумных паводзін.

1117. Гл. таксама III. 1503.

1129. Дурата, дурота — тут: цемра, непісьменнасць, а таксама недагледжанасць.

1143. Гл. таксама III. 1622, 2099.

1151а. Пабедная — бедная (пар. рус.: Победная моя головушка! горемычная, горькая, бедующая. Даль, Слов., III, 139).

1161. Гл. таксама 1138.
1162. Гл. таксама 1144 і III. 1591.
1169. С к а б ы — тут, відаць, стрэмкі.

## Радзіны, хрэсьбіны

1185. Павер'е.
1187. У сялянскай сям'і перавагу заўсёды аддавалі сыну.
1190. Пра парадзіху.
1191. Вяселле цікава паглядзець, а на хрэсьбінах можна добра і смачна пад'есці; на пахаванні ж плачуць, галосяць.
1202. Звычай узаемнага абдорвання кума і парадзіхі на хрэсьбінах. Тут к у м а — парадзіха.
1203. Прыгаворка на хрэсьбінах пры раздачы «бабінай кашы», якую, паводле звычаю, павінен выкупіць кум.
1212. Паводле звычаю, кума, наведваючы парадзіху, прыносіла ёй узвар — кампот з сушаных яблыкаў і груш.
1217—1231. Пра ўзаемаадносіны хрэсьбінных кумоў (Гл.: М. Я. Г р ы н б л а т. Беларуская радзінная паэзія.— У кн.: Радзінная паэзія. Мінск, 1971, стар. 25—32).

## Дзеці і іх выхаванне

1242. Р у ж н і ц а — розніца (польск. różnica).
1257. Г. зн. не глядзіць на дастатак у сям'і. Г а р у д — аруд.
1259. Гавораць пра жанчыну, што мае малое дзіця ды ізноў зацяжарыла.
1260. Водгук на высокую дзіцячую смяротнасць у дарэвалюцыйнай вёсцы. Д а д о л у — у магілу.
1269. П а д д а с т а т к а м — дастаткова, залішне, аж надта.
1274. Падсмейванне з уласнай беднасці і мнагадзетнасці. Радкі з вядомай жартоўнай песні «Хлопец пашаньку пахае» (гл.: Анталогія беларускай народнай песні, выд. 2-е. Склад. Г. Цітовіч. Мінск, 1975, стар. 401).
1292. Дастатак у сям'і зберагае дзяцей. Гл. таксама 413, 414.
1294. Г. зн. растуць здаровымі. Ц я л я ш — бервяно.
1312а. Д у р н а я — тут: у вялікім клопаце.
1324. Пра непуцёвых дзяцей (заўв. збіральніка).
1325. Іранічна пра дапамогу дзяцей. З н а й д а — тут: мянушка сабакі.
1337. Не дае спаць, будзіць.
1341. Было сказана, як дзіця паваліласся.
1349—1351. Дзіцячыя забаўлянкі.
1350. К у р т а ч — кароткае паліто або куртка.
1360. Жартоўная прыкмета.
1363. Б а й б у с — рослы няўклюда.
1375. Л і х а — тут: хвароба.
1376. Р а с п а т в о р ы ц ь — растрывожыць, расслабіць.
1378. Ц у р а — дачка (польск. córa).
1382. Б а л м о ш н а я — узбаламучаная (рус. взбалмошная).
1396. У к у п і л а — тут, відаць, змясціла разам, у купу.
1415. К у ш ч а ч к а, к у ш а ч к а — тут: куст.

1428. Дзеці паб'юцца, а іх маткі сварацца. Лясачкі — дубцы.
1431. Дзеці робяць тое ж, што бацькі, наследуюць ім. Колкі — калы, г. зн. бойка, сварка.
1433. Сэнс: спадзяваецца на бацькоў, не клапоціцца пра сябе.
1445. Г. зн. дагледжаны, сыты. Пруднiцкi — млынарскі.
1451. Апека — тут: залішняе пеставанне.
1455. Лічыцца, што кот можа падрапаць дзіця.
1457. Пра фізічнае пакаранне.
1472. Дзіця трэба выгадаваць, выхаваць.
1483. Хто не набудзе добрых якасцей у маладосці, дык у старасці тым больш не набудзе.
1490. Сабачая скура — тут: барабан. Гразьба салдацкай муштрай (Шпіл., 182).
1500. Г. зн. набілі, пакаралі. Атрох — форма муж. асабовага імя Атрахім, Трафім.

## Радня, сваяцтва

1533. Пра кроўную роднасць.
1534. Радзінка — радня.
1543. Пшонка — тут: пшаніца.
1550. Агнёву — тут: падпал, пажар.
1552. Біс — бес.
1566. Нежанатыя браты няшчырыя паміж сабой, а ў сясцёр на выданні — скрытая зайздросць (Нос., 8).
1578. Па сэнсу — адно і тое ж. Стрый — старажытнаруская назва брата бацькі, г. зн. дзядзькі па бацьку (адсюль стрыечныя, дваюрадныя браты).
1580. Нябога (нябожа, нябож) — пляменнік ці пляменніца. Так часам называецца таксама небарака, няўдаліца. Злой — ідаць, павінна быць зімой.
1585. Чаровы — дзеці; падчароўкі — унукі (Нос., Слов., 486).
1586—1591. Так гавораць пра чалавека, які не з'яўляецца ні родным, ні сваяком, або калі роднасць вельмі далёкая.
1596. Крыві ні ложкі — тут маецца на ўвазе адсутнасць кроўнай роднасці.

## Хаўтуры

1601. Вытніцы — тыя, што галосяць (выюць) па нябожчыку.
1603. Г. зн. як чалавек памрэ і пачнуць яго адпяваць. Пакаць — адпяваць нябожчыка; ад пачатку малітвы — «Пакі, пакі, мірам госпаду памолімся» (пакі — старарус. прыслоўе ізноў).
1619. На гурачцы гаёк — могілкі.
1622. Клёцкі — адна з абавязковых абрадавых памінальных страў.
1625. Пахаванне і памінкі.
1627. Прыкмета-забабоны.

## V. ДУХОЎНАЕ ЖЫЦЦЕ

### Бог. Вера. Атэізм

1—18. Прыказкі пра бога на першы погляд нібы набожнага характару, а ў сапраўднасці пазбаўлены святасці і паважлівых адносін да бога.

76. Не сапрэшся — не заспрачаешся.

29. Мае і пераносны сэнс: у жыцці трэба прытрымлівацца аднаго напрамку, імкнуцца да пэўнай мэты.

31—32. Сляды рэлігійнай барацьбы ў мінулым, гвалтоўнага навязвання уніі і каталіцызму. Новая вера ўспрымалася часта толькі вонкава, захоўваліся ранейшыя абрады.

73. Пу́ты — тут: датуль, да таго часу (польск. póty); пу́кі — пакуль (польск. póki); бадай — ад бог дай, але тут у сэнсе а ну ж.

98. Скроха — скруха, смутак.

109. Меркаваўся — тут: радзіўся.

112. З багамі — тут: з абразамі. Маецца на ўвазе гандаль на рынку.

117. Рухае — рохкае.

121—191. Прыказкі пра чорта (беса). У многіх з іх богу супрацьпастаўляецца чорт, сіла якога часта перавышае. Сур'ёзнай веры ў чорта не заўважаецца, адносіны да яго пераважна паблажлівыя. Часта чорт — алегорыя, увасабленне зла.

125. Ожаг — галавешка, абсмалены кол, качарга. (У слуцкіх гаворках — качарэжнік. З нар. сл., 104).

132. Цэлікам — цаліной, па бездарожжу.

134. Гл. таксама 103, 103а.

138. Пад фігурай — са знешняга выгляду добры чалавек.

169. Павер'е-табу.

178. Калісьці табаку называлі чортавым зеллем.

183. Са старых павер'яў: як заспяваюць першыя пеўні, знікае ўсякая «нячыстая сіла».

192. Змусціць — збянтэжыць, засароміць (рус. смутить).

193. Клецьнік — у даўняй народнай дэманалогіі дух-ахоўнік клеці, сховішча дамашніх харчовых запасаў. Шпілеўскі прыпісвае яму таксама функцыі ахоўніка скарбаў (Шпил., 175).

194. Гаварылі пры пошасці на скаціну. Кумільган — па Шпілеўскаму, злы дух у выглядзе чалавека-каня.

195. Копша — як мяркуе Шпілеўскі, злы і помслівы магільны дух, які патрабуе, каб сваякі нябожчыка клалі ў яго дамавіну розную ежу і грошы (Шпил., 181).

204—205. Навеяна абразамі, на якіх святыя часта маляваліся з прытуленымі да сябе рукамі.

207. Гл. таксама II. 476, 477.

224. Канта — кант, царкоўная песня-малітва.

227. Пародыя на царкоўную малітву.

236а. Шалудзька — шалудзівы, карослівы.

243. На званы — афяра на царкву.

250. Хіжа — тут: хворая.

252. Мае і пераносны сэнс: што з воза ўпала, тое прапала.

253—263. Уяўленні пра той свет, пекла і рай, не пазбаўленыя пэўнага крытыцызму.

261. Да неба — у рай.

264—290. Прыказкі пра шматлікія святы і пасты, што былі пашыраны ў старым сялянскім быце.
269. Маюцца на ўвазе святцы — царкоўны каляндар, у якім на кожны дзень распісаны святыя — «мучанікі», што ўшаноўваюцца ў гэты дзень царквой. Але прыказка можа ўспрымацца асацыятыўна.
272. Запускі — пярэдадне паста, калі дазвалялася яшчэ есці скаромнае (рус. заговенье).
280. Для хваста — для сабакі, ката, жывёлы.
281. Аўторак перад серадой, посным днём. Тут гавее — галадае, таму што няма чаго есці.
282—284. Серадуець, серадзіць — прытрымліваецца посту ў сераду.
285. Іронія: хто трымаецца ў пятніцу посту, трапіць у рай.
286. Дзяды — багатая ядой рытуальная вячэра ў памяць памершых родзічаў.
291—326. Прыказкі пра грэх, які падаецца ў іх больш у маральным, чым рэлігійным разуменні.
297. Маюцца на ўвазе праклёны, лаянка, што, згодна з народнай мараллю, асуджаецца, лічыцца грахом.
307в, г. Спасенне — пазбаўленне ад граха, замольванне, пакаянне. Тут іранічна.
326а. Скрушаемся — тут: раскайваемся.
333. Заўв. збіральніка: замест «прашу есці».
336. Гавець — тут: пасціцца, згодна з патрабаваннямі рэлігіі; дар — т. зв. святыя дары, або прычасце,— віно і кавалачкі свянцонага хлеба, якія захоўваюцца ў царкве і раздаюцца ў час набажэнства веруючым. Сэнс прыказкі: не заслужыўшы, карыстаецца дабротамі.
345. Печ, якая замяніла ў жыллі старадаўні ачаг, паводле народных вераванняў, была месцам, дзе знаходзіліся духі—ахоўнікі дому. Адсюль і прымаўка.
346—356. Варажба як прафесія. Пра гэта вядома і казка (гл.: Шаптуха.— У кн.: А. К. Сержпутовский. Сказки и рассказы белорусов-полешуков. СПб, 1911, стар. 177—178).
369. Гл. таксама I. 1246, 1247.

### Асвета, веды, пісьменнасць, кніга, слова

401. Лучы́цца — тут: здарыцца.
410. Пра навучанне тупагаловага.
435. Пісала — так яшчэ на старажытнарускай мове называлася прылада (завостраная палачка) для пісання на бяросце.
444. Перакрунуў — перакруціў, наблытаў у пісьме, салгаў.
450. Голь — тут: глупства, нічога.
456. Ксянжэчка — кніжачка (польск. książeczka).
458. Паходзіць з народнай казкі.
459. Злацоны — пазалочаны (польск. złocony).
466. У рыхт — тут: дакладна, тое, што трэба (германізм: richtig — дакладна, правільна).
486. Ступянём — тупіцай, нявучаным.
487. Пра слова як цвёрдае абяцанне. I наступныя прыказкі (да 559) пра чалавечае слова, трапнае, дасціпнае, а таксама пра прыказку, загадку, казку, пра сілу слова.

510. П а в я д а ч — расказчык.
516. Т р о ж д з і — тройчы.
537. П р ы т ч а — тут: прыказка.
545. З а г а н у ў — загадаў.
551. Нешта даўно вядомае.
552. Байка, казка-забаўка, якая аднастайна штораз паўтараецца спачатку і не мае канца, таму дакучлівая.

### Песня. Музыка. Танцы

602. Гл. таксама 549.
603. Намёк на пачастунак за песню.
608. Пра благога спевака. П я т у́ н — певень.
612. Х т о ў м о х, х т о ў а л е ш н і к — няскладна спяваюць.
613. Паходзіць з анекдота: Матка паслала сына купіць солі. Вяртаючыся дадому, ён зайшоў у карчму на йгрышча і пачаў скакаць, а соль тым часам сыпалася з яго кішэняў. Калі гэта заўважыла дзяўчына, з якой ён скакаў, махнуў рукой і сказаў: «Не да солі, калі граюць на басолі» (Шпил., 185). Б а с о л я — басэтля, народны струнны смычковы інструмент, блізкі да віяланчэлі.
632. Д з е п і я́ н е — дзе п'юць.
642. К а́ н т а л е — музычны струнны шчыпковы інструмент у карэлаў і фінаў, блізкі эстонскаму каннель, літоўскаму канклес і латышскаму кокле; нагадвае таксама даўнія гуслі. Рэдкае ўпамінанне ў беларускім фальклоры.
651. Г о ц — тут: скокі.
675. С т у д э н т с м а р г о н с к а й а к а д э м і і — выдрэсіраваны, навучаны мядзведзь. Іранічнае празванне нязграбнага танцора, а таксама таго, хто выхваляецца сваёй адукацыяй.

## VI. ЧАЛАВЕК І ЯГО ЯКАСЦІ. МАРАЛЬ

### Фізічнае аблічча: прыгажосць, заганы

9. У р о д а — прыгажосць (польск. uroda). Тут у іранічным сэнсе.
12. Датычыць не толькі фізічнага аблічча, але ў некаторых выпадках і маральных рыс.
14. Прыказка літаратурнага паходжання: з байкі «Заява» К. Крапівы (К. Крапіва. Зб. тв. у 5 т., т. 1. Мінск, 1974, стар. 101). Свіння падала заяву аб змене свайго імя. Але

...Старшыня той розум меў:
— Завіся,— кажа,— ты хоць — леў,
Аднак жа, як свінню не кліч,
Яе заўсёды выдасць лыч!

94. Пальцамі размаўляе.
98. Г а р к а́ в ы — картавы.
104. Тлумач. збіральніка: нягледзячы на непрыемнасці, добра выглядае.
105—108. Прыкметы-забабоны.
108. К р а с н ы — тут: рыжы.
109. В а́ д а — загана, недахоп (польск. wada).

## Здароўе. Хваравітасць

131. Змáга — змога, сіла; бяга — тут: жвавасць.
140. Не ручайся, што не заснеш.
149. Пярына — пяро птушкі.
151. Знявечаны, паранены. Вобраз навеян евангельскай легендай пра распятага Хрыста.
153. Настолькі схуднеў чалавек.
174. Хварцы — хворыя.
175. Прыклíкі — тут: прычыны; хваробу можна «наклікаць» па сваёй віне.
198. Пакля́кае — сагнутае.
199. Гойная — тут: якая гоіцца, залечваецца.
214. Хароняць — тут: берагуць, ахоўваюць.
220. Вор — мех.
222. Скóіцца — скуецца або звяжацца (польск. skojarzać — злучаць, звязваць).
223. Пра хваробу, якая хутка праходзіць. Тут было сказана пры апёку рукі (заўв. збіральніка).
226. Харавацъ — хварэць.
232. «Адсыланне» хваробы, характэрнае для замоў.
244. Відаць, пра сухоты, якія да нядаўняга часу яшчэ былі амаль невылечнай хваробай.
246. Удуха — удушша.
250. Гнятуха — тут, відаць, разнавіднасць трасцы або ліхаманкі, якая ў даўніх народных вераваннях увасаблялася ў вобразах 12 сясцёр-трасавіц (гл.: С. А. Токарев. Религиозные верования восточнославянских народов XIX — начала XX века. М.— Л., 1957, стар. 100—101).
256—257. Кароста — заразная скурная хвароба, якая была пашырана з-за дрэнных санітарна-гігіенічных умоў дарэвалюцыйнай вёскі.
261. У бядзе не цвечыцца — тут: бяды не ведае, не прывучаецца да яе (польск. ćwieczenie — практыкаванне, навучанне).
267в. Заўрадзела — зашкодзіла (рус. завредило).
275. Векі — тут: старыя гады.
276. Возьме за векі — састарэеш.

## Маладосць. Старасць

332. Скваp — тут: цяпло.
339. Барвіцца — фарбавацца.
348. Пра чалавека, «якому пераваліць за пяцьдзесят год» (тлумач. выканаўцы).

## Розум. Кемлівасць. Дурасць

352. Памыснасць — кемлівасць (польск. pomysłowość).
407. Гвязды — зоркі.
422. Тэмпы — тупы (польск. tępy).
447. Лядашчык — злы дух; з розуму спаўся — страціў розум.
454. Лэ́пска — разумна, кемліва (польск. łebski — разумны, здагадлівы).

461. Калчышка — відаць, калека, кульгавы. Пар. Бяльк., 219: кальчыга — кульгавы чалавек.
465. Задні розум — запозненая здагадлівасць.
479. Падрачувае — паддражнівае, дражніць. Гл. Сцяшк., 332: падрачыць—падражніць (Ваўк.).
533в. Ні збла — ані няма.
536. Бубка — нешта зусім маленькае: зярнятка, гарошына. Пар. Сцяшк., 61: Дай мне хоць тры бубкі гароху, ні пасадзіла ніводнай бубачкі (Навагр., Гродз.).
616. У месе — тут: у мяху.
650. Не трэба ўпарціцца з ім.
653. Адпуст — адпушчэнне грахоў.

## Дабрата. Злосць. Зайздрасць. Няўдзячнасць

673. Ушчын — пачын, просьба.
725. За шавеллю — за дрэнню, нягоднікамі (пар. рус. шваль).
728. Рэшні — апошні.
730. Адказ на гразьбу пабіць кіем.
739. Шалькі — талеркі на вагах.
766. Гл. таксама 605.
779. Аджэніш, аджанешся — адгоніш, адаб'ешся.
786. Боўкай, бушлівай — бадлівай.
817. Ладыга — косць. Пар. рус.: Не умела песья ладыга на блюде лежать, так по подлавочью валяйся! (Даль, Слов., II, 263).

## Лянота, гультайства. Паразітызм. Няўмельства

850. Красна — кросны.
865. Рында — неахайная, нязграбная жанчына.
866. Заганец і заганішча — невялікі і вялікі, або шырокі, загоны; тут — постаць, палоска, занятая жняёю ў час жніва.
884. Датыкі і затыкі — памылкі, недахопы пры тканні.
898б. Убой — гультай, неслух.
910. У месе — у мясе, г. зн., што яшчэ не нарадзілася (тлумач. выканаўцы). Больш верагодна — у мяху (гл. заўв. 616).
949. Насмешка з таго, хто шукае лёгкай работы.
957. Надалужыў — тут: марна патраціў час. Відаць, ад недалуга — нядольны, няздатны (Сцяшк., 312, Шчуч.).
961. Саўгець — сноўдаецца, бадзяецца, нічога не робячы.
968. Базікаваннем — гультайствам (пар. Сцяшк., 43, Гродз.: базыга — гультай).
973. Скутак — вынік.
984. Смык — тут: барана.
999. У вялікім доме больш работы і патрабуецца больш прыгляду (тлумач. Насовіча). У Насовіча памылкова «дарага торна».
1000. Піпіла — люлька, піпка; батурыць — балбатаць.
1007. Танянёх — выклічнік у дзіцячых забаўлянках.
1109. Хорт і выжал — паляўнічыя сабакі.

## Смеласць. Баязлівасць. Асцярожнасць. Цярпенне. Упартасць

1190. З у х л і в ы — зухаваты.
1207. Н е х — няхай (польск. niech); д р а з г у — бразгатання, грукату.
1239. У п о р, у п а р — упартасць.
1245. Н о р а ў — тут: упартасць, наравістасць; к л е т к а — клецць.
1246. Тут в о л я — валляк. У прымаўцы ігра слоў: воля — валляк і воля — вольнасць. Кажуць жартам упартаму: хай будзе твая воля (Нос., 89).

## Руплівасць, спрыт. Абыякавасць. Разявацтва

1293. С т р э л — тут, відаць, увішны (рус. пострел).
1321. Пра абыякавага (тлумач. збіральніка).
1324. Д з і в і ц ц а — тут: глядзіць. Украінізм (дивитися — глядзець).

## Чэснасць. Праўдзівасць. Хлуслівасць

1354. Гл. таксама 666.
1389. Калі ўжо ўсё відавочна, то ніхто не паверыць падману.
1407. А л і в а — тут: алей. Гл. таксама VII. 337 (пра праўду).
1408. С а б а ч ы, п с і г л о с, с а б а ч ы я г а л а с а — брэх, ілгарства.
1430. П а н я в е р к а — сумненне. Тут: калі нікому нельга верыць.

## Хітрасць. Крывадушнасць. Падлізлівасць

1441а. К р ы в а т о с ц ь — тут: хітрасць, крывадушша.
1472. Прыкмета-забабоны.
1473. В е р а л о м ц а — вераломны чалавек.
1477. Л а с т а ч к і, л е с т а ч к і, л ё с т а ч к і — ліслівае захвальванне.
1479. Э т ы к е т а — цырымоннасць, падкрэсленая ветлівасць.
1481. Іранічна пра хітрых, каварных людзей (тлумач. Шпілеўскага).
1486. К а п с а н е — штурхане, пісхне.
1490. М е д з ь — мёд; л е д з ь — лёд.
1500. Е н ч ы ц ь — мучыць, прымушаць стагнаць (Нос., Слов., 151).
1523. Пра чалавека двудушнага. Вядома і як загадка пра каваля (гл.: Загадкі. Мінск, 1972, стар. 215).
1536. Сэнс прыказкі па тлумачэнню К. Крапівы: «Ціхі характарам чалавек звычайна вызначаецца глыбінёю думкі і падыходу да справы» (Крапіва, 249).
1554. Пра несумленнага чалавека (тлумач. збіральніка).
1564. Гл. таксама IV. 1370. П а с т ы л а е — упартае; ж о с т к а е — тут: гордае.

## Скапнасць. Скупасць. Марнатраўства. Ашчаднасць

1593. Х ц і ў ш ы я — больш хціўныя.
1595. Д а р а г а т о в і — тут: грошы, гатоўка (дарагая гатоўка).

1598. Крамнога — куплёнага ў краме, пераважна датычыць матэрыі.
1599. Не жаніся — тут: не ганіся. Дыялектызм, вядомы ў радзе раёнаў Палесся і Гродзеншчыны (напр.: Хай жане каровы на пашу. Сцяшк., 159, Гродз.).
1617. Прыказка, відаць, мясцовага характару.
1633. Кажуць пра чалавека хітрага і скрытнага (тлумач. збіральніка).
1638. Дабрахвочы — тут: просьбіт.
1639. Чарвей за кожу — «квота», працэнт ліхвяру (Добр., Смол., 109).
1650. Гл. таксама III. 1755.
1652. Шафер — тут: той, хто выдаткоўвае грошы. Пра выдаткі скупога ніхто не ведае, часам ён мае страты (Нос., 169).
1657—1658. Раскіданы, раскідны — марнатравец; стае — тут: стаяць (паланізаванае).
1661. Матавата — марнатраўна. Русізм (мот — мантач).
1666. Тараваt — залішне шчодры.
1672. Рахуба — падлік, разлік.

## Годнасць. Сціпласць. Самахвальства. Зазнайства. Фанабэрыстасць. Нахабства. Сарамлівасць. Бессаромнасць

1703. Хвацька — хвалько; будзька, будзько — просты, звычайны (будзённы).
1720. Не трэба загадзя хваліцца. А ж — тут: пакуль.
1740. Пра зазнайства.
1756. Гл. таксама I. 287, IV. 1411.
1773. Фігурант — франт.
1783. Зухвалы — дзёрзкі, нахабны; тхараваты — падобны на тхара.
1791. Зачысць, зачысна — прыбытак.
1792. Скорам — тут: мясаед, сытасць.
1803. Гл. таксама 1584 (пра падлізніка).

## Ахайнасць. Неахайнасць

1809. Жарт. Вядома, што сарокі цягаюць усё бліскучае.
1811. Г. зн. відаць сарочка з-пад спадніцы.
1823. Гавораць, калі непарадак, накідана на стале.
1825. «Насмешка з таго, хто адрыгвае непрыемна, ці зявае непрыстойна» (Нос., 63).

## П'янства. Буянства. Гульба. Карты. Курэнне

1878. Пра п'яніцу.
1884. Дужа напіўся.
1891. Без меры, памногу. Узята з практыкі адвучвання цяляці ад вымя: наліўшы малака, гаспадыня некаторы час падсоўвае цяляці свой палец, які яно, п'ючы, смокча. Калі ж цялё прызвычаіцца самастойна локчыць ма-

лако, дык і гавораць, што яно ўжо п'е без пальца (тлумач. І. Цішчанкі, Слаўг.).

1895б. Піякові — п'яніцы (польск. pijak).

1898. Віктусь — адна з форм муж. асабовага імя Віктар.

1899. Шкляны бог — бутэлька гарэлкі для п'яніцы.

1946. Пры выпітцы — пры выпіўцы.

2006—2007. Не асуджаецца нюханне табакі, а курэнне яе. Зажываецць — ужывае, тут: курыць.

2012. Прыгаворка, частуючы нюхальным табаком.

## Зладзейства. Махлярства

2025. Не рушай — не руш, не чапай (польск. ruszać — чапаць).

2027. Хоць зямлю есць — водгук старажытнага звычаю клятвы зямлёй.

2031б. Краннё — крадзеж.

2040. Людзі ўсё бачаць, ад іх вачэй не схаваешся.

2048. Пераводнікі — тыя, хто пераводзяць, ужываюць, знішчаюць. Але тут, відаць, тыя, хто купляе і перапрадае пакрадзенае.

2057. Цыр — відаць, выклічнік; азначае — нічога.

2068. У матузку, на вяроўцы — тут: у пятлі, на шыбеніцы.

2084. На страсці — тут: у царкву ў апошні («страсны») тыдзень перад вялікаднем. Згодна з евангельскім паданнем, у гэты тыдзень Хрыстос прыняў пакуты («страсці») на крыжы.

2148. «Гавораць, просячы прабачэння, калі пытаюць пра ўкрадзеныя рэчы» (Нос., 140).

2149. Пра таго, хто прагаворыцца, сам сябе выдаючы.

2157. Пра безнадзейныя пошукі.

## Балбатня. Пляткарства. Сварка

2237. Халасці, хлосціць — хвасці, сцябай; хвошча, сцябае.

2258б. Тлумач. Федароўскага: пра цыніка, чалавека з'едлівага досціпу.

2288. Глагалённе — ст.-рус. гаварэнне.

2295. Вяканне — тут: балбатня.

2327. Нажані — нагані, пазганяй (гл. заўв. 1599).

2369. Хто займаецца пустой балбатнёй, траціць у сваіх гаспадарчых справах.

2380. Сычык — скрутак лык. Тут сэнс: мае даўгі язык.

2382. Знехтаваць — зганьбіць.

2393. Скажуць і пра тое, што не было і не можа быць.

2395. Уданы — абгавораны, абылганы, той, на каго ўзведзены паклёп (Нос., Слов., 651).

2405. Па дроце — маецца на ўвазе тэлефон або тэлеграф. Відавочна, прыказка позняга паходжання.

2417. Ягнеша — адна з форм асабовага жан. імя Агнія.

2425. Гамзалі — тут: шапталі, разносілі плёткі (ад гамзаць — гугнявіць, гаварыць з непрыемным вымаўленнем, «у нос»).

2458. Пра брыдкаслова.

2467. Трызвонам — тут: малітвай; даслоўна — звонам ва ўсе царкоўныя званы.

## VII. АГУЛЬНЫЯ РАЗВАЖАННІ

### Пра жыццё, век чалавека і смерць

10. Палу́кашак — «плятуць палукашак і кладуць ззаду воза... З лазы плятуць, кладуць на воз, каб што не ўпала» (Сцяшк., 343, Дзятл., Ваўк., Навагр.).

30. Мандравацi — мудрыць (польск. mądry — разумны, мудры).

36. Жыла — жыццё.

45. Г. зн. усё жыццё мучыцца.

47. Быт — тут: век, жыццё чалавека.

104. Каму суд — каму суджана. Вера ў лёс.

135. Не прадлужыў — не прадоўжыў (польск. przedłużyć).

162. Гл. таксама тэкст III. 2641 (пра вайну).

### Пра лёс, долю, шчасце, шанцаванне

171. Тлумачачы сэнс гэтай прымаўкі, Шпілеўскі спасылаецца на народнае перакананне: «Думаюць, што калі воўк параніць раз якую-небудзь свойскую жывёліну, дык яна не пазбегне зубоў яго: не мінуе свайго лёсу...' што паслініў, пазначыў воўк, тое ён з'есць абавязкова» (Шпил., 178). Гл. таксама I. 159.

180. Тала́н — лёс, удача. Цюркізм (talan — здабыча), які прыйшоў праз рускую мову.

201. Падобна на формулу замовы.

205. Бандоля — тут, відаць, рамень у стрэльбе (пар.: Нос., Слов., 14: бандале́т—перавязь у паляўнічым ружжы); мушкет—старадаўняя цяжкая стрэльба.

206. Відаць, з песні.

224. Жа́днага — ніводнага.

225. Тут, відаць, трэба разумець азмрочанае шчасце.

228. «Шчасце яго прыгрэла, аблашчыла» (Добр., Смол., 119).

234. Борах — асабовае мужчынскае яўр. імя.

264. Г. зн. пашчасціла.

### Пра дабро і зло

277. Не дадзержыць — не вытрымае.

289. Заўв. Насовіча: «Няшчасці вучаць нас пазнаваць дабро і зло».

295. Гаворыцца ў розных выпадках; захоўвае сляды даўняй веры ў суроцы і «ліхую гадзіну».

301—302. Гл. таксама 251.

307. Перапле́тана — уперамежку (са злом).

### Пра праўду і няпраўду

351. Аналагічная прымаўка вядома з помніка беларускай літаратуры XVII ст. «Прамова Мялешкі» — «У рот праўдою, як солею в очи кидывали» (Хрэстаматыя па старажытнай беларускай літаратуры. Склад. А. Ф. Коршунаў. Мінск, 1959, стар. 358).

360а. Зветрала — выветрылася, развеялася.

364. Маецца на ўвазе, што п'яны можа прызнацца ў тым, што ўтойваў, будучы цвярозым.
370. Варожка — варажбітка.

### Пра чужое і ўласнае

378. Чужбіна — тут: чужая ўласнасць. Гл. таксама 436.
426. Лéжня — тут: лепш нічога не рабіць, гультаіць, чым квапіцца на чужое.
434. Лалом — відаць, рэлігійная песня з рэфрэнам «алілуйя».
451. Часцей у сварках паміж мужам і жонкай, адказваючы на выстаўленне сваёй большай працы і свайго большага грашовага ўкладу ў гаспадарку (тлумач. збіральніка).

## VIII. РОЗНЫЯ ПАВУЧАННІ І НАЗІРАННІ

### Павучанні гаспадарча-бытавога характару

4. Не толькі сённяшнім днём, але і дбаючы пра будучае.
14. Па леце мяркуюць, якая будзе зіма.
27б. Пажанешся — пагонішся.
35. Не падпірай — тут: не забывай, не закідай.
37. Уважáй — глядзі, даглядай, будзь уважлівым.
47. Дрáкаць — здзіраць.
48. Не трэба шкадаваць дробнага дзеля больш важнага. Клюк — кіёк, кульбака.
54. Торнай дарогай хутчэй дойдзеш, чым напрасткі. Гл. таксама II. 1229—1240.
59. Гаворка пра кашулю.
100. Не бярыся — тут: не ручайся.
102. Варыва — гароднiна, пераважна буракі і капуста.
104. Рэптух — спецыяльны мех для сена.

### Маральныя павучанні

122. У худабе — у беднасці, у бядзе.
133. Гл. І. 1223.
141. Гл. заўв. 100.
166. Даваць загýну — ганіць.
180. Па версе — тут: па вонкаваму выгляду.
189. Не давай і не папракай (тлумач. збіральніка).
202. Да следу — як належыць: як трэба.

### Жыццёвыя назіранні

236. Прыгажаецца — здараецца.
237. Заўв. збіральніка: «Да кабеты падчас полагу», г. зн. пасля родаў.
283. Пра смерць, каго ўперад напаткае.

286. П о р а х — тут: парушынка, пылінка.
302. Х в а л ь ч, ф а л ь ш — тут: свядомы падман, махлярства.
305. Не быў біты. Памяць пра цялесныя пакаранні пры прыгоне (гл. Добр., Смол., 53).
307. К о с ь к а ц ь — клікаць, падзываць.
323. У в ё т к а — ад віцца, тое, што ўецца.
339. А с і н а в ы д у х — у хаце, прапаленай асінавымі дровамі.
358. З о ч ы ў — убачыў.
365. П а с у л — абяцанне.
374. П р ы п е ў к і — тут: аддзелка, аздоба рэчы.
377. Ц у́ р к і — тут: трэскі, кавалачкі дрэва.
387. Р ы н, р ы н к а — патэльня на ножках (Сцяшк., 431, Бераст., Маст.) або чыгунная пасудзіна з доўгай ручкай і на ножках, у якой вараць верашчаку (З нар. сл., 80, Стаўб.). Тут жартам: разам ядуць.
411. Пра мову нелагічную, без сэнсу (заўв. збіральніка).
418. Б о ч к а — тут: даўняя адзінка вымярэння сыпучых рэчываў.
424. Пра смерць. Тлумач. збіральніка: як закрыем вочы, то ўжо назаўсёды.
428. Не дагатавана, абы хутчэй (заўв. збіральніка).
429. У Дабравольскага ў рубрыцы «Удача — няўдача. Барацьба з перашкодамі».
443. К р ы ш к а — тут: драбок, трошкі, зусім мала.
480. Жартоўны адказ на абяцанне заўтра даць ці заўтра зрабіць.
489. Г р а з а́ — гразьба, пагроза.
499. К а р э с — ласка (польск. kares).
515. Т р у с к — хворaст (Па лесі ходзя і трусочык збірае. Бяльк., 445).
519. Адпавядае будаванню замкаў на лёдзе (Fed., 209).

## IX. ПРЫКАЗКІ І ПРЫМАЎКІ САВЕЦКАГА ЧАСУ

### У. І. Ленін. Камуністычная партыя. Савецкая Радзіма

93. «Іскра» — першая агульнарасійская марксісцкая газета, створаная У. І. Леніным у канцы 1900 г.
103. Гаворка ідзе пра Праграму партыі, прынятую XXII з'ездам КПСС.
115. М а р д з і́ н — мардвін (Мардоўская АССР).

### Кастрычніцкая рэвалюцыя і грамадзянская вайна

155—158. Гэтыя і некаторыя іншыя прыказкі і прымаўкі пра вызваленне ад паноў і буржуяў і іх «уцёкі» ў гады грамадзянскай вайны выразна пераклікаюцца з падобнымі творамі часоў скасавання паншчыны, хаця і вызначаюцца большай сацыяльнай вастрынёй.

172. Перапрацоўка радкоў з песні часоў грамадзянскай вайны. Першапачатковы тэкст належыць Дз. Беднаму. Беларускія пераробкі гэтай песні пад назвай «Нам прыслала Масква падкрапленне» былі вядомы пасля вызвалення Заходняй Беларусі ў 1939 г. і пасля разгрому нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Гл.: Анталогія беларускай народнай песні, выд. 2-е. Уклад. Г. І. Цітовіч. Мінск, 1975, стар. 517.

275—292. Прыказкі і прымаўкі пра трактар пачалі ўзнікаць у пачатку 30-х гадоў. Трактар адразу зрабіўся ўвасабленнем новага жыцця вёскі, калгаснай працы. У той жа час прыказкі па-гаспадарску раілі не закідаць і каня, для якога ў калгасе таксама знаходзілася работа.

315. Асэнсаванне старой прыказкі (гл. I. 1103).

348. Маецца на ўвазе, што ў старой вёсцы селяніну свайго хлеба не хапала, даводзілася дакупляць жыта.

351. Пераасэнсаванне старой прыказкі «Багата хата не вугламі, а пірагамі».

366. Парнік — парніковая гаспадарка.

374. Перапрацоўка старой прыказкі (гл. VIII.315).

376. Перапрацоўка старой прыказкі «Кармі карову не рукой, а мукой» (гл. I. 128).

390—406. Брыгадзір і аграном — кіраўнікі калгаснай вытворчасці, якія занялі асаблівае месца ў калгасных прыказках.

398. На скрут — скруціўся, невядома дзе.

## Абарона Радзімы

475. Узнікла, відаць, як водгук на хасанскі канфлікт 1938 г., справакаваны японскай ваеншчынай у раёне возера Хасан Прыморскага краю.

## Культура і новы быт

482. Прыказка адзначае рост працоўнай інтэлігенцыі, калі амаль з кожнай сялянскай сям'і выходзяць спецыялісты з вышэйшай адукацыяй.

515. Пераробка старой прыказкі (гл. V. 1).

518. Новае заканчэнне старой прыказкі (гл. V. 7).

519. Пераробка старой прыказкі на новы лад (гл. V. 28).

568. Гэту прыказку ўжыў старшыня калгаса, даводзячы, што сілком моладзь на вёсцы не ўтрымаеш.

577. Прымаўка літаратурнага паходжання — з аднайменнага верша К. Крапівы, 1925 г. (К. Крапіва. Зб. тв. у 4 т., т. 1. Мінск, 1963, стар. 58—59).

578. Пераробка старой прыказкі (гл. IV. 1488, 1489).

581. Гаворка пра матацыкл маркі «ІЖ» (Іжэўскага завода).

584. Хіпу́юць — новатвор ад хіпі (англ. hippie), тут: моднічаюць.

585. Не настача — не дагоніць.

## Вялікая Айчынная вайна

640. Першапачатковы варыянт узнік яшчэ да вайны (гл. 474).

644. Галься — ад галіцца — квапіцца. «Не галься на чужое» (Бяльк., 131).

657. Прыказка літаратурнага паходжання: апошнія радкі байкі К. Крапівы «Вол і Авадзень», 1923 г. (К. Крапіва. Зб. тв., т. 1, стар. 36).

659. Клейст — гітлераўскі генерал.

679. Кох — Эрвін Кох, гітлераўскі гаўляйтар, кат славянскіх народаў.

681. Пераробка старой прымаўкі (гл. IV. 757).

687. Спана́трыў — унадзіўся, прывык (заўв. збіральніка). Больш верагодна: знайшоў, выведаў, знюхаў. «Яна ўжо як спана́трыць, дзе ляжаць цукеркі, дык ніводнай не пакіне, усе вывудзіць» (З нар. сл., 81, А. Прышчэпчык, Стаўб.).

689. Перафразіроўка старой рускай прыказкі «Молодец против овец, а против молодца — сам овца».

694, 695. Мінай — бацька Мінай, Мінай Піліпавіч Шмыроў, адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партызанскага руху на Беларусі, Герой Савецкага Саюза.

700. Клёц — клец, зуб у баране.

705. Пераасэнсаванне старой прыказкі «Ваўкоў баяцца — у лес не хадзіць».

715—729. Пра здраднікаў Радзімы, якія пайшлі на службу да фашыстаў.

727. Бобікі — такой ганебнай мянушкай народ заклеймаваў здраднікаў-паліцаяў.

730. Астроўскі — Радаслаў Астроўскі, паслугач нямецка-фашысцкіх акупантаў, «прэзідэнт» утворанай імі ў 1943 г. т. зв. Беларускай цэнтральнай рады (БелСЭ, т. 1. Мінск, 1969, стар. 543).

731. «Новы шлях» — газетка, якую выдавалі на часова акупіраванай тэрыторыі Беларусі гітлераўцы.

740. Эсэсы — эсэсаўцы.

769—773. Старыя прыказкі, дапасаваныя ў час вайны да характарыстыкі Гебельса.

773. Прыказка літаратурнага паходжання. Належыць пяру К. Крапівы (гл.: І. Я. Лепешаў. Фразеалогія ў творах К. Крапівы. Мінск, 1976, стар. 130).

774. Прыказка літаратурнага паходжання: заключны радок байкі К. Крапівы «Саманадзейны конь», 1927 г. (К. Крапіва. Зб. тв., т. 1, стар. 92). Пра самаўпэўненых крыкуноў. У гады Вялікай Айчыннай вайны была накіравана супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

775, 776. Дучэ — так называлі ў Італіі фашысцкага дыктатара Мусаліні (італ. duce — правадыр).

783. Рахубы — тут: усё астатняе.

790. Лагожкі—спецыяльныя сані для перавозкі грузаў (заўв. збір.).

792. Удранка — невялікая рэчка ў Мінскім і Маладзечанскім раёнах, на якой партызаны разграмілі атрад фашыстаў. Пра гэту падзею была складзена песня «Фриц бежал с Удранки» (гл. газету «Мы отомстим», орган Заслаўскага РК КП(б)Б, 17 снежня 1943 г.).

794, 795. Прымаўкі ўзніклі пасля таго, як па прыгавору беларускага народа гітлераўскі стаўленік В. Кубэ быў знішчан магнітнай мінай у ноч на 22 верасня 1943 г.

801. Прымаўка-параўнанне належыць К. Крапіве (гл.: І. Я. Лепешаў. Фразеалогія ў творах К. Крапівы, стар. 130). Антанеску — Іон Антанеску, ваенна-фашысцкі дыктатар Румыніі, уступіўшай разам з гітлераўскай Германіяй у вайну супраць Савецкага Саюза.

## Будаўніцтва камунізма і барацьба за мір

813. Прыкладны Статут сельскагаспадарчай арцелі ў СССР — асноўны закон калгаснага жыцця быў прыняты II Усесаюзным з'ездам калгаснікаўударнікаў у 1935 г. Новы Прыкладны Статут калгаса, які вызначыў задачы крутога ўздыму сельскай гаспадаркі і парадак вядзення калгаснай вытворчасці, прыняў III Усесаюзны з'езд калгаснікаў у 1969 г.

# АЛФАВІТНЫ СПІС ЗБІРАЛЬНІКАЎ

Абабурка М.
Аксамітаў А. С.
Акунькова А. М.
Андрэева Н. І.
Анімеле М.
Аршанская Е.
Астапенка М. А.
Аўсянік Я.
Ахрыменка П. П.
Бабарыкіна М.
Багдзевіч Т. І.
Байко І.
Бандарэнка М.
Барташэвіч Г. А.
Барыс С. В.
Бахмет С. Т.
Бекіш М. І.
Бельская А. І.
Берман І. А.
Бізук А. В.
Божка Г. І.
Бондар В. П.
Бортка Я. А.
Ботвін Ю. А.
Бохан М.
Брыль Я.
Брычакоў В.
Буднік З. І.
Булгакоўскі Д. Г.
Буцько М.
Бялькевіч І. К.
Вайгяніца І. І.
Вайсман Н.
Вайтушка Д. Б.
Валетка В.
Валюшка З. І.
Варажбіцкі Ф.
Васілеўская Я. А.
Васілюк Н.
Васільеў В.
Ваўчок Д. І.
Войшэль Л. В.
Вяроўкін С.
Гайлік М. К.
Ганчарук Л. С.
Гарэлікава Л. А.
Гаўрош Н. В.
Гваздзёў М. П.
Гільтэбрант П. А.
Глытава Т. В.
Горленка В.
Грынблат М. Я.
Гуляй Т. І.
Гур Л.
Гурскі А. І.
Гурыновіч А. Г. К.
Гутараў І. В.
Гушчынскі М. І.
Дабравольскі У. М.
Дашкоўская В. Я.
Дзешчыц А. І.
Дзмітрыеў М. А.
Дзяніс Г.
Драздовіч Я. Н.
Дуброўскі М.
Дубяйкоўскі Л. В.
Дыбоўскі В.
Емяльянаў А. С.
Жадзейка А. І.
Жук А. І.
Жыдовіч М. А.
Жылінскі М. М.
Жырыкава В.
Загорская З.
Задаля Л. М.
Зазека Я. В.
Зальцэвіч Д.
Захарава В. А.
Заянчкоўская С.
Звярко Я. Б.
Зубараў В.
Зублевіч Г.
Іваноў У. М.
Іваноўская В. М.
Ігнатовіч
Ілюстраў І.
Кабашнікаў К. П.
Каэлюк В.
Калюк В. В.
Камароўскі Я. М.
Канабай М. М.
Канцавая М.
Капітанчык А. У.
Карачун Г. М.
Карловіч Я.
Карэнка А. С.
Касач Я. М.
Ківель В.
Кіркор Г. К.
Кіслік Я. І.
Клачко С.
Клебановіч М.
Клізевіч Е.
Клімчук Ф.
Кліх Э.
Кміта Ф. С.
Кольберг О.
Корсак Л. К.
Крапіва К.
Крачкоўскі Ю. Ф.
Крывіцкі А. А.
Крэмнеў М. Ц.
Ксяндзова Г.
Кузняцова К. Б.
Купцоў Н.
Курбацкі В.
Курбека І. С.
Куцакова А.
Кучарава Т.
Лазарэвіч Н. І.
Лазовік Л. І.
Ламека І. У.
Лапаціна Т. К.
Лашко Л. І.
Лашчэўская В. П.
Лепешаў І. Я.
Леснікові ч І. А.
Ліс А. С.
Лось Р. Ф.
Лужанін М.
Лучанок А.
Лушчыцкая І. І.

Ляцкі Я. А.
Ляшчынская Г.
Мазгавая Р. Д.
Майсеенка С.
Малаш Л. А.
Малашэвіч Г. А.
Малочка М. С.
Мальчэўскі К.
Маняк Н.
Маркевіч Ю.
Марчанка Л.
Махнач А.
Мацкала А.
Мельнічэнка М.
Мінкелевіч В. М.
Міронччык А. Л.
Місько П. А.
Міцэвіч А.
Мухарынская Л. С.
Мухляда Р. І.
Мушчук П. М.
Мягіна Я.
Мяніцкі В. М.
Мяцельская Е. С.
Надзейка А.
Наркевіч Ф.
Насовіч І. І.
Некрашэвіч Я.
Нікіфароўскі М. Я.
Новак Т.
Нявера Я.
Павецьева Л. І.
Падафалава Н. В.
Паддубны В.
Пазняк І. А.
Палікоўская С. В.
Панасюк М.
Парукаў Н.
Перавой Н.
Пісько П.
Праскураў В.
Прокша Л. Я.
Прытычанка Г.
Прышчэпчык Г. М.
Пузь У.
Пуйта Г. М.
Пякарская З. А.
Пяткевіч М.
Пяткевіч Ч.
Пяткевіч Я.
Пятроўскі Б. І.
Равіцкі В. В.
Радчанка З. Ф.
Ракса А.
Раманаў Е. Р.
Раманчук В.
Рапановіч Я. Н.
Растаргуеў П. А.
Расюкевіч М. У.
Рахунак А. П.
Роскач А.
Рудчык М.
Русіновіч А.
Румоўская Г. Ф.
Рымша М.
Рында Н. К.
Рыпінскі А.
Сагарава І. Л.
Сайкоўская Т. С.
Салавей Л. М.
Саламевіч І. У.
Санько В. А.
Сапуноў А. П.
Сахараў С. П.
Свёкла Н. А.
Седлюкоўская Н.
Семяжон Я.
Сержпутоўскі А. К.
Сіплівая А.
Скідан В. І.
Слізевіч Е.
Смурага М. А.
Старасценка І.
Стаўровіч Л.
Стырнэ М. Г.
Сувалаў І.
Суднік М. Р.
Суконкін І.
Сцяпунін І. Р.
Сцяшковіч Т. Ф.
Таранка В. С.
Таранюк В.
Тарыма А. З.
Ткачова Л. І.
Трыбуналаў
Тур Л. П.
Тышкевіч Е.
Федароўскі М.
Фіцнер Т. А.
Фядосік А. С.
Халюк В.
Хаўратовіч І. П.
Холад Т. І.
Хомка А. У.
Хутко А. З.
Царанкоў Л. А.
Цвірка К. А.
Цітовіч Г. І.
Цішчанка І. К.
Цыбульская Р. В.
Цярохін С. Ф.
Чачот Я.
Шавель М. П.
Шаўчэнка В.
Шаўчэнка Д.
Шаховіч М.
Шкляр А. Х.
Шлык М.
Шмыгіна Я. І.
Шнэйдэрман
Шпілеўскі П. М.
Шумская Т. І.
Шур В. В.
Шчыкарэвіч А. І.
Шымко Г. А.
Шынгель І. А.
Шырма Р. Р.
Шыршуновіч С.
Шыцік Д. П.
Шэйн П. В.
Юдо М.
Юрчанка Г. Ф.
Якіменка А.
Янкоўскі М. А.
Янкоўскі Ф. М.
Януковіч У.
Янукоў
Януля І.
Ярмак В. І.
Ясюлевіч Я. У.
Яўсееў Р.
Яцэвіч Г. І.
Яшкін І. Я.
Яшчыкоўская М.

# ГЕАГРАФІЧНЫ ПАКАЗАЛЬНІК

### Запісы дарэвалюцыйнага часу



---

Паказальнік склала С. Т. Бахмет.

Крыніцы, якія ў прынятых скарачэннях (кн. 1, стар. 515—519) месца запісу не раскрываюць, у геаграфічным паказальніку аднесены: Аним.— да Себежскага п. Віцебскай губ.; Ахрым.— Гомельскай вобл.; Дмитр.— Навагрудскага п. Мінскай губ.; Дуб.— Мсціслаўскага п. Магілёўскай губ.; Крапіва — Уздзенскага р. Мінскай вобл.; Луж.— Слуцкага п. Мінскай губ..; Ляцкий — Барысаўскага п. Мінскай губ.; Мальч.— Магілёўскай губ.; «Ніва» — Беластоцкага ваяводства ПНР; Нос.— Магілёўскай губ.; Ром., Бел.— Магілёўскай губ.; Сап.— Віцебскай губ.; Шпил.— Мінскай губ.; Шырма — Гродзенскага п.; Янк. М.— Глускага р.; Czeczot — Навагрудскага п. Мінскай губ.; Fed.— Гродзенскай губ.; Mien.—Себежскага п. Віцебскай губ.; Ryp.— Навагрудскага п. Мінскай губ.

**Запісы савецкага часу**



* Раёны, адзначаныя зорачкай, расфарміраваны або перайменаваны.

# ЗМЕСТ

## IV. СЯМ'Я І СЯМЕЙНЫ БЫТ



## V. ДУХОЎНАЕ ЖЫЦЦЁ



## VI. ЧАЛАВЕК І ЯГО ЯКАСЦІ. МАРАЛЬ



## VII. АГУЛЬНЫЯ РАЗВАЖАННІ

## VIII. РОЗНЫЯ ПАВУЧАННІ І НАЗІРАННІ



## IX. ПРЫКАЗКІ І ПРЫМАУКІ САВЕЦКАГА ЧАСУ




**БЕЛОРУССКОЕ НАРОДНОЕ ТВОРЧЕСТВО. Пословицы и поговорки, в двух книгах, кн. 2.** На белорусском языке.

Рэдактар Л. М. Зайцава. Мастацкі рэдактар В. В. Саўчанка. Тэхнічны рэдактар І. В. Валахановіч. Карэктар М. А. Вячорка. Друкуецца па пастанове РВС АН БССР. АТ 17159. Здадзена ў набор 17.V 1976 г. Падпісана да друку 30.IX 1976 г. Папера друк. № 1. Фармат 60×84¹/₁₆. Друк. арк. 38,5. Ум. друк. арк. 35,80. Уч.-выд. арк. 19,0. Выд. зак. 23. Друк. зак. 631. Тыраж 10 000 экз. Цана 1 р. 34 к. Выдавецтва «Навука і тэхніка». Мінск, Ленінскі праспект, 68. Друкарня імя Францыска (Георгія) Скарыны выдавецтва «Навука і тэхніка» АН БССР і Дзяржкамітэта СМ БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Ленінскі праспект, 68.